№6 (91)
/лістапад-снежань/ 2017

дзеяслоў

ЗМЕСТ

ЗНОМЫ

Алесь Разанаў



...адно калі Айчына ў грудзях,
песня ведае, як спявацца,
словы – куды казацца,
а ўчынкі – куды ісці...

# Дзверы адчыняюцца і зачыняюцца

*

Кветка распускаецца – і пераўзыходзіць пупышку, завязь выяўляецца – і пераўзыходзіць кветку, яблык выспявае – і пераўзыходзіць завязь, зярняты адтульваюцца – і пераўзыходзяць яблык.

Жыццё ў самапераўзыходжанні, і чалавек істотны сваімі можнасцямі.

*

Тое, што здараецца з некім, здараецца і з табой, але на адмысловай адлегласці, і гэтай адлегласцю кожны з'яднаны з усімі і ад усіх адасоблены.

*

Не так паглядзеў, не гэтак падумаў, не так сказаў...

Вяртаюся, каб удакладніцца, да месца, дзе адбылося тое "не так" і "не гэтак", а яно ўжо разышлося па ўсім свеце.

*

*Quo vadis?*

Адной сваёй іпастассю ў мінулым, другой – у наступным, сам чалавек хада, і нехта заўсёды ведае, куды ён ідзе.

*

Будучыня не тое, што настае, а тое, ува што настаюць і што мінулым не становіцца.

*

Дзверы адчыняюцца і зачыняюцца.

Толькі адчыненыя – яны дзіры,

толькі зачыненыя – астрог, але яны адчыняюцца і зачыняюцца і гэтак на свой лад вытлумачваюць чалавека.

*

Спажываю горшае, каб урэшце выбавіцца ад яго і мець справу адно толькі з лепшым, а сваякі і знаёмцы мяркуюць, што тое, што я спажываю, мне самае лепшае, мне найбольш даспадобы, і мне прыносяць яго зноў і зноў.

*

Верш не вынік майстэрства, верш – вынік з майстэрства, і гэтым "з" істотны.

*

Трэба было не гэтак, а так!..

Гісторыя не ведае ўмоўнага ладу, а жыццё ведае, і, можа, самыя прыгожыя кветкі цвітуць у садах умоўнага ладу.

Паралельна з гісторыяй творыцца парагісторыя, і ўмоўны лад – дзейны лад. Усё, ува што чалавек укладаецца душою і духам, нібы прароцтва, урэчаісніваецца – знаходзіць адно яму вядомую рэчаіснасць.

*

Калі супротнік перамагае, за тое, што ён дужы, яго клянуць, але калі перамагаюць яго, за тое, што ён дужы, хваляць.

*

Святое месца пустым не бывае?!.

Пустым – не, але чыстым ад якой бы ні было занятасці застаецца заўсёды.

*

Спадчына – ніва, што прарастае ў наступнасць.

Не засвоіўшы змест, захаваны ў спадчыне, апынаемся не гатовымі да сустрэчы з наступнасцю: яна проста не настае.

Наступнасць не там і не тут, не потым і не тады, а выйсце з сябе, і ўсякая зёлка напамяць ведае гэтае выйсце.

Што да чалавека, дык ён вынятак, і выйсце, пра якое ідзе гаворка, нібыта памятае, а забыў, нібыта захоўвае, а згубіў; ён заблудзіўся ў часе, і вобразы рэчаіснасці яго захопліваюць і гуляюць з ім у сваю гульню.

Іду да руні – паразумецца з сабой і светам.

*

Літаратура ёсць не таму, што яе чытаюць, а таму, што ёсць тое, што чытае яна, нават калі яе самую і не чытаюць.

*

Зрок сведчыць, слых ловіць вестку, а дотык мае.

Сярод усіх здатнасцяў ён найбольш рэчыўны, у ім збіраецца сустрэча, і сіла сябруе з ім.

“...прасілі Яго, каб дакрануцца хоць да краю адзення Ягонага, і хто дакранаўся – ацаляўся” (*Мацв, 14:36*).

*

Набываем, што ўжо нейкім чынам маем.

Набываць – станавіцца: так, жолуд набывае іпастась дуба, становячыся ім.

*

Самае асноўнае вымаўляецца моўчкі, і ў творы словы шукаюць – і ўтвараюць – магчымасць, дзе гэта можа спраўдзіцца і адбыцца.

*

Тое, што можа чалавек сказаць пра самога сябе, істотна да парога. А тое, чаго не можа, істотна і за парогам.

Паэзія заклікана, каб выказаць і выказваць гэтае “за”.

*

Чалавек разумны?!.

Па-свойму, і ўсякая істота разумная па-свойму.

Быць – быць некім: хто кім ёсць, той тое ведае, і ведае ў той меры, у якой ёсць.

*

Раўнавага – цэнтр, што не мае краёў.

Якімі б сцежкамі хто ні ішоў, іхняя дамінанта раўнавага.

Раўнавага відушчая, ёю нітуецца далеч і блізіня, і той, хто ідзе, ёю выводзіцца з нетраў асабовасці ў боскую сялібу.

І адно тады, калі яна парушаецца, аб’яўляюцца краі і вынаходзяцца крылы.

*

Усякая мова вынікае з радовішча бязмоўя: яна адметная тым, што ўзяла, а тым, што не ўзяла, істотная.

*

Дзе не хапае сонца, узнікаюць споры цвілі, дзе не хапае здароўя, узнікаюць бацылы хваробы: яны гэтаксама жывыя, яны гэтаксама змагаюцца за сваё права на існаванне.

Гэтак і з людзьмі, гэтак і з грамадствам: дзе не хапае праўды, аб'яўляецца хлусня, дзе не хапае сапраўднасці, аб'яўляюцца эрзацы – яны таксама пакліканыя, яны таксама на сваім месцы.

*

Не можа быць малой літаратура (і суадпаведна – народ), у якой ёсць вялікія творы, а яны ў беларускай літаратуры ёсць.

*

Людзі вучаць адно аднаго, як належыць жыць і як належыць паводзіцца, і ўсё адно жыцця не хапае, каб навучыць і каб навучыцца.

Усё, што адбываецца, само вучыць, калі становіцца сваім, і – становіцца сваім, калі вучыць.

*

"І немагчымае зрабі!.."

Верш узнікае на мяжы немагчымага: тут ён здзяйсняецца і тут набывае змест.

*

Эфект часу: здымаю непрачытаныя кнігі з паліцы, а іх ужо і чытаць не трэба:

яны ўжо прачыталіся самі.

*

"Спадзяванне на моладзь", – кажуць сталыя людзі.

Ужо і моладзь сталася сталай, а спадзяванне зноў раз за разам паўтараецца. Можа, само спадзяванне недастатковае альбо не туды глядзіць і не тое бачыць?

Тыя самыя прынцыпы, што выяўляюцца ў сталых, выяўляюцца і ў маладых – па-рознаму, але тыя самыя. І, можа, лепш, чым вылучаць узроставыя катэгорыі, адразу абапірацца на тое, што ад узросту не залежыць, – на прынцыпы.

*

Ідэі вынікаюць з суадносінаў людзей і чалавека, чалавека і Бога.

І калі ідэі не дзейсняцца альбо вядуць не туды, нешта не так з самімі суадносінамі – нечага ў іх зашмат і нечага нестае.

*

Філосафы не вымаўляюць ёсціну – яны ўваходзяць з ёю ў размову.

Няма чалавека, які б не ўваходзіў у размову са сваёй ёсцінай, і няма ёсціны, якая была б адно сваёю.

*

Мова – сустрэча гуку і водгуку, чалавека і народа, хвіліны і веку, і пакуль яна гучыць, сустрэча доўжыцца.

*

Знаёмыя, гутарым пра адну вядомую асобу. Выказаліся ўсе словы, а ўсё адно засталося недагаворанае: а ў ім сама тая асоба, а ў ім сама гэтая рэчаіснасць, а ў ім самі мы.

*

"А суд гісторыі цяжкі!.." (*Янка Купала*).

Магчыма, суд гісторыі і цяжкі, але ён не канчатковы. І таму, што ён не канчатковы, гісторыя адпускае яго ад сябе – у пазачас і пазапрастору.

*

Пакуль людзі – людзі, ёсціна выяўляецца ў транскрыптах.

І пакуль ёсціна выяўляецца ў транскрыптах, згода спадарожнічае нязгодзе, зман – праўдзе, прыязнасць – варажнечы, абсяг – неабсяжнасці, а пачатку – канец: тады, калі транскрыпты прачытаюцца дарэшты, яны маюць супасці і паразумецца.

*

Тое, што выяўляецца першы раз, мае асаблівае гучанне, асаблівы кшталт, асаблівы водар.

Паэзія ўсякі раз тое, што выяўляецца першы раз.

*

"Кветкі толькі ад цябе – кветкі", – прызнанне з верша Ніны Мацяш.

У тым, што даецца, прысутнічае той, хто дае, і калі даюцца кветкі, асноўная каштоўнасць якіх у тым, што яны даюцца, разам з кветкамі дае сябе той, хто гэта робіць, і калі той – насампраўдзе той, то кветкі насампраўдзе кветкі.

Верш – кветкі наўзаем.

*

Самае істотнае – самае звычайнае: яно нават вокам не заўважаецца, вухам не чуецца, розумам не разумеецца, а ёсціна раіцца з ім.

*

Спазняемся, бо спяшаемся.

Усё мае сябе ў часе: спазняцца – выпадаць з бегу часу: той, хто выпадае з бегу часу, адначасова спяшаецца і спазняецца.

*

Д'ябал хаваецца ў дэталях?!.

У дэталях ён выяўляецца, а хаваецца ў "я": яно шматстайнае – у яго свае святліцы і свае сутарэнні.

*

Творы вынікаюць, нібы грыбы з-пад паверхні, самі, аднак для таго, каб яны выніклі, мусіць выснавацца адпаведная інфраструктура душы, якая інфраструктура – такія й грыбы.

*

Сапраўднае ні з чым не спрачаецца, ні перад кім не выстаўляецца, нічога нікому не даказвае і нават параўнанняў, якое яно, не мае.

Як цвіце дрэва, як свеціць сонца, яно ё с ц ь, і таму, што яно ёсць, ландшафт рэчаіснасці мае змест і аблічча.

*

“Хто мінулае ўспамяне, таму вока вон, а хто забудзе...”

А ёсць яшчэ трэцяе вока, і вершы творацца з заплюшчанымі вачамі.

*

Пакуль людзі для нас акалічнасці, мы самі яшчэ не сутнасці, але калі самі для сябе становімся акалічнасцямі, тады і сутнасцямі.

*

Нябеснае не будзе зайздросціць зямному, боскае – чалавечаму, вышэйшае – ніжэйшаму, лепшае – горшаму, і вось, каб гэта насампраўдзе спраўджвалася, маем тут станавіцца тымі, кім там ужо ёсць.

*

Верш, у якім сваёй асабовасцю прысутнічае аўтар, – недастатковы, і верш, у якім ён сваёй асабовасцю адсутнічае, недастатковы таксама.

У ім ён мае адсутнічаць сваёй асабовасцю і прысутнічаць сваёй існасцю – надасабовасцю.

*

У “Страцім-лебедзе” Максіма Багдановіча плывуць два каўчэгі: Ноеў – для абраных і Страцім-лебедзь – для адрынутых. Ён тое правіла, што дапасавана да выключэння, і, у адрозненне ад Ноева каўчэга, апроч магчымасці плаваць, мае яшчэ дзве – ныраць і ўзлятаць, якімі, аднак, не скарыстоўваецца.

Самы хрысціянскі птах, ён тоне ў тую глыбіню, для якой ён заўсёды свой.

*

Мінулае ніколі не стаецца дарэшты мінулым, яно тая грамата, што чытаецца, і таму, што чытаецца, становіцца сучаснасцю, і, у залежнасці ад таго, як чытаецца, такою сучаснасцю.

*

Усякі чалавек творца: усё жыццё ён творыць сябе, і што ён стварыў, у канчатковым выніку застаецца не вядомым нават для яго самога – канчатковага.

*

“Я ёсць Той, Хто Я Ёсць”, – назваўся Майсею той, хто аб’явіўся яму ў вогненым кусце – купіне, што не абпальваецца.

Што да чалавека, то ён ёсць той, хто не ёсць той, хто ён ёсць, застаючыся сваім заўсёдным пярэдаднем і сваёю заўсёднай магчымасцю.

*

Калі замешваецца гліна, усё роўна дзе якая доля замесу апынаецца, – замес застаецца тым самым. Але калі з яго вылепліваюцца гаршкі і сподкі, усякая доля становіцца істотнай, яна набывае змест і форму.

І адно ў тым, што мае змест і форму, усякая доля спраўджваецца і становіцца істотнай.

*

Спадчына – заўсёдны падарунак наступнасці: у ёй ёсць тое, што ніколі не прачытваецца да канца і не засвойваецца дарэшты, – пазачасовае.

*

“На пачатку было Слова...”

Для таго, каб здзейсніцца і знайсціся, твор мусіць увайсці ў абсяг, дзе словы набываюць значэнні, а правілы фармулююцца, – у абсяг пачатку.

Гэта яго айчына, і для таго, каб ён адбыўся, творца ўсялякі раз становіцца пачаткоўцам.

Творы ёсць з чым параўноўваць, і, напісаныя адным і тым жа аўтарам, яны самі будуць параўноўвацца, але саму з’яву творчасці няма з чым параўноўваць.

Яна заўсёды ўпершыню.

Яна заўсёды ў пачатку.

*

Памятаць належыць, але што?

Памятаць належыць, але як?

Усё памятанне захоўваецца ў скляпах і ў скляпеннях свядомасці, і ўпарта-настойлівыя намаганні выцягваць нешта адтуль – уцягваюць тое, што ёсць, у тое, што было.

Не мінулае належыць памятаць, а той змест, што не бывае мінулым.

*

Адны і тыя самыя высновы, у залежнасці ад таго, хто іх фармулюе, набываюць розны змест. А постаці, што іх фармулююць, дзейснячы іх, апынаюцца ў розных абсягах рэчаіснасці – каб узаемааспрэчвацца і ўзаемададавацца.

*

Як агонь, як вада, як зямля, як паветра, час гэтаксама стыхія, але, у адрозненне ад іх, першастыхія: усё, што ёсць, у ёй змяшчаецца, усё, што было, у ёй застаецца.

Адзінае, што не змяшчаецца і што не застаецца, дык гэта дух: ён па-за часам і па-за мераю часу – пачаткам і канцом.

Жывучы ў часе, усё жывое скіроўваецца ў па-за час, і магчымасці ад духа.

*

Белае ёсць не таму, што ёсць чорнае, а таму, што хоча ззяць і засяляць наваколле нябесным зместам вясёлка.

*

“Дзе небяспека, там вырастае і паратоўнае”, – гёльдэрлінаўскі радок, што не хоча і не абавязаны станавіцца тэзай, ва ўсякім разе на ўсе выпадкі. А то раптам паратоўнае не паспее альбо не захоча суаднесціся з небяспекай, не паспее альбо не захоча вырасці і аб’явіцца...

Новазапаветнае правіла “Не спакушай Госпада, свайго Бога” аднекуль нагадвае пра гэта.

*

Вядомы людзям – вяршыня айсберга, вядомы сабе – сам айсберг, а сабе свядомы – увесь акіян.

*

Чалавек – адлюстраванне, што супадае з самім вобразам, і супадае так, што, выяўляючы яго, яго й засціць.

Што б пра чалавека ні казалі і як бы яго ні паказвалі, усё гэта адбітак таго, што не мае ні постаці, ні аблічча.

*

Магчымасць – драбіна, што лучыць зямлю і неба, неба й зямлю: у ёй ніколі няма апошняй перакладзіны.

*

Ёсціны тыясамыя, адкрыцці – у спасціжэнні іх: так, адкрываючы свет, кожная жывая істота творыць адкрыцці і, творачы іх, заўсёды сама для сябе апынаецца невядома-вядомай веліччынёй.

*

“Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек – дзе лепш”, – кажа айчынная прыказка.

Дзе чалавеку лепш?

Лёгка – замала, цяжка – замнога, і рыба шукае не глыбейшую глыбіню, а чалавек не лепшую лепшыню, а суадпаведную. Суадпаведнае сваё – тое, што ведае цябе і што нейкім чынам ведаеш ты, і адно ў ім, хто шукае, апынаецца знойдзеным.

*

У з’яве веры разгортваецца спасцігальна-неспасцiжнае, пачатак і завяршэнне ўступаюць ва ўзаемадачыненне, і чалавек апынаецца ў пярэдадні таго, што настае і чым сам ён стаецца.

*

Вобраз для зроку, музыка для слыху, а слова для разумення: каб быць паэтычным, яно мае быць істотным.

*

Усякі парастак праходзіць свае, утоеныя ад разгляду, стадыі, і ўводзіць іх у вынік – шкодзіць самому парастку.

Так і з людзьмі: не варта перабягаць самім сабе дарогі і выстаўляць сябе якой бы ні было велічынёю: якой бы яна ні была, яна заўсёды не канчатковая і мае патрэбу ва ўдакладненні.

Найбольшае заўсёды не здзейсненае, і ўсе дарогі і сцежкі скіроўваюцца туды.

*

Грэх – гэта не "я", гэта мая памылка, і да яго спрычыняюся не "я", а той нехта, каго назіраю і да каго маю нейкае дачыненне.

*

Колькі спакусаў, гэтулькі выпрабаванняў, колькі выпрабаванняў, гэтулькі магчымасцяў.

*

Чым ніжэйшае сонца, тым большыя цені, і па тым, якія цені ва ўладзе, можна вызначаць, які час у наваколлі.

Дзіўлюся на цені: яны вялікія.

Дыягназ першы – пануры: сонца заходзіць.

Дыягназ другі – бадзёры: сонца ўзыходзіць.

*

Бездань не мае аблічча.

Страшная не сама па сабе глыбіня, а адсутнасць якой бы ні было рэчаіснасці – усёадсутнасць.

*

Шчыра – праўдзіва?!.

І хлусы хлусяць шчыра, і сабакі – брэшуць, спіной адчуваючы прысутнасць тае велічыні, якая іх упаўнаважвае на гэта.

Аднак праўдзівае выпадае з якой бы ні было гаманы і з якой бы ні было прысутнасці, і адно тады, калі галасы замаўкаюць, падае свой голас сутнае – яно надасабовае і яно праўдзівае.

*

Усякая з’ява змястоўная не сама па сабе, а тым зместам, які ў яе ўкладаецца.

Ёсць мова і ёсць змест мовы.

Не мовы з’ядноўваюць і раз’ядноўваюць людзей, а зместы, што вымаўляюцца імі.

*

Колькі разоў апынаўся ў складаных, амаль безвыходных, становішчах, і ўсякі раз знаходзіў выйсце – прачынаўся.

Яно заўсёды недзе ёсць, і каб знаходзіць яго, усякі раз належыць выходзіць з сябе – прачынацца.

*

“Нашага паэта” – піша крытык.

Аднак паэт не “наш” і не “ваш”, ён і сам не свой і, адно асягаючы сваё, становіцца паэтам.

*

Вымаўляючыся, мова артыкулюе невымоўнае.

Усе мовы – артыкуляцыі адной невымоўнасці, і чым больш глыбокія артыкуляцыі, тым больш змястоўныя мовы.

*

Мова – тэкст, твор – кантэкст, у якім яна ўсялякі раз знаходзіць сваё адмысловае ўвасабленне.

Колькі твораў – гэтулькі ўвасабленняў, колькі адмысловасцяў – гэтулькі творцаў.

*

Малы – сваволіў: усадзіў ката Базыля ў клетку з трусамі, якніяк а маюць між сабой нейкае падабенства, і ў гонар з’явы ў кармушку паклаў батон: частуйцеся!..

Трусы жвава асвойвалі пачастунак і зусім не зважалі на Базыля, а ён, напружаны і пануры, сядзеў наўзбоч ад усіх і праз драцяную клетку спадылба глядзеў на мяне.

Колькі разоў потым у розных кшталтах, у розных варунках я адчуваў сябе Базылём у трусінай клетцы!..

Усё, што адбывалася наўкола, дыктавала свае ўмовы і мела не абыякое дачыненне да мяне, і я, беручы нейкі ўдзел у тым, што адбывалася, усё адно заставаўся адсутным – чакаў, калі адчыніцца клетка.

*

Выказванне таму і магчыма, што ёсць невыказнае, і таму, што ёсць неспасціжнае, магчыма і спасціжэнне.

*

Асабовасць – хваля на возеры.

Чым большая хваля, тым больш у ёй возера, і чым больш у ёй возера, тым больш у ёй немагчымасці стацца ўсім возерам – і ўсведамлення гэтай немагчымасці таксама больш.

*

Запрашаюць паўдзельнічаць у дыялозе.

Дыялог, хто б яго ні вёў, гэта дыялог не са мною, а з той з’явай, да якой я маю дачыненне і з якой таксама знаходжуся ў дыялозе.

Мушу найперш пытацца згоды ў яе.

*

Што такое літаратура, кажа сама літаратура. Яна выяўляецца, тлумачачы сябе.

Не тлумачачы сябе, яна не выяўляецца.

Літаратуразнаўства не было б знаўствам, калі б сама літаратура ўжо не была ведай.

І мовазанаўства не было б знаўствам, калі б ведай не была сама мова. Веда растворана ва ўсім існым, і кожнае знаўства высноўвае з яго свой кшталт.

Літаратура, у якой няма чаго рабіць літаратуразнаўству, не зусім літаратура, а мо і зусім не літаратура.

*

“Ён займе месца побач з Янкам Купалам”, – кажа адзін вершатворца пра другога.

Але – авох: паэты не займаюць месцы ў прэзідыўмах, а паэзія не ўпісваецца ў табель аб рангах, наадварот — выпісваецца.

І самае лепшае месца, якое, дзе б яно ні было, можа заняцца паэтам, – гэта с в а ё месца.

*

Канцэпцыя не ахоўваецца аўтарскім правам – аб гэты параграф заканадаўства спатыкнуліся “Яйкаквадраты”, і гэты параграф заканадаўства спатыкнуўся аб “Яйкаквадраты”.

“Яйкаквадраты” – канцэпцыя, але выяўленая, і таму што выяўленая – карціны.

Канцэпцыя не ахоўваецца законам, бо не акрэсліваецца і не выяўляецца, але калі акрэсліваецца, то выяўляецца ў нечым і нечым: у формуле і формулай, у выслоўі і выслоўем, у карціне і карцінай...

Узнікаючы, канцэпцыя ў “Яйкаквадратах” адразу мысліла сябе ў выявах, нават найменне знайшлося пазней, без іх яна непамысная і самую сябе не мае.

А ў “Яйкаквадратах” яна мае самую сябе і, маючы, бачыць, што яна дакладная і дасканалая.

Такім чынам, удакладняцца і ўдасканальвацца мусіць заканадаўства. У яек шмат выяваў, але канцэпцыя, увасобленая ў “Яйкаквадратах”, адна, і МТС пераняло не столькі выяву яйка, колькі выяву (ці фрагмент выявы) канцэпцыі, і ніхто з яе прадстаўнікоў не можа ўцямна растлумачыць, што яна азначае, бо яна ўзята і запазычана.

“Горад абвешаны яйкаквадратамі”, – зазначыў у вершы Анатоль Івашчанка.

Мушу радавацца?!.

*

Уся сусветная літаратура ўсё больш становіцца адзінай літаратурай, і зусім не абавязкова, каб у сваёй літаратуры было тое, што ёсць у астатніх, нават калі яно дужа чытальнае, нават калі яно выдатнае.

Галоўнае – яна павінна выявіць свой патэнцыял, сказаць тое, што адна яна і можа сказаць, інакш яна становіцца неабавязковай.

*

Яны амаль тоесамае, але іх разасабляе сэнсавае адрозненне: у прозе з падзеі ўзнікае тэкст, у паэзіі з тэксту ўзнікае падзея.

*

Час усё расставіць на свае месцы?!.

Калі на зямлі, то час не расстаўляе, а сцірае – і ўсё, і свае, і месцы;

калі над зямлёю – то ўжо не час.

*

Тойсамы дождж, але ў залежнасці ад таго, дзе ты ёсць, выяўляе тоесамае па-рознаму.

Па-свойму, калі ты ў хаце і па свойму, калі ты ў полі, па-свойму, калі ты ў двары і па-свойму, калі ты ў дарозе, і таму што па-свойму, ён зноў і зноў уваходзіць у апавяданне і ў верш.

*

Я хата, і змест, што ўва мне, то рассвятляецца, то зацямняецца – засынае, а нехта ходзіць наўкола і зазірае ў вокны.

*

Творы – жывыя з'явы, а можа, нават жывыя істоты ў тым абсязе і ў тым вымярэнні, дзе Слова – Бог.

І таму, што мы далучаны да таго абсягу і да таго вымярэння, творы маюць змест.

*

Самота – калі недастаткова сам...

Глыбокая, яна і не ведае, што яна самота, і сны ў ёй – ява.

*

Сустрэўся з ёю перад тым, як яе не стала, – са сваёй хроснай маці.

Што гаварыў – разумела,

пра што пытаўся – згадвала,

што мела, тым частавала, а была ўжо адсутная.

Яна перажыла тое, што ёсць, яно адышло, а яго квінтэсенцыя засталася ў адсутнасці і не мела патрэбы ні ў словах, каб гаварыцца, ні ў згадках, каб узнаўляцца.

Што застаецца ў адсутнасці? Мудрасць, і ўсякая мудрасць – мудрасць адсутнасці.

*

Калі паэзія самапаказваецца, паэты распранаюцца.

Усе чакаюць, што яны пакажуць нешта сутнае, нешта запаветнае, нешта зберажонае, а яны паказваюць генеталіі.

Закон жанру патрабуе працягу: што далей?.. Харакіры?!.

Распранацца перад усімі – марны занятак, і выдаваць гэтае распрананне за літаратуру – тварыць марную літаратуру.

*

У падаснове верша формула, альбо мантра, і рытм пра гэта кажа, і алітэрацыі згадваюць.

Чым больш верш формула, тым больш ён верш?!.

*

Ёсць скарб, што назбірваецца, і скарб, што адкрываецца, – знадворны і ўнутраны.

Скарб, што назбірваецца, занявольвае, скарб, што адкрываецца, вызваляе.

*

Няма людзей адно дасканалых, і адно недасканалых няма: яны, усе па-свойму, дасканала-недасканалыя.

І недасканалае іх любіць за тое, што яно міне, а дасканалае – за тое, што застанецца.

*

Шэрае асцерагаецца белага: у ім яно растае, але схіляецца перад чорным: у ім яно набывае новую якасць і новы змест.

*

“Думкі мае, думкі!..” – кажа паэта.

Думкі, што жаляцца, не зусім думкі. Гэта смуткі: іх многа, як асенняй імглы.

І смуткі яны таму, што не сталіся думкамі.

*

Словы – ключы, і што літаратура ўвесь час робіць, дык гэта адмыкае зместы, захаваныя ў тых, хто іх выяўляе.

*

Грому шмат, а тое, што яго выклікала, адно – маланка;
слядоў шмат, а іх пакінула адна істота;
слоў шмат, а тое, што яны агучваюць, адно...

Але, каб набыць змест і значэнне, многае шукае адно і наколькі знаходзіць – набывае.

*

У сарцавіне кожнай істоты закладзена перамога, але той, хто да яе прыходзіць, перастае быць самой гэтай істотай.

Спрадвечнае правіла, якое не памятаецца, а ёсць: каб здабыць перамогу, належыць стацца пераможаным – самім сабой.

*

Далечыня – уводзіны ў змест, у якім алфавіт бязмежжа збіраецца ў словы:
туды скіроўваюцца дарогі,
туды цякуць рэкі,
туды ляцяць птушкі,
і жыцці жывуць таксама туды.

*

Калі падаеш, апынаешся ніжэй за сябе, каб на самым нізе падзення займець належную табе апору.

Апора – перакуленая столь, ніжэй за яе нельга, яна заўсёды пакажа, дзе ты ёсць тым, кім ёсць цяпер.

*

Самая ўстойлівая ардыната ў зменлівай рэчаіснасці –імкненне: знадворку нерухомае, яно ўтрымлівае ў сабе патэнцыял агню, і запаленая свечка яго ўзор.

*

Праўдзівае не тое люстэрка, у якім чалавек бачыць сваё аблічча, – у ім ён апынаецца насупраць самога сябе, – а тое, у якім ён з самім сабой супадае.

Яно ў ім і бачыць яго, само заўсёды застаючыся нябачным.

*

Кажа знаёмца: калі жук і жаба пачынаюць плявузгаць на таго, хто мне самому ў пярэчанне, мне ахвота запярэчыць ім, а за яго заступіцца.

Але цяпер зіма, і я ў ёй, і мне ў ахвоту і ў задавальненне было б пачуць і ўбачыць хоць якога жука, хоць якую жабу.

*

Высокае сцягваецца ўніз, і чалавек апынаецца ў помніках – з самаўяўленняў, самаўсхваленняў, самалюбавання, самападману...

Ён іх жывіць сабой, і яны не адпускаюць яго.

Яны яго ідалы-стоды.

У нейкім сне бачу, як помнікі вагаюцца і падаюць і чалавек узыходзіць, нібы па прыступках, па іх у невядомую вышыню.

*

Там, дзе гандлююць таварам, яўна і няяўна гандлююць людзьмі.

Ва ўсе вякі чалавек купляе і прадае, і сам купляецца і прадаецца.

*

Магчымасць змяшчае ў сабе тую меру, якая дазваляе ёй распазнаваць акалічнасці і ў іх выяўляцца.

І тое, што яна распазнае, яна загадзя ведае, і тое, у чым выяўляецца, загадзя ўмее.

*

Адна перамога гучная, калі цмок, пра якога гаворыцца ў казках, перамагаецца ў баі, і другая ціхая, калі яму даюць заснуць, і ў той час, калі ён засынае, дзейсняць справу, якая, урэшце, і становіцца перамогай.

Усякая сапраўдная перамога – перамога справы, і тады, забыўшы, хто ён, цмок арэ зямлю, косіць сена, ставіць масты, бо калі не справы, тады асабовасці – і ў цмока на месцы адцятай галавы вырастаюць новыя.

Аднак асабовасці на тое і асабовасці, што любяць сябе больш, чым справу, і таму, што любяць сябе больш, чым справу, не даюць заснуць цмоку – і ў некім, і ў сабе.

“Ой, не будзі, не будзі!..” – згадваюцца словы з песні, якую пачуў аднойчы, калі ехаў цягніком праз Украіну.

*

Імкненне гэта ўжо шлях.

Калі імкненне згасае, шлях спыняецца і аб’яўляюць сваю прысутнасць адлегласці...

Адлегласць насяляе свет вобразамі, што памятаюць знаёмства з сутнасцю, імкненне саму яе асягае.

*

Паліліся дажджы – і рэкі павыходзілі з берагоў, а берагі паўваходзілі ў рэкі. Спрабую перайсці Лясную там, дзе заўсёды пераходзіў, – яна не пазнае мяне: змяшаліся вада, глеба, трава, і плынь каламутная.

Аднак гэтаксама змяшаліся там, дзе ўсё азначаецца і пазнаецца, думкі, словы і ўчынкі і, змяшаўшыся, перасталі выяўляць сябе, і ў каламутнай плыні не пазнае сябе свет.

*

Цела – фармат, у якім дзейсніцца жыццё і дзейсніцца так, што даводзіць яго да небакраю часу.

І ўсю дарогу жыццё заахвочвае цела ісці далей, і ўсю дарогу сляды заахвочваюць цела застацца з імі, а яно іх пакідае, і чым больш пакідае, тым больш іх застаецца.

*

Чым чалавек ашукваецца, дык гэта думкай.

Яна яшчэ вучыцца думаць, і рэчаіснасць для яе калі не буквар, то падручнік.

*

Калі пішуцца вершы, яны не турбуюцца, для каго яны пішуцца: у той прасторы, якая перасягае відавочнае, яны ўжо маюць сваё месца.

*

Падзеі аб’явіліся і апалі,

галасы загаманілі і занямелі,

людзі сабраліся і разбрыліся, але засталося поле, а ў полі сляды таго, што было...

І той, хто полем ідзе, уводзіць сябе ў кантэкст, у якім яны могуць ажыць і адгукнуцца, калі той, хто ідзе, патрапіць у іх уступіць і па іх пайсці.

*

Адно дрэва – яно ў арыенцір, калі іх мноства – уводзяць у блуканне.

*

“Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць...” – верш Алеся
Ставера стаўся песняй, а радкі нешта спрашчаюць і выклікаюць пярэчанне.

Некалі гэтае пярэчанне я выказаў уголас – і дарма: пакрыўдзіў песню і песняра.

Не варта пярэчыць песні, а калі не варта пярэчыць песні, не варта пярэчыць і радкам з яе.

*

Згадваюцца людзі, якія некалі ашуквалі мяне і мелі з таго карысць. Ніхто мне пра гэта не казаў, але выспеў сам і выспелі сітуацыі, каб раскрыць свой змест.

І кожная сітуацыя, каб адбыцца, атрымлівала ад мяне своеасаблівы дазвол: тут быў недастаткова пільны, тут – дбайны, тут – дзейсны, а тут – разумны...

Паволі адпускаюцца людскія віны, а свае яшчэ павальней.

*

І я быў не ў гуморы, і ён (*Анатоль Сыс*) паводзіўся абы-як, і мы, як ён потым вытлумачыў, п а ц а п а л і с я.

Пацапаліся – сілком аддавалі адно аднаму сваю транскрыпцыю сітуацыі і сілком адмаўляліся ад яе.

*

Living hours aside: Рознае – калі вынік адтэрміноўваецца і з’ява бярэ тайм-аўт.

Тады недасканалае паказвае, якое яно ўмелае, дасціпнае перабягае дарогу істотнаму, а творца апраўдваецца за нешта, чым ёсць ён сам.

*

Звілістая, рака часу адплыла і пакінула стаяць на ўзгорку таго, хто адпусціў плынь і для каго час знерухомеў.

Ён ужо помнік, а ўсякі помнік чакае і спадзяецца, што рэкі пацякуць наўпроць і што падзея, як бы далёка ні была адпушчана, усё роўна вернецца да яго, каб перайначыцца і адбыцца.

І пакуль ён чакае і спадзяецца, яго пакідае і таму, што пакідае, не можа пакінуць дзея, што роднiць надзею з падзеяй, – плынь.

*

Словы – названыя.

Аднак, апрача названых, у мове прысутнічаюць і неназваныя словы: яны жыхары глыбіні, і верш выяўляе іхнюю прысутнасць.

Наколькі выяўляе, настолькі відушчы.

*

Няма такой мовы, на якой нельга было б выказаць якой заўгодна глыбокай думкі, – калі мова с в а я і калі с в а я думка.

Думка – яна ўжо і слова, што яшчэ не вымавілася ўголас.
Да таго, як мы вымавім іх, словы ўжо вымаўляюць нас.

*

Усякі кубак і ўсякая шклянка ўважлівыя да таго, як што ў іх наліваецца – яно мусіць налівацца акурат і ў меру. Калі праз меру, яно аддаецца самому сабе і тады пераліваецца праз шклянку і кубак – куды хоча і як хоча.
Гэтак і з чалавечымі жыццямі, і смерць – жыццё, пералітае цераз край.

*

То тут, то там узнікае сітуацыя, калі дзвюма рукамі губяць з'яву, а дзвюма пальцамі падтрымліваюць.
І заўсёды, каб апраўдацца, спасылаюцца на пальцы: мы, маўляў, спрыяем справе, але вось рукі не хочуць яе прыняць.

*

Веды адрозніваюцца ад ведаў, і нават адно і тое самае разуменне, што ён жыве, чалавекам з дня ў дзень і з году ў год перажываецца па-новаму;
і нават адно і тое самае разуменне, што ён памрэ, усю дарогу ўсведамляецца так, нібы гэта тычыцца не яго самога.
Смерць – вынік, да якога чалавек, пакуль ідзе, не даходзіць, вынік, якога не ведае ён, але які ведае яго.
Смерць – забароненая веда.

*

Прайграю, а ўсё адно змагаюся, прайграю, а ўсё адно ўдзельнічаю ў той з'яве, у якой і якою істотны.
Гэта той удзел, у якім няма загадзя напісаных правілаў і ў якім разгортваюцца патэнцыялы, і гэта тая параза, якая выяўляе сутнасці...
Самая прыкрая параза – займетая праз няўдзел і невыяўленне.

*

Жыццё – тэатр?!.
Людзі хочуць убачыць тое, чаго яны не бачаць, і зразумець тое, чаго яны не разумеюць, а тое, што яны бачаць і разумеюць, нібы яно пярэчыць ім, не хочуць убачыць і зразумець.

*

Адным негатывам малююцца толькі кляксы.
Усё астатняе і ўсе астатнія, каб убачыцца і распазнацца, вымагаюць асабовага падыходу і асабістага знаёмства.

*

У швейцарскім Рароне пакінуў сцежку: калі выходзіў з крамы, паслізнуўся на сходнях, матлянуў пакетам з набыткам, стукнуў аб край – і бутэлька з алеем разбілася.
Усё, што было ў пакеце, пакмецілася алеем, на дол пацёк струменьчык, і пакуль я заходзіў за краму, каб спарадкавацца, пакідаў на асфальце

сцежку. Да самага ад'езду, калі праходзіў, бачыў яе – звілісты пісяг, свой ненаўмысны аўтограф.

*

Дарога доўгая і цяжкая, ноч зблытвае наваколле, і перашкоды аспрэчваюць хаду, ды ўсё адно не бяды.

Бяды – калі няма куды ісці, калі дарога абрываецца, калі замест яе цябе вытлумачвае тупік і мае яма.

*

Мова высноўваецца з водгуку: у ёй рэчаіснасць асвойваецца і пазнаецца.

Тое, на што адгукаецца найглыбейшае, найбольш сваё.

*

Паміж людзьмі няма розніцы?!.

Так, у кропцы альфа і ў кропцы амега – да таго як людзі становяцца тымі, кім яны ёсць, і пасля таго як перастаюць імі быць.

*

Выказваць нездавальненне – пырскаць вадой на агонь: і агонь зазлуецца, і вада зняважыцца.

*

Калі ўздымаюцца ў горы, усё лішняе пакідаецца ўнізе. Так, браты Пандавы ("Махабхарата"), выпраўляючыся ў сваё найвышэйшае падарожжа, паступова пакідаюць на горных схілах усё, што маюць з сабою, нават свае зямныя целы.

Свабода дзейсніцца як узыходжанне ўгору: ніжэйшае адступаецца тады, калі настае вышэйшае, і адно дарастаючы да вышэйшых цяжкасцяў, чалавек вызваляецца ад ніжэйшых – разам з самім сабою.

*

Здзейсненае апрыёры мае ў сабе ўзнагароду, эквівалентную сабе: яна яго змест, і ўсякі твор істотны сваім зместам.

Калі твор і змест разасабляюцца, тады здзейсненае становіцца неістотным, а істотнай – узнагарода.

*

Поспех – попел, і ад таго, хто ўсяляецца ў поспех, ухіляецца агонь.

*

У сваёй асабовасці чалавек не ёсць ні цалкам прысутным, ні цалкам адсутным, але – часткова: ён бачыць сябе часткова і разумее часткова, дый, урэшце, і ўвасабляецца часткова.

Яго сонца п а - н а д імі п а - з а ім яго цень.

*

Той, кім авалодвае чыннік палёту, пачынае выключацца з правіла і стварае на дарогах аварыйныя сітуацыі;

але той, хто авалодаў ім, вольны ад асаблівасцяў ландшафту і аддае зямное зямлі, а нябеснае небу.

*

Тое, што некалі не засвоілася, усё адно не мінае, а – западае ў выпадак, а – забягае ў здарэнне.

Лепш бы іх не было, але яны гэтаксама ўрокі: пытаюся ў выпадку, хто ён такі, знаёмлюся са здарэннем, адкуль узялося.

*

Ва ўсякай істоце ўцелясняецца свая мера быцця, якая мера – такая істота, і што ёй нельга, што льга, ведае загадзя і на памяць.

Чалавек таксама істота, але напалову. Другою паловай ён невядомая велічыня, і што яму нельга, аб'яўляюць запаведзі, а што льга – Бог.

*

З гэтага свету ў той, з таго ў гэты – эвалюцыя адбываецца не лінейна, а пакрокава, і на зямлі пакідае не лінію, а пункціры – сляды і прагалы.

Асаблівасць слядоў у тым, што яны не мяняюцца і не паўтараюцца, асаблівасць прагалаў у тым, што яны нічым не могуць быць запоўнены. І як бы ні намагаліся паслядоўнікі Дарвіна знайсці адсутныя звёны эвалюцыі, ім гэта не ўдаецца, бо іх няма.

Адсутнае тут – прысутнае там.

*

Выдушваць (у Сяльцы сказалі б: *вычаўліваць*) з сябе па кроплях раба – няўдзячны занятак. Па-першае, кроплям не будзе канца, па-другое, стомяцца пальцы. І па-трэцяе: калі ўжо вычаўліваць з сябе па кроплях раба, то належыць вычаўліваць і рабаўласніка – аднаго без другога не бывае.

*

Няма ў чалавеку асобных якасцяў: як галіна ў дрэва, усякая якасць урастае ва ўсяго чалавека, і ўсякая якасць істотная ўсім чалавекам.

*

Памяць не ў тым, што ў мінулым застаецца, а ў тым, што з мінулага вынікае, – ссохлыя чараціны трымаюцца месца, але зялёны парастак выносіць вестку ў вясну.

*

Дасціпнікі і перасмешнікі пераказваюць што заўгодна, аднак не могуць выказаць самага істотнага: яно паказвае ім язык.

*

Баявыя ракеты маюць галоўкі, ці дзюбкі, з мяккага металу, дзяку-

ючы гэтаму яны здатны ўліпаць у цэль і перадаваць ёй свой каштоўны дарунак.

Нота бэнэ для змагароў, ваяроў і грамадскіх лідараў, што дэманструюць сталёвую волю, спрабуючы адчыняць дзверы ілбом.

*

Верш – люстэрка: у ім невідочнае адлюстроўваецца відавочным, а відавочнае невідочным распазнаецца.

*

Праўдзівае – адпаведнае.

Колькі людзей, гэтулькі адпаведнасцяў, і амаль гэтулькі ж неадпаведнасцяў.

*

Вышэйшае не над чалавекам, а з чалавекам: ім ён вышэйшы за самога сябе.

У ім яго радасць, у ім яго спадзяванне, і, звяртаючыся да яго, словы звязваюцца ў малітву, якая не мае патрэбы ў словах: "Госпадзе, будзь!.."

*

Калі сціраюцца межы, разам з імі сціраецца нешта, што ў іх захоўваецца і ёсць.

Глыбіня раз'яднання істотнейшая, чым паверхня з'яднання.

*

У з'яве творчасці выяўляецца і вымаўляецца пачатак. Яго нельга выявіць і вымавіць: ён можа адно выявіцца і вымавіцца сам.

Творца здольны н е ў м е ц ь.

*

Канчаўся дзень, я перагортваў свае колішнія нататкі – і быў затлумлены. Трэба было ўчытвацца ў тое, што ўжо мінула, парадкаваць параскіданае, узнаўляць згубленае, і мой абы-які почырк быў мне ў цяжар.

Недзе ў сярэдзіне нататніка натрапіў на "аазіс" – на ахайна знатаваныя старонкі і, калі чытаў, радаваўся тэксту і, як некаму, дзякаваў самому сабе. А мо і насампраўдзе самому сабе некаму?!.

*

Творчасць – рост, і дзейсніцца, суадносячыся з тым, што заўсёды вышэй і глыбей за цябе, – з сутнасцю.

Калі не з сутнасцю, тады з прысутнасцямі, але тады і творчасць забывае, хто яна і навошта.

*

Той, хто чытае Евангеллі, чытае напісанае пра Ісуса Хрыста. Аднак сам ён пісаў не тое, што мусіла заставацца, а тое, што мусіла сцерціся, – палімпсесты.

“Але, глыбока схіліўшыся, Ісус пісаў пальцам па зямлі” (*Ян, 8:6*).

Людзі таксама, колькі жывуць, пішуць саміх сябе, а напісанае сціраюць і сціраюцца самі: яны таксама палімпсесты?!.

*

Сусветная літаратура яшчэ не ўся літаратура, і творчасць пра гэта ўсякі раз ведае загадзя.

*

У палітыцы ўсё мае кошт, аднак самае істотнае кошту не мае і палітыкай не схопліваецца.

*

Калі твор творыцца, ён захоплівае, калі не захоплівае – не хоча тварыцца і, нават створаны, застаецца недаздзейснены.

Некалі, па гарачых слядах, склаў версэт “Плошча”. Склаў – адклаў: ён склаўся мусова. Спрабую яго згадаць – не згадваецца: што яшчэ падае ў ім голас, дык гэта адзін пасаж, што ўзнік сам: “Гулец, на абедзве нагі кульгавы, нясе да плошчы ліхтар”. Астатняе распалася, занямела, здранцвела, і мне неахвота нанава выклікаць яго з таго, у чым яно не спраўдзілася, – са змусу.

А Чэслаў Мілаш кажа, што ён змушае сябе пісаць.

*

Людзі і ёмасць, і маёмасць: маёмасцю валодаюць, ёмасцю ёсць.

*

Прарок мае справу з невядомай велічынёю, ён адкрывае яе і людзям, і самому сабе ўпершыню, і таму той, хто, як у паэме Халіля Джабрана “Прарок”, выкладае разумныя праўды, – кніжнік альбо прапаведнік, але менш за ўсё прарок.

Найменне застаецца з прарокам, а ён без паэмы.

*

Куды ўпадае пытанне, адтуль вынікае адказ: адказ – вернутае пытанне.

Разам з пытаннем туды, куды сягае яно, заходзіць і чалавек, разам з адказам выходзіць.

*

Рады, што ёсць вышэйшыя за мяне, што ёсць разумнейшыя, што ёсць здатнейшыя... Бяру іх у арыенціры: дзякуючы ім я магчымы.

*

Бальнічным калідорам вяду за руку дзіця. Яно вырывае яе, яно можа і хоча ісці само, яно хоча і можа

быць сабою.

Быць – быць сабою.

Быць сабою – быць вольным ад усемагчымых залежнасцяў.

*

Кантэкст вытлумачвае тэкст.

Так, раман Уладзіміра Караткевіча “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” мае іншае значэнне і іншую канатацыю, чым перакладны “Христос приземлился в Городне”. У першым выпадку ён уваходзіць у з’яву айчыннай літаратуры, у другім – у дэтэктыў, хай сабе і гістарычны.

*

У мастака няма мэты, адрознай ад мэты самога мастацтва і, выяўляючы яе ў сабе, ён выяўляе яе і ў мастацтве.

*

Творца ведае сваё месца –месца ведае, дзе мусіць быць творца: яно заўсёды перадапошняе, а першае належыць твору.

Няхай творца не памыляецца і сваёй асабовасцю не забягае наперад твора – не падмяняе твор, інакш твор не набудзе свайго месца і свайго значэння.

*

Як і людзі, мовы выдатныя па-свойму.

Ва ўсякай мовы свая тапаграфія і свая паэтыка: у ёй свет асвойваецца і ёю вытлумачваецца, і тое, што хоча і можа стварыцца ў адной мове, у другой можа і не схацецца, і не змагчыся.

*

У налібоцкае балота ўбіўся дзік: уваліўся, захрас, гніе. Смурод на вярсту. Перфоманс, у які хочаш не хочаш, а прысвячаецца наваколле.

*

Славуты дзэнаўскі белы аркуш паперы – ён ужо не зусім белы, ён спраўджаны і пражыты і ўяўляе ўзор палімпсесту.

*

Змаганне – пераадоленне, і самапераадоленне – неабходная ўмова чалавечага існавання, у ім і ім асягаецца перамога.

У евангельскай выснове “Палюбіце ворагаў сваіх” ворагі аб’яўляюцца не для таго, каб з імі абдымацца, а для таго, каб змагацца – з імі і з тым сабою, што мае гэтакіх ворагаў.

*

З’ява, што адбылася, мае ў сабе чыннік самаадмаўлення: яна самаадмаўляецца ў адметнасць і ў выключнасць і паўтарацца не хоча.

*

Да таго, як чалавек пачаў спазнаваць свет, сваё ўжо свет мела.

Паэтычнае – гэта сваё.

Сваё – гэта паэтычнае.

*

Экзістэнцыі не вытлумачваюць чалавека. Але, вызваляючыся ад іх, ён самавытлумачваецца.

*

У натоўпе правадыры эмоцыі.
Калі чалавека апаноўваюць эмоцыі, ён сам апынаецца натоўпам.

*

Чыстая вада – вада;
мутная вада больш, чым вада.
Сапраўднае любіць празрыстае: яно ў ім адкрываецца;
зман любіць мутнае: у ім ён хаваецца.

*

У новым папярэдняе не знікае, а набывае новы кшталт. І той, хто падаецца на той бок дабра і зла, падаецца на той бок г э т а г а дабра і г э т а г а зла: яны ім зведаліся і распазналіся, але, нязведаны і нераспазнаны, ён з імі сустрэнецца і там, каб нанова іх зведваць і распазнаваць, каб нанова распазнавацца і зведвацца імі.

"Што ўнізе, тое наверсе, што тут, тое там", – наказ Гермеса Трысмегіста тым, хто падаецца ў дарогу.

*

Шлях, якім чалавек ідзе, нібы ў чарадзейнай казцы, згортваецца ў клубок –
і ніхто іншы не можа ім прайсці,
і ён сам ім не можа вярнуцца туды, дзе быў.
Аднак застаецца клубок – з тым і ў тым, хто ідзе: да нейкай канчатковай мяжы, да нейкага канчатковага часу.

*

Чалавек народжаны для шчасця?!.
Хутчэй – нараджаецца, і народзіны доўжацца ўсё жыццё. А мо і не адно.

*

Пераймаць – далучацца да творчасці, і як бы хто што ні пераймаў, у гэтым перайманні заўсёды збярэцца адрозненне, і з гэтага адрознення выснуецца творца.

*

Пачатак літаратуры не ў якой бы ні было гісторыі, а ў той невядомай велічыні, да якой маюць дачыненне творцы ўсіх часоў і ўсіх літаратур.

Твор, што хоча аб'явіцца і аб'яўляецца, вынікае з яе, невядомай велічыні, і, выяўляючы яго, творца апынаецца знойдзеным – апынаецца тым, хто знойдзены невядомым.

*

Айчына ў грудзях, і адно калі Айчына ў грудзях, песня ведае, як спявацца, словы – куды казацца, а ўчынкі – куды ісці.

Ідэя не вынаходзіцца, яна асягаецца – і гэта не што іншае як шлях, што вядзе з бязмежжа ў Айчыну.

*

Мастацтва павінна быць зразумелае народу...

Мастацтва павінна быць зразуметае народам... – Дзяржава ўкладае з'яву мастацтва ў свае высновы, але ні ў адну, ні ў другую яна не ўмяшчаецца.

Яна заўсёды нейкім чынам не ад гэтага свету і разуменнем не схопліваецца: яна ўсякі раз далей, чым там, і бліжэй, чым тут.

*

Ва ўсім існым дзейсніцца чыннік самапераадолення, якім размыкаюцца відавочнасці:

ісці – вызваляцца ад шляху,

расці – вызваляцца ад асабовасці,

пісаць – вызваляцца ад слоў.

*

Музыка не мае патрэбы ў перакладзе, выяўленчае мастацтва таксама, і адно літаратура з кожным творам зноў і зноў выбудоўвае сваю вавілонскую вежу– яна памятае невымоўнае.

Мовы – транскрыпцыі невымоўнасці.

*

Калі мы некага ці нешта ўводзім у зрок і ў думку, яно апынаецца наперадзе нас – апынаецца правадыром.

Думаць пра нявартаснае – сабе шкодзіць і не туды ісці.

*

“Гнеў, о багіня, ўхвалі Ахілеса, Пялеева сына...” – гэтакім зваротам распачынаецца “Іліяда”.

Уведаўшы ўсемагчымыя наступствы гневу, кажу:

Багіня, не ўхваляй гневу ні Ахілесавага, ні чыйго б ні было. Ён забірае розум, і ад яго застаюцца адно зруйнаваныя святыні, абрынутыя целы ды знявечаныя лёсы.

Ухвалі лепш саму творчасць!..

*

У чалавеку закадзіраваны ўсе істоты, і сам ён Ноеў каўчэг, які некуды плыве: куды?

*

Калі жывыя жывыя не назусім, то і мёртвыя мёртвыя не назусім, – аксіёма, што кожнай істотай фармулююцца нанова і ўсё адно не можа дарэшты сфармулявацца.

*

Паэзія абуджае ўтоеныя ў словах зместы і, адно абуджаючы іх, робіць словы неабходнымі.

*

Калі яна і ён яднаюцца блізінёю – каханне, калі далечынёю – любоў.

*

Той, хто аддае сябе палітыцы, становіцца ўсё больш вядомай велічынёю,
той, хто творчасці, – усё больш невядомай, нават самому сабе.

*

“Хто гэта?” – пытаецца Эўрыдыка ў Гермеса, калі яны падарожнічаюць у тым свеце, пра Арфея, які, не азіраючыся, ідзе наперадзе іх (Р.-М. Рыльке).

Чалавек бачыць сябе асабовым зрокам, але ў гэтай асабовасці ёсць надасабовы зір, і раней ці пазней чалавек пачынае бачыць сябе як alter ego, як некага другога, і пытаецца ў самога сябе пра самога сябе: хто гэта?

*

Сарцавіна відочнага – невідавочнае: так растуць дрэвы, так птушкі ладзяць гнёзды, так узнікае твор – ён узнікае з самога, яшчэ не відавочнага і яшчэ не ўцеляснёнага, твора.

*

Нацыянальная ідэя заўсёды нешта глыбейшае і далейшае, чым вызначэнне свайго месца пад сонцам. У ёй прысутнічае чыннік самапераўзаходжання – гэта азначае самазнаходжання сябе глыбей, чым тут, і далей, чым цяпер. У ёй радавод вядзецца нават не ад Адама, а ад самога Тварца.

Усё меншае не здолее яе выявіць і акрэсліць.

*

Пафас – апостал хлусні: дзе пафас у моцы, там хлусня збіраецца ў грамаду – у хаўрус.

*

Асягненне, якое пераўзыходзіць “умець”, – гэта “не ўмець”: не ўмець хлусіць, махляваць, крывадушнічаць, выстаўляцца...

Яно захоўвае ў сабе пачатак і ў ім спраўджваецца.

*

Самае адпаведнае заўсёды найбольш прадказальнае: гэтак, калі набліжаецца навальніца, бліскавіца яе заўсёдны атрыбут.

І ў той жа час самае адпаведнае – самае непрадказальнае, і ніякая логіка загадзя не можа сказаць і вылічыць, як яно выявіцца: узоры бліскавіцы вынікаюць са збегу імгненняў і акалічнасцяў і ім суадпавядаюць.

*

Усё ў зменах, і тое, што адбылося, збіраецца ў гурт і ў статак, і людзі – пастухі: пасвяць мінулае.

*

На адну і тую самую з'яву адгукаюцца двое маіх знаёмцаў, адзін яе хваліць, другі – ганіць.

Кожны па-свойму з іх мае рацыю і кажа праўду, адно – асабовую праўду. Аднак яны пасягаюць на абсалютную праўду і пачынаюць паміж сабою спрачацца і як да суддзі звяртаюцца да мяне.

А абсалютная праўда ні ў іх, ні ўва мне, ні нават у самой з'яве, і ў той жа час і-і-і.

*

Чалавек чалавеку брат,
чалавек чалавеку воўк,
чалавек чалавеку рэч,
чалавек чалавеку...

І гэта не два чалавекі, а тойсамы чалавек у суадносінах са сваёй існасцю – б о с к а й.

*

Усякі верш мае сваё магнітнае поле, і адно па ўзорах гэтага поля складаюцца словы і вымаўляецца сам верш.

*

Пабыў і тым, і гэтым, і гэтакім, і такім, а сабою адно там, дзе не асланіўся і не засланіўся якой бы ні было атэстацыяй.

*

Якія б яны ні былі розныя – істотнае адказвае на ўсе запытанні: здабытае адно становіцца ключом да ўсяго.

Істотнае, калі яно адбываецца, мае дачыненне да ўсяго, калі не – цені перабягаюць з аднаго месца на другое.

*

Вавілонская вежа – транскрыпцыя.

А напачатку была ява, якой лучылася зямное і ўсявышняе.

Парушылася яна – і мову займела непаразуменне.

*

Такая пара: свецяцца ліхтары, яны ейныя вартавыя і ейныя валадары.

Але пачне днець – і яны пачнуць гаснуць. Дзень, а ў ім сонца – іхняя смерць: яны з ёй зродненыя адпачатку.

Людзі таксама ліхтары: гэтак ці так яны імкнуцца туды, з чым яны зродненыя і дзе іх не стане.

*

Праўда не гаворыцца, а дзейсніцца, і калі яна дзейсніцца, тады гаворыцца сама;

калі не дзейсніцца, тады аб’яўляецца хлусня і заклікае гаварыць праўду.

*

Сон – містэрыя, што ўводзіць таго, хто бачыць яго, у становішча, дзе ён насампраўдзе ёсць.

Паэзія выйшла з містэрыі і тое, што яна робіць, – вяртае ў містэрыю рэчаіснасць.

Насамправўдзе робіць гэта – творыцца і здзяйсняецца, не – не.

*

Што такое чалавек?

Усе азначэнні вынікаюць з яго і вяртаюцца да яго, і сам ён заўсёды яшчэ не ўсё.

*

Тое, што бачаць вочы, яшчэ мусіць вытлумачыцца асабовасцю.

Пры жаданні можна і сонца зганіць: яно ж з плямамі!..

Пры жаданні можна і плямы ўхваліць: яны ж на сонцы!..

*

Які б ні быў твор – дасканалы, недасканалы, удалы, няўдалы, яго найпершая і найгалоўнейшая асаблівасць тое, што ён хоча ўзнікнуць.

Астатняе адгэтуль.

*

Жыццё тоесамае, а лёс ва ўсіх свой.

Тое, што жыццё захоўвае і хавае, ён адмыкае. Ягоны транскрыпт ключ, і ключ транскрыпт мастацтва.

*

Дзе б чалавек ні быў, ён застаецца заўсёды ў той-самай кропцы, і гэтая кропка яго “я”, яго асабовасць.

Астатняе геаграфія – адно каардынаты яго месцазнаходжання.

*

Перамога, у якой ёсць пераможаныя, не зусім і перамога: да досведу дадаецца досвед, і людзі распазнаюцца нанова, хто яны.

Але перамога, у якой ёсць пераможца і няма пераможаных, – праўдзівая перамога, і прарокі вясткуюць аб ёй, і святыя паказваюць да яе дарогу.

*

Якія б яны ні былі, сны тоесныя таму, хто іх бачыць, і людзі, якія б яны ні былі, тоесныя ёсціне.

Людзі – сны ёсціны.

*

Каб любіць усіх, трэба станавіцца агнём – усяедам альбо сонцам – усяведам. Інакш не атрымаецца.

У глыбіні сваёй існасці чалавек гэта мае і гэтым ёсць. І гэтым яшчэ і заўсёды становіцца.

*

“Недоучен до пяди седьмой

И до пряди седой недомучен...” – некалі выснавала Бэла Ахмадуліна радкі пра “неда”.

Родавая адзнака “неда”: не стаўшыся тым, хто ёсць тым, кім ёсць, яно выстаўляе сябе тым, хто ёсць большы, чым той, кім ёсць.

*

Філіды і барды – і тыя, і гэтыя паэты. Між імі розніца ў падабенстве і падабенства ў розніцы: філід асягае маланку, бард – грымоты.

*

Мовай валодаюць, а верш адтуляецца: мова – тут, верш – адтуль.

*

Так шмат спраў і з’яў – і ўсе яны дзеля таго, каб не адбылося самага істотнага;

і ўсе (яны ж!) дзеля таго, каб самае істотнае адбылося: выбар у чалавеку, і ўсякі раз ён выбірае альбо сябе, альбо для сябе.

*

Паэт і палітык...

Калі паміж гэтымі словамі ставіцца злучок, узнікае непаразуменне, калі працяжнік – азначэнне.

*

“Нам не дано предугадать,

Как слово наше отзовётся...” – прыгожае цютчаўскае выслоўе: яно хоча ўдакладняцца.

Слова вымаўляецца таму, што адпачатку ў ім ужо закладзены водгук – рэха. І ўсё жывое вынікае такім, якім яно ёсць, якраз таму, што яно знаходзіцца ў рэзанансным полі водгуку і з ім узаемадзейнічае: выпадзе – страціцца.

І адно ў стратны час слова не знаходзіць водгуку, і адно ў стратны час “Мысль изречённая есть ложь” – яго ж выслоўе, якое само сябе абвяргае, бо яно таксама ёсць “изречённая мысль”.

*

Яшчэ цёмная зямля, яшчэ не напісана ніводнага верша, але паветра насычана прадвеснем – прадвесцем: яны маюць аб’явіцца самі.

*

Лаўрэат прэміі... прэміі... прэміі...

узнагароджаны... узнагароджаны...

адзначаны... прызначаны... вылучаны... – біяграфічная нататка паэта. І адно ў самым канцы гэтага пераліку зазначаецца імя –

дададатак да нечага.

*

Форма – уцелясненне зместу, яна супрацьстаіць яму і з ім супадае: гэта невідавочнае, што можна пабачыць, невымоўнае, што можна пачуць, няяўнае, да чаго можна дакрануцца.

У ёй дзейсніцца сустрэча.

*

Вядомы кнігар, што заўзята набываў кнігі, з гадамі параспрадаў і параздаваў свае набыткі, пакінуў сабе адно Біблію.

Пытаюся ў яго, што ў ёй ён яшчэ не вычытаў, адказвае: “Самога сябе”.

*

Лепш застацца стаяць на месцы, чым зварочваць на невядома якую сцежку.

Калі ты стаіш на тымсамым месцы, шлях вернецца да цябе,

калі ты саступаеш на невядома якую сцежку, шлях спыняецца там, дзе стаяў ты.

*

У тым, што выяўляецца, фармулюецца тое, што ёсць.

Людзі гэтаксама формулы, што ўсё жыццё чытаюць самі сябе і ўсё адно застаюцца непрачытанымі.

*

“Еду ў Рыгу па соль, па скрыгу”, – перакладчыца з блізкага замежжа просіць патлумачыць, што азначае слова “скрыга”. Вядомыя наўпроставыя значэнні (а гэта – кавалак, крыга, скрыль) сюды не ўпісваюцца, і слоўнікі не даюць тлумачэння.

Пачаў раіцца з самой прыказкай, як з вершаваным радком, які вымагае перастварэння. Калі ёсць “соль”, павінна быць нешта суадпаведнае ёй, што? Ну, так:

“цукар”. Па-латышску “cukurs”, па-шведску “socker”, і прадаваўся ў Рызе ён, пэўна, не як-небудзь, а менавіта ў скрыгах. Здагадка паразумелася з логікай, і загадкавая “скрыга”, што не хацела казаць, хто яна і навошта, згадзілася прыняць свой гэты змест.

Ва ўсякім разе, для мяне.

*

Святасць не выключэнне з правіла, а правіла, што стаецца выключэннем.

*

У прэміяў свае расклады, у літаратуры свае вартасці, і калі змест і значэнне літаратуры пачынае наўпрост залежыць ад прэміяў, творца становіцца недастатковай істотай.

Сваёй існасцю літаратура змагаецца не за прэміі, а з імі.

*

Набыткі – хада да небакраю: набываючыся, яны так ці гэтак пераўзыходзяцца.

Самы з'яўны набытак, дадзены кожнаму і з кожным з'яднаны, – узрост, альбо век, і чым ён большы, тым больш чалавек так ці гэтак ад яго самаадмаўляецца.

*

Ва ўсякай мове растворана метамова: яна яе ўтоены змест.

Творачыся, верш знаходзіць з ёю паразуменне: у ім яна вымаўляецца ўголас.

*

Народы і роды знаходзяць у старых звестках, што кажацца ў іх пра іх, і суадпаведна гэтаму набываюць змест і значэнне.

Аднак самае істотнае ва ўсім гэтым не апынуцца знойдзеным, а знайсціся самім – аднайсціся.

*

Не ўсё належыць і выпадае выносіць у словы: ёсціна, калі яна выносіцца ў словы, перастае быць такой – становіцца спрэчнай і ўяўнай.

"Што ёсць ёсціна?" – усе стагоддзі пытаецца Пілат у Хрыста.

*

Чалавеку належыць усё сонца і ўвесь свет, і нават калі ён сам згаджаецца на меншае і частковае, яно (усё і ўвесь) не згаджаецца: яно спадчына вечнасці і ведае чалавека інакш, чым ён сам сябе, – часовы.

*

Сябры свае, аднак і ворагі свае, і людзі, што маюць ворагаў, супастаўляюцца з імі, супрацьпастаўляюцца ім і суіснуюць з імі.

Смерць – вораг, але свой.

*

Калі адбываецца размова асабовага з асабовым, усё застаецца тут, і словы сведкі;

калі сутнага з сутным – усё адбываецца там, і сведак няма;

але калі асабовага з сутным – запальваецца і палымнее агеньчык, як у вершы Алеся Наўроцкага ("Ён будзе на запалцы сохці,/яго да пальцаў падганю,/і апячэ мае пазногці/каханне дрэва і агню"), і вымаўляецца верш – самасведчанне.

*

Рыса, якою закрэсліваецца напісанае, мае быць важкаю: яна завяршае напісанае і ўтрымлівае нешта больш значнае і больш змястоўнае, чым яно.

*

Самае неабходнае не займае часу, яно па-за ім, і заўсёды на самае неабходнае яго не застаецца альбо амаль не застаецца.

Мы ўвесь час заняты, але заняты не тым, і таму што не тым, – заняты.

*

Ва ўсякай з'явы свой акіян, яе насяляюць размаітыя маштабы: хвіліны, гадзіны, дні, тыдні, месяцы, гады, а то і стагоддзі.

Ходзім, аднаходзячыся, па берагах акіяну.

*

Склаўся верш: прагаварыў – і не занатаваў. А потым забыў. Намагаюся ўспомніць – не атрымліваецца. Але ж ён не знік, не ўцёк, не адляцеў, ён проста знайшоў схову, куды я не знаходжу доступу. Схову ўва мне – у замку, дзе я кашталян.

*

Самаахвярнасць – неад'емная ўмова быцця:
самаахвяруючыся, свеціць сонца,
самаахвяруючыся, ідзе дождж,
самаахвяруючыся, цвітуць кветкі і, самаахвяруючыся, чалавек асягае наступнасць.

*

Вышэйшае асягальнае, ніжэйшае – не: той, хто асягае вышэйшае, усё больш становіцца сабою, хто асягае ніжэйшае, сябе губляе.

*

Верш – месца, дзе сустракаюцца найменні, каб у сустрэчы выявілася тое, што наймення не мае.

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
шаноўнага **Алеся Сцяпанавіча РАЗАНАВА**
з юбілеем і зычаць яму моцнага здароўя,
Божае ласкі і – каб дзверы творчасці
ніколі не зачыняліся!

Алесь Паплаўскі



...прыгажосць свету

ў дробязях...

# Гульні з нулявымі сумамі

***Аповесць***

*Мастацтва першапачаткова ўзнікае ў форме гульні, мастацтва першапачаткова рызыгрываецца...*

**Ёхан Хэйзінга**

**1**

Я ўсё яшчэ шукаю сябе. Пражываю звыклае, будзённае «сёння», з недаверам узіраюся ў безвыходную прывіднасць невядомага мне «заўтра». Верагодна, людзям, такім, як я, наканавана лёсам шукаць сябе пажыццёва. Малюнкі быццяя змяняюцца. Відзежы ілюзорнага свету, намаляваныя ўяўленнямі, з зайздроснай абыякавасцю сціраюцца ўсюдыісным часам, але я настырна працягваю маляваць. Я мастак, і мая мэта ствараць сябе.

Але, спазнаючы новыя сэнсы існавання, я так пакуль і не здолеў распазнаць сярод гэтай размаітасці рэчаў, рэлігій,

догмаў і ілюзій, створаных чалавекам і дзяржавай, свой сапраўдны сэнс, свой сапраўдны шлях, сваю патаемную мару. Я не стаў для сябе Вечнасцю. Я не стаў для сябе Цішынёй, хоць яна мне заўжды была да твару, і прымяраў я яе, нібы шляхетную вопратку, не разумеючы, што дадзена яна мне насамрэч навырост.

Я ўсё яшчэ радуюся жыццю. Я ўсё яшчэ фармую свой дух і гадую сябе. Я імкнуся жыць у згодзе з гэтым светам, з пакорай і непазбежнасцю прымаючы ўсе цяжкасці і нечаканасці жыцця. Я чышчу свой розум любоўю, бо перакананы, што не страціў веры і што мая ўсмешка надзейна застрахавана нябёсамі ад натоўпу. Калі доўга і настырна шукаць сябе, абавязкова спазнаеш Бога. Знойдзеш яго ў сабе...

Да вандроўкі ў Ізраіль застаецца некалькі дзён. Квіткі на самалёт ужо замоўленыя. Іх застаецца толькі забраць у паломніцкім аддзеле нашай царквы, і я планую зрабіць гэта заўтра. Дні напярэдадні адпачынку, як заўжды, эмацыйна насычаныя. І цяжка не пагадзіцца з маім кумірам Мэрфі, што няма межаў таму, наколькі дрэнна могуць пайсці нашы справы заўтра. На паверхню павылазіла процьма незавершаных спраў, і я марна спрабую іх па-хуткаму разгрэбсці. Адключаю нават па неабходнасці сотавік, каб адмежавацца ад надакучлівых і не заўсёды карысных тэлефонных размоў, але гэта не дапамагае. На асабістае не стае ні часу, ні сілаў, ні жадання. Яна знаходзіць мяне праз сакратарку.

– Ніякіх заўтра, – настойліва папярэджвае мяне жанчына. – Па-першае, заўтра я не працую, а па-другое...

Якая розніца, што прыгатавала мне гэтая «асоба» на другое. Хочаш не хочаш, а трэба кідаць незавершанае і перціся праз увесь горад па гэтыя далбанутыя квіткі, быццам бы іх нельга перадаць праз каго-небудзь ці ўвогуле аддаць мне асабіста ў рукі перад ад'ездам. Паломніцкі аддзел знаходзіцца на супрацьлеглым канцы горада, а гэта, як мінімум, некалькі гадзін змарнаванага дарма часу. Адным словам, на працу можна ўжо не вяртацца.

– Добра, – расчаравана прамаўляю я і кладу слухаўку. Незадаволена зіркаю на сакратарку. – Бог мой – Скала мая!.. – прамаўляю я.

Дзяўчына кідае на мяне здзіўлены позірк, па ўсім відаць, не разумее маёй іроніі.

– Ну што з табой зробіш, – разводжу я рукі. – Кубачак кавы, і Бог даруе табе твае грахі.

Насамрэч мне не да весялосці. З кволай надзеяй пазіраю на гадзіннік і вырашаю, як правільна і больш-менш карысна размеркаваць час. Праз гадзіну, не пазней, так было дамоўлена загадзя з дырэктарам, я павінен быў быць у гарадскім статыстычным аддзеле, дзе мяне ўжо другі дзень запар марна чакаюць з дакладам па выніках працы фірмы за мінулы квартал. Патрэбнай інфармацыі на руках у мяне ўсё яшчэ дасюль няма, пры тым, што тую інфармацыю, якую я яшчэ спадзяюся сабраць, трэба яшчэ будзе ўдакладняць, апрацоўваць і я проста не ў стане буду зрабіць гэтага ў бліжэйшы час. Наступствы гэтай маёй халатнасці для мяне непрадказальныя. Як мінімум, ганебныя разборкі, папрокі і пазбаўленне квартальнай прэміі. І гэта, паўтаруся, у лепшым выпадку, так як запланаваныя тэрміны здачы справаздачнай дакументацыі даўно ўжо мінулі. Цешу сябе толькі тым, што ўся гэтая працэдура з распяццем на крыжы справядлівасці, з прычыны майго адпачынку, мусіць быць перанесенай на нявызначаны

тэрмін і ў лепшым выпадку адбудзецца толькі праз месяц, пасля майго вяртання з Ізраіля. Але на той час, спадзяюся, абставіны зменяцца, ды і сам я буду зусім ужо іншым чалавекам, бо ніхто яшчэ з падарожжа не вяртаўся тым, кім быў да яго. І меў рацыю Геракліт: усё цячэ і змяняецца...

Чапляю на твар сур'ёзны выраз і дэманстратыўна лаюся. Дзяўчына не даганяе майго настрою і пакрыўджана патупляе вочы. Крывая грымаса на яе прыгожанькім тварыку вяртае мне канчаткова добры настрой.

– Бог мой – Скала мая!.. – паўтараю, як мантру, завучаны мною некалі выраз з Бібліі і, стрымліваючы ўсмешку, кажу: – Эх, золатка!.. Шкада, што мне нельга матам лаяцца.

Сакратарка вытужвае кволую ўсмешку. З партатыўнага прымача да мяне прарываецца саладжавы голас гламурнай спявачкі. Незадаволена моршчуся, і сакратарка прыцішае гук.

– А ці ведаеш ты, любая мая, хто такі Эсб'ёрн Свенсан? – па-змоўніцку падміргваю я. Маё не зусім зразумелае, недарэчнае пытанне, мая непрадказальная зменлівасць і зманлівасць настрою ды ненатуральнасць паводзін канчаткова бянтэжаць дзяўчыну.

У паветры завісае паўза. Праз адчыненую фортку ў пакой залятаюць гукі гарадскога жыцця. Вецер прыносіць іх разам з шолахам раскіданых на стале папер. Назіраю, як па руцэ дзяўчыны паўзе цень ад настольнай лямпы, і папраўляю фіранку.

Пакой нашпігаваны дробязямі і дэталямі. Спантанны павеў ветру агаляе іх існы парадак, дзе кожная з гэтых рэчаў мае свой сэнс і свой змест. «Нішто не вяртаецца назад, – думаю я. – Усё рухаецца толькі наперад. Маўчанне прамаўляе мільёны слоў, але нават і яны не здольныя выказаць ісціну гэтага моманту...» Яшчэ раз аглядаю пакой. Наша жыццё – і ёсць існаванне сярод гэтых дробязных рэчаў, большасць з якіх непатрэбныя нам.

Пераводжу позірк на дзяўчыну і ўсміхаюся. Проста так, без прычыны. Мне можна. З заўтрашняга дня я ў адпачынку.

– Ісціна, золатка маё, тоіцца ў рэчах. На жаль, не кожны з нас здольны распазнаць яе... Мы зусім не цікавімся сабой. Мы не ведаем сябе. Мы корпаемся ў бруднай чужой бялізне. Што мы шукаем там? Шчасця?.. Бога?..

Дзяўчына паціскае плячыма і маўчыць.

– Не падманвайце сябе, Богу няма месца ў курылках. Ён не павінен туды наведвацца, тым больш там жыць. Ведаеш, што нас, людзей, выратуе? – звяртаюся я больш да сябе, чым да дзяўчыны. – Музыка. Нас выратуе, маё золатка, музыка... Ты шчаслівы, бо ты слухаеш джаз!.. – дадаю я.

Гэта аксіёма. Музыцы я адданы з юнацтва. З тых самых часін, калі ўсвядоміў, што такое сапраўдны сэнс музыкі, з таго самага імгнення, калі невылечна захварэў на лізтаманію і пачаў без разбору калекцыянаваць гукі. Я і цяпер усё яшчэ прывучаю сваю памяць захоўваць іх для таго, каб дзяліцца імі з іншымі. «Ты шчаслівы, бо ты слухаеш джаз!» – вучылі мяне мае куміры. І я капіраваў іх. На жаль, усе мы імкнемся быць нечымі копіямі, бяздумна адпрэчваючы сваё: індывідуальнасць, самасць... забываючыся, што ў кожнага з нас свой лёс і сваё жыццё. Нішто пакуль не завершана, нішто. Кожная рэч, кожная істота стварае сябе сама. Мы расцем з вядомага ў невядомасць, і цяпер я дакладна ведаю, што мае куміры, – усяго толькі ілюзорная прэлюдыя да майго існага, сапраўднага жыцця, а мая мэта – нішто іншае, як выйсце за межы звыклага, будзённага. І няважна, што гэтая ідэя індывідуальнай свядомасці толькі яшчэ зараджаецца ў маёй

галаве, што святло ад яе пакуль вельмі бляклае і амаль незаўважнае. Але я іду насустрач гэтаму кволаму агеньчыку. Ён – маяк мне. Ён – святло ў маёй цемры. І за гэта я ўдзячны не сваім кумірам, а сабе самому. Я паважаю Эсб'ёрна Свенсана як асобу. Ён мог бы стаць маім сябрам, бо гэта ён навучыў мяне разумець і адчуваць прыгажосць гукаў. І я абавязкова вазьму яго гукі з сабою ў дарогу...

Музыка ніколі не была для мяне клопатам. «Гукі, як сказаў нехта з вялікіх, – гэта вечнасць!» А я сцвярджаю, што гукі – гэта чарнільныя плямы на бясколерным цнатлівым аркушы цішыні. Менавіта імі бясконцы Бог піша свае ўспаміны: «...адчыні мне адтуліну з голкавае вушка, і Я расчыню перад табой найвышэйшую Браму...» Праз некалькі дзён, роўна сем гадоў таму, як не стала з намі вялікага Музыкі. Эсб'ёрн Свенсан быў маім аднагодкам,

– Дык ты ведаеш, хто такі Эсб'ёрн Свенсан? – паўтараю я і зазіраю ў вочы збянтэжанай дзяўчыне. Адказваю сам: – Эсб'ёрн Свенсан – маё збавенне ад тугі... Яго голас – мой голас!..

Дзяўчына не разумее мяне. І не трэба. Галоўнае, што я сам сябе разумею. Я не з маўклівых і не з глухіх, для мяне важна агучыць тое, аб чым я заўжды памятаю. Агучыць і пайсці незразуметым. Мы для таго і нараджаемся, каб быць самімі сабой.

– Прывітанне шэфу, – кідаю я на развітанне дзяўчыне і іранізую: – Абавязкова патэлефаную яму, з Ізраіля. Бай, бай!..

Да аўтобуснага прыпынку не вельмі далёка, але, каб не спазніцца, значны адрэзак шляху іду подбегам. Некалькі разоў парушаю правілы руху і перасякаю вуліцу на чырвонае святло. Сёння мне ўсё дазвольна. Сёння мне ўсё сыходзіць з рук. Тралейбус як заўжды бітма набіты, і я з цяжкасцю праціскаюся ў салон. Бурклівая мажная кабета неахвотна дапамагае мне прабіць квіток, потым прыбірае з праходу вялізную спартыўную сумку, прапускаючы мяне да акна. Дзякую ёй за гэта і з палёгкай уздыхаю. Нарэшце можна разняволіцца. Пераводжу дых і акідваю поглядам салон. Адчуваю схаваную ў паветры і ў чужых настроях напружанасць. Яна не столькі ў саміх паводзінах людзей, колькі ў іх трывожнай маўклівасці. На фоне яе галасы двух пажылых мужчын гучаць неяк ненатуральна і нават задзірліва. Прыслухоўваюся. Мужчыны, як можна зразумець з іх кароткіх рэплік, абмяркоўваюць падзеі ва Украіне. Іх погляды на палітычныя праблемы не супадаюць шмат у чым, і таму гаворка паступова перарастае ў спрэчку. Кожны з іх спрабуе акцэнтаваць увагу на сваім, а таму ім даводзіцца ўвесь час перакрыкваць адзін аднаго. Нічога не зробіш, такая ўжо наша краіна: для таго, каб цябе пачулі, трэба размаўляць на ўзмоцненых танах. Галоўная мэта большасці – быць датычным да нечага, належаць камусьці: дзяржаве, ідэі, партыі, рэлігіі... Няважна каму, абы толькі не быць аднаму. Аднаму быць страшна.

«Русский мир» даўно ўжо ў маім горадзе, і я балюча, з трывогай стаўлюся да ўсёй гэтай ашалелай, непрыхаванай, прапагандысцкай лексікі, якую чую з дня ў дзень паўсюль. За ўсімі плёткамі, неабгрунтаванымі і паспешлівымі высновамі, за ўсім неагучаным і прыхаваным кожны раз паўстае адно і тое ж пытанне, яно вісіць у паветры: «Быць трэцяй сусветнай ці не?..» Грамадства ведае гэтых «асоб з запалкамі», бачыць іх кожны дзень у тэлевізары, але назваць адкрыта іх імёны не спяшаецца. Так бяспечней. Мяне злуе гэтая людская блізарукасць. І ад гэтай безвы-

ходнасці, ад свайго бяссілля мне хочацца крычаць крыкам: «Яна ідзе ўжо, тая вайна! Яе даўно распалілі нашы куміры!.. Проста яна іншая, не такая, як вы чыталі ў кніжках ці бачылі на экранах. Час іншы, і войны іншыя!»

Але я ведаю – крычы не крычы, а наўрад ці пачуюць цябе. Для таго, каб гэта зразумець, трэба, на жаль, і бядзе, і смерці прыйсці ў кожны дом. Ёсць чорнае і ёсць белае. Ёсць чырвонае і ёсць карычневае. Я не дальтонік. Я прыхільнік жыцця. Я прыхільнік светлых колераў, а таму нязгодны з тымі, хто імкнецца навязваць мне павагу да жалобных фарбаў. Верагодна, для натоўпу я праблемны чалавек, а таму перасцярогі гэтай бальшыні для мяне зразумелыя. Са мною не камільфо. Людзі любяць, каб з імі згаджаліся. Але я ніколі не стану тым, кім бы хацелі мяне бачыць гэтыя людзі. Я не жадаю апускацца да іх узроўню і жыць разам з імі ў норах. Я адчуваю, што ў свеце адбываецца нешта значнае, свет на нашых вачах робіцца іншым, не такім, якім быў раней, і ў прыстойных людзей шмат прычын для непакою і хвалявання. Занадта многа гора і слёз, занадта многа людской крыві льецца ў свеце. Не патануць бы нам у гэтым згубным крывавым акіяне, не знікнуць бясследна, як знікла некалі легендарная Атлантыда.

Адрываюся ад думак. За вакном звыклая воку безаблічнасць вялікага горада. Чаму мы імкнемся асягнуць неабсяжнае, чаму нашы думкі не прасякнуты любоўю да таго, што ёсць, да таго, што мы маем? Прыгажосць свету ў дробязях. Менавіта з іх, нібыта з мноства размаітых пазлаў, і складаецца наша сапраўднасць. І ці патрэбна нам ехаць на край свету для таго, каб сустрэцца з Богам?..

– І не страшна табе аднаму перціся ў гэтую далячынь? – дакучае Аля. У яе голасе чую непрыхаваны здзек. Насамрэч гэта зайздрасць, самая што ні на ёсць звычайная людская зайздрасць.

Аля мая даўняя сужыцелька. Сапраўднае імя яе – Валя. Але яна яго не выносіць на дух чамусьці, а таму скараціла на адну літару і цяпер цешыць сябе, што так гучыць нашмат прыгажэй. Валя скараціла не толькі сваё імя, яна скарачае ўсё, для яе ўсе рэчы і з'явы недасканалыя, не такія, якімі яны ёй бачацца. Такая ўжо яна ёсць, мая Валя. Мы з ёю людзі розныя, хаць і жывем разам цэлую вечнасць. Прызвычаіліся, прыцерліся адзін да аднаго, як кажуць, зжыліся. У Алі я трэці па ліку сужыцель. Дзяцей яна ні ад кога з нас не займела, а таму гэтае пытанне для яе нязносна балючае і непрыемнае. Размоў на такія далікатныя тэмы мы з ёю не вядзем. Пра існаванне майго сына яна таксама не здагадваецца, а я ёй і не збіраюся расказваць сваю гісторыю. Калі шчыра, яна і не вельмі цікавіцца маім колішнім жыццём. Такі расклад мяне цалкам задавальняе. Яе, верагодна, таксама.

– Страшна, – згаджаюся я. – Таму і еду не сам, а з паломнікамі. Так зручней, як мне здаецца. Хоць, калі шчыра, то і з імі баюся ехаць. Раптам не ўпішуся ў кампанію гэтых набожных людзей.

– Не разумею, навошта табе гэта ўсё? Які сэнс шукаць Бога ў краіне, дзе вякамі ідзе вайна, дзе праліта столькі крыві і слёз? Няўжо, каб знайсці Бога, трэба перціся на край свету?

– Сапраўды, Бог нашмат бліжэй, – згаджаюся я. – Але пачуццё віны, Аля, гэта – магутнейшы сродак для маніпуляцый. Бог – гэта збор нейкіх сусветных законаў, у маім разуменні, а таму прасіць яго аб нечым, безумоўна, гэта дурное. Тым не менш, калі сэрца шчыміць, даводзіцца паратунку шукаць на краі свету.

– Якога ражна тады прэшся? – недаверліва пазірае на мяне Аля. – Наколькі я здагадваюся, падарожжа гэтае не таннае. Лепш бы на здароўе грошы патраціў, якога ў цябе не так ужо і шмат.

– Не шмат, – згаджаюся я. – Але здароўе, Аля, за грошы не купіш. Банальна, але факт. Калі шчыра, ёсць у мяне абавязак адзін перад жыццём...

– Абавязак? – здзіўляецца яна і іранізуе: – Перад ізраільскім народам?

– Перад Богам. Вярнуся, абавязкова раскажу табе сваю гісторыю.

– Чаму не цяпер? – здзіўляецца яна.

– Таму, што не час яшчэ.

– Не час, – перакрыўляе мяне Аля. – Не разумею, якія такія абавязкі могуць быць у чалавека, які ні ў што не верыць?.. Ніколі цябе не разумела, ніколі...

У голасе яе чутны крыўда і расчараванне.

– Відаць, ужо ніколі і не зразумею.

– Гэта праўда, – згаджаюся я. – Ды і навошта?..

Адчуваю сваю нікчэмнасць. Месца для нечага новага, пакуль яшчэ нязведанага ў жыцці, амаль не засталося ўжо. Разумею, што з гэтым трэба нешта тэрмінова рабіць, неабходна пазбаўляцца ад гэтага цяжару, ад старых рэчаў, ад выпадковых калег, якія раздражняюць сваёй палітычнай заангажаванасцю, большасць з якіх – пакаленне чорна-белых тэлевізараў, а таму тлумачыць ім іх жыццёвую бесперспектыўнасць – усё роўна, што Алю на ровары вучыць ездзіць. Сяброўства з імі нясе толькі небяспеку і шкоду. Эпідэмія духоўнай блізарукасці, якая за кароткі тэрмін атруціла значную частку грамадства, не абмінула бокам і мяне. З кім жывеш, ад таго і набіраешся. Я, як і гэтыя людзі, губляю свой унутраны зрок, раблюся такім жа бесперспектыўным прыстасаванцам. Мы нібыта сляпцы з вострава Закінтас – нам навязваюць правілы гульні, і мы пакорліва, бяздумна прымаем іх. Людзі схільны гуляць у гульні без правілаў. Спачатку рабуюць, а потым займаюцца дабрачыннасцю. І ўсё дзеля задавальнення свайго «Я». Іншы раз мне здаецца, што паводзіны большасці з нас не дацягваюць да паводзін людскіх. Калі браць у агуле, мы так і не сталі нацыяй. Мы застаемся толькі «агульнасцю», аб'яднанай не ідэямі, а назвай, мы – жыхары пэўнай гістарычнай тэрыторыі, аб'яднаныя не адметнасцю і самабытнасцю культуры, а жаданнем выжыць. Таму ці варта здзіўляцца, што на паверхню з нас лезе ўсё бездухоўнае, да якога прыстойныя людзі не маюць ніякага дачынення? Нам жа да лямпачкі ўсё!.. Мы пляваць хацелі на ўсіх!.. Вось і ходзім запляваныя. Навучыліся падмяняць паняцці, налаўчыліся ашукваць блізкіх. Счарсцвелі душой, звыкліся з абразлівай сапраўднасцю і робім выгляд, што нічога амаральнага вакол нас не адбываецца. Насамрэч, гэта духоўны генацыд, гэта гвалтаванне чалавека чалавекам, большасці меншасцю. Мы дазволілі пералічыць нас, як бараноў, дазволілі назіраць за намі праз замочную шчыліну, і ўсё дзеля нашай бяспекі, і ўсё дзеля нейкіх высокіх мэтаў. Якіх? Цяпер за намі сочаць паўсюль. Цяпер мы навідавоку, на ланцугу. Таму, зрэшты, якая нам розніца, на якой мове нас абражаюць...

– Будзеце выходзіць?

Нехта далікатна штурхае мяне ў плечы, і я незадаволена азіраюся. Пакрыўджана гляджу на маладога чалавека, потым у вакно і разумею, што праехаў патрэбны прыпынак.

– Буду, – ціха прамаўляю я і раблю крок да дзвярэй.

Са спадарыняй Ларысай, так завуць менеджара, мы знаёмыя яшчэ з мінулай восені, вандраваў разам на Валаам. Ларысе на выгляд гадоў пад сорак. Гэта ўсмешлівая, ветлівая і жыццярадасная жанчына. Адчуваецца, што яна на сваім месцы. У пакоі пануе належны парадак. Мэбля падабраная з густам. Паперы на стале акуратна раскладзеныя. На кніжных палічках стос філасофскіх кніжак. На падваконнях кветкі. У дадатак Ларыса някепскі псіхолаг. Ва ўсякім разе мяне яна пралічыла ў першы ж дзень нашага знаёмства. Аднаўляючы ў памяці тую колішнюю з ёю гаворку, я схіляюся да думкі, што паводзіў сябе тады не зусім лагічна, наіўна, па-дзіцячы.

Паломнік з мяне сапраўды ніякі. Вернікам мяне таксама назваць нельга. Біблію я, безумоўна, чытаў, але больш дзеля цікаўнасці, чым дзеля духоўнай практыкі. Некаторыя раздзелы з яе, такія, як напрыклад, «Кніга прытчаў Саламонавых», я і дасюль перачытваю. Малітваў як не ведаў, так і не ведаю. Акрамя хіба што «Ойча наш».

– Ці ўпішуся я ў ваша асяроддзе, як лічыце? – пацікавіўся я ў яе тады.

– Упішацеся, – усміхнулася Ларыса. – З намі розныя людзі паломнічаюць.

Паўза зацягвалася.

– Я павінен прайсці нейкі спецыяльны тэст ці здаць іспыты?.. – парушыў я першым маўчанне і паглядзеў на жанчыну з несхаванай іроніяй. – Калі адмовіце, буду шукаць іншыя шляхі...

– Праблема людзей у тым, што большасць з іх ні ў што насамрэч па сапраўднаму не верыць. Нават у сваю святасць. Прызнацца шчыра, мне таксама не даспадобы фанатыкі... У тым ліку і рэлігійныя. Ужо нават тое, што вы наважыліся паехаць, што Бог вас спадобіў наведаць Святую Зямлю, заслугоўвае павагі. Ніхто не вяртаўся з паломніцтва тым, кім быў да яго. Дасць Бог, і вам пашанцуе... У тых, хто заблудзіўся, ёсць шанец знайсці дарогу.

«О-о! Мысліць гэтак жа, як і я!»

– Гэта сапраўды так: калі вам без розніцы, дзе вы цяпер знаходзіцеся, значыць, вы не заблудзіліся, – сказаў я і на ўсякі выпадак удакладніў: – Адзін з законаў Мэрфі.

Падымаюся па стромкіх вінтавых прыступках на другі паверх і ціхенька стукаю ў дзверы – за імі цішыня. Стукаю яшчэ раз – ніхто не адказвае. Чакаю хвіліну і спускаюся ўніз. Сустракаю Ларысу на выхадзе.

– Ну, нарэшце, – усклікае яна задаволена. – А я вас чакаю ўжо. Вы хоць не перадумалі?

– Што вы? Безумоўна, не, – бянтэжуся я і апраўдваюся: – Яшчэ ж ёсць час. Некалькі дзён наперадзе.

– Па-першае, не некалькі дзён, а менш. А па-другое, заўтра я не працую, а квіткі на самалёт толькі вы адзін не забралі. Калі шчыра, сёння мне таксама не да вас, так што прабачце, адразу ж пяройдзем да справы.

Мы моўчкі паднімаемся на другі паверх. Яна адчыняе пакой і запрашае сесці.

– Хачу вам сказаць, што група сфармавана цалкам, – тлумачыць Ларыса. – Як і планавалася, складаецца яна з пятнаццаці чалавек. Пераважна, гэта жанчыны. Ёсць, праўда, некалькі сямейных пар.

– Зразумела, – іранічна ўсміхаюся я. – Нашым мужчынам не да паломніцтваў. Ім грошы зарабляць трэба...

– Жыць будзеце ў адным пакоі з айцом Серафімам. Ён вашага ўзросту. Не хвалюйцеся, айцец Серафім вельмі прыстойны і аўтарытэтны чалавек у нашай епархіі, спадзяюся, вы з ім пасябруеце.

Я згоднаківаю галавой.

– Збор у нядзелю раніцай ля царквы. А шостай гадзіне вас забярэ наш царкоўны «бусік». Вылет з Мінска пасля абеду. Вось і ўсё, калі коратка, – кажа яна і корпаецца ў шуфлядцы. Нарэшце працягвае мне файлік з паперамі. – Тут квіткі на самалёт, страхоўка і напамінак. Праграма можа мяняцца, самі разумееце, там неспакойна. У Бэн-Гурыёне вас сустрэне наш рускамоўны гід.

Спадарыня Ларыса вытрымлівае паўзу, потым працягвае мне перавязаны чырвонай стужкай невялічкі пакунак.

– Гэта, – марудзіць яна, – у мяне да вас асабістая просьба. У лаўры святога Феадосія, што ў Палесціне, а вы там абавязкова будзеце, ёсць наш чалавек, наша зямлячка... Сястра Фаціна. Я шчыра прасіла б вас, знайдзіце яе і перадайце ёй гэты пакунак. Кожны год мы перадаем ёй праз нашых паломнікаў пачастункі. У пакунку напамін аб нашай Беларусі. Знайдзіце яе абавязкова, – паўтарае яна.

– Безумоўна, перадам, – абяцаю я. Нашы позіркі на хвілінку сустракаюцца. Твар у спадарыні Ларысы сур'ёзны.

– Значыць, дамовіліся, – адводзіць яна вочы.

– Не сумнявайцеся.

– Дарэчы, у гэтым манастыры доўгі час знаходзіліся парэшткі нашай асветніцы Ефрасінні Полацкай. Ведаеце пра гэта?

Ківаю галавой. Безумоўна, ведаю. Больш за тое, хачу пабыць у тых мясцінах, дзе жыла ў свой час і дзе была пахавана беларуская праведніца. Гэта адна з маіх мэтаў спантаннай і неймавернай паездкі на Святую Зямлю.

## 2

Вечарам тэлефануе шэф. Вытрымліваю паўзу, доўга не здымаю слухаўку. Пракручваю ў думках варыянты адказаў на яго пытанні і не знаходжу іх.

– Ты яшчэ ў Беларусі? – жартуе ён не павітаўшыся.

– Так, пакуль што ў Беларусі, – адказваю я, стрымліваючы раздражненне. – Вылятаем праз суткі, дакладней, у нядзелю пад вечар.

– Значыць, заўтра яшчэ зможаш забраць сваю працоўную кніжку?

Чую, як здрадліва дрыжыць яго голас, і разумею, што ён для сябе ўсё ўжо вырашыў, а таму ніякія довады яго цяпер не пераканаюць

«Спакойна, вытрымай паўзу, – пераконваю я сябе. – Ты не абавязаны прымаць яго правілы гульні. Яго правілы – гэта яго правілы, а твае – ісці супраць яго правілаў. Ні ў якім разе не паддобрывайся, тым больш не крывадушнічай. Ты павінен сысці годна».

– Добра, дамовіліся, – адказваю я як мага спакойней. Даецца мне гэта з цяжкасцю і, каб канчаткова не выдаць свой фальш, першым кладу слухаўку. «Калі Бог хоча зрабіць цябе шчаслівым, ён вядзе цябе самымі цяжкімі шляхамі...» – іранізую я, выдатна разумеючы, што іронія не зусім да месца. «Ну вось, ты цяпер у дадатак да ўсяго яшчэ і беспрацоўны»

Я пакуль нават не здагадваюся, што сапраўдныя выпрабаванні яшчэ толькі плануюцца нябёсамі і што рашэнне шэфа звольніць мяне з працы – дробязі ў параўнанні з тым, што мяне чакае наперадзе.

– Ты таксама слухаеш музыку з заплюшчанымі вачыма? – звяртаюся я да Алі, хаваючы за гэтым недарэчным пытаннем свой сапраўдны настрой.

– Хто табе тэлефанаваў? – пытае яна. – Як толькі нешта сур'ёзнае, ты абавязкова пераводзіш размову на музыку. Не хітры, я ведаю, нешта здарылася. Што?

– Перастань, што можа здарыцца? Музыка найперш, Аля. Табе калі апошні раз чыталі вершы?.. Хочаш, пачытаю?

– Хто табе тэлефанаваў, – дамагаецца Аля.

– Шэф.

– Што ён хацеў?

– Хацеў парадаваць мяне перад паездкай. За квартал па выніках працы мяне як аднаго з лепшых спецыялістаў прэміравалі двума месячнымі акладамі, – хлушу я.

– Праўда? – здзіўляецца Аля.

– Каб я здох...

Аля верыць мне. Яна да вар'яцтва любіць грошы, і як толькі гаворка заходзіць пра іх, яе нібыта падмяняюць.

Прачынаюся ў добрым настроі. Забіраць працоўную кніжку, як абяцаў учора, не збіраюся. Рака часу цячэ ў адным накірунку, і ў яе немагчыма ўвайсці двойчы. Чуеце, я лячу на Святую Зямлю, і не час мне псаваць настрой сустрэчамі з тымі, хто наўрад ці зразумее мяне, не час выслухоўваць ад іх парады і папрокі, тым больш няшчырыя спачуванні і шкадаванні. Людзі любяць збіраць плёткі, прыдумляць тое, чаго ніколі не было. Што ж, асуджайце мяне. Я пакідаю за вамі такую магчымасць. Я ведаю, што калі намі не цікавяцца, мы губляем сваю прысутнасць, наша месца займае нехта іншы, больш значны, больш цікавейшы. Я не сыходжу, не, чакайце мяне, пакуль я прывучаю сябе да новых абставін, да новых умоў жыцця, пакуль рыхтуюся да сустрэч з незнаёмымі людзьмі. З незнаёмцамі нашмат прасцей. А тое, што чакае мяне праз месяц, не настолькі актуальнае для мяне цяпер, каб на ім зацыкліваццa.

Рэшту дня баўлю ў прыемных клопатах, цалкам прысвячаю сябе падрыхтоўцы да бліжэйшага падарожжа.

З рэчаў у дарогу бяру самае неабходнае і з радасцю заўважаю, што торба мая напалову пустая. У заплечніку толькі нэтбук, здымач, запісная кніжка і некалькі бутэрбродаў на дарогу. З ежай, безумоўна, перабор. Аля, як заўжды, перастаралася, але, каб не крыўдзіць яе, прымаю гэты факт як дадзенасць.

– Вось і ўсё, – уздыхаю я з палёгкай. – Цяпер можна і прысесці на дарожку.

Аля сядае побач і прыціскаецца да мяне.

– Я буду сумаваць па табе, – хлусіць яна. – Пазвані мне абавязкова праз вайбер, калі прыляціш.

– Аля, гэта будзе позна ноччу, і я не стану цябе будзіць, – адмахваюся я.

– Я не буду спаць. Патэлефануй, калі ласка, – просіць яна.

– Добра, пазваню, – згаджаюся я. – Давай памаўчым хвілінку...

Хвіліна зацягваецца. Мінае дзве ці тры... хто ведае колькі? Час перастае існаваць, калі не глядзіш на гадзіннік. Час спыняецца...

Пазнаёміліся мы з Аляй выпадкова. Дакладней, яна мяне знайшла сама. І праз нейкі месяц ужо нахабна заявіла, што я, маўляў, – асоба нікчэмная, ні на што самастойнае не здольная, а таму яна бярэ цалкам на сябе адказнасць за маё далейшае жыццё і становіцца маёй «апякункай».

– Mene, mene, tekel, uparsin, – пажартаваў я.

– Я без жартаў, – сказала Аля, хітра ўсміхаючыся. – Такія экзоты, як ты, Люша, самастойна рухацца па жыцці не здольныя. Вам не пад сілу гэта. Не крыўдуй, але гэта дакладна. Мы жывем на зломе дзвюх эпох, – патлумачыла яна, акцэнтуючы ўвагу на маім наўмысна скарочаным імені. – Мы, Люша, ахвяры вайны дзвюх цывілізацый. Адна з іх – новы соцыум, з уласцівым яму інтэлектам, другая – пячорныя людзі з жывёльнымі інстынктамі, галоўным аргументам якіх ёсць: «вока за вока...» Ты не з тых і не з іншых. Ты – унікум, Люша. Твае браты ў хуткім часе вымруць, як маманты...

Яна памылялася. А я ўсміхаўся. Прызнацца, я не меў патрэбы ў яе «апякунстве», і мне трэба было б заявіць ёй аб гэтым шчыра. Я ж чамусьці марудзіў.

Мне было пад сорак, а ёй і таго менш, і наша жыццё, як нам тады здавалася, толькі-толькі пачыналася. Лёс і сапраўды, нібыта легендарная Цырэя, заварваў нам прываротныя зёлкі, і мы пакорліва пілі гэтае ведзьміна варыва нагбом. Аля для мяне была той містычнаю кветкай мандрагоры, што квітнее апоўначы пад шыбеніцай самотнікаў-самагубцаў, і я даў ёй нават адпаведную мянушку – Альраунэ. Я называю яе іншы раз так і цяпер. Генетычная патрэба аб некім клапаціцца давала падставы ёй думаць, што я нібыта і ёсць той адзіны, каго яна шукала ўсё жыццё. Зазірнуць праўдзе ў вочы, прызнацца сабе ў тым, што яе новы бойфрэнд усяго толькі – забаўка, груднічок, у яе не хапала ні інтуіцыі, ні мужнасці. Калі гаварыць пра сябе, то для мяне Аля стала чарговай сексуальнай партнёркай – жанчынай, з ласкі якой я вырашаў свае жывёльныя патрэбы. Прызнацца, я не быў ні батанікам, ні тым больш знакамітым генетыкам, каб ляпіць з гэтага «міфічнага кораня» цуд. Не збіраўся я таксама і кантраляваць яе пачуццяў, як рабіў тое са сваёй падапечнай знакаміты прафесар Якаб тэн Брынкен. Я жыў не задумваючыся...

Аля збіраецца са мной ісці да прыпынку. Адмаўляю сабе ў такой раскошы. Яна крыўдзіцца і пачынае плакаць. Ну вось. Усё так, як і павінна быць. А я ўжо разлічваў, што хоць на гэты раз абыдзецца.

– Вочы мае вочы праліваюць ваду!.. – іранізую я і лаўлю сябе на думцы, што наўмысна крыўджу яе. Навошта?.. – Навошта гэтая сентыментальнасць?.. Ты таму і адна, што так часта плачаш. Слёзы састарылі цябе і мяне разам з табой. Твае слёзы – мае маршчыны. Чуеш, Альраунэ?.. Жанчына кончыкамі пальцаў выцірае вочы. «І чаму я не навучыўся чытаць яе думкі?..» – шкадую я.

– Няпраўда, – шэпча на вуха мне Аля і туліцца да маёй шчакі. – Я не адна, я з табой.

– Гэта табе толькі здаецца. Гэта, Аля, ілюзія. Кожны з нас даўно пасобку. Калі шчыра, мы і напачатку былі з табой чужымі людзьмі. Мы проста прызвычаіліся і церпім адно аднаго.

– Што ж тады нас утрымлівае разам? – збянтэжана глядзіць яна на мяне.

– Жывёльная жарсць, Аля.

– Чаму ты такі жорсткі, халодны? За што ты мяне ненавідзіш?..

– Не перабольшвай.

Я абдымаю яе напаследак і прыціскаюся шчакой да яе шчакі. Адчуваю, як уздрыгвае, як пульсуе крывёю на яе скроні жылка.

– Я буду сумаваць па табе – шапчу я. – Я сапраўды буду сумаваць... Я не хлушу.

Надзяваю заплечнік і, не азіраючыся, крочу да дзвярэй. Адчуваю на патыліцы Алін позірк. Па целе бягуць дрыжыкі. На душы моташна і неспакойна. Вось і дзверы. Яшчэ адзін крок, і ўсё. Ён самы цяжкі. Я сапраўды буду па ёй сумаваць. Мне сапраўды яе будзе не хапаць. Вось такое наша каханне. Вось такія нашы адносіны.

Да аэрапорта дабіраюся самастойна. Хочацца пабыць аднаму, сам-насам са сваімі думкамі. Тэлефаную спадарыні Ларысе, папярэджваю яе аб гэтым і крочу на вакзал. Вуліца бязлюдная. Ля старой нямецкай кірхі тусуецца купка заезджых турыстаў, аб чым сведчыць нетутэйшы дыялект. Абыходжу іх і накіроўваюся да аўтобуснага прыпынку. Спыняюся ля пешаходнага перахода і, пакуль гарыць чырвоны агеньчык, развітальна гляджу ў вокны сваёй кватэры. Перакананы, Аля цяпер недзе таксама глядзіць мне ўслед. Подбегам перасякаю вуліцу і накіроўваюся да скверыка. Лаўка, дзе збіраюся перакурыць і сабрацца з думкамі, занятая. Відаць, чалавек з нямецкім акардэонам прыпісаўся тут стала. Ва ўсякім разе бачу я яго тут апошнім часам часта. Запавольваю хаду і ўслухоўваюся ў мелодыю, якую вытужваюць у паветра старэнькія хрыпатыя мяхі. Музыка фальшывіць. Колькі чую яго, ён заўжды грае адну і тую з савецкіх часін мелодыю. І кожны раз грае яе па-рознаму. Мелодыя відавочна не ўпісваецца ў сучасны гарадскі пейзаж, як і асоба музыкі. Верагодна, фальшывіць не ён, а фальшывіць сам час, а гэты сталага веку чалавек толькі падладжваецца пад агульны фальш. Не супадае ні тэма, ні настрой. І гэта выразна чутна нават мне, чалавеку, абдзеленаму слыхам. Абмінаю акардэаніста і накіроўваюся да прыпынку. Чалавек усміхаецца мне. Верагодна, адчувае сваю роднасць са мной. Верагодна, ён гэткі ж дзівак, як і я. Верагодна, ён таксама шукае сустрэчы з сабой.

– Ілля! – кранаецца нехта далікатна майго пляча. Разгублена азіраюся. Гэта сусед па лесвічнай пляцоўцы. – Гляджу, ты не ты! Куды так сабраўся?

– Шукаць сваю адзіноту.

– А калі без жартаў?

– У Іерусалім.

– Куды, куды, – перапытвае здзіўлена сусед і, не дачакаўшыся майго адказу, пачынае часціць: – Іерусалім, Іерусалім!.. Там жа небяспечна, Ілля. Ты што, тэлевізар не глядзіш?

– Не гляджу.

– А дарма. Там жа тэракты кожны дзень чыняцца. Там жа вайна...

Я не слухаю яго. Я заняты сваімі думкамі. «Божа! – думаю я. – Няўжо ў Цябе кепска са зрокам? Столькі брыды напладзілі мы за апошнія гады, столькі гора развялі ў свеце, столькі зайздрасці, столькі нянавісці вакол, а Ты робіш нявінны выгляд, быццам бы нічога не адбываецца кепскага... Як мы жывем?.. Дзе мы жывем?.. Колькі нам жыць яшчэ вось так?..»

– Дзе, дзе?.. У Беларусі, – прарываецца праз думкі здзіўлены голас суседа.

– Гэта дакладна, – уздыхаю я. – У адной краіне жывем, у партызанскай. Таму, пэўна, і жыццё тут затаілася, сышло ў падполле.

Так, я цярпіла, такі ж, як і ён. Мы абодва з Савецкага Саюза, з краіны, якой не існуе ўжо даўно. І ўсё ж мы з ім розныя людзі. Я беларус, а ён – не беларус і не рускі, хоць і жыве ў нашым горадзе ўсё свядомае жыццё. Ён тыповы носьбіт «рускага свету», чалавек апантаны імперскімі ідэямі, а таму з пагардай ставіцца да тутэйшай культуры. Трагедыя гэтых людзей у тым,

што яны – асобы без радзімы, без пэўнага, так бы мовіць, статусу. Мая ж трагедыя – у нyздольнасці супрацьстаяць хамству гэтых людзей. Мы цешым сябе надзеяй, што гэтыя людзі самі звядуцца, як кажа мая Аля, вымруць, як некалі вымерлі маманты. Але, як паказвае час, спадзяванні нашы марныя. Гэтыя асобы жывуць з намі побач, плодзяцца, размнажваюцца, пры тым, што беларускі этнас выраджаецца, самабытная культура гіне, а абыякавасць робіцца нормай жыцця для большасці, у тым ліку і для мяне...

Тры гадзіны трасуся ў электрычцы, потым яшчэ з паўгадзіны дабіраюся на рэйсавым аўтобусе. Сваю групу знаходжу ў чакальнай зале. Арыенцірам маім ёсць айцец Серафім. Тут, як гаворыцца, не пераблытаеш. Сціпла вітаюся і прамаўляю сваё імя. Здзіўляюць дзве рэчы: узрост людзей і сціпласць іх адзення. У параўнанні з імі я – калядная ялінка. Вандраваць для мяне звыклая справа, так бы мовіць: не ўпершыню еду да чужых людзей і таму сякі-такі вопыт маю. Вандроўнікі – асобая каста людзей. Пераважна гэта асобы апантаныя, рамантычныя. І, калі шчыра, яднае іх не ўзрост, а агульная мэта. Але тое, што я бачу, не ўпісваецца ў мае канцэпцыі, у маё разуменне. Разгублена пазіраю на незнаёмых людзей сталага веку і не ведаю, як сябе паводзіць. Узіраюся збянтэжана ў маршчыністыя, пакамечаныя жыццём твары і не бачу ў іх сваёй будучыні. Сярод шаснаццаці паломнікаў няма аніводнага маладога твару. Людзі таксама вывучаюць мяне. Мне ўсміхаюцца. стомленыя жыццём людзі, якія дажываюць свой век. Здаецца, усе яны толькі сышлі з выцвілага, пажоўклага рэтраздымка, і таму маюць бясколерныя, папяровыя вочы. Верагодна, Бог запрашае да сябе ў госці толькі людзей такога ўзросту. Я не ўпісваюся ў гэтую кампанію і таму не ведаю, як паводзіць сябе далей. У вачах гэтых глыбока рэлігійных людзей я – закаснелы бязбожнік. Так яно і ёсць. Роспачна гляджу на старэнькую бабульку ў выліналай паркалёвай сукенцы і адчуваю сваю жыццёвую стомленасць. Хочацца здзерці з сябе гэты гламур, гэтую модную вопратку і стаць такім жа нявызначаным і васковым, як усе. Айцец Серафім прамаўляе пропаведзь, сцвярджае, што цяпер мы адзіны жывы арганізм, адзінае непарыўнае цэлае. Запэўнівае, што чалавек павінен мець мэту, дзеля чаго і каго жыць. Усё гэта так, мабыць. Словы хаваюць у сабе больш, чым выказваюць. Гукі разбіваюцца аб цішыню і ператвараюцца ў працяглае векавое рэха. Недзе высока праз шкляную столь відзён шматок бляклага, бясколернага неба. Пераводжу позірк на абразок, што трымае ў руках айцец Серафім. Вочы святога слязяцца. Яго позірк халодны і пранізлівы. Цікава, аб чым думае гэты стары габрэй? Ці чытаюць запісаныя ім пропаведзі сучасныя язычнікі?.. Нягледзячы ні на што, чалавек усё той жа. Ні навукова-тэхнічны прагрэс, ні тым больш рэлігія і мастацтва не змянілі яго сутнасці. Вакол усё той жа «рэалістычны» Босх, са сваёй адсутнасцю перспектывы, з грамадскай недасведчанасцю і ўтрапёнасцю. Вакол усё тыя ж тупыя, юрлівыя твары. Божа! Няўжо ў Цябе кепска са зрокам?..

Толькі праз гадзіну крыху звыкаюся са сваім статусам паломніка і ўспрымаю свет не настолькі катэгарычна, як гэта было спачатку. Верагодна, з прастатой звыкаешся хутка.

Пры даглядзе памежнікі дакалупваюцца да майго заплечніка. Набыў я яго перад паездкай, у Польшчы. Гэта дыхтоўная фабрычная рэч, з кідкімі лэйбламі і прыбамбасамі. Памежнікам не падабаюцца дэкаратыўныя вісюлькі ў выглядзе патронаў. Дзяўчына, якая заўважыла парушэнне, выклікае ахоўнікаў.

– Здымайце! – загадвае ахоўнік.

– Гэта ж бутафорыя, звычайная цацка, – спрабую апраўдвацца.

– Здымайце! – узмацняе голас памежнік. – Хочаце мець праблемы? Зрэшты, мы можам вас прапусціць, а вось у Тэль-Авіве служба бяспекі вас не прапусціць. Забылі куды ляціце?

Доўга корпаюся, ніяк не магу зняць добра прымацаваныя атрыбуты «гламурнасці». Памежнік прыносіць аднекуль пасаціжы; з іх дапамогай нарэшце вырашаю праблему. Настрой сапсаваны. Плятуся па рукаве ў самалёт. Пры ўваходзе ветлівая прыгажуня-сцюардэса доўга правярае квіток, потым называе месца і запрашае ў салон. Божа, як страшна. Я столькі гадоў не лятаў на самалётах. Праціскваюся праз вузкі праход, шукаючы сваё месца. Яно амаль напрыканцы салона, побач з айцом Серафімам. Ён прапускае мяне да ілюмінатара. Уладкоўваюся ў крэсле і дастаю з заплечніка запісную кніжку. Яшчэ дома для сябе вырашыў, што буду весці дзённік. Раблю першы запіс:

«Мы прарочым для сябе вечнасць, а час рыхтуе для нас дамавіны...» Сапраўды, нібыта ў труне. Ва ўсякім разе, ніякай надзеі... Самае страшнае, што ад цябе больш нічога не залежыць. Разлік толькі на тое, што ўсе гэтыя людзі, у тым ліку і пілоты, гэтак жа, як і ты, любяць жыццё...

Пры ўзлёце трымаюся за крыжык. У ілюмінатар адважваюся зірнуць толькі тады, калі кіраванне самалётам пераводзяць у рэжым аўтапілота. «Ну і што ты адчуваеш на вышыні дзевяць тысяч кіламетраў?... – хіба не гэтае пытанне цябе заўсёды цікавіла?.. Пераводжу позірк на айца Серафіма. Яго вочы заплюшчаныя. На выгляд яму гадоў за пяцьдзясят. «Мой аднагодак», – раблю я выснову.

– Айцец Серафім!

Святар расплюшчвае вочы.

– Як вы ставіцеся да таго, што мы будзем жыць з вамі ў адным пакоі? – пытаю я.

– Не супраць, – ківае галавой ён і зноў заплюшчвае вочы.

– Але я ж чалавек свецкі, – апраўдваюся я. – Больш атэіст, чым веруючы. Я толькі на шляху, толькі шукаю сябе.

– І гэтага не мала, – прамаўляе ён нараспеў. У паветры завісае паўза. Я заплюшчваю вочы і пачынаю думаць аб безнадзейнасці надзеі. Я думаю аб Вечнасці і аб сусветнай Душы, істоце ўсюдыіснай і настолькі вялікай, што яе можна назваць Богам.

Прачынаюся гэтак жа знянацку, як і заснуў. Доўга гляджу на гадзіннік. Побач, схіліўшыся на маё плячо, ціхенька пасопвае айцец Серафім. Верагодна, ён сніць сны аб Беларусі. На няголеным стомленым твары яго застыла шчаслівая ўсмешка, і яму да лямпачкі тое, што адбываецца за межамі яго мрояў. Вусны яго незаўважна варушацца. Па ўсім відаць, у гэтае імгненне ён размаўляе з Богам аб сваёй радзіме, аб доме, аб дзецях, якіх у яго шасцёра, а яшчэ яму мроіцца вуліца, па якой ён кожным ранкам ідзе на службу, прадуктовая крама на рагу, дзе ён набывае для сям'і харч. Усё гэта я ведаю з яго слоў. Відаць, ён шчаслівы чалавек. Не тое, што я...

Адрываюся ад думак. Айцец Серафім падае знак рукой, што зніжаемся.

– Вы не спалі? – здзіўлена пытаю я.

– Не спаў, – хлусіць ён і апярэджвае маё наступнае пытанне: – Я маліўся за нас!..

Гляджу ў ілюмінатар. Недзе далёка ўнізе палае безліччу агеньчыкаў велізарны мегаполіс. Роўная, выразна акрэсленая лінія адмяжоўвае яго ад згустка цемры. «Гэта мора! – здагадваюся я і звяртаюся шэптам да святара: – Айцец Серафім, глядзіце, глядзіце, Тэль-Авіў!» Самалёт пачынае зніжацца... Яшчэ некалькі хвілін, і колы самалёта кранаюцца зямлі. У салоне пачынаюць пляскаць у ладкі.

Па тэлескапічным трапе накіроўваемся ў будынак галоўнага тэрмінала. Пажылая жанчына з павязанай паўзверх галавы хусткай выхваляецца сваёй дасведчанасцю. Яна на Святой Зямлі не ўпершыню і таму хоча паказаць нам, што ведае тут усе хады і выхады. Палохае нас строгай службай бяспекі, прыспешвае, каб займалі чэргі ў розныя акенцы на пашпартны дагляд, а не то давядзецца праходзіць яго да ранку. Я скептычна стаўлюся да такіх людзей, таму стараюся не зацыкліватца на ўсёй гэтай мітусні, скіроўваю ўвагу на агляд памяшкання.

Будынак тэрмінала шматузроўневы. На ніжнім паверсе размешчана чакальная зала, паверхам вышэй – стойкі рэгістрацыі. Бэн Гурыён сустракае нас раскошай і даступнасцю. У вочы кідаецца неверагодная ўтульнасць. Такое адчуванне, што залы напалову пустыя. Хаця гэта зманлівае ўражанне. Проста людзі губляюцца ў прасторы, робяцца незаўважнымі сярод гэтай раскошы.

Накіроўваемся да месца пашпартнага дагляду. Прастора незаўважна звужаецца, і вірлівая людская плынь матэрыялізуецца ў чэргі. Рухаемся павольна. Марудлівасць супрацоўнікаў пачынае раздражняць. Чалавек у кабінцы падоўгу праглядвае кожную паперку і задае процьму на першв погляд абсурдных пытанняў. Ва ўсякім разе ніякай разумнай логікі ў большасці іх я не бачу. Але выяўляць незадаволенасць не толькі сабе даражэй, але і тым, хто стаіць за табой у чарзе. Па надпісе на бэйджыку раблю выснову, што супрацоўнік, які правярае мой пашпарт, з рускіх, а гэтыя людзі, як папярэджвае нас усё тая ж усюдыісная каляжанка, асабліва пільныя і нелаяльныя да турыстаў. Відаць, «астравок дэмакратыі ў моры арабскіх тэрарыстаў» таго патрабуе. Стаю ля акенца хвілін дваццаць. Адказваю на шэраг пытанняў, што падаюцца мне недарэчнымі: «Адкуль вы ляціце?» ці «Як завуць вашага бацьку?» – і малю бога, каб усё гэта хучэй скончылася, не здагадваючыся, што ўсё толькі насамрэч пачынаецца. Нарэшце мне выдаюць картку на праход. Крочу далей. Падганяе страх. Людзей з групы ў твар я не ведаю, а таму баюся адстаць, згубіцца ў гэтай вірлівай людской плыні. Мяне даганяе жанчына ў паркалёвай хустцы, і мы разам з ёю ідзем да тэрмінала. Каб прайсці праз яго, неабходна прыставіць картку са штрых-кодам да прылады, якая счытвае яго. Так і раблю, і пакуль завіхаюся і чытаю надпісы на электронным табло, жанчына ў хустцы жвава абмінае мяне. Збянтэжана гляджу ёй услед і пачынаю сумнявацца, што яна з нашай групы. Колькі ні прыкладваю потым картку, аўтамат не спрацоўвае і веснічкі не адчыняюцца. Кідаюся ў роспачы да дзяўчыны са службы бяспекі і пачынаю невыразна тлумачыць ёй праблему. Ахоўніца бярэ з маіх рук картку і пашпарт, і мы крочым з ёю да тэрмінала. Але і ў яе таксама нічога не атрымліваецца. Дзяўчына пачынае даймаць мяне пытаннямі на ангельскай мове, і я ў адказ паціскаю збянтэжана плячыма. Яна кранаецца майго локця і вядзе, нібыта немаўля, за сабой. Мы доўга блукаем па нейкіх падземных лабірынтах, нарэшце знаходзім патрэбны пакой. І тут да мяне даходзіць нарэшце, што я ўліп.

Ахоўніца аддае мой пашпарт рускамоўнаму супрацоўніку. Той марудна гартае яго, і я разумею, што гэтая працэдура з праверкай надоўга. Пільны цэрбер па нацыянальнасці эфіоп. Ён моўчкі вядзе мяне да тэрмінала, а я кручуся вакол яго і, нібыта мантру, паўтараю, што ні ў чым не вінаваты, што адстану ад групы і ўсё такое.

– Ты не пра гэта думай, – спыняе мяне рэзка ахоўнік.

– А пра што мне яшчэ думаць? – злуюся я.

– Успамінай, хто прайшоў па тваёй картцы? – глядзіць ён на мяне грэбліва.

– Я не памятаю, – пераходжу на шэпт я. – Я сапраўды не памятаю.

– Успамінай, – паўтарае ён. Яго зневажальнае, панібрацкае «тыканне» дабівае мяне канчаткова.

– Куды вы мяне вядзеце?

– Супакойся! Гэта бачыш? – трасе ён у мяне перад носам пашпартам. – Ты мой хлопец, мой... І табе не пра гэта трэба думаць. Успамінай лепш, каго правёў па сваёй картцы.

Відавочна, справы мае дрэнь. Я не ведаю, як завуць тую жанчыну ў хустцы, і я зусім не ўпэўнены, што яна з нашай групы. Цяпер я ні ў чым не ўпэўнены. І наўрад ці змагу пераканаць яго ў тым, што яна сама прайшла, скарыстаўшыся маёй няўважлівасцю

– Успамінай, – патрабуе ахоўнік.

– Верагодна, гэта была жанчына з нашай групы, – тлумачу я. – Яна была з вялікай сумкай, і я прапусціў яе.

– Хто гэта быў? – перапытвае ахоўнік і зневажальна глядзіць на мяне. «Ідыёт!» – чытаю ў яго вачах сабе прысуд

– Жанчына ў хустцы, – паўтараю я.

– Дзе ваша група? Што за група?

– Адкуль я цяпер ведаю, дзе мая група, – паціскаю я плячыма. – Мы паломнікі. Я нават пазнаёміцца з усімі не паспеў.

– З Расіі? – перапытвае «цэрбер».

– З Беларусі, – удакладняю я.

Гляджу, як мяняецца яго твар, і разумею, што мая нацыянальная прыналежнасць мае для яго значэнне. Ва ўсякім разе, голас яго мякчэе.

– Гэта яны? – паказвае ён рукой на купку людзей ля тэрмінала. Мая торба самотна валяецца збоку.

– Так, – ківаю я галавой, згледзеўшы сярод людзей айца Серафіма.

– Паказвай жанчыну? – глядзіць на мяне ахоўнік.

Паломнікі збянтэжана пазіраюць на мяне, не разумеючы, што здарылася. Я прыдзірліва аглядваю кожнага з іх.

– Яе няма сярод гэтых людзей, – канстатую я.

– Як няма? – здзіўлена гладзіць на мяне ахоўнік. Потым звяртаецца да айца Серафіма: – Вы кіраўнік групы?

– Не, не я!.. – адхрышчваецца святар і падазрона глядзіць на мяне, потым апраўдваецца: – Мне нават спісу групы не далі.

Я разумею яго, гэта наша нацыянальная асаблівасць, гэта чыста беларускае «я не я і хата не мая...» Мала што можа здарыцца... Айцец Серафім яшчэ раз акідвае мяне падазроным позіркам. Відаць, я ў яго ўяўленні не менш як наркагандляр, а мо і ўвогуле перакупшчык зброі, інакш бы навошта мною цікавілася служба бяспекі. Я не крыўдую, тым больш не чакаю ні ад кога дапамогі. Гэта чыста мае праблемы, і іх я павінен вырашаць

сам. І ўвогуле, калі заходзіць гаворка пра людзей, я заўжды скептычна ўсміхаюся: «Чалавек усё той жа!» Людзі асцерагаюцца мець справу з нявызначанасцю. Людзі баяцца таямніц. Яны цэняць толькі звыклае, усім вядомае. Толькі бог здольны ведаць усё, пераконваюць сябе яны.

– Дык вось жа яна, – радасна канстатую я з'яўленне кабеты ў хустцы. – Гэта тая жанчына, якая прайшла па маёй картцы...

Кабета збянтэжана пазірае на мяне, не разумеючы, што здарылася. Настрой мой адразу паляпшаецца, і я нават пасміхаюся з сябе ў думках. Згадваючы вядомую кінастужку: «Усход – справа тонкая». Кабета, па ўсім відаць, паспела за гэты час аббегаць усе навакольныя шапікі і таму цяпер цалкам задаволеная сабой. Ахоўнік моўчкі вяртае мне пашпарт і загадвае жанчыне прайсці з ім. І ўсё ж сэрца маё трывожна сціскаецца: «А што, калі не яна?..» Тлумачыць свае праблемы, тым больш апраўдвацца перад незнаёмымі людзьмі, не хочацца. Гюльчатай, як паспеў я ахрысціць кабету, вяртаецца праз некалькі хвілін без ахоўніка. Я з палёгкай ўздыхаю: «Бог мілаваў!..»

– Што ён хацеў ад вас? – пытае ў яе айцец Серафім.

– Не ведаю, я і сама не зразумела...

Бяру сумку і моўчкі плятуся за групай. У холе нас даўно ўжо чакае наш гід. Жанчыну завуць Роза. Яна родам з Крыма. Жанчына ўдакладняе праграму і вядзе нас да аўтобуса. Лаўлю сябе на думцы, што не слухаю яе. Займаю месца ля акна, дастаю з заплечніка запісную кніжку і запісваю:

«Якое ўсё ж таннае наша жыццё ўдалечыні ад радзімы. Калі б не хустка гэтай жанчыны, якая кінулася мне ў вочы пры сустрэчы, верагодна, я б яе нават не запомніў бы...»

Размяшчаемся на начлег у гатэлі ў Нетаніі. Наш нумар вокнамі на мора. Дзверы на балкон адчыненыя, і я чую амаль побач яго манатоннае рытмічнае дыханне. Яно зусім блізка, недзе ў цемры. Мы папіваем каньяк і слухаем музыку мора. Пасля толькі што перажытага хочацца памаўчаць. І ўсё ж дзялюся з айцом Серафімам сваімі прыгодамі.

– Падарожжа без прыгод – не падарожжа, – хітра ўсміхаецца той. – Але трэба не забывацца, што мы на чужой зямлі.

– Гэта праўда, – згаджаюся я. – Мы сапраўды на чужой зямлі. І гэта далёка не Еўропа. Гэта Усход. І ў гэтых тонкасцях мне давялося пераканацца.

Ноччу мне сніцца Аля...

## 3

Прачынаюся на досвітку. Вылажу з-пад коўдры і на дыбачках іду да акна. На твары айца Серафіма застыла шчаслівая ўсмешка. Ён усё яшчэ сніць свае сны аб Беларусі. Ну і няхай. У нас розныя з ім перажыванні. Дастаю з заплечніка здымач і зачыняю за сабой дзверы. На «рэсэпшн» мне ветліва ўсміхаецца маладзенькая супрацоўніца. Адказваю ёй гэткай жа добразычлівай усмешкай і выходжу на вуліцу. Твар лашчыць ветрык – вільготны і прытарна-цёплы. Уяўляю сабе, якая спёка чакае нас днём. Раблю некалькі крокаў у напрамку мора і спыняюся. Сэрца сціскаецца ад захаплення і разгубленасці. Такое ўражанне, што наваколле, якое адкрываецца маім вачам, ёсць нешта штучнае, несапраўднае, намаляванае мастаком-мультыплікатарам. Я гартаю гэтую раскрытую кнігу з экзатычнымі, незямной прыгажосці эцюдамі, узіраюся ў яе і спрабую спасцігнуць

задуму аўтара. Перада мной паўстае сучасны курортны горад са шматлікімі праменадамі, фантанамі і раскошнымі гандлёвымі цэнтрамі, і калі б не гэтыя два хасіды, што няспешна крочаць мне насустрач, я б ніколі не сказаў, што гэта ўсходні мегаполіс. Мора хвалюецца недзе ўнізе, на дне абрыва. Пакуль я толькі чую яго. Набярэжная ўхутаная зелянінай. Доўга шукаю спуск да вады. Падказвае мне дарогу маладая жанчына. Мае веды ангельскай мовы амаль нулявыя, і ўсё ж слоўнікавага запасу хапае, каб паразумецца. Па каменных сходнях спускаюся да пляжа. Ад чысціні і прыгажосці, што адкрываюцца вачам, сцінае ў грудзях. Сонца яшчэ толькі ўзыходзіць, і яго кволыя промні кранаюцца паверхні вады. Далягляд зіхаціць перламутрам. Здымаю абутак і кранаюся ступнёю вільготнага пяску, нібыта баюся апаганіць сваёй прысутнасцю гэтую чысціню незнаёмых мне мясцін. Крочу павольна да альтанкі. Саджуся на лаўку і доўга гляджу ўдалячынь.

Апошні раз на моры мне давялося быць прыкладна тры гады назад, у Ялце. Крым на той час быў яшчэ ўкраінскім. Сёння туды дарогі няма. Па-першае, востраў – вайсковая база, а таму гэта не месца для адпачынку. Па-другое – небяспечна. У Алі ў Ялце жыве сяброўка. Яна засталася на востраве пасля вучобы, выйшла там замуж, абзавялася сям'ёй і з'язджаць адтуль не збіраецца. Хаця, пасля нядаўніх падзей, хто іх там ведае, падтрымліваюць яны сувязі, ці не. Адносіны мае з Аляй на той час катастрафічна псаваліся. Мы збіраліся развесціся, бо ў мяне ўжо была жанчына, ды і Аля, пэўна, мела каханка, ці мо проста рабіла выгляд, што мела. Мяне гэта мала цікавіла. І ўсё ж, калі шчыра, менавіта Аля зрабіла той крок да збліжэння. Каб захаваць нашы адносіны, яна прапанавала мне правесці чарговы адпачынак сумесна і махнуць на тыдні два ў Ялту. Цяпер, з вышыні пражытага часу, я магу дакладна сказаць, што яна дарма асцерагалася разводу, што такія эгаісты, як я, не здатныя на кардынальныя змены ў жыцці. Так, магчыма, я ніколі нікога не кахаў па-сапраўднаму, але гэта яшчэ не факт, што я збег бы ад Алі.

З Аляй мы жывем амаль вечнасць, і сысці ад яе ціха ў мяне не хапіла б смеласці. Для мяне Аля – палачка-ратавалачка. Пакуль я валацужнічаў па Расіі, гойсаў у пошуках заробку па гарачых кропках, жанчына, з якой збіраўся ажаніцца, якая нарадзіла мне сына, раптоўна памерла. Ніхто мне так дакладна і не назваў сапраўднай прычыны яе смерці. А мо высвятляць гэта я і сам не надта хацеў, якая цяпер розніца. Пра тое, што яна нарадзіла мне сына, я тады нават і не здагадваўся. Па вяртанні на радзіму аб яго існаванні мне расказаў колішні школьны сябар, з якім мы выпадкова сустрэліся ў цягніку, калі я вяртаўся з Расіі. Сын, як высветлілася, рос сіратой. Выхоўвала яго цётка, родная сястра нябожчыцы. Праз знаёмых я даведаўся, што жывуць яны ў маім горадзе. Шмат разоў потым намагаўся сустрэцца з гэтымі людзьмі, кружляў неаднойчы ля іх дома, але адвагі зайсці і адкрыцца ім так і не хапіла.

Сын на той час вучыўся ў будаўнічым каледжы. Не скажу, што мяне мучыла сумленне, але ўсё ж некалькі разоў я спрабаваў перадаць яму грошы, пасылаў, праўда, пад чужым прозвішчам, прасіў калегу, калі той знаходзіўся ў камандзіроўках, каб ён пераслаў грошы на адрас сына з іншага горада. Грошы, безумоўна, вярталіся назад да калегі, відаць, сын здагадваўся пра маю няшчырасць і адмаўляўся прымаць іх ад чужога чалавека. На жаль, я так з ім і не сустрэўся ніколі.

Страх нараджаў новы страх, аддаляючы сустрэчу на нявызначаны тэрмін. «Што я яму скажу? – мучыў сябе неаднойчы я. – Якія словы знайду, каб апраўдаць здраду?..» Я не перабольшваў, мой учынак, быў сапраўды здрадай. І я памятаю пра гэта заўжды.

Пасля вяртання з Расіі я закінуў журналістыку, якой займаўся ў чужой краіне, асвятляючы падзеі ў гарачых кропках, і ўладкаваўся на працу ў дзяржаўныя структуры, але ўжо праз год звольніўся і падшукаў сабе больш цёплае месца ў прыватнай букмекерскай канторы. Там мы і сустрэліся з Аляй. Сына я паспрабаваў выкрасліць з памяці. Мне хацелася верыць, што, калі ты забываеш пра некага, ён і пра цябе забывае таксама. Але я ашукваў сябе. Тое, што перастае існаваць, якраз такі пачынае існаваць. І гэта не метафізічныя ісціны. Гэта, хучэй, «адмазка», адзін са шматлікіх варыянтаў апраўдаць свае ўчынкі. Гэта бег наперагонкі з уласным ценем. Чым хутчэй ты імкнешся даганяць яго, тым хутчэй ён ад цябе аддаляецца.

Да рэчаіснасці мяне вяртае далікатнае пакашліванне айца Серафіма.

– Чаму вы не разбудзілі мяне? – цікавіцца ён, калі я павяртаюся да яго.

Пацiскаю плячыма. Айцец Серафім моўчкі здымае рызу, акуратна кладзе побач са мною на лаўку і няспешна крочыць да вады. Я таксама распранаюся і іду за ім. Мора, што гарачае малако. Забываюся, дзе знаходжуся, зліваюся з навакольным светам і рухаюся разам з ім у невядомасць. «Я там, дзе і павінен быць, значыць, я не заблудзіўся»...

Пасля сняданку збіраем рэчы і ідзем на рэсэпшн. Там нас чакае група. Займаем месцы ў аўтобусе, і наш гід Роза пералічвае нас, знаёмячыся з кожным паасобку. Аўтобус павольна ад'язджае ад стаянкі, і я прыпадаю позіркам да акна. За ім сюррэалістычныя палотны невядомага аўтара. І ў іх змесце столькі ўсяго невядомага мне, чаго я, верагодна, не змагу зразумець ніколі.

– Горад, у якім мы знаходзімся, пабудаваны ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя, – прамаўляе Роза ў мікрафон, і я міжволі напружваю слых. – Размешчаны ён, як вы паспелі заўважыць, на высокіх, пясчаных выдмах. Гэтая раўніна носіць назву Шарон і ўзгадваецца ў Бібліі. Напачатку мінулага стагоддзя тут была невялічкая арабская вёсачка. Зямлю вакол яе выкупіў Габрэйскі нацыянальны фонд, і першыя пасяленцы, якія прыехалі сюды асвойваць гэтыя землі, займаліся вырошчваннем цытрусавых. Аднак ужо ў тыя часіны паралельна з гаспадарчай працай у горадзе пачынае развівацца вытворчасць, у прыватнасці – вытворчасць дыяментаў. Сённяшняя Натанія – адзін з самых буйных курортаў у Ізраілі.

– А што значыць Натанія? – цікаўлюся я.

– Горад названы ў гонар вядомага амерыканскага прамыслоўца Натана Штраўса, – адказвае Роза і ўдакладняе: – Менавіта Натан Штраўс ахвяраваў большую частку свайго прыбытку на развіццё габрэйскіх паселішчаў у Палесціне, у тым ліку і на развіццё гэтага горада. Але, згадваючы гэтае прозвішча, немагчыма таксама не ўзгадаць прозвішча яшчэ адной знакавай для Ізраіля асобы – барона Эдмана дэ Ротшыльда...

– З дынастыі тых самых? – цікавіцца нехта з дасведчаных жанчын.

– З тых самых, – загадкава ўсміхаецца Роза. – Унёсак гэтых асоб у развіццё нашай краіны неацэнны, і тое, што знаёмства з Ізраілем мы пачынаем менавіта з гэтых імёнаў, вельмі сімвалічна. Менавіта яны фінансавалі першыя габрэйскія паселішчы ў Палесціне напрыканцы дзевятнаццатага і напачатку дваццатага стагоддзяў. Яны, як і шмат хто іншы, былі піянерамі

сіянісцкага руху, стваральнікамі Сіянісцкага Кангрэса. І меў рацыю Эдман дэ Ротшыльд, калі сцвярджаў, што без яго сіяністы няшмат чаго б дасягнулі, але і яго прыватныя справы без сіяністаў таксама не мелі б поспеху.

– Лухта галімая, – хітра ўсміхаецца мне сусед, што сядзіць ад мяне па правы бок. – Вас як зваць?

– Ілля, – нехаця адказваю я.

– А мяне Станіслаў. Не супраць, калі я перасяду да вас? – пытае ён.

– Як хочаце.

Станіслаў шэпча нешта на вушка сваёй жонцы, потым перасядае да мяне. Гэта каржакаваты, сталага веку мужчына.

– Не піянеры яны ніякія, тым больш не ідэалісты, а звычайныя захопнікі, – катэгарычны ў сваіх высновах Станіслаў. Хвілінку збіраецца з думкамі і тлумачыць: – Большасць з гэтых так званых перасяленцаў былі або зэкамі, якім было ўсё роўна куды ехаць, або ўцекачамі, адурманенымі сіянісцкай прапагандай.

– А дзе вы бачылі дзяржаву без прапаганды? – не згаджаюся я. – Так не бывае. Зрэшты, з нечага ж трэба было пачынаць. Як па мне, дык важна сама ідэя вяртання на зямлю продкаў. Важна ідэя стварэння дзяржавы.

– Не забудзьце яшчэ нагадаць пра абранасць, – скептычна ўсміхаецца Станіслаў.

– Як бы там ні было, але ж знайшліся людзі, багатыя, такія, як той жа Ротшыльд, і прафінансавалі гэтыя ідэі, далі ім жыццё.

– Гэта былі не толькі яго грошы, – удакладняе Станіслаў. – Гэта былі грошы кланавага «абшчаку». Насамрэч Ротшыльда ніколі не цікавіў лёс простых габрэяў. Такія, як Ротшыльд, будавалі сваю «кішэнную» дзяржаву.

– Кішэнную, некішэнную, але ж пабудавалі, – парырую я. – Мы і такой не пабудавалі. Хаця, хлушу.

– Ты што, габрэй? – недаверліва пазірае на мяне Станіслаў.

– Як сцвярджаў Сартр, усе мы – крыху габрэі, або ўсе мы імі можам быць, – кажу я.

Я не настолькі дасведчаны ў тонкасцях стварэння габрэйскай дзяржавы, каб спрачацца са Станіславам, таму пераважна маўчу. Вуліца, па якой мы рухаемся, носіць назву Герцыль. Гэта галоўны праспект Натаніі. Гляджу з цікавасцю ў акно. У вочы кідаецца архітэктурная аднатыпнасць гарадскіх забудоў. Абапал праспекта шмат трох-чатырохпавярховых будынкаў. Паводле Розы, пабудаваныя яны ў мінулым стагоддзі ў стылі «баўхаўз». Для мясцовага насельніцтва гэтыя будынкі нешта накшталт нашых «хрушчовак». Праўда выглядаюць яны няблага і, магчыма, яны больш даўгавечныя, чым нашы «хрушчобы».

– «Баўхаўз» – архітэктурны мадэрнісцкі напрамак 30-60 гадоў мінулага стагоддзя, – тлумачыць Роза. – Асноўны яго прынцып: «тое, што ўтылітарна ды зручна, тое і прыгожа».

«Верагодна, ёсць у гэтым нейкая кропля ісціны, – думаю я. – Ва ўсякім разе, што яшчэ трэба для натоўпа?»

Аўтобус выкіроўвае на шашу №2, і мы назаўжды развітваемся з Натаніяй. Наш маршрут пралягае на поўнач краіны да знакамітага возера Кінэрэт – Галілейскага мора. Па ходу мы плануем яшчэ наведаць святую гару Фавор і Назарэт. Прыпадаю позіркам да акна. За ім шызыя, камяністыя ўзгоркі. «Верагодна, менавіта тут недзе блукалі біблейскія пракрокі. Верагодна, тут пісаліся асобныя раздзелы Бібліі, – думаю я,

узіраючыся ў прыгажосць навакольных краявідаў. – Толькі таленавіты мастак мог дасягнуць такой дасканаласці...» Сусед усё яшчэ незадаволена бубніць побач. Імкнуся ігнараваць яго рэплікі, і ў хуткім часе ён губляе да мяне цікавасць. Мяне ж думкі вяртаюць на Беларусь. Я думаю аб тых сваіх земляках, якія пакінулі пэўны след у маім жыцці і ў жыцці маёй шматпакутнай краіны. Я думаю аб дзяржаве, якую мы стварылі паводле свайго разумення і свайго падабенства. Я думаю аб тых выпрабаваннях і пакутах, якія выпалі на долю нашых прашчураў. Нішто не само па сабе. Тое, што ёсць, што мы маем, выяўляецца тым, чаго ўжо няма. Трагедыя майго пакалення – у наіўнасці, у сляпой веры ў роўныя магчымасці. Мы – людзі, духоўна сапсаваныя гэтай ілюзіяй. Мы ўсё яшчэ працягваем верыць у тое, што наша моц у нашай еднасці. Насамрэч, мы – сімбіёз безаблічных істот, пазбаўленых самасці і індывідуальнасці, супольнасць асоб, не здольных прымаць на сябе адказнасць за свой лёс і за лёс блізкіх нам людзей. Наша рэлігія – атэізм. А наша жыццё – гульні... Гульні з нулявымі сумамі.

Саўковая сістэма прывівала нам ілюзію так званага «раўнапраўя». Кожны дзень з экранаў тэлевізараў мы чулі пра так званы феномен «сацыяльнага сумлення», але мала хто з нас задумваўся, што сэнс яго якраз у тым, што ты адмаўляеш сабе шмат у чым толькі дзеля таго, каб і іншыя сабе ў гэтым адмаўлялі. Мы павяліся на падман, мы захапіліся ўтопіяй, не здагадваючыся, што ад нас утойваюць самае галоўнае, што ідэя «роўнасці» тычыцца толькі нас адных, дакладней, падначаленых, і ні ў якім разе не «кіраўнікоў». Таму пакуль такія, як я, зубрылі на кухні «марксісцка-ленінскі атэізм» і марылі пра палёты на Марс, іншыя, больш нахабныя, больш прагматычныя, прыглядалі сабе тое, што кепска ляжала. Нашых будучых «бонзаў» не цікавіў ні П'ер Бязвухаў, ні тым больш Сотнікаў, іх не цікавіла гісторыя і культура краіны, іх думкі былі занятыя распрацоўкай ідэі стварэння дзяржавы «для народа», а гэта значыць – для сябе. Іх цікавіла толькі адно, як прыбраць да рук «нічыйнае». І як толькі прыспеў час, яны з лёгкасцю ажыццявілі свае мэты. Нягледзячы на нявыхаванасць, неадукаванасць, прымітыўнасць і маральна-этычную абмежаванасць, яны авалодалі тым, чаго нам зрабіць не дазволіла нашае выхаванне. Мы былі і застаемся ідэалістамі, ўсё яшчэ верым у справядлівасць.

Нашым жа «кіраўнікам» не патрэбны былі веды: каб кіраваць намі, ім хапіла прыроднага нахабства. «Школы глуханямых» кавалі для ўлады абслугу, рыхтавалі належны персанал, які б забяспечыў ім іх сытасць. Тыя, хто былі апошнімі, сталі першымі ў чэргах да дзяржаўнага карыта. І, як высветлілася, каб прыбраць да рук чужое, адукацыі, атрыманай у «школах», было цалкам дастаткова. Пасады ў дзяржаве занялі так званыя «маладыя ваўкі». На жаль, гэта была не метафара. Нахабныя, бездухоўныя, непісьменныя, без пэўных эканамічных ведаў, але з жывёльнай хваткай, гэтыя асобы пачалі будаваць дзяржаву па сваім разуменні. Нягледзячы на тое, што краіна на пачатку сваёй незалежнасці мела не зусім благія стартавыя магчымасці сярод іншых постсавецкіх дзяржаў, яна паступова ператваралася ў адну з самых адсталых і бедных краін у Еўропе. Для дурняў колькі ні дай грошай, вынік адзін і той жа. Розум застаўся незапатрабаваным. Частка высокакваліфікаваных спецыялістаў з'ехала за мяжу, частка падалася ў так званы «чаўнаковы» бізнес, а частка прадалася «ваўкам» і за грашы пачала забяспечваць існаванне дзяржаўнага ладу, навязанага

грамадству купкай не зусім адэкватных людзей. Але духоўныя жабракі, у якія вопраткі іх ні апранай, у якія палацы ні сялі, застаюцца жабракамі да свайго скону. Нібыта цень, яны носяць за сабою сваю плебейская сутнасць. І не здольны стаць усім той, хто быў нічым!

Адрываюся ад думак і гляджу ў вакно. Аўтобус рухаецца праз маляўнічую даліну Мегіда. Роза распавядае пра Армагедон. Тут павінна адбыцца апошняя бітва сілаў Дабра з сіламі Зла.

– І пачуў я з храма гучны голас, які загадаў сямі Анёлам: ідзіце і выліце сем чар гневу божага на зямлю, – цытуе яна Іаана Багаслова.

З тугой узіраюся ў прыгажосць навакольнага краявіду. Воку адкрываюцца неапісальна-маляўнічыя палотны. Не стрымліваюся і выцягваю з заплечніка здымач. Узнікае жаданне захаваць убачанае ў памяці назаўжды, як сваё. Колькі разоў чуў ад іншых гэтае жахлівае слова. Колькі разоў уяўляў сабе ў думках гэтыя мясціны, але ніколі не думаў, што ўсё настолькі маляўніча і геніяльна ў сваёй прастаце. «Чаму тут, чаму сярод гэтай цнатлівасці і прыгажосці лілося столькі нявіннай крыві на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва? – думаю я роспачна. – Неверагодна, але жыццё і смерць ходзяць поруч, ходзяць настолькі блізка, што іншы раз дзіву даешся. Відаць, прыгажосць прыцягвае нікчэмнасць. Людзі не разумеюць яе існай прыроды, а таму ненавідзяць. Людзі імкнуцца прысвоіць яе сабе. Людзі спрабуюць авалодаць тым, што ім недаступна для разумення, і, калі авалодаць не пад сілу, яны знішчаюць яго цалкам. Ці стрымае сваё абяцанне Бог, ці пакладзе канец Злу на зямлі?..»

– Але аб тым дні ніхто не ведае, ні Анёлы нябесныя, а толькі Ён адзін, – працягвае цытаваць Евангелле Роза і ўдакладняе: – «Хар» – на іўрыце гара, а «Мегіда» – назва горада-крэпасці. Знаходзіўся ён на шляху з Егіпта ў Месапатамію. Дарога цягнулася ўздоўж усходняга хрыбта Кармэль на поўнач, – паказвае яна нам гэтае месца на мапе. – Стратэгічнае месцазнаходжанне горада рабіла яго эпіцэнтрам ваенных дзеянняў. За кантроль над ім на працягу многіх вякоў вяліся крывапралітныя бітвы. Тут гінулі цэлыя цывілізацыі. Таму даліна гэтая была вядомай сваёй трагічнай славай яшчэ задоўга да з'яўлення Іаана Багаслова. Да ізраільцян Мегіда далучыў Давід.

– І колькі разоў быў знішчаны горад? – цікавіцца Станіслаў.

– Дваццаць шэсць, – адказвае Роза. – Археолагі падлічылі, што ўзгорак мае безліч наслаенняў, самае старажытнае з якіх адносяць да эпохі Ранняй Бронзы. Як вы зразумелі, паходжанне ўзгорка штучнае. Паказальна тое, што, скажам, жыло пакаленне, гандлявала, развівала сваю культуру, потым пачыналася вайна, людзі забівалі адзін аднаго, разбуралі горад і на касцях будавалі новы. І так безліч разоў. Каго тут толькі не было: і персы, і рымляне, і егіпцяне, – пералічвае спадарыня Роза. – У большыні сваёй гэта былі бессэнсоўныя кровапраліцці.

– Роза, а можна спыніцца тут, ну хоць на некалькі хвілінаў, – просіць нейкая незнаёмая мне кабета.

– На жаль, па праграме нам не адведзены час на наведванне гэтых мясцін, – шкадуе Роза. – Але... Адну хвілінку.

Яна адключае мікрафон і нахіляецца да кіроўцы. Праз пэўны час уключае яго зноў і паведамляе:

– Добра, робім санітарны прыпынак на пятнаццаць хвілін. Просьба да ўсіх заставацца на сваіх месцах, пакуль кіроўца не прыпаркуецца.

Аўтобус спыняецца, і мы пакідаем салон. На вуліцы спёка. Неба нізкае,

бляклае. Сонца выліняла́е, чужое. Паветра задушлівае, напоўненае пылам. Тэмпература паветра за трыццаць градусаў.

– Не разумею, як тут жывуць людзі? – здзіўляецца кабета, якая толькі што прасіла спыніцца. Прозвішча яе я не ведаю, бо так і не паспеў пазнаёміцца з групай.

Роза ігнаруе пытанне. Моўчкі спускаюся ўніз па дарозе, потым доўга гляджу на гару Кармэль. Думкі міжволі вяртаюць мяне ў далёкую Беларусь. «Верагодна, у кожнага народа ёсць свой Армагедон, – думаю я. – Для нас, беларусаў, – гэта сама краіна... Колькі крыві праліта на гэтым невялічкім лапіку найпрыгажэйшай у свеце зямлі. Бессэнсоўнай крыві. Трагедыя майго народа мала чым адрозніваецца ад трагедыі габрэйскага. Як і некалі дзяржава Мегідо, Беларусь таксама ляжыць на стратэгічным шляху. А вялікім народам заўжды цесна, заўжды няўтульна і сумна на сваіх абсягах. Яны схільныя шукаць шчасця па-за межамі сваіх тэрыторый. Цікава, ці падлічваў хто-небудзь з нашых навукоўцаў, колькі культурных слаёў, занесеных пылам часу, налічвае Беларусь? Ці здагадваюцца суайчыннікі, колькі разоў на працягу гісторыі руйнавалі яе ворагі і колькі разоў потым адбудоўвалі яе продкі? На вялікае шчасце, людзей майго пакалення абмінулі жахі захопніцкіх войн, але выпрабаванні бываюць розныя. І немагчыма забыць тое, чаго немагчыма забыць.

Я памятаю – той далёкі, незабыўны тысяча дзевяцьсот восемдзесят шосты год выдаўся спякотным і засушлівым. Круглае лета стаяла гэткае ж сухое, задушлівае надвор'е. Напрыканцы кастрычніка пачалі гарэць тарфянікі, і паветра было перанасычанае стронцыем. Мы на поўныя грудзі ўдыхалі гэты радыеактыўны смог і амаль нічога не ведалі пра чарговае выпрабаванне. Мы хадзілі са сцягамі і лозунгамі на дэманстрацыі. Мы будавалі камунізм. А трэці анёл трубіў у трубы. Мы не чулі яе гукаў, мы ўшаноўвалі памяць правадыроў, мы славілі сваіх катаў, спявалі ім асану. Мы не заўважылі нават, калі «...упала з неба вялікая зорка, палаючы, нібы светач, і ўпала на трацiну рэк і крыніцы водаў. І імя той зорцы было Палын; і трацiна ўсіх водаў зрабілася палыном, і многія людзі памерлі ад водаў тых, бо яны прагорклі...»

– Гэтае месца вядомае ў свеце яшчэ і тым, што непадалёк адсюль, на адрэзку разбуранай дарогі паміж Джэнінам і Мегіда, у 1964 годзе Папа Павел VI сутракаўся з нашым прэзідэнтам, – прабіваецца праз мае думкі голас Розы. – Як думаеце, чаму Папа абраў месцам сваёй сустрэчы менавіта Мегіда, дарогу, па якой ніхто з 1948 года не ездзіў? У сваёй прамове ён узгадаў Пія XII, і для габрэяў гэта быў яўны намёк. Краіна знаходзілася ў стане вайны.

– Тады знаходзілася? – разважаю я ўслых. Падыходжу бліжэй да Розы і пытаю: – А цяпер?

– Не зусім разумею.

– Але цяпер таксама ваша краіна знаходзіцца ў стане вайны, – удакладняю я.

– На жаль, так, – без энтузіязму адказвае Роза. Хвілінку маўчыць і працягвае: – Але мы не жадаем быць ахвярамі. Мы хочам вырашаць свае праблемы самі. Хаця антысемітызм у апошні час зноў пачынае набіраць моц у свеце. На мой погляд, праблема людзей усё тая ж, людзі баяцца іншых, не падобных на сябе. Але гэта наша краіна. Гэта наш дом... І гэта дае нам пэўную надзею. Менавіта тут, на гэтай зямлі, упершыню за столь-

кі вякоў мы адчуваем сябе людзьмі. Жыццё працягваецца. Яно павінна працягвацца. А як жа яшчэ?

Я гляджу на гэтую саракагадовую габрэйку і разумею, што маё пытанне не карэктнае. Некарэктнымі, верагодна, былі і паводзіны святара, які на гэтай палітай крывёю зямлі ўспомніў свайго папярэдніка Пія XII. У лепшым выпадку гэта правакацыя – узгадваць асобу, якую дасюль шмат хто яшчэ лічыць памагатым нацыстаў.

– Мала сказаць: «Царква любіць усіх!» – працягвае разважаць Роза. – Словы найперш выяўляюцца ўчынкамі. У трыццаць дзявятым, калі Гітлер вераломна акупаваў Польшчу, той жа Пій XII інтэлігентна прамаўчаў. Маўчаў ён і калі катавалі ды нішчылі габрэяў. Як сказала ў сваім інтэрв'ю для кампаніі Бі-бі-сі адна з ахвяр нацызму, італьянка Сетымія Спіцычыно, над якой праводзіў свае доследы нацысцкі «анёл смерці» доктар Ёзэф Менгеле: «Пій XII мог бы нас папярэдзіць аб тым, што нас чакае, але ён быў Папа-антысеміт, пранямецкі Папа. Ён не жадаў рызыкаваць. І калі кажуць, што Папа падобны Ісусу Хрысту, гэта няпраўда. Ён не выратаваў ніводнае дзіця...»

– Вы таксама лічыце, што царква любіць нас усіх? – звяртаюся я шэптам да айца Серафіма.

– Найперш Бог любіць нас усіх. Ну, а людзі?.. – вытрымлівае паўзу айцец Серафім. – Людзі павінны любіць людзей. Кожны сам выбірае, якім яму быць.

«Гэта ўсяго толькі словы, – скептычна думаю я. – Бог – гэта нешта непасціжнае, не створанае людзьмі па сваім падабенстве. Бог – гэта прыклад таго, кім павінен быў быць чалавек. Але мінула столькі вякоў ад Адама, а чалавек усё той жа...»

Наступны наш прыпынак – знакамітая святая гара Фавор. Роза бярэ ў рукі мікрафон, і мы пакорліва наладжваемся на хвалю эмацыйнага, пазнавальнага аповеда.

– Такім чынам, мы накіроўваемся ва ўсходнюю частку Ізраільскай даліны, а дакладна, – у Ніжнюю Галілею. Гара Фавор – месца Ператварэння Гасподняга. Але перад тым, як я раскажу вам пра саму гару, я б хацела напачатку нашага з вамі паломніцтва папярэдзіць, што Святая Зямля – не музейны аб'ект, – звяртаецца да нас Роза. – Святая Зямля – гэта найперш сумесны Твор Бога і чалавека. І калі вы гэтага яшчэ не адчулі, спадзяюся, што ў вас будзе на гэта яшчэ час і магчымасць. Шмат гадоў таму, калі на Святую Зямлю толькі-толькі пачыналі прыязджаць першыя пасяленцы, гэта было поле ў пустыні. Памятайце пра гэта на працягу ўсяго свайго паломніцтва. З тых самых часін, год за годам, метр за метрам, людзі выцясняюць яе, асвойваючы гэтыя дзікія землі. Але найперш людзі выцясняюць пустэльню з сябе, бо без гэтага стала б правальным, безвыніковым першае. За дастаткова кароткі тэрмін мы змаглі пабудаваць незалежную дзяржаву. І, безумоўна, ганарымся гэтым.

«А вось мы сваёй дзяржавы, на жаль, не пабудавалі, – думаю я. – І надзеі, што ў хуткім часе падбудуем, таксама ніякай. Ва ўсякім разе, будаваць яе будзе не маё пакаленне. Я не магу зразумець, як так атрымалася, чаму мы дазволілі людзям з нізкага саслоўя ляпіць краіну для сябе, па сваім разуменні, па сваіх паняццях...» Вочы слязяцца ад безвыходнасці і ад разумення, што ты бяссільны нешта вырашаць ці змяніць. Роза расказвае біблейскую гісторыю пра евангельскую гару, а я не слухаю яе. Яе

аповед прасочваецца праз мае думкі фрагментарна, не звязанымі паміж сабой сэнсам урыўкамі. Узіраюся ў далячынь. Вачам адкрываюцца жывапісныя краявіды Ізраэльскай даліны, на горы Самарыі, на Кармэль і на Галандскія вышыні.

«Татальная няўлоўнасць старасці свету! – лаўлю я сябе на думцы. – І ёсць ва ўсім гэтым нейкі спакой, нейкая неапісальная светласць. Верагодна, гэта і ёсць тое самае месца для тых, хто не можа знайсці сабе месца».

Рэшту дня бавім у Назарэце, у адным з самых старых гарадоў на Святой Зямлі. Горад мусульманскі. Пераважная большасць насельніцтва – ізраільскія арабы, палова з якіх хрысціяне. Назарэт – адзіны горад у Ізраілі, дзе нядзеля з'яўляецца выхадным днём. Напачатку нашай вандроўкі наведваем галоўную святыню – грот Добраславення, дзе, паводле Святога Пісання, анёл Гаўрыіл распавёў Панне Марыі аб нараджэнні Хрыста. Храм, які пабудаваны над гротам, уражвае прыгажосцю і велічнасцю. Мне ён нагадвае нечым маяк. Можа таму, што купал яго бачны з любой кропкі горада. На самой справе, храм гэты і ёсць маяк хрысціянства на землях Палесціны. Ён, нібыта сапраўдны Вартавы, узвышаецца ў ціхім завулку Каса-Нова. Калі прайсці па завулку вышэй, ён выводзіць на цэнтральную гарадскую вуліцу, якая носіць назву ў гонар Папы рымскага Паўла шостага – Paulus-Ha-Shishi. Па ёй мы і рухаемся да каталіцкага Храма, чорныя абрысы ратонды якога бачны здалёк.

– Гэта пятая па ліку надбудова над пячорай, дзе некалі жыло святое сямейства, – тлумачыць Роза. – Храм пабудаваны па праекце італьянскага архітэктара Джавані Муцыа ў 1969 годзе. А гэты прыгожы і незвычайны купал, які мы назіраем, выкананы ў форме лілеі – знака, які нагадвае вернікам аб бязгрэшнасці Панны Марыі. Купал размешчаны над самай пячорай і сабраны з дваццаці трох зігзагападобных кольцаў. У кожным кальцы трыццаць дзве канструкцыі, якія ўтвараюць літару «М», што азначае – месія і Марыя. Сам грот месціцца ўнутры скалы.

Па сходнях спускаемся ў святліцу. Памяшканне патанае ў загадкавым боскім прыцемку. Святло сочыцца толькі праз вокны. Замест шыбін – прыгожыя маляўнічыя вітражы. Ля ўвахода лацінскі алтар. Ён застаўся тут ад папярэдняга Храма. На мармуры надпіс: «Verbum caro hic factum est».

– Тут слова стала целам, – перакладае Роза.

Падымаемся на другі паверх. Перад намі суцэльная пышнасць і раскоша. Мазаіка і вялікага памеру фрэскі на сценах. Не ўтрымліваюся і цікаўлюся, хто аўтары гэтых шэдэўраў.

– Працы падораны хрысціянскімі абшчынамі розных краін, – тлумачыць Роза. – Напрыклад, мазаіка на ўсходняй сцяне – падарунак ад Італіі.

Павяртаем галовы туды, куды глядзіць Роза. На сцяне ікона вялікіх памераў з выявай Ісуса Хрыста. Справа ад яго апостал Пётр, злева Багародзіца. Гэта сапраўдны цуд рук чалавечых. Пільна ўзіраюся ў хараство тварэння невядомага аўтара, і мне пачынае здавацца, што рукі Ісуса Хрыста цягнуцца да маіх рук, а сасмяглыя вусны богачалавека выразна шэпчуць: «Зазірні ўглыб свайго сэрца... Там усе адказы на твае пытанні!..»

– У храме сямнаццаць такіх жывапісных твораў, – тлумачыць Роза. – Астатнія – унізе ў галерэі. А ўсяго іх – звыш пяцідзесяці. Дарэчы, сярод іх ёсць Будслаўскі абраз Божай Маці...

Начуем у былым манастыры святой Маргарыты.

## 4

Па вузкай, звілістай вулачцы ўзбіраемся да Салезіянскай царквы. Праз дарогу ад яе, калі верыць Розе, знаходзіцца наш хоспіс. Некалі гэта быў кляштар святой Маргарыты, а яшчэ сіроцкі дом для дзяўчынак. Цяпер гэта гасцініца для паломнікаў. Аўтобус павольна паўзе метр за метрам угору. Машын насустрач – не размінуцца. Падоўгу стаім у чэргах. Гара Набі Саін, куды мы трымаем шлях, – самае высокае месца ў Назарэце. Ідэя будаўніцтва Салезіянскай царквы на яе вяршыні належыць французам. На сённяшні дзень гэта адна з буйных і самых прыгожых цэркваў у Назарэце. На яе даху ўзвышаецца статуя Ісуса Хрыста. На яе і скіроўвае нашу ўвагу Роза. З гэтага моманту статуя для нас – пэўны арыенцір, хочацца верыць, што не толькі геаграфічны, але і духоўны. Дарога да вяршыні Набі Саінад цэнтра займае амаль гадзіну, і гэта не мала, улічваючы, што адлегласць да яе ўсяго толькі некалькі кіламетраў. Нарэшце аўтобус пераадольвае апошні стромкі выступ і выкіроўвае на стаянку. Па перыметры яна абсаджана пальмамі, што надае месцу нязвыклы воку, экзатычны каларыт. Пакідаем аўтобус і гуртам накіроўваемся да хоспіса. Гасцінічны дворык патанае ў суцэльнай зеляніне. Па цэнтры яго месціцца кідкі, незвычайны па форме фантан з начным падсвятленнем і з разнастайнымі кветнікамі вакол. Група разпаўзаецца хто куды, хтосьці аглядае «экзотыку», хтосьці фатаграфуецца на фоне антычных статуй. «Як мала насамрэч патрэбна чалавеку для шчасця!» – думаю я, назіраючы за гэтай мітуснёй.

Роза пераконвае нас трымацца разам, пакуль не заселімся, што часу для таго, каб сфатаграфавацца, наперадзе процьма, але яе ніхто не слухае. Вось сапраўды ўжо – узрост людзей вызначаецца не гадамі, а станам душы. Мы радуемся невядома чаму, як дзеці. Невыпадкова, відаць, на старажытных абразках з выявай маленькага Ісуса на яго тварыку заўсёды пячатка таямнічай, дарослай мудрасці, хаця сам ён навучаў нас быць дзецьмі.

Пасяляюць нас з айцом Серафімам на першым паверсе. Пакой без вокнаў, з невялічкай заглыбленай нішай. Верагодна, гэта была некалі келля, а ніша служыла месцам, дзе манашкі казалі свае малітвы.

Пасля вячэры ідзем знаёміцца з навакольнымі мясцінамі. Пачынае змяркацца, сям-там запальваюцца першыя ліхтары. Крочым да назіральнай пляцоўкі. Адсюль бачна як на далоні. Недзе далёка ўнізе ляжыць стары горад. Моўчкі глядзім на шчыльна прылепленыя, на ўсходні манер, забудовы і думаем кожны аб сваім. Падыходзяць дзве жанчыны-паломніцы. Кабеты эмацыйна дзеляцца з намі ўражаннямі і даймаюць недарэчнымі пытаннямі. Пытанні тычацца ў большасці айца Серафіма, таму я маўчу. Размова не клеіцца. Айцец Серафім адказвае на пытанні без асаблівай ахвоты. Напружанасць узрастае.

– Айцец Серафім, мы просім вас даць некаторыя тлумачэнні, – настойвае кабета ў паркалёвай хустцы, тая самая, з-за якой я ўчора меў пэўны клопат са службай бяспекі. Яна загадкава моршчыць лоб. – Вось вы скажыце нам, мы – людзі праваслаўныя?

– Што здарылася? – пытаецца айцец Серафім. Голас выдае хваляванне.

– Вы нам скажыце, мы людзі праваслаўныя, так? – паўтарае кабета.

– Безумоўна, – адказвае айцец Серафім. – Але што здарылася?

– З якой мэтай нас водзяць па каталіцкіх святынях? – апярэджвае каляжанку кабета з нябесна-блакітнымі, запамінальнымі вачамі. Відавочна,

яна больш нахабная і больш катэгарычная за маю «збавіцельку». – Нам не падабаецца гэта.

Скоса пазіраю на айца Серафіма. Твар святара паружавеў. Заўважна, што ён стрымлівае сябе і збіраецца з думкамі.

– Я вас пачуў, – прамаўляе ён нарэшце. – А цяпер пачуйце мяне. Я па-вашаму хто, праваслаўны святар?

– Праваслаўны.

– Добра! – узмацняе ён голас. – Тады слухайце і перадавайце іншым... Мы з вамі крочым шляхамі, якімі хадзіў у свой час Ісус Хрыстос. Вам гэта зразумела?

У паветры павісае паўза. Айцец Серафім дастае з кішэні скамечаную насоўку і доўга выцірае ёй змакрэлы лоб.

– Вы мяне пачулі? – паўтарае святар і дадае: – Якая вам розніца, хто потым выкупіў гэтыя землі? Для нас важна, што Ён хадзіў тут. Радуйцеся і дзякуйце Богу за тое, што вам выпала магчымасць наведаць гэтыя святыя мясціны.

Нас абступаюць іншыя паломнікі, і размова паступова мяняе афарбоўку. Разумею, што канфлікт вычарпаны. Пазней, калі мы застаемся з айцом Серафімам адны, я вяртаюся да гэтай тэмы.

– Людзі, на жаль, безнадзейна легкадумныя ў сваіх паводзінах, – пачынаю здалёк. – Мне спадабалася, як вы раставілі акцэнты, але вось што я вам скажу, айцец Серафім... Магчыма, вам непрыемна тое будзе чуць, тым не менш... Толькі высакародныя людзі, толькі высокаадукаваныя і маральна выхаваныя павінны быць набліжаныя да рэлігіі.

Чутна, як недзе ў кронах старых пальмаў шуміць вецер. У небе над намі вісіць нерухомая поўня, і святло ад яе цьмянае і жоўтае. Пазіраю скоса на прыціхлага святара. На яго твары дрыжыць павута зморшчын. І цішыня ў свеце такая, што, здаецца, чутны далёка ўнізе крокі шматлікіх мінакоў. Мы сядзім на краі свету, адзінотныя, і моўчкі глядзім на начны горад Бога.

– Гэта не мая думка, – удакладняю я, парушаючы цішыню. – Так лічыў Юліян Флавій, і я з ім цалкам згодны, Сапраўды, для большасці людзей рэлігія – гэта глухая сцяна з намаляванымі на ёй дзвярыма... І ў іх немагчыма ўвайсці.

– Усё ў гэтым свеце ілюзія, –прамаўляе нарэшце айцец Серафім. – Акрамя толькі Бога, Але мне не хацелася б з вамі спрачацца на гэтыя тэмы, тым больш абмяркоўваць ерась, сказаную рознымі адступнікамі.

– Юліян не адступнік... Называйце яго лепей «паганцам».

– Хіба гэта не адно і тое ж? – здзіўлена перапытвае айцец Серафім.

– Тое, ды не зусім, – не згаджаюся я. – Юліян быў рамантыкам... Юліян шчыры аматар класічнай антычнасці, і бяда яго ў залішняй адукаванасці і інтэлектуальнасці. Гэта той прыклад, калі натоўп не дацягвае да вышыняў свайго правадыра, а значыць, не разумее яго. Для Юліяна ідэя хрысціянства была занадта прымітыўнай. Менавіта за гэта, на маю думку, святары і ненавідзяць яго. Але ці справядліва гэта, ці па божаму, ненавідзець чалавека толькі за тое, што ён хацеў адрадзіць культуру сваіх продкаў, разбураную вандаламі?

– Здагадваюся, каго вы называеце вандалам, – стрымлівае сябе айцец Серафім. – Так, можна быць чалавекам адукаваным, можна вызначацца строгай лагічнасцю і аргументаванасцю, можна нават жыць міфамі і за-

хапляцца песнямі сляпога Гамера, – усё гэта можна, але як можна быць нашчадкам роўнаапостальскага Канстанціна – чалавека, на каго сышла Божая мілата, і хварэць вар'яцкімі, эклектычнымі ідэямі? Гэта ж трэба быць ідыётам, каб пайсці супраць веры сваёй сям'і. Ніхто, чуеце, ніхто не здольны змяніць таго, што наканавана Богам.

– У Юліяна было сваё разуменне Бога.

– Яго дзядзька на той час зрабіў усё, каб хрысціянства набыло статус сусветнай рэлігіі, – не слухае маіх довадаў айцец Серафім. – А таму ўсе гэтыя неразумныя спробы навязаць грамадству сваё разуменне рэлігіі былі апрыёры правальныя.

– Ён не паспеў, – не згаджаюся я. – У яго проста не хапіла часу на рэформы.

– Паўтаруся, нельга навязаць людзям таго, чаго навязаць нельга, – злуецца айцец Серафім.

– Значыць, вы лічыце, што Канстанцін не навязваў хрысціянскіх ідэй грамадству?

– Рэлігію немагчыма навязаць, – абагульняе айцец Серафім.

– Але, як выявілася, можна, – скептычна ўсміхаюся я.

– Ва ўсякім разе, Канстанцін быў лаяльны да вернікаў усіх канфесій, у тым ліку і да паганцаў, у адрозненне ад Юліяна-адступніка.

– Не перабольшвайце, Канстанцін быў яшчэ тым тыпам. Яго лаяльнасць была толькі пагардлівай памяркоўнасцю. Ён хітра пралічыў будучыню хрысціянства і бачыў у ім свае выгоды. Хрысціянства для Канстанціна было толькі зброяй для ўмацавання сваёй улады над светам, А вось з Юліянам якраз усё нашмат складаней. Яго філасофскія ідэі не маглі мець шырокай падтрымкі, таму, што тычыліся толькі праблем духоўнага здароўя, душы, а чэрнь, прабачце мяне за такое параўнанне, заўжды шукала практычных, зямных выгод. Чэрні быў патрэбен бог, які б мог паляпшаць іх матэрыяльны стан. Менавіта таму хрысціянства і зрабілася рэлігіяй большасці. Яно і цяпер такой з'яўляецца. І гэтыя кабеты – яе тыпічныя прадстаўнікі. Калі не верыце, пацікаўцеся заўтра, хто з з гэтых людзей хаця б коратка перакажа тое, што казаў Ісус Хрыстос у сваёй Нагорнай пропаведзі. Перакананы, большасць з іх не пералічыць нават дзевяці блажэнных запаведзяў.

– Чаму вы так лічыце?

– А вы хіба лічыце інакш? – здзіўляюся я. – Няўжо вы такі наіўны, няўжо лічыце, што ў тых кіпах цыдулак, якія вернікі пакідалі сёння ў святых мясцінах, толькі просьбы аб выратаванні душы? Асабіста я ў гэта не веру, інтарэсы большасці, на жаль, – матэрыяльныя.

– Навошта вы прыніжаецце вернікаў, навошта абражаеце іх гонар? – спыняе мяне айцец Серафім. – Вам не здаецца, што вы падзяляеце людзей на «нашых» і «не нашых», на разумных і дурняў? Але Бог адзіны для ўсіх.

– Гэта дэмагогія. Людзі павінны імкнуцца да нейкіх духоўных і эстэтычных вышыняў. Але гэтага, як мы бачым, не адбываецца. Такое ўражанне, што ні царкве, ні дзяржаве не патрэбны разумныя людзі.Так званыя пастары заўжды называлі сваю паству не інакш, як статкам авечак. А што яшчэ можа быць дурней за гэтую жывёліну?

– Ісус Хрыстос прапаведваў прастату...

– Ну, а як жа яшчэ, – я іранізую: – Гора вам, кніжнікі і фарысеі... Не, айцец Серафім, царква ніколі не была зацікаўлена ў асобах. Царкве даспадобы былі авечкі паршывыя, бо людзі разважлівыя заўжды падазроныя.

А цяпер уявіце, што тое, што вы сказалі гэтым жанчынам пра каталіцтва, я б сказаў гэтак жа катэгарычна. Чым бы для мяне скончылася размова?

– Вас пабілі б камянямі, – хітра ўсміхаецца айцец Серафім.

– Менавіта так яно і было б, – згаджаюся я. Дастаю з кішэні пачку з цыгарэтамі і запальваю.

– Вы шмат смаліце, – робіць мне заўвагу святар.

– Ёсць такое, – згаджаюся я і жартую: – Проста я чалавек, які смаліць нават у сне.

Некалькі хвілін маўчым.

– Страшна падумаць, гэта ж якою ўладай над людзьмі надзелена наша царква. Пры жаданні вы скіруеце натоўп куды захочаце, – кажу я.

– Я – асоба духоўная. І людзі давяраюць не мне, а Богу. А як жа інакш?

– Не ведаю, але як можна верыць у тое, у чым мала што кеміш? – ціха прамаўляю я. – І дзе мяжа гэтай веры? Ці не ад залішняй даверлівасці ўсе нашы праблемы?.. Але верыць у Бога – не значыць жыць з заплюшчанымі вачыма. Не хачу вас абразіць, але сучасная царква – гэта выгодны бізнес і ідэалагічны рупар улады. І сімбіёз гэтых двух монстраў зляпіў з Бога дзяржаўнага ідэолага. І адным, і другім невуцтва натоўпу на руку. Кожны стрыжэ авечак як умее.

Мы доўга яшчэ спрачаемся, мяняем гаворку, пераскокваем з адной тэмы на другую, нарэшце айцец Серафім ідзе спаць, а я застаюся адзін, і бязмежна рады сваёй самоце. З трывогай узіраюся ў незнаёмы, чужы для мяне горад і думаю. «У чым мудрасць, у чым прыгажосць адзіноты?». Гэтае пытанне я задаю сабе неаднойчы і не знаходжу ніколі на яго адказу. Заўжды сумняюся і адкрываю для сябе нейкія новыя, неспазнаныя дасюль ісціны.

Парадаксальна, але нават самім сабе мы застаемся ўсё яшчэ быць чужымі. Я радуюся жыццю. Я радуюся свабодзе. Я радуюся таму, што маю магчымасць падарожнічаць, мяняць месцы свайго знаходжання і лічыць кожнае з іх сваім домам. Не, айцец Серафім, спадзявацца на Бога – гэта занадта проста для мяне. Бог большасці – не мой бог.

Недзе далёка на даляглядзе лахманы цемры хаваюць знакаміты Хар Ха-Кфіцу. Менавіта з яго вяршыні некалі скочыў Ісус Хрыстос, ратуючыся ад сваіх праследнікаў, і быў падхоплены анёламі. Ці здольны паўтарыць гэты ўчынак мой анёл, калі прыйдзе час?

Будзіць мяне крык пеўня. З цяжкасцю расплюшчваю вочы і доўга не магу зразумець, дзе знаходжуся. Пачынае світаць. Далёка над гарамі вісіць у небе таямнічая, каляровая кропка. Гэта, як я з цягам часу разумею, дырыжабль. Ён, нібыта той прарок Ілля, па-сяброўску мне пагражае пальцам. Сілуэт пакрыху пачынае аддаляецца і праз пэўны час патанае зусім у ранішняй смузе. Гляджу яму ўслед і ўзгадваю зноў Юліана Флавія: «Калі любы забойца можа быць набожным хрысціянінам, то нешта не так з гэтай рэлігіяй». «Дакладна», – думаю я і паднімаюся з зямлі. Доўга размінаю здранцвелае цела. Рукі зацяклі і не хочуць мне падпарадкоўвацца. Ля лаўкі валяецца забыты яшчэ з вечара футарал са здымачом. Паднімаю яго і падыходжу бліжэй да схілу. Горад ляжыць прама ля маіх ног, і я чую выразна яго сцішанае, соннае дыханне. Першыя сонечныя промні далікатна варушаць зморшчыны шэрых скал. «Ты ж свядома шукаў гэтай невядомасці. Ты неаднойчы мроіў прайсці праз яе, – шэпчуць бязгучна вусны. – Ну дык ідзі, вось жа яны, тыя дзверы – тым, хто шукае, дапамагаюць. Хто

ведае, дзе мяжа тваіх магчымасцяў? Важна, не куды ідзеш, а важна, дзе стаіш. Час забыты. Часу не існуе. А таму працэс руху не важны. Вакол ні душы, толькі ты і бясконцая, чароўная гульня...». Адчуваю, як пакрыху, кропля за кропляй, цела напаўняецца жыватворным, гаючым святлом. Асвячоны промнямі далягляд патанае ў ружовай смузе.

«О, чароўнае, несмяротнае Сонца! – шапчу я. – Няма Табе роўных, бо для ўсіх ты аднолькавае. Толькі ў Табе, і ні ў чым іншым, адлюстравана веліч Бога...»

Адрываюся ад думак і дастаю з кішэні цыгарэты. Счакаўшы хвілінку, хаваю іх. Чысціня вакол. Баюся апаганіць яе цнатлівасць, баюся прапусціць для сябе нешта важнае, лёсавырашальнае, баюся не занатаваць яго ў памяці. Расчахляю здымач і пачынаю бяздумна фатаграфаваць гарадскія пейзажы. Калі эйфарыя мінае, крочу ў хоспіс. Айцец Серафім яшчэ спіць. Не рапранаючыся, кладуся ў ложак, чапляю на вушы слухаўкі і пачынаю слухаць Эсб'ёрна Свенсана.

Пасля сняданку пакідаем горад. Перад тым, як сесці ў аўтобус, азіраюся, каб развітацца з хоспісам. З даху Салезіянскай царквы пазірае мне ўслед Ісус Хрыстос. На яго гіпсавым твары застыла векавая засяроджанасць і загадкавасць. Відаць, царкоўнікі наўмысна яго малююць сумным.

– Наш маршрут, любыя мае, ляжыць на поўдзень маляўнічай Генісарэцкай даліны, – вяртае мяне да рэчаіснасці мілагучны голас Розы. – І мы рухаемся з вамі ў легендарную Магдалу, дзе, паводле біблейскіх паданняў, нарадзілася Марыя Магдалена.

«Жанчына, якая ведала Усё, – думаю я. – Жанчына, якой была прыгатавана гісторыяй эпізадычная роля. Верагодна, толькі таму, што яна была жанчынай. Відавочна, асобам такога ўзроўню – знакавым і неардынарным, час заўжды гатуе невядомасць, Іх асцерагаюцца і баяцца, бо яны нават і пасля сваёй смерці нясуць пэўную небяспеку для натоўпу».

– Магдала з арамейскага перакладаецца як «прыгожы», што адпавядае рэчаіснасці, – працягвае аповед Роза. – У часы Іосіфа Флавія гэта быў даволі буйны па сваіх памерах і па колькасці насельніцтва горад. Менавіта ў ім, калі верыць біблейскай легендзе, Ісус Хрыстос выганяў з Марыі Магдалены сем дэманаў.

«Не адчайваецеся, вы, тыя, хто ўпаў у грэх, – шапчу я, як малітву, словы, якіх не магу забыць ужо шмат гадоў, – вяртайцеся на шлях праведны па маім прыкладзе і праз Бога...».

Марыя Магдалена – адзін з тых нешматлікіх біблейскіх персанажаў, якіх я не проста люблю, але якія вядуць мяне па жыцці, якія з'яўляюцца маімі ментальнымі арыенцірамі. Я не веру ў перакручаную людзьмі ісціну, а таму не люблю Тыцыяна і яго знакамітую «Марыю Магдалену», якія б гуманістычныя ці «паганскія» асновы не выяўляў ён у гэтай карціне. Вобраз вечнай блудніцы, якая праз павуту вякоў безнадзейна імкнецца да пакаяння ды духоўнай чысціні, мог быць запатрабаваны толькі царкоўнікамі, у разуменні якіх жанчына апрыёры не магла быць вучаніцаю Хрыста.

– Марыя Магдалена стала адданай паслядоўніцай Ісуса Хрыста, – прарываецца аднекуль здалёк голас Розы. – Яна прысутнічала пры яго распяцці і была адной з першых сведкаў пры ўваскрэшанні.

Аўтобус спыняецца на стаянцы, і Роза запрашае прайсці нас да выхаду. Лезу ў заплечнік і выцягваю адтуль невялічкі здымачак у срэбным акладзе. Гэта рэпрадукцыя карціны фларэнтынскага майстра Карла Дольчы

«Жанчына з алебастравым сасудам», прыціскаю яго да грудзей і шапчу пра сябе, нібы малітву: «Сястра, зорка нябесная, знайдзі сілы выслухаць мяне. Шмат зла на гэтай зямлі, шмат хлусні сказана нячысцікам. Забудзься, што ты грэшніца, сястра, і скажы мне: ці жыве тваё сэрца, як ты любіш?..»

Праходзім праз жалезную браму і па прыступках спускаемся ўніз да Храма Святой Марыі Магдалены. Дворык ціхі, утульны, патанае ў кветках і зеляніне. Далёка ўнізе віднеецца нерухомая сінеча Галілейскага мора. Месца гэтае было куплена напачатку мінулага стагоддзя главой Рускай Духоўнай Місіі Архімандрытам Леанідам. Невялічкую царкву заклалі менавіта на тым самым месцы, дзе калісь Ісус Хрыстос выганяў з Магдалены сем дэманаў. Асцярожна адчыняю дзверы і пераступаю праз парог храма. За мной крочаць астатнія. Памяшканне невялічкае. Сцены распісаны фрэскамі на біблейскія тэмы. Адыходжу ўбок і кранаюся пальцамі адной з іх. Потым выцягваю з-за пазухі свой «абразок» і доўга гляджуся ў вочы святой. Яны слязяцца.

– Скажы мне: ці жыве тваё сэрца, як ты любіш?.. – шапчу я і прыціскаю аклад да грудзей. Пераводжу погляд на маладую дзяўчыну. Яе рукі складзеныя ў малітве і вусны шэпчуць: – Жыве, Пане! Калі я не люблю, яно мёртвае...

Цэлы дзень бавім на Галілейскім моры. Наведваем Капернаум – Ягоны горад.. Ад таго гістарычнага рыбацкага мястэчка, у якім некалі дзеяў свае цуды Ісус, засталіся толькі разваліны. Мінаем іх і крочым да грэцкай праваслаўнай царквы Дванаццаці апосталаў. Яе малінавыя купалы заўважны здалёк. Вароты гасцінна адкрыты. Мясціны тут светлыя, нібыта наўмысна прызначаныя для адзіноты і малітваў. Прысутнасць Бога ва ўсім.

– Спадзяюся, вы разумееце, што ўсе цуды, якія прыпісваюць Хрысту, толькі метафара, – усміхаецца хітра Роза. – Сапраўдны цуд не ў тым, каб лётаць у паветры ці хадзіць па вадзе, сапраўдны цуд – хадзіць па зямлі...

## 5

Шаша № 90, па якой мы падымаемся ў Іерусалім, самая працяглая і самая небяспечная ў Ізраілі. Дарога цягнецца праз Палесцінскую аўтаномію ўздоўж мяжы з Іарданіяй.

– І так, любыя мае, – пачынае свой аповяд Роза. – Мы з вамі рухаемся па самай працяглай і самай глыбокай упадзіне на Зямлі, – тлумачыць яна. – Гэта ёсць дно свету, дакладней, дно Усходне-Афрыканскага разлому, які ўтварае раку Іардан. Яе можна бачыць з левага боку, дзе і Мёртвае мора. У раёне Эфіопіі разлом рэжа Афрыку, і таму яго называюць шнарам на целе зямлі. Разлом не стаіць на месцы, ён увесь час рухаецца і, як мяркуюць навукоўцы, у канчатковым выніку ён ператворыць урэшце Усходнюю Афрыку ў востраў.

Адрываю вочы ад акна. Кожны заняты сабой. Хтосьці, стаміўшыся, дрэмле, хтосьці слухае музыку, хтосьці пазірае ў акно і робіць выгляд, што слухае гіда. Лішніх пытанняў ніхто з нас не задае. Пазнаем таямніцы невядомай краіны вушамі і вачыма, праз аконнае шкло аўтобуса. Паездка навучыла нас слухаць і маўкліва пераварваць пачутае. Акрамя зносін з айцом Серафімам, я нікому больш не адкрываюся. «Добры дзень!», ды «Дабранач!» – вось і ўсе словы, што аб'ядноўваюць нас. Кожны сам па сабе. Кожны трымаецца паасобку. Ладзіць кантакты ніхто ні з кім не

спяшаецца. Магчыма, так і трэба сябе весці на Святой Зямлі? Магчыма, кожны з нас заняты размовамі з Богам. Хіба не па тое мы сюды прыехалі? Калі шчыра, я ў гэтай ментальнай раз'яднанасці бачу нашу нацыянальную адмысловую адасобленасць. Усе гэтыя «тонкасці» бачны лепш на адлегласці, на чужыне. Я лічыў, што паехаць з групай – значыць, быць са сваімі, але, як паказвае час, чалавек адзінотны апрыёры, асабліва ў бядзе. Ва ўсякім разе, асаблівай упэўненасці, што я сярод сваіх, няма. Гэта не страшыць мяне, мне камфортна з самім сабой. Мы ёсць дом, у якім жыве Бог, а значыць, мы не самотныя.

За вакном неабсяжная лысая скура пустыні. Аўтобус зніжае хуткасць і рэзка бярэ ўправа. На даляглядзе бачна люстэрка Мёртвага мора. Узровень яго ў гэтых мясцінах, як тлумачыць нам Роза, ніжэй узроўня Сусветнага акіяна на 400 метраў. Мясціны гэтыя лічацца самымі нізкімі на планеце.

– А цяпер з гэтага дна Свету мы пачнем метр за метрам падымацца ўверх, – тлумачыць Роза. – З гэтай кропкі мы з вамі падымемся на вышыню 800 метраў. Менавіта на гэтай вышыні знаходзіцца Іерусалім.

Як выяўляецца, мы звярнулі толькі што са знакамітай шашы № 90 і пачынаем паціху караскацца ўгару па трасе № 1. 90-я ж цягнецца ўздоўж Мёртвага мора далей на подзень да Эйлата. Пачынае змяркацца.

Гляджу ў вакно. Вочы дзіравяць прыцемак, агаляючы сюррэалістычныя малюнкі прыгажосці і дасканаласці. Ёсць нешта магічнае і незямное ў гэтых аднастайных пейзажах. Яны не толькі і не столькі дзейнічаюць заспакаяльна, але і ментальна. Такое пачуццё, што тут губляюцца межы часу і межы прасторы. Тут нішто не замінае табе думаць пра Бога.

– Мястэчка пабудавана на каменні, і тая зяляніна, якую бачна, і гэтыя будынкі – наглядны прыклад таго, як чалавек перамагае пустыню. Гэта прыклад барацьбы за выжыванне. Гэта прыклад таго, як людзі выціскаюць метр за метрам з свайго жыцця пустыню. Блажэнны Аўгусцін некалі сцвярджаў, што Бог для таго і стаў чалавекам, каб чалавек мог стаць Богам. У габрэяў існуе такое паняцце, як «TIKKUNOLAM». Дакладны пераклад гэтых слоў – «выпраўленне» свету. Ідэю гэтую габрэі ўзялі з Мішны, і гучыць яна прыкладна так: «Ператвары свет у Царства Божае». «TIKKUNOLAM» – гэта заклік да працы над удасканальваннем свету. Габрэі лічаць, што Бог наўмысна стварыў гэты свет незавершаным, пакінуўшы магчымасць людзям завершыць пачаты Ім працэс. На маю думку, вельмі арыгінальная і правільная ідэя, улічваючы, што шлях удасканалення асабісты, індывідуальны.

Заязджаем у тунэль. Недзе далёка наперадзе ледзь бачныя кволыя агеньчыкі. Вось яна, мара. Вось яна, мая сапраўднасць. Гэта Іерусалім. Сэрца шчымліва сціскаецца. Вялікае хваляванне перапаўняе яго. «Вось я, Божа!» – шэпчуць міжволі сасмяглыя вусны. На вачах стынуць слёзы. Мары, калі таго вельмі захацець, ствараюць рэальнасць. Аднойчы мы апынаемся ў патрэбным месцы і ў патрэбны час і мільёны дарог перасякаюцца ў запланаванай намі загадзя кропцы.

– Мы ўваходзім у Іерусалім! – урачыста абвяшчае Роза і агучвае расклад нашага далейшага паломніцтва: – Заўтра ў нас запланавана пешая экскурсія па старым горадзе, а сёння... Сёння мы накіроўваемся з вамі прама ў гасцініцу, дзе вы правядзеце дзве ночы.

Аўтобус кружляе некаторы час па вулачках горада, потым спыняецца на КПП. Гэта выезд з Палесцінскай аўтаноміі. Вадзіцель адчыняе акно і

паказвае паліцэйскаму праязныя паперы. Той уважліва гартае іх і нарэшце адчыняе шлагбаум.

– Айцец Серафім, – шапчу я на вуха свайму духоўнаму апякуну. – Сярод маіх сціплых пажыткаў, ёсць пляшка каньяку і, як мне здаецца, гэты дзень варты таго, каб прапусціць па кілішку за яго ўдалае завяршэнне. Як лічыце?

Айцец Серафім лісліва ўсміхаецца і ківае па-сяброўску пальцам:

– Эх!

Гэтае хуліганістае «Эх!» і вырашае лёс гэтага вечара. Мы атрымліваем ключы ад пакоя, і стомленыя, але шчаслівыя, абмінаючы ліфт, цягнемся на другі паверх.

– Як вам краіна? – цікаўлюся я ў айца Серафіма за гарбатай.

– Супярэчлівае ўражанне. Цяжка мець нейкае больш-менш аб’ектыўнае ўяўленне аб тым, чаго не ведаеш, што назіраеш праз вокны і аб чым толькі чуеш з вуснаў аднаго чалавека, – ухіляецца ад прамога адказу святар. – Таму, мне здаецца, важна хто за чым і з якімі думкамі прыехаў сюды.

– Я не скажу, што я ў захапленні, але тое, што я ўбачыў – новае для мяне, – працягваю я яго думкі. – Хоць і чужы мне, але супрацьлегла іншы малюнак. Іншая культура. Іншыя людзі.

– Насамрэч, тут вельмі прыгожа. Калі б яшчэ не вайна, – разважае ўслых айцец Серафім.

– І прыгажосць гэтая ў дробязях, – удакладняю я. – Мысліць фрагментарна, бачыць свет у дэталях мяне прывучыў мой здымач.

– Безумоўна, Ізраіль – больш чым краіна. Ізраіль – гэта найперш вера, – працягвае айцец Серафім. – Ізраіль – гэта сумесны твор чалавека і Бога. Калі б людзі шчыра верылі, кожны з нас дасягнуў бы пэўных вышынь. Свет быў бы зусім іншы. Не верай сваёй, а хлуснёй разбураем мы гэты свет. У вас ёсць дзеці?

Пытанне застае знянацку. Хвілінку вагаюся, потым не зусім пераканаўча прамаўляю:

– Ёсць.. Адзін... Сын...

– Адзін, – перакрыўляе мяне айцец Серафім. – А вы заўважылі, якія шматдзетныя сем’і ў арабаў?

– Верагодна, я адзін з тых грэшнікаў, якіх Ісус называў пагарджанымі, – іранізую я. – Бессмяротнасць маёй душы пад пагрозай.

– Мы знішчаем сябе самі, без вайны. Нам цесна, нам мала ўсяго. Але кожны з нас павінен прыносіць карысць...

Пасля сняданку накіроўваемся ўсёй групай у стары горад. Экскурсія па ім, як пазначана ў праграмцы, пачнецца ад Шхемскіх варот. Пакуль крочым да іх, Роза расказвае нам пра дзесяць мерак прыгажосці, дзевяць з якіх дасталіся Іерусаліму. Слухаю яе і пазіраю сквапна па баках. Горад сапраўды незвычайны. Уражвае таксама шматлікая колькасць вайскоўцаў на вуліцах. Сярод іх можна заўважыць і шмат жанчын. Прызнацца, нязвыклая воку сапраўднасць. Гляджу на гэтых маладых і прыгожых дзяўчынак у вайсковым камуфляжы са зброяй у руках і чамусьці з галавы не ідуць вядомыя словы Ісуса Хрыста з Евангелля ад Марка: «Бачыш гэтыя вялікія будынкі?.. Гэта ўсё будзе разбурана так, што тут не застанецца каменя на камяні...»

– У стары горад можна ўвайсці праз восем варот, – паведамляе Роза і ўдакладняе: – Мы з вамі знаходзімся ля Шхемскіх, альбо Дамаскіх. Гэта галоўны ўваход у мусульманскі квартал.

Па шырокіх прыступках, размешчаных амфітэатрам, спускаемся ўніз Ля ўвахода ўзброеная ахова – чацвёра маладых юнакоў і дзве дзяўчыны. Дзяўчынкі таксама са зброяй. Збянтэжана пераглядваемся. Роза паціскае плячыма. Вароты прызначаны толькі для праходу мінакоў. Абмінаем ахову і ідзем праз вузкі праход. Адразу ж за варотамі пачынаецца арабскі рынак. Вузкаю брукаванай вулачкай крочым уздоўж шматлікіх невялічкіх шапікаў і крамаў. Шлях наш ляжыць, як тлумачыць Роза, да школы Аль-Амарына. Удыхаю паветра. Яно перанасычана дурманлівымі водарамі духмяных траў і вострымі пахамі ўсходніх прыпраў і спецый. Несканчоная людская плынь падхоплівае нас і нясе ў невядомасць. Дарэмна імкнуся ўлавіць нешта роднае і звыклае вуху. Вакол гучыць незнаёмая мне мова. Вулічныя гандляры падсоўваюць мінакамі не таннага кошту копіі святынь. Гэты іх падман – адна з нешматлікіх крыніц выжывання. Сэрца трывожна сціскаецца. Страх згубіцца ў гэтым вірлівым натоўпе вымушае быць пільным і ўважлівым.

На месцы, дзе цяпер размешчана школа Аль-Амарына, з часоў Ісуса Хрыста стаяла крэпасць Антонія. Непадалёку ад яе знаходзілася вязніца. Тая самая, дзе, згодна біблейскім паданням, Ісус Хрыстос чакаў свайго пакарання. Тут жа, у вязніцы насупраць, знаходзіўся пад вартай і вядомы ўсяму свету злачынец Варава. Вуліца, па якой крочым, носіць назву Віа Далароза. Тут некалі пралягаў той самы «славуты» Крыжовы Шлях, па якім Ісуса Хрыста вялі ад месца прысуду да месца пакарання – шлях на Галгофу.

– Мы з вамі таксама пройдзем гэты сумны шлях, – абяцае нам Роза. Гляджу на айца Серафіма, вытужваю скептычную ўсмешку:

– Наўрад ці...

– Пяты кароткія, – згаджаецца са мной айцец Серафім. І я ўдзячны яму за разуменне.

– Нам бы хоць пачуць тое, што выпала цярпець Ісусу Хрысту, – шапчу я, звяртаючыся больш да сябе, чым да яго. Айцец Серафім не слухае. Ён даўно ўжо «такуе» ля шапіка з размаітымі абразкамі і гандлюецца з маладым арабам. Роза таксама мяне не чуе. Яна працягвае весці экскурсію:

– На вуліцы знаходзяцца дзевяць з чатырнаццаці прыпынкаў, дзе вымушана спыняўся Ісус Хрыстос, пакуль ахова вяла яго да Галгофы, – тлумачыць яна. – Яшчэ пяць знаходзяцца ў храме Труны Гасподняй. Гэты прыпынак, дзе мы з вамі цяпер знаходзімся, трэці па ліку. Гэта месца так званага першага падзення Хрыста.

З сумам гляджу на невялічкую каплічку з надпісам на незнаёмай мне мове, на рэльеф над дзвярыма з выявай Ісуса Хрыста, знямоглага, але не роспачнага.

«Божа! Скажы мне, дзеля чаго ты пакутаваў? Дзеля нас самадастатковых і ганарыстых? Ты хацеў, каб мы сталі праведнымі, ментальна цнатлівымі? Але ж мы імі не сталі. Не змянілася абсалютна нічога з таго дня тваёй ахвярнасці. Мы ўсё тыя ж, што і былі. Ты здзяйсняў цуды, ты ўваскрашаў памерлых, але чаму Ты не здолеў за столькі стагоддзяў наставіць нас на шлях правільны, чаму не зрабіў нас людзьмі ў Сваім разуменні, а не ў нашым? Божа, няўжо Ты марнаваў дарма час, прапаведваючы нам Ісціну? Няўжо твая гліна, з якой Ты ляпіў нас, аказалася брудам? Столькі здраднікаў, столькі наваспечаных Іудаў, столькі абыякавых асоб наведвала і наведвае гэтыя Святыя Мясціны. Ці каюцца яны, ці разумеюць прыроду

сваёй недасканаласці?.. Наўрад ці, інакш свет быў бы іншым. Пераважна большасць гэтых людзей застаюцца тымі ж, што і былі да свайго паломніцтва. Людзі шукаюць Цябе, і размінаюцца з Табой, не знаходзяць Цябе. Ці мо я не маю рацыі? О, як бы хацелася мне памыляцца. Столькі зла, столькі нянавісці і зайздрасці, столькі сквапнасці, гора ды слёз у гэтым свеце. Няўжо мы сляпцы і не бачым гэтага? Чаму мы, ведаючы, што гэта самы страшны грэх, забіваем адзін аднаго без прычыны, чаму нам так цесна і няўтульна ў гэтым свеце? Што мы не падзялілі паміж сабой? Разумею, пытанні не да Цябе, пытанні да нас саміх. Хочам мы таго ці не, але нас робіць пакорлівымі, падатлівымі толькі боль. Менавіта тады, калі нам невыносна пакутліва, мы ўзгадваем пра Цябе. І зноў-такі, мы толькі гандлюемся, вымольваючы спагаду для сабе і для сваіх блізкіх, прапануючы ўзамен пакору і ласку. Але гэта няправільна. Ты не гэтаму вучыш нас...»

Чалавек у доўгай, белага колеру сукенцы, заматанай вакол цела на арабскі манер, кліча мяне да сябе. Хвілінку вагаюся і раблю некалькі няпэўных крокаў. Мужчына адступае назад. Раблю яшчэ некалькі крокаў, постаць пачынае аддаляцца. Рухаюся за ім. Крок за крокам мы падымаемся па стромкіх прыступках некуды верх. Я ўсё яшчэ не згубіў надзеі дагнаць мужчыну, але з кожнай хвілінай разумею, што ўсе мае спробы марныя, што насамрэч мне самы час вяртацца, што я і так адышоў занадта далёка ад сваіх і што магу ўвогуле заблудзіцца ў гэтым незнаёмым мне горадзе. Белая кандура на мужчыне ад хуткай хады мітусліва мільгае далёка наперадзе. Безвынікова цягнуся да яе рукой, імкнуся схапіць незнаёмца – і не магу, не хапае сілаў.

Гэта ж Ісус Хрыстос, – ад гэтай нечаканай, жахлівай думкі мне робіцца не па сабе. Па целе бягуць дрыжыкі. Роспачна назіраю, як белая постаць знікае ў чорным дзвярным праёме, і кідаюся подбегам да брамкі. Праходу няма, рукі ўпіраюся ў глухую сцяну, вакол ні адной жывой душы. Толькі я і гэтыя намалёваныя на шэрай сцяне фарбай дзверы...

–Будзеце шукаць мяне і не знойдзеце!..– чую я нечы голас і азіраюся. Недзе ўнізе цячэ бясконцая людская плынь Голас як здзек, як насмешка.

– Але чаму?.. – роспачна шапчу я. – Чаму ты мяне клікаў?

Спускаюся па прыступках уніз і доўга блукаю па Віа Долороза ў пошуках сваёй групы. Нарэшце знаходжу іх ля варот Копскага патрыярхата. Уражвае абыякавасць гэтых людзей да майго знікнення. Ніхто з іх, па ўсім відаць, нават не заўважыў, што мяне няма побач. «Я ж мог заблудзіцца! Я ж мог не знайсці вас! – лямантуе мая абражаная і пакрыўджаная сутнасць. – Я.. .Я...»

– Мы знаходзімся з вамі на месцы трэцяга падзення Ісуса Хрыста, – тлумачыць Роза і скіроўвае ўвагу на купал капліцкі наперадзе. – Гэта капліцка Святой Алены. На яе даху цяпер размешчаны Эфіопскі кляштар. Раней ён належаў коптам. Але аднойчы, калі копцкія манахі спусціліся ўніз на службу, яго раптам нахабна захапілі эфіопы. Памянялі замкі на дзвярах, і цяпер ён іхні.

Лаўлю сябе на думцы, што толькі што кружляў тут у пошуках містычных дзвярэй, праз якія нібыта бясследна знік чалавек у белай сукенцы. «А мо мне гэта ўсё толькі прымроілася? – сумняюся я і, зацыкліўшыся на гэтай выратавальнай думцы, пераконваю сябе: – Безумоўна, прымроілася... Але хто тады той чалавек?.. Ці быў ён?..»

– А мы з вамі праз вось гэтыя непрыкметныя дзверы ўглыбіні дворыка

накіроўваемся да храма Труны Гасподняй, – запрашае Роза, паказваючы на фасад самага святога на зямлі Храма.

Па каменных прыступках спускаемся ўніз.

Вечарам у гатэлі, калі п'ем з айцом Серафімам гарбату, я зноў вяртаюся ў думках да таго выпадку. Размова не клеіцца, і мы пераважна маўчым. Кожны думае пра сваё. Я ж аднаўляю ў памяці падзеі мінулага дня і ў думках вяртаюся зноў на вірлівую Віа. Верагодна, толькі сёння я па-сапраўднаму ўсвядоміў сабе, дзе знаходжуся. Да гэтага часу я быў звычайным турыстам. Але Іерусалім – не турыстычная краіна, адназначна, і не музейны горад, Іерусалім – гэта месца, якое абуджае душу чалавека. Тут пачатак усяму, тут, верагодна, і канец усяму.

– Айцец Серафім, а можна я падзялюся з вамі адной таямніцай? – звяртаюся я да святара.

Той незадаволена пазірае на мяне.

– Пытанне маё, магчыма, недарэчнае, – пачынаю я. – Проста цікава пачуць вашы ўражанні. Так, для параўнання. Што вы адчувалі ў гэтым святым, намоленым месцы?...

– У кувукліі? – удакладняе айцец Серафім. Моўчкі куваю галавой.

– Пачуцці немагчыма выказаць словамі, – адказвае святар. – Пачуцці ўсё роўна, што музыка – слухаеш з заплюшчанымі вачыма, без сведкаў, каб ніхто не змог разбураць гэтую далікатную ідылію самасці.

– Гэта праўда, я таксама слухаю музыку з заплюшчанымі вачыма, – згаджаюся я і прызнаюся: – А я сёння плакаў... Там, у кувукліі. Плакаў без прычыны... Грэк-ахоўнік, той, што стаяў на ўваходзе, літаральна сілай выпхнуў мяне з пячоры, уяўляеце?

– Без прычыны, мой любы, не бывае нічога.

– Слёзы цяклі міжволі. Я не хацеў гэтага, разумееце?.. Мне было сорамна за сваю слабасць. Я не хацеў, каб нехта ўбачыў мяне такім. Хаця – гэта была не слабіна і не слёзы самашкадавання, гэта не былі нават слёзы радасці, гэта былі слёзы ачышчэння. Я адчуваў незямную асалоду...

Завісае паўза.

– Айцец Серафім, я хачу папрасіць у вас прабачэння. Я падмануў вас учора. Я не маю дзяцей. Дакладней, я не маю ніякіх правоў на сына. Я кінуў сям'ю, калі Вадзіку не было і шасці, – тлумачу я блытана, баючыся, што мяне спыняць, не дадуць выказацца. – Амаль на працягу дзесяці гадоў я бадзяўся па Расіі – зарабляў грошы. Быў журналістам, дакладней, вайсковым фотакарам. Па гарачых кропках, пераважна. Смерць, кроў... І не раскажаш. Плацілі някепска. Прывык. Банальна, але чалавек такая жывёла. Калі вярнуўся, жонкі ўжо не было ў жывых. Рознае людзі гаварылі, прычыны ўсякія называлі. Хаця прычына адна – з'еў рак. Сына выхоўвалі чужыя людзі. Некалькі разоў парываўся сустрэцца з ім, але так і не хапіла адвагі...

– Чаму?

– Баяўся, што не зразумее. Прызнацца, я б не зразумеў. Тая расколіна, што ўтварылася паміж намі, стала безданню.

– А ты спрабаваў? – глядзіць на мяне недаверліва святар і ўзмацняе голас: – Ты спрабаваў?

– Спрабаваў... Вадзік вучыўся тады, і яму, відаць, было не да мяне. Я яму грошы спрабаваў перадаць праз знаёмых.

– Не разумею цябе. Ты зрабіў усё, каб пры жывым бацьку сын вырас сіратой. У адным горадзе жывеце?

– Так, – ківаю я галавой.

– Колькі яму гадоў?

– Каля трыццаці.

– Ты не ведаеш, колькі год твайму сыну?

– Не ведаю.

Айцец Серафім устае з крэсла і выходзіць з-за стала.

– Ты не ведаеш, колькі гадоў твайму сыну? – перапытвае ён. – Як так?

Здымае крыжык і пачынае расшпільваць гузікі на рызе.

– Я святар, разумееш? Я не магу пагаварыць з табой, як мужчына з мужчынам. Скажу толькі, што памылка, якую ты зрабіў, грахоўная па сваёй сутнасці.

– Я разумею, – згаджаюся я. – Так здарылася. Што цяпер рабіць?

Айцец Серафім дастае з сумкі кашулю, спартовыя порткі і пераапранаецца. Потым вяртаецца да стала.

– Вось што я табе скажу: ніколі ў жыцці не падымаў руку на другога чалавека. А вось табе хочацца набіць морду. Аж рукі свярбяць.

Ён з выклікам глядзіць на мяне. Я маўчу.

– Я не пакрыўджуся, – парушаю маўчанне. – Я не ведаю, як я буду далей жыць. Што мне рабіць?

– Павесіцца.

– Я пытаю сур'ёзна.

– А я сур'ёзна адказваю. У мяне шасцёра, разумееш, і я не ведаю, я сябе нават уяўляць не магу на тваім месцы. Абяцай мне, што як толькі мы вернемся ў Беларусь, першае, што ты зробіш, гэта наведаеш сына. Абяцай, што паедзеш да яго адразу з аэрапорта. Абяцай мне...

Ноччу не магу доўга заснуць. Варочаюся з боку на бок і, стаміўшыся канчаткова ад бяссоння, вылажу з-пад цёплай коўдры. Хуценька апранаю джынсы, накідваю на голае цела кашулю і выслізгваю за дзверы. Горад пачынае прачынацца. На вуліцы з'яўляюцца першыя мінакі. Да Яфскіх варот хвілін пятнаццаць хады. За імі пачынаецца хрысціянскі квартал. Крочу наўгад, праз бялявае ранішняе сутонне, дарогай, якой вяла нас учора Роза. Карціць яшчэ раз зірнуць на Давідаву вежу. Мінаю вароты і спускаюся па слізкіх, шырокіх прыступках уніз. Пачынае світаць. Ранішняя смуга пакрыху рассейваецца. Наперадзе бачны рэдкія пасадкі старых аліў. Чакаю, пакуль загарыцца зялёнае святло і пераходжу вуліцу. Збочваю і ўладкоўваюся на траве пад старой алівай. Прыціскаюся плячыма да шурпатай кары. Праз разрэзы галін прабіваюцца першыя сонечныя промні. «Божа! Няўжо я ў Іерусаліме?.. – шапчу я. – Скажы мне, што гэта памылка. Скажы, што гэта сон, што гэтага не можа быць апрыёры...»

Гляджу на Давідаву вежу. Так радасна мне не было яшчэ ніколі. Вочы пачынаюць зліпацца, і я адчуваю, што засынаю. «Цікава, ці спяць людзі з расплюшчанымі вачамі? – думаю я. – Калі спяць, я буду сузіраць гэты горад нават у сне...»

Мне мроіцца Авісага-сунаміцянка. Яе постаць заўважаю здалёк, ля чырвонай Давідавай вежы. Дзяўчына паважна плыве па абсыпанай кветкамі вуліцы. Таямнічы шлейф ад яе празрыстай сукенкі цягнецца следам. «Скуль столькі кветак тут?» – здзіўляюся я і, нібыта сляпы, распасціраю наперад рукі. Дацягнуцца да дзяўчыны не хапае сілаў. Так і застаюся сядзець у здранцвенні ля дрэва. Дзяўчына схіляецца да мяне, і я чую, як б'ецца побач з маім яе маладое сэрца.

– Я ведаю. Я ўсё ведаю, – прамаўляю я, намагаючыся нешта патлумачыць. – Ты прыйшла, каб вярнуць мне маю маладосць.

Цнатлівіца моўчкі кладзе галаву на мае далоні, і чорныя, нібыта смоль, валасы кранаюцца майго цела.

– Я прыйшла, каб сагрэць тваю старасць, – шэпчуць яе сасмяглыя вусны. – Час не суцешыў твае пакуты. Ты стаміўся. Табе зімна.

Мы ляжым з ёю побач на духмяным, травяным дыване. Яе вочы свецяцца сумным святлом. На яе твары застыла вечная таямніца. І ні адзінай душы вакол. Толькі я і яна – мая Авісага...

Будзіць мяне трэск аўтаматнай чаргі. Доўга не магу спрасонку з'арыентавацца. Калі здранцвенне мінае, падымаюся з зямлі і крочу цераз вуліцу. Аўтаматны трэск паўтараецца. Чэргі кароткія, амаль нячутныя. Вызначаю для сябе, што страляюць недзе ўнізе, напрыканцы схілу, куды цягнецца двухпалосная шаша. Сэрца трывожна сціскаецца. «Калі ў горадзе Бога страляюць, значыць, нешта не тое з гэтым светам. Значыць, нешта парушылася, сапсавалася, збілася з рытму», – думаю я і амаль подбегам крочу да гатэля.

Роза спазняецца. З самага ранку яна тэлефануе айцу Серафіму, просіць прабачэння і папярэджвае, што, па ўсім відаць, надоўга затрымаецца ў бясконцых аўтамабільных чэргах. Тлумачыць, што стаіць ўсё яшчэ на ўездзе ў горад, дзе толькі што адбыўся тэракт. Месца гэтае ачэпленае вайскоўцамі, і з-за гэтага чэргі. Патлумачыць дакладна, што здарылася, пакуль не можа, ведае толькі, што ў расстраляным ва ўпор «Сабры» знаходзяцца некалькі забітых арабаў.

## 6

На вуліцы стаіць невыносная задуха. Роза апраўдваецца за незапланаванае спазненне.

Разумею і спачуваю ёй. Гэта «modus vivendi» народа, які працяглы час знаходзіцца ў стане вайны. Паступова з гэтым звыкаешся і жывеш, робячы выгляд, што не заўважаеш. Такая ўжо ёсць прырода наша. Так не павінна быць, але так ёсць.

Пасля інструктажу, як сябе весці «на тэрыторыях», адпраўляемся ў Палесціну. Дарога ад Дамаскіх варот да ізраільскага блок-пасту займае прыблізна каля паўгадзіны. Аўтобус віхляе па іерусалімскіх вулачках і нарэшце спыняецца ля глухіх, высокіх муроў з калючым дротам на грэбні. Гэта так званая сцяна бяспекі, мяжа дзяржавы ў дзяржаве. Вышыня яе месцамі дасягае васьмі метраў. На абочыне – папераджальны надпіс на чырвонай шыльдзе на трох мовах: «Вы ўязджаеце ў зону «А», якая кантралюецца палесцінцамі. Ізраільцянам уезд забаронены, небяспечны для жыцця і супрацьзаконны». Як тлумачыць нам Роза, сцяна цягнецца па ўсім перыметры з Палесцінай і, як можна зразумець з надпісу, габрэяў на тэрыторыю Вес-банка вайскоўцы не пускаюць. Таму дазвол на ўезд ёй давялося браць задоўга да нашай вандроўкі. Шлагбаум закрыты.

– Ма нішма? (Что слышно?) – звяртаецца кіроўца да чалавека ў камуфляжы і падае праз акно кіпу папер. Той адказвае яму нешта на іўрыце і доўга праглядае іх. Потым падае рукой знак свайму напарніку, той падымае шлагбаум. Мы ўздыхаем з палёгкай.

– Заехаць у Палесціну проста, – іранічна ўсміхаецца Роза. – А вось выехаць – цэлая праблема,

«Што ж, такія парадкі ў горадзе Бога, – канстатую я, аднаўляючы ў памяці трагічныя ранішнія падзеі ў цэнтры горада. – Божа! Колькі яшчэ гліны Табе спатрэбіцца, каб Ты змог зляпіць з нас людзей па сваім разуменні і падабенству. Колькі пакаленняў яшчэ павінна вырасці, якім бы не было б цесна жыць у гэтым свеце?..»

– Сёння ў нас незвычайны дзень. Сёння мы з вамі будзем спасцігаць прыгажосць і непрадказальнасць пустыні, – таямніча распачынае экскурсію Роза. – Спачатку мы наведаем некалькі гістарычных святынь, потым вернемся на начлег у Віфліем.

За блок-пастом дарога вузкая, месцамі з ямінамі. Уздоўж яе горы смецця, месцамі цэлыя звалкі аўтамабільных пакрышак.

– І так, мы рухаемся ўглыб пустыні, – працягвае аповед Роза. – Нас чакае знаёмства з самымі буйнымі і самымі прыгожымі кляштарамі – Дэйр Досі і Мар Саба.

Тэрыторыя, па якой мы кружляем, падпадае пад так званую зону А і цалкам кантралюецца Палесцінскай аўтаноміяй. Дарога гэтая вядзе з Іерусаліма ў Мар Сабу.

– Палесціна – краіна кантрастаў. І не толькі прыродных, – папярэджвае Роза. – І арабскае мястэчка, праз якое ідзе наш шлях, таму прыклад.

Будынкі аднастайныя, зробленыя пераважна з белага вапнавага каменя, размешчаныя шчыльна адзін ля аднаго. Раскоша і прыгажосць адных мяжуецца з неахайнасцю іншых. Вакол будынкаў тыя ж горы смецця, што і ўздоўж дарогі. Хаця ў сваіх будынках арабы падтрымліваюць належны парадак і чысціню. Уражвае не архітэктура, а метады адаптацыі. «Гэта ж колькі сродкаў, колькі сіл трэба затраціць, каб зляпіць на гарыстых схілах такія будынкі?» – думаю я. На плоскіх дахах паўсюль можа згледзець чорныя бакі. У іх на сонцы награецца вада. Уздоўж галоўнай вуліцы шмат розных сувенірных лавак і шапікаў. Амаль усе яны маюць больш-менш прыстойны, цывільны выгляд. Як толькі аўтобус спыняецца, яго адразу ж з усіх бакоў атакуюць надакучлівыя і ўсюдыісныя гандляры сувенірнай драбязой. Адбіцца ад іх не проста. Каб пазбегнуць пэўных праблем, мы павінны праяўляць абыякавасць да таго тавару, што нам прапаноўваюць, не прыцэньвацца і не браць яго ў рукі. Мінаем забудовы Бэйт-Лахема і рухаемся далей. За вокнамі шматколернасць пустыні. За вокнамі велічнае відовішча – цікаўнасці і асалоды, здзіўлення і захаплення. Вялікім Тэатрам Светабудовы назваў бы гэтыя гарыстыя пейзажы Бальтазар Грасіан. І я цалкам з ім згодны, людзі перасталі здзіўляцца, людзі не задумваюцца над тым, што бачаць, жывуць, не заўважаючы прыгажосці. Яно і не дзіва...

– Наступны прыпынак – праз хвілін пятнаццаць. А спынімся мы з вамі ў яшчэ адным палесцінскім мястэчку Убейдыя. Па-арабску гэта гучыць Ібн Убейд. Мястэчка названа ў гонар святога Феадосія, заснавальніка першага ў Палесціне кляштара інтэрнацкага тыпу. Пра ўсё гэта я раскажу вам крыху пазней, – абяцае Роза. – Мільёны гадоў таму, як паказалі археалагічныя даследванні гэтых мясцін, тут былі стэпавыя прасторы са шматлікімі блакітнымі азёрамі, частка тэрыторый была нават забалочана. Непадалёку ад самога мястэчка была раскапана стаянка першабытнага чалавека. Ашэльскія рубілы, якія былі знойдзены ў адной з пячор, верагодна, належалі так званым «хома-эрэктусам», продкам сучасных людзей. А так як радзімай «эрэктусаў» лічыцца Усходняя Афрыка, гэтыя факты

даюць падставы сцвярджаць, што Палесціна была сапраўдным праходным дваром, праз тэрыторыю якой ляжалі шляхі ў Еўропу.

Аўтобус паркуецца. Пры выхадзе з яго нас атачаюць з усіх бакоў назойлівыя гандляры. Такое ўражанне, што яны нас пераследуюць ад самога Бейт-Лахема.

– Просьба не разбягацца. На наведванне кляштара нам адведзена ўсяго гадзіна. Памятайце, за намі яшчэ адна група.

Абыходжу месца актыўнага гандлю і крочу да ўваходнай брамкі. Кляштарны дворык невялікі, але ўтульны. Уражанне, што ты патрапіў у свет казачны, штучны і несапраўдны. Царкоўныя муры зіхацяць на сонцы. Такое ўражанне, што сцены злеплены з белага воску. Галоўная царква патанае ў зеляніне. Пабудавана яна нядаўна. Гляджу і не магу наглядзецца. Любуюся не навізной убачанага, любуюся яго веліччу.

– Мы знаходзімся з вамі на вяршыні аднаго з чорных камлюкоў, – пачынае Роза. – Менавіта ў пячоры, якая знаходзіцца ад нас па правы бок, згодна паданняў, начавалі вешчуны, вяртаючыся з Віфліема, – тыя самыя, што абвесцілі ўсяму свету аб нараджэнні Ісуса Хрыста. Гэтае месца і абраў некалі для заснавання кляштара святы Феадосій.

Цікаўнасць мая пакрыху згасае, я свядома адстаю ад групы. Крочу да невялічкіх памераў навеса з шыферным дахам. Па ўсім відаць, гэтае месца і ёсць рэшткі таго самага візантыйскага храма, разбуранага персамі ў 614 годзе. Нехта далікатна кранаецца майго пляча. Азіраюся, гэта айцец Серафім.

– Не крыўдуйце на мяне за ўчарашняе, – просіць ён. – Я не хацеў вас пакрыўдзіць.

– Што вы, – бянтэжуся я. – Я і сам сябе часта ненавіджу. Але я ўжо далёка не той, кім прыехаў сюды.

– Мы ж з вамі на Святой Зямлі, – усміхаецца айцец Серафім. На твары яго дрыжыць павуцінне зморшчын.

– Я сур’ёзна.

– Сіла чалавека ў пакоры, – прамаўляе айцец Серафім. Усмешка спаўзае ў глыбокую ямінку на падбародку. – У кожнага свой шлях да ісціны.

– Гэта так, – згаджаюся я. Даказваць, што паняцце пакоры людзі сказілі, і што папы прыклалі да таго таксама руку, не хочацца – Я пражыў сваё жыццё пераважна ў бязбожнасці, але ад гэтага не стаў ні лепшым, ні горшым. Я ёсць самім сабой. Я лічыў і лічу Біблію творам чалавечым, а не божым.

– Мы з вамі амаль аднагодкі, – спыняе мяне айцец Серафім. – І мы выдатна памятаем савецкія часіны. Калі шчыра, я таксама з атэістычнай сям’і. Я, як і вы, быў у свой час і піянерам, і камсамольцам. І бацькі мае былі супраць таго, каб я паступаў у духоўную семінарыю. Каб не адзін выпадак, верагодна, жыццё маё склалася б інакш.

– Выходзіць, што ўсё ў жыцці вырашае выпадак? Верыце ў лёс?

– Веру ў Бога, – папраўляе мяне айцец Серафім. – Бог зрывае з нашых вачэй заслону.

– А я, відаць, таксама захворваю... Але зусім не «галілейскай хваробай». Ва ўсякім разе, я перакананы, што мой заступнік – сонца... А яно тут такое незвычайнае.

Айцец Серафім нервова пераміначецца з нагі на нагу. Нехта з групы кліча яго.

– Вы ўпэўнены, што знайшлі сябе?

– Хацелася б у гэта верыць, – непераканаўча адказваю я. – Ва ўсякім разе, сюды я не дарма прыехаў. І гэта я ведаю дакладна.

– Добра... Я думаю, мы яшчэ вернемся да гэтай размовы. Мне тут дазволілі адслужыць акафіст. Спадзяюся, папрысутнічаеце?

– Безумоўна, – абяцаю я, хаця гэтае «мерапрыемства» не ўваходзіць у мае бліжэйшыя планы. Здагадваюся я таксама і аб тым, што да размовы, распачатай мною сёння, мы з ім больш ніколі не вернемся. Прызнацца шчыра, мне не вельмі хочацца псаваць адносіны з гэтым чалавекам, але ніколі не ведаеш, што чакае цябе праз хвіліну. Чым стану я займацца далей, для сябе я даўно вырашыў ужо.

Збоку ад увахода ў храм вялікі абраз Ефрасінні Полацкай. Яго, як тлумачыць Роза, падарылі царкве паломнікі з Беларусі. Купляю ў царкоўнай лаўцы некалькі свечак і накіроўваюся да яго. Сярод гаманлівага натоўпу вернікаў заўважаю купку жанчын з нашай групы. Займаю чаргу, каб прыпасці вуснамі да выявы беларускай святой. Доўга гляджу ў сумныя, бяздонныя вочы, чытаю малітву. Яна кароткая. Таму паўтараць яе даводзіцца шмат разоў:

Я крывінка твая – крывічанка,
Я былінка твая – палачанка,
Як над пожняй тужлівай чайка,
Я лячу да цябе, Радзіма,
Са святога Ерусаліма...

Звестак пра знаходжанне Ефрасінні Полацкай на Святой Зямлі не так шмат. Вядома толькі, што на сваё паломніцтва яна адважылася ў сталым узросце. Адправілася не адна, а са сваёй стрыечнай сястрой і братам Давідам. Шлях імі быў абраны сухапутны, а таму доўгі і цяжкі. Дабраўшыся да Іерусаліма, паломнікі пасяліліся ў адным з рускіх манастыроў, але Ефрасіння неўзабаве захварэла і памерла. Цела яе было пахавана менавіта ў гэтым кляштары. Пазней я знайду месца яе захавання ў пячоры, той самай. дзе хаваліся ў свой час ад Ірада Крывавага трое вешчуноў, што прыйшлі ў Віфліем пакланіцца народжанаму Сыну Божаму.

Пачынаецца служба, і я праціскаюся да дзвярэй. Ля каплічкі, углыбіні кляштарнага дворыка, натыкаюся на Розу. Лаўка, на якой яна бавіць час у чаканні, калі скончыцца служба, знаходзіцца ў белай засені вінаграднiку. Падыходжу да яе. Роза закрывае кніжку, адсоўвае ўбок дамскую сумачку і прапаноўвае сесці. Дзякую, але сесці адмаўляюся.

– Зноў вы як дрэва ў полі? – дакарае яна мяне. – Усё адзін і адзін. Так і не пасябравалі ні з кім? Чаму не на службе?

– Таму, што не разумею нічога ў гэтым, – шчыра прызнаюся я.

– Атэіст?

– Чаму ж, вернік, – адказваю. – І цяпер ведаю гэта дакладна. Хаця пасрэднікаў паміж мною і Богам не прымаю. Айцец Серафім – выключэнне. Яго я паважаю не за сан, а за тое, што ён – чалавек. Сябры з мяне кпілі, калі я сюды збіраўся ехаць, маўляў, які з цябе вернік, ты нават у царкву не ходзіш і малітваў не ведаеш. А скуль я ім мог навучыцца. У нашым мястэчку нават царквы не было. Не было яе і паблізу. Гэта зараз у кожнай вёсцы па два храмы, а пры «саўку» ўсе мы ў атэістах хадзілі. Мой настаўнік па гісторыі сцвярджаў, што ўсе рэлігіі ад людской недалёкасці і слабасці.

– Разумею, я сама родам з «саўка». У габрэяў усё па-іншаму.

– Хіба раў не той жа поп?

– Хто вам такое сказаў? – здзіўлена пазірае на мяне Роза. – Раў – не аналаг вашага святара...

– Роза, а праўда, што габрэі ставяцца пагардліва да хрысціянства? – пытаю я. – Як з гэтым у вас на Святой Зямлі?

– Не смяшыце. Па-першае, неразумна супастаўляць сучасную Царкву з глыбіннай сутнасцю самой рэлігіі, – адказвае Роза. – Вось вы мне скажыце: можна вінаваціць Ісуса Хрыста за тое, што яго вучэнне сказілі нядбайныя паслядоўнікі?

– Безумоўна, нельга.

– А яго сказілі, прыстасавалі пад сябе людзі, якія зацікаўленныя ў гэтым, якія маюць ад гэтага пэўныя выгоды, – працягвае Роза. – На сённяшні дзень хрысціянства аб'ядноўвае самыя буйныя і самыя развітыя дзяржавы ў свеце з адметнымі культурамі і эканомікай. Як могуць габрэі супрацьстаяць такому «монстру»? Ды і навошта?

– Прызнацца, я пазбягаю такіх далікатных размоў з айцом Серафімам, – прызнаюся я. – Баюся пакрыўдзіць. Чалавек ён, мяркуючы па ўсім, разумны. Хоць і прарасейскі. Мне гэта не падабаецца. Нам самы час трымаць сваю марку, нацыянальную, а мы чамусьці наадварот, прыніжаем сваю культуру.

– А што ж вы хацелі? – усміхаецца Роза. – Царква ж расійская. Я гідам даўно працую. Розныя групы ваджу па Святой Зямлі. Скажу шчыра, з беларускімі паломнікамі працаваць мне нашмат прасцей і камфортней.

– Ой, не ведаю. Не ўсё так проста з намі, беларусамі, – не згаджаюся я. – Аўтарытэт царквы падае. Яе сімбіёз з уладай іншы раз прама шакуе сваёй крывадушнасцю. Царква не павінна быць рупарам прапаганды. Неаднойчы лаўлю сябе на думцы: чаму памяць людская такая кароткая? Здавалася б, зусім нядаўна тая самая ўлада разбурала царквы і гнаіла святароў у турмах. Кроў яшчэ не высахла, а мы забыліся.

– На жаль, так. Я родам з Крыма. З'ехала ў Ізраіль у далёкія дзевяностыя. Бацькі не былі супраць, хаця самі так і не адважыліся прыехаць. Тут выйшла замуж. Тут выгадавала двух дзетак. З трывогай і болем гляджу, што адбываецца цяпер на востраве.

– Бацькі жывыя?

– На жаль, не... Сястра толькі. У Алушце жыве.

– Даўно не былі на радзіме? – пытаю я.

– Даўно, а цяпер і ўвогуле наўрад ці паеду. Тут ужо мая радзіма.

– Мне трэба ісці, – кажу я і цікаўлюся: – А не маглі б вы мне паказаць, дзе знаходзіцца пячора?

– Дык вось жа яна, перад вамі, – паказвае габрэйка на шарападобны купал. – Спуск побач з руінамі старога храма.

Спускаюся ў крыпту. Падзямелле падзелена на дзве часткі – месца, дзе пахаваны вялікія пакутнікі, і памяшканне, дзе некалі начавалі вешчуны. Падыходжу да пажылой манашкі, якая гандлюе свечкамі пры ўваходзе, і цікаўлюся, дзе мне знайсці сястру Фаіну. Манашка – румынка, але някепска валодае рускай мовай. Гэта дапамагае нам паразумецца. Даведваюся, што сястра Фаціна памерла мінулай восенню, што пахавана яна непадалёк на могілках, і мне, пры жаданні, сёстры могуць паказаць месца пахавання. Выказваю шкадаванне. Манашка пачынае тлумачыць, да каго звярнуцца,

каб паказалі магілку, а я думаю, што мне рабіць з пакункам. Не весці ж яго назад у Беларусь. Вырашаю аддаць гэтай жанчыне. Яна прымае яго, як належнае, без лішняй манернасці. Я дастаю з заплечніка невялічкі абразок з выявай Ефрасінні Полацкай і кладу яго побач з пакункам.

– Гэты абразок з Полацка, – тлумачу я. Жанчына з разуменнем ківае галавой. – Набыў яго яшчэ за савецкім часам, калі вучыўся ў гэтым горадзе. Хацелася б падарыць яе храму, як напамін пра нашу Беларусь...

Праз паўгадзіны мы пакідаем святое месца і накіроўваемся на заходні схіл Кедрона ў знакаміты Мар Сабу, альбо лаўру Савы Асветленага. Манастыр гэты вядомы ўсяму свету тым, што на тэрыторыю яго не дапускаюцца жанчыны. Згодна з царкоўным законам яны толькі маюць магчымасць наведаць Жаночую вежу.

На стаянцы перасядаем у бусік-мэрсэдэс. Трэба заўважыць, што курсуюць яны бесперапынна. Як тлумачыць нам Роза, турыстычныя паслугі – асноўная крыніца даходаў мясцовых арабаў, а таму ўсё ў гэтым «бізнесе» даволі прафесійна і цывільна. Па вузкай дарозе спускаемся ў цясніну Кедрон. За вокнамі – безжыццёва-камяністыя горы. Рухаемся даволі хутка, і ад стромкіх спускаў да пад'ёмаў па серпанціне сцінае дух. Гляджу на гэтыя незямныя пейзажы і думаю аб тым, колькі пакутніцкіх слёз, колькі крыві, колькі жыццяў пакладзена тут, у гэтай пустыні. І ўсё дзеля таго, каб свет стаў лепшым. А свет усё той жа. І чалавек усё той жа. Дзеля чаго тады ўся гэтая ахвярнасць, усе гэтыя самакатаванні? І ўсё ж, калі б раптам мне некалі выпала магчымасць пажыць у пустыні, я б не прамінуў яе. Хочацца адчуць пульс гэтай зямлі. Машына паварочвае рэзка на 180 градусаў, і перад намі з адкрываюцца заціснутыя ў залаціста-ружовых колерах дзве манастырскія вежы. У нямой велічы сярод скал яны нібыта вартавыя.

– ...Перад намі знакаміты Мар Саба. Вежы, якія вы бачыце – Жаночая і Юстыніянавая. Келлямі для манахаў служаць пячоры. Звязаны яны паміж сабой вузкімі сцежкамі, – пачынае тлумачыць Роза. – Манахі жывуць адасоблена і збіраюцца разам толькі ў час службы ў галоўным храме.

Бусік спыняецца на стаянцы, і мы пехатой спускаемся ў Лаўру. Манах выносіць каўчэг з часцінкамі мошчаў падзвіжнікаў. Жанчыны прыкладваюцца да іх, а мы з айцом Серафімам, Станіславам і яшчэ некалькімі мужчынамі з групы крочым на тэрыторыю манастыра...

На зваротным шляху да мяне падсаджваецца Станіслаў. Ён у добрым гуморы і спрабуе жартаваць. Суха рэагую на яго калючасць і пераважна маўчу. Лысіна яго за гэтыя дні заўважна запяклася, і калі ён смяецца, скура пачынае рухацца, нібыта вадкая квашаніна, агаляючы на лобе белыя складкі.

– Прыгожае відовішча, – эмацыйна кажа ён мо ў трэці ўжо раз.

– Я таксама ў захапленні, – адказваю я. – Можна сказаць, закахаўся ў гэтыя краявіды.

– Так сабе, – паціскае плячыма Станіслаў. Хвілінку маўчыць, потым удакладняе: – Я не пра пустыню, я пра кляштар. Вы толькі задумайцеся, больш чым за тысячу гадоў тут не ступала нага жанчыны. Вось гэта самаахвярнасць.

– Глупства гэта. Самае што ні на ёсць глупства. Можна падумаць, што гэтыя дарослыя мужыкі зачаты былі ад ветру. Не разумею, дзеля чаго гэты нялюдскі аскетызм?

– Каб паказаць нам смяротны прыклад пакоры, паслухмянасці і самавалодання, – не задумваючыся адказвае Станіслаў.

– Якой пакоры? – узмацняю я голас. – Ісус Хрыстос прапаведваў прастату і шчырасць. А гэта, як па мне, разнавіднасць вар'яцтва,

Станіслаў пачынае пярэчыць. А як жа інакш, фанатыкі на тое і фанатыкі, каб быць закаханымі ў сваё глупства. Прытвараюся глухім – шаўковыя словы не для суконнага лыча. Заплюшчваю вочы, і мне мрояцца хімеры Босха. Свет – усё той жа воз сена, і кожны цягне з яго колькі можа. Думкі выцясняюць адна адну, і сачыць за іх бегам амаль немагчыма.

## 7

У Віфлеем вяртаемся позна вечарам. Пасяляемся ў гасцініцы ў цэнтры горада. Пасля вячэры група паломнікаў на чале з айцом Серафімам адпраўляюцца на вячэрнюю службу ў храм Раства Хрыстова, а я, стомлены дарогай і бяссоннай ноччу, застаюся ў гатэлі. Паломніцтва на Святую Зямлю набліжаецца да завяршэння. Заўтра позна ўначы мы вылятаем на радзіму. Распранаюся і залажу пад коўдру. Засынаю незаўважна пад музыку Эсб'ёрна Свенсана...

Прачынаюся ад далікатнага парыпвання масніц. Расплюшчваю вочы. Праз няшчыльна захінутыя шторы пакой напоўнены ранішнім святлом. Айцец Серафім пакуе сумкі. Я ж свае няхітрыя пажыткі сабраў яшчэ звечара. Акідваю сумным позіркам памяшканне і лаўлю сябе на думцы, што вяртацца на радзіму не вельмі хочацца. У айца Серафіма, па ўсім відаць, зусім іншы настрой. Чую яго эмацыйнае пасопванне і зайздрошчу яму. У яго дом. У яго сям'я. У яго ўсяго даволі. Толькі я не нажыў нічога. Плыву сабе па цячэнні, як непрывязаная лодка.

– Ілля, а ты чаго стаіш, нібы заблудзіўшыся ў лесе, – звяртаецца да мяне святар.

– Так і ёсць. Mene, mene, tekel, uparsin.

– Што ты сказаў? – перапытвае айцец Серафім.

– Ды так, нічога, – адказваю я. – Калі б у мяне была магчымасць тут застацца, я б застаўся.

Верагодна, айцец Серафім – чалавек, пазбаўлены супярэчнасцяў, а таму жыць яму лёгка. «Хочаш быць шчаслівым – будзь пакорлівым», – прызнаўся ён мне ўчора. Я разумею яго. Царква заўжды заклікала да пакорлівасці і ў той жа час прывівала нянавісць да тых, каго не здолела падначаліць. Але слова святара так і не стала святасцю. Залаты век для сучаснай царквы мінае, ва ўсякім разе, ён далёка ўжо не залаты, хоць яшчэ і прыносіць прыбыткі. Да царквы спее недавер. Да ўлады – таксама. Выходзіць, мы з вамі, айцец Серафім – лузеры. Мы не выхавалі ў сваіх дзецях любоў да Бога, не прывілі духоўных ісцін, пра якія нібыта ведаем, але якімі не карыстаемся. Тэорыя – гэта адно, а практыка – зусім іншае. Слова так і засталося словам, пахаваным на старонках Святога Пісання. Мы павінны сысці, саступіць дарогу маладым, тым, у каго на тварах маска жыцця, а не маска смерці. Вы не згодны, айцец Серафім? Тады слухайце мяне ўважліва. Гэта наша пакаленне развязала вайну ва Украіне, і не толькі там. Гэта мы з вамі прарочылі даходлівы палітычны век, але мы не прарокі Маісеі, мы – людзі натоўпу, мы ўсё яшчэ блукаем у пустыні духоўнай і, па ўсім відаць, ніколі не выйдзем з яе. Скажу прасцей, гэта вы, я і шмат такіх, як мы – безаблічных, маўклівых, абыякавых істот, цягнем свет у хаос. Хто ведае, жылі мы ці паміралі? Ва ўсякім разе, мы

ленаваліся жыць, бо жылі на ўсім гатовым. Мы нічога не рабілі з ахвотай, хіба толькі разбуралі. На нашым сумленні Чарнобыль і яго наступствы. Мы не ваявалі і не ваюем самі, мы пасылаем на смерць нашых дзяцей. Нашы бацькі пакінулі нам мірную краіну. Ці пакінем мы яе такую дзецям? Мы абакралі яе, перацягнулі, што кепска ляжала, на сваё падвор'е, мы схаваліся ад сябе і ад сваіх суседзяў за высокімі, цаглянымі мурамі. І нам ніколі не адхрысціцца ад таго, што мы натварылі і што яшчэ збіраемся натварыць. Мы цягнем з вамі, айцец Серафім, гэты свет у бездань. Мы носім з сабой свае магілы і ганім незнаёмае нам жыццё. Мы – дзеці хлусні, мы – пакаленне чорна-белых тэлевізараў. Ці патрэбны мы такія свету – людзі, якія не забяспечылі спакою сваім дзецям?..

Айцец Серафім чытае свае ранішнія малітвы. Верагодна, у іх ён вымольвае сабе ў Бога спагаду і душэўны супакой. Ціхенька, каб не замінаць яму, іду ў прыбіральню. Наперадзе чакае цяжкі, насычаны, як заўжды, інфармацыйны дзень. Так што: бокер тоў, айцец Серафім!..

Пасля сняданку адпраўляемся ў дарогу. Роза просіць яшчэ раз праверыць свае рэчы і папярэджвае, што вярнуцца за імі ў гасцініцу ў нас не будзе магчымасці. Наш шлях ляжыць праз Віфанію ў Яфу. Віфанія – паселішча Марфы, Марыі і Лазара. Таго самага, біблейскага, якога некалі ажыўляў з памерлых Ісус Хрыстос. Роза расказвае нам гісторыю цяперашняга мусульманскага мястэчка Аль-Азарыех, а я гляджу на засяроджаныя, маўклівыя твары паломнікаў і спрабую спасцігаць думкай нябачнае. Маршчыністыя, старэчыя твары застылі ў чаканні цудаў. «Усе яны прыкладна людзі майго узросту, – думаю я. – І ўсё ж нешта сімвалічнае ёсць, пэўна, у гэтай вандроўцы «на закуску».

– Ісус любіў Лазара, – пачынае пераказваць Роза вядомую біблейскую прыпавесць. – Ён часта спыняўся ў яголым доме, А таму, калі Лазар захварэў, яго сёстры адразу ж папярэдзілі яго аб хваробе брата, спадзеючыся, што Ісус уратуе хворага. Аднак Ісус наўмысна затрымаўся на некалькі дзён, папярэдзіўшы пры гэтым сваіх апосталаў, што, маўляў, хвароба Лазара не да смерці, а да славы Божай. Ісус ведаў, што Лазар памрэ, але ён таксама ведаў і тое, што яго ўваскрашэннем уславіцца сам Бог і слава гэтая ўславіць яго – Сына Божага, які здзейсніць гэты цуд. Ісус Хрыстос ужо тады рыхтаваў сваіх вучняў да Свайго Уваскрэшэння, паказваючы свету сваю ўладарнасць над смерцю...

Аўтобус з невялікай хуткасцю рухаецца па цесных вулачках і спыняецца ля грэцкага жаночага кляштара. Паводле біблейскай легенды, тут сустракаўся Ісус з сёстрамі Лазара Марфай і Марыяй. Верагодна, таму гэты кляштар і мае сімвалічную назву «Сустрэчы». Насупраць – Руская праваслаўная школа для арабскіх дзяўчынак. Туды і накіроўваемся.

Пры ўваходзе нас сустракае ігуменя Марфа. Па нацыянальнасці Марфа немка. Першае, што кідаецца ў вочы, гэта простасць, натуральнасць і адукаванасць гэтай маладой жанчыны. На працягу нашай экскурсіі па рускім падворку з яе твару не сыходзіць лагодная, жыццярадасная ўсмешка. Гэта характэрна больш для католікаў, чым для праваслаўных. Апошнія, як я заўважаю, чамусьці больш маўклівыя, панурыя, а то і ўвогуле пыхлівыя.

Ігуменя Марфа вядзе нас праз дворык да каменя з надпісам: «Тут Марфа і Марыя ўпершыню пачулі ад Бога Слова пра ўваскрэшанне з мёртвых...». Над каменем цяпер узведзена невялічкая каплічка. Ад яе і пачынаецца наша экскурсія. Марфа расказвае нам гісторыю знаходкі гэтай святой рэліквіі.

Потым адмыкае падземны храм-капліцу Мікалая Цудатворца і запальвае свечкі. З яе аповеду даведваемся, што на сённяшні дзень у школе вучыцца больш за чатырыста дзяўчынак. Пераважная большасць з іх мусульманкі. Жывуць яны ў інтэрнаце пры кляштары. Пераважна гэта дзеці беднякоў арабаў. Але, каб даць дзецям адукацыю, яны ахвотна аддаюць іх у праваслаўны кляштар. На развітанне нас частуюць манастырскім чаем і печывам.

Склеп, у якім некалі быў пахаваны Лазар, знаходзіцца непадалёку ад школы, ля мячэці. Ідзем туды пешшу. Магільня высечана проста ў скале. Спускаемся ўніз па стромкіх прыступках парамі. Усярэдзіне пячоры чатыры нішы для пахавання памерлых. Пах сырасці і тлену. Пачуцці самыя непрыемныя. «Старыя мёртвыя саступаюць месца маладым мёртвым», – думаю я чамусьці, узгадваючы арыгінальную назву аднаго з апавяданняў любімага мною Мілана Кундэры.

– Якая не гуманная, якая прымітыўная ідэя, – прамаўляю я ўслых. – Не разумею, навошта чалавеку паміраць двойчы? Толькі людзі маглі да такога дадумацца.

– Хвароба Лазара была не да смерці, а да славы Божай, – тлумачыць мне айцец Серафім. – Жыццё яму было вернута для таго, каб ён стаў сведкам Уваскрэшання Хрыста.

– Не думаю, што Бог адчувае ў нечым патрэбу, – не згаджаюся я. – Яго слава відавочная. І трэба быць чалавекам, каб не разумець гэтага.

Гляджу на разгубленых паломнікаў. Яны моўчкі закідваюць мяне камянямі. Людзі прывыклі рабіць усё моўчкі і выстаўляць сваё маўчанне за мудрасць. Але маўчанне бывае розным і, як паказвае жыццё, маўчаць пераважна тыя, у каго нячыстае сумленне, альбо тыя, каму няма чаго сказаць. Злодзеі таксама крадуцца па-лісінаму. Верагодна, у гэтым свеце не жывуць, а паміраюць.

– Мне не шкада нас, – кажу я, звяртаючыся да айца Серафіма.

– Каго нас?

– Чалавецтва. Як паказвае час, і Хрыстос, і ўсе святыя пакутнікі, якія ахвяравалі жыццём, якія пакутвалі за нас з вамі, рабілі гэта дарма.

– Таму, што вы так вырашылі?

– Таму, што такі вынік, – адказваю я. – Куды ні кінься – бездухоўнасць, зайздрасць, кроў... Стары запавет – самая крывавая кніга. Столькі крыві праліта, колькі пральецца яшчэ. Дзеля чаго?

– Доля людзей – нараджаць нашчадкаў і рыхтаваць сябе да жыцця вечнага, – адказвае айцец Серафім.

– Тымі меркамі большасць з нас і жыве: спім, кормімся, плодзім сабе падобных, знішчаем нязгодных... І так бясконца? Вы тут пра Бога ўзгадваеце. Мы даўно выгналі яго з нашага жыцця. Спачатку з сэрцаў, а цяпер і з Храмаў. Ці знойдзе Ён сілы ўваскрэснуць чарговы раз? У натоўпа быў некалі выбар: бязгрэшнасць, беззаганнасць ці злачынства. Натоўп выбраў злачынцу. Не раз сабе думаю, паўтарыся ўсё сёння, большасць зноў абярэ Вараву.

– Чаму вы так лічыце?

– Таму, што Варава жыве ў кожным з нас, – адказваю я. – Таму, што Варава – гэта мы. А сябе мы не пакрыўдзім ніколі. Мы не здольныя пакуль што распяць у сабе злачынцу?.. Вы гэта разумееце?

– Не разумею, – адказвае ён. – Не разумею вас... Не разумею, чаго вы дамагаецеся, што вам трэба.

– Мне, акрамя Бога і сябе, нічога не трэба, – усміхаюся я.– Верагодна, людзям наканавана вечна жыць з двума Ісусамі ў сэрцы.

– Чаму з двума? – здзіўляецца айцец Серафім.

– З тым, каго мы распялі некалі ўжо, і з тым, каго не можам ніяк распяць. Мы не сталі звышчалавекамі, мы не наблізіліся ні на метр да Бога.

– Свету не патрэбен звышчалавек, – спыняе мяне айцец Серафім. – Мы не забылі, мы яшчэ памятаем і памятаць доўга будзем, да чаго прывялі гэтыя ўсе сатанінскія ідэі ў дваццатым стагоддзі.

– Любое вучэнне можна сказіць, перакруціць пры жаданні, – парырую я. – І Ніцшэ тут ні прычым. Ён не нясе адказнасці за ўчынкі вар'ята. «Бялявая шэльма», у разуменні фашыстаў, – скажоная, фальшывая версія звышчалавека. Грамадства хацела б бачыць жыццё выраўненым, міфічна аднолькавым для кожнага. Але свет зусім іншы. Камуністы таксама прапаведвалі роўнасць. Руйнавалі цэрквы, знішчалі і гнаілі ў лагерах святароў, палілі абразы. Але ці мае Карл Маркс да гэтага нейкае дачыненне? Прырода надзяляе нас рознымі маральна-этычнымі і фізічнымі якасцямі, а грамадства спрабуе раўняць нас, падмяняць прыродныя дадзеныя штучнымі. І калі Ісус гаварыў пра чалавека, ён меў на ўвазе тое ж самае, што і Ніцшэ. Іх пазіцыі блізкія. Можна, я прывяду вам адну цытату з Ніцшэ: «Калі ты глядзішся ў бездань, бездань глядзіцца ў цябе».

– І што?

– Пачакайце, я патлумачу, – спяшаюся я. – Для параўнання – яшчэ адно вядомае вам выказванне: «Часта левая рука не ведае, што робіць правая». Гэтыя цытаты, нягледзячы на рознасць, звёны аднаго і таго ж ланцужка. Чалавецтва нібыта гуляе ў гульні, нібыта і не гуляе.

– Самі вы хоць разумееце, што сказалі? – глядзіць на мяне святар.

– Чалавецтва гуляе ў адны і тыя ж гульні з веку ў век, – не зважаю я і працягваю: – Гуляе ў гульні з нулявымі сумамі, у якіх гулец можа выйграць толькі за кошт іншага гульца. Карацей кажучы, сума выйгрышу і пройгрышу зведзена да нуля. Але чаму людзям не гуляць у гульні, якія б прыносілі ім прыбытак? Чаму? Не трэба ківаць на Бога. Мы самі ствараем сябе няшчасці. І сапраўды часта – левая рука не ведае, што робіць правая...

– Вы дэмагог, – спыняе мяне айцец Серафім. – У нас з вамі рознае разуменне Бога і божага.

– Бог адзіны, – усміхаюся я. – І з Ім немагчыма размінуцца тым, хто Яго шукае. І дзе яшчэ, як не на Святой Зямлі, можна пагаварыць пра Яго?

Нашу гаворку прыпыняе Роза. Падпарадкоўваемся яе загаду і вяртаемся да стаянкі, дзе прыпаркаваны наш аўтобус. Роза робіць пераклічку, і я крочу да свайго месца. Адчуваю, як патыліцу свідруюць пагардлівыя позіркі. «Вы не зразумелі мяне, гэта не бунт супраць Бога, – шапчу я гэтым людзям нячутна. – Гэта бунт супраць вас, тых, хто сказіў і тых, хто скажае божыя ісціны, хто падлажвае іх пад сябе». Азіраюся. Твары паломнікаў застылі ў штучнай абыякавасці. Хіба што выдаюць вочы. «І загублю мудрых мудрацоў, і розум разумных адпрэчу, – чытаю я нібы ў адкрытай газеце. – Ты перамог мяне, Галілеянін!»

Мы пакідаем Віфанію і накіроўваемся ў Яфа, адзін з самых старажытных гарадоў у свеце. Кажуць, што заснаваў яго сын Ноя Яфет. Аўтобус паркуецца на стаянцы непадалёк ад набярэжнай, і мы крочым за Розай у так званы «Парк на Вяршыні». Падымаемся па стромкіх прыступках да найвышэйшай яго кропкі. Там размешчана знакамітая «Брама Веры».

Камяні для яе былі прывезены з Іерусаліма з заходняй сцяны, вядомай свету як «Сцяна Плачу». На камянях высечаны тры біблейскія сюжэты: ахвярапрынашэнні Аўраама, сон Якава і штурм Іерыхона.

– Вось і канчаецца наша знаёмства са Святой Зямлёй, – падводзіць рысу Роза. – Ля вашых ног – легендарны і старажытны Яфа, Міжземнае мора і новы Тэль-Авіў. Любуйцеся і захапляйцеся. На ўсё гэта ў вас ёсць не так ужо і мала часу – аж цэлыя дзве гадзіны, –усміхаецца яна. – Збор на станцы. Аўтобус вас давязе да Бэн-Гурыёна, а я развітваюся... Дай вам Бог!

Мы развітваемся з Розай і доўга пляскаем у ладкі. Гэта знак нашай удзячнасці і павагі. Потым ідзем гуляць па старых, вузкіх вулачках Яфа. Я адстаю ад групы і крочу да набярэжнай, знаходжу невялічкую, утульную кавярню і заказваю каву. Доўга сяджу ў гаючай засені і гляджу на мора. Скалы насупраць – знакамітыя скалы Андрамеды. Я ўсё яшчэ шукаю сябе. Верагодна, гэтыя пошукі – і ёсць мой сэнс жыцця. Гэта мой шлях – шлях ад зямных рэчаў да рэчаў небесных...

Я перакананы, што не кожны чалавек ёсць чалавек. Я хачу быць ім. Франкл лічыў, што для таго, каб ім стаць, неабходны «нехта» ці «нешта» вышэйшы за нас, да каго б ці чаго б мы імкнуліся. Я не згодзен з Франклам. Хто мне скажа, у чым крытэрый гэтага «лепшага» ці «хутчэйшага»? Хто суддзі, людзі? Прырода дасканалая і самадастатковая. Бог не мае патрэбы ў нашых меркаваннях і высновах. Мы не выйшлі ні тварам, ні ростам, каб мераць Яго меркамі. Кожны з нас мае сваю індывідуальнасць, сваю адметнасць і сваю самасць. Навошта мне прымяраць на сябе чужое жыццё, навошта крочыць след у след за геніем, злепленым неразумным натоўпам? Ідучы за прыдуманымі, абстрактнымі ідэаламі, мы губляем сябе, сваю індэнтычнасць. У памкненні быць кімсьці, гуляць нечую ролю, мы растрачваем патэнцыял генія, закладзенага ў нас першапачаткова Богам. Ёсць толькі адзін шлях – шлях да сябе. І наша мэта – дасягнуць сваёй унутранай глыбіні і вышыні адначасова. Мы самі сабе творцы. І той з нас, хто дасягае гэтага разумення, не мае патрэбы ў кімсьці, таму што толькі эга патрабуе сабе кампаньёнаў, таму што толькі яно самасцвярджаецца за кошт іншых. Але сэнс існага ва мне, а не ў кімсьці іншым, і жыццё – не спаборніцтва, не тым больш – гонка на працяглыя дыстанцыі. Як можна дасягнуць глыбіннай сутнасці іншых, тых, хто па Франклу, «вышэйшыя» за цябе? Навошта? Навошта пражываць чужыя жыцці? Навошта быць закладнікамі чужых меркаванняў? Але большасць з нас і ёсць закладнікі. Каб не ісці аднаму, мы ідзем па жыцці з кім папала...

Першае, што я зраблю, калі прылячу ў Мінск, гэта сустрэнуся з сынам. Я думаю, у нас будзе аб чым з ім пагаварыць. Спадзяюся, ён зразумее мяне.

Дапіваю каву і іду да аўтобуса. Праз пятнадцаць хвілін мы адпраўляемся ў Бен-Гурыён. Пачынае цямнець, і я баюся заблудзіцца ў незнаёмым горадзе. Чутна, як за спінай шуміць мора. Азіраюся на развітанне. Група ўжо чакае мяне. Памежны кантроль праходзім без прыгод. Вось і ўсё. Шалом, Ізраіль! Тода, Ізраіль! Самалёт набірае патрэбную вышыню, і ад сэрца адлягае. Адчуваю неверагодную лёгкасць. Чапляю на вушы слухаўкі і патанаю ў незямной меланхоліі гукаў. Дарэх цлаха, Эсб'ёрн Свенсан!..

**8**

Хутка міне год, як не стала бацькі. Самалёт, на якім ён вяртаўся з гру-

пай паломнікаў з Ізраіля, пацярпеў крушэнне пры няўдалым прызямленні. Мы з ім так ніколі і не сустрэліся. І цяпер я магу толькі ўяўляць яго па адзіным здымку, які дастаўся мне ад маці, і па дзённікавых занатоўках, якія ён рабіў, мяркуючы па ўсім, на Святой Зямлі. Рукапіс гэты перадалі мне зусім нядаўна. Пакет быў адрасаваны мне без ніякага суправаджальнага ліста. І гэта ўсё, што мне засталося ад яго ў спадчыну. Хаця не, хлушу, застаўся я, блізкі яму – і па настроі, і па характары, і па светапоглядам...

Як толькі спадаюць халады, іду паглядзець на востраў. Рака ўскрылася ўжо, ачомалася ад зімовай санлівасці, і цяпер яе хрыплае, рытмічнае дыханне чутна здалёк. Па дыяганалі перасякаю прыдарожную пустку і падымаюся на высокі насып. За плячыма нясуцца ў невядомасць машыны. Некаторыя кіроўцы збаўляюць хуткасць і сігналяць мне. Што яны хочуць сказаць мне? Відавочна, для кожнага з нас гэтае месца мае сваю святасць, для іх гэта проста дарога, для мяне – дзверы ў свет Цішыні. Я навучыўся выхопліваць яе з гэтага манатоннага скрыгату жалеза, з гэтага піскнявага віскату клаксонаў, з аднастайнай і звыклай будзённасці, ад якой чалавеку нідзе не схавацца.

Цішыня для мяне не нешта бясформнае, здранцвелае, ні гэтая бесцялесная, рабаціністая рачная бясконцасць, што распасцерлася наперадзе, а штосьці іншае, ментальнае, тое, што мае сэнс быць, што недзе глыбока схавана і ва мне самім, вышэйшае за разуменне, тое, пра што я толькі пачынаю здагадвацца, да чаго толькі імкнуся. Цішыня – гэта частка майго жыцця, інакш навошта мне спасцігаць тое неспасцігальнае, навошта вучыцца адрозніваць змест ад змесціва?

Раблю некалькі крокаў уздоўж парапету і спыняюся. Доўга стаю, узіраючыся ў далячынь. Гэта не бакета[1], гэта свядомае падарожжа ў маўклівую неабдымнасць прасторы. Позірк блукае ў лабірынце заблытаных, ламаных ліній. Вецер па-над рэчкай ціха калыша дрэвы. Вецер малюе пейзажы вялікай Задумы – святлом і ценямі. Неба нізкае, нерухомае. Чутна, як недзе ўнізе бруіць рака. Заглыбляюся ў гэтую бясколерную меланхолію гукаў. Цяпер мая радасць і мая скруха – пачуцці суцэльныя. Рука Бога і рука Д'ябла спляліся ў сяброўскім парыве, і мне не стае ні жыццёвай, ні духоўнай практыкі, каб зразумець, хто з іх ёсць хто. Нехта нябачны, адзіны адначасова і адштурхоўвае, і прыцягвае мяне да сябе. І няма радасці мне, няма патрэбы ў чужым святле. Вакол ні адзінай душы. Толькі я і гэтая непралазная, маршчыністая стракатасць, гэтае алгебраічнае чаргаванне гарбоў і западзін. І недзе далёка на даляглядзе, нібы маячок, нібы пробліск кволай надзеі, прывідны лапік сушы. Ён як пірацкая шхуна павольна пагойдваецца на ўздыбленых хвалях, адкідваючы ад сябе безліч загадкавых, серабрыстых ценяў. «Якая сіла маніць мяне сюды? – думаю я, узіраючыся ў пазачасавую далячынь. – Што таемнага, што прыцягальнага тоіць у сабе гэты непрыкметны, звычайны пейзаж?..» Сэрца шчымліва сціскаецца. У сэрца сваё разуменне. Яно не жыве здагадкамі. Гэтае святое для мяне, намоленае месца і ёсць той запаведны куточак, дзе я знаходжу сабе паратунак, дзе шчыра прагну Яго ценю, хаваючыся ад пякельнай зямной тугі. Дастаю з заплечніка рукапіс і пачынаю чытаць. У каторы ўжо раз: «Я ўсё яшчэ шукаю сябе...»

[1] Бакета (ад *япон.* boketto) — акт бессэнсоўнага і працяглага пазірання ў далячынь.

Уладзімер Арлоў



...як непарыўна знітаваныя
грахі й мастацтва...

# Аркады Падуі

***Балада***

*Элю*

***I***

на донцы келіха сум па барока
у Францішка праблемы не існавала
не існавала самога барока
ні Іль Джэзу ў Рыме
ні Божага Цела ў Нясвіжы

твой гатэль насупроць Святога Антонія
на сняданак прашута з марэлямі
калісьці ты прывёз такія з Адэсы
бабуля зарадавалася: марэлі!
ты спрабаваў пярэчыць: абрыкосы
марэлі дзетка марэлі
абрыкосы неяк брыдка

вярнуўшыся пачастуеш марэлямі
сонечную марэлевую істоту
марэльку на вусны
марэльку на шматзначную кропку пупка
марэльку ніжэй
ніжэй і глыбей
глыбей
не трэба баяцца
выцягнеш марэльку за срэбную нітачку
яна ўжо злучыла вас дотыкам да вечнасці
як далёка залятаеш
пасля ранішняга келіха ламбрускі!

Францішак заходзіць без чвэрці дзесяць
бярэ прашута
тры скрылікі дынькі
такога колеру пушок
над міжножжам у Вулі
у Вулляніцы з Запалоцця
у Вулечкі

Францішак адмаўляецца ад кавы
гарбата *Earl Grey* з цытрынай
цытрыну дастае з кішэні
выціскае тры долькі ў кубак
першы раз у каралеўскім садзе
саспела адзінаццаць цытрынаў
у зайздроснікаў саспела роўна столькі ж даносаў:
русін вырасціў агіднае кіслоцце
зняць з яго прэміяльныя!

Францішак глядзіць *Euronews*
на бульвары Рамблас у Барселоне
аўтобус наехаў на мінакоў
трынаццаць загінулі на месцы
*Алах акбар!*
хтосьці абураўся: якая там вайна цывілізацый?

яшчэ гарбата і тры долькі
учора адшчыкнуў цытрынку
у батанічным садзе
адразу накінуўся рой пчолаў
джаляць думаюць яму балюча
бароняць заразы цытрыны свая

***II***

Ціт Лівій у такія раніцы
раіў келіх віна з трыма савінымі яйкамі

дзе іх узяць пакутліва думаеш ты
ля кенатафа Ціта Лівія
ў *Palazzo della Ragione*
аднекуль умешваецца Шымборска
*як прадчуваная робіцца словамі*
*музыка лесу пяяная совамі*
*як фармулюе нам вожык апорыі*
*думалі спіць а ён бачыць гісторыі*
пакуль ні соваў ні вожыкаў
гісторыі відавочна прысутныя

у Падуі Лівій нарадзіўся
выпіў першы келіх
пакуль без савіных яек
стаў улюбёнцам
падуанскіх жанчын і падуанскіх соваў
з’ехаў у Рым
напісаў 142 тамы рымскай гісторыі
выпіў 1420
паводле іншых крыніц 14200
келіхаў віна з савінымі яйкамі
вярнуўся да падуанскіх соваў
усе дарогі вядуць у Рым
усе совы лятуць у Падую

пра яйкі пісаў і Стэндаль
Стэндаль любіў не назаўтра а на закуску
звычайныя курыныя
пацвердзяць табе ў кавярні Педрокі
а тая кавярня зусім недалёка
(увага! не збівацца на рыфму!)

Бог з імі
з яйкамі совамі Стэндалем
яечняй з шасцю зыркімі вочкамі
ты вырашыў неадкладна выпіць з Лівіем
найлепей схавацца за каменем ганьбы
на камень у *Palazzo* саджалі запазыкаў
саджалі без штаноў
сядзелі пакуль не адмярзалі яйцы
ну навошта так груба?
моршчыць пародзісты нос Марэля

калі цябе зловяць каб пасадзіць без штаноў
ты з гонарам скажаш: я п’ю фалернскае
фалернскае колеру растопленага на патэльні цукру
у дзяцінстве вы рабілі з такога цукеркі
ці рабілі цукеркі з цукру Хрыстос з Пілатам?

фалернскае яны бясспрэчна пілі
пілі Ціт Лівій з Актавіянам Аўгустам
Данатэла з Гатамелатам і Дантэ
Дантэ піў у суседнім доме

фалернскае скажаш ты
пілі кентаўры і кентаўрэсы з вашых фрэсак
адну бутэльку ты давязеш да Айчыны
там вядуцца такія кентаўрэсы...
на тваёй мове кентаўрыцы
яны дадуць падуанскім фору
асабліва Марэля
калі скачаш з ёю па лугах і лясах
узлятаеш да самых соваў
вожыкі адно лыпаюць вачыма

Францішак ведае пра савіныя яйкі
Ціт Лівій раіць на дадатак
смажаных канарэек з часныком і перцам
у Полацку абыходзіліся
халодным агурочным расолам
дзе яго ўзяць пакутліва думае Францішак
у палацы біскупа пасля экзамена
усё толькі пачыналася

***III***

у капэле Скравені
душу лашчыць думка
як непарыўна зніταваныя
грахі й мастацтва

ці займала гэта карузліка Джота?
*цяпер у нас без лёстак славяць Джота*[1]
у сёмым коле пекла чэрці Дантэ
катуюць Рэджынальда Скравені
сын Рэджынальда збудаваў капэлу тую
каб выкупіць грахі татулі-ліхвяра
а Джота запрасіў на аздабленне сценаў
вось так і нарадзіўся Рэнесанс
даволі ўжо радкоў рытмізаваных!
спыняе Марэля

*на Страшным су́дзе*
*усім у сраку будзе*
кажуць гэта Адам Міцкевіч

на Страшным су́дзе ў Джота
мужчыны адлучаныя ад жанчын

відаць каб хоць там не грашылі
бо да таго месца вялікую ласку імаюць
Марэля не пагаджаецца:
каб пакутавалі ў расстанні
аднаполыя варыянты вы не разглядаеце

перад Страшным судом Джота
Францішак бачыць Вулляніцу
залатыя слівы першых грахоў
макавы россып радзімак на шыйцы
чаму ў пекле параўнаўча з раем
усё больш дынамічна і вынаходліва?
хацелася б абмеркаваць тое з Лютэрам
на жаль са старым ужо не пагаворыш
як ты пасмеў крычыць мяне апярэдзіць
шпурляецца чарніліцамі-каламаркамі
сцяна ўжо сіняя як дупа мерцвяка
у анатамічным тэатры

***IV***

у дзяцінстве ты марыў стаць паталагаанатамам
не хапіла руплівасці практыкі добрых настаўнікаў
ты заўсёды сачыў за поспехамі паталагаанатоміі
напісаў пра яе поспехі лірычны верш
заслужыў квіток у анатамічны тэатр
у заплечніку лусцік з прашута
біклажка з грапай
настальгія па бел-чырвона-белым сале

у той лістапад
гранту на тэатр яшчэ не было
у палацы дожаў у Венецыі
хацелі фантастычны адкат
сем прафесарскіх чарапоў
у зале медычнага факультэта
мелі жывых уладальнікаў
з трыма Францішак выпіваў
Богу к пахвале і люду паспалітаму
дзеля добрае навукі

тэатр поўны чалавечых целаў
аншлаг маэстра аншлаг!
Венецыя дае два целы на год
мужчыну і жанчыну
сёння самагубіца з-пад моста *Rialto*
секутар робіць першы разрэз
так рэжуць спелую дыню

першакурснікі праз аднаго траціяць прытомнасць
ад салодкага паху выканаўцы галоўнай ролі
ад вітражу чужых вантробаў
ад голаду ва ўласных кішках

твой лусцік з прашута ідзе тугавата
асістэнты рыхтуюць печ
там вараць цела каб атрымаць шкілет
тлумачыць табе спалатнелы студэнт
павісае абмяклы на тваім плячы
секутар выразае сэрца
хто сказаў што мёртвыя не баяцца смерці?

Францішак дастае караімскі піражок з Трокаў
адпівае з біклажкі грапы
ён пачаў бы першы разрэз на цалю вышэй
ягоная Паола з умелымі рукамі і вуснамі
з аўстэрыі насупроць Святой Лючыі
некалі ператворыцца ў зграбны шкілецік
сёння ён будзе любіць яе асабліва жарсна
адкрые ў яе новыя брамкі
запоўніць яе цалкам
уявіць што падзяліўся на трох
нават на чатырох Францішкаў

ты старанна запіваеш свой лусцік грапай
анатамічны тэатр робіцца прытульным
маленькі мілы Калізей
калі-небудзь ты вернешся сюды з Марэляй
Марэля любіць тэатр
святлеюць яе вочы
калі каштуе яна гэтага мёду

***V***

ты хацеў бы вучыцца ва ўніверсітэце
што тут называюць проста Бо
ты хацеў бы вучыцца ў Бо
Бо тут вучыліся Везалій і Тарквата Таса
Бо тут праціралі штаны Капернік і Казанова
Бо ля паўднёвых сходаў
цябе сустракае Лукрэцыя Карнара[2]
няхай бы сталася гераіняй
тваіх сноў і галюцынацый
Бо такі цёплы мармур
Бо такія жывыя блакітныя жылкі
Бо яе аголеныя плечы
хочацца пацалаваць ізноў

(яе доктарская ступень таксама натхняе)
Бо адной вельмі істотнай часткаю тваёй істоты
ты ўжо разумееш Пігмаліёна
Бо Тваё валадарства і сіла і слава

вы кажаце: на венецыянскім дыялекце
Бо гэта бык
на ўсіх тваіх дыялектах
Бо гэта Бо
так маленькі ты называў Бога
Бомы ў сенцах дзедавай хаты
Болю якая сведчыла што ты жывы
Бо цябе міласцівы Бог
з таго языка на свет пусціў

у Бо чуецца Борхес
*His end and his beginning*[3]
Францішак сустракаў Борхеса
у Вавілонскай бібліятэцы
ты не памыліўся
сказаў Францішак:
Парацэльс аднавіў ружу з попелу
я стаяў за калонай
тонка ўсміхнуўся Борхес

Парацэльс падаруе ружу сіньёры Лукрэцыі
ты пацалуеш мармуровае каленца
(у сексалогіі гэта называецца фетышызмам)
адчуеш на вуснах кроў ад ружавых шыпоў
Марэля затрымціць ад рэўнасці
напішаш Марэлі *sms*:
назваў тваю радзімку Лукрэцыя Карнара
адказ прыйдзе праз два дні:
*primitivo*

***VI***

сутулы Гатамелата фларэнтыйца Данатэла
набіў аскоміну яшчэ ў мастацкай школе
цябе заслужана адлічылі
ты добра маляваў адных катоў
дакладней котак
у творы Данатэла
цябе цікавіць пастамент
склеп з двума дзвярыма
дзверы жыцця на замку
дзверы смерці як і мае быць наросцеж
Сенека задаволены:
*дзверы адчыненыя можаш пайсці*

у Святой Джустыне мошчы святога Лукі
(яго не адлічылі з мастацкай школы)
адзіны з апосталаў не габрэй
адзіны неабрэзаны
ты ніколі не быў антысемітам
але прыемна ўсведамляць:
апосталам можа стаць не толькі габрэй

на сцяне базілікі направа ад увахода
графіці з лічбамі
такое ты бачыў у Горадні на Каложы:
*тут я і Нэлі саграшылі*
*пачалі 21.30 скончылі 22.15*
відаць былі школьнікі
або настаўнік і вучаніца
або вучань і настаўніца
настаўніца анатоміі
як некалі ў цябе

твой сябар дзяліўся:
з настаўніцай займаемся 45 хвілін
з дацэнткай акадэмічную па́ру
дацэнтка любіла казаць вам
секс дае адчуванне што мы жывыя
называла твайго сябра мядовым катом
цяпер ён там
дзе ўсё больш дынамічна і вынаходліва
праўда настаўніцы і дацэнткі
асобна ад вучняў і студэнтаў
затое разам з вучаніцамі і студэнткамі
тут Джота даў пудлу

твой сябар быў скульптарам
так і не даведаўся што Гатамелата
ў перакладзе мядовы кот
на памінках дацэнтка
узяла пад сталом тваю руку
дацэнтка ўмела гаварыць аксамітным шэптам
*мужчына не бывае старэйшым за жанчыну*
*якую ён зараз абдымае*
ты абяцаў падумаць над прапановай

пражскі рабін Лёў казаў Францішку
на гэтым свеце не здзіўляйся ніякай праяве
на тым свеце не здзіўляйся таксама
Голем моўчкі забаўляўся з айфонам

***VII***

на Падую падаюць ападкі
у выглядзе мокрага дажджу
з пялёсткамі марэляў
нясіце прэч парасоны!
у часы перамогі на Сініх Водах
Венецыя дала грант
на бясконцыя лабірынты аркадаў

той лістапад
быў знобкі і мокры
дакладна як у Полацку
праўда ў Полацку няма аркадаў
гарачага віна з прыправамі і грапы
учора доктар медыцыны Франчэска Фульманелі
узяў яго ў аркадах за гузік:
слухай цёзка чым у тваёй Гіпербарэі
ратуюцца ў гэткую непагадзь?
захапі наступнага разу пляшачку
дзеля пажытку добрага ў прадрыглым Бо

у падуанскіх аркадах
падуанкі аддана падаюць
у абдымкі чужаземцаў
так у вечаровым сутонні
падаюць у далоні
спелыя бэры і сапяжанкі
так падаюць на вусны
кроплі сляпога дажджу
у тваіх шыротах яго завуць
*слёзы прынцэсы*

твая прынцэса бярэ цябе за руку
потым за нешта яшчэ
вядзе пад скляпенні з соннымі кажанамі
там пахне канваліямі і кавай
там няма ўсталяваных у часы Нерона відэакамер
там прыходзіць на дапамогу паэт Алег Мінкін
*у жорнах дзён бязлітасных і мулкіх*
*вы схочаце на міг знайсці спачын*
*і ўспомніце шукаючы прытулку*
*абдымкі ратавальныя жанчын*
*і ўчуеце рыпенне ложкаў мяккіх*
*і шолах сукні і канвалій пах*
*і сэрца будзе гулка-гулка таххаць*
*скрозь недавер застылы на губах*
ложкаў няма

ложкі выкрасліў за саветамі пільны рэдактар
ёсць ціхія ўскрыкі
смех на зразумелай кажанам мове
гэта толькі працяг верша
ты чуеш Марэля?

кажаны вылятаюць на начны дазор
калісьці ты хацеў стаць кажаном
учаперыцца ў валасы
настаўніцы анатоміі
ты быў цяжкім падлеткам
настаўніца ўсё зразумела

*What is your name my darling?*
*My name is Padova*[4]
адказвае духмяная цемра

***VIII***

на *Prato della Valle*
каб не згубіцца не разгубіцца
не шукаць паратунку ў канале
пачынаеш шукаць знаёмых

той сіньёр выліты ваш прафесар
прафесар быў улюбёны ў Рым і італікаў
натхнёна прамаўляў за далёкай катэдрай
вы глядзелі эратычныя сны
смакталі праз саломінку
вугорскае віно *Bykaver*
зялёныя пляшкі нагадвалі цэнтурыёнаў
аўдыторыя нагадвала амфітэатр
Наташа з вашай групы
рабіла на верхнім ярусе мінеты
свайму хлопцу з пятага курса
праз плошчу з цікавасцю назіралі
партрэты членаў палітбюро
на Доме ўрада
да Падуі было гэтаксама блізка
як да Марэлі
Марэля не хацела есці суп у дзіцячым садку
любіла збіраць з бабуляю дзьмухаўцы

на *Prato della Valle*
статуі славутых падуанцаў
не зводзяць з цябе вачэй
яны пакрыёма мяняюцца месцамі

яны не супраць каб іх зрабілася болей
надакучылі за столькі гадоў адна адной
даведнік сцвярджае: статуй семдзесят восем
у цябе атрымліваецца семдзесят дзевяць
зноў семдзесят дзевяць
адна статуя відавочна дыхае
ля ног бляшанка з-пад цукерак *Mozart*
ты апускаеш у бляшанку два еўра
*grazie singor* кажа статуя
*let's have dinner shall we* кажаш ты
*sorry I can't I'm married*[5]
адказвае статуя з польскім акцэнтам

Францішку прасцей чым табе
падумаеш нейкія статуі
сам стаіць у пяці гарадах у трох краінах
самы недарэчны ў Празе
навошта яму пяро ў руцэ?
Францішак ужо тройчы адломваў
уторкнуў б скульптару тое пяро ў сраку
Міцкевіч быў бы задаволены

ты не дарэмна баішся статуй
у дзяцінстве начытаўся Мерымэ
начаваў дома адзін
прахапіўся
а ў дзвярах Венера Ільская
масянжовая
з пацінай
на ўзножжы як у Мерымэ
*CAVE AMANTEM*
*сцеражыся той што цябе пакахае*
працягвае да ложка рукі

ты думаў памрэш
не памёр
прыехаў у Падую
запытаўся ў юнай экскурсаводкі
ці былі ў яе галюцынацыі
ці чытала яна Мерымэ
адказ адмоўны
дарма што Кармен
заўтра запытаеш пра іншае

***IX***

у Зале сарака[6]
Кармен ты і сорак кітайцаў

жуюць паціху ластаўчыны гнёзды
ведаюць кітайцы гнёзды свая

што ты хочаш спытаць у Францішка?
ці былі ў яго жанчыны ў Падуі?
*у Падуі была Паола*
*хацела ад мяне дзетку*
ці быў ён шчаслівы з Маргарытай?
*усё пачалося яшчэ пры жывым мужы*
*кожны мае права на таямніцу*

Францішак глядзіць на свой партрэт
худы голены коратка стрыжаны
хто заўгодна толькі не ён
нічога дзіўнага
з мастаком яны сустрэліся тады ўпершыню
Джакома Форна[7] трыццаць тры
плямка вохры на лбе
падобны на дзятла
Беніта Мусаліні пяцьдзясят дзевяць
падобны на дучэ
да выхаду Італіі з вайны роўна год
*мастацтва належыць народу* абвяшчае дучэ
на плячо дучэ сядае матылёк з чорнымі крылцамі
мастак Джакома Форна жагнаецца
*Franciscus Skoryna de Poloczko* чытае дучэ
*там ваююць мае хлопчыкі*

Францішак памятае як у Беразвеччы
немцы расстрэльвалі палонных італьянцаў
адзін лейтэнант трымаў у руцэ рамонак
да астатняга імгнення абрываў пялёсткі
кахае – не кахае?
жыццё – небыццё?

Францішак бачыў дучэ і Клару Петачы
на міланскай бензакалонцы
Беніта і Клара не запраўлялі аўтамабілі
віселі дагары нагамі як упаляваныя
звяры ходзячыя ў пустыні ці знаюць ямы свая?
Францішак бачыў дом
дзе Беніта абняў Клару перад расстрэлам
мастак Джакома Форна
не дачакаўся мемарыяльнай дошкі
Клару застрэлілі першай
Францішак паклаў пры дошцы
шэры каменьчык
Клара на партрэце такая летуценная

твая экскурсія сёння апошняя
пад партрэтам Францішка
катэдра Галілея
паўтара чалавечыя росты
усярэдзіне можна схавацца
бюст Галілея не пярэчыць
табе робіцца горача
героі Джота
ужо валакуць цябе туды
дзе ўсё больш вынаходліва
*ты не хацела б застацца тут налач?*
Кармен не збіраецца стаць беспрацоўнай
Кармен круціць пальцам каля скроні
выходзіць за кітайцамі
у катэдры можна выцягнуцца на падлозе
паслухаць як працуе шашаль гісторыі
цудоўная кажу вам калыханка

***X***

ты выбіраешся з катэдры
пасля кароткага здаровага сну
фрэскі ў аліўкавым святле месяца
Стэфан Баторый мружыць вочы
Галілей парыпвае катэдрай
да праймы з анатамічнага тэатра
лепей не прынюхвацца

у дзверы шкрабецца мышка
зялёная сукенка з фальбонамі
пляшка *Primitivo*
такая самая ў тваім заплечніку
піца не паспела астыць
*заўтра мяне звольняць з працы*
Уільям Харві[8] з процілеглай сцяны
чуе як разганяецца твая кроў
ты даруеш мне Марэля?

Кармен хоча зверху
зялёная сукенка не замінае
Зала сарака
поўніцца таемнымі рухамі
нявымаўленымі на розных мовах словамі

*напэўна я німфаманка*
*мне хочацца з усімі імі*
Галілей шкадуе што ён толькі бюст
Баторый гатовы ўступіць у гульню

Ян Каханоўскі цалкам на баку Баторыя
*як тваё сэрца?*
адкуль яна ведае пра сэрца?

Кармен не збіваецца з рытму
назва рытму ўвекавечаная на фрэсцы:
*de Poloczko*
*de Poloczko de Poloczko*
Галілей хутка грымнецца з катэдры
*de Poloczko de Poloczko*
чаму табе мрояцца залацістыя хрызантэмы?
*de Poloczko de Poloczko*
на партрэце Баторыя толькі карона і кніга
*de Poloczko de Poloczko*
на партрэце Яна Каханоўскага гуляе ветрык
*de Poloczko de Poloczko*

з-за катэдры выходзяць
Марэля і Францішак
Францішак у доктарскай мантыі
у руцэ ў Марэлі
залацістая хрызантэма

*6 жніўня 2017*

---

[1] Радок з “Боскай камедыі” Дантэ.

[2] Лукрэцыя Карнара (1646 – 1684), італьянскі матэматык і філосаф, першая жанчына з доктарскай ступенню.

[3] Навела Хорхе Луіса Борхеса.

[4] *Як цябе завуць, дарагая? – Мяне завуць Падуя* (*англ.*). Padova – італ. назва Падуі.

[5] *Давайце павячэраем разам. – Прабачце, не магу. Я замужам* (*англ.*).

[6] Зала з фрэскавымі партрэтамі сарака найславуцейшых іншаземцаў – выхаванцаў Падуанскага ўніверсітэта.

[7] Джакома Форна (1909 – 1989), італьянскі мастак, аўтар фрэсак у Зале сарака (1942 г.)

[8] Уільям Харві (1578 – 1657), англійскі медык, першаадкрывальнік цыркуляцыі крыві.

Ілля Сін



...міжмоўе, калі вымушанае маўчанне
не прарастае словамі, захрасаючы ў роце,
бы пялёсткі пластмасавых ружаў...

# Libido

***Урывак з рамана***

Некалі вузкакалейка віхляла паміж раскіданымі ў ваколіцах горада шахтамі і заводамі, але цяпер адзіны ацалелы ад яе невялічкі ўчастак выкарыстоўваецца толькі для забавы турыстаў у парку адпачынку.

Марыя папраўляе сваю кандуктарскую фуражку і пасміхаецца, скасоўваючы квіткі, працягнутыя вусатым айцом сямейства. Ужо восень, гэта адзін з апошніх рэйсаў, і вагончыкі напаўпустыя.

Нечакана яркія промні кастрычніцкага сонца трапляюць ёй у вочы, і яна прымружваецца.

Рабаціністы хлопчык злізвае кроплі лёдава з вуснаў. Цяпер яны сталі не толькі пульхнымі, але і клейкімі.

Пасажыры расселіся па сваіх месцах. Марыя дзьме ў свісток, і праз колькі імгненняў амаль цацачны паравозік кранаецца з месца, пыхкаючы прыемным саладжавым дымам.

Колы кратаюцца паволі, нібы неахвотна, але неўзабаве ўваходзяць у роўны спакойны рытм – бы кардыяграма задаволенага жыццём пенсіянера. Марыя на нейкі час паддаецца гіпнатычнаму эфекту, ад чаго яе твар набывае яшчэ большую ўрачыстасць – цалкам адпаведную ролі.

Праз нязлоснае, амаль жывое чухканне даносіцца смех. Нехта ўголас чытае на абгортцы чыпсаў склад прадукту па-казахску.

Вагончыкі прамінаюць масток па-над невялічкім каналам і неўзабаве губляюцца паміж дзвюх сценаў непралазнага гаю (гэтая частка парку паспела зарасці ўшчэнт). Потым сонца з'яўляецца зноў – паравозік ускараскаўся на схіл.

Марыя пэўны час не адчувае нічога, і гэта прыемна.

Неўзабаве кола скончыцца, цягнічок прыбудзе да цацачнага перона, Марыя пачакае, пакуль задаволеныя пасажыры выгрузяцца на платформу, пасміхнецца ім на развітанне, скажа кожнаму "да пабачэння", пераапране свой шыкоўны мундзір на звычайныя джынсы ды швэдар і будзе паўгадзіны трэсціся ў перапоўненай маршрутцы.

Гэта, напэўна, апошні сёлета сонечны дзень і апошні дзень яе працы. На зіму давядзецца ўладкоўвацца прадавачкай альбо прыбіральшчыцай.

Па дарозе дадому Марыя зойдзе ў краму, каб набыць недарагіх сасісак і пачак цыгарэт. Дома яе, вядома, ніхто не чакае. Будзе да ночы сядзець ля вакна, узгрувасціўшы ногі на батарэю, піць гарбату і паліць адну за адной.

У гэтым горадзе яе ніхто не ведае, і гэта добра.

Чыгуначную каляіну перабягае ці то палёўка, ці то пацук, і дзятва ледзь не выкідваецца з вагонаў ад захаплення.

* * *

Ідэальна круглая пройма ў асфальце. Шахта люка паспела ўжо напоўніцца розным лайном. Што і нядзіўна, бо чыгунную накрыўку здалі на металалом не адзін год таму.

У асноўным, гэта абгорткі і пластыкавыя бутэлькі. Але не толькі, ёсць і нешта куды цікавейшае.

Дванаццаць гадоў таму шкаляры Жэка і Вака скінулі ў люк знойдзены непадалёк на сметніцы гіпсавы бюсцік Леніна – выключна з пазнаваўчых мэтаў.

Цяпер Жэка працуе наглядчыкам у мясцовай калоніі. Ён трохі распаўнеў пасля таго, як ажаніўся, але б'е па-ранейшаму з левай.

Шахта выявілася неглыбокай, гіпс з плюханнем акунуўся ў застаялую ваду. Праз пэўны час дыфузія зрабіла сваё: цвёрдае цела ператварылася ў аморфнае і пастападобнае. Яно ўсмактала ў сябе набраклую тушку мёртвага ката (на наступны год кінутую ў люк хлопчыкамі з паралельнага класа), і ў выніку дзве абсалютна розныя рэчы сталі нечым адным.

Усе гэтыя цікавыя хімічныя працэсы адбываліся ў поўнай цемрадзі, бо нейкі руплівец закрыў адтуліну самаробным шчытом з негабляваных дошак. Праз нейкі час шчыт прагніў ды абрынуўся, і смецце стала ізноў трапляць у люк – з розных прычынаў і з розных крыніцаў.

Марыя праходзіць міма люка, гледзячы некуды наўзбоч, у вышыню. Галінкі чахлых таполяў паабапал дарогі ўжо амаль пазбаўлены лісця, іх чорная павута выразна прамалёўваецца на тле шарага вечаровага неба.

* * *

На пліце закіпае вада для макароны. На кухонным стале ляжаць іншыя кампаненты будучай сціплай вячэры – плаўлены сырок і самотная сардэлька. Ёсць яшчэ палова ўчарашняй цыбуліны ды счарсцвелы хлебны акраец.

Усе элементы гэтага нацюрморта ў сукупнасці ўвасабляюць абсалютную статычнасць. Як, зрэшты, і краявід за вакном: такія самыя падрапаныя панельныя дамы, як і той, дзе жыве Марыя. Кожны з іх мае ўласны нумар, выведзены чырвонай фарбай, бы лічбы на сэрцы.

Марыі часта здаецца, быццам з вышыні птушынага палёту гэтыя дамы выглядаюць на забытыя ў пясочніцы цацкі: дзеці даўно ўжо выраслі, сталі піць піва і нюхаць клей, скончылі ПТВ, ажаніліся і развяліся, а цацкі ўсё яшчэ ляжаць у пясочніцы, падуладныя розным стыхіям. Нібы самае ўпартае і недарэчнае з усіх магчымых увасабленняў стабільнасці ды непарушнасці.

Па іроніі лёсу, гэтыя пяціпавярхоўкі з’явіліся тут некалі менавіта як прыкмета руху, імклівага і бяздумнага ў сваёй жывёльнай вітальнасці. Горад вырас амаль што ў біблійных тэмпах. У панядзелак узніклі рыдваны пад новыя заводы, у аўторак раскашавалі жылыя мікраараёны, у сераду – крамы і дамы культуры, а ў суботу пэпээснікі ўжо запхнулі ў мясцовую кутузку першага алкаша, які акрапіў мачой тыльны бок свежапафарбаванай дошкі гонару – на яе акурат у нядзелю планавалі павесіць першыя партрэты перадавікоў.

Але, натварыўшы тут справаў, рух вырушыў некуды далей, пакінуўшы за сваёй патыліцай незваротна сапсаваны ім прыродны ландшафт і пару соцень тысяч ягоных ачумелых насельнікаў, што і пасюль марна сіляцца зразумець, як і навошта яны тут з’явіліся.

Марыя тут не нараджалася. Пяць гадоў таму яна выбрала гэты горад наўгад, тыцнуўшы пальцам у тэлефонны даведнік. Бо трэба было кудысьці ехаць і дзесьці жыць.

Горад сустрэў яе абыякава. Была непераканаўчая ранняя вясна, вецер разносіў па прывакзальным пляцы пажухлыя лісты і малагабарытнае смецце. На адным з шапікаў красаваў надпіс пра распродаж гумовых ботаў. Бетонны пашчэрблены правадыр з вышыні свайго пастамента кпліва назіраў за мітуснёй гандляроў рыззём, якія бавілі час у млявых сварках. Свінцовыя аблокі раптам перарэзаў след ад рэактыўнага самалёта, і гэты рух у вышніх сферах выглядаў на сапраўдны здзек з тых, хто апынуўся пад непераадольнай уладай зямнога прыцягнення.

Асфальт пакрыты тонкай сеткай капіляраў. Дзяўчына фарбуе вусны, углядаючыся ў свой адбітак на пыльным футарале з “переходящим знаменем”. Дошка гонару з белымі прагаламі замест партрэтаў. На праржаўленай будцы аўтобуснага прыпынку красуе распалавінены рэкламны слоган “І ўсё”.

Кожная з дэталяў існавала нібы паасобку, вылучаная з агульнага плану светабудовы. Рухалася ў нейкім сваім адасобленым рытме, хіба чыста механічна сінхранізуючыся з усім астатнім – альбо гэтаксама адасоблена захоўвала гордую непарушнасць.

Марыя адразу адчула сябе адной з такіх дэталяў, і гэта было акурат тое, чаго яна хацела.

З таго часу тут мала што змянілася. Адно, кожная дэталь дарэшты

страціла для яе сваю вастрыню ўспрыняцця, пакрылася наростам успамінаў – як аскепкі шкла, што ладны час праляжалі ў рацэ, – а затым і наогул перастала быць заўважнай і хоць неяк адзначацца вокам. Абыходзячы запоўненую вадой выбоіну ў асфальце на шляху да яе пад’езду, Марыя нават не глядзела ў той бок, беспахібна абіраючы на аўтапілоце правільную траекторыю руху.

Болей за тое, гэткую самую рэакцыю пачалі выклікаць у яе і новыя, пакуль незнаёмыя дэталі. Напрыклад, купкі неахайна апранутых людзей, якія ледзь не штодня збіраліся на заўсёды пустэльнай раней цэнтральнай плошчы горада, крычалі нейкія лозунгі, палілі вогнішчы, доўга і нярвова спявалі забытыя Марыяй яшчэ ў дзяцінстве песні.

Нягледзячы на свой тлумны выгляд, яны выдатна ўпісаліся ва ўжо існы ландшафт. Як быццам масоўка з бутафорскімі шаблямі і на драўляных канях, што даўно чакала выхаду на сцэну за кулісамі камернай побытавай драмы.

...Між тым, у алюмініевым рондалі нарэшце з’явіліся бурбалкі. Хоць нейкая падзея! Марыя засыпае туды соль і макароны, змяншае агонь, доўга памешвае пашчэрбленай драўлянай лыжкай, апускае накрыўку і вяртаецца на сваё месца каля вакна. Цяпер трэба зноў чакаць.

Яна так і не змагла прызвычаіцца да чакання.

* * *

На кухні неспадзеўкі сцямнела. Марыя пстрыкае запальнічкай. Полымя на імгненне асляпляе яе, ўгрызаючыся ў сятчатку вока. Потым эфект знікае. Марыя пстрыкае запальнічкай у другі раз. Цяпер светлавы шок ужо не такі моцны – сятчатка паспела трохі адаптавацца.

Марыя думае пра Іншага, з’яўленне якога здатнае зрабіць няважнымі гэтую змятую прасціну, парыжэлы лінолеум на кухні і шызае святло, што сочыцца праз праймы жалюзі.

Іншы паўстае ў яе ўяўленні не як канкрэтны вобраз, але як нейкае прадчуванне, пэўная эмацыйная хваля. Як, напрыклад, *дом*. У Марыі ўжо даўно няма дома, і таму ён таксама з’яўляецца для яе неасязальнай эмацыйнай хваляй.

Адзінота стала ейным выбарам і адначасова выпрабаваннем. Але Марыі хочацца выкарыстоўваць яе як інструмент – своеасаблівы разец скульптара, здатны надаць эмацыйнай хвалі выразныя абрысы. Спакваля адсякаць лішняе, каб з бясформеннай масы сталі вымалёўвацца ручкі, ножкі, галоўка. Каб урэшце гэтая маса набыла аблічча чалавека – іншага чалавека, які будзе заўсёды побач.

Але яна ўжо ведае, што адзінота – гэта дрэнны сродак для пераўтварэння сусвету. Такі інструмент абсалютна нефункцыянальны.

Марыя ненадоўга замірае, услухоўваючыся ў мернае пагрукванне на пліце накрыўкі рондаля, што раз-пораз ўздрыгвае ад пары.

Адзінота здатная адно зрабіць гэты свет яшчэ больш аморфным – нават тыя яго праявы, якія маюць пэўныя абрысы і якія можна памацаць рукамі.

Схамянуўшыся, Марыя ўстае, разгублена топчацца на месцы. Затым ідзе ў пакой. Звычайна шлях туды яна пераадольвае за восем крокаў, але гэтым разам атрымалася адзінаццаць.

Па тэлевізары паказваюць канцэрт нейкага гурта. Марыя, як заўсёды,

адключыла гук, і таму імпульсіўныя артыстычныя жэсты выглядаюць яшчэ больш смешна. Гітарыст рухаецца па сцэне з такім сур'ёзным выглядам, быццам кожны крок набліжае яго да жыццёвай мэты. Вакаліст выцягнуў уперад правую руку са скурчанымі пальцамі – нібы тапелец, які ўмольна просіць дапамогі.

"Што яны ўсім гэтым хочуць сказаць?" – дзівіцца Марыя.

Зрэшты, такім самым адчужаным цяпер падаецца ёй усё, што яна здатная бачыць, прымройваць, успамінаць. Прычынна-выніковыя повязі некуды зніклі, пакінуўшы розныя з'явы нягегла церціся адна аб адну ў бессэнсоўным броўнаўскім руху. Без усялякай надзеі на стыкоўку.

Адзінота ніяк не здатная аднавіць гэтыя повязі, колькі ні намагайся. Гэта амаль тое самае, што склеіць раструшчаную елачную цацку.

Вобраз Іншага ў яе ўяўленні чэзне, расплываецца, знікае.

Макарона, тым часам, ужо зварылася. Марыя вяртаецца на кухню, выплёхвае на друшляк клейкае месіва, дадае туды сардэльку і сырок. Ідзе ў пакой. Цяпер атрымалася роўна восем крокаў. Есць, не адчуваючы смаку.

Раптам без дай прычыны ёй становіцца смешна. Сардэлька выклікае ў яе непрыстойныя дзіцячыя асацыяцыі, і Марыя тут жа спяшаецца апавесці іх Іншаму, якога хаця б ненадоўга зноў адчувае побач.

Смех праходзіць сам сабою, саступаючы месца пустэчы.

Вакаліст заканчвае спяваць і застывае ў гераічнай позе. Муха, якая паўзе па тэлевізары, захоплена і палюбоўна абмацвае твар куміра сваімі лапкамі.

* * *

Гэтай ноччу Марыя прачынаецца ад пранізлівага холаду. Сцюдзёны вецер падступна пранікае праз шчылінкі ў старых ваконных рамах, пракрадаецца пад коўдру, пакрывае скуру дробнымі пупырышкамі.

Марыя сціскаецца ў камячок, сілячыся сагрэцца. Устае, апранае швэдар і цёплыя калготкі. Кладзецца зноў. Стала значна цяплей.

Нерухома ляжыць, стараючыся ні пра што не думаць. Услухоўваецца ў буркаценне ў жываце, адчувае ледзь прыкметны трэмар у мускулах пляча. Ёй прыемна ўсведамляць сябе выключна як сукупнасць розных фізіялагічных працэсаў.

Марыі цяпер вельмі хочацца, каб гэты стан працягваўся і каб далейшае яе перабыванне ў гэтым свеце было недзе на самым памежжы жывой і нежывой прыроды. Біялагічная рэдукцыя ўяўляецца ёй сапраўдным паратункам. Лішайнікі, імхі, на скрайні выпадак, амёбы...

Але яна ведае, што ўзяць ды пазбыцца чалавечай сутнасці наўрад ці ўдасца. Хоцькі-няхоцькі, гэтае ярмо давядзецца трываць.

Пашчэрблены месяц абыякава паўзе па халодным бэзавым небе. Дыханне Марыі цяжкае і перарывістае. Пакуль пустэча і непарушнасць, але яна прадчувае: нешта неўзабаве будзе дзеіцца.

Яна ведае, гэта акурат такая ноч, калі мёртвыя ўстаюць са сваіх магілаў. І гэта яе мерцвякі. Кожны з іх мае твар. І кожны з гэтых твараў Марыі знаёмы. Пры сустрэчы яна не здолее проста прайсці міма, адвёўшы позірк убок.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі твой горад...*

Успаміны, як заўсёды, прыходзяць без запрашэння. Віно мякка дакранаецца да нёба, а пальцы адчуваюць вострыя канты келіха. Вусны зліваюцца

з вуснамі. Па шыферным даху барабаніць дождж – па даху таго дамка з негабляваных дошак, з ганку якога відаць мора.

Рукі абхопліваюць мускулістае каржакаватае цела, шчокі казыча колкае шчэцце...

У гэтую пару, апанаваную бессанню, Марыя можа пераскокваць праз гады і неспадзеўкі апынацца ў іншым месцы, іншым часе і зусім іншых жыццёвых варунках. Перажываць іх бы наяве, губляючы арыентацыю, хто яна і дзе.

Успаміны спараджаюць пякотку ў роце. Кожны з тых момантаў, якія ніколі не вернуцца, упінаецца ў яе цела малюткай іголачкай. Але яна ведае, што боль незваротнага – гэта толькі прэлюдыя.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі тваю вуліцу...*

Здаецца, праз шчылінкі паміж шыбай і рамай разам з ветрам пранікае і іх дыханне. А шоргат дажджу па асфальце прызначаны адно на тое, каб заглушыць і без таго амаль нячутны поступ іхніх ног.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі твой дом...*

Калісьці гэтыя людзі былі Марыі вельмі блізкімі, нейкі час яны нават былі адным з ёю целам.

Але гэта было даўно. Іх целы ўжо канчаткова і незваротна набылі аўтаномнасць. У дадзены момант кожнае з іх, напэўна, бесклапотна спіць, і сніцца гэтым людзям, вядома ж, зусім не Марыя.

У той самы час, калі іх фантомы няўмольна набліжаюцца да яе – бы зомбі ў галівудскіх фільмах.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі тваю кватэру...*

Марыя з жахам углядаецца ў цьмяныя абрысы рэчаў і мэблі, у ноч, у дождж. Яна пачуваецца абсалютна безабароннай.

Ёй карціць залезці пад канапу, скруціцца камячком ды запхнуцца ў шафу, павіснуць пад столлю на жырандолі.

А можа, лепей проста прыкінуцца мёртвай?

Але яна разумее, што ад іх не схавацца. Дэманы мінулага ведаюць усе слабыя месцы ў яе фартыфікацыйнай сістэме. Марыя адчувае іх няспешны ўпэўнены поступ – ужо зусім блізка.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі цябе, гатовую ўсікацца ад страху...*

Яны апынаюцца побач з ёю неспадзеўкі, разам і адначасова. Упэўненыя рукі сцягваюць калготкі, рассоўваюць яе сцёгны, трымаюць за рукі... Зніякаявелая і здранцвелая, Марыя не можа нават паварушыцца. Яна не крычыць і не супраціўляецца, адно ціха енчыць сабе пад нос, бы смяротна паранены дэльфін.

Дэманы мінулага могуць рабіць з ёю ўсё, што пажадаюць. І робяць.

Неўзабаве ейнае цела скаланаецца ад болю. Курчыцца ў канвульсіях, амаль не зрушваючыся з месца. Няголеныя падпашкі ад поту ператвараюцца ў балота.

Перад ёю – твары, твары і твары. Яны змяняюцца, часам наслойваючыся адзін на адзін. Вусатыя, гладка паголеныя, спярэшчаныя зморшчынамі... Выраз кожнага з іх удае жарсць, але Марыю гэтым не падмануць.

Яно трывае, здаецца, бясконца. Кожнае імгненне становіцца надзіва пругкім ды эластычным ды завісае ў паветры замест таго, каб мякка адысці ў небыццё.

Твары становяцца ўсё больш невыразнымі. Гэта значыць, што прыйшоў час дублёраў. Але сваю справу яны выконваюць таксама старанна.

Марыя бы лялька ляжыць на спіне, стараючыся ні пра што не думаць і нічога не ўспрымаць.

– Калі я вынесу ўсіх нябожчыкаў са сваёй памяці? Калі я вынесу ўсіх нябожчыкаў са сваёй памяці? Калі я вынесу ўсіх нябожчыкаў са сваёй памяці? – бясконца шэпча яна, ажно пакуль – нібы паратунак звыш – не прыходзіць крохкі нервовы сон.

* * *

Спярша змацоўваем дзве сцяблінкі ў самым нізе, затым ахайна іх сплятаем, затым дадаем лісткі – не меней за пяць – потым насаджваем на атрыманы каркас галоўкі ружаў, стараючыся захаваць законы сіметрыі. Затым трэба паўтарыць тое самае.

Марыя цяпер працуе ў кустарнай майстэрні па вырабе пластмасавых кветак, размешчанай у звычайным гаражы. Замоваў дастаткова шмат – лічы, сезон – і часта ёй даводзіцца праседжваць на працы да позняга вечара.

З рохканнем накручвае свае колы сансары старэнькі вентылятар. Калі ягоныя лопасці паварочваюцца да стала, купка сцяблінак пачынае лёгка трымцець. У роце Марыі – чамусьці саланаваты прысмак.

Святло слабенькай лямпачкі без абажура бязладна рассейваецца па-над усім гаражом, спараджаючы сапраўдны тэатр ценяў. Кветкі, якія выглядаюць драпежнымі, чалавечыя рукі (іх ахвяры), выпадковыя прадметы (проста сведкі)... У свеце ценяў характар узаемадзеяння гэтых чыннікаў падаецца зусім іншым, ніж ён ёсць насамрэч.

Марыя паспяхова сканчае вытворчы цыкл і тут жа набірае новы камплект сцяблінак, лісткоў і галовак.

Пластмасавыя кветкі чамусьці атрымліваюцца ненатуральна яркімі і – гэтаксама ж ненатуральна – дасканалымі па сваёй форме.

За суседнім сталом шчыруе Елізавета Міхайлаўна. Праца выходзіць у яе наздзіў шпарка. Ейныя тоўстыя пальцы з адрузлай скурай і кароткімі бруднымі пазногцямі ўвішна сплятаюць зялёныя сцяблінкі ды націнаюць на іх чырвоныя суквецці. Вусны пры гэтым напяваюць нешта з рэпертуару Укупніка, забяспечваючы ці не кожны радок каментарамі з багатага жыццёвага досведу. У глыбокія барозны зморшчынаў на яе твары трапляе святло настольнае лямпы, і яго ледзь прыкметная воку гульня дадае гэтай кабеце яшчэ большую рухавасць.

Елізавета Міхайлаўна падобная да павучыхі, якая імкнецца ахапіць усю даступную ёй прастору, знітаваць сваімі ніткамі тыя рэчы і з'явы, якія здавалася б, месцяцца зусім далёка адна ад адной і зусім непрыдатныя для знітоўвання. Ніткі вільготныя і клейкія.

Гатовыя кветкі складаюцца ў вялізную кардонную скрыню, і за восем гадзін працы іх там назапашваецца прыблізна дзве тысячы. Ужо праз дзень-два яны разыйдуцца па свежых грудках, чые будучыя насельнікі пакуль яшчэ бесклапотна пацягваюць сваю гарбату альбо бырла.

Поруч з Елізаветай Міхайлаўнай Марыя пачувае сябе няўклюдна ды няўпэўнена, яна не ведае, як з гэтым змагацца і ці наогул трэба. Вядома, часам ёй даводзіцца нешта адказваць. Часам вокрыкі Елізаветы Міхайлаўны

ратуюць яе ад нечаканага наплыву ўспамінаў, што, як заўсёды, здараецца ў самы неспрыяльны момант.

Але гэтым разам Марыя балюча ўкалола палец, калі яе напарніца зноў прыгадала сваю ўлюбёную прымаўку пра шлях да мужчыны праз ягоны страўнік. Не абышлося без лаянкі.

Тут шэрыя неатынкаваныя сцены з аблупінамі старой фарбы і намёртва ўпаянымі ў бетон шматкамі старых газетаў. Гэтай пярэстай паверхні ўласцівая дзіўная фактура, і ўглядацца ў яе можна да бясконцасці: гэта супакойвае.

Марыя кладзе ў кошык чарговую гатовую кветку. Шурпатая нізкаякасная пластмаса непрыемна трэцца аб фаланґі ейных пальцаў. Але гэтае тактыльнае адчуванне неспадзеўкі надае ёй бадзёрасці, яно нібыта вяртае да рэчаіснасці з той прастрацыі, куды так часта трапляе Марыя. Праца ідзе трохі весялей, але зусім нядоўга.

Па радыё Колька віншуе сваю малую Настку Зелянуху з паспяховым выключэннем з хабзы за прагулы і просіць паставіць чырвоную плесню.

Яшчэ толькі дванаццаць. Дакладней, дванаццаць нуль восем, але гэта не так ужо і істотна. Да канца працоўнага дня застаецца як мінімум шэсць гадзінаў.

Марыя спрабуе надаць сваім рухам манатоннасць ды ўявіць, быццам яна – аўтамат. Атрымліваецца не надта ўдала. Сцябло выпадае з яе пальцаў, Елізавета Міхайлаўна перапыняе свой аповед, каб спытаць, у каго яна закаханая.

Тады Марыя мяняе тактыку і заклікае ў сваю свядомасць дэманаў радасці з прыгаршнямі, поўнымі эндакрынаў. Але вольных паблізу не аказалася, усе былі занятыя на іншай працы альбо паленаваліся адгукацца на яе выклікі, а прынаджваць іх пэўнымі рэчывамі ў дадзеным выпадку наўрад ці мэтазгодна.

Стары будзільнік на століку павольна адлічвае свае хвіліны. Відавочна, ён зусім не адаптаваўся да цяперашняй хуткаплыннай эпохі, час у гэтым гадзінніку ідзе гэтаксама размерана, як у старых фільмах пра партызан або міліцыянераў, што здаваліся іх стваральнікам вострасюжэтнымі.

Марыя ўздыхае. Перакруцціць старую кінастужку ў паскораным тэмпе наўрад ці атрымаецца – яна проста парвецца.

Не зважаючы на раздражнёныя позіркі, Марыя зноў адкладае працу ды выходзіць на ганак папаліць. Пэўны час пальцы яшчэ адчуваюць тую шурпатасць, якая можа быць уласцівай толькі штучным кветкам.

* * *

Марыі вельмі падабаецца ламаць і грызці штучныя пялёсткі, хаця пах у іх далёка не самы лепшы. Перад выхадам з працы яна набірае цэлыя кішэні шурпатай зялёнай пластмасы з кардоннай скрыні, на якой напісана “брак”.

Елізавета Міхайлаўна заўсёды здзіўляецца: навошта? Маючы практычны розум, яна безвынікова сіліцца дапяць, якую карысць можа прынесці ў гаспадарцы гэтае лайно.

Калі ўвечары Марыя сядзіць за кампутарам, яна раз-пораз засоўвае руку ў кішэню, наўгад дастае адтуль кавалачак і, бы дзіця, запіхвае яго ў рот. Зубы фіксуюць выгіны формы, язык плаўна праходзіцца па няроўнай фактуры, адзначаючы шматлікія атожылкі.

Гэты мілы занятак – добры паратунак ад дэманаў мінулага, якія ў такую пару сутак асабліва сіляцца ўцягнуць Марыю ў свае віры беспрычынных успамінаў.

Рух, адчуванні болю і смаку – акурат тое, чаго хранічна не стае Марыі. Але дапамагае яно ненадоўга, неўзабаве сківіцы Марыі працуюць ужо ўхаластую, не забяспечваючы свядомасць ніякімі ўражаннямі, а затым і наогул спыняюцца. Яна з агідай выплёўвае знявечаны згустак пластыку.

У такі момант ёй часта хочацца застыць, замерці ў нейкай як мага больш натуральнай паставе – бы на партрэце post mortem віктарыянскай эпохі. У яе гэта атрымліваецца, яна засякае хвіліны. Максімум дванаццаць, неблагі вынік.

Затым нешта чэшацца, тэлефануе, сігналіць у двары. Марыя без асаблівага імпэту вяртаецца ў свет жывых, каб ізноў пераканацца, што ў ім нічога не адбываецца.

Міжчассе, калі снег пераўтвараецца ў ваду яшчэ толькі ў паветры.

Міжмоўе, калі вымушанае маўчанне не прарастае словамі, захрасаючы ў роце, бы пялёсткі пластмасавых ружаў.

Міжладдзе, калі эмоцыі і спакой адначасова ёй недаступныя, бо запакаваныя ў тонкую плёнку абыякавасці.

Пяць гадоў таму Марыя ўпершыню адчула, што ейная гісторыя скончылася.

Пяць гадоў таму Марыя ўсвядоміла, што яна болей не Мадам Брык, не Ксюша Люцік і не Медсястра Тая. Адгэтуль яна зноў Марыя. Цалкам, канчаткова і незваротна.

Нехта ў той дзень, напэўна, ахайна падшыў апошні ў яе справе аркуш, лёгка пацёр змакрэлыя ад старання далоні, паправіў гальштук, пачухаў шурпатымі пальцамі нос, закрыў тэчку і завязаў матузкі. Праца на сёння завершаная, цяпер яе можна здаваць у архіў ды ісці на свежае паветра.

У гэтай тэчцы было святло сафітаў, вынаходлівыя скураныя вырабы, двайное пранікненне і пранізлівыя енкі, якія ў Марыі атрымліваліся амаль натуральна. Там так і было адзначана, побач з усімі іншымі важнымі для пэўных анкет параметрамі.

Цяпер яны ўжо зусім неістотныя. Ёсць толькі брудная кватэрка, зудлівыя болі ў інтымных месцах ды пластмасавыя пялёсткі.

Аднак новая гісторыя Марыі ўсё ніяк не спяшаецца пачынацца.

Напэўна, справа ў тым, што адказны за гэта дзядзька насамрэч не надта адказны, думае яна. Ён скончыў працу, прыйшоў дахаты, павесіў у шафу свой строгі касцюм, ахайна распраставўшы пінжак на плечыках, надзеў працёртыя трэнікі, паеў пельменяў і заваліўся на канапу глядзець тэлевізар.

Наўрад ці ў яго ёсць жонка, чамусьці лічыць Марыя.

На экране – футбол, матч не клеіцца, і ён уважліва назірае за тым, як гульцы бязмэтна ганяюць мяч з аднаго канца поля ў іншы. Лік на табло – 0:0.

Раптам нехта тэлефануе, але дзядзька не ўстае з канапы. Ён заварожана сочыць за ходай падзей, і паступова ягонае дыханне набывае адпаведны рытм. А ўслед за дыханнем – і крывацёк, і абмен рэчываў.

Аднастайная камбінацыя рухаў паўтараецца і паўтараецца. Гэта доўжыцца нават пасля таго, як сканчаюцца адведзеныя рэгламентам паўтары гадзіны. Футбалісты ўсёй камандай бягуць да брамы суперніка, затым – у самы, здавалася б, востры момант – нібы наўмысна аддаюць мяч, і рух адбываецца ўжо ў зваротным кірунку.

Матч не завяршаецца і тады, калі яго глядач раптоўна памірае ад спынення сэрца, разрыву мачавога пухіра, а тое і проста ад голаду.

На працы нават не заўважылі адсутнасць аднаго з клеркаў. Калегі працягвалі кідаць у бок яго працоўнага месца звычайныя “здрасце”, на стол па-ранейшаму траплялі тэчкі з гісторыямі такіх, як Марыя, а карпаратыў з нагоды юбілея арганізацыі скончыўся поўным алкачадам, і не заўважыць страты байца ў гэтым тумане было зусім няцяжка.

Пагатоў, у кожнага ж ёсць свая ўласная гісторыя, і ніхто не захоча па сваёй волі ёю дзяліцца.

А між тым, дзядзька пацiху распадаўся сабе на сваёй канапе. Суседзі, якіх бянтэжылі непрыемныя пахі, аднойчы ўжо амаль наважыліся патэлефанаваць у міліцыю. Але паколькі з кватэры ўсё яшчэ даносіліся гукі матча, яны вырашылі, што ўсё ў парадку – проста згнілі назапашаныя на балконе памідоры.

А потым наступіла зіма, выпаў снег, і ўсім увогуле стала не да таго.

З безлічы магчымых варыянтаў, чаму новая гісторыя Марыі так упарта не хоча пачынацца, ёй самой найбольш падабаецца менавіта гэты.

Чарговы пялёстак чамусьці аказаўся гаркавым на смак.

* * *

Марыя часта засынае ў самых нечаканых месцах: у аўтобусе, у чарзе па талоны на хлеб, падчас размовы за выпадковай пляшачкай з нейкімі напаўзнаёмымі ў парку.

У гэты момант Марыя кажа: я – сон. Я зусім сон. Альбо, дакладней, сненне, бо маецца на ўвазе не з’ява, але вязкі, павольны працэс. Нібы сочыва пакрысе выплюхваецца з-пад накрыўкі цуда-гаршчочка, прымушаючы ўсіх навакольных мух замерці ў экстазе блаславёнай смерці.

Сненне – гэта працэс. Паступовае змяненне тэмпературы цела, колераў унутры, тактыльных адчуванняў.

Ліхтарны слуп ёй падаецца зробленым з пластыліну. Як, зрэшты, і асфальт пад нагамі, якому цяпер яна можа надаваць прывабную форму, націскаючы мыском свайго бота. Твар міліцыянера – таксама з пластыліну, варта дакрануцца да яго, каб гэта зразумець.

У сне яна любіць ляпіць з паўсюднага пластыліну дзівосныя фігуры, паступова змяняючы аблічча зямлі.

А праз грузнае тулава мужчыны ў скуранцы і кепцы, здаецца, можна і наогул прасунуць руку.

Марыя ўмее спаць не заплюшчваючы вачэй, не спыняючы млявай размовы, не выпускаючы шклянкі з рук.

Сон цячэ па ейных венах як лёгкая эфірная субстанцыя, замяняючыацяжэлую кроў.

Часам у сне яна адчувае, нібы яе скура стала зусім тонкай, працерлася амаль да дзірак. Як быццам, яшчэ зусім трошкі – і ўсё тое, што ўнутры, адтуль пасыплецца.

Часам у сне яна нават збірае ўласнае змесціва з падлогі ды з нявіннай усмешачкай запіхвае яго назад – быццам памаду і туш, што выпалі з парванай касметычкі. І здзіўляецца таму, наколькі лёгкімі могуць быць лёгкія.

У сне яна заўсёды трапляе ў нейкае бяспечнае і ўтульнае месца. Лясная рачулка, чые берагі параслі мохам, у абдоймах якога яе дакладна

ніхто не пакрыўдзіць. Печ закінутага крэматорыя, у якой можна прыемна распрастаць ногі, загарнуўшыся ў цёплую коўдру. Надзейна абсталяваная схованка ля цеплатрасы ў пад'ездзе, якая здаецца паратункам пасля шэрагу папярэдніх падзей – самі яны чамусьці засталіся па-за кадрам.

Часта ёй падаецца, нібы яе цела атачае вадкасць – трохі клейкая, але прыемная і цёплая. Там ёй надзвычай камфортна, як быццам у плацэнце.

Сон Марыі ўпарты, яго проста так не адолець. Ён рашуча адсоўвае ў бок нягеглую рэчаіснасць (талая вада пад нагамі, грубы вокрык на блёкпосце, нехта штурхае яе ў плячо са сваім апяць наркаманка).

У гэтыя моманты Марыя шэпча: я – гэта сон. Альбо, дакладней, сненне, калі мець на ўвазе не з'яву, але працэс.

Сон расстаўляе свае акцэнты ўспрыняцця, і крывыя цені галінак, што пакалыхваюцца на шурпатым шэрым асфальце, падаюцца ёй не менш істотнымі, ніж пачутыя сёння навіны пра пачатак спецаперацыі.

У сне кроплі дажджу, што сцякаюць па шыбіне, раптоўна атрымліваюць сваю вызначаную звыш мэту шляху. А вечнае пытанне “Навошта?” і наогул становіцца шапаценнем каляровых паперак на прутках вентылятара.

Сон здатны выткаць казачныя сюжэты, сон спараджае лёгкае жаданне, якое ахоплівае беспрытомную прынцэсу акурат напярэдадні доўгачаканага пацалунку прынца.

Часам сон абуджае да дзеяння іголачкі беспрычыннага шчасця, ад уколаў якіх яшчэ доўга ніякавата, нібы з бадуна.

Але самае цікавае ў сне – гэта смерць. Падзенне з хмарачоса, лабавое сутыкненне на матацыкле, мернае і, відавочна, незваротнае апусканне ў водную бездань. Бясплённая барацьба, адчуванне адчаю, канвульсіі...

Марыя любіць паміраць, у яе гэта атрымліваецца вельмі часта – і, здараецца, даволі вынаходліва. Смерць хоць ненадоўга абуджае замарожаныя нервовыя клеткі. Смерць падаецца ёй найлепшым атракцыёнам у жыцці.

* * *

– Ну, Міла-таміла, давай ужэ, хваціт меня таміць.

Ён прыціскае яе да сябе – пра што можна меркаваць па ейным напускным павіскванні – затым, напэўна, садзіць на калені. Далей адбываюцца працяжныя пацалункі, час ад часу яны перапыняюцца ўзаемнымі кампліментамі: бусечка, мілашка, вослік, сам ты вослік. Шаргаценне тканіны. Ай, парвёш жа! Шчас, я астарожненька, да не парву я, не бойся...

Марыя міжволі ўслухоўваецца ў гукі, што даносяцца праз не надта трывалыя сцены панелькі. Іншага выбару ў яе няма. Тыя дзеянні, якія гукамі не пазначаюцца, цалкам можна рэканструяваць з дапамогай уяўлення.

З Дзімам, які жыве ў суседняй кватэры, яны дасюль добра не пазнаёміліся, хіба вітаюцца пры сустрэчы на лесвічнай клетцы. Марыя амаль нічога пра яго не ведае. Здаецца, ён так і не ажаніўся.

Марыя не адчувае людзей, якія знаходзяцца побач з ёю. Для яе яны нават зазвычай пазбаўленыя паху, не кажучы ўжо пра эмацыйны водгук. Яны даўно ўжо для яе людзі-функцыі, а не самадастатковыя суб'екты. І, тым болей, не людзі-знакі.

А тым часам, яны існуюць – прычым, цалкам аўтаномна ад волі Марыі. Прычым, існуюць менавіта тут і цяпер, на адлегласці яе выцягнутай рукі – калі б яе можна было выцягнуць праз сценку.

Нягледзячы на млявы супраціў, Дзіма ўмела расшпільвае станік і авалодвае ім, бы трафеем. Правая пяцярня абхоплівае мяккі пульхны паўконус, плаўна яго сціскае. Пальцы паступова скіроўваюцца ў эпіцэнтр, да смочкі. Міла глыбока і імпульсіўна ўцягвае вільготным ртом паветра, раптам з яе вырываецца кароткі стогн.

Але затым хватка слабне. Пругкасць падаецца Дзіму недастатковай, і ён намацвае левай рукой пульт. Памылкова трапляе пальцам не на тую кнопку, пасля чаго Міла адразу здымае з яго спартыўныя порткі ды цягнецца вуснамі да чэлеса.

Гэта пакуль зарана. Дзіма робіць адмену (Міла імпульсіўна адторгвае руку і выпроствaецца па стойцы “смірна”), павялічвае пругкасць грудзей, а заадно і трохі іх памер, натхнёна цiскае.

Затым яго правая рука прасочваецца ў ейныя майткі. “Ай, не жмякай так, о... а... як хораша, родненькі, як хораша!” – вырываецца з яе рота, які ўсё бліжэй да ягонага вуха.

– Как будта год не і...алась! – бурчыць Дзіма ды зноў цягнецца па пульт, каб прымусіць сваю каханую стаць крыху халаднейшай.

Раней здольнасць хутка рабіць Мілу шчаслівай цешыла ягонае самалюбства, але цяпер гэта ўжо надакучыла. Хочацца нейкай драматургіі працэсу.

Рот Мілы раптам адсланяецца ад ягонага вуха. На яе твары прамалёўваецца засяроджанасць або, хутчэй, нават адчуджанасць. Міла ўскоквае на ногі, няспешна дэфілюе да вакна. Дзіма не адрываючыся сочыць за ёй вачыма.

Міла пару хвілін моўчкі ўглядаецца некуды ў далечыню. Затым паварочваецца і пачынае дэкламаваць верш Цвятаевай.

Словы “Повторю в канун разлуки” літаральна магнетызуюць Дзіму. Міла цяпер падаецца яму далёкай, амаль недасяжнай, і ад гэтага яшчэ больш жаданай.

– Ну што ты, мая харошая, ну што, ну што... – ён спрабуе абняць Мілу ззаду, але яна рэзка вырываецца. Ейны погляд колкі, бы ледзяная дзіда.

“И еще скажу устало, – Слушать не спеши!”... – метрычная паэзія дзейнічае на Дзіму не менш узбуджальна, чым жалейка Нільса на пацукоў.

Яго рукі міжволі цягнуцца да Мілы. Насуперак яе супраціву, ён абхоплівае каханую, сціскае яе ў сваіх абдымках, літаральна ўгрызаецца ў ейны рот сваім пацалункам.

На вачах Мілы з’яўляюцца слёзы, яна песціць Дзіму гэтак лагодна, як у яе раней, здаецца, не атрымлівалася ніколі.

Як водзіцца, акурат у гэтую хвілю звініць тэлефон. Дзіма лаецца, ставіць Мілу на паўзу, тэпае босымі нагамі ў вітальню, адшуквае слухаўку ў кішэні курткі.

Гэта іх бухгалтарка Валя. Дзіма ледзь стрымлівае эмоцыі, калі з дынаміку чуецца ейнае “Как настрае-еніе?”. Фонам ідзе нецвярозы жаночы смех. Відавочна, Валя там не адна.

– Настраеніе а...уенія, – сур’ёзна адказвае Дзіма, разглядваючы ў люстэрку сябе.

Босым нагам халодна на плітцы, ён пацепваецца.

– Ну так давай да нас, – запрашае яго Валя. – Тут і шашлычок, і вінішка найдзёцца. І водачкі, еслі што.

Дзіма з радасцю выгукнуў бы ў адказ нешта злоснае і непрыстойнае, але вырашыў стрымацца. Сварыцца з калегамі па працы наўрад ці выпадае.

– Не, Валюша, куда мне? Я ж на мамінай дачэ, работы ішчо неўправарот! Вот только шыфер палажыў, а нада ж і сцяжку дзелаць...

– Ой, тружэнік ты наш, – Валя не хавае расчаравання. – А мы думалі, пасядзім трохі ў выхадной...

Дзіма цудоўна разумее, што пасля з'яўлення даступных па цане сняжанаў жыццё такіх кабетаў, як Валя і яе сяброўкі, стала куды складанейшым. Але наўрад ці ён схільны вырашаць чыесьці праблемы за ўласны кошт.

– И что ж теперь? И где все это? И долговечен ли был сон? – працягвае дэкламаваць зноў уключаная Міла.

Дзіма сядае на канапу, слухае пару хвілінаў, ягоны запал паціху згасае. У страўніку нешта булькоча, з'яўляецца пачуццё голаду. А да ўсяго, ён згадвае, што а дзявятай па целіку хакей.

Лёгкі дотык пальцаў да патрэбнай пімпачкі хутка мяняе ход падзей.

– Давай ужо, слушай, не цяні, очэнь-очэнь хочацца, – вільготныя вусны Мілы зноў абхопліваюць ягонае вуха.

Неўзабаве іх целы прымаюць гарызнантальнае становішча.

Увогуле, пара б ужо паспрабаваць нешта новае, думае Дзіма падчас працэсу... Балазе, тэхніка дазваляе. Ды і софт хаця палены, але кракнулі яго адэкватна, і глюкаў амаль няма.

Сваёй сняжанай ён не стамляецца ганарыцца. Асабліва прыемна ўяўляць, якім каралём ён будзе на сяброўскай сустрэчы з нагоды 8 сакавіка. Тым болей, гэта была надзвычай выгодная пакупка.

Папярэднюю сняжану, Рытку, у геніталіях якой ад часу і ўтрапёнага карыстання ўтварыліся *прагалы*, ён здолеў выгодна ўцюхаць нейкаму прышчаваму шкаляру (хай практыкуецца падшыванец, падрасце – і на што лепшае назбірае грошай). А потым удалося па акцыі ўзяць сняжану шостага пакалення.

...Між тым Марыя метадычна, з псіхапатычнай падрабязнасцю згадвае моманты, якія павінны былі скіраваць ейнае жыццё ў іншы бок, але ўрэшце захраснулі недзе ў паветры. Тыя завязкі інтрыгоўных гісторый, якія, насуперак усім законам жанру, счэзлі, так і не развіўшыся да кульмінацыі. Зародкі, што не здолелі стаць дзецьмі, і цяпер знайшлі сваё пачэснае месца ў слоіках са спіртам кунсткамеры ейнай памяці. Спіс вельмі доўгі.

Такі занятак не менш атракцыйны за тое, чым цяпер займаецца Дзіма. Марыя, як заўсёды, кажа гэта Іншаму. Да яго скіравана большасць важных словаў, што з'яўляюцца ў яе свядомасці.

Іншы ўжо, напэўна, ведае пра яе вельмі шмат. Яна нават трохі баіцца яму надакучыць ды падацца балбатлівай кабетай.

Марыя абхоплівае далонню падбароддзе і на нейкі час застывае ў мройлівым задуменні.

Праз сцены кватэры даносяцца пранізлівыя гукі жаночага шчасця. Яны па-тэатральнаму дэманстратыўныя – прыблізна як у тых фільмах, дзе калісьці здымалася Марыя. Відавочна, менавіта падобныя крыніцы і бралі за ўзор распрацоўшчыкі адпаведнага софта.

Неўзабаве ўсё сціхае. Міла шэпча на вуха Дзіму пяшчотныя словы, але той ад яе адварочваецца. Нерухома ляжыць ніцма.

Ён адчувае сябе спустошаным. Як быццам яго ўзялі за ногі і патрэслі, высыпаўшы ўсё, што знаходзіцца ўнутры. Да таго ж, вельмі моцна муляюць вялізныя 3D-акуляры.

– Ну што ты маўчыш, пуська мая, скажы хоць славечка, – Міла абдымае яго за плячо і спрабуе зазірнуць у вочы.

Дзіма адхіляе яе, абарочваецца, прыўздымае па-над канапай сваё тулава і з размаху б'е па твары. Узнікае паўза.

У яго ёсць усяго некалькі імгненняў, каб прыдумаць матывацыю сваёй агрэсіі, і ён не дае сабе рады за такі кароткі час.

– Што, сука, саўсем а...уела! – толькі і кажа ён. – Я ж цібе ўсё прыпомню, усё...

Выглядае непераканаўча, але эфект гарантаваны. Міла пачынае румзаць.

Дзіма скідвае яе з канапы, а затым зноў б'е па твары. Потым яшчэ пхае нагой, акунаючы ступак у мяккія тканкі жывата.

– Мілы, зз...зз...за што? – усхліпвае Міла. – Не трэба, не трэба, любімы...

Яна кідаецца перад ім на калені. Рука Дзімы, зноў паднятая для ўдару, міжволі апускаецца.

– Ну скажы, што, што я табе зрабіла? – працягвае свой надрыўны маналог сняжана, шморгаючы носам і злізваючы соплі, перамяшаныя з крывёй. – Чаму ты руку на мяне падняў?

Дзіму і самому становіцца сорамна, але што тут паробіш: накаціла ды ўсё. Замест выбачэння ён моцна абдымае Мілу. "Ну ладна, малая, ладна, ты ж знаеш... Ладна, малая, не бяры да галавы..."

Далей чуваць грукат посуду, дзынканне шклянак, хіхіканне, чмоканне.

Марыі трохі боязна. Яна чула, што піць са сняжанамі катэгарычна забараняецца: пры найменшай няспраўнасці гэта можа выклікаць кароткае замыканне, а затым – пажар. Дзіма, напэўна, таксама чытаў інструкцыю па эксплуатацыі, але лічыць, што ў кабетах і звязанай з імі тэхніцы бяспекі ён разбіраецца куды лепей за іншых.

Недзе праз паўгадзіны вясёлы шум заціхае. Дзіма згадвае пра хакей, выключае Мілу (у хакеі бабы ўсё адно ні халеры не цямяць і будуць толькі перашкаджаць) і ўладкоўваецца ля тэлевізара. Цяпер ён адчувае, што праграма напоўніцу выкананая, і гэта прыносіць яму прыемнае задавальненне – як пшаніцу прадаўшы. Самы час расслабіць цягліцы і засяродзіцца на гульні.

Ён нават і не падазрае, што ўвесь гэты час быў не адзін. Зрэшты, у кожным разе... Тую ненаўмысную сведку, той кволы згустак жыцця, які цепліцца за сцяной яго кватэры, цалкам можна было адразу спісаць з рахункаў і наогул не браць пад увагу.

* * *

Звычайна шлях Марыі з крамы дадому займае не болей за пяць хвілінаў. Выйшаўшы з пад'езда, трэба збочыць у прагал паміж аднолькавымі панелькамі – такімі самымі, як тая, дзе яна жыве. Затым абмінуць дзесяціпавярховы слупок – ён тырчыць тут, бы клык састарэлага вампіра, што даўно ўжо не бываў у стаматолага. Затым рушыць уздоўж высокага глухога паркана, які атачае рэшткі хімічнага завода.

Марыя дакладна ведае змест і размяшчэнне ўсіх нанесеных на яго цела надпісаў.

Урэшце, дарога прыводзіць да мэты. Увечары гэты лапік – адзіны, асветлены ліхтарамі, – падаецца аазісам жыцця. Нібы цёплы струмень у паўночным моры.

Апошнім часам Марыя рэдка ходзіць кудысьці, апрача крамы. Шчыра кажучы, і хадзіць ёй асабліва няма куды.

Ёй шторазу падабаецца, калі з цемры вонкавай яна трапляе туды, дзе цёпла, светла і добра пахне. А яшчэ ёй даспадобы ўпэўненыя выверaныя рухі, уласцівыя кожнаму пакупніку. Яны вельмі грунтоўныя, сур'ёзныя, пераканаўчыя. Дакладнаму набору рухаў спадарожнічае і загадзя вызначаны асартымент эмоцый.

Але гэтым разам яна чамусьці адхіляецца ад звычайнага маршруту. Выйшаўшы з пад'езда, ідзе не налева, а направа. Там усё тое самае – такія самыя пашарпаныя пяціпавярховікі.

На нейкі час спыняецца, каб паназіраць за рабочымі, якія корпаюцца ў глыбокай водаправоднай канаве, асветленыя шахцёрскімі ліхтарыкамі. Гэты хтанічны рытуал чамусьці яе палохае, але зусім нядоўга. І неўзабаве Марыя абыякава рушыць далей, гледзячы сабе пад ногі.

Праз пару хвілінаў яна трапляе на школьны стадыён. Ужо позна, заняткі даўно скончыліся, у будынку свецяцца толькі некалькі вокнаў. У пустым класе прыбіральшчыца з мацюкамі аддзірае ўтаптаную ў падлогу жуйку.

На стадыёне амаль нікога. Самотны хлапчына гадоў дзесяці бавіцца на мокрых арэлях, але неўзабаве сыходзіць і ён.

Сёння першы дзень лістапада, згадвае Марыя. І акурат у гэты момант пачынае ліць дождж.

Чамусьці яна чакала на гэты лістапад. Як быццам нешта ў ім павінна было адбыцца. Што дакладна, было незразумела, як невытлумачальныя і ўсе спадзяванні.

У кішэні курткі раптам намацаўся пластмасавы пялёстак, і Марыя адразу запіхвае яго ў рот. Гэта апошні, бо Марыя болей у той майстэрні не працуе.

Дождж плаўна сцякае па яе валасах, агінае няроўныя абрысы цела, сочыцца ўздоўж абцягнутых панчохамі каленяў.

Яна чакае, што лістапад змые ўсё.

Дэманаў радасці, дэманаў мінулага, дэманаў надзеі, урэшце, дэманаў самаго чакання.

Змые твары мужчын, што былі з ёю цягам жыцця. Барадатыя, вусатыя, паголеныя, даўганосыя, маршчыністыя і нават адзін чарнаскуры. Шматлікія твары.

Марыя думала, яны не адкладуцца ў яе памяці – як не запамінаюцца твары сустрэтых на вуліцы мінакоў. Але, як выявілася потым, кожны з іх захаваўся ў нейкіх патаемных рэгістрах – каб раз-пораз неспадзеўкі нагадваць пра сябе.

Яна чакае, што нехта выключыць у залі святло, і спектакль скончыцца, бо сцэну паглыне цемра.

На бегавой дарожцы стадыёна хутка з'яўляецца вялізная калюжына. У ёй адлюстроўваецца месяц (цяпер амаль поўня), а таксама, вельмі блякла, агні кватэр бліжэйшых дамоў.

Іншы? Яна пакуль не ведае, што рабіць з Іншым. Адмовіцца ад яго чакання – вышэй за ейныя сілы. Хаця розум падказвае, што так трэба.

Але ён не можа патлумачыць, што застанецца пасля таго, як Іншы знікне.

Занураная ў свае думкі, Марыя не заўважае, што рушыць па коле. Нібы яна займаецца спартыўнай хадой. Тым часам дождж сціхае.

У калюжыне адлюстроўваецца край ейнага твару, знізу ўверх. Яна

адчувае сябе выпадковым прадметам, які знянацку патрапіў у кадр, сапсаваўшы яго бездакорную кампазіцыю.

Замест таго, каб своечасова скарэктаваць маршрут і ўсё ж трапіць у краму, Марыя чамусьці скіроўваецца да ракі. Яна зусім недалёка, зарослыя хмыззём берагі ў такую пару абсалютна пустэльныя.

Сярод голля самотнага дуба на невысокім схіле цёмнымі плямамі праглядаюцца пустыя птушыныя гнёзды. Быццам пакінуты сваімі насельнікамі горад.

Марыя выходзіць на невялічкі пляжык, дзе месяцовае святло адбіваецца ад пацёртага і адпаліраванага часам дна перагорнутай рыбацкай лодкі. На тым беразе відаць цьмяныя абрысы заводскіх трубаў.

Вада тут надзвычай брудная, гэта ведае кожны. Але, не зважаючы ні на што, Марыя раптам пачынае верыць: рака валодае звышпрыроднай схільнасцю ачышчаць – змываючы дазвання.

Змываючы дэманаў радасці, дэманаў мінулага, дэманаў надзеі...

Рака падаецца ёй Іарданам. Марыя думае, што калі яна туды ўвойдзе, воды адразу зменяць свой напрамак ды пацякуць ад Чорнага мора да тых ледзь прыкметных ручаінак, што бруяцца з нетраў зямлі недзе ў зацішных лясах.

У такі момант, як цяпер, Марыя вельмі хоча ўбачыць цуд. Хаця цудам ёй можа падацца і звычайны фокус.

Падыходзіць бліжэй. Кожны крок усё больш рызыкоўны. Глейкая гразь прагна ўсмоктвае яе красоўкі. Поўня разлазіцца па зыбістай воднай паверхні, быццам вадкае мыла па пральнай дошцы.

Яшчэ адзін рух наперад – і яна злучыцца з ракою. Марыя хоча легчы на ваду, распасцерці рукі. І ўпэўненая, што вада будзе яе трымаць – стольні, колькі будзе патрэбна.

І яна будзе плыць па рацэ – да тых ручаінак, адкуль рака пачынаецца.

Марыя робіць няўпэўнены крок. Падэшва слізгае. Нага амаль міжволі пераадольвае мяжу іншай стыхіі. Красоўка умомант прамакае. Марыя ўздрыгвае ад нечаканага холаду.

І ў тую ж секунду рэзка адторгвае нагу і хуткаю хадою выбіраецца да сцяжыны. Не азіраючыся, рушыць у бок гарадскіх агнёў. У той бок, дзе ёсць пяціпавярховікі, крама і чаканне Іншага.

Галіна Каржанеўская



..Жыццё – гэта рух і цяпло,
Жыццё – гэта дзейнасць і сіла...

# Два лёсы

* * *

Вакол сствалоў падталыя кругі –
Жывыя карані зямлю нагрэлі.
Арэлі безнадзейна адубелі,
А вецер несупынны і ліхі.

Але штодня надточваецца дзень,
Пакуль свайго не дасягне зеніту.
Дзе наш зеніт – не ведаем.
Закрыта
Надзейна
Кніга жыццяў
ад людзей.

## ЖЫЦЦЁ

То гнала жыццё, то вяло,
То волакам валачыла.
Жыццё – гэта рух і цяпло,
Жыццё – гэта дзейнасць і сіла.

Спляліся пытанні ў клубок
(Адказы не ўсе адшуканы).
Жыццё – на выбоінах крок.
Жыццё – незагойныя раны.

Дзіцячы залівісты смех,
Імгненні зіхоткія раю...
Жыццё – несупынны разбег
...І старасць, што туліцца з краю.

## СЛЯДЫ ЖЫТЛА

А прырода не церпіць
Сапраўды пустаты:
Дзе павалены хаты,
Засталіся сады.

Дзе і сад ужо даўся
Ад сякеры ці без,
Будзе яблыня-дзічка
І няломаны бэз.

Ля парога былога
Красамоўна, як плач,
Застануцца сіроты –
Дзівасіл ды касач.

## БАБА МАНЯ

Баба Маня корміць птушак –
Нейкіх дробных, безназоўных,
І яны, як кураняты,
Час свой ведаюць даўно.

Баба Маня памятае
Польскі час,
                    і на гарышчы
Мае з тога часу куфар,
Рамку, бутлю... Шмат чаго.

Бабе скора дзевяноста,
А на вышкі ўзлезла спрытна.
Бутлю мне падаравала
І яшчэ шукала прас.

Прас даўнейшы не знайшоўся.
Агуркоў дала і бульбы.
Пінжачок, што я прынесла,
Не хацела нават браць.

– Ён падыдзе адмыслова.
Во, не ношаны, глядзіце!
Баба годна адказала:
– Паміраць мне ёсць у чым.

* * *

Лес падступае паволі –
То сосенкай, то бярозкай,
???скрыпне То скрыпеня рэдкай коскай.
І вёску цясніць, і поле.

Гняздзечкі паўсюль у глогу.
На снезе – сляды заечыя,
Ля хлеўчыка лапкі нечыя...
Аточваюць нас патроху.

Самоцімся летам кожным
У вёсцы пустой, у доме.
І свету канец вядомы:
Ці пустка,
ці лес раскошны.

* * *

Садзілася сонца,
суцішыўся вецер...
Здавалася, зміраны дух
ва ўсім свеце.

Няма калатнечы,
няма барацьбы.
Узбіўся на сцежку
ад гора сляпы.

Вярнуліся ў сем’і
гулякі-бацькі,

Ступіліся ў звера
нарэшце клыкі.

Нас дзеці прымаюць,
мы вучымся ў іх...
А толькі й нагоды,
што вецер прыціх.

## *ДВА ЛЁСЫ*

Палонніца-котка
сядзіць на акне,
А знізу, ў падвале,
на саменькім дне
Хаваецца кот
ад нягод гарадскіх
(І вы разумееце, пэўна –
якіх.)

Два розныя лёсы,
дзве родных душы,
Хоць ты для кіно
меладраму пішы.
У белае коткі
кахання няма,
А чорнага сябра
здратуе зіма.

## *МАЙСКАЯ НОЧКА*

Мне салоўка спаць не даў,
Ох ды ах.
Ён бясконца шчабятаў
У кустах.

Мо пад раніцу замоўк,
Ох ды ах.
Зноў жа – кошка мыла бок
Пры нагах.

І сабака уздыхаў,
Ох ды ах,
Быццам бы і ён не спаў.
Ночка – жах!

Ну не ночка, а брыда,
Цёх-цё-цёх.
Проста майская бяда,
Далібог!

Леанід Левановіч



...гэты дом, нібы ўся Амерыка ў мініяцюры:
канкурэнцыя, прага рэкордаў,
прага быць першым, здзівіць і ўразіць усіх...

# Міленіум

***Урыўкі з рамана***

*Заканчэнне. Пачатак у №3 (88).*

...Ужо некалькі дзён Бравусаў кволіўся, уранні з цяжкасцю падымаўся, з кійком выходзіў на двор, сяк-так дабіраўся да прыбіральні. Амаль нічога не еў, не хацеў піць таблеткі, каб знізіць ціск, а вось ад гарэлкі не адмаўляўся. За апошнія дні ён вельмі схуднеў, рэзка пагоршыўся зрок, а слых яго стаў кепскі яшчэ тры гады таму.

Гэтым ранкам ён прачнуўся позна. Марына колькі разоў падыходзіла, прыслухоўвалася да яго дыхання, клала руку на лоб – жару не адчувалася, а ўвечары была павышаная тэмпература, угаварыла выпіць аспірыну. Ноччу ён моцна, надрыўна кашляў, нешта крычаў у сне і толькі пад раніцу супакоіўся. Зыркае восеньскае сонца выкацілася з-за туманнай расплывістай сцяны лесу, калі Бравусаў прачнуўся, паклікаў Марыну. Яна падышла, зноў памацала ягоны лоб. Ён узяў яе далонь, прыклаў да сваіх вуснаў. Марына адчула цёплую сухасць вуснаў, калючае шчэцце няголенага падбароддзя.

– Ой, які мне сон прысніўся! Тамара, ну, жонка мая, прыходзіла да нас. Хвакцічаскі, прама ў хату. Ухапіла мяне за руку: “Пойдзем дамоў. Хваціць табе бадзяцца па вёсках”. А я кажу:”Я нідзе не бадзяюся. Я тутацька даўно жыву. З любай жанчынай...” А яна і слухаць не хоча. Цягне і ўсё. Учапілася, нібыта рак кляшнёй. Крычыць, кабялём абзывае мяне. А ты на яе крычыш, за другую руку цягнеш. Выштурхнулі мы яе з хаты... Так што, Марынка, мы, хвакцічаскі, яшчэ пажывем...

– Дай Божа, Валодзечка, – праз слёзы прамовіла Марына.

– А які сянні дзень? І чысло якое?

– Субота сянні. А чысло чатырнаццатае. Пакровы сянні. Свята вялікае... Трэба цябе пагаліць.

– Хвакцічаскі, трэба. А то Валодзька прыедзе і не пазнае. А якое свята? Ты ж казала.

Гучным голасам Марына паўтарыла, што на дварэ – Пакровы.

– Ага, Пакровы. Нешта ж я хацеў сянні зрабіць. Хвакцічаскі, нешта планаваў, – павольна гаварыў ён і сіліўся нешта прыгадаць. – О, Марынка, успомніў! Трэба прыкмеціць, адкуль дзьме вецер. Калі з Бярозавага балота, а там захад, то будзе багата снегу. А калі з поля, з поўначы. Дык будзе і снег, і мароз. А калі з Белай Гары, з паўночнага ўсходу, будуць лютыя маразы.

Марына слухала і радавалася: муж усё помніць. Ён яшчэ акрыяе, можа, спраўдзіцца ягоны сон – хай Тамара пачакае... Зараз трэба паснедаць, разважала яна, бо позна ўжо, а потым будзем галіцца, усё-ткі на дварэ свята.

За сталом Бравусаў нехаця з’еў пару лыжак аўсянкі, уздыхнуў:

– Не, Марынка, надаела мне ета каша. Хвакцічаскі, не ў каня корм. Дай мне яйка сырое. І налі чарку. Колькі той жысці? Любіў я, бывала, кульнуць.... не, не чарку, а малянкоўскую шклянку. Поўную, хвакцічаскі, як вока. І закусіць сырым яйкам... А то і два выпіваў, і тры. Служба патрабавала сілу. Ты ж помніш мяне маладога. Валодзька Бравусаў не быў слабаком! Вайну прайшоў, парцізанку. Раненні меў, кантузію. Трусам і слабаком ніколі не быў.

Марына хітала галавою, радавалася, што ён разважае лагічна. Падала яйка, наліла чарку. Дрыжачаю рукою паднёс Бравусаў чарку да вуснаў, маленькімі глыткамі піў, нібы смакаваў горкае пітво, Марына глядзела на ягоную маршчакаватую, старэчую шыю, парослую рэдкімі сівымі валасамі, і ёй хацелася плакаць. Яна часта ў думках паўтарала матчыны словы: “Добра жыць, а дажываць кепска”. Апошнім часам і ў яе кружылася галава, ціснула за грудзінаю.

– Во, Марынка, і жыццё, хвакцічаскі, палепшала. А то холадна было і нагам, і ў сярэдзіне. І ў грудзях.

Праз паўгадзіны паголены Бравусаў выйшаў з кульбаю ў двор. Марына завіхалася ў хаце. Раптам спахапілася, што яго доўга няма, зірнула ў акно. Муж стаяў без шапкі пасярод двара, вецер калашмаціў рэдкія попельна-шэрыя валасы. Яна вопрамеццю кінулася да яго. Вырвала з халодных рук шапку-вушанку, насунула яе на галаву. Завяла мужа ў хату. Ён прываліўся да стала. сцягнуў з галавы шапку:

– Ета ж я слухаў, адкуль вецер. Хвакцічаскі, дзела дрэнь. Вецер з Белай Гары. Паўночна-ўсходні. Будуць лютыя маразы. Хвакцічаскі, цяжка будзе капаць магілку...

– Якую магілку? Валодзя, пра што ты гаворыш?

– Ну, калі я капыты адкіну. А на дварэ мароз. Марынка, я сыну казаў, ну, каб пахавалі мяне побач з Тамарай. Дзяцей мы з ёй гадавалі... Цябе я мацней любіў, а жыў з ёй. Так, хвакцічаскі, атрымалася. Я й Тамару не крыўдзіў, хоць і падманула мяне. Мацёрага бабніка. Я кажа, загрубела ад цябе. Давай хутчэй вяселле справім. Вяселле адгулялі. А дзіця нарадзілася ажно праз год. У мяне, кажа, задзержка была... І правільна зрабіла, а то б сцягаўся па бабах саўсім. Раз ты не захацела...

Марына моўчкі слухала, дый што яна магла запярэчыць? Зноў казаць, што ён заўсёды прыходзіў да яе нападпітку, што яна ведала пра ягоныя заляцанні да ўдоў-салдатак. Гаварыць ужо пра гэта не выпадала. А ён не сціхаў, быццам спавядаўся ў царкве.

– Не, ты не думай, Тамару я жалеў. Участковы Бравусаў любіў людзей. Не здзікаўся з іх. А ўласць меў. І штрафаваць мог, і за рашотку пасадзіць... Крупадзёраў на мяне з нажом кінуўся. Гадкі быў чалавек... Давялося яго прыдушыць. Але ж я етага не хацеў. Усе паверылі, што ён сам сябе ўхайдэкаў, ну, засіліўся... А Косцю Вароніна мы дарэмна пабілі. Сырадоеў угаварыў. За што і паплаціўся... Нешта мне холадна. Марынка, знаеш, чаго я хачу? Выпіць чарку і закусіць мёдам. Можа, тады я, хвакцічаскі, паздаравею...

І гэтае жаданне Марына выканала. Бравусаў сядзеў, моўчкі варушыў вуснамі, быццам штосьці хацеў сказаць і не мог вымавіць. Потым ён ухапіў далонямі стальніцу, апусціў на рукі галаву і бязгучна заплакаў. Марына моўчкі гладзіла яго парадзелую сівую чупрыну. Неўзабаве ён супакоіўся, падняў галаву, няўцямна зірнуў на жонку, абвёў вачыма хату, папрасіў давесці яго да ложка. Разам яны знялі валёнкі і, нібы куль саломы, Бравусаў зваліўся на засланы коўдраю ложак.

Нейкі час Марына сядзела, баючыся варухнуцца. У галаве білася думка: што рабіць? Чакаць, пакуль прыедзе сын Бравусава з Белай Гары? А раптам ён не прыедзе? Трэба ісці да Мамутаў патэлефанаваць, каб ведаць канкрэтна. Але і пакідаць хворага аднаго небяспечна. Пераканалася, што муж заснуў, пачала хуценька апранацца. Каля парога прыстоіла, прыслухалася – усё ціха, заманулася прымкнуць хату, а як прыедзе сын? Што ён падумае? Вырашыла не зачыняць, збегаць хуценька да Мамутаў. Рашуча адчыніла коўраты, каб ісці не вуліцаю, а палявою дарожкай – гэты шлях карацейшы.

Мамуты збіраліся абедаць. Марына таропка патлумачыла сітуацыю, кінулася да тэлефона. Бравусаў-малодшы быў яшчэ ў школе, паабяцаў праз гадзіну прыехаць.

– Можа, я прыйду пад вечар. Еўдакімавіч сянні таксама кволіцца. А я прыйду, – паабяцала Юзя.

Назад Марына таксама ляцела подбегам, часам мусіла спыняцца, бо займала дыханне, у роце было суха і горка. Увайшла ў хату, адразу – да ложка. Але ён быў пусты, азірнулася – і пад сэрцам ёкнула: каля парога стаялі валёнкі з бахіламі. Можа, абуў кірзавыя боты? Але і кірзачы стаялі ў сенцах. Яна адчула, што кружыцца галава, гатова ўпасці. Увайшла ў хату. Адшукала нітрагліцэрын, узяла таблетку пад язык, затым дрыжачай рукою накапала ў шклянку карвалолу і выпіла адным духам. Апошнім часам карвалол ці валакардзін даводзілася піць часта. Але зараз яна думала не пра сябе. Кінулася ў прыбіральню, зазірнула ў лазню, потым у хлеў – нідзе нікога. Агледзела падворак– можа, дзе які след? Так і ёсць: каля коўрат быў выразна відзён адбітак босай нагі. "А, Божачкі, здурнеў

чалавек. Куды ж ён басанож папёрся? Няўжо да Мамутаў? Мяне шукаць... А мо ў Белую Гару – да сына ці да Тамары...”

Марына кінулася ў поле. Сцежка была цупкая, сляды бачыліся слаба – толькі па краях, на мякчэйшай зямлі былі знаць, дзе адзін палец, дзе – два. Галоўнае – убачыць след каля ўтравелай палявой дарогі, каб вызначыць, куды ён павярнуў. Ісці хутка не было змогі, сэрца тахкала, як не выскачыць з грудзей. Пайшла цішэй, вось і палявая вузкая дарожка. Прыгледзелася – каля рудаватага ўсохлага ліста трыпутніку былі знаць пальцы нагі. А злева ямачка ад пяты. Значыць, павярнуў направа. У Белую Гару. Да Тамары, значыць, яна перацягнула...

Ногі падгіналіся, нібы ватныя, ісці далей Марына не магла. Яна знямогла апусцілася на зямлю. Думкі блыталіся ў галаве, кроў пульсавала, шумела ў скронях, як у млыне вада. Мусіць, ён у Шамаўскім рове, можа, вады захацеў? Там яго любімая крынічка. Ён зацягнуў туды два кароткія бярвенцы, паклаў, каб лепей было наталіць смагу. Гэтая думка прымусіла Марыну падняцца, рушыць далей. Вецер біў у твар – паўночна-усходні, з Белай Гары, значыць, зімою будуць лютыя маразы.

Вось і шырозны глыбокі роў, унізе па каменьчыках сцішана каціўся ручай. Марына пачала спускацца ўніз. Пакаўзнулася на мокрай зямлі, моцна выцялася спінаю, але болю не адчула, паўзла на карачках уніз. Мужа яна згледзела здаля – ён ляжаў каля крынічкі, Галаву паклаў на бярвенца, правай рукою трымаўся за яго, а левая каля боку сціскала чырвона-блакітную міліцэйскую фуражку. Пульс не праслухоўваўся, дыхання не было. Яна паляпала па твары, пацерла халодныя вушы – ніякіх прыкмет жыцця. Застылыя, акурат шкляныя вочы пазіралі ў неба. Марына асцярожна закрыла павекі, рукі склала на грудзях, звязала іх насоўкай, на рукі паклала фуражку. Ёй падалося, што твар нябожчыка ўвачавідкі рабіўся фіялетава-сінім. Мусіць, інсульт, мільганула думка, не захацеў чакаць халоднай зімы.

Яна сядзела, ціха плакала, ёй нікуды не хацелася ісці. Адно было жаданне – легчы побач і заснуць. Але ж трэба сказаць Валодзьку, а то будуць іх доўга шукаць. Яна зняла цёплую ваўняную хусту, каб лепей пачуць гул матора. Але раптам ёй падалося, што дзесьці ў вышыні спявае жаўрук. Зараз жа восень, Пакровы, адкуль жаўрук. Але спеў не сціхаў. “Ета ж ён адпявае яго. І мяне – заадно. Во, мудрая птаха”, – падумала Марына, зірнула на крынічку, на ручай і зразумела – гэта па каменьчыках шапоча вада. І ёй так закарцела напіцца з крыніцы.

Піла Марына доўга, маленькімі глыткамі, з вачэй сыпаліся слёзы, ёй падалося, што вада зрабілася салёнай. Раптам ад вёскі даляцеў гул матора, машына прагрукатала па мастку цераз ручай. Яна прымусіла сябе падняцца і пасунулася дамоў.

Уладзімір Уладзіміравіч Бравусаў, высокі, мажны, з кароткімі вусамі на шыракаватым твары, у скуранай куртцы, убачыў Марыну здаля, памкнуўся насустрач. Услед за ім ішла Юзя.

– Што з вамі, Мацвееўна? Дзе бацька?

– Ён там... У Шамаўскім рове. Каля крынічкі. Басанож зайшоў... Ужо не дыхае... Валодзечка, ён прасіў... Апошняе яго жаданне... Каб пахавалі побач з Тамараю... А ў мяне просьба... Пакладзіце мяне каля маткі і бацькі...

Яна пахіснулася. Валодзька і Юзя падхапілі яе, завялі ў хату, паклалі на ложак, з якога Марына ўжо не паднялася.

Неўзабаве прымчалася «хуткая дапамога». Урач, таўсматы лысы пенсіянер, агледзеў Марыну, развёў рукі:

– На жаль, медыцына тут ужо бяссільна. Мы ж з ёй разам працавалі ў Саковічах. Якая была прыгажуня! – ён шумна ўздыхнуў, па шчацэ накацілася скупая мужчынская сляза.

Пачуўся грукат матора – на матацыкле прыляскатаў мясцовы ўчастковы, малады русявы лейтэнант. Ён агледзеў Марыну, абвёў вачыма хату, запісаў прозвішча Юзі, сына Бравусава ён ведаў. Потым агледзеў каля крынічкі труп Бравусава. Прыкмет гвалтоўнай смерці не знайшоў.

Затым участковы інспектар міліцыі зняў шлем і нізка схіліў галаву – аддаў даніну павагі свайму калегу.

*10 лістапада. Пятніца. 2000 год.*

Пішу на амерыканскай зямлі ў слаўным месцы Бостан. У Мінску ўжо ноч павярнулася на другі бок, там ужо новы дзень пачаўся, а тут яшчэ палова сёмай вечара. Даляцеў добра. Наш мікрааўтобус, як нож праз масла, мінаваў чэргі, прайшоў мытны і памежны кантроль, праз дождж і туман прытарабаніў сваіх пасажыраў прама да самалёта. Роўна а сёмай трыццаць борт Літоўскіх авіяліній узяў курс на Парыж. Як толькі набралі вышыню, над попельна-рудымі барханамі аблокаў выбліснула сонца. Маё месца каля ілюмінатара, то мог любавацца фантастычна прыгожым краявідам – белыя горы аблокаў уздымаліся па краю незвычайна сіняга купала неба.

Дзесьці над Варшавай быў смачны сняданак з бутэлечкай рэд вайна (чырвонага віна).

На сёння ўсё. Збіраемся вячэраць.

*11 лістапада.* Працяг тэмы. Бостан сустрэў моцным дажджом і ветрам. Нарэшце наш «Боінг» прабіўся праз густы слой аблокаў і туману – на вышыні ўвесь час свяціла сонца, – і мякка прызямліўся. Хэлоў, Амерыка! Доўга не мог пазнаць свой чамадан – чорны, стандартны, як і дзясяткі іншых. Потым чыноўнік, мажны, у белым форменным кіцелі з дзвюма нашыўкамі на невялічкіх пагонах, доўга разбіраў маю дэкларацыю, нешта пытаўся. «Ноў спік інгліш», – мармытаў я, дадаючы, што мяне чакае ўнук.

Тут перапыніў Алесік: «Дзеда, давай згуляем у шахматы». Адкладваю пісаніну ўбок.

*12 лістапада. Нядзеля.* Учора Амерыка адзначала нацыянальнае свята – Дзень ветэранаў. Прайшлі калонаю старыя пад дождждыкам з аркестрам. Тут на дрэвах яшчэ трымаецца чырвонае лісце. Спытаўся ў Віктара, што гэта за свята. Ён тут жа ў Інтэрнэт, а той ведае ўсё. Дзень ветэранаў устаноўлены ў 1918 годзе пасля заканчэння Першай сусветнай вайны.

З Алесікам згулялі дзве партыі ў шахматы. Лік: адзін – адзін. Перамагла дружба грандфазы энд грандсана.

Пішу раніцай. Па абедзе паедзем на акіян і ў цэнтр Бостана. Гартаў Роберта Фроста «Неизбранную дорогу» – так называецца кніжка, у вершы «Постоянство» спадабаліся радкі пра бераг акіяна: «Да будет сердце постоянно, Как будто берег океана, Оставшийся самим собою Средь вечных перемен прибоя».

*13 лістапада. Панядзелак.* Прачнуўся а трэцяй гадзіне – дужа рана. У Мінску ўжо народ працуе, таму і мне не спіцца. Мой біялагічны гадзіннік яшчэ не прызвычаіўся да новага рытму.

Учора ўпершыню стаяў на беразе Атлантычнага акіяна. Магутныя зялёныя хвалі з гулам абрушваліся на бетонную сцяну берага, пырскі веерам узляталі ўгору і падалі на зялёную траву. Дзень быў цёплы, але ветраны. Былі на маяку, які пабудаваны яшчэ ў мінулым стагоддзі. Сфатаграфаваліся на фоне белых камяніц маяка і пеністых хваляў. Бераг камяністы, яму лягчэй захоўваць пастаянства, пра якое пісаў Фрост.

Ездзілі ў цэнтр Бостана. Рухаліся павольна, бо дужа шмат машын. Вакол грувасткія шэрыя хмарачосы.

– Гэта Даўн-таўн. Дзелавы цэнтр, – тлумачыў Віктар. – У Амерыцы нават малыя гарадкі маюць свой Даўн-таўн. Молдэн, дзе мы жывем – гэта прыгарад Вялікага Бостана. Як мікрараён у Мінску. Межаў паміж гарадкамі няма. Іх шмат вакол Бостана. Усе разам яны складаюць буйны мегаполіс. Зараз запаркуемся. Паходзім пешкі.

На вуліцы людна. Кінулася ў вочы, што многія, асабліва моладзь, гавораць на хаду па мабільных тэлефонах. У нас мабільнік пакуль што – рэдкасць. І яшчэ прыкмеціў: амерыканцы сядзяць – жаруць, ідуць – жаруць, стаяць, назіраючы за выступленнем клоўна на вуліцы, таксама жаруць. Не дзіва, што ў ЗША каля 50 мільёнаў таўстуноў. Сваё чэрава кожны носіць з гонарам.

*14 лістапада. Аўторак. Ноччу – плюс два, удзень – плюс 12.*

У Амерыцы ўсё здзіўляе. Падышоў толькі што да Алесіка, той соладка пацягнуўся, кажу «Ужо без пяці сем. Калі табе трэба ўставаць?» – «У сем дваццаць тры». Во, амерыканская дакладнасць!

На жаль, па-ангельску ўнук гаворыць лепш, чым па-руску ці па-беларуску: школа, асяроддзе, новыя сябрукі. А здаецца, зусім нядаўна ён вяртаўся дамоў з садка, чытаў на памяць беларускія вершыкі, аднойчы запытаўся: «Дзеда, ведаеш, якое тваё любімае слова?» – «Ну, якое?» – «Такім чынам», – усміхнуўся ўнук. Сапраўды, калі мы нешта рабілі, я часта ўжываў гэты выраз.

Ездзілі з Ірынай у супермаркет. Велізарны магазін, мо на цэлы гектар. Агромністы выбар харчу, розных напояў, віна, некалькі гатункаў малака ў залежнасці ад тлустасці. Накуплялі ўсяго шмат. А колькі тут варыянтаў заахвоціць чалавека купіць паболей! Бярэш цэлафанавы пакет бульбы, другі – бясплатна. Набярэш прадуктаў на 30 даляраў – пяць даляраў зніжка. Стымул! Купляюць людзі багата, нагружаюць поўныя цялежкі. А ўсё дарагое! Ірынка навучылася эканоміць. Выразае з рэкламных газет купоны, розныя цэтлікі, дзе сказана, на якія тавары ёсць зніжка, у якім магазіне сейл (распродаж). Там бывае і чарга.

*15 лістапада. Серада.* Назва месяца тут цалкам адпавядае: чырвона-жоўтае лісце ападае з клёнаў, на некаторых, самых упартых, яшчэ трымаецца, трапечацца пад ветрам. Прыгожае відовішча.

Учора хадзіў з Алесікам на каратэ. Пачатак заняткаў у 15.45. Дарэчы, у школе – у 8.45. Дык вось, дзясяткі два хлопчыкаў і дзяўчынак у белых кімано з чырвонымі, жоўтымі, зялёнымі пасамі сабраліся ў спартыўнай зале. Самае рослае дзяўчо – негрытоска з кучаравымі цёмнымі валасамі, у якіх палымнеў чырвоны каснік. Трохі ніжэйшыя за яе дзве мулаткі. І хлап-

чукі амаль усе смуглявыя, толькі Алесік і яшчэ адзін хлопчык – русявыя. Дзве дзяўчынкі – ці то японкі, ці то кітаянкі з вузкімі вачыма. Зала ярка асветленая. Злева высокі рынг з татамі, тарцовая сцяна залы люстраная: каратысты бачаць сябе, могуць назіраць за сваімі рухамі. Хвілінаў пяць дзятва займаецца самастойна. Ціха, арганізавана, ніхто не хуліганіць. Потым увайшла міс Касані, дзеці нізка пакланіліся. Яна таксама ў белым кімано і белых штанах, ногі босыя, сама ўсмешлівая, белазубая, русявая. Яна гучна камандавала па-ангельску, дзятва паслухмяна рухалася, з крыкамі «Хэ!» рабіла выпады наперад.

Я сядзеў на драўлянай лаве збоч дзвярэй – пры жаданні бацькі малых маюць права там прымасціцца. Заняткі ўразілі. Дзіўнае відовішча: жанчына ў белым падае каманды, малыя каратысты (цёмнаскурыя, жоўтыя, белыя – дзеці ўсёй планеты) паслухмяна выконваюць каманды. Яны разумеюць ангельскую мову і забываюць мову сваіх бацькоў і дзядоў. Вось яна, глабалізацыя духу.

*16 лістапада. Чацвер.* Увайшоў амаль што ў норму: лёг спаць пасля 10, прачнуўся а палове пятай, уставаць не хацелася – драмаў да шасці. А сёмай віднее, за вакном усё часцей шаргацяць машыны. Амерыканы – менавіта гэтак, без літары «ц», – кажуць тут беларусы, прачынаюцца. Іх чакае праца. А нас з Ірынай чакаў суседні гарадок Мелроўз. Мяжы паміж ім і Молдэнам па сутнасці не відаць. Справа прамінулі прыгожы парк, могільнік. Дамы тут большыя, прыгажэйшыя. Заехалі ў супермаркет, таксама вялікі.

Вялізная стаянка для машын. Падкатваюць на шыкоўных аўто бабусі, сівенькія, як дзьмухаўцы, старыя, згорбленыя дзяды з мяшкамі пад вачыма. Выбар усяго велізарны. Дарэчы, пячэння тут сто гатункаў! Вочы разбягаюцца ад бляску. І тут заклік: адзін пакет купі – другі вазьмі бясплатна. На фасадзе магазіна вялізныя літары: стоп энд шоп – спыніся і купі. Зноў Ірынка дастала купоны. І тут той самы стымул: набярэш на 30 баксаў – пяць зніжка. Накуплялі розных сокаў, рыбы, садавіны. Заплаціла Ірынка 32,57, зэканоміла – 2,76 д.

Амерыка яшчэ жыве без прэзідэнта. Сенат не зацвердзіў бюджэт, таму што няма гаспадара Белага дома. Мяркую, гэта пачатак застою.

*17 лістапада. Пятніца.* Вось і новае знаёмства – Марк, інжынер, працаваў у Мінску на заводзе аўтаматычных ліній, пяць гадоў у Амерыцы. Яму – семдзесят, жыве з жонкай у Нью-Ёрку, у Брукліне. Мае дзвюх замужніх дачок. Пасля чаркі разгаварыліся. «Нічога не зрабіў для гэтай краіны, а мне даюць 873 даляры дапамогі, – дзівіўся Марк, – Даюць фудстэмпы (талоны) на прадукты. У жонкі трохі меншая дапамога, але нам хапае. Дзве-тры сотні даляраў эканомім штомесяц»».

Марк вельмі рухавы, гутарлівы. З выгляду не дужа падобны на габрэя: нос прамы, вочы шэрыя, сярэдняга росту, лысаваты, акуляры. Звычайны дзядок. Мінулым летам ездзіў у Ізраіль з жонкай. Вельмі ўражаны.

– Гэта ж трэба столькі набудаваць! У пустыні, дзе нічога не было. Дзіва! А дзе арабы жывуць – усё гола.

Марк – дзед унучкі Юлі, Алесікавай сяброўкі. Юля жыве з маці ў нашым доме. Ірына займаецца з Юлькай музыкай, сябруе з яе маці. Марку гэта падабаецца. Мы з ім гулялі ў шахматы, шчыра, па-сяброўску гутарылі. Магчыма, ён паедзе з намі да Нью-Ёрка.

*18 лістапада.* Рускамоўнае радыё – Марк па-зямляцку падарыў прымач, – перадае пра падлік галасоў у Флорыдзе. Лёс прэзідэнта ЗША можа вырашыць жменька габрэяў Ізраіля, якія маюць права голасу, іх тры ці чатыры тысячы.

За вакном цудоўны светлы дзень, на небе схуднелы веташок, быццам растае – апошняя квадра месяца. Цяплынь: ноччу плюс восем. Удзень ажно 14. Па Інтэрнэце паглядзелі надвор'е ў Мінску – ноччу плюс чатыры. Таксама цёпла. Мабыць, пшаніца мая зелянее, набірае сілу. Пра познюю восень на амерыканскай зямлі хораша напісаў Роберт Фрост: «Всё шепчет мне, что осень – рай./ Всё хочет повести с собою:/ Как тихо после птичих стай!/ Как славно стынет сонный край,/ Одетый звонкой сединою».

Ездзілі ўсёй сямейкай у цэнтр Бостана на метро. Для дзяцей і пенсіянераў кошт 25 цэнтаў, для ўсіх астатніх – адзін бакс. Метро, так бы мовіць, рознакаляровае. Аранжавая. Зялёная і Сіняя лініі. І вагоны адпаведнага колеру. Добра арыентавацца тым, хто не ўмее чытаць. Мінскія станцыі метро прыгажэй. А тут голы функцыяналізм.

У цэнтры Бостана высозныя дамы. Зірнеш угору – шапка валіцца. Так мой бацька казаў пра высокія дрэвы ў лесе. Асабліва вылучаюцца два хмарачосы па 60 паверхаў з гакам. Яны злучаныя ўнізе закрытым пераходам, тут рэстараны, крамы і крамкі. Усюды шык і бляск. Сфатаграфаліся на памяць.

Завіталі ў парк. Аграмадныя старыя клёны, разлапістыя вязы, таўшчэзныя, нібы купчыхі, ліпы. На дрэвах таблічкі: адкуль і калі прывезена, або калі пасаджана. Вакол поўна шэра-блакітных вавёрак, укормленыя, таўсматыя, падбягаюць і нахабна-смела просяць ласункаў.

– Тут ёсць помнік Тадэвушу Касцюшку. Пойдзем да яго, – прапанаваў Віктар. – Там сфатаграфуемся.

Лёс гэтага славутага чалавека мяне цікавіць даўно. Калі рыхтаваўся да паездкі ў Амерыку, дзесьці вычытаў, што нашаму земляку ў Штатах пастаўлена ажно сем помнікаў: у Вашынгтоне, Чыкага, Клліўлендзе і іншых гарадах. Гэты, у Бостанскім парку, уразіў сваёй простай велічнасцю: бронзавая фігура маладога прыгожага чалавека ў генеральскай форме, на невысокім пастаменце, нібы вырастае з гэтай зямлі, якая некалі прытуліла яго і за свабоду якой ён змагаўся, стаўшыся нацыянальным героем Амерыкі. На помніку адно слова: KOSTUSZKO. Болей не трэба, бо яго ўсе ведаюць. На жаль, у нас рэдка з'яўляюцца публікацыі пра яго жыццё. Як не ўмеем мы шанаваць сваіх герояў! Дарэчы, правільней быў бы надпіс: KASCIUSZKA.

Заўтра едзем у Нью-Ёрк.

*19 лістапада. Нядзеля.* Выехалі а сёмай раніцы. Алесік не хацеў так рана падымацца. Усе думалі, каб чаго не забыць. Па выдатным хайвэі – чатыры паласы ў адзін бок, – дабраліся да сталіцы свету. Горад уражвае моцна. Гіганцкія хмарачосы, мора машын, усюды трафікі і ўсюды трэба плаціць. На пад'ездзе да горада – 3,5 д., перад уездам у тунэль – таксама, каб заехаць на Бруклінскі мост – зноў гані 3,5 д. Любімая лічба амерыканскіх дарожнікаў. Мост збудаваны даўно – у 1883 г., і таму асабліва здзіўляе і ўражвае. Велізарны пралёт – метраў на 200 між апорамі – накрывае трохі выгнутая дуга, якую ўтрымліваюць таўшчэзныя канаты. Па мосце, здаля быццам кузюркі, паўзуць машыны. Хочацца ўсклікнуць услед за Маякоўскім: "Бруклинский мост – это вещь"! Значыць, Амерыка здзіўляе свет ужо болей як сто гадоў: метро ў Бостане – 1887. У Нью-Ёрку – 1904, Эмпайр стэйт білдзінг (102 паверхі) – 1931. Ужо тады ЗША пачалі выходзіць у лідары

навукова-тэхнічнага прагрэсу. Пасля вялікай дэпрэсіі 30-х гадоў узяліся будаваць дарогі. Нью-Ёрк рос як на дрожджах, раслі іншыя гарады.

Асабліва ўражвае Манхэтан. Здаля ягоныя хмарачосы нагадваюць кубікі з пластыліну. Узвышаюцца вежы-блізняты Сусветнага гандлёвага цэнтра – кожная ўздымаецца на 110 паверхаў. Вуліцы тут нагадваюць шэрыя цясніны: высозныя дамы, унізе машыны, пасярэдзіне вуліцы бясконцы паток аўто, па краях-берагах яны стаяць, быццам застылі беражніцы нейкай дзівоснай ракі. Ракі, створанай чалавекам.

Заехалі ў Бруклін. Тут невысокія дамкі – два-тры паверхі, ёсць пабудовы ў 4-5 паверхаў. Марк жыве ў такім доме, у цеснай цёмнай кватэры. Трушчоба! Вось табе і сталіца свету, хай сабе некаранаваная. Вазіў нас па горадзе Маркаў знаёмы таксіст Мікалай, таксама мінчанін. Ён сеў у нашу машыну, і мы паехалі.

*20 лістапада.* Працяг тэмы. Рух у Нью-Ёрку шалёны, але вадзіцелі ветлівыя, асабліва ў дачыненні да пешаходаў: збіваць страшэнна нявыгадна – усё жыццё будзеш плаціць. Мікалай у Мінску працаваў інжынерам, тут працы па спецыяльнасці не было, а сям'ю карміць трэба – мае трох дачок. Узяў у арэнду машыну, пачаў вазіць людзей. Адну машыну разбіў, другую. Купіў трэцюю і ездзіць без аніводнай драпіны. Асвойтаўся!

З гэтай экскурсіі па сталіцы свету мала што запомнілася. Вакол дамы. Бясконцы паток машын, зіхаценне рэкламы, асабліва на Уолт-Стрыт. Тут машыны паўзлі павольна. Мы змаглі спыніцца толькі на беразе затокі, каб выйсці і сфатаграфавацца. За дзень намарыліся. Спаць леглі рана. Марк і яго жонка праявілі гасціннасць. Раніцай выязджаем, дарога няблізкая.

*21 лістапада.* І вось едзем дамоў. Паперадзе нас суцэльная плынь машын. У ранішнім сутонні чырванелі габарытныя агні, быццам мільён алых ружаў расквітнеў на бясконцай стужцы хайвэя. А злева, паралельна, кацілася сустрэчная рака зіхатлівых шарыкаў – яркія фары рознакаліберных аўтамабіляў. Відовішча фантастычнае. Асабліва калі дарога трохі падымалася ўгару – крутых спускаў і пад'ёмаў на хайвэе не бывае. Усё выпрамлена, выпрастана, выгладжана, толькі імчы наперад. Гэты магутны імклівы паток нёс і нашу "Таёту", як вірлівая вясновая плынь нясе выразаны з кары чоўнік ці трэску. Я выказаў сваё захапленне дарогай, Ірына з гонарам падхапіла:

– Хайвэй працуе круглыя суткі. Без перадыху. І такія дарогі перасякаюць Амерыку ад Канады да Мексікі.

У мяне абудзілася раўнівае пачуццё: мілая дачушка, ты ўжо ганарышся Амерыкай. Гэтае пачуццё ўзмацнілася, калі заехалі на запраўку, зайшлі ў кавярню, нам прынеслі такія вялізныя порцыі падсмажанай бульбы з сасіскамі, здужаць іх не было ніякай магчымасці. Што не змаглі з'есці, нам запакавалі ў пластмасавыя карабкі.

– Дома разагрэем – і як знойдзем. З'ядзім са смакам, – радавалася Ірына. – Бацька, звярнуў увагу, які рэструм? Ну, туалет...

– Туалет шыкоўны. Усё блішчыць, – мусіў я аддаць належнае амерыканскім рэструмам, насамрэч падобным на пакой адпачынку.

– А гэта ж звычайная прыдарожная кавярня, – падаў голас Віктар. – Пажраць і паср... амерыканцы майстры. Але і працаваць умеюць. Само нішто не робіцца.

– Усё правільна, Віктар. У іх ёсць чаму павучыцца, – сказаў я.

*22 лістапада. Серада.* Цудоўны светлы дзень. Рады, што паездка адбылася, пашчасціла пабачыць Нью-Ёрк. А сянні ўвечары неспадзявана трапіў у госці да Арцімовічаў. Гаспадара завуць Сяргей, гаспадыня – Алена, у іх два хлапцы-блізнюкі. Сяргей працаваў у Мінску на "Гарызонце", потым у кампутарнай фірме. Цяпер – у японскай фірме, якая вырабляе мікраскопы. Ірына папярэдзіла, што самае нетактоўнае пытанне ў Амерыцы: колькі чалавек зарабляе? Але пасля чаркі крэнберы водкі – фінскай журавінавай гарэлкі – я адважыўся. І вось што пачуў у адказ: атрымлівае Сяргей чыстымі 3300 д. Бюджэт такі: 900 за кватэру, 300 крэдыт за аўто, 90 – тэлефон, 60 – тэлевізар. Хлопцы ходзяць на каратэ, гуляюць у хакей. За ўсё трэба плаціць. Ледзь зводзяць канцы з канцамі. Алена працуе начамі санітаркай у шпіталі для старых. Яна па адукацыі медсястра, тут – санітарка. Праца вельмі цяжкая, плацяць мала.

Так што даводзіцца землякам круціцца, як вавёркам у коле. Ірына і Алена дамаўляліся, што будуць гатаваць на заўтрашняе свята – Сэнсгівіндэй.

А раніцай пашчасціла трапіць у школу, дзе дарослыя вучаць ангельскую мову. Там быў Інтэрнэйшндэй – Дзень дружбы народаў. Тут бясплатна займаюцца эмігранты з 27 краін. Беларусь – 27-я, але ў спісе яе няма, і стала з беларускімі стравамі не было – прымкнулі да Украіны. Відовішча было цікавае: у чатырох пакоях сталы са стравамі, на сценах – стэнды пра гарады, прыроду краіны: Кітай, Японія, Карэя – адна група, Бразілія, Калумбія, Перу, Эквадор – другая. Асабліва шмат афрыканскіх дзяржаў – ажно дзевяць: Алжыр, Конга. Марока ды інш. Дарэчы, мараканскія студэнты пераапранулі нас з Ірынай у сваё адзенне – паласатыя халаты і цюбецейкі, і сфатаграфавалі. Аформілі невялікі стэнд і беларусы: на здымках краявіды Мінска і Бабруйска, на стале – нашы родненькія дранікі, мачанка. Прадстаўнікі кожнай краіны нагатавалі сваіх страў, і ўсе прасілі пакаштаваць. Спадабаўся кітайскі суп: танюсенькія макароны, нейкія грыбы, вострае пепшанне. Каша кус-кус – проса па-мараканску. Вельмі смачныя турэцкія слаёныя піражкі. Усяго было багата. Усе гаварылі па-ангельску. Дырэктарка школы – тыповая дзелавая амерыканка ў караткаватай спадніцы, з круглымі каленямі, кароткімі валасамі і хударлявым тварам, з якога літаральна не сыходзіла ўсмешка. Ірына не толькі вучыць тут мову, але і акампануе на фартэп'яна, калі развучваюць песні, таму яе ўсе ведаюць. Прадставіла мяне дырэктарцы, я сказаў нешта накшталт ай эм глэд ту сі ю – я рады вас бачыць. Мусіць, вымаўленне маё было жахлівае, але дырэктарка падарыла мне чароўную ўсмешку.

Сімвалы Амерыкі: белазубая ўсмешка, высачэзны хмарачос, шыкоўнае аўто, хуткасны хайвэй, сотавы тэлефон, джынсы і шорты. Напісаў, заманулася палічыць – здзівіўся: сімвалаў налічыў сем. Магічная лічба ўбілася мімаволі. А яшчэ падумалася: у такіх школах спасцігаюць новыя, свежаспечаныя жыхары краіны не толькі яе мову, а і славуты Дух Амерыкі, які яднае, цэментуе трохсотмільённае рознакаляровае насельніцтва ў адзіны народ.

*24 лістапада.* Учора ўвечары на трох машынах паехалі ў суседні штат Н'ю-Хэмпшыр адзначаць нацыянальнае свята амерыканцаў – Сэнсгівін дэй (Дзень удзячнасці, День благодарения). Зарадзілася свята ў 1621 г. У 1630-м уся Новая Англія адзначала Дзень удзячнасці. У 1863-м прэзідэнт Лінкальн аб'явіў яго нацыянальным святам. З 1941 г. Сэнсгівін дэй адзна-

чаецца ў трэці чацвер лістапада. Сімвал свята – турка, дзікая індычка. Вядома, цяпер на стале індычка з супермаркета.

Заехалі ў горны гатэль, дзе загадзя замовілі тры пакоі, бо нас тры сям'і. Накрылі стол. У цэнтры яго – вялізная сакаўная смажаная індычка. Гатавала яе Алена. Я ехаў з імі ў новай крутой машыне – "нісан-максіма". Рухавік – 220 конскіх сіл. Вялізны табун! Ехалі з хуткасцю 90 міль – амаль 140 км, дарэчы, хуткасць не адчуваецца. Пераключаецца яна аўтаматычна, толькі дзве педалі – тормаз і газ. Набылі аўто ў крэдыт, а гэта кабала на некалькі гадоў. Затое колькі форсу!

Тут горы, парослыя лесам – сосны, бярозы, прыцярушаныя снегам. Сонца, чыстае неба. Любата! Хадзілі ў горы. Дарога вілася паўз невялікую бурлівую рачулку. Насустрач ішлі людзі, па 2-3 чалавекі, усе віталіся. Сяргей Арцімовіч нёс па чарзе сваіх хлопцаў. Я часам пасабляў Віктару несці Алесіка, бо ісці па горнай сцежцы было няпроста.

*25 лістапада. Субота.* Прачнуўся, доўга ляжаў, глядзеў праз вузкія вокны даха ў неба. Наша кватэра ў двух узроўнях: тры туалеты, тры ванныя, кухня абстаўленая, бар, пліта, халадзільнік, тэлефонны апарат, ля кожнага ложка тэлефонныя трубкі, лямпы пад вялікімі абажурамі. Падлога заслана дыванамі, мяккія крэслы, канапы. Шык!

Учора быў спартыўны дзень. Горы, лазня, басейн – гэта ўваходзіць у кошт. Лазня ў клубе альпіністаў, тут трэнажорная зала. За більярд і аўтаматы для гульняў трэба плаціць дадаткова. Закончылі дзень чырвоным віном і беларускімі песнямі.

*26 лістапада. Нядзеля.* Адшумеў Дзень удзячнасці. Я ўдзячны лёсу, што пашчасціла сустрэцца са сваімі землякамі.

Калі вярталіся, зноў уразіў хайвэй. Магутны паток машын розных марак, розных колераў і габарытаў. За рулём сядзелі мужчыны, жанчыны, маладыя і сталыя, белыя, жоўтыя, цёмнаскурыя. Як розныя колеры машын, так і розныя колеры скуры аўтамабілістаў.

У Бостане снегу не было. Свяціла зыркае восеньскае сонца.

*27 лістапада. Панядзелак.* На дварэ цяплынь – плюс 8-10. А ў Мінску снег, марозік. Хачу дамоў. Здаецца, няма тут ніякіх клопатаў, праблем – жыві, радуйся. Але там каханая жонка, вёска, дзе вялікая ціша і чысты белы снег. Праўда, там няма рэгулятара цеплыні, як тут, трэба рэгуляваць дровамі – болей ці меней спаліць іх. Затое няма ніякага грукату.

Сянні мяне пабудзілі вельмі рана машыны: кватэра маіх амерыканцаў на першым паверсе – два пакоі, кухня, ладная прыхожая, дзе зараз спіць Алесік. Тратуары тут дужа вузкія – дом тарцовай сцяной выходзіць на дарогу, мой ложак упіраецца ў сцяну, таму здаецца ноччу, што машыны едуць па галаве. Канечне, ёсць мара пра лепшую кватэру. Ірына скончыць школу, можа, знойдзе якую працу.

*28 лістапада. Аўторак. Плюс 10-12 (!).*

Учора аб'явілі: Буш выйграў выбары ў Флорыдзе, і ён прэзідэнт. Альбер Гор не прызнае сваю паразу. Амерыка на парозе палітычнага крызісу, расколу нацыі. Думаю, што Гора пераканаюць саступіць, бо іначай крызіс і раскол непазбежныя. І збудзецца прароцтва астролагаў, што ў XXI ст.

ЗША разваляцца на мноства карлікавых дзяржаў. Тэхас ужо гатовы аддзяліцца, а там захоча Каліфорнія, Мічыган, Новая Англія і г.д. Няўжо такое можа быць?

А на Украіне моцны галалёд, на Беларусі – мокры снег і туман. А ў Бостане свеціць зыркае сонца.

*29 лістапада.* І сянні цяплынь – плюс 10-12. Блаславёны Богам край.

Прыгадаў, як вярталіся з Нью-Хэмпшыра, дзесьці ля Канкорда, сталіцы штата, справа мільганула зялёная сенажаць, блакітны трактарок, копы сена. Мусіць, трэці ўкос. Чаму тут не гаспадарыць?

Ездзілі з Ірынай па магазінах гарадка Мэдфард. Завіталі ў вялізную гаспадарчую краму. Усё ёсць: машыны, дачныя домікі, лазня, куфры, дзіцячы і дарослы абутак, адзенне, кнігі. Дарэчы, кніг – мора. Выдадзеныя шыкоўна, кошт ад 2 д. да 15, а то і 19,99. Некаторыя пладавітыя аўтары – Стывен Кінг, Джаана Роўлінг, – займаюць цэлыя паліцы. На многіх асобніках – новыя цэны: калі кніга пастаяла пэўны час, яе не купілі, кошт зніжаецца. Дачны дамок можна набыць за 2440 д., лазню – за 1347 – якая дакладнасць! Купілі чамадан, лёгкі, хоць і даволі вялікі, з матэрыі, з ручкай і калёсікамі. Усё бліжэй дзень ад'езду. Хутчэй бы!

*30 лістапада. Чацвер.* Даждлівы ранак – другі за 20 дзён. Для позняй восені надвор'е проста цуд. І сянні распагодзілася, выбліснула сонца.

Забіраў Алесіка са школы, прыйшоў трохі зарана, але тут ужо было поўна людзей – усе чакалі малых. Спярша выводзілі дэбілаў, пажылая мажная кабета выкаціла вазок з мурлатым дзіцем, якое дэбільна ўсміхалася. Падкаціла да таксі – шыкоўнай белай машыны з буйной лічбай 14 ля задняй дзверцы. Малады мужчына дапамог уладкаваць хлопца на задняе сядзенне, жанчына села побач, мужчына каля вадзіцеля. Мо гэта бабуля і бацька хлопца? Твары дарослых былі сур'ёзныя, заклапочаныя, а дэбіл усё ўсміхаўся, паказваючы вялікі зуб.

Затым даволі маладая жанчына падвяла да аўтобуса хлопца-негра, у якога цякла з рота сліна, упхнулі яго на задняе сядзенне і апусцілі драцяную сетку. Трэцяга дэбіла выкацілі на калясцы, прыступкі ўжо іншага аўтобуса апусцілі на дол, паставілі вазок, накінулі дзягу, каб дзіця не выкулілася, паднялі вазок, прымасцілі яго ля кабіны. Усё гэта рабіў вадзіцель, мажны, у клятчастай кашулі з кароткімі рукавамі. Я пазіраў на гэтых дзяцей, і сэрца сціскалася ад жалю і спагады.

Усцешыла наступная сцэнка. Маладая кітаянка ў светлай куртцы, у акулярах, убачыла сваё малое дзяўчо, раскінула рукі ўбакі, прысела. Дачка кінулася да маці, а тая спрытна адскочыла ўбок, дачка з рогатам за ёй. Яны звонка смяяліся, дурэлі. Малая расчырванелася, крэпенькая, у красоўках, джынсіках, фіялетавай куртачцы, цёмнавалосая, белазубая – дзяўчо нагадвала нейкую дзіўную кветку. Маці шчаслівая смяялася. Міжволі падумалася: чалавечае гора і чалавечае шчасце аднолькавыя ва ўсім свеце.

Залюбаваўся і ледзьве не прапусціў Алесіка. Ён разам з хлапчукамі пакіраваў на вуліцу. Убачыў яго чырвоную кепку з казырком, сінюю куртку, цёмны партфель-рукзак. Дагнаў. Алесік развітаўся з сябрамі, мы ўзяліся за рукі і пайшлі. Дзед і ўнук на чужой зямлі.

*1 снежня. Пятніца.* Вось і надышоў апошні месяц 2000 года. Апошні месяц і XX стагодзя, і другога тысячагоддзя. Во, які гэты снежань незвычайны! Аж не верыцца, што я адзінаццаць месяцаў рабіў у штодзённіку занатоўкі. Упарты графаман! Ці графаманы ўсе такія?

Цудоўны снежаньскі ранак! Рука мімаволі хацела напісаць – зімовы ранак. Але якая ж зіма, калі на дварэ плюс чатыры! Выдатнае надвор’е!

Скандал з прэзідэнцкімі выбарамі разгараецца ўсё мацней. Каля сотні юрыстаў з усёй Амерыкі з’ехаліся ў Флорыду. Калі да 12 снежня ўсё не вырашыцца, настане канстытуцыйны крызіс. І яшчэ: калі Вярхоўны суд Флорыды падтрымае Буша, а Вярхоўны суд ЗША – Гора, то справа ідзе ў Кангрэс, а там рэспубліканцы і дэмакраты маюць па пяцьдзясят адсоткаў сяброў. Да таго ж Альбер Гор – старшыня сената, мае права заблакаваць рашэнне, калі яно на карысць Буша. Тупіковая сітуацыя!

Па-чалавечы Гор паступіў правільна, калі павіншаваў Буша з перамогаю, але ягоныя прыхільнікі-дэмакраты, мабыць, сказалі: ты зарана здаўся, маеш шанцы перамагчы. І ён мусіў даць адбой, і заварылася каша. І заварваецца ўсё мацней. Аўтарытэт Амерыкі коціцца ўніз ва ўсім свеце. З яе выбарчай сістэмы смяюцца людзі. Учора прыйшоў часопіс “Ньюсуік”. На вокладцы буйныя лічбы – 537, партрэт Буша, а за ім у ценю А. Гор, дакладней, – адно вуха, адно вока, нос і рот. Буш чырвоны, каляровы, а Гор – чорна-белы.

*2 снежня.* Слухаю радыё. У сталіцу Флорыды прывезлі 166000 бюлетэняў з паўднёвага рэгіёна. Буш патрабуе пералічыць усе бюлетэні, бо час працуе на яго, а Гор – за пералік толькі 14000 бюлетэняў, спрэчных ці не ўлічаных раней. Вярхоўны суд ЗША павінен вызначыць, ці меў права суд Флорыды парушаць тэрмін (сем дзён) аб”яўлення вынікаў галасавання. Каб суд умешваўся ў прэзідэнцкія выбары, такога ніколі не было ў гісторыі ЗША. Новы прэзідэнт будзе 43-м. Лічба ніяк не дзеліцца. Чорная магія?

*3 снежня. Нядзеля.* Зноў светлы дзень. Ноччу мінус 4, удзень плюс пяць. Ездзілі ў Рокпорт – каменны порт. Скалы, гранітны кар’ер запоўнены вадою, камяністы бераг акіяна. Цёмна-сіняя вада, ля берага зелянковая, з белаю пенай. Паветра празрыстае, лёгка дыхаецца. Незвычайная свежасць. Любата!

Вярталіся назад, заехалі ў МОЛЛ – велізарны комплекс магазінаў, у адным высозная елка, чарга – стаяць бацькі з дзецьмі, каб сфатаграфавацца. Памеры магазінаў унушальныя: у адзін бок метраў сто, у другі – гэтулькі ж. Ёсць усё, што пажадаеш. Народу поўна, усе набываюць падарункі. Усё вакол завалена таварамі, вырабамі, цацкамі. Тут пануе адзінае імкненне: любою цаною прадаць, прымусіць наведніка купіць.

Завіталі ў вялізную залу. Усюды столікі, па баках пякуць, смажаць. Тут можна пакаштаваць стравы розных краінаў. Ёсць амерыканская кухня, кітайская, японская, французская, мексіканская. Выбірай! Каля кітайскай сімпатычнае дзяўчо прапануе з’есці кавалачак куры (чыкін), які яна трымае на зубачыстцы. З’ясі пачастунак – і захочацца ўзяць цэлую порцыю, а гэта паўнюткая талерка: рыс, капуста брокалі, яшчэ нейкая зяляніна і вялікі кавалак мяса. Не з’ясі – могуць рэшту ўпакаваць у каробку, возьмеш дамоў. Тут гэта аптымальны варыянт, бо шмат людзей з дзецьмі, а порцыі ўсе вялікія – кошт 5-6 д. Паесці амерыканцы любяць. Балазе, “жратвы” поўна. Парадокс амерыканскага жыцця: усе вакол крычаць пра дыетычнае

харчаванне, тэлебачанне паказвае худых, як дошкі, фотамадэляў, газеты, часопісы славяць худых, а толькі і бачыш, як усе вакол жаруць напоўніцу. Ірынка, танклявая, зграбная, пасміхалася за сталом.

– Парадокс, бацька, вось у чым. Тыя, што прапагандуюць пахудзенне, а гэта цэлая індустрыя, нажываюць мільярды. Тыя, што гандлююць харчам, таксама багацеюць. А бедныя амерыканцы таўсцеюць.

– Мільянеры ўсе паджарыя, як ганчакі. А бяднейшыя – таўстуны. Вось паедзем у кіно, пабачыце, колькі папкорну купляе сямейка на сеанс, – усміхнуўся Віктар.

– Я таксама люблю глядзець кіно і есці папкорн, – уставіў свае тры грошы Алесік.

Але за гэтым сталом сваю порцыю здужаць не змог. Ірынка – таксама. Афіцыянт, порсткі, увішны кітаец, рэшту запакаваў у прыгожы карабок. Гэтага хапіла нам і на вячэру.

*4 снежня.* Дзень і сянні цёплы, светлы. Выйшаў на праходку, спыніўся ля пераходу. Святлафора тут няма, адно палоскі-“зебра” бялеюць. Прапускаю машыны. Шыкоўны джып паказвае правы паварот, але спыняецца. За рулём смуглявае дзяўчо ў акулярах – ці то японка, ці в’етнамка, прычоска – сарочына гняздо, ля вуха – мабільнік, махае мне бледнай ручкай, каб я пераходзіў. Памахаў ёй, маўляў, сэнк’ю вэры мач. Іду далей па вуліцы. Ля кожнага дома машыны, яны стаяць на тратуарах, на так званых драйвэях – пляцоўках каля дома. І нідзе не ўбачыш машыны бруднай, недагледжанай. Усе – шык і бляск. Ніжэй лічбаў нумара надпісы: Масачусетс. Ну, гэта правільна – прыналежнасць да штата. Але вось над лічбамі нумара: Спірыт оф Амерыка (Дух Амерыкі) – гэта слоган штата. Кожны штат мае свой слоган. Але ёсць іншыя надпісы, да прыкладу: Майлс энд смайлс (Мілі і ўсмешкі). Дзіва! Ірынка гаварыла, што бачыла надпіс: калі вы багаты, дык я не замужам. На маю думку, гэта – шэдэўр!

Уваччу стаіць той шыкоўны джып і смуглявае дзяўчо за рулём. Праўду казаў Віктар: для амерыканца машына – гэта не толькі ягоная крэпасць, як і ўласны дом. Гэта – ягоны касцюм. Яго прычоска, яго імідж. Машына, на якой ездзіш, вызначае твой статус, твой банкаўскі рахунак і ўсё астатняе.

*5 снежня.* Слухаю радыё, добрым словам узгадваю земляка Марка, які падарыў прымач, і я ў курсе ўсіх падзей у Амерыцы. Цырк з прэзідэнцкімі выбарамі працягваецца. Суддзя Сандрас Соўс прыняў рашэнне на карысць Буша, тут жа адвакаты Гора падалі апеляцыю ў Вярхоўны суд ЗША на дзвюх старонках – праект яе быў падрыхтаваны загадзя. Сянні Вярхоўны суд пачаў разгляд справы. Фінансавы аглядальнік паведаміў, што за лістапад месяц упершыню паявілася тэндэнцыя зніжэння заробкаў, падаюць акцыі некаторых кампаній. Затое расце еўра. Ці не пачатак заняпаду Амерыкі? Учора сустракаў Алесіка са школы. Дзень быў цудоўны, выйшаў з дому раней. У скверы бегалі, скакалі па галінках дрэў вавёркі. Налічыў іх дзевяць! Таўсматыя, укормленыя, шэрыя. Ля школы, як заўсёды, усе месцы на пляцоўцы, усе вуліцы застаўлены машынамі, насупраць выхаду тоўпіліся бацькі. Некаторых я ўжо прыкмеціў: мажная кабета з рыжай грываю ў плашчы колеру армейскай палаткі, аднаногі кітаец на мыліцах, хмуры індус, таўсматая негрыцянка, сівагаловы амерыканец з бародкаю. Выкацілі на вазках дэбілаў, потым высыпала малеча.

Знаёмая кітаянка ў фіялетавай куртачцы стрымгалоў падляцела да маці, якая з вялікай радасцю абняла яе, потым узняла ўгару. Малая залівалася смехам, нібы званочак. Іншая кітаянка каціла двухмесны вазок, у якім віднеліся дзве цёмнавалосыя галоўкі, трэцяе малое тэпала ўслед, чацвёртае выкацілася са школы. Такія сямейкі ў Бостане не рэдкасць. Харчу хапае, клімат спрыяе, жаданне ёсць. І вынік відавочны. Дома, у Кітаі, закон – толькі адно дзіця, а тут вольніца. У ЗША кітайцы пладзяцца, мабыць, актыўней за іншых. І ўсе яны рухавыя, падцягнутыя. За імі будучыня.

На маю думку, гадоў праз 15-20 Кітай можа быць краінай нумар адзін. ЗША – на другім месцы, Японія на трэцім, Расія, Нямеччына падзеляць 4-5 месцы, На 6-е можа выйсці Індыя, пацясніўшы Брытанію, Францыю. А там і Бразілія набярэ вышыню. Свет мяняецца.

6 снежня. Алесік учора атрымаў у школе канверт з адзнакамі, амаль па ўсіх прадметах А (5), а па матэматыцы В (4). Бацькі паўшчувалі: як жа так, у спецшколу возяць, даляры плацяць, а тут чатыры балы? Абяцаў падцягнуцца.

Штораніцы ў 8.45 Мэлар Стуруа апавядае па Нью-Ёркскім радыё падрабязнасці выбарчага марафону. Сянні ў Флорыдзе суддзя-негрыцянка разглядае новую справу: прызнаць 15 066 бюлетэняў, прывезеных з рэгіёна, несапраўднымі, бо рэспубліканцы перашкаджалі там лічыць. Тады А. Гор набярэ болей на тры ці чатыры тысячы галасоў. Суддзя – дэмакрат, а губернатар Флорыды Джэкаб Буш – родны брат Джорджа Буша – некалі спыніў яе кар"еру. Рэспубліканцы патрабавалі, каб яна адмовілася весці справу, але суддзя заўпарцілася, не адступіла. Сянні ж сем суддзяў Вярхоўнага суда Флорыды будуць разглядаць справу аб пераліку 14 тысяч бюлетэняў.

*7 снежня. Чацвер.* Былі ўчора ў дантыста: у Алесіка разбалеўся зуб. Падняліся на другі паверх, тут вітальня – нізкія столікі, заваленыя часопісамі, брашурамі. За шклом дзве кабеты-рэгістраткі. Адна бярэ грошы, другая выпісвае дадзеныя са страхоўкі. Доктар, стары, сівагаловы, высунуўся з дзвярэй: "Мікалай, пліз!" Усіх дзяцей ён кліча па імені. Лячылі Алесіка хвілін 15-20, паставілі пломбу. Ірынка заплаціла кэш (жывыя грошы) – 25 д., гэта 20 адсоткаў усяе сумы, якую пакрывае страхоўка. Але яна не бязмежная: 1200 д. на лячэнне зубоў кожнаму члену сям'і. Віктар мае права хварэць шэсць дзень у год, калі болей, дык без аплаты. Дарэчы, адпачынак усяго два тыдні.

Ірына зазначыла: у Амерыцы даць дзіцяці добрую адукацыю можа бацька-юрыст, альбо дантыст. Яны зарабляюць найбольш.

А цяпер зноў палітыка. Віцэ-прэзідэнт Буша – Чэйні, і Ліберман – віцэ-прэзідэнт Гора, прыехалі ў Вашынгтон, у Кангрэс. У Чэйні – задача рыхтаваць новую каманду. Ліберман супакойвае сваіх прыхільнікаў-дэмакратаў, незадаволеных Горам. А той заявіў учора на прэс-канферэнцыі, што яго шанцы 50 на 50, што тоўстая актрыса для яго яшчэ не праспявала. А. Гор меў на ўвазе оперы Вагнера: там у фінале заўсёды спявае тоўстая дама. Вобразна сказана!

Заўтра Кангрэс Флорыды абярэ выбаршчыкаў, пералік галасоў закончыцца, а значыць, і валтузня з выбарамі. А пакуль – расце еўра, самы высокі курс. У Вашынгтоне ў пралёце пяцізоркавы гатэль, у якім перад інаўгурацыяй пасяляліся высокія госці. Церпяць страты кветкавыя крамы,

фешэнебельны рэстаран побач з Капітоліем, дзе адбываюцца банкеты пасля інаўгурацыі. Гаспадыня рэстарана жалілася: не ведае, ці ёй спатрэбіцца 50 афіцыянтаў, ці 250. Дэмакраты прыжымістыя, а рэспубліканцы любяць шык. 50 і 250 – “как говорят в Одессе, две большие разницы”, – падсумаваў гутарку каментатар.

*8 снежня. Пятніца.* Праз тыдзень, у пятніцу раніцай, я павінен быць у Парыжы. А сянні ў Бостане снег, ноччу было мінус пяць. Нарэшце зіма. Мае поўнае права.

Амерыканцы ўжо месяц маюць права ведаць, каго яны абралі прэзідэнтам. Сянні два суддзі – мужчына і жанчына, вырашаць, ці залічваць бюлетэні (спрэчныя) іхніх участкаў, а гэта 14 тысяч плюс 11 тысяч. Раней Гор заяўляў, што трэба ўлічваць усе бюлетэні, нават спрэчныя, а цяпер кажа: гэтыя 25 тысяч трэба выкінуць. Увечары супругі Гор і Ліберманы пайшлі ў кіно, маўляў, мы не хвалюемся, мы пераможам. “Але рашэнне суда, мабыць, будзе не на іх карысць, – сказаў М. Стуруа. – Калі суд сёння падтрымае адвакатаў Буша, то ён стане 43-м прэзідэнтам ЗША”. Далей ён выказаў такое меркаванне: потым спрэчныя бюлетэні падлічаць, і акажацца, што перамог Альбер Гор, а ў Белым доме сядзіць Ілжэ-Дзмітрый.

*9 снежня. Субота.* Вялізны мастацкі музей Бостана не зрабіў вялікага ўражання. Можа, таму, што некаторыя залы былі зачыненыя. Наведнікаў мала. Карціны сучасных мастакоў уразілі сваёй бяздумнасцю. А мо за бязладнымі лініямі – звілістымі, прамымі, паралельнымі, перпендыкулярнымі, – прыхавана нейкая глыбокая думка пра сучаснае амерыканскае жыццё? Не ведаю, я, грэшны, гэтага не ўцяміў.

Нарэшце ўбачыў у Амерыцы прыгожую жанчыну: яна прадавала шалікі, якія сама выткала. Прыгожая ўсмешка, доўгія светларусыя валасы, класічны твар, тонкая талія, грацыёзныя рухі, калі завязвала шалікі пакупніцам. Тыя пазіралі на сябе ў люстэрка, усміхаліся і даставалі партманеты. Вось цыбатая рыжая амерыканка нахіліла галаву на доўгай шыі. Мая фея завязала ёй пярэсты шалік, які вельмі пасаваў да светла-шэрага палітона “жырафы”. Яна пакруціла галавою, гледзячы на сябе, задаволена ўсміхнулася і – купіла шалік. Я доўга здаля любаваўся прыгожаю кабетаю. Ірына і Алесік куплялі нешта паесці. Нарэшце фея адчула мой позірк, чароўна ўсміхнулася і мусіла павярнуцца да чарговай кліенткі. А я падумаў: калі б меў багата баксаў, скупіў бы ўсе шалікі ў гэтай прыгажуні, а потым аддаў бы ёй бясплатна назад, сабе пакінуў бы толькі адзін.

Яшчэ адну прыгажуню бачыў раней у метро. Смуглявая, зграбная дзяўчына ў караткаватай спадніцы – звычайна ўсе ў штанах, – прыгожыя ногі. Уся – само хараство і прывабнасць. Дзяўчо трымалася за парэнчы і пазірала ў вакно вагона, а мо любавалася сваім адлюстраваннем у шыбіне вакна.

*10 снежня. Нядзелька.* Ужо роўна месяц, як я вандрую па свеце. Учора адбылося тое, на што ніяк не разлічваў – я катаўся на каньках! Амаль сорак гадоў не стаяў на іх. І вось учора адбыўся дэбют на амерыканскім лёдзе, на катку горада Мэдфард. Была ладная кампанія – прыехалі на дзвюх машынах. Канькі ўзялі для мяне напракат за 3 д. Каток вялікі, у закрытым памяшканні, прыгожая музыка, яркае святло, добры лёд. Катаўся і сам дзівіўся. Ірынка радавалася:

– Ну, бацька, ты малайчына! Мы ўсе вачам сваім не верым.

Праўда, адзін раз я грымнуўся, але, дзякуй Богу, нічога не зламаў. Левая рука трохі баліць, ды гэта драбяза ў параўнанні з той радасцю, якую меў. А была і яшчэ адна радасць. Усе мы любаваліся зіхатлівымі гірляндамі, упрыгожанымі елкамі, дзівоснымі вогненнымі скульптурамі каля дамоў.

Каля аднаго дома мы спыніліся. На падворку стаялі два алені, паварочвалі зіхоткімі галовамі. Увесь дом, доўгі, прысадзісты, свяціўся нібы карабель. Велізарная сняжынка зіхацела над дахам, ад яе нібы расцякаўся ручай – зіхоткая гірлянда праз увесь канёк, метры праз два ад яе збягалі ўніз гірлянды-ручайкі. Высокая брама ззяла, па баках яе круціліся стылізаваныя ёлкі. Усе кусты на падворку зіхацелі агнямі, свяцілася паштовая скрыня, дзверцы яе рытмічна адчыняліся і зачыняліся. За ёй высіўся вялізны Дзед Мароз, які ўсміхаўся, падымаў і апускаў руку. Мы ўсе павыходзілі з машын, іншыя аўто спыняліся, з іх высыпала дзятва. Алесік стаяў, разявіўшы рот. А дарослыя гаварылі, колькі “нагарыць” гаспадару да Раства, што зроблена ўсё з густам, гаспадар, мабыць, не толькі электрык, але і мастак-дызайнер. Талент і густ былі відавочныя.

А мне падумалася: гэты дом, нібы ўся Амерыка ў мініяцюры: канкурэнцыя, прага рэкордаў, прага быць першым, здзівіць і ўразіць усіх.

*11 снежня.* Панядзелак – тыдня новага мяжа. Апошняга на амерыканскай зямлі. Віктар завёз учора ў японскі рэстаран “Гінза” – раён у Токіа, як Брадвей у Нью-Ёрку. А тут – раён кітайскі, шыльды на дзвюх мовах – ангельскай і кітайскай. Па вуліцах табунамі ходзяць кітайцы.

Частаваліся японскімі сушы – гэта цуд кулінарнага мастацтва. Маладая, смуглявая, зграбная, вельмі ветлівая афіцыянтка прынесла дзве вялізныя лодкі, поўныя сырой рыбы, рысу, водарасцяў, вострага соусу і, вядома ж, глячок сакэ – цеплаватай японскай гарэлкі, мацунак яе 20 градусаў. П’ецца прыемна, лёгкае ап’яненне. Віктар выпіў адзін маленечкі кілішак, Ірынка таксама піла мала, то на маю долю, як у Адэсе кажуць, дасталася большая палова.

Выйшлі мы з рэстарана ў добрым гуморы, ішлі па сярэдзіне вуліцы – яна пешаходная, і спявалі “Вы шуміце, шуміце, нада мною бярозы...” Кітайцы шырока ўсміхаліся і давалі нам дарогу.

А зараз пра палітыку. У суботу ў 13.15 Вярхоўны суд ЗША (5 на 4) прыняў рашэнне – спыніць пералік бюлетэняў. Сянні ў 11 гадзін па вашынгтонскім часе пачнецца паседжанне суда: 9 суддзяў вырашаць тое, чаго не вырашылі 154 мільёны амерыканцаў, якія бралі ўдел у галасаванні. Больш за тое, усё можа вырашыць перавага на адзін голас суддзі. Пералік скараціў разрыў паміж Горам і Бушам да 94 галасоў.

*12 снежня. Аўторак.* Дождж, плюс 13. У Чыкага гэтулькі градусаў марозу. А ў нас, у Бостане, адчуваецца подых Атлантыкі. І ў Мінску – цяплынь, плюс 8. Штораніцы, пасля фіззарадкі, перадаюць анекдоты. Вось самы кароткі: англійскі граф кажа свайму лёкаю: “Ведаеш, Джон, у мяне сёння рабочы настрой. Я сам аблуплю сабе яйка”. (Які вялікі працаўнік!) Або вось такі. Прыходзіць кабета да доктара: “Што можна зрабіць, каб мае грудзі не абвісалі, а стаялі перпендыкулярна?” – “Усё вельмі проста, – адказвае доктар. – Трэба хадзіць на карачках”.

Бываюць такія салёныя жарты, што я пасаромеўся б расказваць іх у

кампаніі, а тут на ўсю рускамоўную Амерыку. Можа, таму, што руская мова для гэтых жартаўнікоў чужая. А лаянца на чужой мове – экзотыка.

Сянні апошні тэрмін, калі Вярхоўны суд павінен паставіць кропку ў прэзідэнцкім марафоне. Мэлар Стуруа падрабязна аналізуе сітуацыю. Калі суддзі прымуць рашэнне лічыць бюлетэні, то яны могуць “прырэзаць” яшчэ тры дні пасля 12 снежня. Кангрэс Флорыды ўжо накіраваў каманду выбаршчыкаў-рэспубліканцаў. Калі ж пасля пераліку галасоў пераможа А. Гор, суд накіруе каманду выбаршчыкаў-дэмакратаў. Тады кангрэс ЗША павінен вырашыць, якую каманду прызнаць правамоцнай. У кангрэсе бальшыня рэспубліканцаў, у сенаце – 50 на 50, ды старшыня Альбер Гор. Ён прагаласуе за сябе і стане прэзідэнтам. Цырк на дроце.

Сянні пачуў па радыё новы тэрмін – “замедляющаяся экономика”. А яшчэ каментатар, нібы між іншым, прамовіў: “возможны увольнения”. Гэта вынік цягамоціны з выбарамі прэзідэнта.

*13 снежня. Серада.* Прачнуўся а палове чацвёртай і болей не заснуў. Думаў пра ўбачанае ў Амерыцы, пагартаў свой штодзённік. Пісаў для сябе, не мудрагеліў. Ёсць цікавыя назіранні. А самыя яркія ўражанні засталіся ў душы, у памяці.

Ірынка ўчора сказала: трэба наведаць карабель “Канстытуцыя”, грэх не пабываць там. Паехалі. “Канстытуцыя” – гэта велізарны параснік, пабудаваны ў Бостане ў 1757 годзе. Першы вялікі карабель, аграмадныя ветразі, высозныя тры мачты, 32 гарматы. У 1830 годзе карабель прызналі непрыдатным для баявых дзеянняў, але яго зберaглі да нашых дзён. Шмат разоў капітальна рамантавалі, і цяпер ён служыць музеем, які ўздымае, узмацняе Дух Амерыкі.

Дзьмуў моцны, парывісты вятрыска, на адкрытай палубе немагчыма было стаяць, а ў кубрыках – цішыня, рэзка пахла прасмоленымі канатамі, іншым начыннем. Сталася так, што за дзень да нашай экскурсіі на карабель “Канстытуцыя” прыйшоў свежы нумар “Ньюсуіка”, на вокладцы разадраная старонка манускрыпта і буйныя літары “ХАОС”. Віктар патлумачыў, што гэта старонка амерыканскай Канстытуцыі. Калі валтузня з выбарамі зацягнецца, краіну чакае хаос. І таму, ходзячы па караблі “Канстытуцыя”, я думаў пра сапраўдны звод законаў, пра Амерыку, якая прытуліла родных мне людзей.

*14 снежня. Чацвер.* Вось і надышоў дзень ад’езду. Амерыка ўчора слухала прамову новага, 43-га прэзідэнта. Усё стала на сваё месца. Цяпер можна ехаць. Як быццам ад мяне нешта залежала! Цікавы, беспрэцэдэнтны выбарчы марафон закончыўся. А 9-й вечара па тэлебачанні выступіўАльбер Гор. Сказаў, што дзеля спакою ў краіне ён саступае, выходзіць з барацьбы. Цытаваў Джэферсана. Сказаў: краіна ў нас адна, гісторыя – адна, заклікаў падтрымліваць Буша, пажадаў усім добрай ночы і скончыў: “Хай блаславіць Бог Амерыку!”

А 10-й вечара выступіў Джорж Буш. Ён свяціўся ад радасці. Яму 54 гады, выглядае молада. Яркі чырвоны гальштук – сімвал рэспубліканскай партыі. Прамова разумная, змястоўная. Ірына і Віктар пераклалі мне. Вось пра што сказаў новы Прэзідэнт ЗША.

– Закончыўся доўгі, цяжкі выбарчы марафон. Я заклікаю нацыю аб’яднацца. Я буду прэзідэнтам для кожнага амерыканца, для таго, хто і

не галасаваў за мяне. Я буду служыць Амерыцы, а не партыі. У нас хапае праблем, якія трэба вырашаць. Трэба зніжаць падаткі, рэфармаваць сістэму аховы здароўя, сістэму адукацыі.

Напрыканцы Буш падзякаваў усім, хто быў з ім побач. Падзякаваў жонцы, пацалаваў яе ў шчаку перад тэлекамерай. Хітрун, разумее, што гэта амерыканцам спадабаецца. Ён другі, пасля Адамса, у каго бацька быў прэзідэнтам.

А на дварэ снег. Усю раніцу валіў. Бостанскае тэлебачанне перадае, якія школы зачынены, якія адкрыюцца пазней на адну, ці дзве гадзіны. Некаторым трэба ехаць з гарыстых вуліц, гэта небяспечна, дый непрывучаны амерыканцы да гэткага надвор'я.

Бывай, Амерыка! Мяне чакае Парыж, затым Вільнюс. Там давядзецца чакаць да 11 вечара, пакуль збяруцца ўсе пасажыры-мінчукі. Прыляцеў у Бостан дажджом, вылятаю пад снегам. Калі пішу гэтыя радкі, каментатар гаворыць па радыё: Альбер Гор ні разу не вымавіў слова "паражэнне". Сказаў, што ён саступіў, і гаварыў усяго 5 хвілін, хоць замоўлена было 15. А мне падалося, сказаў ён усё, што трэба было сказаць, і ні слова лішняга.

На свеце багата падзей. Пуцін прыбыў сянні на Кубу. У Іспаніі арыштавалі бізнесмена Гусінскага, у Ізраілі – вайна, у Чачні – чарговы выбух. Жорсткі, бязлітасны свет набліжаецца да новага тысячагоддзя.

Гудбай, Амерыка! Мажліва, пашанцуе, і яшчэ раз пабуду на тваіх імклівых дарогах. Мажліва, яшчэ раз убачымся.

*15 снежня. Пятніца.* Цалюткі дзень быў у дарозе. Учора а 17.30 вылецеў з Бостана. Ляцеў добра, праўда, ноччу амаль што не заснуў. А 7-й раніцы быў у Парыжы. Тут сыпаў дробны восеньскі дождж. Ехаў аўтобусам з тэрмінала Е да тэрмінала Б. Паспяшаўся выйці раней. Хударлявая, вастраносая ветлівая парыжанка пасадзіла на лаву. Пару аўтобусаў прапусцілі, на трэці паклікала, паказала два пальцы – два прыпынкі. "Мерсі. Гранд мерсі!" – шчыра дзякаваў ёй.

*16 снежня.* Працяг тэмы. У Вільнюс прыляцеў а палове трэцяй. Давялося чакаць да 22.30 – пакуль прыляцеў самалёт з Капенгагена. Лётаў не меў, у горад не паедзеш, не патэлефануеш. Мяне турбавала, як у Мінску дабрацца да хаты, на дварэ глыбокая ноч. Вадзіцель, які нас тут сустракаў, паабяцаў за пяць баксаў давезці дадому. Зайшоў да дзяжурнага міліцыянера, папрасіў патэлефанаваць у Мінск. "Гаварыце нумар..." Ева ўзрадавалася, пачуўшы мой голас. "Слава Богу, што ты ўжо на сваёй зямлі. Мы тут сядзім, думаем, калі цябе сустракаць". – "Кладзіцеся спаць. Дабяруся самастойна".

*17 снежня. Нядзеля.* Праз сорак дзён я зноў у сваёй вясковай хаце. Выстыла яна, хоць ваўкоў ганяй. Снег растае. Холадна, золка, непрытульна. Прапаліў у пліце, зварыў сабе бульбы, Джэку – шкурак. Джэка ўжо не пазнаць – брухаты. Аказваецца, гэта не кабель, а сучка. Дзівосы!

Прапаліў у грубцы. Пакуль хата грэлася, пайшоў да суседзяў. Стась і Зіна ўзрадаваліся, была ў іх і баба Люся. Дружна дзякавалі мне за новую дарогу. Падсыпку зрабілі ад самай гравійкі – да вёскі, у нізіне паклалі вялізную трубу, зрабілі высокі насып. Цяпер ужо ніхто не буксуе. Пыталіся пра жыццё-быццё ў Амерыцы, сёе-тое расказаў. Выпілі за новую дарогу, за маё вяртанне. Моцная жытнёвая самагонка пачала грэць знутры.

Познім вечарам яшчэ раз прапаліў у пліце, нагрэў вады, напоўніў тры пласцікавыя бутэлькі: дзве пад бакі, трэцюю – пад ногі. Толькі так можна заснуць у ледзяным ложку.

*18 снежня. Панядзелак.* Сказалі па радыё: сянні – сатанінскі дзень. Але прайшоў нармальна. Рады, што я дома, што скончылася далёкая вандроўка. І гэтая думка грэла мяне ўвесь дзень. А якой утульнай цеплынёй дыхала напаленая бярозавамі дрывамі грубачка! Ніякі амерыканскі хіт не можа з ёю параўнацца.

А як дыхаецца ў лесе! Перш чым увайсці ў гэты храм прыроды, заманулася стаць на калені. Адламаў некалькі галінак елкі, укленчыў, і так стаяў, удыхаючы на поўныя грудзі бадзёрае, нібы віно, лясное паветра, якое пахла ядлоўцам, прэлым лісцем, мокрым верасам і азімінай, якая зялёным дыванам ахінула вёску.

Не, жыць у шалёным Нью-Ёрку ці застацца ў Бостане я не хачу.

*19 снежня.* Самыя кароткія дні, неба нізкае, зацягнутае попельна-шэрымі густымі, як дым, хмарамі. Каб марозік быў, то і неба было б іншым – светла-блакітным, нават зелянковым. Зіма наперадзе. Усё яшчэ будзе: і снег, і мароз, і завіруха.

Паслухаў учора пчол, пачысціў лёткі ад падмору, каб вентыляцыя была лепшай. Пакуль усе жывыя, але да вясны яшчэ далёка. Зімоўка пчол – вельмі далікатная справа. Бывае, гінуць дзясяткі сем'яў, а то і цалкам пчальнікі. Здзіўляюць сініцы. Абы тае малечы, а ў некаторых доміках павыцягвалі затычкі з верхніх лётак. І стукае ў сценку, пакуль пчала не выпаўзе, тут сініца спрытна хапае здабычу – і на галінку яблыні. Снязданак здабыла.

Адвячоркам прайшоў па новай дарозе да гравійкі. Такі высокі насып, глыбокія адкосы, трохі вузкаваты шлях, але ж размінуцца , раз'ехацца можна, дый рух тут невялікі. Заўтра паеду ў лясніцтва, заеду ў сельсавет, падзякую.

*20 снежня. Серада.* Вось і марозік – мінус чатыры. На траве шэрань, а снегу няма. Затое неба расчысцілася – ні воблачка.

Ездзіў у лясніцтва, выпісаў пару кубоў дроў, балазе, лесасека блізка, лягчэй прывезці. Шкада, ляснічага не было на месцы, хацелася б пагаварыць, дамовіцца наконт палявання. Затое са старшынёй сельсавета пабачыўся. Падзякваў ёй за падсыпку дарогі, павіншаваў з Новым годам, запрасіў у госці. Яна ўзрадавалася, успомніла Зосю, журналістку з раёнкі, яна прыязджала ў Залессе, пісала пра ферму, тады дарогі новай яшчэ не было.

– Вы патэлефануйце ў рэдакцыю. Ёй будзе прыемна.

– Дык у мяне ж няма тэлефона. Трэба ісці да суседзяў.

– А мы зараз набярэм. Можа, на месцы.

Так, Зося была ў рэдакцыі, але гаварылі коратка: яна рыхтавала матэрыял у нумар, на наступным тыдні – у сераду ці чацвер хоча прыехаць. Значыць, трэба купляць шампанскае. Пачнем сустракаць Новы год.

*21 снежня. Чацвер.* Марозік мінус пяць. Зімовы сонцаварот 2000 года. Сонца за хмарамі не відаць, але ягоны паварот мусіць адбыцца. Прырода няўхільна трымаецца сваіх законаў. Чалавек можа забыцца зрабіць нават нешта абавязковае, а прырода ўсё робіць своечасова, асабліва такія зме-

ны, як дзень-ноч, зіма-лета. Праўда, сёлетняя зіма запазнілася. Для ўсяго жывога гэта добра. Мая пшанічка-зімка ярка зелянее, радуе вока сейбіта.

Парадавала і Джуля (былы Джэк) нарадзіла шчанюкоў – пішчаць у будане, а яна пяшчотна іх вылізвае. І што з імі рабіць? Гадаваць? Але куды іх потым дзяваць? Трэба параіцца са Стасем.

*22 снежня.* Як добра ў сваёй хаце! Цёпла, ціха, утульна. Учора падвечар усхапіўся вецер, высвістаў веранду, давялося болей дроў спаліць у грубцы. Спачатку сасновых і бярозавых, а потым паленцаў пяць асінавых, каб выпаліць у коміне сажу. Як прыгожа, роўна, светла гараць асінавыя дровы! Жывы агонь, мабыць, і чалавечую душу ачышчае, спальвае змрочныя ці грэшныя думкі. Нездарма людзі на лецішчах робяць каміны.

Па абедзе хадзіў у Бярозкі да спадарыні Лілі. Узрадавалася, дакарала, што забыў да іх дарогу, распытвала пра Амерыку, сын-праграміст аж млее, так хоча за акіян. Павіншаваў з Новым годам, даў паўлітровы слоік мёду, атрымаў пацалунак і трохлітровік малака. Прасіла прыйсці на наступным тыдні. Можа, сходзім з Еваю, калі будзе добрае надвор'е.

У Джулі чацвёра шчанюкоў: адзін чорны, два пярэстых і адзін жоўты. Дарэчы, назвалі яе гэтак суседзі, з падачы бабы Люсі: у яе некалі была сучка Джуля. Я пагадзіўся.

*23 снежня. Субота.* Мінус 6-7. Дзень ціхі, зажураны. Зрэдку сыплецца снег-крупы. За ноч зямлю добра забяліла. Сонца не выглядвае з-за нізкіх аблокаў. Хмарна, цёмна, насамрэч вечар года. Чакаю сваіх мінчукоў. Калі не сянні, дык заўтра павінны прыехаць, мяне адведаць, набраць са склепа рознай гароднiны – наперадзе Новы год. Мне хочацца сустрэць яго ў вёсцы. Калі Ева пагодзіцца, будзем тут, як Дзед Мароз і Снягурка.

Учора ўвечары сядзеў ля грубачкі. Дуся мурлыкала на каленях, яна схуднела, лёгкая, але якая поўсць магутная – начавала на вуліцы, уцяплілася. Як прыехаў, дык ужо гэтак радавалася, усё цёрлася аб штаніны. Але і дакарала – мяўкала, мяўкала, маўляў, пакінуў гаспадар надоўга. Цяпер мы разам,наліваю малака поўную чарупку – усё з'ядае , потым доўга вылізвае сябе. Акуратніца мая Дуся. Гаспадарка павялічылася.

*24 снежня. Нядзеля.* Сянні цяплей – мінус 2-4. Лагоднае надвор'е.

Выскачылі тры вольныя дні ў рабочага люду. У мяне дні аднолькавыя, і спрадвечныя зімовыя клопаты аднолькавыя: прынесці дроў, вады, згатаваць яду сабе і Джулі, накарміць Дусю. Па вясне трэба завесці курэй, раз ужо я тут зімую, хай будуць чубаткі .

Ева з Косцем прыехалі ўдзень. Абед я згатаваў, усім спадабаўся гарбузовы малочны суп, тушаныя кабачкі. Святочную вячэру гатавалі разам. Заўтра – каталіцкія Каляды – Крысмас, самае любімае свята амерыканцаў. За месяц да яго пачынаюць купляць падарункі, упрыгожваюць свае дамы. Пра адзін з такіх дамоў я, здаецца, пісаў.

Глядзелі набажэнства ў Кафедральным касцёле. Прыгожа. Маляўніча. Усё па-беларуску. Мне, заўзятаму атэісту, нават захацелася пабыць там. Час мяняе людзей. Цікава, ці глядзеў перадачу Андрэй Сахута, былы абкамаўскі ідэолаг? Некаторыя былыя высокія партфункцыянеры, якія зараз на дзяржаўнай службе, стаяць са свечкамі ў храмах, моляцца, гатовыя лоб разбіць. Брыдкае, фарысейскае гэта відовішча.

*25 снежня. Панядзелак.* Цішыня і адзінота. Ева з Косцем паехалі. Напакавалі дзве торбы: капусты, морквы, бурачкоў, салёных гуркоў, цыбулі, яблыкаў. Ева радавалася: не трэба ехаць на рынак, дый па якасці сваё куды лепшае. Ева заўсёды кажа: сваё – яно і ёсць сваё.

Гэта амерыканцы каля дома ніякіх градак не маюць, там усё расце ў супермаркеце. Падумалася, як учора Амерыка, Заходняя Еўропа, Аўстралія адзначалі Раство. Прыдумалі людзі прыгожы міф, зрабілі сабе свята.

Сядзеў ля грубачкі, пазіраў на жывы агонь, Дуся мурлыкала на каленях, перабіраў у памяці амерыканскія ўражанні. Між іншым, здаецца, што было гэта даўно, дні, праведзеныя там, неяк зліліся ў адно цэлае: паездкі, сустрэчы, вялізныя магазіны, залітыя святлом, бляскам, вуліцы, нібы асветленыя ўсмешкамі людзей. А ўсміхаюцца ўсе, нават зусім незнаёмыя.

Неяк былі мы з Ірынай у вялізнай краме “Стоп энд Шоп” – спыніся і купі. Качу цялежку, Ірына ўсяго накладвае, насустрач коціць напакаваную цялежку цёмнаскурая мажная пакупніца. Я ўзяў правей, каб яе прапусціць: “Хай!” – махнула мне рукой кабета і шырока ўсміхнулася, а зубы ў яе нібы часнок. Як адкрыла рот, дык нібы гусі бліснулі з-пад печча. Помню з дзяцінства: у моцныя маразы бацька прыносіў гусей у хату, у падпечак.

Дык вось, тая негрыцянка мяне здзівіла. Я азірнуўся – падалося, што ейныя шырозныя джынсы ўсцягутыя на вялікі гарбуз. І гэткая камплекцыя ў многіх цёмнаскурых амерыканак: спераду – дзве дыні, ззаду – гарбуз, і ўсмешка на ўвесь рот. За дзесяць дзён, як я вярнуўся, не бачыў ніводнай гэтакай белазубай усмешкі. У вёсцы людзі сталага веку – і мужчыны, і жанчыны, амаль усе бяззубыя. І хоць для пенсіянераў уставіць зубы зусім нядорага, затое трэба ехаць у раён, страціць не адзін дзень. Карацей, у Амерыцы не бачыў ніводнага чалавека з дзіркай у роце.

*26 снежня. Аўторак.* Каталіцкі свет п’е, гуляе, а праваслаўныя вернікі яшчэ пасцяцца. Мне шкада іх: нават за навагоднім сталом яны не могуць разгавецца. Каталіцкае Раство мае больш логікі: сонца павярнула на вясну, дзень пачаў расці, прырода абуджаецца, таму і Хрыстос нарадзіўся. Прыемна, што ў касцёле можна пачуць родную мову.

Учора па радыё выступала Ядвіга Грыгаровіч. Рэктар універсітэта культуры, яна цяпер – член Савета Рэспублікі, сенатар. А як хораша гаварыла – пра духоўнасць, пра культуру, пра нашу гісторыю. Кажуць. што толькі яна выступае на паседжаннях СР на беларускай мове. О, каб такіх прыгажунь і разумніц было болей!

Неяк заманулася зняць з паліцы кнігу “Идиот” Дастаеўскага. Некалі чытаў, узяўся гартаць – не адарвацца. Хоць і зацягнута. І паўторы бясконцыя, а цікава! І няправільнасці тыпу: “большая половина гостей”. Або, як паўтарае словы для ўзмацнення думкі: “...связующей мысли не стало; всё размягчилось, всё упрело и все упрели! Все, все, все мы упрели”. Знайшоў словы ў падтрымку маёй пісаніны. Часам я лавіў сябе на думцы, што пішу коратка, суха. Дык вось, зямляк Фёдар Міхайлавіч зазначае: “Всего лучше иногда рассказчику ограничиваться простым изложением событий”. А далей вось як: “К тому же всякие записки очевидцев драгоценность. Даже кто бы ни был очевидец. Не правда ли?” Так, Фёдар Міхайлавіч, праўда! Я і ёсць той самы “очевидец”, які жыве на мяжы тысячагоддзяў і штодня крэмзае паперу. Можа, і недарэмна? “Бремя моих сомнений стало легче”. Аднадумца ў мяне геніяльны, прызнаны ўсім светам аўтарытэт.

*27 снежня. Серада.* На дварэ снег, завея. Як добра, што мне нікуды не трэба ехаць. Дровы ёсць. Хлеб – таксама. І да хлеба – чарка і скварка.

А вось сон прысніўся скрушны. Нібыта з нябожчыцай, незабыўнай Лідай Якубоўскай збіраліся ехаць на здымкі – запісваць перадачу «Запрашаем на вячоркі». Яна напісала сцэнарый, я быў у ролі вядучага, хоць і працаваў ужо ў выдавецтве. І тут узнікла праблема з транспартам – зламаўся тэлевізійны рафік, на якім меліся ехаць, іншую машыну не даюць. Ліда кажа мне: «Патэлефануй старшыні. Ён жа цябе помніць». Набіраю нумар, сакратар адказвае: «Генадзь Мікалаевіч заняты». Так і не злучыла са старшынёй. Ліда праз слёзы: «Гэтая сцерва супраць мяне ваюе», – і назвала прозвішча музычнага рэдактара. Я хацеў яе абняць, суцешыць, яна адштурхнула мяне.

На гэтым прачнуўся. Сэрца тахкала за грудзінаю, у роце смажыла. Вечная загадка сноў. Чаму Ліда праснілася? Пра яе не згадваў апошнім часам. Раней бывала, калі трапляўся вясковы сюжэт, думаў: каб не яна, я б не трапіў на тэлебачанне, а потым у выдавецтва, так бы і працаваў аграномам, магчыма, старшынёй калгаса. Можа б, выбіўся ў перадавікі, хадзіў бы даўно Героем Працы. Ліда перайначыла маё жыццё. Сэрца зашчымела ад скрухі, шкадобы: ужо дваццаць гадоў, як пайшла з жыцця прыгожая, таленавітая дзяўчына з глыбіні Палесся. Заўсёды буду ёй удзячны і буду шкадаваць, што яе няма.

*28 снежня. Чацвер.* Зося стрымала слова – прыехала напрыканцы дня. Была ў школе ў Залессі, будзе пісаць пра яе дырэктара. Дарога ёй спадабалася, напіша і пра дарожнікаў. Я выставіў шампанскае, яна спачатку замахала рукамі: няма часу, трэба пісаць у нумар артыкул. Вадзіцель спяшаецца дамоў, бо хутка ацямнее.

– Зося, даражэнькая, за новую дарогу, за Новы год грэх не выпіць.

Пасля бакала шампанскага Зося перастала спяшацца, вочы заблішчэлі. Яна адразу расслабілася, пачала расказваць пра газетныя справы. Рэдактару год да пенсіі, дужа баіцца крытычных артыкулаў. А людзі пішуць скаргі, сям-там такое безгалоўе, а пісаць пра гэта не магі – адсылаюць на рэагаванне. Газета траціць аўтарытэт.

– Я рада, што дарогу зрабілі. Насамрэч, за гэта грэх не выпіць.

Вядома ж, выпілі за Новы год, ды не абы-які – 2001.

– Дзе будзеце сустракаць яго? У вёсцы?

– Так. Заўтра прыедзе жонка. Паставім елачку. Сын застанецца ў горадзе са сваёй дзяўчынай.

– А вы як Дзед мароз са Снягуркай. Вам можна пазайздросціць. Напішыце нам пра вясковае жыццё, пра пчол, – яна адкрыла мой прэзент – слоік з мёдам, удыхнула ягоны водар. – Абалдзенны пах!

На развітанне мы абняліся, пацалаваліся.

– Праводзіць не трэба. Лепш, каб вадзіцель вас не бачыў. Я сказала, што тут жыве бабулька, – гарэзліва ўсміхалася Зося.

Калі машына ад’ехала, я выйшаў на вуліцу, на дарозе яшчэ былі відаць чырвоныя габарытныя агні рэдакцыйнай «Нівы». Уваччу паўстаў амерыканскі хайвэй, мора пунсовых ружаў на нашай паласе, і мора бліскучых, зіхатлівых, нібы сярэбраных, шарыкаў на паласе сустрэчнай. Падумалася: гэтая пясчаная дарога даражэй за любы хайвэй ці аўтабан.

*29 снежня. Пятніца.* Апошнія дні старога года. Надвор’е дужа лагоднае – 1 градус марозу. Схадзіў уранні ў лес, высек невялікую елачку сабе

і бабе Люсі – паабяцаў ёй. Аднёс. Колькі было радасці! Паказала вялікі кардонны карабок цацак.

– Прыедуць жа дзеці, унукі. Ім жа будзе прыемна, што матка не забытая. Што добрыя людзі кожан Божы дзянёк дзверы адчыняюць. Я ж сёння гасцінцаў накупляю. Можа ж крама прыедзе. Дарога ж цяперыка добрая. За гэта вам, Захаравіч, дзякуй. І мае не забуксуюць, як было уперад.

Старая тым часам дастала з халадзільніка пачатую пляшку гарэлкі, пачала выстаўляць сподачкі з нарэзанай каўбасой, салёнымі агуркамі, кавалкамі селядца, місу квашанай капусты, запраўленай цыбуляй. Я замахаў рукамі, як учора Зося, але баба Люся настойліва запрашала, было ясна, што яна загадзя падрыхтавалася, і крыўдзіць старую не выпадала.

– Гарэлка крамная. Сваю ўжо не ганю. Некалі з Васільком гналі. У нас была грыбаварня. Людзі з усіх вёсак неслі да нас грыбы. Васілёк начамі варыў. Мужчына ён быў дужы, рослы. А за грыбны сезон худзеў кілаграмаў на дзесяць. Калі і на цэлы пуд. Ну й капейчыну зарабляў. Сям'я ж вялікая. Адзець, абуць усіх трэ было. У школу выправіць. Дзякуй Богу. Усе выраслі. Выўчыліся. Не сорамна за дзяцей.

Прасядзелі мы добрую гадзіну. Падумалася: у Амерыцы такое немагчыма. Там суседзі ветліва ўсміхаюцца, абменьваюцца дзяжурнымі фразамі, але чарку за добрае суседства не бяруць, у госці не ходзяць.

*30 снежня. Субота.* Пішу раніцай – увечары не будзе калі. Учора сусед Стась перадаў: званіла жонка, прыедзе заўтра дзённым аўтобусам. Аўтакрама не падвяла, вяскоўцы дружна атаварваліся, бралі шампанскае, усялякую закусь. Я таксама таго-сяго купіў. І елачка стаіць – уладкаваў яе на стале ў тролітровіку з вадой. Водар ад яе на ўсю хату. Нанасіў у лазню вады, дроў наклаў у печку, сустрэну Еву – адразу падпалю ў лазні, увечары будзем парыцца.

Дагарае ХХ стагоддзе. Мы шчаслівыя людзі. Такое бывае раз у 1000 гадоў. Некаторыя, самыя нецярплівыя, пісалі, адзначалі Міленіум год таму. Не, даражэнькія! Міленіум надыдзе заўтра апоўначы.

А сянні ўвечары будзе лазня з бярозавым венікам. Во чаго мне не ставала ў Штатах – лазні і чорнага хлеба, як наш «Нарачанскі».

Заехалі суседзі Ліля і Яўген – па новай дарозе едуць у свае Бярозкі. Запрасілі на першае студзеня ў госці. Пойдзем. Гуляць дык гуляць!

*31 снежня 2000 года. Нядзеля.* Эх, не спрыяе чалавеку прырода! На дварэ – плюс 2, сыпле дожджык. Сянні вельмі дарэчы быў бы снег і марозік, хоць бы два градусы. Як памяняць плюс на мінус?! А мо к вечару пахаладае?

Зрэшты, нам, беларусам, грэх скардзіцца. Не бяды, што Новы год пад парасонам. Куды горш сітуацыя ў Амерыцы: Нью-Ёрк заваліла снегам, усе тры аэрапорты закрытыя. У штаце Нью-Джэрсі выпала да паўметра снегу. Для іх – гэта катастрофа, бо снегаачышчальнай тэхнікі мала, такія снегапады – з'ява анамальная. Біл Клінтан аб'явіў надзвычайнае становішча ў сваім родным штаце Арканзас. Як там мае ў Бостане?

Вось і скончыліся старонкі штодзённіка. Магу парадавацца: стрымаў слова, якое даў самому сабе. Так што я няпросты графаман, а мэтанакіраваны, упарты, крэмзаў нататнік штодня. Але ж год быў не абы-які, а з трыма нулямі! Такое будзе толькі праз тысячу гадоў.

Бывай, год двухтысячны!

Вітаю цябе – Год дзве тысячы першы!

Юрка Голуб



...Ты – беларус.
І гэта лёс...

# Прадвесне

### *САСНА*

*Фэнтэзі*

Ішоў напрасткі цераз бор.
Высокі. Вясною.
Капелюхам гліцу задзёр
І... стаўся сасною.

Жадалі мяне спілаваць
З жадой недарэкі.
А мне захацелася стаць
Вышэйшым за рэха.

Трымае зямліцу камель
Магутным карэннем.
Сярод і нябёс і зямель –
Такое здарэнне.

## ПРАЎДА

Даўно жылі мы ў ясным лесе.
І Нёман сведкаю трываў.
І зноў на коленькі нам лезлі
Вуголле.
Хваля.
І трава.

Чаму? – пытаемся са жвіру –
Так бездакорна лёс узнёс?
Няўжо з нябёс, нібы з клавіру?
Ты – беларус.
І гэта лёс.

## СЛАБЫ ЧАЛАВЕК

Навошта гуляць у гольф,
Ці бавіцца ў лоне сквера.
Слабы чалавек, як глог,
А носіць у сэрцы веру.

Слабы чалавек? Яму
Запасяць на звягу чарку.
Туды вось і я імкну
З плешамі па-над каркам.

Слабому ідуць наўскос
Мроі.
Задумы.
Коркі.
Маланка кладзе пакос
У неба на панадворку.

Пад позіркамі дзяўчат
Слабкі ніякавее.
Нанова жыццё пачаць?
На скроні блішчыць завея.

Яму папраўдзе сляды
Даводзяць: да жонак падкі.
А ён, слабак, як заўжды
Жонцы пячэ аладкі.

Слабы чалавек! Слабы?
Прымружыць аднойчы вейкі:
Каменню трушчыць ілбы,
Закручвае ў вузел рэкі!

## ГОД ПЕЎНЯ

Ляцелі промні праз платы.
Пагас удзень здалёк Меркурый,
А певень – грэбень залаты –
Наўрад пра неба маракуе.

Грудасты. Вока, як ліхтар.
У багры выкупана тога.
Не падлічыць яго ахвяр:
Пад ім сурова жэрдка стогне.

Стаіць не курнік – а палац.
Тхары і тут не мелі ласкі,
Калі выходзіў ён на пляц
Затворам стрэльбы гучна ляснуць.

Адсюль давалі лататы:
Гублялі прыхадні падэшву.
А ён між сонца і слаты
Ку-ка-рэ-ку на плот падвешваў.

У пеўня на назе браслет,
І касачамі грае пер'е!
Каб пеўня вывучыць як след,
Мужы навыперадкі перлі.

На стрэл гарматы за вярсту
Не пусціць сквапнага прышэльца.
Ён сябра выверaных струн
І вораг вострага відэльца.

Між тым сяброваk не забыў
У бойках і спакоях певень.
З-за іх рубель апошні збыў
І не шкадуе сам. Напэўна!

## СОВЫ

Заплечных спраў майстры,
Расплюшчаць вока совы.
Уклад у іх суровы.
Уклад у іх пусты.

Ды адмыслова совы
У цемры бачаць скрозь:
Вунь фенікс уваскрос,
Варушыць словам змова.

Трапляла мараў безліч
Да іх у пераплёт.
Завершаны палёт:
Спіхнулі мару ў бездань.

У соваў век часовы.
Гарышча. Моўчкі. Ноч.
Халодныя галовы.
Прайшло жыццё наўзбоч.

### ПРАДВЕСНЕ

Заведзены зноў у зман,
Спяшаюцца птушкі з выраю.
А тут сустрэла зіма
Зусім нечаканым выракам.

З вясной бы пайсці на пай
Зіме з ледзяшовым слэнгам.
Ды сон на вясну напаў
Перад апошнім снегам.

А птушкам адзін зыход,
Каб вобзем не гакнуць крыллем.
Чакаць, што вясновы год
Сонейкам іх накрые.

### МАДЭРН

Сыпучы снег. Нібы пясок.
Зіма шпурляе ў ногі бору,
А той сасонкі паясок
Схіляе, шэльма, да пакоры.

### РЫБАК

*Эх, не рэж дрындушка*
*Сэрца рыбака.*

**Анатоль Вялюгін**

Туману расплывістым плёсам
На бераг круты не дапяць.
Трыснёг у затоку прыплёўся
На досвітку крышку паспаць.

А ў ранку апратка з брызенту.
Агеньчык. І снасць. І пляцак.

Драпежныя вырачыў зенкі
Адсюль невідомы шчупак.

Спакою – да першай падсечкі! –
І следу не знойдзеш нідзе.
Вось гэтак трапечацца свечка,
Ці ходзяць кругі па вадзе.

Рыбалка – што баба крутая:
Сябе не заўжды падае.
Хто ночку пры ёй каратае,
А хто – і прылашчыць яе.

Блішчастая стронгі маланка.
Загостраны хіб акуня.
Ляцець у атаку на танкі
Сядлалі вар'яты каня.

Імкнуць беражанкі, як блешні.
Зеніты закручвае вір.
Кудлаты, няголены, вершыць!
Рыбак забывае на кір.

І рэчка брыдзе не па карце.
І лёска пазбегла карчоў
А рыбіна ў дужым азарце
Губой разагнула кручок.

Імкне да ракі, як прычасця,
Шчасліўчык грахі аддаваць.
А ў чым жа рыбацкае шчасце,
Не можа даўмецца. Дзівак!

### *ЛІСТ*

Абложны дождж душы:
Ён лёс свой каратае.
Над зоркамі ў Каўшы
Маладзічок картавіць.

Звіліся змеі ў клуб:
Таго жадала восень.
І ліст, што небу люб,
Раптоўна рынуў вобзем.



Давід Шульман



...ты цяпер такі харошы,
што вельмі хочацца
сарваць з цябе вопратку...

# Каця і Валодзя

***Апавяданне***

Апошнім часам ён адчуваў, што пачаў дзічэць. Прапанаваў ёй пажыць у яго кватэры. Добра, калі размоў збіралася на паўгадзіны ў дзень. Нязначных пытанняўадказаў. Прысутныя месцы – тэатры, спартыўныя пляцоўкі і стадыёны, рэстарацыі, неяк таксама “выпалі” з яго ўвагі. Пустэльніцтва, якое незразумела чаму пачалося, прымушала яго калі-нікалі чытаць кнігі і часопісы ўслых. Дома, зразумела. Каб мышцы рота не атрафіраваліся. Усе астатнія мышцы ён трэніраваў жалезам. Якраз у пачатку “дзічэння” занёс у кватэру гантэлі, што спакойна “спалі” шмат гадоў у кладоўцы. Чамусьці раптам спусціўся на першы паверх, дзе было шэсць аднолькавых пакойчыкаў два на два метры. Адчыніў свой, падумаў, што трэба было б навесці тут парадак. Даўно не прыбіраў. Усё, што непатрэбна было ў кватэры, запіхваў сюды. Хаця жыццё паказвала, што гэтых зялёных жалезных “жаб” трэба было адразу несці да бакаў. Убачыў гантэлі і занёс іх на гаўбец.

Дык вось, ён прапанаваў ёй пажыць разам, калі яны стаялі за метры адзін ад аднаго ў яго кабінеце. Былі знаёмыя гадоў восем, але амаль столькі ж і не бачыліся. Не, блізкімі ніколі не былі. Гэта было знаёмства ў адной агульнай кампаніі. Сустракаліся некалькі разоў у добрай абстаноўцы.

Яна адышла яшчэ на метр і, нібы прыцэньваючыся, агледзела яго. Зверху да нізу, потым наадварот. Выглядала гэта грубавата, нават нахабна.

– Нешта ў тваёй прапанове ёсць. Ці адчуваць сябе вольнай сярод іншых, чужых людзей, у гатэлі, ці трошкі скаванай, але побач са знаёмым чалавекам.

– У цябе будзе асобны пакой, гасцявы. Там ёсць усё, што трэба для лазенкі: душ, рукамыйнік і парцалянавае белае “крэселка”. Джакузі ў іншай лазенцы.

– Ты яшчэ карыстаешся мовай?

– Калі-нікалі. Памяць падсоўвае словы з той мовы найбольш дакладныя.

– Цікава, цікава. Вось і яшчэ адна прычына ў дадатак да іншых.

Яна зноў прабегла па ім позіркам, але не так нахабна, як мінулым разам.

– Пагаджуся з тваёй прапановай. Тым больш, што ты будзеш прывозіць мяне на работу і з работы. Я ў вас дні на тры-чатыры. Нешта “выведаю”. Увогуле, стандартная, графікавая праверка. Не ведала, што сустрэну цябе.

– Я дам даручэнне нашаму бухгалтару. Яна будзе, па магчымасці, адказваць на твае пытанні і паказваць паперы. Ты хочаш пачаць зараз? Ці першы дзень дасі на...

– Адпачну.

– Тады спачатку паабедаем. Потым я завязу цябе дадому, а сам вярнуся на працу.

У рэстаране яны разгаварыліся.

– Мяркуючы па тым, што я спынюся ў цябе, ты жывеш адзін?

– Так.

– Даўно?

– Ужо шэсць гадоў.

– І за ўвесь гэты час нікога не падчапіў на пастаянна?

– На пастаянна не. А так чапляў.

– Хто б сумняваўся. Маючы такую, як кажуць, фактуру, у цябе не павінна быць адбою ад нас.

– Яны мне сталі нецікавыя. Як бы гэта ні выглядала ненатуральным у маім добрым мужчынскім узросце.

– Што ты кажаш? А як я? – яна з выклікам глядзела ў ягоныя вочы.

– Ты задаеш складанае пытанне... На некаторыя пытанні лепей не адказваць адразу.

– Выслізнуў. Але добра. Я яшчэ трошкі вып’ю. Табе не прапаную. Ты за рулём. Хоць тост скажу. Восем гадоў таму, калі мы пазнаёміліся, быў вельмі добры час! Я была закаханая! У свайго мужа.

– А зараз?

– А зараз мы вось ужо паўгода не жывем разам.

– А пачуцці?

– Нешта трымціць часам. Пэўна, вялікія пачуцці маюць абмежаваны тэрмін захоўвання.

– Не трэба піць астылую гарбату, калі можна заварыць новую.

– Але гэта зусім не проста. Ды і з добрай “заваркай” такія праблемы... Карацей, вязі мяне дадому. Я хачу адпачыць.

– А тост?

– Увечары. Я спадзяюся, ты пачастуеш даму ўвечары?

– Вось гэта твой пакой. Зараз прынясу свежую бялізну і рушнікі. Гэта табе ключ ад кватэры. Халадзільнікам трэба карыстацца. Але калі чаго-небудзь захочаш іншага, тэлефануй. Я заеду і куплю. Размяшчайся, а я зноў на працу. Пакуль.

– Пакуль, пакуль.

Яна прайшлася па кватэры. Даволі аскетычна, па-мужчынску. Але ўтульна, спадручна і... дорага. Пераслала ложак, знятае кінула ў пустую пральную машыну. Праходзячы ў кухні міма халадзільніка, адчыніла. Для халасцяка ён быў даволі поўны. Прычым паўфабрыкатаў не было. Ёгурты, тварагі і сыры да апошніх не адносяцца. Як і гародніна з фруктамі. Там была чырвоная каструля з баршчом, адваранае мяса ў чырвонага колеру місачцы. Здаецца, яму падабаецца чырвоны посуд. Любіць яркасць. Аўтаматычна адчыніла шафку і ўбачыла тры рознай ёмістасці патэльні. Чырвонага колеру.

Скончыўшы “абыход”, яна памылася ў душы. Памыла трусікі і станік, павесіла на гаўбцы сушыцца. Уселася ў фатэль, утульненька, з нагамі. Насупраць тэлевізара. Націснула кнопку на пульце. Засвяціўся экран. Узгадала, што рэчы з валізкі было б нядрэнна павесіць у шафе. Зноў націснула на кнопку пульта. Экран патух. Пайшла ў свой пакой, раскрыла валізку, дастала рэчы. Добра, што ўзяла шмат. Побач жа будзе мужчына. Хоць, падумала з усмешкай, мужчынам больш падабаецца, калі жанчына ў касцюме Евы. Нешта паклала на паліцу ў шафе, астатняе павесіла на плечыкі. Прылегла на рыплівы ложак і хутка заснула.

Седзячы ў кабінеце, ён успамінаў падзеі васьмігадовай даўніны. Вясёлая кампанія блізкіх людзей, цікавыя размовы, прыгожыя дзяўчаты. І, у асноўным, разумныя. Тады ён лічыў сабе неабазнаным у жаночым пытанні, хоць і была ў яго пераможная знешнасць. Здольнасці ўгаворваць толькі пачыналі развівацца. У адрозненне ад яго сяброў, якія ўжо часта круцілі раманы. Затое ўгаварыла яго адна дзяўчына з той кампаніі. На два гады. А Кацярыну ён запомніў. Прыгожая жанчына, хоць і легкадумная. Шчодрая для многіх. Так яму тады здавалася. Яна некалькі тыдняў не “выдыхалася” з яго, хоць у той час ён ужо праходзіў букетна-цукеркавы перыяд з будучай жонкай.

– Па логіцы жыцця мы павінны з табой пераспаць, – сказала яна на трэці дзень. – І я хачу гэтага, а ты – тым больш. Але нешта не дае аддаць каманду для дзеянняў.

– Можа, галоўнае, дзеля чаго ты прыехала, – твая справаздача, якую ты зробіш заўтра? Усё ж у першую чаргу ты чыноўніца.

– Дарэчы, высокага рангу. У справаздачы ўсё будзе ў парадку. Нічога дрэннага я не накапала. Хоць мой шэф адправіў мяне, добрага спецыяліста, менавіта “накапаць”. “Не накапанае” не мае аніякай сувязі з табою і маім нейкім абавязкам табе. Проста добрая работа ўсіх дае добры вынік. У тваёй

фірме ўсё, як кажуць, пад кантролем. Зробім так: заўтра ў дзесяць раніцы я аддаю акт праверкі, і мы – я зусім вольная – вяртаемся назад сюды.

– Да дзесяці раніцы дванаццаць гадзін. Ёсць варыянты правядзення часу: ідзем спаць кожны да сябе, накіроўваемся ў які-небудзь бар піць піва і слухаць музыку ці едзем купацца ў начным моры.

– Ідзем тупа спаць. Каб заўтра, нарэшце, адчуць тваю прысутнасць гаспадаром не толькі ў сваёй кватэры, але і... Але пацалаваць цябе я магу.

Яна прыціснулася да яго і ўмела ўпілася вуснамі.

– Твае вусны ідэальна падыходзяць маім, – сказала яна. – Але добры пацалунак – гэта справа мужчыны. І я спадзяюся на тваю "спраўнасць". Добрай ночы. Дарэчы, я бачыла на паліцы ў лазенцы лязо, небяспечнае лязо. Ты голішся ім? Цяпер няшмат мужчынаў карыстаюцца такім.

– Карыстаюся. Гэта ад бацькі. І лязо ягонае, старое, але з выдатнай сталі.

– Паважаю! Цяпер разумею, чаму ў цябе выдатна паголены, прыемны твар. Пра парфуму я ўжо і не кажу.

– Раней мужчыны галіліся ў цырульніка. З першапачатковым гарачым кампрэсам. Далей намыльванне пенай. Дарэчы, не даланёю, а густым, як звычайна ў добрых майстроў, памазком з барсучай шэрсці. Яна больш мяккая ў параўнанні са свіной шчэццю. А на заканчэнне – рабілі зноў кампрэс, толькі ўжо халодны. Такога галення хапала на тыдзень.

– І ты так робіш?

– Амаль, толькі я галюся два-тры разы на тыдзень.

– Канечне, – сказала яна і правяла рукой па яго твары. – Прыемны, смачны. Дай я пацалую гэтыя шчочкі. А цяпер яшчэ раз, добрай ночы.

Стаяла ў лазенцы пад душам. Тугім струменем і рукамі давяла сябе да аргазму. Затрэслася ў экстазе, выцялася галавой аб шкло кабінкі. Выцерлася і лягла ў ложак. Хутка заснула. Як неспрактыкаваны мужчына пасля блізкасці з жанчынай.

– Добры каньяк у цябе. Уздымае настрой і расслабляе. Але ў мяне пытанне, працягваючы размовы пра тыя старыя падзеі. Тычыцца той мовы. Ты ж чалавек тэхнічны па адукацыі?

– Палітэх.

– А тады вы, некалькі чалавек з кампаніі, размаўлялі паміж сабой на ёй. Прычым большасць з размоўнікаў была не "карэннай нацыянальнасці". Чаму?

– Мы і зараз размаўляем на ёй. Гэта выйшла непрыкметна, пасля чытання добрых кніг на беларускай мове, а таксама пасля сустрэч з цікавымі людзьмі. Ну а далей знаёмствы паглыбіліся і размовы сталі звычайнай справай. Цяпер, лічы, гэта неабходнасць. Толькі магчымасці зносінаў абмежаваныя. Няма побач суразмоўнікаў.

– У тваім хатнім кабінеце некалькі паліцаў з кнігамі і часопісамі на роднай мове.

– Так. І з гэтага выпадку...

– І з гэтага выпадку тост, абяцаны некалькі дзён таму: каб былі ў цябе суразмоўнікі, асабліва суразмоўніцы! Ну, як я сказала?!

– Дзякуй, Каця. Прыгожая ты жанчына, жаданая суразмоўніца.

– Рада, што я табе падабаюся. Я гэта заўважыла яшчэ да сённяшняга каньяку. Дарэчы, ты заўсёды такі мілы?

– Толькі калі падабаюся жанчыне.

– О-о! Ты цяпер такі харошы, што вельмі хочацца сарваць з цябе вопратку.

– І што перашкаджае?

– Ні-чо-га! Тым болей, што цела маё ўжо паспела. Перабіраемся ў твой пакой!

– Усё так цудоўна! Гэта было лепш, чым я чакала. У некаторыя імгненні не разумела, што адбываецца – проста выпадала з жыцця, губляла прытомнасць. Ты – майстар!

– Гэта таму, што ты выдатная! Ува ўсім, і ў целе, і ў... гімнастыцы. І столькі адкрытых таямніц падчас гэтых шчырасцяў.

– Дарэчы, кожная жанчына любога ўзросту перакананая, што таямніцы ейнага цела ёсць, ці былі – самыя выдатныя таямніцы! Таму, пэўна, разглядаюць паблажліва красунь у часопісах. Але я хачу вось у чым табе прызнацца. І, думаю, таму ў нас з табой усё цудоўна! Мяне так хвалюе пах твайго цела!.. Мяне хвалюе твой натуральны пах, які зыходзіць ад скуры і які ёсць у кожнага чалавека. Я ўжо вялікая дзяўчынка, з "прабегам", мне трыццаць пяць, і я ведаю: у большасці мужчын ён непрыемны. І таму ім без парфумы не абысціся. Твой водар я пусціла б на парфуму. Для мужчын. Ён прыцягваў бы жанчын. Але тады я б не была гаспадыняй, прабач мне, уладальніцы твайго паху. Не, дарагі, пакуль мы разам, толькі я адна ў свеце буду раставаць у тваім незвычайным водары. Астатніх жанчын у іхніх мужчынах няхай прыцягваюць стандартныя парфумныя пахі.

– Ты застанешся яшчэ на дзень?

– Хацела б, але не магу. Запісаная ў працоўны графік. – Яна паглядзела на Валодзю, і прабегла галоўная на гэты момант думка: "Як жа з ім зручна!" – Але я прыеду, калі не будзеш супраць.

– Я? Супраць?

– У цябе ёсць з кім цалавацца ў навагоднюю ноч? Пакуль няма? Тады я прыеду. Засталося ўсяго тры тыдні. А пакуль... Давай пражывем яшчэ хвіліны радасці сэрца і цела. Я не занадта дакучлівая?

– Не, не, мне гэта падабаецца. Смакаваць з табою слодыч знаходак нашай блізкасці, дзячыць за гэта Багіню, якую завуць Выпадковасць!

– Ты не ведаеш, чаму людзі жэняцца?

– Ім патрэбны сведка іх жыцця.

– Мне добра з табой! І для гэтага ты зусім не абавязаны быць "сведкам". Я – чалавек вольны! І ўвогуле, прыемна грэць адно аднаго ўначы.

Яна прыехала праз тыдзень. І яны былі разам тры дні. А потым Валодзя сустракаў яе трыццатага снежня. Сказала, што застанецца толькі на некалькі дзён, бо... Ён не даў ёй дасказаць.

– Асалода тых нашых некалькіх дзён не давала мне спакойна спаць. Усё кружыліся перад вачамі закальцаванай стужкай.

– Нязручна пра гэта казаць... Мая прытомнасць была запоўнена эратычным голадам і жаданнем. У тую нашу першую ноч я сем разоў узнеслася на пік асалоды. Такое не забываецца. Я, вядома, з самага пачатку магла б пагуляць у недатыкальнасць, але...

– Ты жанчына таго тыпу, якія заўсёды падабаліся мне: высокая, стройная, лёгкая, вясёлая, з розумам...

– Ты таксама вельмі ўжо мужчына. І разумнік, і прыгожы, і дзелавы, і забяспечаны, і такі... гулец!

– Я ведаю таямніцы спакусы. Лініі чалавечага цела, іх мова – бяздонная крыніца ідэй і фантазій. Паслухай, мне здаецца, што стрынгі такія нязручныя!

– Таму дзяўчаты любяць іх здымаць. Ха-ха! Мы перабіраемся ў твой пакой, мяркуючы па нашых словах? Але я не ўсё магу. Сёння апошні дзень, калі яшчэ “квітнеюць цыкламены”. Заўтра я ўжо буду ў поўнай баявой. І “разлічуся” за сёння.

На навагоднюю ноч ён замовіў столік у рэстаране. У дзесяць вечара назіраў, як Каця апраналася.

– Прыгожая бялізна падобна вышэйшай адукацыі: яна не бачная, але самаацэнку падымае, – лыбячыся, сказала Каця. Яна сабе падабалася, і бачыла, што не толькі сабе.

– Мне яе зняць?

– Так, так!

– Я ведаю, што магу лепей, але вельмі вялікім было жаданне.

– Лепей не бывае, родны.

– Мне так з табой пашанцавала!

– Час ад часу добрым хлопцам дадзена ў жыцці шанцаванне.

Яны выйшлі з таксоўкі, было дзве гадзіны ночы, у вокнах дамоў мільгалі бліскавіцы тэлеэкранаў.

– Там было вельмі шмат віна, ежы і жанчын. Табе не хацелася памяняць мяне на якую-небудзь з іх?

– Навошта?

– Ну, я магла ўжо і надакучыць. А жанчыны, што весяліліся там, гатовыя былі раскрыцца для цябе.

– Мая жанчына – гэта ты, жанчына з патройным эфектам: разумная, пяшчотная, сексуальная. Лепшая!

– Лепшае – для лепшых! Адчыняй дзверы, я чамусьці стамілася.

– Ты так скакала...

– Мы нядрэнна павесяліліся. А зараз вымай мяне з гэтай сукенкі і саджай у крэсла. Шчыра кажучы, я не люблю навагоднія святы. Разумееш, што весялосць ужо не тая, хоць табе толькі і... ужо трыццаць пяць. Падай, калі ласка, маю сумачку.

Яна дастала з яе напоўнены шпрыц у футарале, зняла наканечнік, што накрываў іголку, і злёту ўвагнала ў мякаць вышэй за калена. Наўпрост праз панчоху.

– Што гэта, Каця?

– Гэта дыябет. У мяне вельмі салодкая кроў.

– Даўно?

– Спадчыннае. Па жаночай лініі. Бабуля, матуля, я, сястра. А ў брата ўсё нармалёва. Я некалькі гадоў не хацела нараджаць. Баялася, што будзе дзяўчынка. Але адважылася, і ў мяне, дзякуй Богу, хлопчык. Ты не пытаўся пра дзяцей, вось я і не казала. Пакуль я ў ад’ездах, ён жыве ў маёй маці. А ў сястры – дзяўчынка, і таксама, як і мы... Шмат навін у навагоднюю ноч?

– Яны нічога не мяняюць у маіх пачуццях да цябе. Я, наадварот, буду больш уважлівым.

– А вось гэтага мне не трэба. Заставайся такім жа, якім быў дзесяць хвілін таму. Мне гэтага хапае. Шкадаваць не трэба. Я добра знаёмая са сваім жыццём. На жаль, так ужо заведзена: чаго нельга, таго вельмі хочацца. Але я ўмею жыць! Думаю, у хаце ёсць элексір жыцця, што жыве ў бутэльцы?

Яны пілі віскі, п’янелі, але не цяжка.

– А за “проста так” мы ўжо пілі?

Каця глядзела скрозь шкло, праз шклянку з залацістай вадкасцю на трэць яго.

– За ўсё ўжо пілі, а за “проста так” яшчэ не.

– Тады за яго, а потым... Я ведаю пяць моваў, але зараз мы будзем “размаўляць” яшчэ на адной, на любімай: на мове сексу.

– Я ўсё ж сёння паеду.

– Чаму? Наперадзе яшчэ тры дні выходных.

– Мы кладземся ў санаторый, на пракапванне. Папрымаем лекі ўнутрывенна. Мы робім гэта два разы на год. А ў санаторый таму, што там іншае, не бальнічнае адчуванне, натуральнае.

– Надоўга?

– Дзесяць дзён. Маленькі адпачынак.

– Можа мне да цябе прыехаць?

– Ні ў якім разе! Я магу перастаць падабацца. Не, я не стану страшнаваценькай, крый Божа. Проста мы з сястрой у гэтыя дні вельмі зблiжаемся, расслабляемся і... дурэем. У звычайным жыцці мы гэтага сабе дазволіць не можам. Абедзве пры салідных пасадах і заўсёды навідавоку.

Калі Каця з’ехала, Валодзя ўспомніў аднаго знаёмага. У таго таксама быў цукровы “заводзік” унутры. Аднойчы на пляжы знаёмы стаяў, глядзеў на мора, побач былі жонка і дзеці. Раптам ён упаў, тварам у пясок, як падпілаванае дрэва. Было жыццё, і ў імгненне яго не стала. Гэтая карціна “жыцця і не жыцця” пачала Валодзю пераследаваць.

Каця з сястрой звычна размясціліся ў “сваім” пакоі. Яны заўсёды жылі ў гэтым люксе. Закруціўся цыкл двухтыднёвага адпачынку-лекавання. Толькі гэтым разам нешта было не так. Туга па Валодзю настолькі згусцела, што Каця разумела: гэта была сустрэча з тых, што змяняюць жыццё. І Час – нагрувашчванне падзей і дат – пайшоў інакш. Гэта было так прыгожа, так камфортна! У Валодзю адчуваўся сапраўдны мужчына: ён умеў абняць, прыціснуць, у яго дужыя рукі. Каця прызнавалася сабе, што ён – адзін з лепшых, з нямногіх лепшых Яна ўспаміналa, як Валодзя сядзеў на канапе, а яна ляжала, паклаўшы ногі яму на калені. Ён вывучаў выгіны яе ступняў, рух пальчыкаў, лашчыў іх пяшчотна сваімі чуллівымі пальцамі. А потым ён цалаваў яе пальчыкі. І яна ўвайшла ў імглістую асалоду. Далей усё было ў тым жа тумане... А цяпер яна ляжыць пад кропельніцай, думае пра тое, што вельмі часта не хапае часу жыць, а не мітусіцца.

– Я сыходжу...

– Куды?

– Туды, адкуль не вяртаюцца... Я ў бальніцы.

– Ты маеш на ўвазе санаторый?

– Не, я ўжо ў бальніцы.

– Чаму ты лічыш, што...

– На мяне жаласліва глядзяць медсёстры і ўсе астатнія. Карацей – у мяне паўзучае з клешнямі. Неяк рэзка атрымалася. Я ведала, што такое магчыма ў маёй салодкай сітуацыі. Але каб так хутка і са мною... Лёс не пытае, а выбірае сам. Ён вырашыў звесці мяне з гэтага свету...

– Паслухай, Каця, ты не перабольшваеш?

– Не, любы. Усё на самой справе. І мне страшна. Вечны страх, што раніца для цябе не наступіць.

– Я еду да цябе.

– А вось гэтага не трэба. Смутак нявечыць, старыць, і прывабнасць губляецца.

– І ўсё ж...

– Не і не. І развітвацца са мной не прыязджай. Нашая казка канчаецца. Ёсць мінулы час, але няма нічога мінулага. Мне так падабалася спаць з табой! Гэта было ўсё роўна, як есці забароненыя цукеркі: з'еў адну – хочацца другую, з'еў другую... Мне так падабалася размаўляць з табой! Мне так падабалася гатаваць табе ежу! Мне так падабалася, мне так падабалася...

– Я сабе не дарую, калі не прыеду да цябе.

– Не, родны мой. Навошта на цудоўнай карціне маляваць паўзверх пустую, змрочную вуліцу, дзе няма ні асколка жыцця. Я сама, пакуль змагу, буду табе тэлефанаваць.

Яго адзіноту вышэйшай пробы разбурыла Каця. І Валодзя быў такі шчаслівы, калі яна разбурылася. І хоць заўсёды, ва ўсе часы, адны і тыя ж размовы: аб коштах, надвор'і, рамонтах, аб начальстве, пра суседзяў – іхнія былі натуральныя і не так прыкметныя пад той аўрай, сярод якой яны кахалі адзін аднаго. У межах лёсу змянялася яго жыццё, і ён упершыню, нягледзячы на вопыт свайго жанатага жыцця, пазнаваў хараство сумеснага быцця з любімай жанчынай. “Ніколі не позна зрабіць тое, што трэба!” – казаў ён сабе, уяўляючы іх сумеснае жыццё.

– Ведаеш, родны, мне стала лепей.

– Ну вось бачыш, дарэмна панікавала.

– Гэта перад канцом. Так часта бывае. Я зараз так хацела б сказаць табе: “Займіся са мной каханнем! Вярні мне тваё цела!” Перад сыходам хочацца не вады, а сексу...

У ціхай глыбіні начы зазвінеў тэлефон.

– Гэта Вера, сястра. Каця толькі што сышла...

– Я ведаю.

– Адкуль?

– Я не мог заснуць.

– Яна прасіла перадаць, што вы лепшае, што было ў ейным жыцці. Яшчэ яна казала, каб вы, калі не надакучыць, глядзелі ў адну вядомую вам абодвум карціну. Вы не прыязджайце, добра?

– Так, я ведаю. Трымайцеся. Я вельмі яе кахаў... Бывайце.

– Усяго вам лепшага.

Таемная, вышэйшая прысутнасць будзіць нас, прымушае рабіць неча-

каныя ўчынкі. Валодзя сеў у машыну. На набярэжнай, нягледзячы на тры гадзіны ночы, было шумна, людна. Ён спусціўся да вады. Мора несла хвалі нячутна, быццам баялася лішняга шуму. Ён любіў сябе сам, пад вялікай поўняй. На яго крык падышла незнаёмка, прыгледзелася і сказала: "Я б магла дапамагчы табе сабою".

– Я гэтага не хачу.

– У цябе бяда?

– Якая табе справа?

– У свеце ўсё ўзаемазвязана, толькі не ўсе пра тое ведаюць. Вечнасць мора і нашыя ўтрапёныя душы, адляцяць аднойчы таксама ў вечнасць. Ідзі, напіся алкаголю.

– Ты хто?

– Жанчына, якая баіцца ночы. Гэта не мой час, хаця, здавалася б, усё заціхае і быццам можна гаспадарыць у сваім жыцці. Але я заўсёды чакаю раніцу. Бывай.

Яна адвярнулася і пайшла ўздоўж берага. Яе хада і пастава нагадвалі Кацю. Валодзя закрыў вочы, пахіснуўся, зноў паглядзеў услед незнаёмцы. "Нейкая містыфікацыя", – падумаў ён і тузануў сябе за нос. Стала балюча...

Ён піў тры дні. Потым выйшаў на працу. І больш за ўсё зноў палюбіў сваю справу.

Пагаліўся праз месяц.

*09.2017*

---

"Дзеяслоўцы" таксама шчыра віншуюць
шаноўнага **Давіда Яфімавіча ШУЛЬМАНА**
з юбілеем і зычаць яму бадзёрасці,
моцнага здароўя і новых яскравых твораў!

Алесь Каско



...была яна Моваю, гнанаю імі, ды годнай,

яна неўміручасцю, страчанай імі, была!...

# Напрыканцы будучыні

* * *

Пісаць паглядам на акне
лісты ў мінуласць; толькі ў сне
кут продкаў бачыць; навіне
ківаннем аддаваць даніну.
Звыкацца з праўдаю ў мане.
Сабе граць на адной струне.
Дзяліцца памяццю, ды не
чакаць даверу да ўспаміну.

І часам роспач захлісне:
зацятасць – у маёй віне
ці лёс мне завязаў сцяжыну?
Ні ў блізкіх днях, ні ў даўніне
сябе не згадваю на дне,
і акурат выпроставаць спіну,
каб не сцураўся шлях мяне
раней, чым я жыццё пакіну.

## У ЛІВЕНЬ

Збіраўся доўга дождж,
затое абярнуўся ліўнем
і вуліцу зрабіў як бач ракою;
бурліць вада і цягне за сабою,
пакуль прыліў не скончыўся адлівам.
І разам, басанож,
з кавярняў і кінатэатраў,
з тралейбуса запозненага – сходу
ступаюць маладыя ў прахалоду,
і пальцы ледзь кранаюцца асфальту.

З-пад мокрых ліхтароў
злятае град пратуберанцаў
на ўзмахі рук, на скокі ног цыбатых,
і ў грацыях высокіх і крылатых
ёсць падабенства жураўліных танцаў.
Ты малады тут зноў!
Цябе выштурхвае альтанка
апаласкацца шумнаю вадою:
а ці не сам ты вунь, ці не з табою
крыло ў крыло гарэзуе жураўка?..

Пастой, ужо ж
сцякла ў калодзежы рака да кроплі,
зноў толькі вуліца пад ліхтарамі
і ты на ёй – над змытымі слядамі
агучваеш запозненыя крокі.
А ў сэрцы – дождж:
прыліў крыві там лёгкі, нежурлівы
ўсё падмывае на падскок узлётны...
Ды дзе ж ты бачыў, каб стары, самотны
хоць раз хто справіў танец жураўліны?

## НЕСУЧАСНЫ ПАЭТ

Ён той каваль,
які ў душэўным горне
сябе самога плавіць на агні,
пасля астуджвае да спазмы ў горле,
бы ў ледзяной вадзе,
у цішыні.
Маўчанне залы ці сяброў
ледзь чуе –
яму ўлавіць бы неба гук і знак.
Ён гэтак кожны раз сябе гартуе,
пакуль не сталь
або пакуль не шлак.

І што яму,
што вечнасны пачатак
прымае за дзівацтва і капрыз
гуллівы, порсткі кавалёк-нашчадак,
каму не ў моц
такі макісімалізм!

### *ПРЫПАВЕСЦЬ ПРА ВЫГНАННІЦУ*

Яе, непераборлівай і цярплівай,
на веры і праўдзе чужой распанелыя дзеці
сцураліся так, што і дух ейны вымелі
з апошніх прытулкаў – з вясковых хацінаў,
з дрымучых легендаў ды песняў цягучых, –
а ў прыстойныя гмахі на крок не пусцілі,
каб не запляміла там, чаго добрага,
расейскага футра й сусальнага золата,
агліцкіх рунаў, кітайскага шоўку.

Доўга блукала яна і стаяла пад вокнамі,
запытальна лавіла знаёмыя твары і постаці;
дзеці ж тым часам ваўсю завіхаліся, важныя:
пісалі дэкрэты аб праве, маралі ды этыцы,
складалі праекты мастоў, казіно, стадыёнаў,
прымалі гасцей і з Усходу, і з Захаду,
з імі ў чаркі званілі, спявалі па-іхняму,
да іхніх імёнаў свае прыстасоўвалі
і гэтакім чынам былі з імі роўныя.

Чым далей ад счужэлых кварталаў спынялася,
тым душэўней у сіне-зялёных прасторах
з кожнай краскай, травінкай яна, несамотная,
з кожным дрэвам і кожнаю птушкаю,
з кожнай вольнаю хваляй рачной гаманіла –
малітвай, зычэннем да слоўка сябе раздала;
дзяцей жа сваіх не гукнула жальбою ніводнай:
была яна Моваю, гнанаю імі, ды годнай,
яна неўміручасцю, страчанай імі, была!

### *НАЎПРОСТ*

– Ты за народ?
– Народ стаў роўны зброду.
– Хіба ж віной не сіла, не прымус?
– Ён прогся сам,
каб верхаводзіў гнюс.

– Дык ты адрокся?..
– Гонар мой – свабода,
і я таму яшчэ ўсё беларус.

## *МУЗЕЙНАЯ БАЛАДА*

Жывым узнік ён з даўніны:
сядзіць і болем праўду піша.
Ды вось устаў на стук дзвярны,
накінуў паліто і выйшаў.

Чакаюць лямпа на стале,
снапок жытнёвы на камодзе
вяртальных шолахаў... Але
які ўжо год ён не ўваходзіць.

Самоты ціск мне б’ецца ў скронь,
мне халадок праймае плечы;
у грубцы б запаліць агонь –
нясцерпна ад настылых рэчаў.

Між імі вобмаль рэчаў тых,
што памятаюць, як чыніла
халуйнасць глум з лістоў і кніг
ды кроў вымарвала з чарніла.

Як лютасць брала на ланцуг
сумленнасць і як ён – пад страхам,
што зломіцца ягоны дух, –
пратэставаў самазамахам...

Ад сведкаў, *што* ён перажыў,
няма ні знаку звеставання,
а муляжы, як міражы,
не ўваскрасяць яго дыхання.

У посміху на ўвесь партрэт,
у зірку з глянцавай паперы –
не ён, не ён... За ім услед
выходжу назаўжды за дзверы.

## *УРБАНІЗАЦЫЯ*

Гэтакая процьма людзей,
што світальны туман у горадзе
здаецца надыханым імі.
Ніхто на яго не зважае:

купкі, чародкі, адзінкі
спяшаюцца ў метро і трамваі,
у тралейбусы і маршруткі,
а на вуліцы пакідаюць
толькі разгублены туман.
Ён вагаецца, куды падацца;
чапляецца за драты і за дрэвы,
асядае на лаўкі і кветнікі,
нарэшце знікае без следу.
Дзень плыве павутою рэклам,
крыжамі касцёлаў і цэркваў,
валізкамі з бульбай ды хлебам,
смугою ды млявым чаканнем
чарговай гадзіны пік.
Яна настае надвячоркам:
з падземкі, трамваяў, аўто
выбягаюць ранейшыя людзі
і зноў запаўняюць прастору
густым і дрыготкім туманам,
бо туман – іхні спех і дыханне,
іхнія раніцы і змярканні,
бо і самі яны – туман.

## *ДАЛЁКАЯ СЯДЗІБА*

Там вішня туліцца да сцяны
і ўзіраецца ў вечны гадзіннік;
так мама звярала свой час
з кожным усходам сонца.

У шыбіне люструецца аблачына,
мяккая, белая, бы матчын ручнік,
якім цяпер выціраюцца
ўраселыя ластаўкі.

Там вецер-начлежнік пылінкі
здзьмухвае з зёлак пучковых,
а застоеная вада ў калодзежы
плюскае нецярпліва.

На мяжы, дзе ўтравеў даўні серп,
гуртуюцца зялёныя конікі,
каб неўзабаве запрэгчыся
ў стракатлівыя жняяркі.

Там ідуць са свісцёлкамі дзеці,
мінаюць сядзібу – не бачаць,

як мама трымае ў прыполе
самыя спелыя вішні.

Чакае; туліцца да сцяны,
пазірае на вечны гадзіннік:
на ім – той жа час маладосці,
народзіны сонца.

## ПАДСВЯДОМАЕ

*Не бачаць яны далёка,*
*не бачаць яны глыбока,*
*а ўсё на пяску сядзяць,*
*у мора ўвесь час глядзяць.*

**Роберт Фрост**

Мора – вада нежывая? Тады
хто ж там жывы то цікуе з вады,
то па-над ёю працягла гукае?
Гэта чыя з даляў цяга тугая
так намагнічвае кожны пагляд,
ловіць і не адпускае назад?
Хто нашы думы самотнай парою
ясніць і тушыць? Ашуквае мроі?
Лёгка каму нас у бездань шпурнуць,
каб з шумавіннем прыбойным вярнуць?
Хто там пасля – небуяны, маўклівы –
з поўняй гуляе ў прылівы-адлівы,
зычыць, выводзячы ў свет караблі,
небу трывання, чакання зямлі?
Ды не ўгадаць, усталюецца што
хвіляй наступнаю – штыль або шторм.
Што болей вабіць, не зразумець,
штыль або шторм: што жыццё, а што смерць?
Нельга й нядумных людзей раз'яднаць
з морам: яны ў свае душы глядзяць;
цёмнае, грознае – млява, няўрокам –
бачаць яны падсвядомасці зрокам.

## НАЧНЫ ЧАЛАВЕК

Ты самы няўлежны хворы,
свой дух ты цугляць не звык:
зноў – ценем па калідоры...
Прыкусіць вахцёр язык.

Ты потым яму дагодзіш –
з ім вольны прабавіш дзень.

З ускрайку акна выходзіш
у неба, што ўніз вядзе.

Ты воблакі лісця любіш;
там вечар адпалымнеў,
а зараз, як згадкі, людзі
сышлі і стаяць між дрэў.

Ты чуешся з імі вольна:
з далёкіх і блізкіх сноў
так шмат іх таму, што вобмаль
жывых у цябе сяброў.

Ты росы ўсю ноч з гасцямі
ліеш без слязы ў крышталь
і толькі на золку цяміш,
што вее тугой шпіталь.

Ты грэеш вачмі прасторы:
праляжа да іх твой шлях?..
Зваротна – па калідоры
ў палату, дзе мляўкі пах.

Ты свежую памяць сцелеш,
ды збава ў цябе адна:
ва ўласным знікаеш целе
на ложку каля акна.

## *ДЫВЕРСАНТ: СЮЖЭТ ДЛЯ КОМІКСА*

Усход рассыпаў сноп
святла на гмахі, пляц.
Ад сну ачуўся клоп,
адзін на ўвесь палац.

З-за вокнаў бомкнуў звон.
У зале – поступ ног.
Сеў уладар на трон.
Клоп у кутку залёг.

Як ён завёўся тут,
дзе шык і бляск штокрок?
Зашыў пад скуру люд
здагадку: хтось знарок...

Хтось асудзіў наём –
і тронам уладаць,

і спраў не мець, акром
як іх імітаваць.

Абы не падаў спрыт,
дэкрэтаў – воз, гара...
...Падкраўся паразіт,
куснуў уладара.

“Што за напасць? Лаві!”
Сціха, пад гэты гвалт,
напіўся клоп крыві,
і ўжо ён – цмоку брат!

“Гэй, тронны князь, гуляй!
Народ і без цябе
абыдзецца, бадай,
як шанц меў у клапе”.

А люду што: пад дых
не б’юць дэкрэты больш...
Пагрузнуў клоп у іх
і трапіў з імі ў кош.

* * *

Тануць руіны гмаха, як дзяржавы.
Чарговы раз зямля сваё ўзяла.
На рэшткі мармуру ступілі травы.
Звініць у кветнім купале пчала.

Між камянёў пусціўся ў рост сасоннік.
Саткала пліска першае гняздо.
І пот, і слёзы высушыла сонца.
Дождж змыў сляды. Змёў вецер пах слядоў.

Без дыму папрасторнела ў нябёсах.
Прабіла друз крынічная бруя.
І чалавек, што быў прысеў, свой посах
падняў з каленяў: “А чаго тут – я?”

### НАПРЫКАНЦЫ БУДУЧЫНІ

Зніклі ў плавільнях, бы ў пекле, гарматы,
загрузіліся збожжам паўсюдна засекі.
З дарог адкаціўся за каменем камень,
сышліся паралельныя лініі.
На сталах у людзей – эліксір неўміручасці,
у джунглях і стэпах – вечнае перамір’е.

Вось і настала эпоха эпохаў,
што снілася процьму гадоў *homo sapiens*!

І толькі тады наймудрэйшыя спахапіліся:
пуста без гукаў, і фарбаў, і рухаў прыгожых;
і толькі тады на зялёным улонні Месяца,
замест пікніка, сабраўся сусветны *symposium*
з адным-адзіным парадкам дня:
як спыніць эпідэмію моўкнасці музаў?

* * *

Душа ў фізічнай несвабодзе –
двуболь, таму аплёты рве,
каб я пацешыўся прыродзе:
рацэ, і птушцы, і траве.

Стамлюся – пашукаю нішу
ў куп'і ці ў лодцы без стырна,
як звер, услухаюся ў цішу,
пап'ю паветра, як віна.

На жаль, няма ў каго пазычыць
цяпла – няма й з кім падзяліць:
зязюля часу ўжо не лічыць
а кнігаўка не просіць піць.

Пайду назад; зусім сцямнее –
ды заранiца зіхатне,
і ў ёй мільгне анёл надзеі,
хай і не блізка ад мяне!

* * *

Пасля мяне, трава, расці,
сцяблінка, набірайся сілы;
скрозь час глухі і рух бяскрылы,
скрозь ледзь прагрэты жвір магілы
пасля мяне, трава, расці.

Свет гэты мілы ці нямілы,
мне не ўсвядоміць пры жыцці;
для тых, каму пазней прыйсці,
пасля мяне, трава, расці,
сцяблінка, набірайся сілы!



проза

Алесь Ветах



...а вы часам не хацелі б быць алігархам?..

# Хітры кот і яго дачка

***Апавяданні***

### Правінцыя

Серабрыстая машына, рассякаючы паветра, імчала хутка, нібы бліскучая страла. За яе шклом мільгалі старыя дрэвы ўзбоч шашы. Але не сказаць, каб на сэрцы было лёгка, ды ўсё ж на хвілю-другую рабілася радасна: як-ніяк, пасля зацяжной зімы ён урэшце зноў ехаў на бацькаўшчыну. Штогод гэтая першая сустрэча была доўгачаканай. У мроях і снах ён часта пераносіўся да сваёй хаты, блукаў па родных мясцінах. А цяпер птушкай ляцеў туды, дзе прабеглі дні яго дзяцінства. Дарагі сэрцу кут, мілая і ціхая радзіма, хай сабе і правінцыя датычна месца знаходжання, перыферыя праз сваю аддаленасць ад сталіцы.

Уладзя Булат кіраваўся ў райцэнтр, меў намер патрапіць у краязнаўчы музей. Праўда, ехаў ён напярэдадні Радаўніцы на вясковыя могілкі, каб прыбрацца там пасля

зімы, адведаць спачылых вечным сном родных ды блізкіх. Але найперш вырашыў абавязкова заехаць у краязнаўчы музей, бо на тое былі ў яго дзве падставы або прычыны. У сталіцы Уладзя набыў раённую кнігу «Памяць», якую папярэдне пагартаў у краме, а затым грунтоўна вывучыў, калі прынёс яе дахаты і пачаў гартаць старонку за старонкай. І якое было здзіўленне і засмучэнне, што ў гэтай раённай энцыклапедыі ён не сустрэў імён ні свайго слаўнага дзеда з роду Булатаў, ні рэпрэсаванага дзядзькі, бацькавага брата.

У кніжным выданні было пазначана, што ў стварэнні «Памяці» актыўны ўдзел бралі супрацоўнікі раённага краязнаўчага музея. Крыўда рухала Уладзем Булатам, не давала яму спакою яшчэ і таму, што больш як год таму ён адаслаў на адрас музея вялікі пакет з паведамленнем аб яго атрыманні. У тым пакеце былі матэрыялы пра Уладзевых родзічаў. Ён зрабіў фотаздымкі двух крыжоў св. Георгія, ордэна Славы, двух ордэнаў Чырвонай Зоркі – узнагарод дзеда Ігната Булата, які прайшоў дарогамі сусветных войнаў і меў чатыры раненні ды цяжкую кантузію. Даслаў Уладзя і фотаздымак хутара, на якім гадаваліся яго бацька Антось разам з меншым братам Андрэем. Хутар той належаў прадзеду Уладзі Булата, матчынаму бацьку, якога звалі Сымон. Ён праз хваробу ног памёр неўзабаве пасля вайны. Антось Булат застаўся пры бацьку ды дзеду, працаваў па гаспадарцы. Андрэй скончыў у мястэчку народнае вучылішча, потым навучаўся ў гімназіі, а затым падаўся ў духоўную семінарыю...

Сымон Вісловіч строга, нават сурова ставіўся і да дачкі, і да зяця, і да іхніх дзяцей. Разам з тым ён быў чалавекам вельмі набожным, які з ранніх гадоў прывучаў унукаў да малітвы. І ўранку, і ўвечары Сымон укленчваў перад абразамі на покуці, патрабуючы і ад малых дзяцей жагнацца і шчыра маліцца. Андрэйка меў нейкую асаблівую схільнасць да веры, якой настаўляў дзед, заўзятасць у вучэнні і чытанні малітваў. Антось быў большы, дык яму даводзілася ўвесь час дапамагаць бацьку і маці – нават у нядзельку трэба было наглядаць за жывёлай: то пасвіў свіней, то карміў курэй, індыкоў ды гусей. А дзед Сымон штонядзельку запрагаў каня ў вазок, амаль заўсёды браў на рукі малога Андрэйку, і яны ехалі ў мястэчка да царквы. Адбыўшы ранішні малебен і абедню, наведвалі мясцовы базар, куды патрапіць Антосю хацелася больш, чым у царкву, бо там, дзе ён быў толькі двойчы, столькі ўсяго цікавага, а, галоўнае, гэтулькі розных прысмакаў, што вочы разбягаюцца. Калі Андрэй, бацькаў брат, падрос, то чытаў і спяваў у царкоўным храме на клірасе. Дзед Сымон, гаворачы з дачкою і зяцем наконт унукаў, так вызначыў іхні будучы лёс: «Большы хай у полі працуе, а меншы хай у свет ідзе – Богу і людзям служыць». Так яно і атрымалася, як жадалася дзеду Сымону.

Андрэй вывучыўся і атрымаў духоўны сан. Ён, выпускнік семінарыі, паехаў працаваць у Магілёў, дзе яго прызначылі рэгентам царкоўнага хору. Праз некалькі гадоў іерэя Булата накіравалі ва Украіну. Там ён пачаў выконваць пастарскія абавязкі ў адным з прыходаў на Чарнігаўшчыне. У шчырых малітвах айцец Андрэй нястомна слугаваў Богу, клапаціўся пра сваіх парафіян, быў з імі і ў радасныя дні, і ў хвіліны смутку. Але хутка свет памяняўся, надышлі змрочныя і скрутныя дні. Пры савецкай уладзе пачалі змагацца з Богам, царквой і духавенствам. Протаіерэя Булата меліся прызначыць благачынным цэлае акругі, але здарылася непапраўнае: вясною 1931 года яго арыштавалі органы ГПУ, затым зняволенага асудзілі на

дзесяць гадоў і адправілі на этап. Там, у паўночных лагерах, ён пакорліва, стаічна зносіў усе цяжкасці і нягоды, падтрымліваў такіх жа асуджаных, як ён сам, а сярод іх былі нявернікі-атэісты, што нядаўна ганьбавалі Бога і апаганьвалі храмы. Айцец Андрэй апынуўся на волі напярэдадні вайны з гітлераўскай Германіяй. Ненадоўга наведаўся ў родныя мясціны, дзе яго і заспела гэтае сусветнае ліха.

У іхняе мястэчка восенню 1941 года прыехалі айцы-місіянеры, клопат якіх быў у тым, каб аднавіць дзейнасць зачыненай бальшавікамі царквы. Пра гэта і дачуўся протаіерэй Андрэй Булат ад свайго бацькі, які ездзіў у мястэчка па нейкай неадкладнай патрэбе. Місіянеры расшукалі яго самі, паколькі нехта сказаў ім пра вяртанне дахаты сына Булата, як пацярпеў за веру і правёў шмат гадоў у высылцы. Ужо назаўтра айцец Андрэй меў гутарку з прадстаўнікамі царкоўнай місіі, распавёў ім пра сябе ды свой нявольніцкі лёс. Затым цэлую ноч быў сам-насам у одуме, шчыра маліўся. Ён зрабіў свой выбар. У наступным, 1942-м, ваенным годзе ён наладжваў працу і жыццё ў атрыманым царкоўным прыходзе. Айцец Андрэй займаўся найперш тым, што добра ўмеў: вёў службы, хрысціў дзяцей, адпяваў памерлых, а, надаралася, і забітых. Людзі маліліся і прасілі літасці, міласэрнасці ў Бога. Да гэтага яны ўкленчвалі перад хатнімі бажніцамі, а цяпер гуртам збіраліся ў старым драўляным храме, гэтак жа, як і калісьці раней, мелі магчымасць слухаць малебен, гаварыць і раіцца з бацюшкам, прыходзіць на споведзь, запальваць свечкі пры алтары. Яны адкрыта зажылі з верай, з імем Бога-Хрыста на вуснах. Бо так было заўсёды на гэтай зямлі, пакуль не абрынуўся час д'ябальскага ачмурэння, калі руйнаваліся цэрквы, расстрэльвалі ці высылалі на катаргу людзей, адданых Богу і веры. Айцец Андрэй – адзін з тых святароў, хто несправядліва пацярпеў і быў незаслужана пакараны. Сам жа ён лічыў інакш, казаў: «За грахі нашы чалавечыя карае Гасподзь. І я грахоўны. Трэба несці крыж на Галгофу, трэба пакутаваць і цярпець». І ён цярпеў, трываў, пакутаваў. Пашэнціла і пашчасціла – і выбавіўся са сталінскага пекла. Бог ўратаваў. І зноў паклікаў служыць дзеля Веры, Надзеі, Любові. Ён, як і раней, сэрцам натхнёным, хоць і спакутаваным, панёс Слова Божае людзям, у малітвах прасіў даравання і літасці для ўсіх, каму вайна прынесла цяжкія выпрабаванні, гора і пакуты. Дзед Сымон, хоць ногі яго ўжо не слухаліся, усё ж палічыў патрэбным абавязкова прысутнічаць на першай царкоўнай службе, якую правіў ягоны ўнук. Радаваўся, што той вярнуўся жывы. Ганарыўся, што ўнук стаў на чале прыходу. Аднак хворае сэрца айца Андрэя доўга не вытрымала – Бог паклікаў, забраў яго ў сваё лона – Царства Нябеснае. І гора вялікае было ў хаце Вісловічаў: бацька і маці хавалі сына, а стары Сымон перажыў свайго ўнука...

Уладзя Булат губляўся ў здагадках, чаму імя яго дзядзькі не фігуруе ў кнізе «Памяць» як рэпрэсаванага ў гады сталінскага рэжыму, чаму не ўлучана ў спіс гэтай дакументальнай хронікі. У малітве аб памерлых спяваецца: «...и сотвори ему вечную память». Наконт вечнай памяці ў Божым царстве Уладзя, чалавек больш свецкі, але веруючы, сумневу не меў, а вось наконт паўнаты і справядлівасці раённай «Памяці» ўпэўніўся, да таго ж прадчуваў: штосьці тут не так. Магчыма, надарыўся недагляд, а, хутчэй за ўсё, па нейкіх прычынах імёны яго родзічаў апушчаны невыпадкова. Вось гэта і збіраўся высветліць Уладзя Булат у супрацоўнікаў раённага краязнаўчага музея, якія збіралі і рыхтавалі матэрыялы для кнігі «Памяць». Трывожыла думка, што

на дасланыя матэрыялы ён так і не дачакаўся адказу. Памяняць, паправіць тое, што адбылося, урэчаіснілася, ужо немагчыма. Кніга-энцыклапедыя выйшла – і гэты факт навідавоку. Туды, ужо, на жаль, нічога не дапішаш, не дадасі, не прыкладзеш. Час не адкруціш назад. Але тым не менш Уладзя спадзяваўся, што, магчыма, будзе калісьці рыхтавацца больш пашыранае перавыданне кнігі ці будуць планаваць выдаць дадатак. Праглядаючы навіны ў інтэрнэце, ён акурат патрапіў на паведамленне пра выхад дапрацаванага, дапоўненага выдання кнігі «Памяць» суседняга раёна. Мабыць, і там былі пралікі, недахопы, а то і нейкія памылкі, да таго ж, хутчэй за ўсё, адсутнічалі і пэўныя звесткі ды імёны.

Уладзя прыпаркаваў машыну побач з будынкам музея. Сонейка свяціла ярка, што аж сляпіла вочы, добра праграваючы паветра, таму было па-летняму цёпла. Дубовыя масіўныя дзверы музейнага будынка былі расчынены насцеж, над імі красавалася расцяжка «Сардэчна запрашаем!». Здавалася, так па-зямляцку прыветліва і гасцінна сустракае яго, нашчадка роду Булатаў, надзвычай важная культурная ўстанова раёна. Яна і сапраўды глядзелася гожа, велічна, паколькі месцілася ў колішнім двухпавярховым панскім палацы з белымі калонамі і некалькімі скульптурамі карыятыдаў, якія падпіралі сваімі аголенымі плячыма і моцнымі рукамі невялікія балконы, аздобленыя вылепленымі выявамі савецкага герба (раней на іх месцы красаваліся родавыя гербы ўладальнікаў гэтай пабудовы).

Уладзя, зайшоўшы ў музей, леваруч пабачыў шырачэзны стол, за якім сядзела ці то вахцёрка, ці то ахоўніца ў сінім пінжаку – яна дужа нагадвала праваднiцу ў цягніку-дызелі савецкага часу, толькі на яе вопратцы не было ніякіх апазнавальных знакаў. Гэтая цётухна падсілкоўвалася: адкусвала кавалак піражка з павідлам, а поруч на талерцы чакалі свае пары яшчэ некалькі пульхных піражкоў. Уладзя павітаўся, а затым пацікавіўся:

– Ці магу я пабачыць дырэктара?

– Не-а, – жуючы, адказала яна. І патлумачыла: – Дырэктар у адпачынку.

– А яго намесніка?

– І намесніка нямашака. Паехаў на нейкую канферэнцыю вучоных у сталіцу. То да канца тыдня не будзе.

– А хто-небудзь з супрацоўнікаў на месцы?

– Іх амаль усіх на суботнік перад Радуніцай на гарадскія могілкі пагналі. Толькі Ася Віктараўна засталася. Дык толькі яна тутака і я. І от яшчэ хеўра гэтых калматых, – яна замоўкла, пракаўтнуўшы кавалак піражка, і тыцнула тоўстым пальцам у бок расчыненай залы.

Падалося, там і сапраўды нехта ёсць, але не было відаць менавіта хто. На дзвярах залы была прымацавана яркая каляровая афіша з выявай малпаў і надпісам унізе «Ветэраны цырка». Прычым тут гэтая афіша Уладзя адразу не скеміў ці пакуль, як кажуць, не дапяў. Кабета абвяла наведвальніка пільным, цікаўным позіркам і крыху расчаравана сказала:

– Я думала, што вы да нас на выстаўку. Аднак жа, бачна, па нейкай іншай патрэбе прыйшлі. Ася Віктараўна ў аддзел культуры памчала, праз паўгадзінкі абяцала прыбегчы. Яна цяпер тутака за галоўную. То вы, даражэнькі чалавеча, сядайце, пачакайце, – ужо ветліва папрасіла кабета, пасоўваючы ўбок талерку з печывам. І гаварыла далей: – Віктараўна – хуткая, як метэор, наша маладая пенсіянерка. Вернецца як бачыш. Яна ўсё ў нашым царстве ведае, з ёю дырэктар заўсёды раіцца. Сама ж я таксама дванаццаты год тутака працую. Грошы абы-якія плацяць. Але ўсё ж пры культурных

людзях, шмат цікавага бачу ды назіраю, – і не стрымала сваёй цікаўнасці, запытала: – А вы, прабачце, які клопат маеце? Мо што падкажу ці параю.

Уладзя, нічога не ўтойваючы, шчыра распавёў пра тое, чаму і навошта заехаў у музей. Кабета нібыта ўважліва выслухала аповед пра дзеда Ігната, дзедавы франтавыя подзвігі, узнагароды, гісторыю пра лёс яго бацькавага брата, былога настаяцеля мясцовага храма айца Андрэя. Напэўна, жанчына не абцяжарвала сябе глыбакадумнымі развагамі, ёй не былі вельмі што добра зразумелыя матывы Уладзевага візіту ў іхнюю ўстанову.

– Ой, што я вам, даражэнькі, скажу. Толькі не крыўдуйце, – адрэагавала цётка пры культуры. – А каму ўсё гэта цікава, апроч вас і вашых родзічаў? Цяперашнім людцам гэта не патрэбна. Для іх вайна і тое, што да вайны было, даўніна дрымучая, несусветная. Ды і нашто ўспамінаць даўняе, забытае? Сёння ўсё інакшае. Вы адсталі ад нашага тутэйшага жыцця. Да нас мала хто ў музей ходзіць. Вунь колькі стэндаў з фотакарткамі начаплялі, усялякай старызны навыстаўлялі – толькі разглядай ды дзівіся. Аж не, гэта нікога не займае. Нашым людцам розныя адмысловыя цікавосці і забавы падавай. Што дзядзькам і кабетам, што дзеткам малым. Праўдачка, зрэдзькалі сякія-такія госці, як у раён прыязджаюць, ды яны да нас тады наведваюцца, бо так начальства распараджаецца. Школьнікаў, абэлтухаў гэтых, вучыцелькі прыводзяць – і то калі Францавіч, начальнік наш, загадзя дамовіцца, папросіць добра дырэктара якой школы. А так сюды больш нікога на аркане не зацягнеш. Вось наш Францавіч і мусіць штосьці прыдумляць і выштукоўваць. Словам, круціцца і выкручваецца як толькі можа.

– Як вавёрка ў коле ці малпа на дроце, – іранічна заўважыў Уладзя, які зрэдку пераводзіў позірк на афішу з малпамі. Ён быў засмучаны, нават прыгаломшаны прамалінейнымі словамі гэтай музейнай цётухны, таму з крыўдай і з’едлівасцю адрэагаваў на яе вердыкт «каму ўсё гэта патрэбна»,

– Во-во. Тут сам у шкуру малпы палезеш, каб план па наведвальніках выканаць, – са шкадаваннем у голасе гаварыла пра свайго Францавіча кабета. – Ён, шчыра кажучы, не есць і не спіць, а думу цяжкую думае. Гляджу на гаротнага і спагадаю: каб жа ад гэтых думак на яго вошы не напалі. Мо веры не дасце? Дык я на свае вочы падобнае бачыла. Так з бацькам маім было: занудзіўся, занурыўся, у вялікіх перажываннях марнеў, дык гэтая поскудзь і завялася на галаве.

– Бяда, што і казаць, – падсумаваў Уладзя, якому ўжо было не цікава слухаць балбатню кабеціны, хацелася проста пайсці на двор, каб там пачакаць Асю Віктараўну.

– Ой, не кажыце, бяда ды яшчэ якая. Але Францавіч – чалавек вёрткі і прыткі, прыдумляльшчык вялікі. Яму б у сталіцу якую, каб дзе было разгарнуцца. Без такіх, як ён, тут жыццё зачахла б, раскаю пакрылася. Дык Францавіч ашчаперыць рукамі галаў і думае, думае, думае. І прыдумае штосьці такое, што і нам усім карціць як мага хутчэй уведаць, што ж нас заўтрачка чакае, чым Францавіч парадуе, павесяліць. Вось зірніце на афішу – то выключна яго заслуга.

– А хто на ёй? Магчыма, ягоныя дзеці? – зласліва падкпіў Уладзя, але кабета як быццам не пачула, а хутчэй за ўсё зрабіла выгляд, што не зразумела гэты грубы намёк, чорны гумар сталічнага госця-візіцёра, бо здзіўлена паціснула плячыма, выдаючы сваю лёгкую няёмкасць ад пачутага.

– А вось нашаму Францавічу не да смешачак, не да жартачак, – спачуваючы кіраўніку музея, сказала жанчына, дала адчуць, што ганіць яго

няма за што. Адчувалася, яна дужа паважае, шануе, цэніць свайго патрона. Што і казаць, нямала ёсць на свеце людзей, якія любяць нахвальваць начальства толькі за тое, што яно начальства. Далей яна пачала распавядаць пра музейныя дзіва-справы, пра тое, як іх начальнік разгарнуў бурную дзейнасць. – Ён дамовіўся, і месяц таму прывезлі на паказ розных папугаяў – і дробных, і вялікіх. Клеткамі аж дзве залы заставілі. От людзі да нас і рушылі. Шмат мамак з дзеткамі бавіліся тут. Цэлыя групы з садкоў прыводзілі, школьнікі хадзілі і хадзілі. Адзін папугай – вялікі і квяцісты, як певень банькаўскі – гаварыў слоўцамі, бы чалавек. Тут адна жанчынка, напамаджаная і расфуфыраная, падступілася да клеткі, а ён наставіў хіб ды як гаркне над вухам: «Кур-р-ва!». Людцаў многа папрыходзіла, то як пачулі гэтую папугаеву лаянку, смяяцца пачалі, за жываты хапацца. Тая, счырванелая, прысаромленая, як падмеценая адсюль памчала. А да нас заўтра ледзь не ўвесь гарадок збегся – каб паглядзець, як гэты попка лаяцца па-чалавечы ўмее. Скажу па сакрэце: я дакладна ведаю, ад каго ён гэтае слоўца ўчуў, пераняў, – з даверам да суразмоўцы гаварыла кабета на варце музейнай спадчыны. – Юзік, спецыяліст па электрычастве, прыйшоў зранку выключальнік рамантаваць – штосьці ў ім пэнкнула. А Юзік гэты – мацюгальнік несусветны. Я даўно яго паганую натуру ведаю – як пачне гаманіць ды лаяцца, дык хоць вушы затыкай: мацюкі на мацюках. Я вазьмі дый папытай пра Светку, значыцца, жонку ягоную, хоць і ведаю, што баба яна гуляшчая. А той толькі гэтым слоўцам, што папугай падхапіў, і давай сваю Светку абзываць. Лае, шальмуе жонку на чым свет стаіць. Каб жа ў таго Юзіка, ліха яго матары, язык паганы адсох. Але як ні было б, справе ён нашай пасобіў, дапамог, удружыў, як кажуць. Стрымгалоў ляцелі і старыя і малыя на гэтага попку-мацюгальніка паглядзець. Нават начальнікі з «жоўтага» дома – мэрыі значыцца – і міліцыі прыходзілі. Пацяшаліся, выраготвалі. Кажуць, па тэлевізары не тое сёння пачуць можна.

Уладзю ўжо даволі надакучыла гэтая балбатня ахоўніцы музейных рэліквій і каштоўнасцей, ён узняўся з крэсла. Але яна затрымала госця прапановай:

– От купіце лепш квіток – і пайдзіце пакуль што паглядзіце ў зале насупраць нас братоў чалавечых – шымпанзэ і іншых малпаў. Адна гарыла вялікая, як чалавек. Гаворыш, а яна глядзіць-пазірае на цябе – і, здэцца, усё разумее. Вумная халера, розум, значыцца, мае. Мо і разумнейшая за людцаў каторых, асабліва тых, што розум адпілі.

– І на малпаў бягуць глядзець? – з доляй іроніі пацікавіўся Уладзя, які цяпер ведаў, хто чымсьці пагрукваў і па-чалавечы кашляў у музейнай зале.

– У нас і сваіх гарылаў ды малпаў хапае. Вунь гэткія ж лахматыя, чорныя пры вінна-гарэлачных крамах туляюцца. Праўда, нашы нікім не дагледжаныя, брудныя, смярдзючыя, напаўгалодныя боўтаюцца. Пэўна, мадарней за жывёліну якую. Латругі, абібокі, брыдоцiны апошнія. А гэтыя, – і кабета торкнула тым жа тоўстым пальцам у бок залы з «ветэранамі цырка», – больш да людзей падобныя: чыстыя, валассё аж ільсніцца, добра накормленыя. Гарыла, велікан гэты, калі што не так, дык адразу нораў паказвае: за пруты ў клетцы хапаецца, гыркае штомоцы, значыцца, догляду, увагі патрабуе. Схадзіце, пабачце братоў чалавечых, падзівуйцеся – не пашкадуеце, гэта вам запомніцца. Часу ў нас крыху пабавіце, пакуль Ася Віктараўна дзесьці затрымліваецца.

Уладзю аніяк не хацелася набываць квіток, каб глядзець-сузіраць тых малпаў. Яшчэ школьнікам, калі іх вазілі ў Кіеў, ён трапіў у заапарк і там пабачыў зняволеных шымпанзэ, гарыл і іншых чалавекападобных істот. Многія дзеці пацвельваліся з малпаў, пасміхаліся, а яму, Уладзю, было вельмі шкада гэтых нявольнікаў і іхніх няшчасных дзяцей. Большасць малпаў у той спякотны летні дзень сядзелі змэнчаныя, панурыя і змрочныя. Здавалася, іх вочы блішчэлі ад слёз. А дзеці чалавечыя дражнілі жывёлін: выгуквалі абразы, паказвалі свае языкі, правакуючы іх на гнеў.

Уладзя хацеў абурыцца, аднак стрымаўся, бо карцела сказаць музейнай цётцы-ахоўніцы штосьці непрыемнае. Ён ветліва адмовіўся ад прапановы падзівіцца на малпаў – «ветэранаў цырка» – і падаўся на выхад, але насустрач яму праз расчыненыя дзверы ў будынак уляцела, прыстукваючы абцасікамі, невысокая рухавая жанчына, можна сказаць, на яго кіраваўся маленькі тайфун. Уладзя здагадаўся: гэта яна, Ася Віктараўна. Інтуіцыя спрацавала беспамылкова.

Праз некалькі хвілін Уладзя сядзеў у кабінеце Асі Віктараўны, захавальніцы музейных фондаў і аднаго з галоўных краязнаўцаў раёна. Ён пачаў гутарку, сказаў, што зямляк, а затым пацікавіўся, ці атрымаў музей дасланыя матэрыялы, на што пачуў станоўчы адказ. Уладзя вырашыў паразмаўляць з жанчынай спакойна, без ціску і максімальна сцісла, бо цудоўна разумеў, што трэба ашчаджаць чужы час. Распавядаючы пра свайго дзеда Ігната, гаварыў хутка, да таго ж амаль тэлеграфным стылем: «Ён прайшоў дзве вайны. Ваяваў у пяхоце. Не раз быў паранены. У Першую сусветную вызначыўся ў баях каля Паставаў, пазней – ва Усходняй Галіцыі. З 1941 года – на фронце, зноў быў пехацінцам. Абараняўся і хадзіў у атакі. Дайшоў да Берліна. Вы ж добра ведаеце: рэдка хто прайшоў вайну ў пяхоце ад пачатку і да канца. Яму пашэнціла – выжыў, вярнуўся дахаты». Уладзя запытаў у Асі Віктараўны, чаму дзедава імя не трапіла на старонкі «Памяці». У адказ яна затараторыла, быццам гаварыла па пісаным ці вывучыла тое, што прамаўляла, на памяць. Узнікла ўражанне, што яна так гаворыць мо дзясяты ці дваццаты раз:

– На жаль, кніжная плошча была абмежаваная. У нашым раёне раней пражывалі тысячы ўдзельнікаў вайны. Гэтыя спісы вельмі даўжэзныя. І ардэнаносцаў сярод франтавікоў і партызан нямала. У кнізе не хапіла месца на пералік імёнаў афіцэраў, не кажучы пра іншыя катэгорыі ўдзельнікаў баявых дзеянняў. Хай там наверсе думаюць, што і як рабіць далей. На жаль, у музейнай экспазіцыі мы нічога з гэтых вашых матэрыялаў размясціць не можам. У нас там ужо і так багата экспанатаў, архіўных дакументаў – пра Герояў Савецкага Саюза, генералаў і партызанскіх камандзіраў, многіх вядомых удзельнікаў вайны. Такіх арыгіналаў і копій, як вашыя, у нас зашмат. Хай гэтыя матэрыялы ляжаць у папцы. Яны ўяўляюць каштоўнасць найперш для вашай сям'і. Ці не так? Таму беражыце іх у сябе дома.

У адказ Уладзя прамаўчаў. Тлумачэнне Асі Віктараўны ён прыняў, як кажуць, да ведама, нічога больш не пытаў пра магчымасць перадачы чагосьці з дзедавай спадчыны ў якасці экспанатаў для музея, бо ясна зразумеў адно: тое, што ён падрыхтаваў і прапанаваў, для гэтых людзей не ўяўляе ніякай цікавасці.

Тады Уладзя Булат папрасіў Асю Віктараўну як чалавека, далучанага да стварэння раённай «Памяці», сказаць, калі яна ведае, чаму ў гэтым кніжным мартыралогу-мемарыяле няма звестак пра рэпрэсаванага айца

Андрэя, бацькавага брата. Ён коратка нагадаў супрацоўніцы музея пра яго лёс, хацеў дапытацца, чаму забылі пра святара, які столькі год пакутаваў на катарзе за адданасць Богу і веры. Ася Віктараўна трымала ў руках мабільнік і нервова націскала то на адну кнопку, то на другую, быццам даючы адчуць, што гутарыць доўга ў яе няма часу і трэба камусьці тэрмінова затэлефанаваць. Уладзя бачыў, што супрацоўніца не рада яго візіту, аднак далей гаварыў пра сваё:

– Выбачайце, але наўрад ці музей не валодае архіўнымі звесткамі пра бацькавага брата. Айцец Андрэй – ахвяра сталінскіх рэпрэсій. Мо неяк неабачліва выпала яго імя са спісаў ці як?

Ася Віктараўна ізноў гаварыла хутка, тлумачыла Уладзю, быццам школьніку, якому з цяжкасцю даецца новы матэрыял. А мовіла яна наступнае:

– У жыцці і лёсе айца Андрэя ўсё дужа заблытана. І вы гэта, безумоўна, ведаеце. Папярэднія спісы глядзелі былыя партызаны. Дык яны выказаліся, каб не згадваць у агульным спісе імя настаяцеля храма ў гады акупацыі. Так што ветэраны супраць.

– Але ж сёння мяняюцца падыходы і ранейшыя ацэнкі. Айцец Андрэй пацярпеў у сталінскі час, стаў пакутнікам за веру. Хіба ён зрабіў штосьці благое савецкай уладзе? Бацюшка не супрацоўнічаў з акупантамі, не ўчыніў у гады вайны нічога ганебнага. Наадварот, дапамагаў людзям, быў разам і поруч з імі. У царкве славіў толькі Бога, быў адданы веры сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў, далучаў да яе іншых. Дык у чым яго віна? – запярэчыў Уладзя, баронячы памяць і годнасць свайго дзядзькі.

– Я не суддзя і не пракурор, каб вызначаць віну кагосьці, тым больш пасмяротна. Пасля вердыкту ветэранаў наверсе іх падтрымалі, вырашылі ўстрымацца наконт вашага сваяка. Мы ж тут, у музеі, людзі маленькія. Вось і ўсё. А тое, што вы ў лісце просіце змясціць матэрыялы пра айца Андрэя ў экспазіцыі нашага музея, то гэта не ўяўляецца магчымым. У нас усе канфесіі роўныя. Дык заўтра сюды прыйдуць каталікі, баптысты, мусульмане... І ў кожнага знойдуцца свае пакутнікі і свае героі. Калі б у нас быў музей рэлігіі, то тады, як кажуць, калі ласка.

– А чаму б і не падрыхтаваць асобны, хаця б перасоўны, стэнд пра святароў розных канфесій? Гэта, па-мойму, было б нядрэнна. Тады можна было б пераканацца, што малітвы ў нашым краі былі патрэбны людзям не менш, чым хлеб і вада.

Ася Віктараўна, аднак, мела на такую прапанову свой погляд:

– Навошта, скажыце, царкву ў краязнаўчы музей цягнуць? Калі ў нас іншы аб'ект вывучэння і папулярызацыі: гісторыя раёна, традыцыі, побыт, рамёствы. У нас установа культуры свецкага тыпу.

– Але ж гісторыя раёна – гэта і гісторыя канфесійнага жыцця, гісторыя веры людзей нашай зямлі, – не пагадзіўся Уладзя Булат з кампетэнтнай у музейных справах жанчынай, да таго ж на сто працэнтаў упэўненай і перакананай у слушнасці сваіх довадаў.

– Ведаеце, у нас свае арыентацыі і прыярытэты. Яны ўжо даўно акрэслены, абгрунтаваны і замацаваны ў адпаведных дакументах. Мы дакладна абазначылі, строга вызначылі наша культурнае поле ці, як цяпер кажуць, культурную прастору...

Пасля гэтых слоў Уладзя падумаў, што і сапраўды мае справу з адукаванай жанчынай. Але больш з ёй гаварыць нашчадку роду Булатаў не хацелася...

Праз колькі хвілін расхваляваны і прыгнечаны Уладзя, сталічны госць і чалавек з гэтых краёў, выйшаў з будынка музея. На душы было пагана і крыўдна. З раздражнёнасцю і нават злосцю ён думаў пра жанчыну, з якой толькі што гаманіў: жывая праўнучка бессмяротнага Чычыкава, нейкі маленькі а-ля монстр на мясцовым узроўні культуры, у царстве папугаяў і малпаў. Ах, Уладзя, Уладзя! Айцец Андрэй не ўхваліў бы такое тваё пачуццё пагарды і гневу. Ён па-хрысціянску пашкадаваў бы і гэтую маленькую жанчыну – затурканую чыноўнікамі і абмежаваную савецкімі стэрэатыпамі, і цётухну-вахцёрку, якой ты нічога не сказаў на адвітанне.

Яго не пакідала прыкрая думка, поўная расчаравання: вось якая яна, твая мілая і ціхая радзіма – правінцыя правінцыяй. Але ж адсюль бярэ выток твая радаводная плынь памяці. Не судзі, не спапяляй праведным агнём гневу сваю правінцыю, бо яна – неад'емная частка тваёй краіны і, зрэшты, цябе самога, і ўсіх нас грэшных на гэтай зямлі. Значыць, на тое маюцца глыбокія прычыны, што чалавек, памяць, Бог і вера ўсё яшчэ застаюцца на перыферыі духоўнага існавання. Доўгі і няпросты наш шлях да сваёй радзімы, і трэба адчуваць ды разумець яе сённяшнюю драму. І зваротная дарога з правінцыі не абяцае быць лёгкай – у сталіцы таксама хапае парадоксаў і анамалій.

Адно стагоддзе сплыло ў нябыт, пачалося новае, аднак абсурд на гэтым не скончыўся. Навокал шмат таго, што бянтэжыць і пярэчыць твайму светаўяўленню. Чалавек па-ранейшаму ідзе супраць чалавечнасці, памяці, свайго сумлення, жыве так, як лічыць патрэбным. Магчыма, не варта крыўдаваць, сердаваць, гневацца, а трэба імкнуцца дараваць... Вядома, гэта цяжка, бо хочацца справядлівасці, сустракаць узаемаразуменне, падтрымку, спагаду. У жыцці не ўсё атрымоўваецца так, як нам хочацца ды жадаецца. Ды, галоўнае, усё ж верыць у лепшую будучыню. Так, як у гэта верылі нашы бацькі, дзяды і продкі. І тады прыйдзе новы дзень, і пачнецца сустрэчны рух – сталіцы да правінцыі і правінцыі да сталіцы. Вось такая, як кажуць, дыялектыка.

## «Хачу быць алігархам»

Сёння працаваць у школе стала няпроста, занадта складана, нават невыносна цяжка. Бадай, гэта скажа, калі толькі не збаіцца, кожны настаўнік, і пачне пры гэтым наракаць на сваю долю. Яны, працаўнікі школы, добра ведаюць: вылучаны прыярытэт ці пазначаная тэндэнцыя на нейкай высокай нарадзе ці сходзе імгненна пачынае ўкараняцца, як кажуць, у практыку. А калі прынята пастанова ці разаслана дырэктыва, то гэтыя дакументы маюць нарматыўны, абавязковы характар, і тады школьнае начальства адразу пачынае муштру, як у войску, загадваючы што і як трэба выконваць, прычым хутка, тэрмінова, неадкладна. Недзе на самым версе з'явілася думка, якая была, праўда, агучана ў крыху іншай форме, але сэнс яе наступны: досыць нам у школе будучых вучоных пладзіць, а трэба людзей рабочых прафесій рыхтаваць, бо неўзабаве, маўляў, на вёсцы не будзе каму кароў пасвіць, а ў гарадах двары падмятаць.

На педсавеце ў Вялікатрасецкай сярэдняй школе дырэктарка Марыя Адамаўна Дудкіна паведаміла пра неабходнасць пераакцэнтацыі прафарыентацыйнай дзейнасці і строга запатрабавала працаваць у адпаведнасці з новай устаноўкай у сферы адукацыі. Таму Ніна Васільеўна, настаўніца-філолаг

больш як з трыццаціпяцігадовым стажам, якая пачала працаваць яшчэ ў эпоху Брэжнева і чытала з вучнямі «Малую зямлю» ды «Цаліну», адразу хутка згадала, што і тады, калі існавала політэхнічная школа, шмат увагі надавалі працы на прышкольным участку, у сталярных майстэрнях, дбалі пра падрыхтоўку будучых даярак і трактарыстаў, інжынераў і аграномаў. Яна адразу ж запрасіла ў школу ветэранаў працы паважнага веку: былую цялятніцу, кавалера ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга Ганну Шалуху і свайго суседа дзядзьку Рыгора – камбайнера-тысячніка, які заўсёды вызначаўся на ўборцы ўраджаю, намалочваў з напарнікам больш за ўсіх збожжа на жніве, атрымаў калісьці ў савецкі час тэлеграму з віншаваннем нават з космасу – ад касманаўтаў з арбіты, толькі не ад жыхароў нейкай галактыкі, як нехта мог бы падумаць з чытачоў, а так падумаць мог менавіта той, хто ніколі не жыў у савецкі час і не марыў пра светлае камуністычнае заўтра. Сустрэча прайшла няблага і мела, здавалася, поспех. Ніна Васільеўна была задаволена, бо пасля выхаваўчага мерапрыемства, якое наведала сама Дудкіна і яе намесніца Мар’яна Прымакова, настаўніцу пахвалілі, абяцалі прэмію. Што і казаць, атрымалася сапраўднае свята працы. Дзеці ўручылі гасцям кветкі, натхнёна чыталі вершы «Праца», «Я – калгасніца...», «Я – сын зямлі...», «Працаўнікі» (тут дарэчы прыйшлася старая распрацоўка пазакласнага мерапрыемства з тэкстамі гэтых твораў савецкага часу). Потым зазвінелі вясёлыя, гарэзлівыя галасы дзяўчынак «Ох, і сеяла Ульяніца лянок...», а напрыканцы свята на сярэдзіну класа выйшаў не па гадах рослы, шыракаплечы сямікласнік Ціхан Сапончык і зацягнуў песню пра любоў да жыцця, і спяваў яе пранікнёна, надзвычай бадзёра:

Вот уж окна зажглись,
Я шагаю с работы устало,
Я люблю тебя, жизнь,
И хочу, чтобы лучше ты стала.

Пачырванелая цётка Ганна, былая цялятніца, расчулілася: вочы яе набрынялі слязьмі.

Акрыленая поспехам, Ніна Васільеўна пачала думаць, што яшчэ можа прапанаваць вучням, на гэты раз старшакласнікам, дзеля таго каб скіраваць іх у будучую працоўную прафесію. Яна і сама добра бачыла ды засмучалася, што іх некалі вялікая, на трыста двароў, вёска цяпер змізарнела, моладзь адсюль з’язджала і не вярталася. Ніна Васільеўна згадала, што ў выпускным класе заўсёды задавала тэму сачынення «Кім быць?». Самае лепшае, як цяпер здавалася, забытае старое. І яна прапанавала гэтую тэму адзінаццацікласнікам у якасці дамашняга задання. Праз тыдзень, як і дамаўлялася з вучнямі, сабрала напрыканцы ўрока пісьмовыя працы, прынесла іх дахаты...

Генка Бабок нарадзіўся ў час, калі дзеці ўжо не марылі быць касманаўтамі. У мінулае адкочвалася вялікая кніжная эпоха і ўсталёўваліся новыя каштоўнасці, з’явілася мода на зусім іншыя рэчы. Цяпер дзеткам хацелася мець ледзь не штодня кіндар-сюрпрыз і чупа-чупс, жадалася, каб бацькі набылі ў падарунак мабільнік і кампутар з гульнямі, і хто іх атрымліваў, той быў самы круты і клёвы пацан. Генка перайшоў у выпускны клас акурат тады, калі рэальнасцю штодзённага жыцця ўжо лічыўся ноўтбук і вяршыняй жаданняў зрабіўся новенькі смартфон. Усё гэта Генка меў

выключна адзін сярод раўналеткаў і, як ні дзіўна, самы першы ў вёсцы, якая співалася і вымірала. Меў і мог пахваліцца чарговым новым набыткам дзякуючы таму, што даў Бог ці нехта іншы яму талковага, увішнага бацьку. Бабок-старэйшы, былы калгасны інжынер, з'ехаў на заробкі ў Расію больш як на пяць гадоў. Нехта пусціў погаласку, што знайшоў ён там сабе жанчыну і застаўся ў прымах. У гэта ахвотна верылі, бо за ўвесь час наведваўся ён у свой Вялікі Трасец толькі некалькі разоў, а так як быццам чалавек дзесьці прапаў, знік і следу яго не засталося. Нечакана для аднавяскоўцаў ён вярнуўся з капіталам і першае, што зрабіў і чым уразіў просты люд, дык адбабахаў грандыёзны палац – трохпавярховы катэдж. Гэты навамодны будынак глядзеўся сярод шэрых нешаляваных хат як нейкае казачнае дзіва. Асабліва ён вылучаўся на фоне сапраўдных разваліх, у якіх дажывалі веку адзінокія бабы ці даконвалі сябе смярдзючаю атрутай сем'і алкашоў. Затым бацька Генкі распачаў свой бізнес – адкрыў у райцэнтры некалькі гандлёвых кропак у выглядзе невялікіх шапікаў. Камерцыя пайшла досыць паспяхова, прыбытак хутка рос угару. Для мабільнасці «новы беларус» набыў вялікі джып, на якім даязджаў да райцэнтра і назад, у Вялікі Трасец, максімум за паўгадзіны – гэта хутчэй, чым дабірацца сваім ходам ці на метро ў агромністым горадзе са спальнага раёна ў цэнтр. Бацька ўвесь час быў заняты, круціўся, як кажуць; ён з самага рання пакідаў дом, імчаў кудысьці па сваіх справах і клопатах, а найчасцей гойсаў да сталіцы, каб закупіць патрэбны тавар. Маці Генкі перш была незадаволена, што яны пабудаваліся на вёсцы, а не ў райцэнтры. Да гэтага яны займалі невялічкі фінскі дамок, у якім жылі з таго часу, як прыехалі працаваць у калгас на мужаву радзіму. Гэты будынак быў дужа халодны, побач з ім пачаў распаўзацца па баках хлеў, скасабочыўся дашчаны гараж, зладжаны ранейшым гаспадаром для матацыкла з каляскай. Новы катэдж месціўся крыху воддаль ад старых хацін, узвышаўся на пагорку пад чарапічным цёмна-карычневым дахам, як мацак-баравік над разлезлымі восеньскімі апенькамі. Да прылеглай тэрыторыі, абгароджанай высокай бетоннай сцяной, падступаўся малады імшысты сасняк з кустамі чарнічніку, зусім побач, метраў з пяцьсот ці крыху далей, зіхцела чысцінёй і дыхала лёгкай прахалодай лясная азярына, якая з паўднёвага стромкага берага мела пакручасты жоўта-залацісты схіл, дзе ўлетку амаль заўсёды мітусіліся вёрткія стрыжы. Паветра вакол заўсёды стаяла незвычайна водарнае і гаючае, шторанку гучалі на розныя лады птушыныя спевы, таму і дыхалася тут надзвычай лёгка, а на душы рабілася хораша, спакойна, утульна. Пазней, як сям'я абжылася, маці ўжо не наракала на тое, што засталіся ў гэтых мясцінах, якія, калі мець на ўвазе прыроднае ўлонне, былі гожыя і слаўныя. Наадварот, Генкавы бацькі цанілі тое, што мелі, з гонарам гаварылі і паказвалі гасцям, сярод якога хараства жывуць. Умелі адпачыць гэтыя людзі на шырокую нагу і радавацца жыццю. Сям'я Бабкоў, зразумела, жыла заможна, у поўным дастатку, без асаблівых вострых патрэб. Так, напэўна, і павінны жыць усе людзі.

Бацькаў прыклад займаў і натхняў Генку. Яму хацелася таксама быць гэткім самым паспяховым. Праз пэўны час Бабок-старэйшы перавёў дробны бізнес на новыя рэйкі: ён стаў уладальнікам вялікай крамы і прыдбаў пілараму, якія пачалі прыносіць асабліва буйны прыбытак. Хлапчук амаль заўсёды бачыў іназіраў, хто прыязджаў да іх дамоў, якое дарагое піва бацька выстаўляў на багаты стол, слухаў, як той з пахвальбою гаворыць пра

свае набыткі, поспехі, планы, як захапляюцца яго дзейнасцю кампаньёны і сябры па бізнесу. Бабок-старэйшы быў гаспадаром жыцця ў тутэйшых ваколіцах і шырэй – у раёне і вобласці.

Калі Генкаў бацька яшчэ толькі пачынаў сваю справу, прарэзалася камерцыйная жылка і ў ягонага сына. Часам чалавек не здагадваецца пра свае таемныя, прыхаваныя таленты, але пры пэўных абставінах, у асаблівых умовах раптам выяўляецца, што ён здольны рабіць выключныя поспехі, дасягаць значных вынікаў.

Генка нечакана ўлучыўся ў шырокую плынь камерцыйнай дзейнасці, якая захапіла многіх і многіх людзей у час імклівага і бурнага развіцця малога бізнесу, менавіта тады, калі адукацыя перастала цаніцца і маладыя людзі схіляліся да думкі-пераканання, што лепш гандляваць бананамі, чым сушыць навукаю мазгі. А пачыналася ўсё так. Толік Лаўцэвіч, які быў курцом ад тае пары, як навучыўся хадзіць, папрасіў, каб Генка Бабок, ідучы ў школу, прыхапіў з дому пачак цыгарэт, бо ён без адной-адзінай зацяжкі заўтра сканаць можа.

– Не ведаю, але, мусіць, не атрымаецца, – папярэдзіў Генка і як бы апраўдаўся: – Я б і рад прынесці, ды каробкі з курывам бацька ў гаражы трымае. Ключы ад гаражных дзвярэй толькі ён мае. Бацька мой халявы не любіць. А калі скраду, то тады мяне па сценцы можа размазаць.

– Скажы, што я разлічуся, – не адставаў, просячы зрабіць ласку, Толік. – Дзе ж у нашым трасцаградзе што возьмеш? Пакуль той аўталаўкі дачакаешся, дык лепш павесіцца. Ды і прасіць якога-небудзь сталага кныра трэба, каб яму курыва прадалі, – Лаўцэвіч шкрэбнуў пачкам запалак за вухам. – Не бойся, мані ў мяне ёсць, – зрабіў дадатковую рэмарку аднакласнік адносна наяўнасці ў яго кішэні грошай, і тым самым падкрэсліў сваю плацежаздольнасць.

Генка вырашыў не разлічваць на дармаўшчыну, барскую шчодрасць, а сказаў адразу бацьку, што Толік Лаўцэвіч просіць прадаць пачак цыгарэт. Грошы, маўляў, той аддасць. Бацька прынёс з гаража тое, што прасіў сын. Генка Бабок пачаў насіць цыгарэты на продаж не толькі Лаўцэвічу, але і іншым аднакласнікам. Ён наладзіў у сваім восьмым класе міні-бізнес. Праз нейкі час Генка прадаваў старэйшым хлопцам гарэлку, якую тыя набывалі, радуючыся, што яна была больш танная, чым у аўталаўцы і райцэнтраўскіх крамах. Асаблівы попыт на розныя тытунёвыя вырабы ды вогненную ваду падвышаўся ў суботу і нядзелю, калі ў старым клубе ладзілася так званая дыскатэка, а дакладней, шалёныя п’яныя скокі пад магнітафон, які праз дзве вялікія калонкі спараджаў неймаверна жудасны грукат. Гандаль Бабка-малодшага набіраў абароты. Напачатку ўсе выручаныя грошы хлопец аддаваў бацьку, які сёе-тое з гэтай сумы – некалькі не вельмі буйных купюр – адшкадоўваў сыну. Аднак пасля ён налаўчыўся рабіць навар: прадаваў пачак цыгарэт ці бутэльку гарэлкі па больш высокім кошце, чым вызначаў Бабок-старэйшы. Асабліва ён падымаў таксу позна ўвечары ці ўначы. Мабільнік досыць часта не даваў яму ні прысесці, ні прылегчы, бо патрабавалася без прамаруджвання, неадкладна задаволіць тую ці іншую просьбу. Уласна кажучы, цяпер Генку было не да вучобы, школьных урокаў і хатніх заданняў. Ён увесь з галавой акунуўся ў вір гандлю і пачуваў сябе ў гэтай новай справе, як рыба ў вадзе. Бацька чамусьці не баяўся, што сын неяк неабачліва можа пачаць тануць ці нават захлынуцца ў бурным, мітуслівым водавароце камерцыі. Наадварот, яго радавала, што Генка мае

занятак і вучыцца зарабляць грошы. Без іх, лічыў Бабок-бізнесмен, чалавек на гэтым свеце і ў гэтым жыцці ніхто, проста нуль. «Залатое правіла: маеш грошы – і разумны, і харошы», – часта паўтараў ён. Генка, дапамагаючы бацьку, з цягам часу ў штодзённых камерцыйных стасунках паводле прынцыпу «тавар – грошы – навар» набіраўся досведу, набываў самастойнасць, пры гэтым выконваў сваю справу па-даросламу ўпэўнена і, можна сказаць, даволі творча. Ён адчуў уласную запатрабаванасць, важнасць, а пасля і выключнасць. Калі ў яго з'явіліся кішэнныя грошы, а пазней і, як кажуць, зялёнае бабло, то з ім пачалі сябраваць многія старэйшыя хлопцы. Дзяўчаты літаральна ўчэпліваліся і цягнулі яго на дыскатэку. Па начах ён часта браў новы матчын міні-купер і гойсаў на ім, катаючы захмялелых і накураных дзявуль. Сам жа ён не паліў і не браў алкаголю ні-ні. Аднак на свае вочы пераканаўся: цыгарэты ды гарэлка здольны дапамагаць з лёгкасцю рабіць тое, што табе хочацца. А жадалася быць дарослым і гэткім сапраўдным мача, як у тых фільмах, што ён сяды-тады глядзеў, прагнучы юрлівых уцех. Таемнае хаценне пачало спраўджвацца. Першая з дзяўчат, Людка Парцянка, дасталася яму з лёгкасцю – і ён пасмакаваў тое, што называецца інтымам. Сяброўскія сустрэчы з Людкай, падчас якіх яны займаліся любошчамі, доўжыліся мо з паўгода, пакуль ён не пераключыўся на Анжэлку, затым гуляў з Наташкай... Падатлівыя дзяўчаты зрабіліся для хлопца звычайнымі рэчамі, якімі ён карыстаўся, як лыжкай, відэльцам, шклянкай ды талеркай, пры тым не баючыся, што давядзецца пра штосьці шкадаваць. Ён ужо не мроіў, як хтосьці з іншых юнакоў, сустрэць сваё каханне, адчуць, што такое сапраўдны водар і хмель гэтага салодкага пачуцця. Генку Бабка перапаўняла радасць ад іншага – грошай. Ён марыў пра багацце, якое дае незалежнасць і шанец на прыгожае, шыкоўнае жыццё. Хлопец ведаў, што гэтыя даступныя дзяўчаты нічога не вартыя. А вось калі ён разбагацее, стане па-сапраўднаму «крутым пацаном», то тады і зможа зрабіць так, каб у яго закахалася самая прыгожая і сексапільная дзяўчына – прыкладна такая, як на вокладцы якога-небудзь супермоднага глянцавага часопіса. Генка верыў і спадзяваўся, што знойдзе дзіва-мадэль несусветнага хараства – і гэтая міс поруч з ім зрэжа напавал сваёй чароўнай пекнасцю ўсю ягоную тусоўку. Яму павінны пазайздросціць усе і паўсюль – толькі ён адзін уладальнік такога рэдкага, унікальнага хараства. А для гэтага трэба быць заможным, нават казачна багатым. Неяк Ніна Васільеўна, якая навучала роднай мове бацьку Генкі, так сказала, рыфмуючы, пра свайго былога вучня: «Бабок аказаўся не абібок. Хтосьці церпіць крах, а ён алігарх». Дачуўся пра гэтыя словы бацька ад настаўніка фізікі Вараўкі, які прыходзіў па мех мукі вышэйшага гатунку з дастаўкай на дом. Калі Бабок-старэйшы адвозіў ягоны набытак, то, між іншым, уведаў па дарозе, як пра яго кажа былая настаўніца Ніна Васільеўна. Дык яму спадабаўся гэты двайны афарызм. Нічога абразлівага ў ім ён не адчуваў, наадварот, яе пасаж можна лічыць высокай ацэнкай яго асобы і бізнес-дзейнасці. То няхай сабе гаворыць на здароўе – думалася бацьку наконт Ніны Васільеўны. А вось Генку падалося, што яго і бацькава настаўніца недалюблівае іх сям'ю, ставіцца да іх багацця з пагардай і асуджэннем. І ніколькі не памыляўся. Аднак на гэтую нелюбоў у яе былі свае важкія прычыны, пра якія не мог здагадацца толькі чалавек з каменным ці алавяным сэрцам – менавіта той, хто дзейнічае дзеля грошай, памнажэння ўласнага багацця і не мае абсалютна ніякай адказнасці за тое, што робіць.

Ніна Васільеўна пачала гневацца, калі Генка перастаў рыхтавацца да ўрокаў. Аднаго разу яна з грэблівасцю згадала пра бацькавы грошы, на якія хлопец, як ёй здаецца, толькі і спадзяецца ў будучым жыцці. Настаўніца абурылася, што ён марнуе ў школе час ды праціраe штаны, дазволіла сабе кпліва, нават крыху здзекліва прамовіць на адрас свайго вучня – ізноў рыфмуючы: «Бабок! Ты стаў бажок. Ад лені не будзеш геній. Хто не вучыцца, той пасля мучыцца. Памятай: грошы – ліхія вошы». Ніна Васільеўна ператварылася ў вялікага і назойлівага дыдакта, павучаючы і даймаючы Бабка. Трываць і зносіць яе пасажы хлопцу было ўсё цяжэй і цяжэй.

Бацька Генкі вырашыў асвяціць перад Вялікаднем катэдж. Яму думалася і жадалася, што весці бізнес і жыць у такім палацы патрэбна, заручыўшыся блаславеннем царквы і спрыяннем Усявышняга. Вядома, святая вада дапамагае засцерагчыся ад зайздроснага вока, благой энергіі. Вунь таму і асвячаюць офісы, банкі, рэстараны, гіпермаркеты... Бабок-старэйшы паклікаў бацюшку Мікалая, які шчыра справіў абрад асвячэння і паклаў у кішэню грошы, атрыманыя за выкананую працу і ахвяраваныя на рэканструкцыю царквы. І ўсё можа было б ціха і добра, калі б у райцэнтр на велікоднае свята да царквы не наведалася ўсхваляваная і неспакойная Ніна Васільеўна Галубовіч, вясковая настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Яна да ранку не спала, прадумвала, прагаворвала, што і як скажа, зноў і зноў напружана пракручвала ўяўны маналог. У жанчыны ад гэтай узбуджанасці, мадэлявання непазбежнай сустрэчы, несупыннага паўтору адных і тых жа слоў знікла адчуванне часу, зашумела галава і, здавалася, пачаў запаляцца мозг. Ужо на досвітку яна пракаўтнула некалькі таблетак, запіўшы іх вадою, перачакала, пакуль сунімецца галаўны гуд-звон. Бліжэй да апаўдня Ніна Васільеўна падалася на аўтобусны прыпынак, паехала ў райцэнтр з рашучым намерам, наважылася сказаць усё, што думае, усё, што накіпела на душы. Яна адчувала нейкае ўнутранае пакліканне і патрэбу змагацца са згубнай бядой у іхнім мястэчку, але не імкнулася адказаць сабе, хто кіруе ёй і падштурхоўвае да гэтага ўчынку, толькі цудоўна разумела і ўпэўнілася: мірыцца з тым, як нажываецца чорны капітал Бабкамі і лютуе ў вёсцы ды мястэчку «зялёны змій» і іншая д'ябальская пошасць, далей нельга.

Напэўна, Ніна Васільеўна, выхаваная з дзяцінства на мудрых народных казках і творах беларускіх пісьменнікаў, а цяпер сама настаўніца-педагог, якая вучыла годна жыць і бараніць ідэалы ды сапраўдныя каштоўнасці, была пераканана, што з пачварным злом-ліхам трэба змагацца. Яна абуралася, не заўсёды разумеючы, што адбывалася навокал. Усё перакульвалася ў гэтым свеце і рабілася няўцямным, нечаканым, супярэчлівым. Асобныя хлопцы і дзяўчаты з выпускнога класа пачалі бессаромна дыміць цыгарэтамі ўжо на прыступках школы, нікуды не хаваючыся, а сёй-той з педагогаў баяўся зрабіць нават заўвагу. Настаўніца біялогіі, яе калега і сяброўка, паспрабавала прысароміць нахабнікаў за курэнне навідавоку, да таго ж пры вучнях малодшых класаў, дык адзін з іх паслаў выхавальніцу добрапрыстойнасці на тры літары. Ніна Васільеўна, як толькі даведалася пра хамскі выпад і хуліганскія паводзіны выпускніка, не ўтрымалася, адразу пайшла да дырэктара школы і паведаміла пра надзвычайнае здарэнне, запатрабавала, каб той неадкладна сабраў калектыў на педсавет. Разбор інцыдэнту і выключэнне вучня на два тыдні са школы мела вынік: цяпер, калі хтосьці са старшакласнікаў і зацягваўся дымам, дык толькі сыходзячы кудысьці далей ад настаўніцкіх вачэй. Цяжка сказаць, ці дайшло штосьці да гэтага

канкрэтнага вучня, але яму і іншым педагогі мусілі давесці, што такое школа і якая культура нораваў у ёй павінна быць. Яны гаварылі, тлумачылі, прасілі, заклікалі... А, галоўнае, дзякуючы прынцыповай пазіцыі Ніны Васільеўны змаглі супольна адрэагаваць на абразу, пыху і хамства маладзёна, баронячы годнасць калегі, назваць брыдкае і агіднае сваімі словамі, сказаць «не» пагардлівай дэструкцыі нормаў і правілаў чалавечай этыкі.

І вось невысокага росту настаўніца паўстала насупраць велічнай царквы з зіхатлівым залацістым крыжам на купале, папраўіла на галаве цёмна-шэрую хустку, нахіліла голаў і перахрысцілася, з узрушаным сэрцам згадала ў думках магутнага і праведнага Бога. Бацюшка Мікалай з дзвюма жанчынамі, якія пасаблялі яму, акурат ставіў напакаваныя сумкі ў багажнік аўто.

– Айцец Мікалай! Я хацела б з вамі пагаварыць, – з утрапёнасцю прамовіла настаўніца і дадала, быццам жадаючы патлумачыць, чаму перастрэла яго пры машыне і замінае пакаваць рэчы. – Вельмі патрэбна. Ой як патрэбна!

– Кажыце, у мяне ад сясцёр сакрэтаў няма, – пачулася ў адказ ад царкоўніка ў чорнай рызе.

– Калі так, то даруйце, бо давядзецца пра непрыемнае, прыкрае гаварыць услых і гучна, – і, перавёўшы дых, усхвалявана працягвала: – Мне здаецца, што ваша імя не Мікалай, тым больш яно не мае ніякага дачынення да вялікага святога ўгодніка. Вы – айцец Фёдар з «Дванаццаці крэслаў» Ільфа і Пятрова! Ці чулі пра такога?!

– Ці не блага вам часам, сястра мая? Ці не злыя духі вас, бедную, апанавалі? – сумеўся і разгублена спытаў бацюшка, папраўляючы на грудзях вялікі крыж на бліскучым ланцужку.

– Не называйце мяне сястрою! Вы не маеце на гэта права! – абурана выгукнула Ніна Васільеўна.

– Дык што з вамі? Які дэман вамі кіруе? – з недаўменнем усклікнуў настаяцель царквы.

– Гэта не са мною штосьці, а з вамі! І не мною, а вамі хтосьці кіруе! – на павышаным тоне запярэчыла настаўніца, а затым з суровасцю ў голасе запытала, праясніўшы тым самым што да чаго: – Гэта ж вы Бабкоў катэдж асвячалі? Вы ці не вы? Альбо нехта хтоцкі?

– Я... – і бацюшка змоўк, не змог гаварыць, бо далей казала настаўніца Вялікатрасецкай школы, якая па сутнасці ўсчала пры храме бунт.

– Вы ведаеце, што Бабкі тытунём і гарэлкаю гандлююць? Яны ўсіх без разбору – старых, жанчын і дзяцей – труцяць. Зусім няшчасных людцаў не шкадуюць, ядам і смерцю за іх жа грошыкі частуюць. Гэта ж грэх, бацюшка, ой які вялікі грэх! Дык што вы сабе думалі, калі святой вадзіцай іхняе дабро акраплялі? Што вы робіце? Навошта бераце іх брудныя грошы на патрэбы храма? Вы бласлаўляеце грэх і самі творыце грэх!

– Не табе вучыць мяне, жанчына! – гняўліва ашчэрыўся бацюшка. Злосць імгненна запаліла яго нутро, шуганула вонкі, нібы лютае, спапяляльнае полымя. Цёмнабароды, з рабаціннем пад вачыма служка культу абурана выкрыкнуў: – Бог мне суддзя, і ніхто іншы!

Угневаны айцец Мікалай уціснуўся ў аўтамабільнае крэсла, сярдзіта абмовіўся «Грошы не пахнуць» і тым самым выдаў як бы сваю пазіцыю ці перакананне адносна таго, што меў ласку з боку бізнесмена Бабка. А мо ён проста кінуў гэтыя словы на зло настаўніцы, якая прыехала ганьбіць

яго царкоўны аўтарытэт і выстаўляе сябе праведніцай, змагаркай з нейкім пачварным д'яблам у ягонай асобе.

Хутка вяскоўцы даведаліся пра выпад Ніны Васільеўны супраць айца Мікалая. Нямала хто яго асуджаў, згадваючы яго дасемінарскае мінулае, калі той працаваў у райкаме камсамола. Маўляў, як быў бессаромным камсамольцам, так ім і застаўся. Усе Бабкі – бацька, маці ды іх сын – былі страшэнна абураныя нечаканым пратэсным учынкам «Галубіцы», як называлі яе па мянушцы, асуджалі за тое, што яна набралася нахабства і паперла ў райцэнтр бэсціць бацюшку, паўстала як люты вораг іхняй сям'і. «Хочуць – хай не смаляць, хочуць – хай не п'юць. Ніхто сілком цыгарэту ў зубы не ўстаўляе, у горла нікому нічога не лье. Але калі ёсць патрэба ў тым, каб мець курыва ці пляшку, дык нехта ж павінен пра гэта паклапаціцца і пайсці насустрач людзям. Некалі даўно на панскіх броварах спірытус гналі, а яны мелі багатых уладальнікаў, якія пра рэалізацыю свайго прадукту дбалі. У карчме ж не каву папівалі, ды і штодня людзі не толькі малако ды квас ужывалі. Вось яны сёння і гандлююць тым, што заўсёды карысталася і будзе карыстацца попытам», – так разважаў Бабок-старэйшы пасля інцыдэнту пры царкве, маючы веру ў бясхібнасць абранай камерцыйнай дзейнасці. Сваю настаўніцу яго сын Генка цяпер не любіў, успрымаў як зайздроснага і ваяўнічага саветыкуса – чалавека з ружова-чырвонага мінулага. «Годзе слухаць яе прыгожыя песенькі, замшэлыя казачкі і прытарныя байкі. Чаму яна можа навучыць, гэтая сівая галубіца?! Як слаўна віламі г... кідаць?!», – абурана думаў Генка Бабок, ведаючы, што заўтра ці паслязаўтра ён кіне ёй выклік...

Ніна Васільеўна пачала чытаць пісьмовыя працы не адразу, а на заўтра, у суботу, акурат пасля таго, як ухадзілася па гаспадарцы і паснедала. Вырашыла лепш чытаць на свежую галаву. Ды і ведала, што восем сачыненняў прачытаць – гэта не тое, што дваццаць восем ці пяцьдзясят восем, як калісьці раней пры перапоўненых выпускных класах – іх было па два, а ў асобныя гады нават і па тры. Разгарнула першы ж сшытак і, выхапіўшы адзін-адзінюткі сказ вачыма, адразу сумелася, імгненна зразумела, хто гэтак думае і піша. Вялікімі літарамі на ўвесь радок было напісана: «Хачу быць алігархам». Настаўніца, ціха ахнуўшы, хітнула з дакорам галавой. Вось і атрымала адказ – сумленны і адкрыты, няхай сабе нечаканы для яе, але ў духу часу. Як ні круці і ні імкніся вярнуць мінулае, нічога не атрымаецца. Савецкая архаіка з яе культам пралетарска-сялянскай працы сплыла ў нябыт. За апошнія дзесяцігоддзі ўсё стала інакш, па-новаму і мадэрноваму. А які час – такія і норавы ды памкненні. Ніна Васільеўна, былая савецкая настаўніца, на сумным, горкім вопыце ўпэўнілася, што свет стаў іншы, і цяжка яго цяпер ратаваць нават з дапамогай царквы. Яна раптоўна ясна зразумела: асцярожнай трэба быць з выбарам той ці іншай тэмы сачынення, асабліва небяспечна пытацца пра тое, кім ты хочаш быць. Мусіць, лепш вучняў не даймаць непатрэбнымі пытаннямі, бо вельмі хутка ненармальнае зрабілася нармальным, стрыжанае голеным, а відавочнае і прадказальнае – непрадказальным. Зрэшты, у многіх юнакоў і дзяўчат склаліся досыць пэўныя ўяўленні і погляды, у тым ліку і наконт будучага занятку, яны маюць свае мэты і каштоўнасці. Ім хочацца быць такімі крутымі, як тыя алігархі і бізнесоўцы, зайздросны імідж якіх культывуюць па тэлебачанні, у інтэрнэце, на старонках глянцавых часопісаў.

Даруйце за нясціплае, крыху некарэктнае пытанне: а вы часам не хацелі б быць алігархам? А ваш сын? Ці ваша дачка? Безумоўна, я пытаюся ў людзей простых і звычайных, бо ніякі камерсант-багацей ці без пяці хвілін алігарх гэтае апавяданне чытаць ніколі не будзе. Ну і няхай сабе, кожнаму, як кажуць, сваё.

## Хітры кот і яго дачка

Казка гэта ці не казка, прыдумка, мана ці штосьці іншае, хай чытач мяркуе. Толькі тое, што апавядаць буду, чыстая праўда.

Жыў-быў кот, і быў ён гэткі кемны і хітры, як сто папугаяў альбо дзвесце, нават трыста мышэй. Калі б хтосьці параўнаў яго з гэтымі хвастатымі істотамі, то ён моцна загневаўся б, надзьмуўся і не гаварыў бы са сваім крыўдзікам да сканчэння веку. Кот быў не пародзісты, а звычайны вясковы. Аднак лічыў сябе дужа шляхетным і заўсёды меў адмысловы ганарысты выгляд: насіў шыракаполы капялюш і хадзіў у наваксаваных хромавых ботах.

Звалі таго ката Валадзей. Уласна кажучы, ён не валодаў вялікім багаццем, жыў са сваёй жонкай Муркаю ў маленькай хаціне ў вёсцы Вялікія Асцюкі. Ды ўсё ж сякі-такі дастатак ён меў. Самы галоўны яго скарб – пчаліная пасека аж на дваццаць вуллёў. Што і казаць, вялікая гаспадарка. Але ж нехта цікаўны адразу здзівіцца ды запытае: а навошта гэтаму асцюкоўскаму Валадзею пчолы і пчэльнік, калі каты, як вядома, мёд не ядуць, не падкія і не ласыя да салодкага. Рэч у тым, што гэта быў кот не зусім звычайны, бо ён даўным-даўно не лавіў мышэй, быў істотаю разумнай, прагматычнай, з хвацкімі і ўчэпістымі здольнасцямі, якіх так бракуе многім у жыцці. Кот даставаў з вуллёў мёд у сотах і пераганяў яго ў вадка-салодкае цягучае месіва, якое затым разліваў па дубовых і ліпавых бочачках. Потым пчаляр-прадпрымальнік нагружаў гару гэтых бочачак на мікрагрузавік і вёз іх у горад да мядзведзя Міхала Волата-Залескага – суровага і грознага гаспадара цырка, якога баяліся нават львы і тыгры. Валадзей цырк не любіў, а вось Міхал без мёду жыць не мог, з’ядаў яго пад настрой цэлы кадаўбец. Вось хітры кот, павёўшы дружбу з мядзведзем, і карыстаўся гэтай слабасцю начальніка ўсіх звяроў. За бочачку-другую мёду Волат-Залескі мог зрабіць любую ласку. Што тут скажаш, надта шчодры быў гэты мядзведзь, калі знайсці да яго падыход і задобрыць. А любіў Волат-Залескі мёд халяўны ці, як кажуць, на дармаўшчыну. Валадзей не скупіўся, прывозіў яму шчодрую мядовую пачостку, бо цудоўна ведаў даўнюю мудрасць: як падмажаш, так і паедзеш. Кот заўсёды вяртаўся ад Міхала, вырашыўшы абавязкова тое ці іншае пытанне. Валадзей турбаваўся выключна пра сябе і сваіх блізкіх, пільнаваўся ўласных, а не чыіх-небудзь інтарэсаў. Такога гаспадара сямейства на ўсе сто ці дзвесце толькі пашукаць. Руплівы, дбайны, увішны, клапатлівы... Інакш кажучы, выключна цудоўны бацька, не было яму раўні.

Вось і ў чарговы раз, калі кот наведаўся да мядзведзя з ліпавым мёдам, дык пачаў прасіць, каб ён паспрыяў і дапамог. Вочы Міхала загарэліся і лапа засвярбела, калі пабачыў на стале ладны кадобчык мёду.

– Ну што там у цябе, кажы, не цягні! – падганяў Волат-Залескі, гледзячы на ката-пчаляра хітра прымружаным вокам.

– Хачу сваю дачушку адправіць за мора-акіян, у Англію, каб яна свету пабачыла, сярод арыстакратычнай публікі пажыла, патусавалася.

Міхал Волат-Залескі пры сваёй пасадзе лічыўся дужа вялікай шышкай, саліднай і ўплывовай асобай з калматай лапай. У цырку, самым відовішчным месцы, заўсёды быў аншлаг, пры гэтым білеты расхопліваліся імгненна і яны даставаліся шчасліўчыкам, а ўсе начальнікі прагнулі сюды патрапіць са сваімі малымі дзеткамі-пестункамі і пабачыць пацешных малпачак, шпаркіх зебраў, пакорлівых паласатых тыграў ды іншых выдрэсіраваных артыстаў. Хтосьці з гарадскіх тузоў прыходзіў на прагляд цыркавой праграмы з каханкай ці маладой жонкаю. Любілі звярыныя забавы і трукі ваўкі-генералы. З ахвотаю і цікавасцю наведвалі галоўную арэну краіны розныя замежныя госці, якія асабліва весяліліся, цешачыся з тутэйшых блазнаў.

– Дык мне вырашыць тваё пытанне, што лапай паварушыць ці раз плюнуць, – падкрэсліваючы сваю значнасць і магутнасць, з пахвальбою сказаў мядзведзь, ён жа дырэктар цырка. – Адзін мой званок – і паедзе твая дачка ў Англію. Калі што, дык яшчэ і прынцэсаю стане. Во як! Абы каб вёрткай была і тамтэйшага брытанскага ката ўпалявала.

– О, мая дачка кемная і спрытная! Яна свайго не ўпусціць, —упэўнена, не без гонару прамяўкаў бацька-кот.

Валадзей імчаў на сваім грузавічку дамоў акрылены, радасны і шчаслівы. А як жа! Збудзецца яго бацькоўская мара: іх з Муркаю дачушка будзе вучыцца за мяжой і жыцьме не ў нейкай задрыпанай вёсцы, а ў вялікім і слаўным на ўвесь свет каралеўстве.

Бацькі звалі сваю дачку Лізка або яшчэ інакш, але таксама ласкава і замілавана: Лізок, Лізачка. «Бацькава пястушка», – называла яе маці Мурка. Адзіная дачка выхоўвалася ў сям'і адпаведна. Асабліва старанна рыхтаваў яе да жыцця і непакоіўся пра будучы лёс сваёй крывіначкі бацька-кот. Валадзей з самага маленства не пускаў Лізку гуляць абы з кім і абы-дзе. Калі тая падгадавалася, пасталела і стала прыгожай маладою коткаю, ён яшчэ больш пачаў хвалявацца за сваё вялікае дзіця, пільна сачыць за кожным крокам дачкі. Аберагаў і сцярог яе, не пускаў нікуды з хаты, прымушаў сядзець і чытаць кніжкі. Бо, крый божа, возьме ды закахаецца ў беднага вясковага бязбацькавіча ці, яшчэ горш, зблытаецца з якім-небудзь рыжым буянам, то тады пішы прапала – усе свае бацькоўскія мары і спадзяванні можна забыць. А яшчэ старыя памаўзлівыя кавалеры пры хаце шнырацы, а іх вакол процьма, як калючак на дзядоўніку, пажадліва яўкаюць і на спатканне клічуць, таму тут вока ды вока патрэбна, бо не змеціш, як псоту і ганьбу гэтыя аблезлыя лавеласы ўчыняць. Валадзей настойліва навучаў дачку, як трымаць і паводзіць сябе, няспынна ўбіваў у маленькую галоўку з белымі вушкамі, што гэтыя валачашчыя каты-вяскоўцы ёй не раўня, што трэба ведаць сабе цану і шукаць выгадную партыю – жаніха пародзістага і багатага. А лепш за ўсё раіў ехаць у замежжа і там браць шлюб з сіямскім прынцам альбо персідскім шэйхам. Тады, маўляў, можна жыць мурлыкаючы і катаючыся як сыр у масле. Бацькоўскія ўрокі пайшлі на карысць юнай Лізе: тая з цягам часу ва ўсім слухала тату ды маму, больш нават у той бок не глядзела, дзе прачула спявалі пад гітару маладыя вясковыя каты.

Праўда, раней ёй адзін аднагодак усё ж падабаўся, яна нават з ім забіралася на вішню ў белай квецені. Пухнаты пярэсцік Марык так вуркатаў салодкія песенькі і пяшчотна лашчыўся, што Лізка ледзь не страціла галаву. Аднак пасля ён нечакана зрабіў ёй непрыстойную прапанову, і маладзенькая

котка-красуня фыркнула, пакрыўдзілася на Марыка і ўцякла дамоў. І што тут пачало рабіцца! Яе нядаўні галантны кавалер так апанаваў Лізку, што рады цяжка было даць. Марык пачаў падпільноўваць котку, драпацца і тузаць яе за хвосцік. Яна, спуджаная, давала лататы, а ён, раззлаваны, даганяў і хацеў дамагчыся свайго. «Усе яны такія», – гневалася пра сябе абураная Лізка. Яна раз і назаўсёды вырашыла больш ніколі не сустракацца з гэтым прыгожым вясковым нахабнікам і такім, як ён, дон-жуанамі, якім толькі і трэба, каб адабраць яе дзявочую годнасць.

І яна пачала марыць пра заморскага элегантнага прынца, выключна пра брытанскага. Дужа хацелася быць прынцэсай, а ў перспектыве – каралевай. Лізка пачала са слоўнікамі вывучаць англійскую мову. Цяпер нават на пытанні бацькоў яна адказвала коратка: «Ес!» або «Ноў!», часта карысталася слоўцамі «Хэлоў!», «Пліз!», «Окей!», «Гудбай!». Займеўшы размоўнік «Вучымся па-англійску», які па яе просьбе набыў і прывёз з горада бацька, Лізка свяцілася ад радасці. Маючы выключна добрую памяць, вывучыла яго на памяць ад першай да апошняй староначкі. Яна ўжо няблага спікала-гаварыла па-англійску, хоць, напэўна, у плане вымаўлення яшчэ было далёка да дасканаласці. Галоўнае, Лізка-красунечка цудоўна запомніла тры чароўныя словы «Ай лайв ю», якія, як мроілася ёй, абавязкова некалі спатрэбяцца падчас рамантычнай сустрэчы з катом-замежнікам.

– О Англія, Англія! – радасна падскочыла Лізка і, ляпаючы ў мяккія ладкі, пабегла насустрач бацьку, які адразу ж, яшчэ на парозе хаты, абвясціў гучным урачыстым голасам, што іх доня-дачушка паедзе за мяжу, у слаўнае каралеўства – Вялікабрытанію. Лізка кінулася бацьку на шыю, расцалавала мілага-дарагога татульку і заплакала ад шчасця. Змахнула слязу радасці і матуля Мурка. Цяпер Валадзей хадзіў па Вялікіх Асцюках, выглядаючы на самага вялікага пана: важна падкручваў вусы, чапурыўся і насіў хвост кандзібоберам.

Валадзеева дачка трапіла ў горад сваёй мары, у горад-казку. Яна цэлымі днямі гуляла па ім, штодня падыходзіла да Букінгемскага палаца, падоўгу разглядала даўнія будынкі з вежамі, розныя бізнес-цэнтры ды найноўшыя дзівы архітэктуры. Ад усёй гэтай экзотыкі ў асцюкоўскай котачкі кружылася галава, яна не магла нацешыцца самой магчымасцю сузіраць частку старога еўрапейскага свету. Лізка пачала вучыцца ў Вышэйшай школе мадэльнага бізнесу і атрымліваць адпаведную адукацыю. Аднак вучоба вучобай, а хацелася большага: яна прагнула прыгарнуць таго самага брытанскага прынца са сваёй мроі і стаць на яве зоркай-дыяментам першай велічыні, бляск якой сягне аж да яе далёкай правінцыі і аслепіць да самай вялікай зайздрасці ўсіх асцюкоўцаў. Перш Лізка спрабавала засвяціцца на подыуме ў якасці ўдзельніцы конкурсу прыгажосці «Міс Еўропа». Але, на вялікае засмучэнне, у фінал не прайшла. Яе зацьмілі сваім хараством брытанскія, ангорскія, сібірскія і іншыя пародзістыя коткі-гёрл. Аднак Валадзеева дачка ведала сабе цану і не здавалася, чакала і шукала любога зручнага моманту, каб пазнаёміцца з элітным катом і завалодаць яго сэрцам.

Аднаго разу Лізка шпацыравала па горадзе. Раптам яна схамянулася, калі ўбачыла пры вялікай спартовай арэне шыкоўныя аўто і як з іх вылазяць тлустыя чорныя каты – пэўна што мільянеры і мільярдэры. Лізка пільна ўзіралася, глядзела на іх, як галодны на кавалак хлеба. Цікаўная маладзенькая котка заўважыла, як на бліскучым чорным лімузіне пад'ехала

гуллівая кампанія вусатых заўзятараў, і сярод іх яна пазнала маладую асобу з каралеўскага сямейства. За гэтым брытанцам Лізка гатова была бегчы стрымгалоў, зрабіць любы ўчынак – толькі б ён кінуў на яе адзіны позірк, заўважыў яе прывабныя формы. І тады яна вырашыла, што трэба дзейнічаць неадкладна і хутка. Высветлілася, што да футбольнага матча застаецца менш чым паўгадзіны. Па мабільным тэлефоне Ліза адразу набрала бацьку, Валадзей у сваю чаргу імгненна звязаўся з цыркавым дырэктарам Волатам-Залескім, а мядзведзь Міхал праз хвіліну-другую затэлефанаваў у Лондан кату-лорду Мурлыковічу, свайму даўняму партнёру па бізнес-праектах, каб той арганізаваў дачцэ яго закадычнага сябра наведванне футбольнага матча і каб яе месца было на ложы з маладою каралеўскаю асобай. Дзесьці праз дваццаць хвілін Лізка мела квіток-запрашальнік, які вынес ёй і аддаў перад самым уваходам вяльможны, тоўсты кот у белым гарнітуры. Яна, радасная і шчаслівая, прайшла на тэрыторыю, прылеглую да стадыёна, і яшчэ праз нейкі час, перад самым пачаткам футбольнага паядынку, эфектна прысела ў ложы побач з маладзенькім брытанцам, распушыла хвост і ціхенька мяўкнула. Каб дзе ў іншым месцы, то прыгажун наўрад ці заўважыў бы гэтую правінцыйную котку, якая выдавала сябе няйначай за свецкую львіцу. Падчас матча яны ўжо перакідваліся слоўцамі, а пад яго фінал саноўны кот замурлыкаў і прашаптаў гэтак жа нахабна, як і некалі вясковы кот Марык, можа нават больш беспардонна: «Мяў-мур! Мяў-мур! Пагуляем у лямур!». Магчыма, Ліза і тут паказала б свае кіпцюрыкі, але перад ёю быў не абы-хто, а прадстаўнік брытанскай эліты, каралеўскі спадкаемец. Яна стрымала свой ганарліва-непрыступны характар, каб не ўзбрыкнуць, толькі лёгенька ўсміхнулася. «Ой, як цудоўненька! Вы ж, мабыць, жартаўнічок-балаўнічок!» – быццам саромеючыся, усклікнула яна. І потым гулліва, какетліва затараторыла: «З вашых салодзенькіх вуснаў слоўцы, як мядок. Я, нібы пчолка, гатова на іх ляцець, зумкаць ад шчасця». Мядок Лізка згадала, бо ласавалася ім з дзяцінства, ды і больш за ўсё ў бацькоўскай хаціне гаварылі пра пчолак, іх ношку, салодкія соты. Расфуфыраны брытанскі кот мала што зразумеў, нават і не спрабаваў дапяць, пра што яна гамоніць. Бо добра ведаў: на яе месцы сёння марыла б быць любая падданая каралеўства і кожная котка свету. Яе трапяткое мурлыканне ён успрымаў як прыкмету добраахвотнай згоды на ўзаемную блізкасць. Вось што значыць самаўпэўнены пародзісты самец! Лізка мроіла і спадзявалася, што ўсё гэта між ёю і ім адбудзецца ў шыкоўных казачных апартаментах, неяк рамантычна і прыгожа. Атрымалася інакш – бесцырымонна і груба, хоць і ў чорным доўгім, нібы труна, лімузіне. Ні заляцанняў, ні доўгіх страсных пацалункаў, ні шчырых прызнанняў яна не дачакалася. «Ніякага кайфу», – як кажуць тыя, хто ведае цымус і толк у каханні. А наогул Лізку чакала яшчэ большае расчараванне: брытанец блакітнай крыві пакарыстаўся ёю і не пажадаў надалей ніякіх тэлефанаванняў, сустрэч, стасункаў. «Бывай, бэбі», – сказаў ён, самазадаволена ўхмыльнуўшыся, на развітанне. Вось так у Валадзеевай дачкі надарыўся аблом ці канфуз у вялікіх амбіцыях на тое, каб быць пры каралеўскім двары. Паглумленая і пакінутая, яна засталася з носам. А яшчэ ж нядаўна, седзячы ў ложы з прынцам, ёй соладка мроіліся нізкія паклоны і вітанні: «Ваша вялікасць!».

Наплакалася Лізка, наперажывалася, ды бядзе слязьмі не дапаможаш. Яна адчувала сорам і прыкрасць, аднак неяк усё-такі не заняпала духам,

не здалася ў палон неспрыяльным абставінам. Накінулася на кніжкі і пачала апантана вучыцца, набірацца розуму, як наладзіць бізнес, зарабляць грошы, як самой стаць багатай. Яшчэ, праўда, надарыўся адзін шчаслівы выпадак і зноў з'явілася надзея на ўдалы шлюб, які прынясе свой плён і дывідэнды. На адной з вечарынак у лонданскай мадэльнай школе яна пазнаёмілася з прыгожым джэнтльменам пра імені Харыс, хоць па пашпарце ён быў Рам. Ён пахваляўся, што яго бацька, які жыве ў Індыі, вядзе будаўнічы бізнес і мае сетку вялікіх крам. Лізка глядзела ў вялікія, бы́ццам бліскучыя медзякі, вочы чорнага бамбейскага ката і шчыра верыла ў яго вуркатлівыя песенькі-абяцанкі. Аднак, як толькі выскачыла замуж за гэтага гаваруна, дык адразу прыляцела страшная вестка: бацька раптоўна памёр, а яго бізнес захапілі хітрыя і ўчэпістыя кампаньёны. Харыс-Рам клікаў яе разам паехаць у Бамбей, жыць там і распачынаць сваю справу. Ды Лізка, Валадзеева дачка, на такую прапанову адказала катэгарычнаю нязгодай. Яна разважыла, што калі ўжо не скарылася Англія, то індыйскі кантынент, былая брытанская калонія, ёй патрэбны, як пятая лапа. Нават у Асцюках апошнія каты-няўдачнікі яе на смех падымуць. Трэба дбаць пра прэстыж, імідж, гучны піяр – вось мэта, якая займала разумную катову дачку.

Яна вырашыла, што неабходна ехаць назад на радзіму і тут ствараць штосьці сваё – вялікае, значнае і перспектыўнае. Яна хутка вымеркавала, як і што будзе рабіць. Вярнулася Валадзеева дачка поўная грандыёзных планаў і задум. І называлася яна цяпер не Лізка ці Лізок, а доктар Луіза, выпускніца Лонданскай вышэйшай школы мадэльнага бізнесу. Ды і чорны Рам глядзеўся поруч з ёю элегантна і прэзентабельна, як дадатак да яе прэстыжнага дыплома. І яе дакумент аб адукацыі, і муж-замежнік дадавалі маладой котачцы асаблівага гонару. Прыналежнасць да знатнай пародзістасці праз шлюб абуджала пачуццё значнасці і ўпэўненасці ў сабе, абранасці і нават выключнасці. А яшчэ Луіза мела спадзеў, што тут, у сябе дома, дапамогуць бацькавы сувязі. Яна памятала: яго мёд – вялікая, магутная сіла, якая горы можа зрушыць.

Горы ёй, аднак, былі не патрэбны, а ўсяго вялікі будынак у цэнтры горада. І Луіза дзякуючы спрыянню Міхала Волата-Залескага хутка займела яго. Затым па пратэкцыі гэтага ж бацькавага дабрадзея, які быў свой у дошку ў сістэме гарадской улады, пачала сустракацца з высокімі чыноўнікамі, каб атрымаць ліцэнзію на ўласную бізнес-дзейнасць. Перш яна мела аўдыенцыю з Драпкіным-Лапкіным, намеснікам Вышэйшага камітэта па поп-культуры і турызму. Пузаценькі каратканогі кот важна сядзеў у мяккім скураным крэсле і меў выгляд тытана думкі і стратэга па распрацоўцы буйных аперацый. Драпкін-Лапкін быў па адукацыі ветэрынарам, але цяпер курыраваў усю культуру, хай сабе і масавую. Дакладней, ён адказваў за розныя шоу, фестывалі і іншыя пампезныя відовішчы. Вось да яго ў кабінет і завітала Луіза са сваёй праблемай. Таўстун адразу ўпадабаў пухнатыя шчочкі і вішнёвыя вусны коткі. Гаспадар кабінета галантна пацалаваў маленькую лапку бізнес-ледзі, запрасіў яе прысесці.

– Вітаю вас, пані Луіза, – прамовіў ён. – Слухаю ўважліва.

– У мяне, ваша ягамосць, – кажа тая, – вялікі грандыёзны бізнес-план у сферы поп-культуры.

– Так-так, – робячы зацікаўлены выраз твару, пастукаў мяккай лапкаю па стале вопытны бюракрат-камітэтчык.

– Памятаеце цудоўныя словы: хараство выратуе свет?! – спытала Луі-

за і, не чакаючы адказу, працягвала: – Дык вось хараство трэба шукаць, гадаваць і аберагаць. Я наважылася адкрыць першы «Інстытут красы і моды». І таму вельмі-вельмі спадзяюся на вашу падтрымку.

– О, гэта амбітны праект! Варта падумаць, параіцца, – пачаў разважаць па-чыноўніцку Драпкін-Лапкін. – Мы абавязкова вывучым гэтае пытанне і прымем рашэнне. Але ж я адзін не правамоцны выносіць вердыкт. Апошняе слова за галавой камітэта. Трэба крышку пачакаць – і я вам асабіста патэлефаную.

– О’кей! Час церпіць, – сказала яна і паднялася з крэсла: – А пакуль на гэтым дзякую вам, шчыра дзякую, – і Луіза як быццам неўпрыкмет для яго, хоць той адразу гэта заўважыў, паклала на стол пакецік, напакаваны зялёнымі лісткамі доларавых банкнотаў.

Развіталіся яны так цёпла, што ледзь не цалаваліся і не абдымаліся. Чыноўніку-кату дужа хацелася парушыць далікатнасць і хоць крышачку аблапаць Луізу, аднак ён быў пры выкананні службовых абавязкаў і меў усё ж вытрымку.

Насамрэч усё вырашаў ён, Драпкін-Лапкін, а не старшыня камітэта Афанасій, які, між іншым, не цярпеў. Калі тутэйшыя каты называлі яго Апанас. Гэты кот быў па-свойму няшчасны: пішчаў-верашчаў тоненькім галаском, дробненька цырабіў лапкамі, быццам кагосьці ўвесь час баяўся. Па адной версіі, яго гвалтоўна кастрыравалі, а таму выглядаў нейкім млявым, нерашучым, бяздзейсным. Па іншай, Афанасій належаў да пароды рускіх блакітных катоў, калісьці па волі лёсу дабраўся-прыблудзіў сюды, у невядомы яму край, застаўся тут і даслужыўся да вялікага начальніка. Піхалі яго наверх, кажуць, такія ж блакітныя, як ён, толькі не па колеры, а па аднаполым каханні да сабе падобных. Афанасій з падачы шэрага кардынала Драпкіна-Лапкіна даў дабро на адкрыццё ўстановы новага тыпу.

Інстытут красы і моды ўрачыста адчыніў дзверы па восені, акурат тады, калі скончыўся еўрарамонт у атрыманым будынку і ён набыў вабнае аблічча як усярэдзіне, так і звонку. Расцяжка з жоўтага палатна запрашала-клікала: «Хараство для цябе». Папулярнасць інстытута была шалёнай, і тут Луіза нікольі не пралічылася, інтуіцыя яе не падвяла, а спрацавала бездакорна, проста фенаменальна. Не было адбою ад тых, хто хацеў бы праявіць сябе на подыуме, стаць мадэлькаю ці міс якога-небудзь конкурсу прыгажосці. Напачатку надараліся дні, што дзверы інстытута маладыя коткі бралі штурмам. Луізе давялося стварыць спецыяльную ахову з грозных бульдогаў, якія пільна сачылі за парадкам. А, галоўнае, грошы самі цяклі ў лапы бізнес-кэт, яна багацела, як верабей у сытую восень. Луіза не спынялася на дасягнутым, пашырала свой мадэльны бізнес, дбала пра буйныя барышы. Яна арганізавала папулярны фэст «Эра моды». Нечакана ў яе з’явілася магчымасць мецъ дужа вялікія ганарары. Адкрылася гэтая залатая жыла, калі яна павезла маладзенькіх котак-мадэляў на заходнія модныя паказы. Там да красунь з яе інстытута з’явілася павышаная цікавасць з боку багатых катоў-бізнесоўцаў, банкіраў і алігархаў. Тыя ішлі да Луізы з шыкоўнымі букетамі, шчодрымі дарамі і ледзь не кленчылі, просячы задаволіць іх жаданні для любоўных уцех. Хоць такія эскорт-паслугі не прадугледжвала статутная дзейнасць яе ўстановы, але яна іх наладзіла. Самі котачкі, як высветлілася, былі не супраць такіх блізкіх адносінаў і з ахвотай пагаджаліся на інтымныя сустрэчы з таўстасумамі і крутымі бізнесоўцамі. Даведаўшыся пра салідныя дадатковыя заробкі і магчымасць нават

выйсці замуж за якога-небудзь багатага каханка, іншыя коткі прасіліся ў замежжа, аж пішчалі і енчылі. Луіза везла жывы тавар і прывозіла за яго цэлыя пачкі грошай. Пазней яна не брала наяўнымі, а прасіла пералічыць тую ці іншую суму на электронную картку. Ёй, аднак, было гэтага мала, і яна далей разгортвала сваю бурную дзейнасць.

Пры інстытуце Луіза стварыла Школу юных мадэляў, куды кінуліся-рынуліся запісваць сваіх дзетак заможныя і забяспечаныя бацькі. У групы набіралі некалькі дзясяткаў котак падлеткавага ўзросту. Найчасцей матулі за лапку вялі сваіх прыгожанькіх і цудоўных дзетак для навучання з разлікам на іх будучую паспяховую мадэльную кар’еру. А за гэтыя ўрокі фінансаў прыбаўлялася. Апетыт Луізы як рэктара інстытута і дырэктара школы мацнеў і разгараўся. Яна не грэбавала нічым, што тычылася прыбытку. Новых ідэй і прапаноў нараджалася ўсё болей і болей. Луіза пачала выдаваць масавую газету з выкрайкай для котак «Модніца», для крутых катоў першы глянцавы часопіс «Макс». Яна стала аўтарам і вядучай папулярнай тэлевізійнай праграмы «Мода і стыль: твой выбар». У гэтым шоу здымаліся вядомыя акцёры і акцёркі, мастакі і мастачкі, дызайнеры вопраткі, спартсмены, нават палітыкі. Кожны штосьці дэманстраваў: то квяцістую кашулю, то яркі кідкі гальштук, то вязаную шапачку, то белыя панчошкі... Луіза, заканадаўца стандартаў моды і красы, круцілася, што вавёрка ў коле, не магла знайсці вольнай хвіліны. Яе справа ператварылася ў вялікую бізнес-імперыю. Яна адчувала сябе сапраўднай імператрыцай у сваёй краіне, хай не такой славутай, як Англія, але ўсё ж прыналежнай да еўрапейскага кантыненту. Цяпер Луіза была як ніколі жаданай для многіх, але яна навучылася хітрыць і прапаноўваць замест сябе іншых, больш маладзейшых і зграбненькіх паненак. Яна цудоўна ведала прыроду катоў-самцоў і чаго ім найперш трэба, а таму беспамылкова адгадвала іх густы і запатрабаванні. Асабістае жыццё, аднак, не цешыла: яе Харыс-Рам растлусцеў, як напханая торба, наеў вусатую морду і выглядаў на непаваротлівага тоўстага кабанчыка. Мадэльная ледзі марыла пра сваіх маленькіх кацянятак, якія чамусьці не нараджаліся, бо яна не магла зацяжараць.

Урэшце надышоў той момант, калі Луіза прыехала на новенькім шыкоўным джыпе ў свае Вялікія Асцюкі. Напярэдадні Валадзей з гонарам выхваляўся, што да іх з Муркаю прыедзе дачка. Казаў нібы пра з’яўленне вялікага цуду тутэйшаму люду. Модную славутасць збегліся пабачыць ледзь не ўсе асцюкоўцы. Мясцовыя каты і коткі ўпершыню пабачылі такое крутое аўто, зачараванымі вачыма глядзелі на Валадзееву дачку ў багатым футры мармуровага колеру. Калі з джыпа вылазіў, ледзьве дыхаючы, яе таўстаморды муж, нехта з хуліганістых падлеткаў, не стрымліваючы пагарды ды агіды, прабурчэў: «Ну і кацяра, блін!». Але ўсе больш захапляліся катовай дачкой, не раўнуючы, як каралеўнай.

– От, красуня! Царэўна на ўсё сяло! – казала ў гурце адна са старых асцюкоўскіх котак.

– Аўжош-анягож, пэўне што! – падтакнула другая.

– Але ж і ладная ды зграбная, як рысь! – мовіла трэцяя.

– А поўсць блішчыць, ільсніцца! – усклікнула яшчэ адна цікаўная котка.

Воклічаў у той дзень хапала. Слухаючы іх, багатая катова дачка цешыла сваё самалюбства, радавалася, што вось так трыумфальна вярнулася дахаты.

Калі соладка засынала на сваім ложку, то ўпершыню за доўгія гады яна ўбачыла лёгкі сон, мроюː грэецца яна на бялюткай вішаньцы, а пад дрэўцам пяшчотна мурлыкае серэнаду закаханы кот Марык. Ён грае і спявае пра сваё разбітае сэрца, якое шчыміць і пакутуе. А затым Марык-гарэза бяжыць за ёю, прыгожанькаю Лізкай, імчыць стралой і не можа дагнаць...

Раніцой да Валадзеевай хаціны нечакана пад'ехала машына з сіняю будкай, аднак не тая, што возіць пошту ці хлеб, а з кратамі на малюсенечкіх акенцах. Гожую і разумную катову дачку міліцэйскія аўчаркі вывелі закутую ў кайданкі і павезлі ў астрог-каталажку, каб яна сядзела там, у няволі, са злачынцамі. Валадзей ад раптоўнай бяды-крыўды заплакаў, Мурка загаласіла, і маладзенькі каток, беленькі лабок, што на ровары ехаў на рыбалку, спудзіўся, наляцеўшы на злосны сабачы брэх. Залямантавала і завіскатала бедная Луіза, як у плоце парася.

Вось і казачка ўся.



# Найлепшае месца на Зямлі

***Пераклады пераможцаў конкурсу “Эксlібрыс”***

*6 жніўня, у дзень 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, былі абвешчаныя вынікі штогадовага літаратурнага конкурсу «Экслібрыс», арганізаванага Саюзам беларускіх пісьменнікаў і прысвечанага мастацкаму перакладу на беларускую мову. Пераможцамі сталі пяць маладых літаратараў.*

*У склад журы конкурсу ўвайшлі:* ***Ірына Багдановіч, Лявон Баршчэўскі, Зміцер Колас, Уладзімір Папковіч, Алена Пятровіч, Андрэй Хадановіч, Ганна Янкута.***

*Першае месца атрымала* ***Іаанна Владыка*** *за пераклад «Найлепшага месца на Зямлі»* ***Тэрэсы Тышыньскай****.*

*Другое месца:* ***Алесь Емяльянаў-Шыловіч*** *за падборку перакладаў з англійскай і польскай моваў.*

*Трэцяе месца:* ***Сяргей Матырка*** *за пераклад «Вялікага Гэтсбі»* ***Ф. Скота Фіцджэральда****.*

*Прызёрамі конкурсу сталі таксама* ***Надзея Квасняк*** *за пераклады вершаў* ***Юльяна Тувіма*** *і* ***Яўгенія Лабоха*** *за пераклад* ***Сакі (Гектара Х’ю Манро)****.*

*Рэдакцыя «Дзеяслова» шчыра віншуе пераможцаў і зычыць ім новых творчых поспехаў на ніве перакладу!*

## Іаанна ВЛАДЫКА

### Тэрэса ТЫШЫНЬСКА

### Найлепшае месца на Зямлі

***Ад перакладчыка***

*У маленства не можа вярнуцца ніхто. Можна хіба толькі наведаць край свайго маленства, спрабуючы адшукаць мінулыя хвіліны шчасця сярод пошуму пастарэлых дрэў, бясед ссівелых кабет, водару зарослых рачулак і рэштак закінутых хат.*

*Тэрэса Тышыньска была пазбаўленая і гэтага. Другая сусветная вайна падзяліла яе жыццё не толькі ў часе, але і ў прасторы, пакінуўшы яе дзіцячы рай па той бок польска-савецкай мяжы.*

*Спачатку прыехаць было небяспечна, потым – балюча, а пасля ўжо і позна. Сядзіба Тышыньскіх, перададзеная некалі асірацелай сям'і прапрадзеда Тэрэсы яго сябрам, Міхалам Клеафасам Агінскім, пратрывала ў вёсцы Мясата да 2000 года. А потым сельсавет дачакаўся грошай на рамонт і знёс будынак.*

*Сёння прозвішча Тышыньскіх не на слыху ў Беларусі, хоць у Нацыянальным мастацкім музеі і выстаўлены "Сямейны партрэт Тышыньскіх" І. Аляшкевіча, а ў краязнаўчым музеі г. Маладзечна сям'і прысвечаны ладны фрагмент экспазіцыі. Тышыньскія апякалі Мясату больш за стагоддзе. Гісторыкі, археолагі, літаратары, Тышыньскія збіралі ў сябе ў гасцях лепшых людзей свайго часу, былі захопленымі краязнаўцамі, размаўлялі па-беларуску, ладзілі пачатковыя школкі, дапамагалі вясковым дзецям "выбіцца ў людзі", былі фундатарамі царквы ў Мясаце і касцёла ў Красным.*

*Натуральныя на мінскай Кальварыі, пахаванні Тышыньскіх у Красным і Радашковічах выбіваюцца з "польскіх" вясковых могілак як напамін пра зніклую ў крывавых патопах XX стагоддзя шляхецкую Атлантыду.*

*Апошняя носьбітка прозвішча, Тэрэса Тышыньска памерла 24 студзеня 2011 года. Яе пахавалі ў Варшаве на Вайсковых могілках – побач з сястрой Марыёлай, замучанай пасля Варшаўскага паўстання фашыстамі. Да апошніх дзён пані Тэрэса вярталася думкамі ў даваенную Мясату, "найлепшае месца на Зямлі". Яе поўныя болю і любові ўспаміны – гэта пошукі страчанага раю маленства, дзе яны з сястрой яшчэ неразлучныя і шчаслівыя на вакацыях у поўнай казак, прыгод і таямніц старасвецкай сядзібе "на Крэсах".*

*Нягледзячы на відочную мастацкую і гістарычную вартасць успамінаў, паводле жадання аўтаркі гэтыя тэксты ніколі раней не публікаваліся ў арыгінале. Гэты пераклад, дазволены пляменніцамі пані Тэрэсы, – першая спроба аднавіць як літаратурную, так і гістарычную справядлівасць на зямлі, якую так шанавалі Тышыньскія.*

## Божае Нараджэнне

Свята – толькі ў Мясаце, мы не маглі ўявіць сабе Божага Нараджэння ні ў якім іншым месцы. Калі ў нашай варшаўскай кватэры пачыналі з'яўляцца маленькія пакуначкі з падарункамі і розныя таямнічыя пакеты, да якіх нам нельга было дакранацца, мы пачыналі лічыць дні да ад'езду. Гэтага свята мы чакалі цэлы год.

"Мы" – гэта сёстры Марыёла і Рэня. Мы былі рознымі як па характары, так і па выгляду. Старэйшая за мяне амаль на два гады Марыёла была выключна прыгожай: высокая, зграбная, з далікатнымі рысамі твару, вялікімі чорнымі вачыма, яе густыя валасы маці заплятала ў дзве тоўстыя касы да пояса.

Дзіцём Марыёла была спакойным, сур'ёзным, сістэматычным і акуратным. З самых першых класаў Марыёла вельмі добра вучылася, старанна выконвала хатнія заданні, а яе сшыткі былі спісаныя прыгожым чытэльным почыркам.

Імя Марыёла бацькі ўтварылі з двух імён, якія ёй далі пры хрышчэнні – Марыя і Юлія. На тыя часы гэта было рэдкае імя. Мне было крыўдна, калі пасля вайны Марыёла стала ледзь не сінонімам позы і прэтэнзіі.

Я – Рэня (скарочана ад Тэрэзы) – была маленькага росту, выгляду дужа сярэдняга, валасы зачэсвалі ў "конскі хвост" – танюткі ды кароткі. Дзіцём я была дужа жвавым і імпэтным, лёгка запалялася гневам, але хутка і астывала. У маіх рэчах ніколі не было парадку, усё мной рабілася хуценька, подбегам. Вучылася я вельмі добра, хаця хатніх заданняў не рабіла, сшыткі мае былі мятымі, а почырк – неахайным.

Такімі рознымі былі мы самі, але ўсё астатняе ў нас было агульным. Пра сябе казалі "мы", "наша", і рэдка – "маё", "тваё". У нас былі агульныя сабака і чарапаха, агульныя сяброўкі і гульні. Маці апранала нас у аднолькавыя сукенкі, плашчы і туфлікі.

Да Першай Камуніі мы пайшлі разам. Хаця Марыёла і вучылася спачатку на

клас вышэй, з-за ваенных нягод школу мы заканчвалі разам на падпольных курсах, а потым разам здавалі выпускныя экзамены ў Варшаве.

Пасля выпуску мы адчулі сябе дарослымі і вырашылі, што цяпер наш абавязак – уступіць у Армію Краёву. Мы разам прайшлі вайсковую падрыхтоўку і разам прынялі прысягу. Памятаю, як у той дзень я цішком ад усіх праплакала цэлы вечар – дагэтуль не ведаю, чаму. Вышкаленая, цяпер сапраўдная салдатка Арміі Краёвай – і плача! Нават Марыёла пра гэта не ведала, зрэшты, з таго дня мы не мелі права нічога адна пра адну ведаць.

Быць можа, тыя слёзы былі ад завялікага для маіх сямнаццаці год пачуцця адказнасці. А можа, гэта было прадчуваннем, якое спраўдзілася праз два гады цёмным вераснёвым вечарам у палаючай Варшаве, сярод грукату змагання.

Тады за мной прыйшла адна з нашых сувязных, каб вывесці мяне праз падземны ход у сутарэннях, уздоўж барыкад, да брамы. Там я зразумела, што ўжо ніколі больш не змагу сказаць “мы”.

Але я збіралася напісаць, як мы шчасліва святкавалі ў дзяцінстве Божае Нараджэнне – таму да гэтых успамінаў і вярнуся.

Да Вільні мы ехалі хуткім цягнікам, які адпраўляўся апоўдні, а прыбываў каля адзінаццатай вечара. Мы ладкаваліся ў купэ, і падарожжа пачыналася з чытання правіл паводзінаў пасажыраў у цягніку.

На калідоры віселі шыльды з надпісам “Не пляваць, не забруджваць вагон”. Марыёла тады шаптала мне на вуха: “Чаму ты забруджваеш цэлы вагон?”, на што я адказвала ёй: “А ты чаму плюешся?”, і мы доўга смяяліся – тады ўсё было смешным.

Каля вокнаў былі шыльды з надпісамі “Не высоўвацца” па-польску і па-італьянску (ужо забылася, як было па-італьянску). Была таксама інструкцыя, як заставацца ў бяспецы –“inpericoloso”. Але самай цікавай была шыльда з надпісам “Пад пагрозай судовай адказнасці забараняецца перавозіць у цягніку едкія, пахкія і лёгкаўзгаральныя рэчывы”. Мы задумваліся, ці ёсць у нас такія рэчывы. Лёгкаўзгаральным рэчывам была звычайна я, якая лёгка запальвалася гневам, едкім рэчывам – Марыёла, якая шмат ела ў цягніку, а вось з пахучымі было ўжо складаней.

Летам нам здавалася, што гэта пасавала б нашай сучцы Норы, якую мы бралі з сабой на вакацыі. Зімою гэта магла быць рыба, якую вязлі да поснай куцці закручанай у паперу і клалі да мёрзлага вакна вагона.

У падарожжы час мінаў хутка. Мама выцягвала тэрмас і бутэрброды – перад тым, як есці, яна мыла нам рукі хустачкай, змочанай у адэкалоне. Татка ўхутваўся ў паліто і неяк умеў заснуць, занурыўшыся у самы вугал купэ. Цягнік прыпыняўся толькі ў Беластоку і ў Гродне.

Зімою праезд праз тунэль паблізу Вільні нас не захапляў, бо вокны і так былі замкнёныя і вакол было цёмна. У Вільні трэба было перасаджвацца ў пасажырскі цягнік, які спыняўся на кожнай станцыі. Лакаматыў пыхкаў, свістаў, выпускаў клубы пары і дыму, вагоны калыхаліся і рыпелі. Станцыі былі слаба асветленыя. Праз дрымоту мы чулі, як начальнікі станцый выгуквалі іх назвы, якія штораз станавіліся ўсё больш любымі і знаёмымі: “Аш-мяны, Аш-мяны!”, “Смар-гонь, Смар-гонь!”

Нарэшце, было Маладзечна, дзе састаў дзялілі. Асноўная яго частка ехала далей на Вілейку, а наша – на Аляхновічы. Вагоны перацягвалі на новы пуць доўга, гучна, са штурханнем, калі лакаматыў чаплялі з іншага боку. Калі цягнік кранаўся, можна было падумаць, што мы вяртаемся ў Вільню, а насамрэч мы ехалі да Краснага над Ушой.

Тут нашае цярпенне заканчвалася. Мы дыхалі на замёрзлыя шыбы, каб яны хоць крыху адталі і мы маглі ўбачыць мясоцкі лес. Ноччу праз пакрытыя ільдом шыбы відаць было мала, але нам здавалася, што мы разглядзелі дрэвы, і былі шчаслівыя.

У Красным на станцыі нас чакаў фурман Трахім, а перад будынкам стаялі нашы санкі. Мы віталі Трахіма і беглі да коней, якія чакалі нас касматыя, аб’інелыя, са званочкамі на шыях. Пакуль ладавалі багаж, бацькі ўхутвалі нас у агромністыя

кажухі, у якіх было немагчыма рухацца. Трахім браў нас на рукі і саджаў у санкі, дзе яшчэ прыкрываў фартухам з барановай скуры.

Коні рушылі, званочкі звінелі, мы ехалі праз пустое ўначы мястэчка, потым – праз мост над Ушой, і далей яшчэ кіламетраў пяць пасярод лесу. Дарогай быў напалеонаўскі тракт, які вёў з Вільні да Мінска[1], – шырокі, абсаджаны чатырма радамі бяроз. Тых дрэў з кожным разам усё менела: яны былі ўжо дужа старымі і ламаліся ад бур і вятроў. Едучы праз лес, мы выглядвалі ў ім воўчыя вочы – у нашым уяўленні іх павінна было быць там шмат. Лес заканчваўся, каля крыжа мы паварочвалі направа і па дарожцы, таксама абсаджанай бярозамі, прыязджалі да драўлянай брамы, а за брамай быў наш дом.

На ганку нас вітала пакаёўка Зінаіда з газнічкай, а за ёй – цёця Манюся і яе верныя сабакі Жук і Веста. Мы хутка выбіраліся, як з коканаў, са сваіх кажухоў і падалі ў цётчыны абдымкі. А там – радасць сустрэчы, смех і пацалункі пад брэх і віскат сабак. Дом быў не такі, як летам: частка пакояў была замкнёная, і іх не ацяплялі. Жыццё скупчалася ў сталовай з вялікім сталом і самаварам каля праходу на кухню. Уздоўж сцен стаялі буфеты і дадатковы столік, у вуглу стаяла белая кафляная печ.

Вялікай залай зімою не карысталіся, вокны там не адчынялі – тут была кладоўка, каралеўства цёці Манюсі. Пасля нашых настойлівых просьбаў і маленняў дзверы на хвілю адчыняліся – і нас ахутваў пах свежага хлеба, печыва, рулетаў, разнастайных прысмакаў і прыпраў. На паліцах пад белым палатном ляжала святочная выпечка. Нам здавалася, што яе аж замнога, а прысмакаў павінна было хапіць і для дамашніх да свята Трох Каралёў, і для дзяцей з фальварка, бо штогод ладзілася свята пры хваінцы для хлапчукоў з вёскі, якія прыходзілі з зоркай і віншаваннямі; а яшчэ і для гасцей. Адзін, хіба што апошні, рулет, мы забіралі з сабой у Варшаву – быў ён ужо крыху чэрствы, але, як святочны ўспамін, смаку быў найлепшага.

На Куццю мы прыбіралі хваінку, якая пахла свежай ігліцай і сягала ажно да столі. Мама сама чапляла свечкі так, каб ад іх не запаліліся каляровыя ланцужкі. Зіна пад цётчыным прыглядам збірала на стол, дзе пад бялюткім абрусам ляжала сянцо, а каля талерак – яловыя галінкі. Пасярэдзіне стала пакідалі месца на абразок са Святой Сям'ёй у стаенцы. Вігілійную вячэру пачыналі з малітвы, пасля якой дзяліліся аплаткай з усімі дамашнімі, са служкамі, віншавалі адно аднаго – не забывалі і пра сабак.

Потым з-пад зіхатлівай хваінкі кожны атрымліваў па пакунку з падарункам. Для нас былі прывезеныя з Варшавы шакаладныя жывёлы ад Ведэля[2] – цэлы набор птушачак, коцікаў, зайчыкаў, жабак і іншых жывёл. Гэта былі прыгожыя вырабы – пасля вайны такога ў крамах было ўжо не знайсці.

Для цёткі Манюсі тата прывозіў які-небудзь адмысловы, шыкоўны падарунак, каторы не пасаваў яе сціпламу характару. Гэта магла быць французская парфума, ці пекны шаль з шатландскай воўны – драбніцы іншага, замежнага свету, далёкага ад цёці, якая па ўласнай ахвоце згадзілася на самотнае жыццё ў Мясаце. Мне здаецца, гэтымі падарункамі татусь хацеў выказаць ёй сваю ўдзячнасць, сказаць, што ён цэніць і заўважае яе жаноцкасць, схаваную за шэрай штодзённасцю. Пан Дмоўскі, эканом, наадварот, заўсёды атрымліваў нешта практычнае – гальштук ці кашулю. Малыя сувеніры даставаліся Зіне і кухарцы Маньцы, а таксама Костусю, які паліў у печы і разграбаў жар доўгай качаргой.

Нарэшце ўсе сядалі за стол: цёця Манюся – на пачэсным месцы, па баках ад яе – бацькі, потым мы, пан Дмоўскі, потым памагаты цёці па гаспадарцы (гэтая асоба

---

[1] Віленскі тракт, у 1979 каля вёскі Мясата быў устаноўлены помнік дарозе.

[2] "Ведэль" (Wedel) – знакамітая польская кандытарская марка, вядомая з 1851 г.; названая паводле прозвішча заснавальніка, праіснавала як сямейная справа да нацыяналізацыі вытворчасці ў 1949 г.; сёння марка выкарыстоўваецца замежнымі ўладальнікамі. Адзін з сімвалаў эканамічных і сацыяльных поспехаў міжваеннай Польшчы.

часта мянялася), ляжалі прыборы і для нечаканага госця. Зіна прыносіла на паўміску традыцыйныя стравы. Цёця слаба чула, таму бацькі гучна і выразна распавядалі ёй навіны пра крэўных і блізкіх з Варшавы. Пакуль елі, мы часта нахіляліся, нібыта каб падняць з падлогі хустачкі, а на самой справе мы кармілі пад сталом Жука.

Пасля вячэры мы разам станавіліся пад хваінку і пачыналі калядаваць. Марыёла спявала моцным прыгожым голасам, а мой голас быў больш слабым і ціхім у дуэце – і так, а капэла, мы спявалі ўсе калядкі, што толькі ведалі, а ведалі мы іх шмат. Часам, для разнастайнасці, мы змянялі некаторыя словы, напрыклад, "з радасці анёлы пад нябёсы скачуць"[1] – і падскоквалі з паднятымі ўгару рукамі. Было вельмі весела, мама пачынала дырыжыраваць, і ўсе далучаліся да спеваў.

Спявалі бацькі, цёця, пан Дмоўскі, кухарка Манька, і спявалі доўга. Зіна падкручвала кнот у газнічцы, каб яна не курэла. І было як на небе – з анёламі, пастухамі, Марыяй, малым Дзіцяткам, старым Юзафам, а таксама птушкамі і жывёламі, бо "на Божае Нараджэнне радасць усяму стварэнню"[2]. Якой жа асаблівай была святочная атмасфера ў нашай поўнай любові сям'і, у доме на Крэсах[3], які патануў у снезе і зімовай цішы, калі Бог сапраўды нараджаўся ў нашых сэрцах...

*(Свята Божага Нараджэння, Варшава, 1998 г.)*

## Цёця Манюся

Цёцю Манюсю я памятаю жанчынай нізкага росту, заўсёды старанна, хоць і пастарасвецку апранутай, з зашпіленым пад шыю каўнерыкам і чорнымі чаравікамі на нагах. Цёця была суровай да сябе, але паблажлівай і справядлівай да іншых, вельмі набожнай. Не раз мы чулі ад яе: "Калі добрага ёсць расказаць пра другіх, то лезь на дах і крычы, а як злога – то маўчы". Яшчэ маладой цёця аглухла з-за таго, што ўжывала шмат хініну (тады ім лячылі ангіну і грып), з-за чаго шмат пакутавала ў жыцці і стала яшчэ больш сарамлівай, чым была ад прыроды.

Цёця не выйшла замуж і многія гады дапамагала сваёй прыгожай, але часта хворай сястры Наталлі, маёй бабулі, гадаваць дзяцей: старэйшых Тэрэню і Талюся разам з малодшым Леонкам, маім бацькам, які, падобна, у маленстве быў нязносным.

Усё сваё жыццё цёця прысвяціла сям'і. Пасля Першай сусветнай вайны яна пасялілася ў Мясаце, дзе ўсё было зруйнавана, спустошана і раскрадзена: не было ні мэблі, ні начыння, ні хоць якога інвентару.

Мой бацька, якому дзядзька перадаў у спадчыну Мясату, прасіў цёцю, каб яна засталася ў зруйнаваным маёнтку і прыглядала за заняпалай гаспадаркай, з якой сям'я ўжо не магла сябе пракарміць. І ў 1920 годзе, пасля ўдзелу ў вайне з бальшавікамі, мой бацька застаўся ў войску, а ўсе свае зберажэнні штогод перадаваў на адраджэнне маёнтка.

Цёця так больш ні разу не выехала з Мясаты, хоць яе і запрашалі ў Варшаву, да сям'і. Сваімі маленькімі рукамі яна руліла цэлай гаспадаркай: была адначасова міністрам фінансаў, гаспадаркі і кіравання, і, хоць і мела памагатых, яна ўсе даглядала сама.

З дзяцінства ў маёй памяці захавалася маленькая постаць цёці, калі з раніцы яна ішла за садовую браму да аборы, каб сачыць за даеннем кароў: у руках яна трымала газнічку, а недалёка, на паважнай дыстанцыі ад яе, штодзень крочыў наш руды кот.

Пад кіраўніцтвам цёці Манюсі сядзіба паднялася з заняпаду. Дом стаў месцам летняга адпачынку для ўсёй сям'і і яе шматлікіх гасцей.

Мая маці не раз казала, што Пан Бог ведае, калі лепей забраць да сябе чалавека.

---

[1] Па-польску: "aniołowie się radują, pod niebiosy podskakują".
[2] З польскай калядкі "W Dzień Bożego Narodzenia radość wszystkiego stworzenia".
[3] "Крэсы Всходне".

Гэтыя словы добра пасуюць да цёці, якая памерла летам 1938 года, у поўным радні сямейным доме. Так добрага чалавека абышлі перажыванні, якія пачаліся 17 верасня наступнага года, калі Мясата была страчаная назаўсёды.

*(Свята Божага Нараджэння, Варшава, 1998 г.)*

## Вялікдзень

"Алелуйя, алелуйя! Вясёлы дзень для нас настаў!"[1]

Радасным і чаканым быў для нас Вялікдзень. Перад ім быў доўгі перыяд Вялікага Посту і Вялікі Тыдзень, які мы праводзілі ў Мясаце, у паважнай і суровай атмасферы святочных прыгатаванняў.

Згодна з даўняй традыцыяй нашых прабабак, ад Вялікага Панядзелка абавязковым было трымаць пост. На стол не ставілася ні мяса, ні вяндліны, ні ласункаў, стравы амаль не прыпраўлялі, а гатавалі іх пераважна з бульбы і гародніны: аладкі, клёцкі, бульбу ў лупінах, розныя кашы і гэтак далей. Толькі дзецям падавалі малочныя супы, а цёця Манюся "сушылася" – спажывала толькі хлеб, а ў Вялікую Пятніцу не ела нічога.

Мясоцкі дом быў ужо ўпарадкаваны, падлогі былі навошчаныя, а вокны і дзверы – вымытыя. На Вялікі Тыдзень прыпадалі толькі кулінарныя працы – гатаванне і выпечка.

Каб прыгатаваць вяндліны, з Краснага прыязджаў адмысловец, якога мы называлі "Кілбаснікам". Сваю працу ён рабіў за домам, на пляцоўцы каля дрывотні. Туды ставілі вялікі стол, а на зямлю каля яго – місы з вепруковым мясам і розныя прыправы ў гаршках. Тое, што там адбывалася пасля, нагадвала нам пекла, а Кілбасніку не хапала толькі рагоў і хваста. Вялікім бліскучым нажом ён кроіў і сек мяса, напаўняў ім кішкі і рабіў з гэтага шынкі і балероны, якія вывешваў над тлеючым вогнішчам з ядлоўца. Яго памагатым быў высокі і худы хлапец, які падскокваў з секачом у руках. "Гэта вучань чарнакніжніка", – вырашыла мая сястра Марыёла.

За прыгатаваннем вяндлін мы назіралі здалёк – ад ядлаўцовага дыму ў нас слязіліся вочы. Мы глядзелі і думалі пра пекла і душы грэшнікаў, якія смажацца там ў агні.

Вяндліны цікавілі кухарку Маньку і пакаёўку Зіну, якім звычайна даставалася па колцу кілбасы. Вэнджаная грудзінка была для Трахіма і Міхаліны, жонкі нашага вартаўніка.

Ужо гатовыя, духмяныя вяндліны заносілі ў лядоўню – нізкае драўлянае збудаванне пад ценем высокіх дрэў. Лядоўня складалася з двух замыканых сенцаў і памяшкання з глыбокім мураваным склепам. Зімой дно склепа запаўнялася пластамі лёду, які прыносілі са става. Пласты чаргавалі з яловымі галінамі, а зверху накрывалі дошкамі.

Тэмпература ў лядоўні была вельмі нізкай, і нават у летнюю спёку там можна было захоўваць вяндліны і іншыя прадукты, нарыхтаваныя на цэлы сезон. Такімі лядоўнямі, напэўна, і карысталіся нашыя прабабкі ў XIX стагоддзі.

У доме перад святамі працягваліся прыгатаванні, у якіх нам абавязкова хацелася паўдзельнічаць. Цёця Манюся з мамай рыхтавалі пірагі, велікодныя бабкі, мазуркі. Лушчылі арэхі і міндаль, рыхтавалі цукровыя глазуры, адціскалі клінковы сыр з сухафруктамі і гэтак далей. На нашыя настойлівыя просьбы нам дазвалялі абіраць бронзавыя лупіны з пражанага міндаля. Праца гэтая была лёгкай, бяспечнай, пакалечыцца мы не маглі, а калі і бралі крыху да рота таго міндалю, мама рабіла выгляд, што не заўважыла.

---

[1] З польскага Велікоднага спеву "Wesoły nam dziś dzień nastał".

Цёця Манюся клала на стол стары пажоўклы сшытак з рэцэптамі – напэўна, яшчэ нашай прабабкі. Гартала спісаныя роўным, старанным почыркам старонкі, нешта самой сабе мармытала пад нос, нібыта пералічваючы і параўноўваючы.

Аднойчы Марыёла прачытала ў забытым цёцяй сшытку фрагмент рэцэпта каралеўскай мазуркі: “...Узбіваць сорак жаўткоў з цукрам, пакуль не надакучыць”. Мы задумаліся: як можна вызначыць, калі табе ўжо надакучыла ўзбіваць жаўткі: ці ты пачынаеш пазяхаць, ці засынаць, ці табе проста лянота? Мы спыталіся пра гэта ў мамы, але так ад яе нічога і не пачулі.

Водар прысмакаў быў такім прывабным, што пальцы самі цягнуліся да місы з глазурай ці арэхавай масай, каб іх пакаштаваць. Аднойчы цёця Манюся заўважыла гэта і сказала, што мы ласухі – і гэта на Вялікім Тыдні! Пасля гэтай заўвагі, прысаромленыя, мы вярнуліся ў наш пакойчык, прыхапіўшы з сабой Жука. Сабачка таксама любіў паласавацца, круціўся пад нагамі і перашкаджаў працаваць. Нам здавалася, што нашу дапамогу недаацанілі.

Аднак наша доля ненадоўга шчаслівела, калі напрыканцы Вялікага Тыдня ў Мясату прыязджаў наш бацька, які звычайна прысвячаў нам шмат часу са свайго кароткага святочнага водпуску. Жук вельмі любіў бацьку і, напэўна, таксама яго чакаў: памятаў, што гэта ён прывёз яго маленькім шчанюком з Варшавы для цёці Манюсі.

Тады, за доўгае падарожжа цягніком, Жук высмактаў і вылізаў кавалак бацькавай кашулі, які, урэшце, і з’еў. Гэтая вандроўка стала пачаткам самай вялікай любові і прыхільнасці, на якую толькі здольны сабака ў адносінах да чалавека.

Жук мусіў быць пародзістай таксай, але сярод яго прашчураў, відаць, меў месца мезальянс, і ён вырас праз меру. Ён вырас большы, чым трэба, а мы разважалі, што і розуму, і кемлівасці ў яго таксама павінна быць больш, чым у іншых, звычайных такс.

Прыезд бацькі быў радасцю для нас і для сабакі, які не адыходзіў ад яго ні на крок. Разам з бацькам мы ішлі да аборы, каб паглядзець на маленькіх прыгожых цялят, і да стайні, дзе стаялі нашыя ўлюбёныя коні. Вялікай радасцю быў вясновы шпацыр у лес, па брусьнічныя галінкі для аздобы велікоднага стала.

Дарога ішла праз поле, паўз рэштак цагельні, разбуранай падчас Першай сусветнай вайны. Цагельню ні адбудоўвалі, ні разбіралі: засталіся кавалак печы, дзе абпальвалі цэглу, драматычна разбураны комін і павець без даху. Навокал усё зарасло травой, якую ніхто не касіў, ляжаў засыпаны кар’ер і груды крохкай, бітай цэглы.

Летам у руінах спыняліся вандроўныя цыганы, якія прыязджалі на крытых будамі вазах, каб праз пару дзён знікнуць гэтак жа раптоўна, як і з’явіліся. Мясцовыя цыган не любілі. “Гэта злодзеі і канакрады! – казала Зіна. – Яшчэ чараў навядуць!” У Мясаце, аднак, цыганы ніколі нічога не кралі – можа, таму, што шанавалі месца, дзе ім дазвалялі пераначаваць, кабетам давалі малако для дзяцей і хлеб, а коні маглі напасвіцца на пустэчы каля руін.

Рэшткі цагельні цікавілі і вабілі нас сваёй таямніцай мінучасці і разбурэння. Бацька распавядаў нам, што з мясоцкай цэглы збудавалі касцёл у Красным, а цяпер у кар’ерах стаялі лужыны, крумкалі жабы, ляталі матылі, а ў небе спявалі жаўрукі.

Блізка ад цагельні было відаць цёмную сцяну лесу, які называлі “вялікім”. Лес быў стары, змешаны: там раслі высокія хвоіны, яліны, белыя бярозы, квітнела ляшчына, а пад нагамі ўгінаўся мяккі дыван з зялёнага моху. Усё вакол гучала: рохкала, стукала, шапацела, свістала. Усе гукі былі крыху прыглушанымі, яшчэ нясмелымі, быццам вялікі лясны аркестр ладзіў свае інструменты перад выступам.

У паветры лунаў тонкі водар жывіцы, пупышак, што пукаліся на дрэвах, кары і вільготнай зямлі. У голлі пырхалі птушкі, скакалі вавёркі, а з-пад ног уцякаў заяц. У такім лесе мы адчувалі сябе як ў казцы, якую нам распавядала наша нянечка Ганна.

Бацька вучыў нас шанаваць прыроду. Мы асцярожна, каб не пашкодзіць карэнне, ламалі брусьнічныя галінкі, лашчылі касматую сон-траву і блакітныя пралескі. Не

баяліся мы і што наш паслухмяны Жук напужае і пагоніць зайца. Вельмі шкада было нам развітвацца з лесам і вяртацца дадому.

У Вялікую суботу святочныя прыгатаванні былі ўжо скончаныя. На накрыты белым абрусам стол ставілі свежаспечаны хлеб, бабкі, мазуркі, розныя вяндліны, шынкі, паўміску з каляровымі яйкамі і іншыя прысмакі. Аздобай стала былі прынесеныя з лесу бліскучыя зялёныя галінкі брусніц і белы цукровы баранчык з чырвоным сцяжком.

Вечарам па традыцыі прыязджаў пробашч з Краснага, каб пасвянцаць усе стравы на стале. Ксяндза праводзілі ў сталовую, дзе, у прысутнасці ўсёй сям'і, ён чытаў малітвы, выцягваў вялікае крапідла і апырскваў увесь велікодны стол асвечанай вадой. Ксёндз вельмі спяшаўся, бо мусіў завітаць і да іншых сем'яў, але заставаўся з намі на хвілінку, каб паразмаўляць і прамовіць павіншаванні. Ён зычліва звяртаўся да нас, задаваў нам некалькі пытанняў, а мы прыгожа рабілі на развітанне рэveранс і цалавалі яму руку. Апрануты ксёндз быў у доўгую чорную сутану, зашпіленую на малыя, абшытыя тканінай гузічкі. Мы любілі неўпрыкмет лічыць тыя гузікі – першай заўсёды была Марыёла, якая спяшалася прашаптаць мне на вуха: “Шэсцьдзясят чатыры!” Напэўна, столькі іх і было, хаця я заўсёды налічвала іх меней.

На Вялікдзень уся сям'я ехала на золку ў Краснае на рэзурэкцыйнае набажэнства. Калі ўрачыстая працэсія выходзіла з касцёла, аркестр КАПа[1] іграў на вялікіх латунных трубах, бубен біў у такт са званамі, раздаваўся трыумфальны, магутны людскі спеў: “Алелуйя, алелуйя!” Мы ішлі трымаючыся за рукі, адразу за балдахінам і за ксяндзом. Нас ахутвала асаблівая чароўнасць той святочнай вясновай раніцы. Спяваючы з усімі “...пякельну нетру зваяваў, усіх злачынцаў пакараў... ”[2], я была ўпэўненая, што вось зараз запануе вясна, сонца, і ўсе пажаданні, якія мы будзем казаць за святочным сталом, абавязкова споўняцца.

Радасныя, мы вярталіся дадому. Перад сняданкам мама брала ў рукі талерку са свянцонымі яйкамі, ужо раздзеленымі на ўсіх, і, звяртаючыся па чарзе да дамашніх, пачынала казаць святочныя пажаданні. Потым усе абдымаліся, цалаваліся, а мы з нецярпеннем пазіралі на шчодра застаўлены стол – бо на свята ўжо быць ласым можна.

Мы памяталі, што ўсе стравы былі свянцонымі, а ў нашым разуменні – святымі. Пасля сняданку мы з ненатуральнай стараннасцю збіралі ўсе крошкі, каб яны не трапілі да смецця, і заносілі іх на двор да качак і кур.

Наступны тыдзень быў поўны візітаў і адведзін, у доме заўсёды быў рух і шмат гасцей. Прыязджалі суседзі: сям'я Свідовых з Граніч, сям'я Куроўсцых са Свечак, афіцэры КАПу з Краснага і гасцінныя Макавецкія. Апошніх мы асабліва любілі, і разам з бацькамі і цёцяй Манюсяй мы заўсёды ездзілі да іх па запрашэнні на смачны абед.

Макавецкія былі людзьмі старых шляхецкіх манераў. Страціўшы маёнтак, яны жылі ў Красным, у драўляным доме каля чыгуначнай станцыі, дзе пан Макавецкі служыў раней начальнікам. На маёй памяці ў доме жыла ўжо ўдава Макавецкая і тры яе дачкі: Ханя, Хэля і Кася. Маладыя паненкі былі настаўніцамі, часта прыязджалі да нас у Мясату, былі вясёлымі і мілымі, добра ўмелі размаўляць з дзецьмі.

Атмасфера ў красненскім доме Макавецкіх была асаблівай, старасвецкай. Пакоі былі поўнымі старой мэблі, абразкоў, фотаздымкаў, дыванкоў, сурвэтак, розных драбніц – сапраўдны запаведнік XIX стагоддзя. Такога бракавала ў мясоцкім доме, дзе ўсе інтэр'еры былі знішчаныя і разрабаваныя за Першай сусветнай вайной.

Макавецкія пражылі ў Красным ажно да канца Другой сусветнай вайны, і прыехалі ў Варшаву як рэпатрыянты, здаецца, у 1947 годзе. Нашыя сем'і працягвалі

[1] КАП – Корпус Аховы Памежжа (польск. K.O.P. – Korpus Ochrony Pogranicza) – адмысловае фармаванне польскага войска, створанае ў 1924 г. для стрымання дзейнасці бальшавікоў, кантрабандыстаў, шпіёнаў і інш. нелегалаў на тагачасных усходніх межах Польшчы.

[2] Са спеву “Wesoły nam dziś dzień nastał” (у перакладзе – “Вясёлы дзень для нас настаў”).

сустракацца і падтрымлівалі жывую сувязь. На жаль, час не быў літасцівым ні да маёй сям'і, ні да маіх сяброў.

Урэшце, толькі я і мая стрыечная сястра Ядзя, якія яшчэ памяталі мясоцкія і красненскія часы, разам наведваліся да гасціннай і сардэчнай Хэлі Вардзыньскай, у дзявоцтве Макавецкай.

Я пішу пра Макавецкіх, бо, згадваючы маленства, а асабліва Вялікдзень, заўсёды вяртаюся ў думках да іх "крэсовага" дома і чую іх галасы: "Вітаем, вітаем..."

## Старая вазоўня

У Варшаве шэрая, поўная слаты і дажджу зіма, а мне сняцца даўнія часы, якія захаваліся ў памяці, як на фотаплёнцы. Вяртаюся ў думках да лета, сонца, крышталёва чыстага паветра і раю майго далёкага дзяцінства.

За "малым дамком" – жылым флігелем – стаяла старая драўляная вазоўня, заўсёды замкнёная на вялікі жалезны замок. Часам Трахім, наш фурман, адчыняў вароты вазоўні, сядаў на пяньку перад будынкам і браўся правіць і чысціць вупраж. Як жа прыемна было тады зазірнуць ўнутр змрочнай, поўнай таямніц вазоўні! Нашым неразлучным таварышам быў стрыечны брат Коця, сын наймалодшай з маміных сясцёр. З левага боку, пад сцяной, стаяла калымага, ззаду ў якой, на багажным месцы, стаяў куфар, а верх быў складзены. Транспарт гэты за нашай памяццю ніколі не ўжываўся і стаяў, нібы забыты, крыху схілены набок. Коця некалі па-мужчынску растлумачыў нам, што ў павозкі зламаная рысора, але для нас, дзяўчат, гэта была карэта, якая магла адвесці нас у казачны свет. Мы залазілі праз высокую прыступку ўнутр і ўладкоўваліся на мяккім сядзенні як дамы. Коця забіраўся на высокія козлы, і нам здавалася, што мы адпраўляемся ў далёкае падарожжа. З абодвух бакоў козлаў віселі ліхтары – Коця сказаў, што імі пужалі ваўкоў – і ваўкі захапілі нашае ўяўленне. Нам здавалася, што за карэтай гоніцца цэлая зграя згаладнелых ваўкоў, у якіх свяціліся вочы, а з расчапераных пашчаў вывешваліся вялікія чырвоныя языкі. Здавалася, што ваўкі ўжо недалёка, усё бліжэй і бліжэй да нас, і мы крычалі, абдымаліся, адбіваліся, тупалі нагамі і скакалі, і ўжо самі пачыналі верыць у свой страх. На козлах Коця падганяў коней – цмокаў, прыкрыкваў на іх. Калі гульня ў ваўкоў зацягвалася, у варотах паказваўся вусаты і барадаты твар Трахіма, які глядзеў на нас з дакорам.

Крыху прысаромленыя, мы выскоквалі з карэты, страсалі з сябе пыл і рухаліся за паласой святла далей, углыб будынка. У заднюю сцяну ўпіраліся палоззем добра знаёмыя нам санкі, на якіх мы ездзілі ўзімку. Санкі здаваліся большымі з-за таго, што на іх не было фартуха з барановай скуры. Стаялі там і яшчэ адны санкі, на якіх мы не ездзілі, – яны былі значна даўжэйшыя, цёмныя, быццам падсмаленыя.

– Гэта на іх, напэўна, дзядзька Людвік ездзіць з сябрамі на паляванне, – адзначыла Марыёла.

Дзядзька Людвік, муж старэйшай бацькавай сястры, уяўляўся нам страшным, дэманічным чалавекам. Ён быў поўнай процілегласцю ціхай, лагоднай, заўсёды ўсмешлівай цёці Тэрэні, якую любіў бацька і якую любілі мы. Цёця штогод прыязджала з дачкой Марысяй у Мясату на вакацыі; дзядзька прыязджаў зімой, калі дом быў пусты. З пачутых урыўкаў размоў, асобных рэплік, справаздач і перашэптаў служак нашая дзіцячая фантазія складала цэлыя карціны дзядзькавых паляўнічых прыгод і забаў. Мы не маглі дараваць яму, што ён страляў і мардаваў са сваімі сябрукамі нашых улюбёных зайцаў, безабаронных курапатак і іншую зверыну. Хутка, з жахам, мы міналі гэтыя санкі, на якіх маглі паляваць.

На сценах на вялікіх драўляных кольцах вісеў вупраж, званочкі, лейцы і іншыя неабходныя для запрагання рэчы. З правага боку стаяла рэдка ўжываная, так званая "лінейка" – аднаконны вазок, які складаўся з доўгай лаўкі на рысорах, з падпоркамі

для ног, на якім пасажыры маглі сядзець радком з абодвух бакоў. Бацька гэтую "лінейку" любіў, але арэапаг нашых цётак асудзіў гэты транспартны сродак як асабліва небяспечны, з якога на выбоістай дарозе можна лёгка зваліцца і, натуральна, пераламаць сабе косці. Таму на лінейцы толькі зрэдзь часу падарожнічалі практыканты, якіх дасылалі летам у Мясату з геадэзічных і сельскагаспадарчых школ.

У глыбіні вазоўні стаяла двуконная брычка – брыдкая, як на наш погляд, але пакоўная. Летам, калі было шмат гасцей, іх везлі некалькімі вазкамі ў горад і да касцёла. Мы любілі аднаконную брычку, у каторай коней запрагалі пад драўлянай дугой, такой характэрнай для Крэсаў. Бліжэй да парога стаяла двуконная брычка, якой карысталіся часцей, бо яна мела буду ад дажджу і лавачку, на якой мы, спінай да коней, ехалі да касцёла. Прызнацца, сядзець на той лавачцы мы не любілі, бо не было відаць ні коней, ні дарогі, а перад носам былі толькі калені старэйшых, якім сядзець было зручна, як на канапе. Шчасцем было ехаць на козлах збоку ад Трахіма, які час ад часу, калі дарога была прамою, даваў патрымаць лейцы. Правіць парай коней было даволі прывабнай штукай, таму мы забіраліся на козлы, трымаючыся ўстаноўленай чаргі.

Калі наш візіт у вазоўню падыходзіў да канца, Трахім змазваў вупраж нейкай смярдзючай маззю і, пагойдваючыся, напяваў розныя цікавыя мелодыі. Спачатку павольна, рытмічна: "блін, блін, блін", потым ужо шыбчэй: "паўбліна, паўбліна, паўбліна", і, нарэшце, з пачуццем і адкрыта: "Поп Іван, пападдзя Малання, пападдзя Малання". "Так у царкве звоняць", – тлумачыў ён і спяваў далей. Нам гэта вельмі падабалася, асабліва таму, што нагадвала пра смачныя бліны, якія пякла кухарка Манька ў вялікай хлебнай печы. Бліны з грубай мукі, намазаныя маслам, палітыя белай смятанкай – смаката!

Звонкая бліновая мелодыя лёгка запаміналася, але была занадта кароткай для нашых спеваў. Мы любілі спяваць, пакуль бавіліся са шчанюкамі Весты на ганку дома. З абодвух бакоў ганка стаялі драўляныя лаўкі са спінкамі. У самым сонечным месцы, каля калонаў, летам стаяў вялікі алеандр у ружовай квецені – гордасць цёці Манюсі. Шчанюкі Весты няўклюдна вылазілі з кошыка і паўзлі вывучаць свет, пішчэць і пакідаць мокрыя плямкі на падлозе. Веста ляжала, пільна назіраючы за малымі, і толькі час ад часу падымалася, каб іх палізаць. Калі шчанюкі адпаўзалі задалёка, мы прыносілі іх назад да кошыка, паказаўшы Весце. Тая прымружвала вочы, у каторых на сонцы блішчэлі залатыя агеньчыкі. Яна давярала нам, была шчаслівай і пацвярджала гэта зычлівымі рухамі касматага хваста.

Веста была мяшанкай дзікага ваўка і сабакі. Яе маці знайшлі кінутай у лесе салдаты КАПа. Ваўчаня прызвычаілася да людзей і стала талісманам батальёна. Дачку гэтай ваўчыцы, малую Весту, падаравалі цёці Манюсі афіцэры КАПа, з якімі яна была ў добрых стасунках. Веста была вельмі лагоднага характару, хаця яе выгляд – густая шэрая поўсць і амаль ваўчыная постаць – жахаў людзей. Веста бездакорна гулялася з дзецьмі, і арэапаг цётак ніколі не паўставаў супраць гэтых забаў. Нашае сяброўства было ў меру дазволеным. Весту ніколі не бралі на шпацыр, каб праз ваўчынае паходжанне яна не кінулася на быдла ці коней на пашы. Аднойчы яна ўсё-ткі здолела вырвацца за намі, і тое, што адбылося тады, на маіх вачах, засталося ў памяці назаўсёды.

Веста ціха падкралася да мірнага статка кароў на пашы і рынулася ў атаку. Перапуджаныя каровы кінуліся ўцякаць, збіліся ў кучу – у паветры пырхалі хвасты, цяжка было разабраць, дзе рагатыя галовы кароў, дзе іх ногі з цвёрдымі капытамі, дзе Веста. Мы баяліся падысці і толькі нема крычалі. Нарэшце Веста вярнулася, скулячы, з пабітай і параненай пысай. У роспачы, мы з плачам вялі Весту дадому, ухапіўшыся за яе густыя космы і абяцаючы, што такое больш ніколі не паўторыцца. З таго часу, калі мы выходзілі за браму, а Веста бегла за намі, мы спыняліся і голасна загадвалі: "Веста, дадому!" І яна разумела нас. З падціснутым хвастом, схіленай долу пысай і складзенымі вушамі Веста ледзь не паўзла дадому. Час ад часу яна азіралася ў надзеі, што мы яе паклічам – але мы непарушна стаялі, паказваючы пальцам на ганак.

– Веста, дадому! – загадваў і Коця.

Каля ганка Веста заканчвала ламаць сваю камедыю – адчуўшы, што выканала наш загад, яна падымалася па прыступках ўжо са звычайна выпрастаным хвастом і сядала каля калонаў. Добрая старая Веста – успаміны пра яе саграваюць мяне і цяпер. Колькі разоў, прытуліўшыся да яе шорсткай поўсці, я слухала, як білася яе воўча-сабачае сэрца, і адчувала дотык яе вільготнага языка на шчацэ!

Але вернемся да бліноў. Аднаго разу, бавячыся са шчанюкамі на ганку, Марыёла звонка спявала: “Блін, блін!”, я хуценька далучалася да яе пісклівым голасам – “Паўбліна!”, а Коця, пагойдваючыся, тонка заводзіў па-хлапечы: “Поп Іван – пападдзя Меланння!” Тут на ганак выйшла цёця Манюся ў паласатым фартушку, са звязкай бразготкіх ключоў каля пояса, спынілася, прыслухаўшыся, і спытала, што мы спяваем. Мы пачалі тлумачыць, што гэтаму спеву нас навучыў Трахім, што падобнымі прыгожымі гукамі звоняць у царкве. Цёця пагадзілася, што званы, ці то ў царкве, ці то ў касцёле, усе славяць Пана Бога, але з гэтага жартаваць нельга – бо грэх.

– Не засмучайце маму, – казала нам цёця адыходзячы, ужо лагадней. – Сюды ўсе прыязджаюць каб адпачыць, ляжаць на траве, шпацыраваць, а вашая маці заўсёды за працай.

Так скончылася нашае “блінаванне”, бо нам не хацелася грашыць і засмучаць маму, якая, напэўна, так ніколі пра гэта і не даведалася. На Трахіма мы нейкі час пазіралі з недаверам, як на грэшніка.

Калі, аднак, нашая брычка з вялікім грукатам кацілася па брукаванай каменнем выбоістай вуліцы Краснага, і мы праязджалі паўз белыя сцены царквы, Марыёла мне па-змоўніцку падміргвала. Тады мы разам адкрывалі рот, нібы спяваючы: “Блін, блін, паўбліна!” – бязгучна, каб ніхто не пачуў, уяўляючы сабе смачныя бліны – то, напэўна, быў не грэх.

## Буня

Калі летам у Мясату прыходзіла паштоўка з Варшавы з кароткім тэкстам “Буня едзе”, у доме надыходзіў час радаснага чакання. Для яе рыхтаваўся пакой, у вокнах вешалі чыстыя фіранкі, а ў дзень прыезду мы прыносілі цэлыя ахапкі кветак, якія ставілі да яе ложка.

Буня была радасцю, усмешкай нашых вакацый. У Мясату яна прыязджала ненадоўга, на месяц ці на пару тыдняў, але гэтыя дні заўсёды пакідалі цёплыя і любыя сэрцу ўспаміны.

Буня – маці нашай мамы. У маладосці яна мусіла быць вельмі прыгожай: у яе былі вялікія цёмныя вочы, правільныя рысы твару і доўгія густыя валасы. Апраналася яна па-старасвецку, сціпла, але вельмі старанна. Хадзіла лёгкім крокам, з выпрастанай спінай, заўсёды радасная, і яе аптымізм перадаваўся кожнаму, хто быў побач.

Жыццё яе лёгкім не было – Буня рана аўдавела і адна выхоўвала шасцёра дзяцей, а то быў час рэвалюцый і войнаў.

Буня была вельмі набожнай. Памятаю, як у Мясаце яна штодзень выпраўлялася на самотны шпацыр далёка ў поле, дзе малілася і спявала, славячы Бога. Хадзіла яна заўсёды адна, каб ніхто ёй не перашкаджаў. Толькі час ад часу, а было гэта вельмі рэдка, дзеці маглі скласці ёй кампанію. Буня была апранутая ў доўгую светлую спадніцу, белую блузу з рукавамі, на галаве ў яе быў белы плецены капялюш з палямі. Калі яна ішла па палявой дарозе сярод высокага збожжа, можна было ўявіць сабе, што гэта вандруе багіня палёў, чарадзейка з казкі. Яе звонкі, высокі голас зліваўся з жаўруковымі спевамі, гудзеннем дзікіх пчол і цвыркуноў і іншымі гукамі летняй раніцы. Буня спявала “гадзінкі”[1], і іх змест, звязаны са Старым Запаветам, не заўсёды

[1] Гадзінкі – малітвы, якія адгаворваюць у пэўныя гадзіны дня.

быў нам зразумелы. Кожная частка заканчвалася аднолькавым воклічам “Будзь нам, Маці міласэрна, вернай дапамогай, барані нас ад спакус і шатана злога”[1]. Злы шатан тады таіўся яшчэ далёка ад нас, таму мы смела крочылі крыху воддаль – вядома, у таварыстве Коці, а каля ног, прынюхваючыся, бег Жук. Са збожжа цяжка выпырхвала чарада курапатак, каб тут жа прызямліцца крыху далей. Жук натапырваў вушы, але ў пагоню не рваўся, бо збожжа было густое, перавітае сырадэляй, і нават сабаку было б цяжка ісці праз яго. Буніны спевы ўзносіліся ў аслепленым сонцам паветры, і магло падацца, што яны далятаді да самага небасхілу. “Тваё імя, о Марыя, як алей духмяны, слугі ж твае моцна Цябе ўзлюбілі”. Спяванне “гадзінак” заканчвалася на скрыжаванні палявых дарог, дзе стаяў дужы, урослы ў зямлю валун, які тысячу год таму прынёс сюды ледавік. Высокі, ён нагадваў чалавека, які схіліўся да зямлі. Каля яго мы рабілі перапынак і адпачывалі. Буня здымала блузку, а яе белая вышываная кашуля сціпла прыкрывала плечы і горс. З-пад капелюша высоўвалася доўгая, тоўстая каса сівеючых валасоў. Мы сядзелі на траве каля Буні, Коця грэбаў падабранай палачкай пясок, Жук ладкаваўся на зямлі, клаў пыску на лапы і пазіраў на нас шчаслівымі карымі вачыма.

Удалечыні дарога ўпіралася ў цёмную сцяну леса, а ў полі кабеты зграбалі скошаную духмяную канюшыну. З другога боку, над сілуэтам вёскі адтуль можна было разглядзець верхавіну касцёльнай вежы ў Красным. Сонца стаяла ўжо высока, трэба было варочацца. Па дарозе дадому мы спявалі разам з Буняй “Па гарах, далінах”[2] – Коця падпяваў нам другім голасам “Аве, аве, аве, Марыя”, і ўсе былі шчаслівыя. Пад канец шпацыру мы ўжо пераставалі стрымліваць свой вясёлы настрой. Буня крыху падбірала сваю спадніцу і ішла паланэзным, плаўным крокам, співаючы ўжо цалкам свецкія, а нават і фрывольныя песенькі:

– Недалёка вёска, вёскі, –
ці не бачыў маёй Зоські?
– Бачыў воўка я у лесе,
тваёй Зоські косці несе.
Я кажу, каб ён паклаў –
ён далей у лес пагнаў.
Я кажу: “Прадай, сабака!”
А ён кажа: “Мне да ...”[3]

Нас гэта страшэнна весяліла. Буня гарэзліва падміргвала нам і давала зразумець, што гэта – наш маленькі сакрэт і ў доме гэтую песеньку лепей не паўтараць.

За сталом, калі мы абедалі, Буня звычайна вяла размовы з Дзядзем. Часам яна казала нешта зусім нечаканае. Запомнілася, як яна спытала ў практыканта, які нядаўна да нас прыехаў, “Ці добры быў начны гаршчок у маёй дачкі?” Вядома, яна мела на ўвазе *начлег*, гэта была проста абмоўка[4]. Пытанне завісла ў паветры без адказу, тэму

---

[1] Пераклад Рыма-каталіцкага Касцёла ў Беларусі (http://old.catholic.by/2/home/spetials/100116-hours.html).

[2] Польскі рэлігійны спеў.

[3] У арыгінале:

– Nie daleko wioska, wioski,
Czyś nie widział mojej Zośki?
– Widziałem ja wilka w lesie,
Twojej Zośki kości niesie,
Ja mu mówię: “Połóż, połóż”
A on jeszcze dalej poniósł,
Ja mu mówię: “Kupię, kupię”,
A on na to: “Mam je w dupię”.

[4] У польскай мове начны гаршчок гучыць як ‘ночнік’ (*nocnik*), блізка да начлега – ‘ноцлег’ (*nocleg*).

размовы хутка змянілі, бедны практыкант сядзеў моцна збянтэжаны, а мы, дзеці, давіліся кашлем, каб не засмяяцца ўголас, бо нельга.

Аднойчы, калі за ежай у Буні з рота выпаў пратэз, гэта моцна мяне ўсхвалявала, бо я яшчэ не ведала, што людзі могуць устаўляць сабе штучныя зубы. На падвячорак дзецям давалі нейкія ягады ці лясныя суніцы, а Буня піла сваю ўлюбёную гарбату, якую заварвалі ў вялікім самавары. Калі яна сыпала ў шклянку цукар, то, памешваючы лыжачкай у адзін бок, прыгаворвала: "Zamieszaj za wiarę nieprzyjaciół naszych"[1], потым мяняла кірунак памешвання і шыбка дадавала: "i zawróc im głowę w tył"[2]. Гэта гучала як злы сурок ці закляцце – так, што лёгка можна было перапужацца, але Буня смяялася так зычліва, што было зразумела, што гэта ўсяго толькі жарт. І было ўжо няважна, якім жа гэта ворагам зычылі паскручваць галовы.

Часта пад вечар, калі ўжо не было так горача, Дзядзя паважліва звяртаўся да Буні з элегантным паклонам: "Пані Юлія!" Буня рабіла рэверанс як сапраўдная дама і адказвала: "Пан Казімір!" Так пачыналіся іх вечаровыя спатканні на ўлюбёнай лавачцы пад бэзам. Буня адразу прыходзіла туды і садзілася на лаўку чакаць. Дзядзя, на жаль, рухаўся марудней: хадзіць яму было цяжка, ён шморгаў нагамі і на пяску алейкі заставаліся сляды яго хворых ступняў.

На лавачцы вялася бяседа, перасыпаная французскімі слоўкамі. Гэта былі ўспаміны пра даўнія часы, пра бенефіс капельмайстра *Drigo*, пра оперныя гала-прыёмы, пра выступы цудоўнай спявачкі, якая заўсёды збірала шматлікія "Брава!" і сыходзіла пад авацыі публікі. Буня ўспамінала арыі, Дзядзя ёй падпяваў, яны выпраўлялі адзін аднаго, паўтаралі арыю яшчэ раз, без слоў, толькі саму мелодыю, але ўжо разам. Іх ахутвала радасць цёплага летняга вечара.

Дзецям гэта было нецікава. Лепей было пайсці з Жуком і Вестай у ліпавую алею, дзе ў прыцемках гойсалі малыя яшчаркі, у траве поўз вялікі слімак, а ўверсе можна было ўбачыць саву, якая стаілася ў голлі.

Сёння я шкадую, што так мала ведаю пра маладыя гады Буні і Дзядзі. У іх жыцці былі і смутак, і жаль, і расчараванні, але былі і бенефіс капельмайстра *Drigo*, і опернае гала, і цікавыя вечарыны, часцей афіцыйныя, але таксама і сямейныя, у коле знаёмых і сяброў.

У маёй памяці засталіся толькі цьмяныя ўспаміны пра вытанчанасць і элегантнасць размоў, пра харство прывітанняў і развітанняў, і пра пекныя паклоны: "Пані Юлія!", "Пан Казімір!"

## Настаўніцы

Калі мая сястра Марыёла пачынала вучыцца ў школе, у сям'і вырашылі, што найлепшы пасаг для маладой паненкі – гэта веданне замежных моў, і за навуку гэтую трэба было брацца як мага раней.

У падтрымку гэтай ідэі на вакацыях у Мясаце з'явілася мадэмуазэль Сольне – не ведаю толькі, з чыёй рэкамендацыі і дзе яе знайшла маці. На мой сённяшні розум, тыя кабеты, якія прыязджалі ў Польшчу даваць урокі, напэўна, мусілі быць моцна пакрыўджанымі жыццём, каб з'ехаць са сваёй *douce France*[3]. Яны былі пераважна дзівачкамі, а перадусім непрыстасаванымі да нашых звычаяў і ладу жыцця. Такой была і мадэмуазэль Сольне, якую мы звалі Сальнічкай. Мажная, яна хадзіла цяжкім крокам і, як нам здавалася, пазірала праз свае акуляры як васіліск. Памятаю, што яна не насіла станікаў, і яе поўныя грудзі калыхаліся ад кожнага руху.

Сальнічцы выдзелілі пакой ў флігелі, так званым "малым дамку". Насамрэч, дом

---

[1] "Перашкодзь нашым ворагам па веры" (*з польск.*).
[2] "І паскручвай ім галовы" (*з польск.*).
[3] Мілая Францыя (*з фр.*)

гэты быў не такі ўжо і малы. Уваходзілі ў яго праз вялікую драўляную веранду. У двух пакоях з усходняга боку летам жыў са сваімі бацькамі Коця. Каля кухні, у каторую быў асобны ўваход з вуліцы, быў пакой Зіны, а яшчэ там былі пакоі для гасцей, на выпадак, калі вялікі дом быў ужо перапоўнены.

Мадэмуазэль Сольне баялася ўсяго: навальніцы і дажджу, жаб і кажаноў, сабак і начнога вартаўніка. Аднойчы яна прыбегла на золку ў негліжэ, адчайна лямантуючы, што да яе ў акно залез кот. Мама доўга тлумачыла ёй, што кот – гэта не тыгр, нічога благога ён ёй не зробіць і сам выйдзе, але, нарэшце, сама пайшла выганяць таго звера – ажно ў пакоі ўжо нікога не было.

Сальнічка вучыла нас на тэрасе французкім словам і зваротам. Урокі праходзілі спакойна і зычліва, калі побач быў нехта з дарослых. Калі не – настаўніца часта злавала, тупала нагамі, крычала, а мы не маглі тады паўтарыць за ёй ніводнага слова.

Мадэмуазэль была вялікай ласухай. Аднаго разу яна зайшла ў сталовую і з'ела паўміскі суніц, падрыхтаваных на падвячорак. Таксама яна выбірала лепшыя кавалкі пірага, які цёця Манюся пякла па нядзелях, і забірала з сабой у торбачку, каб даесці пазней.

Сальнічку мы не палюбілі, але нам падабалася ёй крыху шкодзіць. Неяк Коця знайшоў дохлую жабу і паклаў яе пасярод алейкі, па якой настаўніца мусіла прайсці. Часам мы сядалі з Жукам на верандзе "малога дамка" і ціхутка спявалі яму на вуха. Сабака разумеў гэта як сігнал да выцця, і выў працягла, галасна і пранізліва. Мадэмуазэль з крыкам выбягала з пакоя – а нас з Жуком на верандзе ўжо і не было.

Вакацыі з Сальнічкай не ўдаліся. Калі восенню брычка ад'язджала з ёй на станцыю, усе уздыхнулі з палёгкай. На развітанне яна прытуліла нас па чарзе да сваіх агромністых грудзей і запэўніла, што моцна нас палюбіла. Маме яна ветліва прапанавала прыехаць да нас і праз год.

Праз год да нас прыехала мадам Крэта. Яна была швейцаркай, з французскага кантону, і невядома было, што прымусіла яе прыехаць у Польшчу. Шмат расказвала пра сваю краіну, пра горы, навучыла нас швейцарскаму гімну, які я і дагэтуль помню.

Мадам была мілай, і яе можна было палюбіць, а заняткі праходзілі без аніякіх прыкрасцей. Ніводная прыказка ці показка не абмінала нашай увагі. Настаўніца любіла распавядаць пра іншыя дамы, дзе ёй даводзілася праводзіць лета. Яна часта паўтарала "chez les Пшэдпельскі à Лазы"[1] – нас гэта весяліла, Коця не раз пераймаў яе словы і жэсты.

Мадам Крэта хацела ўдзельнічаць ва ўсім, што адбывалася падчас вакацый. Яна любіла хадзіць з намі ў грыбы, але не мела ніякага ўяўлення пра тое, як іх збіраць. Неяк яна прынесла цэлы кошык мухамораў – мы хацелі іх там жа і выкінуць, але яна тут жа заявіла, што "chez les Пшэдпельскі à Лазы" менавіта такія грыбы і збіралі. Мы ледзьве ёй растлумачылі, што гэта, напэўна, былі іншыя грыбы, а гэтыя – атрутныя, і нават качкі з курамі могуць ад іх паздыхаць. Аднаго разу, калі мы былі ў лесе, нам захацелася, каб і яна нарэшце знайшла якіх добрых грыбоў. Мы адвялі яе на палянку, дзе з імху вытыркаліся чатыры прыгожыя бронзавыя капялюшыкі баравікоў. На жаль, мадам іх не заўважыла і ўсе да аднаго патаптала.

Традыцыйнай забавай была конная язда. Мама і цёця Люся – мама Коці, любілі катацца на конях па палявых дарогах. Нам таксама дазволілі асцярожна, на спакойных конях, паспрабаваць свае сілы ў гэтым занятку. Мадам Крэта заявіла, што "chez les Пшэдпельскі à Лазы" ўжо сядлала каня, і таму вырашыла праехацца на нашай маладой, але разумнай клячы – Басі. Мадам прыйшла апранутай як на паказ: у доўгіх, ніжэй калена, блакітных трыко, на нагах былі шкарпэткі і летні абутак. Калі пад ганак падвялі Басю, мадам узабралася на яе

[1] "У сям'і Пшэдпельскіх у Лазах" (*з фр.*)

з воклічам “Бася *est pour moi*!”[1] Кляча хутка адчула няўпэўненага наезніка на сваёй спіне і сама выбрала, куды ёй ляцець. Брама была адчыненая, Бася выбегла за агароджу і накіравалася да гаспадарчых пабудоў. Мы тут жа кінуліся за нашай амазонкай – яна атрасалася на парозе стайні, а наша Бася спакойна стаяла каля ясляў. Ніхто так і не даведаўся, якім жа чынам мадам перанеслася з сядла на падлогу. Аднак мы не маглі не заўважыць, як скрывіўся твар нашай настаўніцы, калі яна тым жа днём сядала вячэраць – можна было здагадацца, што прызямленне не было лёгкім.

Калі мадам Крэта з’язджала з Мясаты, усе сардэчна з ёй развіталіся, а яна, узрушаная, плакала.

Праз год сям’я вырашыла, што французскай граматыцы можна навучыцца і ў школе, а дзецям трэба авалодваць мастацтвам вольнай размовы. Так на вакацыі нанялі Сюзанну. Маладая, ці не васямнаццацігадовая дзяўчына была дачкой рээмігранта з Францыі, нарадзілася ў Лілі, па-польску гаварыла блага, а па-французку – хутка і многа, з мясцовым акцэнтам і не заўсёды салоннымі выразамі.

Сюзанна была для нас не настаўніцай, але таварышам па гульнях і летніх прыгодах. Сям’я была задаволеная, што за намі прыглядае старэйшая на колькі год за нас Сюзанна, а яна далучалася да нашых прыдумак і фантазій.

Мы разам лёталі па лесе, шукалі скарбаў і кажаноў на гарышчы, пераскоквалі па камянях праз ледзяную плынь рачулкі. Аднойчы, калі мы шалёна нясліся на брычцы, кола зачапілася за камень ці карэнне, і ўсе чацвёра – гэта значыць, мы з сястрой, Коця і Сюзанна – зваліліся ў канаву. Апроч сінякоў і ўдараў, з намі нічога благога не сталася, і гэта толькі было чарговай нагодай для смеху.

Мы не раз спрачаліся з Сюзаннай з-за розных дробязей. Дзяўчына няпростага лёсу, з намі яна зноў магла адчуць сябе дзіцём.

Напрыканцы лета мы ўжо свабодна размаўлялі па-французку, а таксама навучыліся, да жаху цётачак, розным не вельмі літаратурным выразаў, а нават і лаянцы.

Памятаю, як Коця неяк жартам баксіраваў з Сюзаннай – яна звалілася на падлогу тэрасы, стала енчыць і прыкідвацца, што не можа падняцца. Прыйшла цёця Манюся, каб навесці парадак – усё дарэмна. Нічога не дапамагала. І тады цёця цвёрдым голасам сказала, што зараз пакліча Сальвука, які чысціў у нас коміны, каб ён падняў Сюзанну і завёз яе да доктара.

Сальвук быў вельмі высокім, шыракаплечым, чарнавокім і чорнавалосым мужчынам, зубы яго неяк дзіўна вытыркаліся, а ў твары было нешта асіметрычнае. Век змазаны ў сажы, Сальвук хоць і ўсміхаўся нам зычліва, але ўсё ж нам не падабаўся. Пачуўшы ад цёці Манюсі, што гэта Сальвук зараз панясе яе на руках, Сюзанна хуценька падхапілася з падлогі і была ўжо здаровая.

Калі мы развіталіся з Сюзаннай, было вельмі сумна, што такія ўдалыя вакацыі ўжо закончыліся. Тады мы яшчэ не здагадваліся, што праз пару год нашага раю ўжо не будзе і наша дзяцінства раптоўна скончыцца.

Напэўна, на гэтым трэба скончыць мае ўспаміны. Ды гэта і не хроніка – я распавяла толькі тое, што помню смешнага і вясёлага. На маю думку, нават сярод найгоршых перажыванняў і здарэнняў, якія адбыліся са мною пазней, можна ўбачыць промень дабрыні і надзеі. У заключэнне прыгадаю яшчэ раз Сальвука.

Калі 17 верасня Чырвоная Армія рухалася трактам на захад, разам з імі кацілася хваля нянавісці. П’яныя хеўры, узначаленыя агітатарамі і самазванымі камісарамі, нападалі на бяззбройныя дамы, рабуючы і знішчаючы ўсе запар. У той страшны дзень Сальвук, не зважаючы на небяспеку, якая яму пагражала, прывёў маю сям’ю да сябе ў вёску, каб схаваць нас і ўратаваць.

І па сёння я глыбока ўдзячная таму высакароднаму беларусу. Успамінаю пра яго з пяшчотай і лічу яго адным з найлепшых людзей, якія сустракаліся ў маім жыцці.

---

[1] “Бася – мая!” (*з фр.*)

## Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

### Уістан Х’ю ОДЭН

### *БЛЮЗ УЦЕКАЧОЎ*

У гэтым горадзе, кажуць, дзесяць мільёнаў людзей,
Адны жывуць у харомах, другія нідзе,
Але нам тут месца няма, мая радасць, нам тут месца няма.

Мы мелі радзіму й лічылі яе адзінай,
У атлас зірні – і ты знойдзеш яе за хвіліну –
Нам цяпер не вярнуцца туды, мая радасць, не вярнуцца туды.

На цвінтары за вёскай ціс векавы расце,
І штовесну цвіце, ён штовесну цвіце,
Ды не можа так пашпарт стары, мая радасць,
не можа так пашпарт стары.

Па стале консул грукнуў і крыкнуў ва ўпор:
«Калі няма пашпарту, ты афіцыйна памёр!»
Але мы жывыя пакуль, мая радасць, жывыя пакуль.

У камітэт падтрымкі я неяк заходзіў,
Яны запрашалі прыходзіць у будучым годзе.
Але сёння куды нам пайсці, мая радасць, сёння куды нам пайсці?

Словы прамоўцы на мітынгу, я паспеў іх пачуць –
«Калі мы іх пусцім, яны хлеб наш надзённы з’ядуць».
Ён казаў пра цябе і мяне, мая радасць, пра цябе і мяне.

Як гром сярод неба, голас пачуўся грудны
Гэта Гітлер Еўропе крычаў: «Павінны памерці яны!»
О, гэта ён з думкай пра нас, мая радасць, з думкай пра нас.

Бачыў я дзверы і котку, што ўваходзіла ў іх,
Пудзеля ў камізэльцы на гузіках залатых.
Але ж не габрэі яны, мая радасць, не габрэі яны.

У порце на рыбак глядзеў, каб прабавіць час,
Яны плаваюць так, нібы ім на ўсё пляваць:
Так блізка ад нас, мая радасць, блізка ад нас.

Тут птушкі лясныя могуць свабодна спяваць.
Бо няма ў іх палітыкаў, каб гэта забараняць,
Але птушкі не мы, мая радасць, але птушкі не мы.

Задрамаў я й будынак вялікі прысніў:
На тысячу вокнаў, дзвярэй і паверхаў ён быў,
Але ўсе не нашы яны, мая радасць, але ўсе не нашы яны.

Снег на бязмежнай раўніне мае замятаў сляды,
Дзесяць тысяч салдат хадзілі туды і сюды:
Шукалі цябе і мяне, мая радасць, шукалі цябе і мяне.

## Норман МАККЕЙГ

### *ЦЁТКА ДЖУЛІЯ*

Цётка Джулія размаўляла па-гэльску
вельмі голасна й вельмі хутка.
Я нічога не мог ёй сказаць,
бо нічога не мог зразумець.

Яна хадзіла ў грубых ботах,
але часцей басанож.
– Бачу, як яе моцная
і брудная ад торфу нага
кіруе понажам, і калаўрот гудзе,
пакуль яна правай рукою
цягне з паветра чароўную пражу.

Толькі ў цётчыным доме
я мог ляжаць уночы
ў суцэльным змроку
ложка і слухаць
прыязны строкат цвыркуноў.

Яна была і вядром,
і вадой, што плюхалася ў ім,
залевай над домам.
Яна была карычневымі яйкамі,
чорнымі спадніцамі і захавальніцай
драбязы ў імбрыку старым.

Цётка Джулія размаўляла па-гэльску
вельмі голасна й вельмі хутка.
Толькі потым я штосьці пачаў разумець,
калі яна сціпла ляжала
у задушнай цямрэчы
пясчанай магілы
у Ласкентаеры.
Але я чуў, як яна прыходзіць
і гукае мяне голасам кірлі
праз сотні ярдаў,
балот і тарфянішчаў
і ўвесь час, увесь час злуецца,
што не можа пачуць адказы
на ўсе пытанні.

## Ленгстан Х'ЮЗ

### *НЕГР ГАВОРЫЦЬ ПРА РЭКІ*

Я знаю рэкі.
Я знаю рэкі, старавечныя, як свет, старэйшыя за рэкі чалавечых вен.

Душа мая глыбокая, як гэтыя рэкі.

Я купаўся ў Еўфраце, калі былі маладымі дасвецці.
Жыллё будаваў на беразе Конга, і шум хваляў мяне закалыхваў.
Пазіраў я на Ніл, будаваў пірамiды над ім. Слухаў спеў Місісіпі,
калі Абэ Лінкальн у Нью Арлеан прыплыў, бачыў яе каламутнае
ўлонне, залатое ад пырскаў сонца на захадзе.

Я знаю рэкі
Старавечныя змрочныя рэкі.

Душа мая глыбокая, як гэтыя рэкі.

## Адам ЗАГАЕЎСКІ

### *ЕХАЦЬ У ЛЬВОЎ*

*Бацькам*

Ехаць у Львоў. З якога вакзала ехаць
у Львоў, хіба што ўва сне; на дасвецці,
калі на валізках раса, калі нараджаюцца
экспрэсы і «хуткія». Раптам паехаць у
Львоў, уночы ці ўдзень, у верасні
ці ў сакавіку. Калі Львоў існуе, пад
покрывам межаў і не толькі ў маім
новым пашпарце, калі харугвы дрэваў,
таполі і ясені гучна дыхаюць, быццам
індзейцы, і раўчукі мармычуць на цьмяным
сваім эсперанта, а вужы, як мяккі знак
у рускай мове, чэзнуць у травах.
Сабрацца й паехаць, не сказаўшы
нікому «бывай», апоўдні, знікнуць так, як
непрытомныя паненкі. І лапухі, зялёнае
войска лапухоў, а пад імі, пад парасонамі
венецыянскай кавярні, слімакі размаўляюць
пра вечнасць. А катэдра высіцца,
памятаеш, так вертыкальна-вертыкальна,
як нядзеля, і белыя сурвэткі, і паўнюткае
вядро малін, якое стаіць на падлозе,
і маё жаданне, якога пакуль не было,
адно сады, пустазелле й бурштын
вішні, і непрыстойны Фрэдра.

Львова заўсёды было зашмат, ніхто не мог
зразумець усіх кварталаў, пачуць шэпт
кожнага каменя, спаленага сонцам,
царква ўначы маўчала зусім іначай,
чым катэдра, езуіты хрысцілі расліны,
лісток за лістком, але тыя раслі
і буялі без памяці, а радасць таілася
ўсюды: у калідорах, млынках для кавы,
што самі круціліся, у блакітных імбрыках,
у крухмале, які быў першым
фармалістам, у кроплях дажджу і калючках
руж. У садзе жоўклі змерзлыя фарзіцыі.
Званілі званы і дрыжэла паветра, кішноты
мнішак, як шхуны, плылі пад тэатрам,
свету было так многа, што ён мусіў на біс
выступаць бясконцую колькасць разоў,
публіка вар'яцела і не хацела
пакідаць залю. Мае цёткі яшчэ
не ведалі, што некалі я ўваскрашу
іх, і жылі так наіўна і адасоблена,
служанкі бегалі па свежую смятану,
чыстыя і адпрасаваныя, у дамах трохі
гневу і шмат надзеі. Бжазоўскі
прыехаў на лекцыі, адзін з маіх дзядзькаў
пісаў паэму пад назвай «Чаму?»,
прысвечаную Ўсявышняму і Львова было
зашмат, ён не змяшчаўся ў посудзе,
рассаджваў шклянкі, выплёхваўся са
стаўкоў, азёраў, віўся дымам з комінаў,
перакідваўся ў агонь і навальніцу,
рагатаў бліскавіцамі, лагаднеў,
вяртаўся дамоў, чытаў Новы Запавет,
спаў на канапе пад гуцульскім кілімам,
Львова было зашмат, а цяпер яго
цалкам няма, ён рос нястрымна, а нажніцы
прымаразкаў, як заўсёды ў маі, рэзалі,
без літасці і без ласкі, ах, пачакайце,
хутка прыйдзе цёплы чэрвень і мяккая
папараць, бясконцае поле лета
альбо рэчаіснасці. Але нажніцы рэзалі
ўздоўж і ўпоперак па валокнах, краўцы,
садоўнікі і цэнзары рэзалі цела і вянкі,
секатары нястомна працавалі,
як у «Нажнічках-чараўнічках», дзе трэба
выцінаць лебедзя ці аленя. Лёзы,
нажніцы і сцізорыкі драпалі,
рэзалі і падкарочвалі пышныя рызы
прэлатаў, пляцаў і камяніц, дрэвы

бязгучна падалі, як у джунглях, і
катэдра дрыжэла, а ўранку было развітанне
без хустак і слёз, такія сухія
вусны, я ніколі цябе не пабачу, столькі
смерці чакае цябе, чаму кожны горад
павінен стаць Іерусалімам, а кожны
чалавек жыдам, і цяпер толькі ў спешцы
збірацца, заўсёды, штодня і ехаць,
колькі ёсць духу, ехаць у Львоў,
бо ён існуе, спакойны і чысты,
як персік. Львоў паўсюдна.

**Юльян ТУВІМ**

## *СПРЭЧКА З ЖОНКАЙ*

Жонцы моўлю пачціва: «Слухай,
Любая, я пад мухай».

А яна мне з пагардай: «Блазан!
Бачу ўжо, што ты пад газам».

Кажу: «Не люблю гэтых збыткаў
Прызнаюся, я нападпітку».

Адказвае: «Хлусіш, каханы.
Сцвярджаю, ты сёння п’яны».

«Не буду аспрэчваць – гульнулі,
Дык што я там выпіў? Грамулю!»

Яна: «Брэшаш, быццам наняўся.
Ты ж, як свіння, налізаўся».

«Няма ў маіх словах фальшу,
Ну трохі закінуў за гальштук».

«Хлусіш ты мне штохвіліны,
Ізноўку надраўся ў дрызіну».

«Няпраўда – кажу – што ты мелеш!
Насамрэч, я п’яны, як бэля».

«Вой, гляньце, – анёлак бязвінны!
Дыміцца ў цябе ўжо з чупрыны».

Крычу: «У-у-у, калі ж ты адстанеш!
Ну, я ў нецвярозым стане».

«Маніш ізноў, як наняўся!
Насцябаўся, лайдак, насцябаўся!»

«Ну гэта – зароў я – занадта
Я проста пад добраю датай!»

«Вой, хоць языком не мянці ты,
Відаць па табе, што заліты!»

«Адчапіся – шапчу– ачмута!
Брэшаш ты, я тузануты!»

З гадзіну цягнулася сварка,
Аж жонка пайшла да шынкаркі.

А я, каб дурным не застацца,
Таксама пайшоў, каб набрацца.

## Ганна СВІРШЧЫНЬСКА

### *БУДУЮЧЫ БАРЫКАДУ*

Мы баяліся, будуючы барыкаду
пад кулямі.

Шынкар, цырульнік і каханка ювеліра –
Усе, як адзін, баязліўцы.
Долу ўпала служанка,
з бруку падняўшы камень,
мы так баяліся ўсе –
наглядчык, латочніца, пенсіянер.

Паваліўся аптэкар,
цягнучы дзверы ад прыбіральні,
мы яшчэ больш спалохаліся,
кантрабандыстка,
краўчыха, кіроўца трамвая –
усе, як адзін, баязліўцы.

Упаў, як падкошаны, хлопчык з дзетдома,
валочачы мех з цэментам,
карацей, мы баяліся сапраўды.

Хоць ніхто нас не прымушаў,
мы збудавалі барыкаду
пад кулямі.

### *ТАКАЯ Ж УСЯРЭДЗІНЕ*

Ідучы да цябе на бяседу любоўную
я пабачыла на рагу
старую жабрачку.

Узяла яе пад руку,
пяшчотна пацалавала ў шчаку,
мы разгаварыліся, яна была ўнутры
такою ж, як я,
з таго ж цеста,
я адчула гэта адразу,
як сабака адчувае
другога сабаку.

Я дала ёй грошы,
але аніяк не магла з ёй расстацца.
Чалавеку патрэбны
хтось блізкі.

І потым я ўжо не ведала,
навошта іду да цябе.

## Сяргей МАТЫРКА

### Ф. Скот ФІЦДЖЭРАЛЬД

### Вялікі Гэтсбі

*Урывак з рамана*

### Раздзел 1

(...) Мая сям'я на працягу трох пакаленняў жыцця ў гэтым горадзе на Сярэднім Захадзе складалася выключна з выбітных і заможных людзей. Караўэі – гэта своеасаблівы клан, і паводле сямейнае легенды мы вядзём свой радавод ад герцага Баклю, але сапраўдным заснавальнікам майго роду быў брат майго дзеда, які прыехаў сюды ў пяцьдзясят першым годзе, замест сябе адправіў на Грамадзянскую вайну найміта, а сам адкрыў бізнес па аптовых продажах тавараў з металу, якім і да гэтага дня кіруе мой бацька.

Я ніколі не бачыў стрыечнага дзеда, але кажуць, што я да яго падобны – асабліва згадваючы даволі груба намаляваны алеем партрэт, які вісіць у бацькавым кабінеце. У 1915 годзе, якраз праз чвэрць стагоддзя пасля бацькі, я здаў выпускныя экзамены ў Нью-Хэйвене і неўзабаве ўцягнуўся ў запозненае перасяленне германскіх народаў, больш вядомае як Вялікая вайна. Контрнаступленне саюзных войскаў настолькі мяне ўзрушыла, што па вяртанні дадому я не мог знайсці спакою. Сярэдні Захад, колішні ўтульны цэнтр свету, здаваўся цяпер занорыстым краем існавання – вось я і вырашыў падацца на ўсход, каб заняцца вывучэннем аперацый з аблігацыямі. Усе мае знаёмцы працавалі з аблігацыямі, і я палічыў, што гэтыя паперкі здолеюць пракарміць на аднаго чалавека болей. Мае цёткі і дзядзькі доўга гэта абмяркоўвалі, нібы выбіралі для мяне падрыхтоўчыя заняткі, і ўрэшце, скрывіўшы вельмі сур'ёзныя

міны, прамовілі: «Чаму б і не-е». На першы год бацька пагадзіўся дапамагчы фінансамі, і пасля некалькіх пераносаў увесну дваццаць другога я выправіўся на ўсход, як я тады меркаваў, назаўжды.

Самым практычным было б знайсці кватэру ў горадзе, але ў той час стаяла спёка, а я толькі-толькі прыехаў з вёскі з яе шырокімі паплавамі і прыветнымі дрэвамі, і таму калі адзін малады чалавек з офіса прапанаваў мне зняць на пару дом за горадам, гэта падалося мне выдатнай ідэяй. Ён і дом знайшоў, выветранае лядашчае лецішча за восемдзесят у месяц, але ў апошнюю хвіліну фірма перавяла яго ў Вашынгтон, і таму я пераехаў у прадмесце адзін. У маім распараджэнні былі сабака, прынамсі пару дзён, пакуль ён не збег, старэнькі Додж і фінка, якая прыбірала мой ложак, гатавала сняданак і, схіліўшыся над электрычнай плітой, мармытала сабе пад нос фінскія мудрасці.

Пару дзён я правёў на самоце, пакуль аднойчы ранкам адзін чалавек, які прыехаў сюды крыху раней за мяне, не спыніў мяне на дарозе.

– Як патрапіць ва Ўэст-Эг? – разгублена спытаў ён.

Патлумачыўшы як, я больш не падаваўся сабе такім самотным. Я быў праваднікам, следапытам, першапраходцам. Гэты чалавек ненаўмысна ўзнагародзіў мяне тытулам ганаровага суседа.

Сонца ярка свяціла, пупышкі на дрэвах выбухалі буйной лістотай – не раўнуючы як у зманціраваных фільмах – ува мне пасялілася знаёмая ўпэўненасць, што гэтым летам жыццё распачнецца ізноў.

Перш-наперш трэба было шмат чаго прачытаць, да таго ж наўкол адчувалася гэтулькі здаровай моцы, што толькі і чэрпай яе са свежага жыватворнага паветра. Я купіў тузін кніг па банкаўскай справе, крэдытаванні і інвестыцыям, яны сталі ў мяне на паліцы, пераліваючыся чырвоным з залатым, нібы новыя манеты з манетнага двара, і абяцалі раскрыць казачныя таямніцы, вядомыя толькі Мідасу, Моргану і Мецэнату. Акрамя таго я меўся прачытаць шмат іншых кніг. У каледжы я меў пэўныя літаратурныя схільнасці – адзін год я пісаў серыю важных і трывіяльных рэдактарскіх калонак для «Ельскіх навін» – і цяпер я мерыўся знайсці колішняму занятку месца ў сваім жыцці і зноў стаць найвузейшым з усіх спецыялістаў, то бок «чалавекам шырокага кругагляду». І гэта я кажу не проста так – зрэшты, з жыцця можна ўзяць болей, нават калі вызіраеш толькі з аднаго акна.

З чыстае выпадковасці я заарандаваў дом у адной з найдзіўнейшых мясцін Паўночнае Амерыкі. Ён месціўся на вузкім, шчыльна заселеным паўвостраве, які расцягнуўся ад Нью-Ёрка на ўсход і які сярод іншых цудаў прыроды спарадзіў два незвычайныя ландшафтныя фармаванні. За трыццаць кіламетраў ад горада два велізарныя мысы мелі ідэнтычныя падобныя да яек контуры і, аддзеленыя адзін ад аднаго невялічкім залівам, яны выпіраліся ва ўтаймаваныя салёныя воды заходняга паўшар'я, у вялікія і волкія ўладанні Лонг-Айлендава праліва. Сваёй не зусім ідэальнай авальнай формай – не раўнуючы Калумбава яйка, абодва прыплюснутыя на месцы злучэння – яны ў сваім фізічным падабенстве, пэўна, сталіся для чаек, што лёталі ў вышыні, крыніцай бясконцай блытаніны. Для нас жа, стварэнняў бяскрылых, цікавейшым будзе іншы феномен – а менавіта, калі пакінуць па-за ўвагай формы і памеры – іх непадобнасць ва ўсіх дэталях.

Я жыў на Ўэст-Эгу, на – так бы мовіць – меней фешэнебельным з мысаў, але каб падкрэсліць розніцу паміж імі, гэта будзе вельмі павярхоўнай прыкметай. Мой дом месціўся на самым канцы яйка, метраў за пяцьдзясят ад праліва, ён уціснуўся між дзвюма агромністымі віламі, якія здаваліся па дванаццаць-пятнаццаць тысяч за сезон. Віла праваруч ад мяне па ўсіх мерках была каласальным маёнткам – яна была дакладнай копіяй сярэднявечнае нармандскае ратушы з мармуровым басейнам і навюткай прыбудаванай вежай, на якую дзе-нідзе караскаліся павоі, вілу атачала болей за шаснаццаць гектараў саду і газону. Гэта быў палац Гэтсбі. Ці сказаць дакладней – я ж яшчэ не ведаў містэра Гэтсбі – гэта быў асабняк, у якім жыў спадар

з гэтым імем. Мой уласны дом стаўся бяльмом на воку, але бяльмом маленькім і непрыкметным. Такім чынам, мне адкрываўся від на ваду і на частку суседняга газона, а блізкасць мільянераў цешыла душу – і за ўсё восемдзясят доляраў за месяц.

На тым баку праліва ўздоўж берага ззялі белыя палацы фешэнебельнага Іст-Эга, і гісторыя таго лета на самай справе распачынаецца адным вечарам, калі я выправіўся на той бераг да Б'юкэнанаў, якія запрасілі мяне на вячэру. Дэйзі была дачкой маёй далёкай стрыечнай сястры, а Тома я ведаў з каледжа. Адразу пасля вайны я быў прабавіў з імі два дні ў Чыкага.

Сярод сваіх разнастайных спартыўных дасягненняў муж Дэйзі стаў адным з наймацнейшых футбольных абаронцаў, якія толькі гулялі за Нью-Хэйвен – кшталту нацыянальнага героя, адным з тых людзей, якія ў свае дваццаць адзін дасягаюць такога майстэрства ў пэўнай галіне, што ўсё, што ідзе пасля, думаецца, ідзе на спад. Яго сям'я была неймаверна багатая – нават у часы каледжа яго марнатраўства было тэмай для папрокаў – але ад стылю, з якім ён надоечы пераехаў з Чыкага на Усходняе ўзбярэжжа, займала дых: напрыклад, з Лэйк-Форэста ён прывёз з сабою цэлы табун поні для гульні ў пола. Цяжка сабе ўявіць, што ў чалавека майго веку хапала грошай на падобныя ўчынкі.

Не ведаю, што іх сюды прывяло. Яны без пэўнай на тое прычыны аджылі год у Францыі, а потым пераязджалі з месца на месца, дзе можна было пагуляць у пола з мясцовымі багацеямі. Па тэлефоне Дэйзі сказала, што гэта іх апошні пераезд, але я ў тое не паверыў – я не мог зазірнуць ёй у душу, але шостае пачуццё казала мне, што Том вечна будзе калясіць у сваіх крыху меланхалічных пошуках узрушальнае крутаверці якой-кольвек беззваротнай футбольнай гульні.

І вось тым цёплым ветраным вечарам я паехаў на Іст-Эг пабачыць двух старых сяброў, якіх я ў прынцыпе амаль не ведаў. Іх дом, яркі чырвона-белы асабняк у Геаргіянскім каланіяльным стылі з відам на заліў, быў нашмат элегантнейшы, чым чакалася. Газон пачынаўся ад самага пляжа і, пераскокваючы сонечныя гадзіннікі, каменныя парканы і палымяныя кветкамі клумбы, расцягваўся на некалькі соцень метраў да галоўнае брамы – а там ён урэшце дасягаў дома і, быццам не ў стане стрымаць гэтага свайго памкнення, спрабаваў ускараскацца далей на сцяну вінаграднай лазой. Фасад раздзяляўся высокімі французскімі вокнамі, яны, разнасцежаныя насустрач цёпламу ветранаму надвячорку, ззялі золатам пад зіхоткім сонцам. Том Б'юкэнан, апрануты ў гарнітур для коннай язды, спыніўся ля галоўнага партала, шырока расставіўшы ногі.

Ён змяніўся з Нью-Хэйвенскіх часоў. Цяпер гэта быў мажны трыццацігадовы мужчына з саламянымі валасамі, груба акрэсленым ротам і напышлівай ухмылкай. Іскрыстыя ганарыстыя вочы выдзяляліся на яго твары, надаваўшы яму выгляд, быццам ён вось-вось кінецца на цябе. Велічную моц гэтага цела не магла схаваць нават модная наезніцкая вопратка – наваксаваныя да бляску боты так шчыльна абцягвалі яго мускулістыя ногі, што верхняе шнураванне гатова было вось-вось лопнуць, а варта яму было пацепнуць плячыма, як пад танюткай курткай выразна бачылася яго магутная мускулатура. Гэта было цела вялізнай сілы – сурова цела.

Ад яго голасу, грубага хрыплага тэнара, уражанне, што ён гатовы рынуцца ў бойку, толькі ўзмацнялася. Было ў ім крыху ад паблажлівай пагарды, нават у дачыненні да людзей, якіх ён любіў – а ў Нью-Хэйвене сустракаліся і такія, хто цярпець яго не мог.

«Вы ж толькі не падумайце, што маё меркаванне на гэты конт неабвяргальнае, – нібы казаў ён, – толькі праз тое, што я мацнейшы і ад мужчыны маю болей за вас». У каледжы мы належалі да аднаго студэнцкага таварыства, і хоць мы ніколі не былі блізкімі сябрамі, у мяне заўжды складвалася ўражанне, быццам ён прызнаваў мяне за свайго і гэтай сваёй грубай манерай хоча мне спадабацца.

Мы пагутарылі пару хвілін на сонечнай лоджыі.

– Няблага я тут прызямліўся, – сказаў ён, пры гэтым яго вочы неспакойна забегалі.

Ён падхапіў мяне пад руку і павярнуў. Яго далонь шырокім кругам апісала панараму, якая ахапіла італьянскі сад унізе, чвэрць гектара моцна пахкіх руж і маторную лодку з кірпатым носам, якая гайдалася на хвалях заліва.

– Належала раней Дамэйну, нафтаваму каралю. – Ён, нечакана ветлівы, зноў мяне павярнуў. – Зойдзем.

Мінуўшы вітальню с высокай столлю, мы апынуліся ў светлым пафарбаваным у ружовы колер пакоі, французскія вокны якога з абодвух бакоў цалкам пазбаўлялі яго адчування ўнутранага памяшкання. Свежая трава звонку нібы спрабавала прарасці ў дом, і на яе фоне прачыненыя вокны ззялі беласцю. Праз пакой праносіўся брыз, які ўздымаў падобныя да пабляклых сцягоў фіранкі з аднаго боку ў пакой, а з другога боку – з пакоя, падкідваючы іх пад глазураваную, нібы вясельны торт, столь, а затым гайдаў чырвоны, як віно, дыван, і ўсё гэта спрычыняла гульню ценяў, як мора ад ветру.

Адзіным цалкам нерухомым прадметам у пакоі аказалася вялізная канапа, на якой, як на паветраным шары, што стаў на якары, луналі дзве маладыя дамы. Яны былі апранутыя ва ўсё белае, іх сукенкі калыхаліся і пагойдваліся, нібы іх толькі-толькі прынесла з невялічкай паветранай прагулянкі вакол дома. Я, пэўна, прыпыніўся на пару імгненняў, прыслухоўваючыся да гучнага шапацення фіранак і рыпення карціны на сцяне. Потым пачуўся глухі ўдар – гэта Том Б'юкэнан ляпнуў вокнамі – і зачынены ў пакоі вецер улёгся, а фіранкі, кілімы і абедзве маладыя дамы ціха прызямліліся на падлогу.

Маладзейшую я не ведаў. Яна цалкам знерухомела, расцягнуўшыся ва ўвесь рост на сваім канцы канапы, і толькі яе падбародак крыху ўздымаўся, нібы на ім стаяла нешта такое, што ў любое імгненне магло згубіць раўнавагу і ўпасці. Калі яна і запрыкмеціла мяне куточкам вачэй, то знаку не падала – а я ад нечаканасці ўжо меўся прамармытаць прабачэнні, што сваім з'яўленнем яе патрывожыў.

Другая дзяўчына, Дэйзі, зрабіла спробу ўстаць – яна з самым сумленным выразам твару крыху нахілілася, а потым засмяялася недарэчным, але чароўным смяшком, я таксама засмяяўся і прайшоў далей у пакой.

– Я нічога не адчуваю ад шчасця.

Яна зноў засмяялася, быццам сказала нешта вельмі дасціпнае, а потым, узяўшы мяне за руку, глянула на мяне такім позіркам, які сцвярджаў, што ў свеце яна нікога, акрамя мяне, не хоча бачыць. Мела яна такую манеру. Ціхім прышэптам яна адкрыла мне, што прозвішча застылай дзяўчыны Бэйкер. (Я чуў ад некага, што Дэйзі кажа што-кольвечы толькі дзеля таго, каб людзі схіляліся да яе; заўвага нятрапная, дый менш чароўнай яна ад гэтага не рабілася.)

У любым выпадку міс Бэйкер паварушыла вуснамі, ледзь заўважна хітнула мне і хуценька зноў адкінула галаву – відавочна, тое, што яна ўтрымлівала на падбародку, крыху страціла раўнавагу, і гэта яе быццам спалохала. У мяне зноў закруціліся на языку словы прабачэння. Адзін толькі выгляд такіх самаўпэўненых людзей амаль заўсёды выклікае ў мяне поўнае пашаны захапленне.

Я перавёў позірк да кузіны, якая пачала распытваць мяне сваім ціхім чароўным голасам. Гэта быў голас, за ўздымамі і паніжэннямі якога вуха сочыць з асаблівай пільнасцю, нібы кожны сказ быў паслядоўнасцю гукаў, якая ніколі больш не ўтворыцца. Сумны і мілы Дэйзін твар увесь час ззяў: то зіхоткімі вачыма, то прамяністымі чуллівымі вуснамі; але ў яе голасе хавалася пэўная ўзрушанасць, якую не здольны забыць ніводны мужчына, якому Дэйзі падабалася: меладычны імпульс, прашаптанае «Паслухай», спакуслівае абяцанне, маўляў, толькі што яна перажыла нешта цудоўнае і хвалюючае, а неўзабаве гэтае цудоўнае і хвалюючае паўторыцца ізноў.

Я распавёў ёй, што па дарозе на ўсход я на дзень прыпыніўся ў Чыкага і што тузін людзей шле ёй праз мяне свае шчырыя вітанні.

– Яны сумуюць без мяне? – усклікнула яна ў захапленні.

– Увесь горад не знаходзіць суцяшэння. На кожным аўтамабілі на знак жалобы левае задняе кола пафарбаванае ў чорны, не раўнуючы надмагільны вянок, а ўздоўж Паўночнага ўзбярэжжа на працягу ўсяе ночы вядзецца незмаўкальнае галашэнне.

– Які цуд! Давай з'ездзім туды, Томе. Заўтра ж! – А потым яна дадала без сувязі: – Табе трэба пабачыць малютку.

– З ахвотай.

– Яна спіць. Ёй два гады. Ты ж яе яшчэ не бачыў?

– Не, пакуль не.

– Тады ты павінен яе ўбачыць. Яна...

Том Б'юкэнан, які няспынна хадзіў па пакоі, спыніўся і паклаў руку мне на плячо.

– Чым займаешся, Ніку?

– Біржавы маклер.

– Дзе?

Я назваў фірму.

– Ніколі пра такую не чуў, – заўважыў ён.

Гэта мяне раззлавала.

– Яшчэ пачуеш, – адрэзаў я, – калі затрымаешся даўжэй тут на ўсходзе.

– Вось дзе-дзе, а на ўсходзе затрымаюся, не турбуйся, – ён глянуў на Дэйзі, а потым зноў на мяне, нібы чакаў нечага большага. – Трэба быць клятым ідыётам, каб захацець жыць у якім іншым месцы.

– Безумоўна! – Міс Бэйкер сказала гэта так нечакана, што мяне перасмыкнула – гэта было яе першае прамоўленае слова з таго часу, як я зайшоў у пакой. Яна, мусіць, як і я, гэтага не чакала, таму што пазяхнула, а потым са жвавым спрытам устала з канапы.

– У мяне ўсё аднялося, – паскардзілася яна, – я адляжала на гэтай канапе цэлую вечнасць.

– Не глядзі на мяне так, – адказала Дэйзі. – Гэта я пасля абеду ўсё ўгаворвала цябе паехаць у Нью-Ёрк.

– Не, дзякуй, – звярнулася міс Бэйкер да чатырох кактэйляў, што якраз былі пададзены. – Я цалкам прытрымліваюся спартыўнага рэжыму.

Гаспадар дома скептычна на яе глянуў.

– А нягож! – Ён кульнуў свой напой, нібы кроплю на самым дне шклянкі. – Розуму не дабяру, як ты толькі даеш усяму рады.

Я паглядзеў на міс Бэйкер і задумаўся, чаму такому яна мусіла «даць рады». Мне падабалася глядзець на яе. Яна была зграбнай дзяўчынай з маленькімі грудзьмі і вельмі прамой паставай, якую яна падкрэслівала яшчэ болей, па-кадэцку выправіўшы плечы назад. Яе шэрыя, пабляклыя ад сонца вочы на тускным чароўным незадаволеным твары пазіралі на мяне ў адказ з ветлівай узаемнай цікаўнасцю. Толькі цяпер я прыгадаў, што недзе раней бачыў яе альбо яе партрэт.

– Вы жывяце ва Ўэст-Эгу, – пагардліва заўважыла яна. – Я знаю там кагосьці.

– Я не знаю ніводнай...

– Але ж вы мусіце знаць Гэтсбі.

– Гэтсбі? – спытала Дэйзі. – Якога Гэтсбі?

Не паспеў я адказаць, маўляў, гэта мой сусед, як нас паклікалі на вячэру; Том Б'юкэнан уладарна сціснуў сваёй напружанай рукой маю і пацягнуў мяне з пакоя, быццам перасоўваючы шахматную фігуру з адной клеткі на другую.

Нядбайна і павольна, злёгку кранаючы рукамі сцёгны, дзве маладыя дамы прайшлі паперад нас у пафарбаваную ў ружовы колер лоджыю, павернутую насустрач захаду сонца. На стале пад аслаблым дажджом мігцелі чатыры свечкі.

– А свечкі навошта? – насупіўшыся, Дэйзі затушыла свечкі пальцамі. – Праз два тыдні будзе найдаўжэйшы дзень года. – Яна паглядзела на нас прамяністымі вачыма. – А вы таксама пільнуеце найдаўжэйшы дзень года, а потым на яго забываецеся? Я дык заўжды пільную яго, пільную, а потым і забываюся на яго.

– Трэба штосьці зарганізаваць, – пазяхнула міс Бэйкер і стомлена прысела за стол.

– Добра, – сказала Дэйзі. – І што мы зладзім? – яна павярнулася да мяне. – Што звычайна ладзяць?

Не паспеў я адказаць, як яна ўтаропіла жалобны позірк на свой мезенец.

– Вы толькі гляньце! – паскардзілася яна. – Я паранілася.

Мы паглядзелі – яе пальчык на згібе пасінеў і пачарнеў.

– Гэта быў ты, Томе, – сказала яна абвінаваўчым тонам. – Ведаю, ты не наўмысна, але ўсё ж забіў. Вось што атрымліваеш, калі выходзіш замуж за такога здаравяка, за вялізнага агромністага няскладнага цельпука, які...

– Ненавіджу слова «цяльпук», – узвіўся Том, – нават калі жартам.

– Цяльпук, – не адступала Дэйзі.

Часам яна і міс Бэйкер гаварылі адначасова, але гэта адбывалася ненавязліва... Яны былі з намі – яны мірыліся з маёй і Томавай прысутнасцю і хацелі развесяліць нас ці развесяліцца самім. Яны ведалі, што вячэра неўзабаве завершыцца, а разам з ёй праміне і вечар. Гэта цалкам адрознівалася ад захаду, дзе вечар пранасіўся па ўсіх сваіх фазах да самага скону ў бяскрайнім прадчуванні расчаравання ці ў суцэльным нервовым страху ад самога гэтага перажытага імгнення.

– Побач з табою, Дэйзі, я пачуваюся нецывілізаваным, – прызнаўся я за другой шклянкай даволі добрага віна, якое чамусьці аддавала коркам. – Ці не магла б ты расказаць пра ўраджай ці пра штосьці падобнае?

Гэтай заўвагай я не меўся сказаць нічога асаблівага, але яна падзейнічала нечаканым чынам.

– Цывілізацыя ўсё адно коціцца пад адхон, – не стрымаўся Том. – У такіх справах я стаў скрайне песімістычным. Ці чытаў ты «Уздым каляровай імперый» Гадарда?

– Што? Не, – адказаў я. Яго тон мяне здзівіў.

– Ну, кніга цудоўная, усе павінны яе прачытаць. Асноўная ідэя ў наступным: калі мы не будзем пільныя, то ўся белая раса апынецца... апынецца пад прыгнётам. Напісана па-навуковаму, і там усё даказана.

– Том усё паглыбляе свае веды, – прамовіла Дэйзі з сумам у голасе. – Ён чытае змястоўныя кнігі з даўгімі словамі. Што там было за слова, якое мы...

– Дык вось, гэта навуковыя кнігі, – Том раздражнёна глянуў на яе. – Гэты хлопец усё прааналізаваў. Мы, дамінуючая раса, мусім трымаць вуха востра, іначай аднойчы іншыя расы самі захопяць уладу.

– Нам трэба перамагчы іх, – прашаптала Дэйзі, нястрымана міргаючы пад асляпляльным сонцам.

– Вам толькі ў Каліфорніі жыць... – пачала міс Бэйкер, але Том перапыніў яе, цяжка пасунуўшыся ў крэсле.

– Ён зыходзіць з таго, што мы ёсць прадстаўнікамі нардычнай расы. Я, і ты, і ты, і... – Тут ён некалькі імгненняў павагаўся і урэшце лёгкім кіўком далучыў Дэйзі да нашага кола, тая зноў мне падміргнула. – ...і мы вынайшлі ўсё, што стварае цывілізацыю: навуку, мастацтва і гэтак далей. Разумееце?

У яго настойлівасці было нешта бездапаможнае, быццам яму ўжо не ставала былой самазадаволенасці, цяпер больш азлобленай. Раптам у доме зазваніў тэлефон, лёкай пайшоў з лоджыі, а Дэйзі выкарыстала гэтую нечаканую паўзу і схілілася да мяне.

– Я адкрыю табе сямейную таямніцу, – з захапленнем прашаптала яна. – Гэта звязана з носам лёкая. Хочаш, раскажу гісторыю пра нос лёкая?

– Вядома. Дзеля гэтага я сюды і прыехаў.

– Значыцца, ён не заўжды быў лёкаем; у Нью-Ёрку ён слугаваўся паліроўшчыкам

срэбра у адной сям'і, якая мела срэбны сервіз на дзвесце персон. І паліраваць яго трэба ад світання да змяркання, пакуль урэшце паліравальны парашок не пачаў уядацца ў яго нос...

– І становішча пачало пагаршацца, – падхапіла міс Бэйкер. – Так. Становішча пагаршалася і пагаршалася, пакуль яму не давялося звольніцца.

На імгненне на яе выразны твар ўпаў апошні сонечны прамень, надаўшы яму рамантычны адцінак; ад яе голасу пераймала дыханне, яго хацелася слухаць і слухаць – а потым выразнасць паблякла, святло неахвотна саслізнула з яе, не раўнуючы як дзеці ў шарую гадзіну сыходзяць дадому з шумлівай вуліцы.

Лёкай вярнуўся і прамармытаў нешта на вуха Тому, на што той зморшчыўся, адсунуў крэсла і, не сказаўшы ні слова, выйшаў з пакоя. Пакуль ён адсутнічаў, у Дэйзі нібы нешта абудзілася, яна зноў нахілілася да мяне, яе голас зайшоўся ў звонкім спеве.

– Я так усцешаная, што ты зараз за нашым сталом, Ніку. Ты нагадваеш мне... ружу, цалкам ідэальную ружу. – Яна павярнулася да міс Бэйкер, каб тая пацвердзіла. – Цалкам ідэальную ружу?

Гэта была няпраўда. Ніякую ружу я не нагадваў, нікольківі. Дэйзі толькі імправізавала, але ад яе ішла такая ўзбуджальная цеплыня, нібы яе душа, загорнутая ў адно з тых прытоеных хвалюючых слоў, сілілася вырвацца вонкі да мяне. А потым яна раптам кінула сурвэтку на стол, папрасіла прабачэння і прайшла ў дом.

Я з міс Бэйкер абмяняліся кароткімі прытворнымі позіркамі. Я хацеў штосьці сказаць, але яна, выпрастаўшы спіну, кінула мне папераджальнае: «Тс-с!» З суседняга пакоя пачулася прыглушанае перашэптванне, міс Бэйкер без кроплі сораму нахілілася бліжэй, каб падслухаць. Шэпт пто спадаў, то ўзмацняўся, а потым рэзка перапыніўся.

– Гэты містэр Гэтсбі, якога вы надоечы ўзгадвалі, гэта мой сусед, – прамовіў я.

– Памаўчыце. Я хачу пачуць, што там адбываецца.

– А там штосьці адбываецца? – спытаўся я з нявінным выглядам.

– Вы што, не ведаеце? – міс Бэйкер шчыра здзівілася. – Я думала, пра гэта ўвесь свет ведае.

– Я не ведаю.

– Ну, – яна засумнявалася, – у Тома ў Нью-Ёрку ёсць жанчына.

– Жанчына? – недарэчна паўтарыў я.

Міс Бэйкер кіўнула.

– Ужо б дзеля прыліку магла і не тэлефанаваць яму падчас вячэры. Так не думаеце?

Не паспеў я сцяміць, што яна мела на ўвазе, як у тым пакоі зашамацела сукенка і захрумсцелі скураныя боты, і Том з Дэйзі зноў вярнуліся да стала.

– Прабачце, была неадкладная справа! – усклікнула Дэйзі з паказной весялосцю. Яна прысела ў крэсла, дапытліва глянула на міс Бэйкер, потым на мяне, і працягнула:

– Я на хвілінку выйшла, на двары так рамантычна. На газоне я заўважыла птушачку, мабыць, гэта салавей, што завезлі «К'юнардам» альбо ва «Ўайт Стар». Ён спявае так... – і яна заспявала, – ...хіба гэта не рамантычна, Томе?

– Вельмі рамантычна, – кінуў ён і панура звярнуўся да мяне: – Калі пасля вячэры яшчэ будзе досыць светла, я хачу звадзіць цябе на стайню паказаць коней.

У доме пранізліва зазваніў тэлефон, Дэйзі глянула на Тома, рашуча пахітала галавой, і тэма са стайнямі, насамрэч усе магчымыя тэмы размоў, раставалі ў паветры. З апошніх пяці хвілін за сталом у памяці засталіся толькі паасобныя кавалкі, свечкі няведама чаму запалілі зноў, а я злавіў сябе на тым, што мне карцела зазірнуць кожнаму ў твар і адначасова пазбегнуць іх позіркаў. Я не мог сабе ўявіць, што ў той момант круцілася ў галаве Тома і Дэйзі, але мяркую, што нават міс Бэйкер, якая, падавалася, датуль ставілася да ўсяго з пэўнай рэзкасцю і скептыцызмам, не здолела цалкам выкінуць з галавы неадчэпную металічную настойлівасць гэтага

пятага госця. Камусьці гэта сітуацыя магла б падацца інтрыжкай – маім першым жаданнем было тут жа схапіць слухаўку і патэлефанаваць паліцыі.

Пра коней, вядома, болей не згадвалі. Том і міс Бэйкер – два раздзеленыя сілуэты ў прыцемках – зноў скіраваліся ў бібліятэку, нібы яны захацелі пастаяць на варце ля сапраўды існага цела прыгажуні, пакуль я, сілячыся паказаць шчыры інтарэс і ўдаваючы на невялічкую глухату, праходзіўся з Дэйзі кругам праз анфіладу злучаных між сабой верандаў. Мы прыселі побач на плеценую атаманку, прыхаваную ў глыбокім змроку.

Дэйзі кранула свой твар далонямі, нібы хацела адчуць яго прыгожыя абрысы, яе позірк паціху скіраваўся да аксамітнага сутоння. Было бачна, што ёю авалодалі бурлівыя пачуцці, таму я запытаўся пра яе дачушку, што, на маю думку, магло яе неяк супакоіць.

– Мы дрэнна ведаем адзін аднога, Ніку, – раптам сказала яна. – Хоць мы і сваякі. Цябе не было на маім вяселлі.

– Я яшчэ не вярнуўся з вайны.

– Твая праўда. – Яна завагалася. – Ведаеш, мне шмат чаго давялося пераадолець, і ад гэтага ўсяго я зрабілася даволі цынічнай.

Я пачакаў, але яна больш нічога не сказала, і праз некалькі імгненняў я зноў вывернуў да яе дачкі.

– Мяркую, яна ўжо гаворыць і... есць, і ўсё такое.

– О так. – Яна паглядзела на мяне адсутным позіркам. – Паслухай, Ніку; я памятаю, што я сказала, калі нарадзіла яе. Хочаш, я і табе скажу?

– Вядома.

– Ты тады зразумееш, што я зараз думаю пра... гэта ўсё. Значыцца, ёй не было ад роду і гадзіны, а Тома насіла Бог ведае дзе. Я адышла ад наркозу з пачуццём бясконцай пакінутасці і адразу ж запытала сястру, хлопчык гэта ці дзяўчынка. Яна сказала мне, што гэта дзяўчынка, а я адвярнулася і заплакала. «То добра, – сказала я тады, – што гэта дзяўчынка. І спадзяюся, што яна вырасце дурнічкай, бо ў гэтым свеце для дзяўчынкі найлепей заставацца маленькай прыгожанькай дурнічкай».

– Бачыш, для мяне ўсё цяперака складваецца неяк жудасна, – упэўнена працягнула яна. – Усе так лічаць – нават самыя адукаваныя людзі. І гэта праўда, я ведаю. Я ўсюды пабыла, усё ўгледзела і ўсё зрабіла. – Яе вочы заіскрыліся выклікам, амаль як і ў Тома, а потым яна залілася з'едлівым смехам. – Колькі ўсяго... Божа, колькі ўсяго я перажыла!

Варта было ёй змоўкнуць, і яе голас страціў колішняе прыцягненне і ўпэўненасць, а я адчуў, якімі па сутнасці няшчырымі былі яе словы. Мне зрабілася непрыемна, быццам увесь гэты вечар задумваўся толькі дзеля таго, каб выцягнуць з мяне пэўную эмоцыю, якая б яе падтрымала. Я счакаў хвілю – і сапраўды: калі праз кароткае імгненне яна глянула на мяне, на яе прыгожанькім твары мільганула ўдаваная ўсмешка, якая нібы сцвярджала, маўляў, яны з Томам належаць да аднаго слыннага таемнага таварыства.

Усярэдзіне чырвоны пакой быў заліты святлом. Том і міс Бэйкер сядзелі на розных канцах даўгой канапы, і яна чытала яму ўслых гісторыю з «Сатэдэй Івніг Пост» – яе словы, аднастайны прышэпт, сцякаліся ў супакаяльную мелодыю. Святло ад лямпы ярка адбівалася ад яго ботаў, бякла пераліваласе на яе валасах колеру восеньскага лісця і слізгала па часопісе, пакуль міс Бэйкер, злёгку напружваючыся, перагортвала старонкі.

Калі мы зайшлі ў пакой, яна ўзняла руку, даўшы тым самым знак, каб мы крыху памаўчалі.

– А працяг, – сказала яна, кінуўшы часопіс на стол, – будзе ў нашым наступным нумары.

Нервова варухнуўшы каленам, яна ўстала.

– Дзясятая гадзіна, – заўважыла яна, падняўшы вочы да столі, нібы там быў

нябачны гадзіннік. – Добрай дзяўчынцы час класціся спаць.

– Заўтра Джордан гуляе на турніры, – патлумачыла Дэйзі, – ва Ўэстчэстары.

– О... Дык вы Джордан Бэйкер.

Цяпер я дапетрыў, чаму мне быў так знаёмы яе твар – ён пазіраў на мяне з процьмы ратагравюрных здымкаў са спартыўных падзей у Ашвіле, Хот-Спрынгс і Палм-Біч. Я таксама чуў шмат гісторый пра яе, гісторый не вельмі прыемных і даволі далікатных, але што б там ні было, я ўжо даўно забыўся на іх.

– Дабранач, – пяшчотна сказала яна. – Пабудзіце мяне а восьмай, добра?

– Калі ты толькі падымешся.

– Вядома, падымуся. Дабранач, містэру Караўэю. Неўзабаве пабачымся.

– Вядома, пабачыцеся, – запэўніла Дэйзі. – Шчыра кажучы, я падумвала, каб звесці вас. Наведвайся часцей, Ніку, і я вас хуценька... гм... абкручу. Ну вы ведаеце – пры нагодзе зачыню вас у шафе для бялізны ці кіну вас адных у лодцы сярод мора, нешта кшталту такога...

– Дабранач, – азвалася са сходаў міс Бэйкер. – Я нічога не чула.

– Мілая дзяўчына, – праз некаторы час азваўся Том. – Ім трэба лепей сачыць, каб яна не бадзялася тут адна.

– Каму ім? – холадна запыталася Дэйзі.

– Яе сям'і.

– У яе з сям'і адна толькі тысячагадовая цётка. Да таго ж Нік будзе за ёй наглядаць, праўда ж, Ніку? Гэтым летам яна прабавіць у нас шмат выходных. Думаю, хатняе атачэнне станецца для яе карысным.

Дэйзі і Том моўчкі паглядзелі адно на аднаго.

– Яна з Нью-Ёрка? – паспяшаўся спытацца я.

– З Луісвіля. Мы прабавілі там наша беласнежнае цнатлівае дзяцінства. Наша нявіннае белае...

– Ты спавял*а* Ніку душу на верандзе? – раптам спытаў Том.

– Я спавяла? – Яна паглядзела на мяне. – Я ўжо запамятавала, але здаецца, мы гутарылі пра нардычную расу. Так, дакладна, пра яе мы і гаварылі. Хоць мы таго і не меліся, але тэма ўзнялася сама сабой, ну ты ведаеш...

– Не вер усяму, што чуеш, Ніку, – параіў ён мне.

Я сказаў між іншым, што я наогул нічога не чуў, а праз некалькі хвілін я ўстаў, каб выпраўляцца паціху дахаты. Яны праводзілі мяне да дзвярэй і спыніліся поруч ў асветленым прамавугольніку дзвярной рамы. Я завёў матор, і Дэйзі ўсклікнула:

– Стой! Я забылася нешта ў цябе спытаць, а гэта важна. Мы чулі, што на захадзе ты заручыўся з адной дзяўчынай.

– Сапраўды, – з прыязнасцю пацвердзіў Том. – Мы чулі, што ты заручаны.

– Плёткі. На гэта ў мяне няма грошай.

– Але мы чулі пра гэта, – настойліва паўтарыла Дэйзі, нанава расквяціўшыся перада мной. – Мы пачулі гэта ад трох розных людзей, значыць, тое мусіць быць праўдай.

Канечне, я ведаў, што яны мелі на ўвазе, але я не быў заручаны. На самой справе, пагалоска, што я пабраўся шлюбам, стала адной з прычын, чаму я прыехаў на Усходняе ўзбярэжжа. Калі даволі доўга выходзіш у свет са старой сяброўкай, то так альбо інакш нараджаюцца пэўныя чуткі, а я ж не меў ніякага намеру ўзяць шлюб толькі праз тое, што людзі нешта там пляткарылі.

Іх цікаўнасць кранула мяне, у гэтае імгненне яны падаліся не такімі недасяжна багатымі – аднак ад іх я паехаў збянтэжаны і крыху расхваляваны. Як на мяне, дык адзіна слушным для Дэйзі было б збегчы з дому з дзіцём на руках – але відавочна, яна нават думкі такой не дапускала. Што да Тома, то мяне менш уразіла справа, што ў яго «ў Нью-Ёрку ёсць жанчына», чым сам факт таго, што яго засмуціла кніга. З якойсьці прычыны ён угрызаўся ў край збітай тэорыі, быццам адна нязломная фізічная самазакаханасць больш не задавальняла яго ўладную душу.

## Надзея КВАСНЯК

### Юльян ТУВІМ

### *ПАРАВОЗ*

На станцыі шумнай стаіць паравоз
Цяжкі, вялізны, аж пот з яго споўз:
Маслам запэцканы нос.

Ён стаіць дыхае, пыхкае, дзьмухае,
Жар ад гарачага пуза бухае:
Ух – як жа горача!
Пуфф – як жа горача!
Уфф – як жа горача!
Пуфф – як жа горача!

Ужо ледзьве трывае, ужо цяжка дыхаць,
А вугаль яшчэ ў яго будуць сыпаць.

Вось да яго падчапілі вагоны
З жалеза і сталі, вагой у тоны,
І поўна народу ў кожным вагоне,
Каровы ў адным, а ў іншым коні,
А ў трэцім адны таўстуны ў лампасах
Сядзяць і няспешна смакуюць каўбасы,
Ляжаць у чацвёртым вагоне бананы,
А ў пятым стаяць адны фартэп'яны,
У шостым гармата – вялізная стрэльба!
Пад кожным колам жалезная бэлька!
У сёмым дубовыя шафы, сталы,
У восьмым жырафа, мядзведзь і сланы,
Дзявяты вагончык – там тлустыя свінні,
А вось у дзясятым – вялізныя скрыні.
А гэтых вагонаў больш за сорак,
І столькі ж там знойдзецца іншых каморак.
І нават калі б прыйшло многа атлетаў,
І кожны з іх з'еў бы сотні катлетаў,
І кожны з іх як бы не напінаўся,
План – зрушыць з месца – ім не ўдаўся б.
Раптам – віск!
Раптам – піск!
Пара – бух!
Колы – ў рух!

Спачатку – паволі – па рэйках, – надзіва,
Рушыла – млява – машына, – лянiва
Рванула вагоны і цягне з мазолем,
І круціцца, круціцца кола за колам,
І ход паскарае, і шпарчэй імчыцца,
І грукае, стукае, каб не спыніцца.
Куды ж ён? Куды ж ён? Куды ж гэта? Прама!
Па шляху, па шляху, па шляху, праз браму,

Праз поле, тунэлі, праз лес і гару
Спяшаецца ён, каб прыйсці ў пару.
Да такту грукоча і стукае ўсё гэта:
Так гэта, так гэта, так гэта, так гэта.
Гладка так, лёгка так коціцца ў даль,
Як быццам бы гэта быў мячык, не сталь,
Не стомлены волат, запыханы, цяжкі,
А за́баўка, цацка з жалезнай бляшкі.

Адкуль гэта, як жа, навошта і дзе?
А што гэта, што гэта, хто гэта пхне,
Ажно так імчыцца, грукоча грух-грух?
Гарачая пара прыводзіць ўсё ў рух.
Якая – да поршняў праз трубы з катлоў,
А колы праз поршні бягуць з двух бакоў.
І гоняць, і пхаюць; цягнік той бяжыць,
Бо пара ўвесь час да тых поршняў спяшыць,
І колы грукочуць і стукае ўсё гэта:
Так гэта, так гэта, так гэта, так гэта!..

## *КОЦІК*

Плача коцік: Меў!
– Штосьці, коцік, меў?
– Так, меў міску малака я
Зараз місачка пустая,
Я б яшчэ хацеў.

Уздыхае: о!
– Што ты, коцік, што?
– Снілася рака, бы ў раі,
Малака у ёй без краю,
І глыбока дно.

Піснуў коцік: пі-і...
– Пі, кацейка, пі!
Хвост скруціў, заплюшчыў вочкі,
Спіць – у сне хлябтае моўчкі
Малачко і сніць.

## *МЕЛАНХОЛІЯ ЛЯ СЦЕН*

Гарады таксама маюць смутак, думку:
Дзіўныя там людзі мокнуць у завулку.

Нахіліўшы ціха галаву набок,
Мараць, каб з'явіўся цуд і каб не ўцёк.

Вось стаяць без руху і глядзяць бяздумна
Бляклыя, як шэрасць гарадоў няўтульных,

З позіркам празрыстым, быццам нежывыя.
Іх будзіць не трэба, бо яны святыя.

Так, яны святыя, хоць стаяць без плёну.
Ведаюць яны? Не. Мне, аднак, вядома.

## Яўгенія ЛАБОХА

### Сакі (Гектар Х'ю МАНРО)

### Казачнік

Быў гарачы поўдзень; паветра ў чыгуначным вагоне з гэтай прычыны было парным, а да наступнага прыпынку ў Тэмплкомбе ехаць было яшчэ амаль з гадзіну. У вагоне ехалі дзве маленькія дзяўчынкі – адна крыху старэйшая, другая крыху меншая – і маленькі хлопчык. Цётка, што іх суправаджала, сядзела ў куце, а ў супрацьлеглым уладкаваўся нейкі спадар не з іх кампаніі, але дзеці рашуча занялі ўсё купэ. Цётка і дзеці час ад часу абменьваліся кароткімі фразамі, і іх размова хутчэй нагадвала муху, што лётае па пакоі і ніяк не супакоіцца. Большасць цётчыных рэплік пачыналася з "нельга", амаль кожная дзіцячая – з "чаму". Спадар у куце ўголас нічога не казаў.

– Нельга, Сірэл, нельга! – усклікнула цётка, калі хлопчык пачаў ляпаць па сядзеннях, і з кожным ударам у паветра падымалася хмарка пылу. – Ідзі лепш паглядзі ў акно, – дадала яна.

Хлопчык без ахвоты перасеў да акна.

– Чаму ўсіх гэтых авечак вязуць з луга?

– Мяркую, іх вязуць на іншы луг, дзе больш травы, – ледзь чутна адказала цётка.

– Але ж і тут многа травы, – запярэчыў хлопчык. – Адна трава, і больш нічога. Цётка, на гэтым лузе шмат травы.

– Магчыма, на іншым лузе трава лепшая, – пачулася ў адказ недарэчная здагадка.

– Чаму лепшая? – імгненна прагучала непазбежнае пытанне.

– Вой, глянь, якія кароўкі! – усклікнула цётка. Амаль на кожным лузе ўздоўж дарогі пасвіліся каровы ці быкі, але, мяркуючы па яе голасе, за вакном мусіла быць нешта надзвычай рэдкае.

– Чаму трава на іншым палетку лепшая?

Хлопчык быў упартым.

Выраз твару незнаёмага спадара змяніўся з раздражнёнага на ўзлаваны. Цётка падумала, што ён жорсткі і чэрствы чалавек. Яна ўсё ніяк не магла знайсці адказу наконт травы на іншым лузе.

Меншая з дзяўчынак распачала сваю "дыверсію", узяўшыся цытаваць "Па дарозе ў Мандалэй". Яна ведала толькі першы радок, але выкарыстоўвала свае абмежаваныя веды з максімальнай карысцю. Яна паўтарала і паўтарала гэты радок летуценным голасам, але рашуча і вельмі гучна. Спадару падалося, быццам хтосьці пайшоў з ёю ў заклад, што яна не зможа паўтарыць гэты радок дзве тысячы разоў запар. Хто б гэта ні быў, ён хутчэй за ўсё прайграў.

– Сядайце бліжэй, зараз будзе казка, – гучна прамовіла цётка, калі спадар двойчы паглядзеў на яе і адзін раз – на стоп-кран.

Дзеці без вялікай цікавасці пераселі бліжэй да яе кута. Відаць, па іх меркаванні казачніцай яна была не надта добрай.

Маленькія слухачы часта перапынялі яе гучнымі настойлівымі пытаннямі, аднак цётка нізкім голасам, што мусіў выклікаць давер, распавядала зусім не забаўляль-

ную, страшэнна нецікавую гісторыю пра маленькую добрую дзяўчынку, з якой ўсе сябравалі з-за яе дабрыні і якую выратавалі ад шалёнага бугая прыхільнікі яе маральнага аблічча.

– Але хіба яе б не выратавалі, калі б яна не была добрай? – запытала старэйшая з дзяўчынак. І менавіта гэтае пытанне хацеў агучыць спадар.

– Але, – стрымана пагадзілася цётка, відавочна не вельмі задаволеная пытаннем. – Аднак, мяркую, яны б не беглі так хутка, калі падабалі б яе меней.

– Гэта самая дурная казка з усіх, што я чула! – пераканана ўсклікнула старэйшая з дзяўчынак.

– Такая дурная, што я ўжо з пачатку кінуў слухаць, – дадаў хлопчык.

Меншая з дзяўчынак наконт казкі не выказалася: яна ўжо даўно была занятая мармытаннем свайго ўлюбёнага радка.

– Здаецца, ваш талент казачніцы не карыстаецца поспехам, – знянацку падаў голас са свайго кута спадар.

Цётка напялася ад нечаканасці.

– Гэта вельмі цяжка – расказваць казкі, якія дзеці здолеюць зразумець і ацаніць, – холадна адказала яна.

– Не пагаджуся з вамі.

– Магчыма, вы самі жадаеце расказаць казку?

– Раскажыце нам казку! – запатрабавала старэйшая з дзяўчынак.

– У адным горадзе, – распачаў спадар, – жыла дзяўчынка. Яе звалі Берта, і яна была незвычайна добрай.

Дзеці, ледзь паспеўшы зацікавіцца, скрывіліся: відавочна, усе казкі былі падобныя адна да адной да брыдоты, хто б іх ні апавядаў.

– Яна рабіла ўсё, што ёй казалі, – працягнуў спадар. – Ніколі не хлусіла, трымала адзежу ў чысціні, ела малочны пудынг, быццам піражнае, дасканала вывучвала ўрокі і заўсёды была ветлівай.

– Яна была прыгожая? – запытала старэйшая з дзяўчынак.

– Меней прыгожая, чым кожная з вас. Але яна была пачварна добрай.

Гэтым часам дзеці выразна зацікавіліся: сувязь слова “пачварная” з дабрадзейнасцю была прывабнай навінкай. Здавалася, гэта мусіла быць той кропляй праўды, якой не хапала ў цётчыных казках пра дзяцей.

– Яна была такой добрай, – працягнуў спадар, – што атрымала некалькі медалёў за дабрадзейнасць і заўсёды насіла іх прышпіленымі да сукенкі. Першы медаль быў за паслухмянасць, другі – за пунктуальнасць, а трэці за добрыя паводзіны. Гэта былі вялікія металічныя медалі, і яны бразгалі адзін аб адзін, калі яна ішла па вуліцы. У гэтым горадзе ні ў кога больш не было столькі медалёў, таму ўсе ведалі, што Берта мусіць быць надзвычай дабрадзейнай дзяўчынкай.

– Пачварна дабрадзейнай, – працытаваў хлопчык.

– Паўсюль ішлі размовы пра яе дабрадзейнасць, і чуткі дайшлі нават да Князя той краіны. Тады ён сказаў, што калі дзяўчынка такая добрая, то ёй дазволена раз на тыдзень шпацыраваць па княжацкім парку, які ляжаў якраз недалёка ад горада. Гэта быў вельмі прыгожы парк, і ніякім дзецям ніколі не дазвалялі туды хадзіць, таму князеў дазвол быў для Берты вялікім гонарам.

– У тым парку былі авечкі? – запытаў хлопчык.

– Не, – адказаў спадар. – Ніводнай.

– Чаму? – пачулася пытанне, што сталася непазбежным вынікам гэтага адказу.

Цётка дазволіла сабе ўсміхнуцца, хаця яе ўсмешка атрымалася больш падобнай да выскалу.

– У парку не было ніводнай авечкі, бо князева маці аднойчы сасніла сон, што яе сына заб’е ці авечка, ці гадзіннік, які на яго зваліцца. Таму ў князевым парку не было авечак, а ў палацы – гадзіннікаў.

Цётка ледзь рот не разявіла ад здзіўлення.

– А Князя забілі авечка ці гадзіннік? – зноў запытаў хлопчык.

– Князь жыве да гэтай пары, таму невядома, ці быў той сон прарочым, – бесклапотна адказаў спадар. – Ва ўсялякім выпадку, у парку не было авечак, але паўсюль бегалі свінкі.

– Якога колеру?

– Чорныя з белымі лычыкамі, белыя ў чорныя кропкі, цалкам чорныя, шэрыя з белымі плямамі, а некаторыя – цалкам белыя.

Казачнік замоўк, каб дзеці змаглі добра ўявіць сабе ўсе скарбы таго парку, і працягнуў:

– Берта была расчараваная, калі зусім не знайшла ў парку кветак. Справа ў тым, што яна са слязьмі на вачах паабяцала сваім цёткам не рваць ніякіх князевых кветак і, канечне, збіралася стрымаць абяцанне, таму цяпер, не знайшоўшы ніводнай, пачувалася недарэчна.

– Чаму там не было кветак?

– Бо свінкі з'елі ўсе чыста, – адразу ж адказаў спадар. – Садоўнікі растлумачылі Князю, што немагчыма гадаваць адначасова кветкі і свінак, і Князь вырашыў, што лепш у яго будуць свінкі, а без кветак можна абысціся.

З боку дзяцей пачулася ўхвальнае мармытанне: рашэнне Князя выглядала надзвычай разумным, аднак шмат людзей выбралі б іншы варыянт.

– У парку было яшчэ шмат чаго прыемнага. Сажалкі з залатымі, сінімі ды зялёнымі рыбамі; дрэвы, на якіх сядзелі прыгожыя папугаі і калібры, што спявалі папулярныя мелодыі. Берта шпацыравала туды-сюды па парку, адчуваючы незвычайную асалоду, і думала сама сабе: "Калі б я не была такой надзвычай дабрадзейнай, мне б не дазволілі прыйсці ў гэты цудоўны парк і я б не змагла пацешыцца з усяго, што тут ёсць", – і тры медалі бразгалі адзін аб адзін, нагадваючы, якая яна насамрэч вельмі добрая. І раптам у парк прабраўся вялізны шэры воўк, які меў намер адшукаць сабе на вячэру якую таўсматую свінку.

– Якога колеру ён быў? – адразу запыталі дзеці: іх цікавасць да гісторыі пачала расці.

– Брудна-карычневага. Таксама ён меў чорны язык і светла-шэрыя вочы, у якіх блішчэла невыказная жорсткасць. І першай, каго ён убачыў, увайшоўшы ў парк, была Берта: яе фартух быў такі бялюткі і чысты, што яго лёгка было заўважыць здалёк. Берта ўбачыла ваўка, убачыла, як ён крадзецца бліжэй да яе, і горача пажадала, каб ёй лепей ніколі ў жыцці не дазволілі прыйсці ў гэты парк. Яна пабегла так хутка, як толькі магла, але воўк набліжаўся велізарнымі скачкамі. У Берты атрымалася дабегчы да алеі, абсаджанай кустамі мірта, і яна ўлезла ў самы густы. Воўк, дабраўшыся да куста, пачаў старанна яго абнюхваць, высунуўшы свой чорны язык, а ў светла-шэрых вачах блішчэла лютасць. Берта спужалася і падумала сама сабе: "Калі б я не была такой надзвычай дабрадзейнай, то цяпер была б у бяспецы ў сваім горадзе". Аднак пах мірта быў такі моцны, што воўчы нос не мог падказаць, дзе схавалася Берта, а кустоўе – такім густым, што можна было доўга шнырыць вакол і не ўбачыць нават краю фартуха. Таму воўк вырашыў, што лепей пайсці адсюль і схапіць свінку. Берта калацілася ад страху, калі воўк шнырыў побач, і так моцна, што яе медаль за паслухмянасць бразнуў аб медалі за добрыя паводзіны і пунктуальнасць. Воўк ужо адыходзіў, але, пачуўшы металічны звон, спыніўся і прыслухаўся. Медалі бразнулі зноў у кусце непадалёк. У жорсткіх светла-шэрых вачах бліснула радасць. Воўк скочыў у куст, выцягнуў Берту і з'еў яе ўсю да апошняй косткі. Каля куста засталіся толькі пантофлі, шматкі адзення ды тры медалі за дабрадзейнасць.

– А ці забіў воўк якую са свінак?

– Не, яны ўсе ўратаваліся.

– Пачатак быў дрэнным, – сказала меншая з дзяўчынак, – але канец цудоўны.

– Гэта самая прыгожая казка з усіх, што я чула! – рашуча вымавіла старэйшыя з дзяўчынак.

– Гэта *адзіная* прыгожая казка з усіх, што я чуў, – дадаў хлопчык.

Але цётка мела іншае меркаванне:

– Самая недарэчная казка, якую толькі маглі пачуць дзеці! Спадар звёў на нішто ўсе гады дбайнага выхавання!

– Ва ўсялякім выпадку, – адказаў той, збіраючы свае рэчы, каб пакінуць вагон, – дзякуючы маёй казцы яны сядзелі ціха дзесяць хвілін – нашмат даўжэй, чым атрымалася ў вас.

“Няшчасная! – заўважыў спадар сам сабе, ідучы з платформы станцыі Тэмплкомб. – Дзеці яшчэ доўга будуць насядаць на яе на людзях, голасна патрабуючы расказаць недарэчную казку”.

**Коратка пра аўтараў:**

**Іаанна Владыка** – перакладчыца. Лаўрэатка конкурсу «БрамаМар» (намінацыя «Пераклад», 2017). У школьным узросце перамагала ў літаратурных конкурсах, публікавала ўласныя творы ў часопісе «Бярозка» (аповесць «У Чарнобыльску ўсё спакойна», 2009). У 2015 годзе пачала друкавацца як аўтарка перакладаў з англійскай (часопіс «Маладосць»). Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Нарадзілася ў 1995 годзе ў Маладзечне. Жыве ў Мінску.

**Алесь Емяльянаў-Шыловіч** – паэт, празаік, перакладчык. Аўтар зборніка вершаў «Парасонечнасць». Фіналіст конкурсаў беларускага ПЭН-цэнтра, пераможца конкурсу «Экслібрыс імя Рыгора Барадуліна» (2015). Пераможца міжнароднага конкурсу на найлепшы пераклад паэзіі Віславы Шымборскай на беларускую мову (2015). У 2016 годзе ў перакладзе з польскай выйшла кніга выбраных вершаў Галіны Пасвятоўскай «Ідалапаклонніца». Вершы перакладаліся на польскую, сербскую, украінскую, рускую мовы. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

**Надзея Квасняк** – перакладчык. Нарадзілася ў 1995 годзе ў Пінску. Скончыла філфак БДУ. Стыпендыянтка Ягелонскага ўніверсітэта. Лаўрэатка шэрагу літаратурных конкурсаў («Kierunek: Polska», «Ojczysty-polski-myj», «Славянский калейдоскоп»). Жыве ў Польшчы.

**Яўгенія Лабоха** — рэдактарка, перакладчыца. Скончыла Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «Выдавецкая справа». Нарадзілася ў 1991 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Сяргей Матырка** – перакладчык. Навучаўся на гісторыка-філалагічным факультэце Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Нямецкая і англійская мовы». Скончыў аспірантуру Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Швейцарская і нямецкая літаратуры». Пераклады выходзілі ў часопісе «Макулатура»: Фрыдрых Дзюрэнмат «Сын» (№1) і Ніл Гейман «Дзень святога Арлекіна» (№5). Нарадзіўся ў 1985 годзе ў вёсцы Слабодка Лепельскага раёна. Жыве ў Мінску.

Сяргей Кавалёў



...доўгае жыццё –

гэта ўзнагарода ці пакаранне?..

# Камедыя Юдзіфі

***П'еса ў дзвюх дзеях***

А с о б ы :

Ю д з і ф – маладая габрэйка з Вефуліі, Ж а н ч ы н а ў плашчы, Я н а

А л а ф е р н – асірыйскі ваявода, Г а л а в а, Ё н

*У кожнага чалавека свая праўда*
*і з іншымі праўдамі яна не сябруе.*
Народная мудрасць

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Сцэна першая

На невялікім пастаменце пасярод сцэны ўзвышаецца чалавечая Г а л а в а. Прыхіліўшыся да пастамента, спіць Ж а н ч ы н а ў плашчы. Побач навалена гара запыленых кніг, карцін, вінілавых плытаў.

Спачатку вочы Г а л а в ы заплюшчаны, але потым павекі павольна ўзнімаюцца, Г а л а в а няспешна расплюшчвае адно вока, потым другое і па-змоўніцку падміргвае гледачам у зале.

Г а л а в а. Прывітанне, даражэнькія! Вы ўсё-ткі прыйшлі? Зрэшты, я вам не дзіўлюся: цікава паглядзець камедыю, у якой галоўнаму герою адсякаюць галаву. Вельмі забаўна. Так, я – галава асірыйскага ваяводы Алаферна. Самая славутая Галава ў свеце. Пэўна, вы бачылі мяне на гравюры Скарыны ў “Бібліі”, на карцінах Бацічэлі, Кранаха, Караваджа, Рубенса, Рэмбранта, Клімта і іншых мастакоў. Чыталі творы Ганса Сакса, Марціна Опіца, Фрыдрыха Гебля, Томаса Мура, Жана Жыраду, а таксама опусы шматлікіх графаманаў, імёны якіх я не хачу называць. Праўда, з кожным годам канкурэнцыя мне расце: галава Іяана Хрысціцеля, галава Берліоза, галава прафесара Доўля ўрэшце. Асабліва непакоіць мяне папулярнасць Галавы Іяана, з якой мяне часта блытаюць. Хаця я схільны лічыць гісторыю Іяана Хрысціцеля плагіятам. Усё ж такі мая гісторыя здарылася на шэсць стагоддзяў раней. Вобразы Ірадыяды і Саламеі відавочна спісаны з маёй забойцы, а каталіцкія святары лічаць яе нават прадвесніцай Дзевы Марыі, што, на маю думку, з’яўляецца тэалагічнай эквалібрыстыкай і выклікае скептычную ўсмешку.

Жанчына, якая спала, прыхіліўшыся да пастамента, раптоўна прачынаецца і азіраецца навакол.

Ж а н ч ы н а. Які сёння дзень?

Г а л а в а. 14 ліпеня 2016 года. *(Удакладняе.)* Ад нараджэння Хрыстова.

Ж а н ч ы н а. Ты можаш назваць нармальную дату?

Г а л а в а. Трэба прызвычайвацца да сучаснага календара, Юдзіф. 8-га дня месяца тамуза 5777-га года ад стварэння свету, калі ты гэта хочаш ведаць.

Ж а н ч ы н а. Я хачу ведаць, колькі засталося да канца свету. І колькі нам яшчэ пакутваць разам.

Г а л а в а. Чаму ты называеш нашае таварыства пакутай? Мне, напрыклад, прыемна быць з табой разам. У нас ёсць кнігі, карціны, вінілавыя плыты. Пастаў, калі ласка, араторыю Вівальдзі пра маю трагічную смерць, каханая.

Ж а н ч ы н а. Зноў?

Г а л а в а. Ты ж ведаеш, гэта мая ўлюбёная плыта.

Жанчына неахвотна ўстае, знаходзіць сярод кніг і вінілавых плытаў патрэбную і ўключае прайгравальнік. Гучыць арыя Вандроўніка з араторыі Антоніа Вівальдзі “Трыумф Юдзіфі”.

Г а л а в а *(да гледачоў)*. Спачатку я крыўдаваў на яе за сваю ганебную смерць. Але за пару тысячагоддзяў пакуль мы знаходзімся *тут*, перадумаў. Урэшце, гэта ж яна, Юдзіф, зрабіла мяне бессмяротным. Хто цяпер памятае імёны асірыйскіх палкаводцаў, якія былі да мяне і пасля мяне, хто памятае імёны нашых цароў і нават нашых багоў, а імя Алаферна, па-здрадніцку забітага габрэйкай Юдзіф, ведае кожны культурны чалавек. *(Углядаецца ў твары гледачоў.)* Я спадзяюся, тут сабраліся культурныя людзі?

Ж а н ч ы н а *(да Галавы)*. Чым мы будзем займацца сёння?

Г а л а в а. Пачытай мне ўслых адзін з раманаў.

Ж а н ч ы н а. Я стамілася чытаць. Ва ўсіх раманах той самы сюжэт, і ты ведаеш яго на памяць.

Г а л а в а. Можам уявіць сабе візіт у карцінную галерэю. Ты развесіш карціны...

Ж а н ч ы н а. Не. На ўсіх карцінах намаляваны тыя самыя персанажы.

Г а л а в а. Тады будзем слухаць музыку.

Жанчына рашуча выключае прайгравальнік.

Г а л а в а *(нясмела)*. Не хочаш "Трыумф Юдзіфі" Вівальдзі, можна "Перамогу Юдзіфі" Скарлаці.

Жанчына заціскае рукамі вушы.

Г а л а в а. Што ж, можам проста памаўчаць.

Ж а н ч ы н а *(апускае рукі)*. Я стамілася маўчаць... Які сёння дзень?

Г а л а в а. Я табе ўжо казаў.

Ж а н ч ы н а. А колькі засталося да канца свету? Да Божага Суда?

Г а л а в а *(паныла)*. Невядома, які будзе вырак, Юдзіф. І які Бог нас будзе судзіць: твой, мой, а, можа, іхні? А *тут* у нас ёсць кнігі, карціны, вінілавыя плыты. Ёсць мы.

Ж а н ч ы н а. Я не магу больш чакаць. Давай яшчэ раз паспрабуем, Алаферн.

Г а л а в а. Што паспрабуем?

Ж а н ч ы н а. Знайсці выйсце. Зразумець: чаму мы тут, разам?

Г а л а в а. Варвар-язычнік і праведная іудзейка... Не трэба, каханая. Мы зноў заблытаемся, і ты будзеш плакаць.

Ж а н ч ы н а. Апошні раз, я прашу цябе. З самага пачатку.

Г а л а в а (*уздыхае*). Зноў апошні?.. Добра... Пачынай.

Ж а н ч ы н а. Не, пачынай ты. Шчыра. Скажы, чаму ты, медыец, прывёў асірыйскае войска пад сцены майго горада?

Г а л а в а (*да гледачоў*). Я забыўся вас папярэдзіць, шаноўныя. Слова "камедыя" на афішы спектакля зусім не азначае таго, што вас чакае смешнае прадстаўленне. У часы Шэкспіра, якога я лічу узорам для наследавання, камедыяй называліся п'есы са шчаслівым фіналам. Напрыклад: "Камедыя пра ахвяру Аўраама", "Камедыя пра няплоднасць святой Ганны", "Камедыя пра пакуты Хрыста". Зрэшты, і тут мяне агортвае сумнеў. Аўраам не прынёс-такі ў ахвяру свайго сына, Ганна ўрэшце зацяжарыла, а Хрыстос уваскрос. Чым на іх фоне магу пахваліцца я?

## Сцэна другая

Ё н і Я н а распавядаюць гісторыю, якая здарылася амаль тры тысячы гадоў назад. Магчыма, гэта робяць у сваім уяўленні Г а л а в а і Ж а н ч ы н а, магчыма – А л а ф е р н і Ю д з і ф, а магчыма, проста два акцёры-апавядальнікі. Дэкарацыі могуць быць як у шатры Алаферна. Напэўна, прыдасца столік, гляк з віном і два келіхі.

Ё н (*урачыста*). На васямнаццатым годзе свайго панавання асірыйскі цар Навахуданосар абвясціў сябе богам на зямлі. І выклікаў да сябе ваяводу Алаферна, які паходзіў з медыйцаў, і загадаў весці асірыйскае войска на тыя народы, якія яму не скарыліся і не прызналі ягонай боскасці.

Я н а. Якое нахабства! Учора яшчэ піў, гуляў, распуснічаў, а сёння ён – Бог. *(Скептычна.)* Тыповы мужчына.

Ё н. І ўзяў Алаферн сто дваццаць тысяч пешых воінаў і дваццаць тысяч конніцы і павёў іх на Сідон і Суру, Аскалон і Газу, Мааб і Самарыю. І заваяваўшы гэтыя краіны, прымусіў жыхароў адмовіцца ад сваіх ранейшых багоў і шанаваць Навахуданосара.

Я н а. І толькі маленькая Іудзея аказала асірыйскаму войску належнае супраціўленне. Адзіную горную дарогу да Ерусаліму пільнавала крэпасць Вефулія і яе абаронцы пакляліся згінуць, але не пусціць ворага ўглыб краіны.

Ё н *(паціскае плячыма)*. Войска Алаферна у дваццаць разоў перавышала гарнізон Вефуліі.

Я н а. Але побач з мужамі на сценах крэпасці занялі месца жанчыны. Яны гатовы былі кідаць камяні ў захопнікаў, ліць на іх галовы гарачую смалу, а найбольшай адвагай вылучалася ўдава Юдзіф, якая натхняла сваім прыкладам іншых.

Ё н. Толькі Алаферн не збіраўся браць Вефулію штурмам і траціць пад сценамі сваіх лепшых жаўнераў. *(Сядае за столік і налівае ў келіх віна)*. Не паверыце – адзіная крыніца, з якой жыхары горада бралі ваду, аказалася па-за сценамі крэпасці. Алаферн разбіў лагер ля крыніцы і стаў чакаць, пакуль у абаронцаў скончацца запасы вады і яны самі здадуцца на ласку пераможцаў. *(Пацягвае віно.)*

Я н а. Праз тыдзень вада ў гарадскіх цыстэрнах скончылася, Людзі сталі траціць сілы і прасіць, каб старэйшыны здалі горад асірыйцам. Яны казалі: “Хай лепш нас заб’юць, а нашых дзяцей забяруць у палон, чым бачыць, як дзеці паміраюць ад смагі на нашых вачах”.

Ё н. Лагічна. Праўда, Алаферн не збіраўся аказваць ім літасці.

Я н а. І прыйшлі старэйшыны да ўдавы Юдзіф, якая славілася сваёй мудрасцю, праведнасцю, і да яе адзінай прамаўляў Бог, і спыталіся: “Што нам рабіць?”

Ё н *(скептычна)*. Старэйшыны горада прыйшлі параіцца з жанчынай? Больш не было з кім?

Я н а. Але з ёй размаўляў Бог! З адзінай асобай у горадзе!

Ё н *(скептычна)*. А хто тыя размовы чуў?

Я н а *(не слухаючы)*. “На цябе наша апошняя надзея, сястра”, – сказалі старэйшыны Юдзіфі. – Памаліся Богу: можа, здарыцца цуд і Ён варатуе нас з бяды. Інакш давядзецца здаць горад асірыйцам”. І малілася Юдзіф да Бога, а потым адказала старэйшынам: “Так, цуд здарыцца. Не здавайце горад чатыры дні, а на пяты дзень войска Алаферна будзе разбіта. Больш нічога вам пакуль сказаць не магу”. Узрадаваныя старэйшыны адышлі, а Юдзіф апранула свой найлепшы строй, начапіла найпрыгажэйшыя завушніцы, пярсцёнкі, бранзалеткі, нацерлася духмянымі алейкамі і, узяўшы з сабой служку, адправілася ў асірыйскі лагер.

Ё н. Прыбралася, як навагодняя ёлка... А служка ёй была навошта? Не памятаю я ніякай служкі.

Я н а. Не важна. У любым выпадку служка не вінаватая. Юдзіф не пасвяціла яе ў свае планы.

Ё н. Значыць, у яе ўжо былі *канкрэтныя планы*? Яшчэ да таго, як яна прыйшла ў асірыйскі лагер?

Я н а. Не, спачатку канкрэтных планаў не было. Была толькі малітва, якую Юдзіф паўтарала ўсю дарогу. *(Моліцца.)*

Пане Божа, мой уладар,
і ўладар маіх продкаў,
Выслухай маю малітву,
малітву слабой жанчыны,
і дапамажы перамагчы асірыйцаў!
Сабралася іх тысяча тысяч
супраць жменькі Твайго народа,
апанавала іх пыха і бязмежная вера ў сілу
жалезных мячоў і копій.
Але Твая сіла – не ў колькасці мячоў і копій,
а ў справядлівасці і ласцы,
Твая сіла – у вернасці і адвазе
тваіх сыноў і дачок,
якім ты даруеш перамогу:
слабых над моцнымі,
праведных над ганарлівымі!..

Ё н *(нецярпліва)*. Ты чула маё пытанне, дачка Іудзеі?

Я н а (*ачуняўшы*). Што, пане?

Ё н. Назаві сваё імя і скажы, чаму ты прыйшла ноччу ў наш лагер і патрывожыла сон вярхоўнага ваяводы?

Я н а. Я – Юдзіф, дачка Мерарыя, сына Оксы, які быў сынам Елкіі... І я прыйшла, каб дапамагчы табе ўзяць Вефулію.

Ё н. Якім чынам слабая жанчына можа дапамагчы ваяводу двухсоттысячнага войска?

Я н а. Ці ведаеш ты, мой пане, што іудзеі – выбраны народ і Бог заўсёды дарує нам перамогу над любым ворагам?

Ё н. Я чуў такую плётку, але не вельмі веру ў яе.

Я н а. Гэта чыстая праўда. Але пры адной умове – калі мой народ не зграшыць супраць Бога. На жаль, так сталася... Я – вешчка, і ўчора я пачула голас, што Божаму цярпенню прыйшоў канец, і Ён рыхтуе пагібель для Вефуліі і ўсёй Іудзеі. Бог аддасць мой народ на расправу твайму войску. У прызначаны час Бог адыме ў сыноў Іудзеі сілу, яны не змогуць ані ўзняць меч, ані кінуць дзіду, ані нацягнуць цеціву лука. Ты з трыумфам увойдзеш у Вефулію, а потым і ў Ерусалім, не страціўшы аніводнага жаўнера.

Ё н. І не шкада табе сваіх суайчыннікаў, дачка Іудзеі?

Я н а. Я выконваю волю свайго Бога.

Ё н *(разглядае Юдзіф і міжволі пачынае любавацца яе прыгожым абліччам, тонкім станам)*. І раптам зразумеў Алаферн, што вельмі падабаецца яму гэтая жанчына і што калі б яны сустрэліся ў іншых абставінах... *(Рашуча абрывае сваю думку.)* Добра... Юдзіф. Я паверу табе. Табе выдзеляць асобны шацёр, дадуць найлепшую ежу і віно, ніводны жаўнер не асмеліцца ўчыніць табе крыўду. Толькі... Пакуль твой Бог не падасць знак, ты будзеш кожнага дня прыходзіць да мяне ў шацёр і мяне забаўляць. Разумееш, падчас аблогі ў лагеры – страшэнная нуда. Ты ўмееш таньчыць, Юдзіф?

Я н а. Не, але я ўмею спяваць і расказваць цікавыя гісторыі.

Ё н. Што ж, будзеш спяваць і расказваць.

Я н а. І раптам зразумела Юдзіф, што зусім не страшны асірыйскі ваявода Алаферн, а, наадварот, надзіва прыгожы і шляхетны мужчына, і калі б ён не быў яе ворагам, яна магла б... *(Рашуча абрывае сваю думку.)* Тры дні прыходзіла Юдзіф у шацёр да Алаферна і спявала яму, і расказвала розныя гісторыі.

Ё н. І былі прыемныя яму гэтыя сустрэчы, і зусім не хвалявала ваяводу тое, што іудзейскі Бог усё не падаваў знаку на захоп Вефуліі.

Я н а. А на чацвёрты дзень, ідучы ў шацёр Алаферна, Юдзіф адчула, што ўсё-ткі закахалася, як апошняя дурніца! І апанавалі яе роспач і сорам. Там, у Вефуліі, паміралі ад смагі яе браты і сёстры. Калі яна не адважыцца, старэйшыны здадуць Вефулію. Пачнецца разня, гвалт, а потым асірыйскае войска хлыне на Ерусалім...

Ё н *(падыходзіць і абдымае яе)*. Я рады цябе зноў бачыць, Юдзіф! Хто б мог падумаць, што гэтыя тры дні стануцца такімі шчаслівымі? А могуць быць яшчэ шчаслівейшымі. Сёння я загадаў наладзіць пір для ўсяго войска. У твой гонар, Юдзіф. *(Хоча абняць Я е.)* Якая ты прыгожая!

Я н а *(вызваляецца з абдымкаў)*. Хіба мала ў цябе было прыгожых каханак, Алаферн? Медыек, асірыек, егіпцянак...

Ё н. Шмат, але іхняя прыгажосць – як багатыя строі, якія з прыемнасцю апранаеш, а потым складваеш у куфар і забываешся пра іх. Ты – іншая, Юдзіф. Калі ты ўпершыню ўвайшла ў мой шацёр, нібы маланка працяла неба, у паветры запахла навальніцай. Ты прыцягваеш мяне і адначасова адштурхоўваеш. У табе тоіцца нейкая небяспека, нейкая таямніца...

Я н а. А цябе небяспека натхняе. Ты бавішся са мной, як котка з мышкай.

Ё н. Ты спявала для мяне песні, расказвала пра сваё дзяцінства і замужжа, пра свае вінаграднікі і аліўкавы сад, якія ты так любіш. І мая душа прыляпілася да тваёй душы...

Я н а. А ты расказаў мне пра сваю маленькую радзіму, як ты стаў заложнікам пры асірыйскім двары, пра інтрыгі, перавароты, пра ваенныя выправы і перамогі, якія прынеслі табе славу... І маё цела пацягнулася да твайго цела...

Ё н. Юдзіф, мы падышлі з табой да рысы, за якой нас чакае нешта вялікае. Але чамусьці баімся пераступіць гэтую рысу. Я не магу цябе няволіць. Але, павер мне, нашая сустрэча была непазбежная, як смерць, гэта падарунак багоў, фатум. *(Налівае сабе і Ёй віна ў кубкі.)* Пасля таго, як я выканаю загад Навахуданосара, я забяру цябе ў Нінею, мы будзем жыць з табой шчасліва ў шыкоўным палацы.

Я н а. Не, Алаферн. Я не змагу быць шчаслівaю без сваіх вінаграднікаў і аліўкавых дрэў, без маленькай Вефуліі і святога Ерусаліма. Калі іх не стане, не стане і мяне.

Ё н. Ну, хочаш, я не буду разбураць Вефулію і Ерусалім і дарую жыццё ўсім тваім суайчыннікам?

Я н а *(уражаная)*. Такое магчыма?

Ё н *(паціскае плячыма)*. Чаму не? *(Жартаўліва.)* Можа, твой Бог перадумаў караць свой народ і таму каторы дзень не адзываецца?

Я н а. Але калі мой Бог праявіць літасць ці праявіць яе цар Навахуданосар? *(Заклапочана.)* Што будзе з табой, калі ты павернеш войска і з'явішся да цара, не заваяваўшы Іудзею?

Ё н. А чаму ты вырашыла, што я павярну войска? Я ўчыню з Іудзеяй тое, што ўчыніў з Маабам: увайду ў Вефулію і Ерусалім, але не буду разбураць гарады і выразаць жыхароў. Проста пакіну там свае гарнізоны і прымушу жыхароў пакланяцца Навахуданосару як Богу. Цар будзе задаволены.

Я н а *(у адчаі)*. Але гэта немагчыма!

Ё н *(не слухаючы)*. Праўда, будуць незадаволеныя мае жаўнеры, якім пасля доўгай асады хочацца выпусціць пар і пажывіцца здабычай. Але я аддам ім сваю долю здабычы з заваяваных раней гарадоў.

Я н а. Ты нічога не зразумеў, Алаферн! Ні я, ні мой народ ніколі не адмовімся ад свайго Бога і не прызнаем богам Навахуданосара!

Ё н. Але чаму?! Вы захаваеце жыццё, захаваеце свае гарады, краіну! Навахуданосары прыходзяць і сыходзяць, нават Асірыйская імперыя не вечная. Думаеш, мне прыемна называць Навахуданосара богам? Успрымайце гэта як часовы манеўр!

Я н а. Нельга манеўраваць тысячы гадоў. Калі б мой народ хоць раз адмовіўся ад свайго Бога, то даўно знік бы, як ручай у пясках пустыні.

Ё н. Твой Бог самалюбны і жорсткі, Юдзіф! Хіба добры Бог вынішчаў бы свой выбраны народ, хіба загадаў бы слабой жанчыне ісці ў лагер ворагаў?

Я н а. Давай не будзем спрачацца на тэалагічныя тэмы, а то яшчэ пасварымся... Налі нам лепш віна.

Ё н *(апамятаўшыся)*. І сапраўды. *(Налівае ў кубкі віна.)*

Я н а. Ты сказаў, што мы падышлі з табой да рысы, за якой нас чакае нешта вялікае. Мы будзем піць віно, я буду спяваць для цябе, і, можа, нарэшце, адважуся.

Ё н. Няхай так станецца!

Ё н выпівае віно, а Я н а пачынае ціха спяваць.

Я н а *(спявае)*.

Я начамі на ложку шукала
каханага сэрца майго,
я шукала яго, не знайшла.
Устану і горад увесь абыду,
па вуліцах і завулках
шукацьму таго,
каго сэрцам кахаю,
я шукала яго, не знайшла.
Сустрэлі мяне вартавыя,
што па горадзе йшлі дазорам:
“Ці бачылі вы, каго сэрцам кахаю?”
Толькі я іх мінула,
як знайшла, каго сэрцам кахаю;
прывяла ў дом сваёй маці,
у свяцёлку роднае маці сваёй[1]...

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Сцэна трэцяя

На пастаменце пасярод сцэны – чалавечая Г а л а в а. Валасы на Г а л а в е ўскудлачаны, вочы шалёна гарацьЬ. Насупраць пастамента стаіць Ж а н ч ы н а ў пагрозлівай позе з узнятымі ўгору рукамі.

На заднім плане ўзвышаецца гара запыленых кніг, карцін, вінілавых плытаў, якая стала яшчэ большай.

Г а л а в а. Сука! Забіць спячага чалавека, адсекчы яму галаву як барану!

Ж а н ч ы н а. Жарабец! Ты пяліўся на мяне з першай сустрэчы, адно было табе ў галаве, як зацягнуць мяне ў ложак!

Г а л а в а. Ты ўвесь час хлусіла мне. Ніводнага слова праўды я не пачуў з тваіх вуснаў!

Ж а н ч ы н а. А ты пагражаў мне і страшыў, што выражаш увесь мой народ!

Г а л а в а. Ён таго заслугоўваў, твой народ, калі нарадзіў такую яхідну, як ты! Меў рацыю Гітлер, калі казаў, што характар Юдзіфі ўвасабляе найгоршыя рысы габрэйскай нацыі!

---

[1] Фрагмент “Песні песняў” у перакладзе Васіля Сёмухі.

Ж а н ч ы н а. Антысеміт чортаў!

Г а л а в а. Сіяністка саматужная! Хто выхваляўся, што прысвячае свой подзвіг узвышэнню Іудзеі?

Ж а н ч ы н а. А ты – дэгенерат! Ты здрадзіў свайму народу, і, як шакал, пабег лізаць лапы асірыйскаму тыгру.

Г а л а в а. Так, бо меў галаву на плячах і не спрабаваў затрымаць лакаматыў гісторыі, але ўскочыў на ходу ў цягнік і паехаў у патрэбным кірунку.

Ж а н ч ы н а. З-за такіх канфармістаў як ты, уся гісторыя рушыла ў памылковым кірунку і хутка зваліцца пад адхон! Забыўся, якую разню ўчыніла твая армія ў Сідоне і Суры, у Аскалоне і Газе?

Г а л а в а. Не, гісторыя зваліцца пад адхон з-за такіх як ты! Ты была першаю тэрарысткай у свеце і ўсе рэвалюцыянеры, фашысты, ісламісты – твае ўдзячныя паслядоўнікі. Тваё імя напісана на іх сцягах!

Ж а н ч ы н а. Няпраўда! Я не ўзрывала нявінных дзяцей і жанчын, я забіла ўзброенага ворага, каб дзяцей і жанчын выратаваць ад смерці.

Г а л а в а *(абурана)*. Узброенага? Якога ты зацягнула ў ложак і напаіла да бяспамяцтва віном?

Ж а н ч ы н а. А што мне было рабіць: на двубой цябе вылікаць? Я карысталася той зброяй, якую мела, і ўчыніла так, як загадаў мне Бог!

Г а л а в а. А ты ўпэўнена, што гэта быў Бог? А можа, Д'ябал? А, можа, увогуле не было ніякага Голасу Адтуль, толькі твае хворыя амбіцыі ды трызненні?

Ж а н ч ы н а раптам нерухомее, а потым бязвольна асоўваецца на падлогу.

Г а л а в а *(пагардліва)*. Бог загадаў ёй ратаваць Айчыну... Жанна Д'арк знайшлася!

Ж а н ч ы н а не адказвае.

Г а л а в а *(не можа супакоіцца)*. Што маўчыш? А можа, цябе ўвогуле ніколі не існавала і Марцін Лютэр меў рацыю, назваўшы гісторыю Юдзіфі паэтычнай выдумкай?

Ж а н ч ы н а плача.

Г а л а в а. Ну, вось, зноў слёзы. Навошта было ўсё раскручваць ад пачатку? Я ж казаў, чым гэта скончыцца.

Ж а н ч ы н а *(узнімае вочы)*. Так, не было ніякага Голасу. Я схлусіла.

Г а л а в а (*не разумее*). Ты пра што?

Ж а н ч ы н а *(скрозь слёзы)*. Яны прыйшлі да мяне і сказалі: "На цябе наша апошняя надзея. Памаліся Богу: можа, здарыцца цуд і ён выратуе нас з бяды?" А Бог маўчаў, ён даўно ўжо не размаўляў са мной. А яны чакалі. Паміралі ад смагі і голаду. І я не вытрымала. Сказала, што чула Голас і здарыцца Божы цуд, які выратуе Іудзею. І зрабіла тое, што зрабіла.

Г а л а в а. Вось дык сюрпрыз...

Ж а н ч ы н а. Можа, таму мы цяпер *тут*. Разам. Прабач.

Г а л а в а *(прымірэнча)*. Я ўжо казаў, што больш не крыўдую. Мне прыемнае тваё таварыства. У нас ёсць кнігі, карціны, вінілавыя плыты...

Ж а н ч ы н а *(вінавата)*. Хочаш, я пачытаю табе ўслых?

Г а л а в а. Давай. Можа, з'явілася пра нас нешта новае?

Ж а н ч ы н а выбірае з груды кніг невялікую кніжачку ў каляровай вокладцы, адкрывае наўздагад і зачытвае ўрывак.

Ж а н ч ы н а. Надар Джын. “Пять повестей о суете”: “За этим она к нему и метнулась: крутить ему яйца во имя родного Петхаина. Крутила ночь, две, а когда генерал приустал, чик – и снесла Олохрену кочан. Это ведь тоже радость: свалить в корзинку кочан! Прибежала с корзинкой в свой Петхаин и потребовала прописки прямо в Библии: я, мол, послужила родному народу! Но ведь никто ж не подглядывал, как послужила-то! И никто не знает – почему послужила-то!”

Г а л а в а. Хопіць! Змоўч!

Доўгая паўза.

Ж а н ч ы н а *(нерашуча)*. Можа, пачытаць класіку? Ахматаву, Гумілёва?

Г а л а в а. Класіку ўсе ведаюць на памяць. У школе вучаць. *(Да гледачоў.)* Ведаеце, хто напісаў: “понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобныя боронять ульев своих, – тако ж и люди, игде зародилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають”? Гэта пра яе... *(Да Жанчыны.)* Пастаў лепш музыку, каханая. Араторыю Вівальдзі “Трыумф Юдзіфі”.

Ж а н ч ы н а *(усміхаецца)*. Зноў?

Г а л а в а *(задаволена)*. Ты ж ведаеш, гэта мая ўлюбёная плыта.

Ж а н ч ы н а знаходзіць сярод вінілавых пласцінак патрэбную і ўключае прайгравальнік. Гучыць арыя Вандроўніка з араторыі Антоніа Вівальдзі “Трыумф Юдзіфі”.

## Сцэна чацвёртая

На сцэне засталася толькі Я н а, якая распавядае заканчэнне гісторыі Юдзіфі.

Я н а. Калі раніцай пятага дня вярнулася Юдзіф у Вефулію, збегліся ўсе жыхары горада, бо ўжо не спадзяваліся пабачыць яе жывой. Юдзіф дастала з торбы галаву Алаферна і сказала: “Забіў яго ўсемагутны Бог маёй слабой рукою”. І насадзілі яны галаву Алаферна на дзіду і рушылі адважна на лагер асірыйцаў. Убачыўшы галаву свайго забітага ваяводы, асірыйцы злякаліся і кінуліся ўцякаць, а іудзеі гналіся за імі і забівалі на ўсіх дарогах і сцежках. І загінула ў той дзень восемдзесят тысяч асірыйцаў, а сыны Іудзеі, захапіўшы багатую здабычу, святкавалі перамогу. Усё, канец гісторыі. *(Хоча пакінуць сцэну).*

На сцэну выходзіць Ё н.

Ё н. Пачакай, не сыходзь. Ты павінна расказаць пра тое, як Юдзіф жыла далей і як яна памерла.

Я н а. Навошта?

Ё н. Такое правіла.

Я н а. Жыла сабе ў спакоі і самоце. Нікога не чапала, нікога больш не забіла. Не захацела выходзіць замуж, хоць ёй і прапаноўвалі.

Ё н. А пра ліст святара Іякіма не раскажаш?

Я н а. Не хачу.

Ё н. Тады раскажу я. Вельмі павучальная гісторыя. Аднойчы прыйшлі да Юдзіфі старэйшыны горада і сказалі: “Будзь благаславёна, сястра,

выбранніца Бога і гонар нашага народа! Мы напісалі ліст да вярхоўнага святара Іякіма ў Ерусалім з просьбай прызнаць цябе святой праведніцай і ўключыць гісторыю пра твой подзвіг у кананічныя кнігі Тамаху".

Я н а. Навошта яны пісалі? Хто іх прасіў?

Ё н. У знак удзячнасці жыхароў Вефуліі. Для горада вялікі гонар мець сярод ураджэнцаў святога праведніка. Асабліва для такога маленькага горада, як Вефулія. Старэйшынам здавалася, што ты цалкам заслугоўваеш гэтае званне. І вось, нарэшце, прыйшоў адказ з Ерусаліма. Спецыяльная камісія вучоных мужоў разглядала тваю справу і прыйшла да высновы, што ты не заслугоўваеш звання святой праведніцы. *(Зазірае ў ліст Іякіма.)* Папершае, ты мусіла хлусіць асірыйцам наконт сваіх намераў і планаў Бога. Па-другое, ты спакушала Алаферна сваім выглядам і салодкімі словамі. Па-трэцяе, ты заставалася з ім сам-насам, і ніхто не ведае, што адбылося паміж вамі ў шатры. Па-чацвёртае, ты ўсё-ткі забіла спячага чалавека... І так далей. Што да гісторыі пра твой подзвіг, яе не ўключаць у святыя кнігі Тамаху, але дазволяць іудзеям чытаць як апокрыф.

Я н а. Прашу вас, пакіньце мяне, я хачу толькі цішыні і спакою!

Ё н. І яны пакінулі цябе назаўсёды, праўда? Жыхары горада былі ўдзячныя табе за выратаванне, але больш не прыходзілі пытацца парадаў і перадаць іхнія просьбы Богу. Ты таксама рэдка выходзіла з дому, і так самотніцай пражыла 105 гадоў... Доўгае жыццё – гэта ўзнагарода ці пакаранне?

Я н а. Прашу, не трывож мяне!

Ё н. Я толькі хацеў табе яшчэ сказаць. Хацеў, каб ты ведала... Напярэдадні той апошняй ночы да Алаферна прыйшоў ягоны дарадца і патрабаваў, каб цябе пакаралі смерцю як лазутчыцу. Асірыйскія шпегі данеслі, што ўся Вефулія чакае цуду, які абяцала ўдава Юдзіф. Навошта рызыкаваць? Але Алаферн не згадзіўся і выгнаў дарадцу. Бо ён цалкам даверыўся табе, Юдзіф. І шчыра цябе пакахаў...

Я н а *(ціха)*. Я ведаю.

Ё н пацiскае плячыма і адыходзіць. Я н а доўга стаіць нерухома і ўглядаецца некуды ў далеч. Паступова перад яе вачыма ўсплывае відзеж: ці то ўспамін пра былое, ці то мара пра няздзейсненае. Яна бачыць сябе ў шатры А л а ф е р н а, з адзіным мужчынам, якога пакахала ў сваім жыцці. Шчаслівая Ю д з і ф сядзіць на ложку, радасны А л а ф е р н ляжыць, паклаўшы галаву ёй на калені.

А л а ф е р н. Вось я і сустрэў цябе, выбранніца мая.

Ю д з і ф. І я сустрэла цябе, выбраннік мой.

А л а ф е р н. І мая душа прыляпілася да тваёй душы.

Ю д з і ф. А маё цела пацягнулася да твайго цела.

А л а ф е р н. Нашая сустрэча была непазбежная, як смерць...

Ю д з і ф. Нашае каханне будзе доўгае, як жыццё...[1]

З а с л о н а

[1] А магчыма, ніякага відзежа Я н а і не ўбачыла, а проста пачула песню, якая даносілася аднекуль здалёк:

Я начамі на ложку шукала
каханага сэрца майго,
я шукала яго, не знайшла.
Устану і горад увесь абыду,
па вуліцах і завулках,
шукацьму таго,
каго сэрцам кахаю,
я шукала яго, не знайшла...

Уільям Батлер Ейтс



...Бо сёння на свет прыйшла
Жахлівая прыгажосць...

# Высокі стыль

### МАГІ

Сёння, як і заўсёды, мне з'яўляюцца ў мроях,
Крочаць па нітачцы неба ў велічнай вышыні –
Бледныя постаці ў шорсткіх размаляваных строях,
Твары старыя, бы злівай размытыя камяні.
Трое ў срэбных шаломах век не могуць спыніцца,
Бо ў нерухомых вачніцах вечная прага жыве
Праз шаленства Галгофы ўбачыць зноў таямніцу,
Праз людскую батлейку – цуд у бедным хляве.

### ПЛАШЧ

Я вышыў песню-плашч,
Дзе кружаць міфы ў танцы,
Схаваўшы ў вышыванцы
Смех і плач.

*Пераклад
з ангельскай
Андрэя
ХАДАНОВІЧА.*

Ды блазнаў панабегла,
Схапілі, хто паспеў,
І ў ім фарсяць нягегла.
Што зробіш? Дай дазвол ім:
Больш велічы, мой спеў, –
Застацца голым.

## *КРЫЧАЎ П’ЯНЫ ЖАБРАК*

“Час дзёру даць, бо тут я ледзь жывы!
Бліжэй да хваляў, ветру і травы, –
Крычаў п’яны жабрак зусім п’яному, –
Цяжар з плячэй, і думкі з галавы”.

“Час выбраць жонку, высадзіць гарох
Ды выгнаць з ботаў дэманаў дарог, –
Крычаў п’яны жабрак зусім п’яному, –
І д’ябла, што лютуе паміж ног”.

“Што жонка? Шмат турботы, мала ўцех:
Захамутае і ўсчынае брэх, –
Крычаў п’яны жабрак зусім п’яному, –
Бо дзе люстэрка, там смяротны грэх”.

“Не варта браць багатую, яны
На грошыкі палююць да труны, –
Крычаў п’яны жабрак зусім п’яному, –
А пажартуеш – дойдзе да вайны”.

“Лепш сам чагосьці ў свеце дасягні,
Расці свой сад, каб там завершыць дні, –
Крычаў п’яны жабрак зусім п’яному, –
Калі паклічуць гусі ў вышыні”.

## *РЫБАК*

З вяснушкамі, як заўжды,
Ён помніцца мне, ідучы
З вудай да шэрай вады
У мясцовым шэрым плашчы.
Кідае ў хвалі мух –
І не знікае ніяк
З памяці гэты дух,
Просты й мудры рыбак.
Я зноў гляджу яму ў твар,
Нібы намацваю рух
Уласных прыгожых мар –

І брыдкага свету наўкруг:
Мёртвых, якіх я любіў,
Жывых, якіх не люблю,
Горшых, што лепшым на здзіў
Маю захапілі зямлю, –
Дзе сіла і права ў маны,
Дзе ўсім валадарыць хам;
Дзе вучыць блазнюк п’яны
На смех п’яным блазнюкам;
Дзе ліхадзейства і спрыт
Даўно задзерлі насы,
А Мудрасць плача наўзрыд
Над беднай труной Красы.
...Зіма і лета міне,
Шмат летаў міне і зім,
Але не забыцца мне
Пра гэту сустрэчу з ім –
Постаць у шэрым плашчы,
Той, з вяснушкамі, дух
З вудаю на плячы;
Лёгкі запясця рух –
І лёска ляціць сама
За мухаю ў глыбіню...
Той, якога няма,
Той, якога я сню,
Якому, пакуль не стары,
Верш напісаць хачу –
Свежы, як першай зары
Палкі прамень уваччу.

### ***КОТ І ПОЎНЯ***

Кружыў чорны кот па траве.
Поўня плыла ўгары.
Кот, нібы родны брат,
Сачыў за рухам сястры.

На вільготнай траве
Сляды ад пяці кіпцюроў.
У халодным святле
Гарэла дзікая кроў.

Кружыў чорны кот Міналуш
Паўз хмызнякі і стаў –
Так, нібы танец сястры
Ўласным танцам вітаў.

Патанчы з ёй, чорны кот,
Не ўмее, як ты, – навучы:
Бо ад нябесных манер
Лепшыя – танцы ўначы.

Глядзі на яе, Міналуш,
На розныя фазы яе,
Як поўня змяняецца й быць
Поўняй перастае.

Ведай, такі і твой лёс,
Бо і ў каціным жыцці –
З ветахамі старэць,
З маладзікамі расці.

Чорны кот Міналуш
Сочыць за ёю цішком,
І зрэнкі яго гараць
То поўняй, то веташком.

## *ВЯЛІКДЗЕНЬ 1916*

Я сустрэў іх – постацяў шэраг,
Што ішоў, у святле на заходзе,
Паўз будынкі з цаглінаў шэрых
Васямнаццатага стагоддзя.
Я вітаўся з гэтым і з тым,
Ціснуў рукі камусьці з імпэтам,
Супыняўся ды словам пустым
Перакідваўся з тым і з гэтым.
Я думаў, што словы – стары
Спосаб вярзці чухню,
Каб рагаталі сябры
У клубе, каля агню;
Што ў цырку дабра і зла
Ты вечна жаданы госць, –
Пакуль на свет не прыйшла
Жахлівая прыгажосць.

Жанчыну згадаю адну:
Штодня на службе лухты,
Ды ўночы не ведала сну
У спрэчках да хрыпаты;
Як соладка голас звінеў,
Калі звера гнала па полі,
Уся – юнацтва і гнеў!
Другі працаваў у школе,
А ўночы лез на Парнас.

Трэці з ім ішоў, след у след,
І аднойчы таксама нас
Мог здзівіць і скарыць сусвет –
Столькі жарсці ён меў, малады,
Столькі думак выношваў цішком.
А чацвёрты здаваўся заўжды
Мне п’яным вясковым хвальком.
Ці забуду крыўды, што ён
Той, хто любая сэрцу, прынёс?
Але й гэты спыніў свой сон,
Калі перайначыў свой лёс,
Шаты блазна спаліў датла,
Бо змянілася ўсё, што ёсць,
Калі ў свет нарэшце прыйшла
Жахлівая прыгажосць.

Сэрца, што хоча адно
Біцца ў спёку і стынь,
Ідзе, бы камень на дно,
У жыцця трывожную плынь.
Бо верхавец на кані,
Бо птах на крылах сваіх,
Бо хмары ў сваёй вышыні
Змяняюцца кожны міг;
І цень ад хмараў ідзе
Дарогамі віднаты;
Плёскаюць па вадзе
Конскія капыты;
І качка, што дасць нырца
На даляглядзе самца,
Жыве жыццё да канца...
А камень не мае канца.

Столькі ахвяр, што пасля
Ў сэрцы – камень турмы.
Колькі трываць зямля?
Ведае неба, а мы –
Не забываць мем імён,
Кажучы іх у суцём,
Як маці праз стому і сон
Гаворыць з заснулым дзіцём.
Ці ноч люляе іх сон?
Не, не ноч, але смерць!
Ці ёй служыў наш праклён,
Пагібелі крутаверць?
Ці помніць Англія тых,
Хто смерць прымаў талакой?
Хіба ад мрояў такіх,

Хіба ад любові такой
Твой сябра гіне і брат,
І хваля крыві – праз пірс?
А вашы імёны – МакБрайд,
МакДонах, Коналі, Пірс –
Навечна ў краіне святла,
Дзе ўсім нам зялёнага досць!
Бо сёння на свет прыйшла
Жахлівая прыгажосць.

### *РУЖЫ*

“На вецер, – кажа Патрык Пірс, –
Ляцела слоў так шмат,
Што горкі вецер высушыў
Ірландскіх ружаў сад,
Яго зялёныя лісты
Не вернуцца назад”.

“Наш сад, – сказаў Джэймс Коналі, –
Зазелянее зноў,
Давай старанна паліваць,
І ружу нашых сноў
З табой наяве вырасцім
Для дочак і сыноў”.

“А дзе нам, – кажа Патрык Пірс, –
Узяць вады, калі
Засохлі ўсе калодзежы?
Каб ружы расцвілі,
Палітыя, нам трэба кроў
Аддаць сваёй зямлі!”

### *ПАЛІТЫЧНАЙ ЗНЯВОЛЕНАЙ*

Ёй, нецярплівай з юных год,
Так шмат цярпення далі страты, –
Аж чайка абарве палёт
Каля вязніцы, на дварэ,
Сядае да яе на краты
І смела ежу з рук бярэ.

Кранула шэрае крыло –
І так выразна праступае,
Што цьмяным некалі было:
Між палымяных змагароў
Вяла сляпых, сама сляпая,
З усімі падаючы ў роў?

Я помню, як наўскапыта
Між гор ляцела па-над страхам,
Уся – парыў і пекната,
Была крылатаю амаль,
Нібы народжаная птахам
Для гор і акіянскіх хваль:

Упершыню ўцячы з гнязда
Туды, дзе ўсё шырэй прастора
І ўсё люцей кіпіць вада;
Глядзець на штармавы прасцяг
І чуць, як б’ецца сэрца мора,
Пульсуючы ў яе грудзях.

## *“А Я – З ІРЛАНДЫІ”*

“А я – з Ірландыі,
Я са святой Ірландыі,
Жыццё адно і я адна,
Хадзем са мной, – звала яна, –
Патанчым у Ірландыі”.

Адзін гуляка малады
У чужаземным строі,
Адзін з вясёлай грамады,
Сказаў: “Няма настрою,
І тут патанчым давідна,
Туды ж – яшчэ дакроч,
Жыццё адно і ты адна,
І бура на ўсю ноч”.

“А я – з Ірландыі,
Я са святой Ірландыі,
Жыццё адно і я адна,
Хадзем са мной, – звала яна, –
Патанчым у Ірландыі”.

“Там скрыпачы п’яныя,
Паскудныя смыкі,
Трамбон не грае – ные,
На трубах – лайдакі,
Ад бубнаў ломіць косці,
Літаўраў не чутно... –
Прамовіў госць са злосцю, –
Але жыццё адно...”

"А я – з Ірландыі,
Я са святой Ірландыі,
Жыццё адно і я адна,
Хадзем са мной, – звала яна, –
Патанчым у Ірландыі".

## *ЯЕ ТРЫУМФ*

Я з цмокам побач пражыла так шмат,
Я верыла, што воля цмока – воля,
Я думала, кахаць – такі абрад:
Паклон, хусцінка, правілы і ролі.
Я лётала ў нябёсах той гульні,
Разважна, гарманічна, недалёка.
Калі ты ўдарыў па яго брані,
Смяялася... А ты адолеў цмока.
Рассыпаліся кольцы-ланцугі,
Георгій ці Персей – хто даў мне волю?
І б'ецца мора ў нашы берагі,
І невядомы птах крычыць ад болю.

## *ПЕСНЯ З ДРАМЫ "АДЗІНАЯ РЭЎНАСЦЬ ЭМЭР"*

Прыгажосць жанчыны – яна такая:
Толькі скончыўся шторм, і птушка марская,
Белая птушка на досвітку, на раллі
Адпачывае самотна ад хваляў грозных,
Белая крохкая птушка ў цёмных барознах,
Белая птушка ў барознах цёмнай зямлі.

Колькі душа аддала
Высілкаў і гадоў,
Зорнай моцы святла,
Чорнай працы кратоў,
Пракладаючы след
Генію з рамяством, –
Каб запоўніўся свет
Такім хараством.

Нетутэйшая рэч, што прынеслі штормы,
Нібы марскую чарупіну рэдкай формы,
Як і адкуль, не ведаючы сама,
У пяску прыбярэжным ляжыць нясмела,
Ноч мінула, бура ўжо адшумела,
Ноч мінула, а ранку яшчэ няма.

Колькі, творачы лад,
Зведалі болю й слёз,
Колькі путаў і крат
Вольны розум прынёс,
Колькі вынеслі бед,
Смерць віталі жнівом, –
Каб запомніўся свет
Такім хараством.

### *І ЎСЁ?*

“Ён дасягне ўсяго ў жыцці,
Ён першы ў школе зух!..”
І хлопец знаў, куды расці,
Чытаў-зубрыў да трыццаці...
“І ўсё? І ўсё?” – свістаў Платонаў дух.

Яго любілі чытачы,
Ён зарабляў за двух,
Меў плён з бяссонняў уначы,
Сябрам спяшаўся памагчы...
“І ўсё? І ўсё?” – свістаў Платонаў дух.

Усё, што сніла маладосць,
Прыйшло з гадамі ў рух, –
Ёсць жонка, сын з дачкою ёсць,
Капусты досць і сліваў досць...
“І ўсё? І ўсё?” – свістаў Платонаў дух.

Ён пастарэў, але імпэт
З гадамі не патух!
Хай дурні кажуць: “кволы дзед”,
Ён жыў – і ўсё зрабіў, як след...
Ды ўсё гучней свістаў Платонаў дух.

### *ВАДАМЕРКА*

Каб не загінуў на дальняй мяжы
Цывілізацыі сын,
Сціш сабаку, каня прывяжы –
Хай у намёце, адзін,
Добра абдумае кожны манеўр
Цэзар бяссонны ўночы:
Рукі на мапе, наструнены нерв,
Ён і нішто – вочы ў вочы.

І, як вадамерка над глыбінёй,
Плыве яго думка ў моўчы.

Каб найвышэйшым вежам гарэць,
Каб лепшы аддаў жыццё,
Яна расце, жанчына – на трэць,
На дзве трацiны – дзiцё.
Мужу і гораду на бяду,
Юныя ногі самі
Без лішніх сведкаў шліфуюць хаду,
Адточваюць рухі начамі.

І, як вадамерка над глыбінёй,
Плыве яе думка ў маўчанні.

Каб дзевам прыходзіў у сны Адам,
Згодна закону плоці,
Выгані дзетак з капэлы – там
Творыць Буанароці.
На рыштаваннях павіс – і цішэй
Ад найцішэйшай мышы,
З кожным рухам вышэй і вышэй,
Вечнасць між высяў вышыў.

І, як вадамерка над глыбінёй,
Плыве яго думка ў цішы.

### ***ДЖОН КІНСЭЛА ПЛАЧА ПА МЭРЫ МУР***

Хваробы, кулі ці нажы,
Атрута ці пятля
Бяруць, хто любы, й не кажы
Адкласці на пасля.
Ёсць брат і швагер, ды не лёс:
Бязносая карга
Рашыла, што заб’е ўсур’ёз,
Што Мэры Мур чарга.
Я з ёю піў і еў за двух
Ды ў ложку меў настрой, –
І што мне тузін юных шлюх
Без любае старой?

Упартая – не збіць цаны,
Бо знала кошт сабе,
Але й кахала без маны,
У радасці й журбе.
Ад ейных жартаў неўспадзеў
Крывіла святароў,

А я да ранку маладзеў,
Аж закіпала кроў.
Яна была, як добры дух,
Сяброўкай і сястрой, –
І што мне тузін юных шлюх
Без любае старой?

“Калі б не грэх, – казаў святар, –
Які ўчыніў Адам,
То людзі б атрымалі ў дар,
Эдэмскі сад, а там –
Кахалі б жонкі гарачэй
І муж быў маладзён.
Там для кахання шмат начэй
І для сяброўства дзён.
Там не бывае завірух,
Там хлебушак з ікрой...”
Ды што мне тузін райскіх шлюх
Без любае старой?

## ***ВЫСОКІ СТЫЛЬ***

Які ж карнавал без хадуляў? Не тыя радасць і здзіў!
Мой прадзед на шасціметровых падпорках спрытна хадзіў.
Я меў на два метры меншыя, – няма былой вышыні! –
Ды нейкі паскуднік падпёр імі плот ці проста спаліў у агні.

Што дзеткам, як танчаць мядзведзі і малпы вісяць на хвастах?
Герой – той, хто зорачку з неба дастане на двух шастах.
Жанчыны на трэцім паверсе за працай знудзіліся ўшчэнт
Без твару, што іх напужае ў акне, – вось і бяру інструмент.

Я ваш Якуб-на-драбіне, першы на фэстах прарок,
Ды ўсё, што ў жыцці я ведаў, – змяняецца кожны крок.
Ды ўсё, на што здольныя людзі, – хадульна, куды ні кроч.
Дзікія гусі гукаюць святло, кроячы крыламі ноч.
Брыду на хадулях у заўтрашні дзень, у вусціш яго і жудзь.
Марскія коні світанку з мяне на ўсе зубы іржуць.

## ***ПРЫВІДЫ***

Ёсць тэмы, што не выклікаюць крыўдаў
І кпінаў... Я апісваў людзям прывідаў.
Не мудрагеліць шмат узяў за правіла,
Бо слухачоў не вельмі і цікавіла,
Ці забабоннейшы за іншых зданяў
Герой маіх легендаў і паданняў.

Я знаў пятнаццаць прывідаў і духаў.
Найгоршы быў мой плашч, што рукавамі рухаў.

Майго жыцця найлепшая палова –
Самота, зразумелая з паўслова:
Адданы сябра будзе слухаць споведзь
Да поўначы – і паўнамёкі зловіць,
За жартамі хаваючы сумнеў,
Бо анічога зноў не зразумеў.

Я знаў пятнаццаць прывідаў і духаў.
Найгоршы быў мой плашч, што рукавамі рухаў.

Чым болей чалавек старэе, тым
Менш яго сэрца робіцца пустым,
Тым болей радасць сіламі напоўніць,
Якія прыдадуцца. Варта помніць,
Як хутка прыйдзе Ноч, а з ёю тая,
Што ўсе загадкі й страхі разгадае.

Я знаў пятнаццаць прывідаў і духаў.
Найгоршы быў мой плашч, што рукавамі рухаў.

### *ЧОРНАЯ ВЕЖА*

Кажуць, на чорнай вежы даўно
З ежы адно сухары,
Грошай нямашака, скісла віно,
Кіснуць з нуды ваяры,
Ды помніць прысягу баец на мяжы:
Не пройдзе штандар чужы.

Стоячы ў трунах, спяць мерцвякі,
Ды з берага дзьмуць вятры –
І скаланае ў старой гары
Ад ветру косткі старыя.

Хабар прыносіць варожы шпег,
Кажа, што ўсё дарма,
Кажа, што мудры б даўно ўжо збег,
Бо караля ўжо няма.
Што вам за мёртвых ісці на мячы?
Уцякайце ўначы.

Тут, у магілах, гіне святло,
Ды з берага дзьмуць вятры –

І скаланае ў старой гары
Ад ветру косткі старыя.

Кухар-махляр, што нам для сняданку
Птушак лавіў на мурох,
Слёзна кляўся, што нам на світанку
Трубіў каралеўскі рог.
Але ён брэша, сабака стары:
Хто прысягаў, на муры!

Тут, у магілах, нас душыць змрок,
Ды з берагу дзьмуць вятры –
І скаланае ў старой гары
Ад ветру косткі старыя.

СЛОВЫ

## Алена Васілевіч



...ніяк не ўяўляю лёсу роднай Мовы, калі ў суверэннай краіне зачыняюцца беларускія школы...

# Вяртаючыся да пачатку

***Гутарка Леаніда Галубовіча з Аленай Васілевіч***

*З Аленай Сямёнаўнай Васілевіч мы таварышуем, так ахарактарызуем нашыя адносіны, больш за дваццаць гадоў. У 1981 годзе ў сваёй "лімаўскай" публікацыі яна працягнула руку ў самы цяжкі перыяд жыццёвага і творчага пералому вясковага электрыка і пачынаючага паэта Лёні Галубовіча. А неўзабаве стала і першым "пальмянскім" рэцэнзентам майго дэбютнага паэтычнага зборнічка ў далёкім 1984 годзе. Пазнаёміліся ж мы пазней. І амаль адразу сышліся ва ўнутраным адчуванні сутнасці жыцця і мастацкай творчасці. З таго часу сустракаліся, а цяпер (мабыць, ужо гадоў дзесяць) мы штотыдзень перамаўляемся па тэлефоне. Гаварыць з Аленай Сямёнаўнай – гэта атрымліваць эстэтычнае задавальненне. Памяць, розум, логіка, інтанацыя – дай Божа маладзейшым. Цытаванне вершаў, згадванне імёнаў, твораў, накірункаў сучаснага літаратурнага працэсу, свайго стаўлення да грамадскага і палітычнага жыцця... І ва ўсім гэтым – чалавечая зацікаўленасць, шчырасць, іронія, самакрытычнасць... Можна сказаць, што вось так жыла яна і жыве: без знешняй пыхі, але з унутранай годнасцю. Сёння ёй 95 гадоў. Вечар жыцця... Але ж мы ведаем, восеньскія, а тым больш зімовыя вечары заўсёды доўгія...*

*Алена Сямёнаўна ўжо даўно не піша, кажа, што сорамна ў такім узросце выносіць на публіку сваё творчае згасанне. А гады тры таму яна паступова пачала страчваць зрок. І гэта яе найбольш засмучае, бо яна чытач неўтаймоўны... Выратоўваюць тэлевізар ды інтэрнэт, куды яе, час ад часу, запрашае сын, той самы вядомы наш таленавіты фалькларыст Уладзімір Васілевіч, які спагадліва даглядае матчыну старасць... Угаварыць Алену Сямёнаўну на гутарку было няпроста, памятаю, нават на круглае 90-годдзе яна адмовіла мне ў размове для друку. А тут нейкім дзіўным чынам патрапіў на такі сугучны і адпаведны настрой, што – вось, чытайце...*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

Біяграфічная даведка:

Алена Сямёнаўна Васілевіч нарадзілася ў вёсцы Ліпнікі Слуцкага раёна 22 снежня 1922 года. Бацькі памерлі рана. Гадавалася ў дзядзькі, а пасля ў стрыечнай сястры. Скончыла сямігодку ў мястэчку Урэчча. Вучылася ў Слуцкім педагагічным вучылішчы, а пасля двух курсаў паехала ў Рагачоў, скончыўшы там у 1941 годзе літаратурны факультэт настаўніцкага інстытута. У часы вайны працавала бібліятэкаркай і пісарам вайсковай часці. У 1944 годзе паступіла на філалагічны факультэт БДУ, які скончыла ў 1946 годзе, і пераехала ў Курск да мужа. Там працавала літкансультантам у мясцовым выдавецтве. У Мінску жыве з 1950 года. Ажно дваццаць два гады загадвала аддзелам культуры папулярнага і шматтыражнага па тым часе часопіса “Работніца і сялянка”. Пасля працавала ў рэдакцыях дзіцячай літаратуры ў выдавецтвах “Мастацкая літаратура” і “Юнацтва”. Напісала і выдала не так многа кніжак, але большасць з іх былі адметнымі і запатрабаванымі маладой чытацкай аўдыторыяй. Асабліва любімая школьнікамі хрэстаматыйная тэтралогія “Пачакай, затрымайся...” (1966–1972), у якую ўвайшлі аўтабіяграфічныя аповесці “Расці, Ганька”, “Доля знойдзе цябе”, “Новы свет” і “Пачакай, затрымайся...”. За гэты выбітны і ўжо даўно класічны твор Алена Васілевіч атрымала Дзяржаўную прэмію БССР (1976). У 1977 годзе ёй было нададзена званне Заслужанага работніка культуры. Апроч згаданай тут тэтралогіі можна вылучыць такія выданні пісьменніцы, як “Выбраныя творы” (у трох тамах, 1983), “Люблю, хвалююся – жыву...” (1986), “Элегія” (1988), “Першая жонка нябожчыка” (2002), “Выбраныя творы” (“Беларускі кнігазбор”, 2010).

***– Прабачце, Алена Сямёнаўна, але цяжка ўявіць, што Вы пачалі сваё жыццё яшчэ за Леніным… І спадзяюся, што не скончыце яго за Лукашэнкам… Найбольш жыццёва актыўным аказаўся час якраз паміж гэтымі сімвалічнымі фігурамі рэвалюцыйнага ўздыму і яго канчатковага краху і абсурду… Ад імперскай камуністычнай ілюзіі да суверэннай калгаснай чаркі і шкваркі… Якое Ваша рэзюме ад пражытага Вамі часу?***

– Як ні дзіўна, сёння гэта можа прагучаць не модна, але самае першае і самае (цяпер сама я разумею, наіўнае, аднак вельмі шчырае, надзейнае) уражанне было ад першага “за” – за Леніным. Было спадзяванне, былі вера і чаканне. Вядома, неаднолькавае ў людзей розных узростаў. На сцяне ў цёткі Іваніхі вісеў адрыўны каляндар – штодзённая, надзённейшая энцыклапедыя жыцця. І той каляндар быў асветлены позіркам толькі аднаго чалавека. Цётчын Іванішын трох- ці чатырохгадовы госць-унук тыцкаў у яго замурзаным пальцам і натхнёна гукаў: “Ленін – вялікі абадыр рабочых і касялян!”

Такім мог быць час, геаграфія і адчуванне пафасу. Маёй маме, беднячцы, сельсавет – вышэйшая на месцы ўлада – выдзеліў 4 цэментавыя трубы на калодзеж (дзе б яна сама, адна, выкапала калодзеж?). І гэта ўжо была падзея! Бо ва ўсёй нашай Даманшчыне калодзежы былі старыя, драўляныя, нават у майго заможнага дзядзькі Мікалая быў драўляны. Потым, пасля смерці мамы, калі я жыла ў дзядзькі і вучылася ў 1-й групе Паўстынскай пачатковай школы, мне, як і іншым вучням, у каго не было бацькоў, на першым жа ўроку настаўнік выдаў па 2 сшыткі з партрэтам на вокладцы таго чалавека, што быў і ў насценным ка-

лендары, выдаў па буквару, па алоўку і гумавай сцірцы з намаляванымі зайчыкамі па баках, па шыкоўнаму блакітнаму альбому для малявання! Выдаў без грошай! “Гэта ўсё вам дала Савецкая ўлада. Даў вось гэты чалавек, – паказаў ён на сцяну і спытаў: “Хто ведае яго імя?” Першы, смялейшы з усяе групы, другагоднік Жук Іван выгукнуў: “Ленін!” І гэта была яшчэ адна падзея з першых вялікіх уражанняў майго дзяцінства.

Потым былі і іншыя “падзеі”, пасля ўжо Леніна. Ужо былі калгасы. Калі я вучылася ў 3-м класе, дзядзьку Мікалая раскулачылі, а ўсю яго сям’ю растрэслі, выгналі з вялікае добрае хаты. У стрыечнае сястры Сашы, куды я перайшла жыць, за тое, што не дагледзеў даручаную яму калгасную кабылу, “забралі” і пасадзілі ў турму гаспадара; а затым адправілі на 10 гадоў – капаць нейкі канал “з Масквы ў Волгу”. Гэта ўжо было за другім “за” – за Сталіным. Цётка Іваніха называла яго “анцыхрыстам”. Ды ці адна толькі яна так яго абзывала? А потым – колькі іх яшчэ было – самых розных “за”... Апошняе маё “за” – не лепшае. Пра гэта я ўжо не адзін раз гаварыла. Аднак, лепш сказаць, чым гэта зрабіў Станіслаў Шушкевіч у апошняй гутарцы з Дзмітрыем Гардонам, цяжка.

***– Случчына, малая радзіма, калыска сноў і першых слоў… Як даўно там былі і ці захавалася там што з Вашага былога, апроч памяці?***

– Пачнем з таго, што я не люблю гэтых вызначэнняў – “Малая радзіма” і “Большая родина”. Для мяне Радзіма – адна, як і Маці. Аднолькава – родная і вялікая. Дык вось, такой для мяне засталася і родная Случчына, мой невялікі, усяго на 12 двароў, засценак Даманшчына, ці пазней – Ліпнікі. Адсюль і прарасло ўсё маё, што ідзе за мною – і лепшае, і горшае. І здольнасць светла ўспамінаць, і ўсміхацца, і, можа, часцей яшчэ не хваліць сябе і саромецца сябе самой, бо, як і кожны чалавек – я розная. І таму, каб не зацягнулася гэтая гаворка надоўга, не будзем забывацца, што я жыву на свеце, як Вы самі кажаце, ад “за” да “за” амаль цэлы век. Як ні дзіўна, але і сёння ўспамінаецца, адкуль свяціла і смяялася ў вочы сонца з-за жытнёвых загонаў, усыпаных валошкаю. Мы дзецьмі краліся ў тое блакітнае хараство латашыць яго сабе на вянкі на галовы. Баючыся, каб нас не ўбачыў і не пагнаўся за намі дзед Васіль (каб не тапталі жыта!). Даўжэзны, да зямлі вывернуты чорным мехам наверх кажух і тупат валёнак (летам!) і ні на чый іншы не падобны галас: “На́ цыцу! На́ цыцу!” Можа, гэта былі ведзьмы, русалкі, нячысцікі – па тым часе гэта ж былі штодзённыя спадарожнікі жыцця! Быў жывы фальклор! Гэта было страшна. І, да смерці напалоханыя, шугалі мы з жыта з рогатам, з плачам, з лямантам... А яшчэ ж было хадзіць у грыбы ў недалёкую Дуброву, у Барэцкі лес, у Булгашчыну – лясам не было канца – карчаваць баравікі, асавікі. Ды яшчэ каб апярэдзіць канцавую Міхаліху. Тая ж мо яшчэ з вечара з дачкою назбірвала іх поўнымі кашамі. Каб данесці дахаты драбязу – розныя радоўкі, суравежкі, маслякі, яны скідалі верхнія спадніцы і ў спадніцах неслі грыбы дадому. І смеху было па засценку, і зайздрасці! За гэтымі і не паспееш!.. Пасля таго, як была перароблена ўся работа і спалі ўжо ўсе старыя і дзеці, колькі песень і прыпевак з усяго свету выспеўвала вуліца, колькі маладога рогату і жартаў гучала мала не да світання! Як прагна, з якой цікавасцю быў прасочаны кожны рух падлеткамі! Хто каго няўзнак абняў, хто за кім “ухажываў”... А калі на зімовыя канікулы збіралася студэнцтва з гарадоў, у нас у вясковай школе ладзіліся сваімі ж “прэм’ерамі” і сапраўдныя спектаклі. Майстравалася сцэна з ашчадна захаваных у нечым гумне дошак. Тут жа адбываўся збор “трупы”, размяркоўваўся рэквізіт: той прынесці коўдру, той чатыры падушкі, а некаму чапялу, некаму хлебную лапату, некаму зэдлікі. Прызначаліся галоўныя ролі! Валодзя Рэут – Якім Сарока, Лара Костусева – Паўлінка... Рыхтуецца і пойдзе на роднай сцэне ўласны самароблены спектакль. Афішы па бліжэйшых вёсках разнясуць вучні нашай школы...

Прабачце, Вы пытаецеся, ці даўно я была на малой радзіме. Не была ўжо даўно. На тое прычына – мая хвароба. Хата, у якой я нарадзілася, згарэла яшчэ ў вайну, у 1944 годзе – дзеці гулялі з запалкамі... Між іншым, у тую вясну на нашу буслянку на старым вязе ўпершыню не прыляцелі буслы... Хату, у якой я потым жыла з мамаю да самае яе смерці і ў якой потым жыла раскулачаная цётка Фядора, пазней радня мая прадала, каб пакінуць грошы мне "на адзетак", калі я стану дарослая... Сёння ў Ліпніках у мяне ўжо не засталося нікога з самых блізкіх людзей. Усе адышлі... На вуліцы нашай мінулым летам сын мае стрыечнае сястры Ніны, Барыс Міхайлавіч Няронскі – "касманаўт" (паслужыў нямала гадоў у касманаўтыцы) – паставіў знойдзены ў лесе валун. На прымацаванай металічнай таблічцы выбіты год заснавання нашых Ліпнікоў – Даманшчыны (1870) і імёны і прозвішчы іх заснавальнікаў. І калі я ў апошні раз прыеду на сваю Радзіму, хачу, каб правезлі мяне па маёй вуліцы, па якой я хадзіла босая, і на хвіліну спыніліся каля нашага Валуна.



*Алена ВАСІЛЕВІЧ. Фота Сяргея Скібінскага.*

***– Хто ці што стала штуршком для першых літаратурных спробаў пяра? Гэта была любоў да літаратуры ці прага натавання і разгадкі жыцця, мо нават выбудова ўласнага свету для перастварэння жыцця сваіх герояў?***

– Якое там пяро! Якія спробы! Звычайны вясковы пейзаж і звычайны дзень вясковага дзяцінства. Прыйшла чарга адпасваць авечкі – з дзецьмі стрыечнай сястры Сашы, у якой я цяпер жыву. Клопат невялікі, гэтакае ж сяброўства кругом. Каля плоту – доўгая, неглыбокая яма жоўтага пяску, у якой будуй і выдумляй што сабе хочаш. Неўзабаве і адвячорак, а ў галаве не разбярэш якія плятуцца ў радкі думкі: "Сонейка паволі за лясок заходзіць..." Заходзіць сонейка... Паволі сонейка заходзіць... Заходзіць... За лясок заходзіць... І зноў: "Камары-музыкі нудны спеў заводзяць..." Як у вершы ўсё роўна – хвалю я сама сябе. І зноў у галаве таўчэцца: "Камары-музыкі..." Не, усё не так, усё зблытала. Загадваю: "Жэня і Веця! Бяжыце хутчэй дадому і прынясіце мне аловак. І мой сшытак у шуфлядзе". Выган ужо надакучыў, і маім пасланцам выканаць мой загад няцяжка. Паляцелі – замільгалі толькі пяты. Бегчы не за свет, дом ад выгану недалёка. Яшчэ некалькі разоў перакручваю туды-сюды свой "вечар" і сваіх "камароў", і – пасланцы ўжо зноў тут. З алоўкам і змятым аркушам парыжэлай паперы. "Што ты пісацьмеш, Лена?" Яны ўжо ведаюць, што робяць, калі ў руках аловак і папера. "Пісацьму, што захачу". Хапаю ў іх з рук аловак і паперу і падаюся далей ад іх да старога дуба. Пад дубам усё адразу робіцца неяк хутчэй і складней. "Сонейка паволі за лясок заходзіць. Камары-музыкі нудны спеў заводзяць. Паволі дадому ідуць жанкі з працы, Парабіць усё трэба і з усім прыбрацца..." Выбралася з пачатку. Дадому прынесла ўжо цэлы "верш"! Дома ўсё ж не вытрывала – паказала. "Гэта ты сама напісала?" – дзівіцца сястра. "Каб добра не вучылася ў школе, то хіба б напісала?" – кажа баба Іваніха. Такі быў "Пачатак"...

Былі, зразумела, дома і кнігі. На гарышчы каля коміна ляжала гура “раманаў” у новенькіх і старых вокладках. Мельнікаў-Пячэрскі, Шэлер-Міхайлаў, Пісемскі і цэлая куча змятых «Нив», розных князёў Северыных і Валконскіх. Больш за ўсё былі цікавыя “раманы” – амаль усе пра каханне. Але мне чытанне “раманаў” забаранялася дарослымі: мне было яшчэ брыдка, рана чытаць пра каханне... Адкуль жа ўзяліся ў нашай хаце на гарышчы тыя “раманы” і гэтыя дзіўныя насельнікі – Лермантаў, Някрасаў, Тургенеў, Станюковіч, Гарын-Міхайлоўскі? На шмуцтытулах кожнай кнігі стаяў сціплы экслібрыс: «Изъ книгъ Филиппа Григорьевича Ждановича-Гуриновича» – яшчэ аднаго мамінага роднага брата. Афіцэра... Аднак гэта ўжо асобная старонка... Тады яшчэ зусім нічым сур’ёзным не зацікаўленым дзіцячым вухам я чула, як гаварылі старэйшыя, што наш дзед Грысь сваім сынам “закупіў дваранства”. З дачок даволі было, каб трапілася і “прыстойнага замужжа”. Таму, відаць, дзядзька Філіп і стаў афіцэрам. Дома казалі, што Філіп памёр не старым нібыта ад тыфу. А можа і не памёр? Служыў жа ў царскай арміі. Маглі ж і расстраляць. Так ці інакш было, але Філіп паспеў прывезці з Палтавы кнігі са свае ўласнае бібліятэкі, каб памяняць іх у сваякоў “на скорам” – мусіць, быў час, калі і Палтава галадавала... Яшчэ ад мамы я запомніла на памяць – цэлыя кавалкі з “Палтавы” Пушкіна. (Мы сядзелі зімою з мамаю на цёплай печы і дралі курынае пер’е на падушку.) “Богат и славен Кочубей. Его луга необозримы; Там табуны его коней Пасутся вольны, не хранимы... Но Кочубей богат и горд Не долгогривыми конями, Не златом, данью крымских орд, Не родовыми хуторами — Прекрасной дочерью своей Гордится старый Кочубей”. Мне страшэнна хацелася самой быць такой, як Качубеева Марыя. “Как тополь киевских высот, Она стройна... Звездой блестят ее глаза; Ее уста, как роза, рдеют...” Я хацела, як вырасту, быць падобнай на Марыю!.. Як зачароўвалі ў маміным чытанні незразумелыя словы: “орд”, “уста”, “злато”... Я плакала, калі расказвала мне Коласаву “Долю батрачкі” сястра Ніна... Вось яна ўжо, як казалі ў нас дома, ведала на памяць мех вершаў! “Маці ў службу выпраўляе Родную дзяціну, Выпраўляючы, хавае Горкую слязіну. — Будзь паслушная, дачушка, – Навучае матка: — Дагаджай чужым ты, служка, Ды цярпі, дзіцятка! Не адзін раз твае вочкі Заплывуць слязою. Твая доля цямней ночкі – Цяжка быць слугою!”

А якія яшчэ падзеі адбываліся! У нашу Даманшчыну прыязджаў сам Якуб Колас! Разам з народным камісарам аховы здароўя БССР Сянкевічам, сваім сябрам і земляком. Наркам заязджаў у госці да нашае суседкі, свае пляменніцы Амілі, а Колас, як цяпер сказалі б, – сустрэцца з чытачамі. У дагледжаным садзе дзядзькі Мікалая Колас сядзеў каля свірна на траве пад ігрушай-сапяжанкай і чытаў сваю “Новую зямлю” – “Раніцу ў нядзельку”, “Падгляд пчол”, “Пачаткі”... Яго слухаў, смяяўся, удзячна захапляўся мо ўвесь засценак. А як скончылася чытанне, мужчыны аж да самае школы неслі Коласа на руках! Так было. У тым шчаслівым гурце сядзела і мая мама. Са мною разам... Я нарадзілася ў яе праз паўгода.

З гэтага, Лёнечка, так усё пачыналася.

***– Алена Сямёнаўна, дазвольце задаць яшчэ некалькі пытанняў, якія, можа, Вам будуць нязручнымі і нават не зусім тактоўнымі з майго боку, але адказы на іх былі б вельмі цікавымі маладзейшым літаратарам і прыхільнікам беларускага пісьменства. На чым выснавана Ваша доўгажыхарства – на здаровым ладзе жыцця, духоўнай чысціні, маральнасці ці наследаванні генам сваіх бацькоў і продкаў?***

– Калі казаць шчыра, то свайму, як Вы кажаце, доўгажыхарству я зусім не радуюся. Не думайце, што доўгія гады жыцця – гэта заўсёды падарунак лёсу. Жыццё мае права на існаванне і патрэбнае чалавеку толькі тады, калі ён па-

сапраўднаму сам патрэбны жыццю. Што гэта азначае? Чалавек існуе не толькі сваёй фізічнай прысутнасцю, а і сваёй здольнасцю актыўна ўдзельнічаць у працэсе жыцця. Калі ён патрэбны не толькі самым блізкім, але і далёкім людзям. Сваім клопатам, сваёй увагаю, цеплынёй, нават падобным думаннем. Зноў жа, калі Вы кажаце пра доўгажыццё, дык гены і спадчына мне зусім не абяцалі яго. Я засталася без бацькоў у сем гадоў. Яны памерлі ў адно лета адзін за адным, калі я яшчэ не хадзіла ў школу. Маме зрабілі аперацыю ў Мінску, а бацька пабаяўся рабіць яе. Але хвароба была ў іх адна. Хвароба веку... Мой здаровы лад жыцця? Які там быў лад? Гадуючыся па чужых людзях, хоць і сваяках. У сваякоў свае бяды хапала. Відаць, маё доўгае жыццё прадыктавана “зверху”.

***– Жыві 27 гадоў, як Максім Багдановіч, ці 83, як Максім Танк, а жыццё ўсё адно кароткае, і калі чалавек паўстае перад яго канцом, то не так важна, у якім ён узросце, важна ў якой ён духоўнай моцы, каб прыняць наканаванне… Ваша стаўленне да ўзросту (чалавечага веку)?***

– Я ніколі не баялася сваіх гадоў – ні ў 25, ні ў 50, ні нават у 80. Я не баялася і не саромелася называць гэтую лічбу ўслых, уголас. Я баялася і баюся іншага – калі за лічбай не застаецца жывога, сапраўднага жыцця. Без спраў, без клопату, без хвалявання. І без любові.

***– Адзін, пражыўшы кароткі птушыны лёс, заўсёдна лёткі і штодня высока-захмелены, аднойчы надарыцца і напіша лёгкім росчыркам зборнік ці два адмысловых вершаў – і застанецца іконай у багемных колах і ў аналах нацыянальнай літаратурнай класікі, а другі ўсё сваё доўгае жыццё, як той Сізіф, будзе ўзбівацца валуном за пісьмовы стол, выдасць цэлы стос тоўстых раманаў і, глядзіш, не паспее й павекі змежыць, а ўжо плён яго пылам пакрываецца і неўпрыкмет у забыццё сыходзіць… Прыкладаў у нашай літаратуры дастаткова. Як Вам уяўляецца гэтае імгненнае “з’яўленне генія народу” і кананне ў Лету даўгацерпнага літаратурнага гарапашніка?***

– Я не належу да ліку нястомных “сядзельцаў” за пісьмовым сталом. Я не раз ужо адказвала на гэтае пытанне. “Ні дня без радка” – гэта не маё наканаванне, не мой лёс. З’яўленне “генія” мне хутчэй смешнае, чым зразумелае і вытлумачальнае. Ад аднаго вельмі чадалюбівага дзядулі чула аднойчы замілаванае пытанне да сваёй уласнай унучкі: “Лидочка, ты гений?” І задаволенае ружавашчокае трохгадовае дзіцё, весела гойсаючы ў дзеда на каленях, згаджалася: “Да, я гений!”. “Геніі” нараджаюцца і такім чынам. А адкуль нараджаюцца Геніі-творцы – хто ж гэта ведае?

***– Як Вы ацэньваеце стан сучаснай беларускай літаратуры, яе мастацкі плён і месца ў грамадстве ў параўнанні з савецкім перыядам? І – Ваша стаўленне да рускамоўнай літаратуры ў Беларусі?***

– Вымушана прызнацца, што сённяшнюю новую літаратуру я ведаю павярхоўна, бо чытаю мала. Апошнія гады губляю зрок. А каб аб’ектыўна, сур’ёзна меркаваць пра літаратуру, трэба глыбока яе ведаць. На жаль, я страціла той час, калі чытанне было адным з галоўнейшых складнікаў майго духоўнага жыцця. Мне, і не толькі мне, цікава чытаць, напрыклад, тое, што і як піша Андрусь Горват са сваёй дзедавай сядзібы на Палессі. Захапляюся заўсёды Аленай Брава – яе прозай, яе стылем і мовай. Чытаю маладога крытыка Ціхана Чарнякевіча. З вышыні свайго доўгага веку да маладых я адношу не толькі самых юных па ўзросту. Што ж датычыцца рускамоўнай літаратуры, то, калі сустракаюцца таленавітыя творы і аўтары, стаўлюся толькі выдатна.

***– Мяне амаль ад пачатку маёй літаратурнай дзейнасці займала і трывожыла такое неардынарнае пытанне: чаму пра знаных мастакоў, пісьменнікаў, людзей культуры і вучоных, нават спартсменаў такі шырокі розгалас у грамадстве і такая ўганараванасць і памяць пра іх у гісторыі, а вось пра выдатных цесляроў, слесараў, паляводаў, адным словам, простых людзей, як гэта нехта вульгарна вызначыў, – не… Адпрацавалі, адпакутавалі яны свой чалавечы век, памерлі і памяць пра іх захоўвае дзясятак родзічаў цягам якіх трох-чатырох пакаленняў – і ўсё… Вось бацька мой быў цесляром, прычым выдатным, будаваў хаты вяскоўцам і калгасныя фермы, якія і сёння яшчэ служаць людзям, хоць сам ужо чвэрць веку ў зямлі, і такіх, як ён, тых, хто добрапарадкуе і ўвогуле робіць наша жыццё лепшым, хутка забываюць… Мне здаецца, што ў гэтым – у захаванні іх памяці і аддзячанасці за іх працу (“за ўсё дабро разлічымся дабром, за ўсю любоў разлічымся любоўю”) – усё-ткі ёсць праяўленне пэўнай чалавечай і грамадскай няроўнасці і нейкае маральнае папушчэнне…***

– Згадзіцеся, што як бы самыя велічныя і нібыта вельмі шчырыя абяцанні “Ніхто не забыты і нішто не забыта” зараз гучаць амаль бяздушна і банальна, шчыра не кранаючы ні людскіх душ, ні сэрцаў. Успомніце толькі ўсе прысягі і абяцанні быць вернымі і адданымі памяці тых, што палеглі ў зямлю толькі ў апошнюю вайну. Нідзе, ні ў якой, мусіць, краіне на свеце няма такога грэшнага забыцця. Узводзяцца вар’яцкага размаху манументы, ладзяцца нейкія надуманыя мемарыялы, нібыта помнікі таму, чаго ніколі не было і месца не мела. Як пры нейкай шалёнай гарачцы, выяўляюцца ўсё новыя і новыя рэзідэнцыі і палацы – і ў той жа час, і праз 70 гадоў пасля Вялікай, як мы кажам, Перамогі ўсе яшчэ не стамляюцца адшукваць астанкі палеглых за Айчыну людзей. Што ўжо тут гаварыць пра звычайных “простых”? Зайдзіце сёння на гарадскія ці вясковыя могілкі. Ці заўсёды адразу знойдзеце вы магілу, якой хочаце пакланіцца?.. Патрэбныя і слаўныя былі – пакуль былі. Няма чалавека – і няма праблем. Няма клопату – і не патрэбна памяць. І ўсім лёгка жыць!

***– Чым Вы ганарыцеся на схіле свайго жыцця як чалавек і пісьменнік і пра што шкадуеце? Што зрабілі, як задумвалі і чаго не паспелі альбо зрабілі не так, як хацелася?***

– Вось ужо чаго ў мяне ніколі не было, дык гэта схільнасці ганарыцца сабою. Шкадую аднаго: што так няўдзячна падыходжу да свайго “схілу” і зайздрошчу толькі таму, хто не страціў здароўя, дажыўшы да майго веку. Але жыццё ёсць жыццё. І за гэта – слава і дзякуй Богу! Ну, а хто гэта калі зрабіў усё тое, пра што марыў і імкнуўся ў думках (хаця не – ёсць такія, ёсць...). Я задумвала, напэўна, больш, чым зрабіла. Не паспела, не зрабіла – гэтага больш.

***– Што пажадаеце сённяшнім маладзейшым беларускім літаратарам? Якім Вам бачыцца далейшы лёс нашай роднай мовы і нацыянальнага пісьменства?***

– Маладым жадаю – перш за ўсё не старэць душою. І заўсёды мець удзячнага чытача. Сёння мастацкая літаратура катастрафічна губляе чытачоў. Я паважаю, і ганаруся, і зайздрошчу па-добраму і маладым творцам, і маладым нястомным шукальнікам, і змагарам за лепшую будучыню, і хацела б спадзявацца, што яны дасягнуць большага, чым іх папярэднікі. Яны больш адукаваныя, шырэй дасведчаныя, яны валодаюць мовамі, маюць магчымасць бачыць свет і набываць пра яго веды. Яны не зацугляныя і не стрыножаныя. Яны не ведаюць “Галоўліту”! Яны могуць пісаць, тварыць што хочуць і як хочуць. І друкавацца, і выстаўляцца – калі маюць грошы ці калі ёсць спагадлівая помач збоку, калі трапіцца чалавек, якому ў радасць і не цяжка памагчы маладому і здольнаму...

Я – не аптымістка. Я ніяк не ўяўляю лёсу роднай Мовы, калі ў суверэннай краіне зачыняюцца беларускія школы і калі нават кіраўнік дзяржавы ніколі і нідзе не скажа беларускага слова...

***– Шаноўная Алена Сямёнаўна, прыміце віншаванні з пашанотным юбілеем ад усіх Вашых чытачоў. Здароўя і дабра Вам! Я зычу таго ж і шчыра Вам дзякую за гутарку.***

---

"Дзеяслоўцы" таксама шчыра віншуюць
шаноўную **Алену Сямёнаўну ВАСІЛЕВІЧ**
з юбілеем і зычаць ёй аптымізму, душэўнае трываласці,
Божае ласкі і, вядома ж, – здароўя!

500-годнасць

Вячаслаў Рагойша



...ёсць усе падставы называць Францыска Скарыну не толькі першадрукаром, перакладчыкам, публіцыстам, тэолагам, асветнікам, мастаком-графікам, але і таленавітым *паэтам*...

# "Людем посполитым к доброму научению"

## *Паэтычная творчасць Францыска Скарыны*

Даследчык творчасці Кірылы Тураўскага і Францыска Скарыны Юрый Лабынцаў у артыкуле «*Да совѣршенъ будеть человѣкъ...*» (1990) пісаў: «Скарына-празаік вядомы нам яшчэ вельмі і вельмі мала. Скарына-паэт пакуль невядомы зусім. Пра паэтычны дар Францыска Скарыны даследчыкі казалі дагэтуль, ды і цяпер кажуць, мімаходзь, зводзячы ягоны талент вершатворцы толькі да прызнання за ім "першых практыкаванняў"» [20, с. 262]. Сапраўды, нават такі вучоны, як рускі літаратуразнавец Павел Навумавіч Беркаў, у публікацыі «Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання» (1967) называў Скарыну толькі «здольным літаратарам, які не пазбаўлены нават некаторых паэтычных здольнасцей» [22, с. 260]. Магчыма, артыкул Ю. Лабынцава і быў палемічна скіраваны супраць падобных меркаванняў, якія, трэба сказаць, цалкам не абвержаны да сённяшняга дня, хоць яшчэ Міхась Лазарук на Першых Скарынаўскіх чытаннях (1986) імкнуўся даказаць, што «вялікі асветнік нямала зрабіў для развіцця сродкаў паэтычнай выразнасці» [17, с. 101].

Гаворачы пра паэтычны дар, літаратуразнаўцы, як правіла, атаясамліваюць такія паняцці, як паэзія і вершаванне, і звычайна, калі і гавораць пра наяўнасць такога дару ў Скарыны, то ўказваюць найперш (а часам і выключна) на тры яго невялікія вершы, надрукаваныя ў кнігах «Іоў», «Выхад» і «Эсфір». У прынцыпе гэта правільна, паколькі паэзія найчасцей увасабляецца ў творах вершаваных. Верш, вершаваная мова, дзякуючы сваёй выразнай рытмічнай і эўфанічнай арганізацыі, аказвае вялікае ўздзеянне на ўзнікненне эмоцый, без чаго паэзія як від слоўнага мастацтва існаваць увогуле не можа. У той жа час яна, паэзія, здараецца, карыстаецца і моваю мастацкай прозы, у якой таксама існуе своеасаблівы рытм (тэмпарытм). У такой паэтычнай прозе слова не проста абазначае пэўнае паняцце, а перш за ўсё стварае вобраз, выяўляе пачуццё, эмацыянальна афарбаваную думку. Само яго гучанне становіцца сродкам выяўлення.

Для паэзіі, гэтай “музыкі душы” (І. Гердэр), характэрна павышаная эмацыянальнасць, якая ўзнікае дзякуючы моўнаму рытму, а таксама выразнаму выяўленню гукавога ладу мовы, ужыванню разнастайных сінтаксічных фігур, вялікай колькасці арыгінальных тропаў, своеасаблівай іх канцэнтрацыі. Калі прыглядзецца, такое “паэтычнае рэчыва” ў той ці іншай ступені ўвасоблена ва ўсіх арыгінальных і перакладных тэкстах Скарыны, які, як слушна выказаўся прафесар І. Саверчанка, «выявіў сябе як бліскучы нацыянальны паэт, сапраўдны майстар паэтычнага слова» [20, с. 174]. Мы ведаем Скарыну перш за ўсё як выдатнага асветніка, гуманіста, перакладчыка, публіцыста, філосафа, філолага-біблііста, нават правазнаўцу і г.д. Дзе ж, у чым сярод такога мноства яго прыроджаных і набытых здольнасцяў выявіўся яшчэ і паэтычны талент?

Улічым храналогію выяўлення паэтычнага таленту Францыска Скарыны. Найперш гэты талент увасобіўся, натуральна, не ў арыгінальнай, а ў перакладной творчасці. У перакладах літургічнай паэзіі, асобных тэкстаў Бібліі.

## 1.

Скарыназнаўцы да гэтага часу вырашаюць пытанне: чаму Скарына распачаў выданне перакладзеных ім кніг Бібліі не згодна іх кананічнага парадку, пра які ён сам падрабязна расказаў у «Предъсловии доктора Франъциска Скорины с Полоцька во всю Бивлию рускаго языка» [2, с. 7–16]. Выкажам здагадку: на гэта паўплываў момант суб’ектыўны, а менавіта глыбока паэтычная натура перакладчыка. Таму ён і пачаў самастойнае выданне Бібліі не з першай кнігі Майсея – “Быццё”, а з найбольш паэтычнай яе часткі – «Псалтыра», зборніка псалмаў, малітоўных песнапенняў. «Псалтыр» мае, як паведамляў перакладчык у сваёй прадмове да кнігі, «в собѣ кафизм [адзін з раздзелаў «Псалтыра». – *В.Р.*] двадесеть, псалмов полтораста, *стишков или припелов* две тысещи и шестьсот» (!) [2, с. 13]. Перакладчыку, несумненна, было прыемна ўзнаўляць на роднай мове гэтыя «стишки». Як і вершы наступных – не паводле біблейскага канона, а па чарзе іх выпуску ў свет – і таксама вельмі паэтычных кніг: «Іоў», «Прытчы Саламона», «Эклезіяст», «Песня песняў» і інш.

Пад словам «*сціх*» калісьці разумеўся, дый цяпер мы будзем разумець, не традыцыйны свецкі, а *малітваслоўны (біблейскі, кандакарны) верш.* Гісторыкі і тэарэтыкі вершавання Францыска Скарыны, як і беларускага верша ўвогуле (П. Уладзіміраў, Я. Карскі, М. Прашковіч, А. Коршунаў, І. Ралько, М. Грынчык і інш., зрэшты, і аўтар гэтага артыкула), на малітваслоўны верш асаблівай (каб не сказаць – ніякай) увагі не звярталі. Па сутнасці, адным з першых пра яго загаварыў П. Беркаў, ды і то пераважна ў плане ўплыву яго на скарынаўскія сілабічныя вершы: «Скарына зрабіў спробу спалучыць з біблейскай паэтыкай прыёмы сілабікі, якая толькі што зараджалася» [22, с. 256, 269]. Што да М. Грынчыка, то ён увогуле малітваслоўнаму вершу адмаўляў у праве называцца вершам: «Гэтыя першапачат-

ковыя ўзоры старажытнай распеўнай паэзіі не мелі нічога агульнага з пазнейшым разуменнем навершаванага тэксту, таму што структурныя адзінкі яго яшчэ даволі расплывістыя і аморфныя, надзвычай далёкія ад сучаснага разумення унутранай суразмернасці і сугучнасці» [13, с. 144]. Нават у самай апошняй па часе выдання двухтомнай акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» у раздзеле «Паэзія» (аўтары С. Кавалёў і І. Саверчанка), хоць і гаворыцца, што «з прыняццем у X ст. усходнімі славянамі хрысціянства і яго пашырэннем на беларускіх землях паралельна з вусна-паэтычнай народнай творчасцю пачала развівацца кніжная паэзія, найперш літургічная гімнаграфія», тым не менш з пункту гледжання вершатворчасці гэта «кніжная паэзія» зусім не разглядаецца. У «Гісторыі...» слушна сцвярджаецца: «Гімнаграфічныя літургічныя творы (каноны, акафісты, сціхіры, пракімены, славы, трапары, антыфоны) пашыраліся, як правіла, у складзе рэлігійных зборнікаў – Мінеяў, Літургіёнаў, Служэбнікаў, Трэфалагіёнаў, Анфалагіёнаў, Трыёдзяў, Актоіхаў, Трэбнікаў, Часасловаў, Малітоўнікаў і Псалтыроў з дадаткамі» [12, с. 425–426]. Аднак, на жаль, на гэтым гаворка пра беларускі верш даскарынаўскага часу і заканчваецца. Літаральна ў наступным абзацы «Гісторыі...» робіцца «скачок» адразу ў XVI ст., калі «на хвалі Рэнесансу зарадзілася свецкая кніжная паэзія, заснавальнікам якой справядліва лічыцца Францыск Скарына» [12, с. 426].

У той жа час Скарына не толькі пачынальнік “свецкай кніжнай паэзіі”, але яшчэ і выдатны стваральнік беларускай літургічнай паэзіі з яе малітваслоўным вершам. А гэты верш (як мы ўбачым пасля) у гісторыі беларускага пісьменства існаваў задоўга да пачатку XVI стагоддзя. У скарынаўскі ж час квітнела і народная вусна-паэтычная творчасць з яе фальклорным вершам у двух разнавіднасцях – песеннай і інтанацыйна-сказавай . Апрача гэтага, у Вялікім Княстве Літоўскім, сарцавінай якога была беларуская зямля, шырокае распаўсюджанне набыла лацінамоўная паэзія ў вобліку антычнага (метрычнага) вершавання. Дастаткова прыгадаць, што ў адзін час са Скарынам свае класічныя вершы і паэмы на лацінскай мове пісалі Ян Вісліцкі («Пруская вайна», 1516), Мікола Гусоўскі («Песня пра зубра», 1523) і інш. Як бачым, мы можам смела гаварыць пра сужыццё ў сярэдневяковай беларускай паэзіі (даскарынаўскага часу) прынамсі трох тыпаў верша: народнага танічнага, метрычнага (антычнага) і малітваслоўнага. Калі першыя два тыпы даволі грунтоўна вывучаны, то пра апошні гэтага не скажаш. Таму спынімся на ім больш падрабязна.

У старажытнарускім царкоўным пісьменстве неаднойчы сустракаўся тэрмін «стих». Адзін з найаўтарытэтных расійскіх мовазнаўцаў акадэмік І. Сразнеўскі ў сваім «Словаре древнерусского языка» зафіксаваў яго наступныя значэнні: *«ряд»; «строка»; «стих ритмический»; «стиховая законченная фраза»; «стихотворение»; «молитвенный стих, молитва»* [18, с. 515]. Ва ўсіх гэтых значэннях «стих», у тым ліку і як «молитвенный стих», разам з богаслужбовымі тэкстамі прыйшоў з грэчаскай у старaславянскую мову і літаратуру, а праз яе – і ў старажытнарускую (агульна-ўсходнеславянскую), затым старабеларускую. Пры гэтым не будзем забываць, што «богаслужбовыя тэксты маюць пераважнае бытаванне ў сваёй вуснай, гукавой іпастасі... У гэтай сувязі надзвычай важная наяўнасць у выканаўцы літургічнага тэксту свядомай устаноўкі на паэтычнае інтаніраванне» [26]. Зразумела, паэзія ўжо сама па сабе разлічана найперш на вуснае выкананне, толькі пры такім выкананні яна раскрывае ўсе свае мажлівасці, у тым ліку гукапісныя. Літургічная ж паэзія з яе малітваслоўным вершам – тым больш.

Ад «стиха» ў літургічнай паэзіі, заснаваным на паэтычным інтаніраванні, распеве (гімн, акафіст, канон, ікас, кандак, трапар і інш.), з’явіўся цэлы шэраг вытворных слоў: «*Стихера* – название пяти учительных книг ветхого завета»; «*Стихира* – название богослужебного песнопения православной церкви»; «*Стихирар* – богослужебная книга, сборник стихир»; «*Стиховня* – название стихиры с запевом из псалмов Давыдовых»; «*Стихологисати* – петь по стихам псалмы и другие церковные пес-

нопения»; «*Стихословие* – пение псалмов по стихам поочередно на двух клиросах» [гл.: 18, с. 514–515].

Падзел сакральнага тэксту на «стихи» як асобныя фразы з іх аднолькавым інтанацыйна-меладычным малюнкам, рэгулярны паўтор такіх «стихов» і запачаткавалі своеасаблівы першасны рытм гэтак званага малітваслоўнага верша. Узнік ён, па сведчанні М. Гаспарава, у часы Кірыла і Мяфодзія (IX ст.) як перайманне антыфонных сілабічных строфаў візантыйскага літургічнага верша, дзе кожнаму папярэдняму сілабічнаму радку адпавядаў раўнаскладовы радок наступнага радка. Потым з Маравіі ён перайшоў у Балгарыю, з Балгарыі на Русь (X–XI ст.). Вось такім шляхам разам з хрысціянствам усходняга абраду, з Бібліяй, іншай богаслужбовай літаратурай малітваслоўны верш трапіў да ўсходніх славян, у тым ліку да беларусаў. Аднак са знікненнем у старажытнарускай мове (X–XII ст.) ераў (кароткіх галосных ъ і ь) «роўнаскладовасць гэтых антыфонаў разбурылася і малітваслоўны верш ператварыўся ў падабенства чыста-танічнага свабоднага верша без рытму і рыфмы, стаў абапірацца на сінтаксічны паралелізм і традыцыйныя анафары» [8, с 24]. Праўда, і ў «чыста-танічным свабодным вершы», як мы ведаем, рытм ёсць. Не кажучы пра малітваслоўны. Без рытму верша ўвогуле не бывае. Нават у прозе ён прысутнічае ў выглядзе чаргаванне коланаў. Што да рытму малітваслоўнага верша, то ён ствараецца чаргаваннем аднолькавых/падобных фразава- інтанацыйных комплексаў, якія нагадваюць радкі ці строфы традыцыйнага верша.

Такім чынам, малітваслоўны верш са сваім «стихом» як асноўнай рытмічнай адзінкай лёг у аснову самай ранняй ва ўсходніх славян сістэмы вершавання. Першым «из славянских **литературных стихосложений**» назваў малітваслоўны верш М. Гаспараў, пры гэтым заўважыўшы, што «**он еще очень мало исследован**» [9, с. 195, 196; вылучэнні мае. – *В.Р.*]. Да яго далучаецца вядомая сучасная паэтэса і вершазнавец, аўтарка слоўніка «Церковнославянско-русские паронимы» (М., 2005) Вольга Седакова: «Для этого стиха в стиховедении есть особый термин – молитвословный стих. То, что получилось при переводе акафистов и канонов, это не верлибр, а **своеобразная система стиха** [вылучана мной. – *В.Р.*], по-своему очень красивая, иная, чем византийская» [24]. Як бачым, і М. Гаспараў, і В. Седакова ўспрымаюць малітваслаўны верш не проста як від верша, а нават як сістэму вершавання. Сістэму асобную, своеасаблівую, спецыфічную.

Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць і цікавае выказванне той жа В. Седаковай. У прадмове да перакладаў Анры Валахонскага богаслужбовых тэкстаў з царкоўнаславянскай і старажытнаяўрэйскай моў на сучасную рускую яна дакладна і тонка характарызуе малітваслоўны верш: «Красота – это непосредственная сила смысла, можно сказать, его воля и убедительность. Одна из главных примет этой словесной красоты – ритм. Как известно, многие византийские гимны были написаны регулярным стихом, которые славянские переводчики не стали имитировать. Но это не значит, что то, что в результате получилось на славянском, – просто подстрочники. Славянский текст явно следует каким-то сложным законам ритмики и эвфонии; это молитвословный стих, **природа которого до сих пор не выяснена стиховедами**» [25; вылучана мной. – *В.Р.*].

Сапраўды, прырода малітваслоўнага верша да гэтага часу канчаткова не высветлена, хаця да яго звярталіся такія знакамітыя вершазнаўцы, як Кірыл Тараноўскі («Формы общеславянского церковнославянского стиха в древнерусской литературе XI–XIII вв.»), Рыккарда Піккіа («Об изоколлических структурах в литературе православных славян»), той жа Міхаіл Гаспараў і інш. Расійскі святар-тэолаг Аляксей Агапаў прааналізаваў іх выказванні пра гэты верш, але не да канца згадзіўся з імі. У прыватнасці, ён адзначыў аднабаковасць вызначэння рытмастваральных кампанентаў у «ізакалічнай» тэорыі Р. Піккіа, у «сістэме рытмічных сігналаў, што адзначаюць пачаткі радкаў», К. Тараноўскага, у «сінтаксічным ці тэматычным паралелізме» М. Гаспарава. Але ж і меркаванне самога А. Агапава таксама нельга

прыняць цалкам: «Стиховое членение церковнославянского молитвословного стиха не зафиксировано графически и может проявляться лишь как интерпретация (причем – почти всегда – одна из нескольких возможных)...» [26]. «Інтэрпрэтацыя» – гэта заўсёды з'ява суб'ектыўная. А ці ж маюцца нейкія аб'ектыўныя рытмічныя кампаненты ў «стихах»? Мяркуем, да тэорыі малітваслоўнага верша можа нешта дадаць практыка яго шырокага выкарыстання Францыскам Скарынам.

Найперш паглядзім, што ён укладаў у разуменне «стих» (а значыць – і ў паняцце «малітваслоўны верш»). Гэтае слова Скарына выкарыстоўваў неаднойчы ў прадмовах да перакладаў як «во всю Бивлию», так і да яе асобных кніг: «Псалтыр», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Плач Ераміі», «Малая падарожная кніжка» і інш. З усіх літаратуразнаўчых тэрмінаў (а іх у Скарынавым лексіконе налічваецца звыш трох дзясяткаў) найчасцей, бадай, сустракаюцца тыя, што цесна нітуюцца з вершазнаўствам: *«стих», «стишок», «песня», «припел»...* Прычым, як слушна давёў П. Беркаў, «ён пад словам «стихи» разумее вершы біблейскія» [22, с. 253].

У свой час выйшаў з друку ўкладзены У. Анічэнкам трохтомны «Слоўнік мовы Скарыны». У гэтым слоўніку слова «стих» чамусьці адсутнічае, хоць ёсць яго памяншальны варыянт: «стишокъ». Праўда, без тлумачэння яго значэння, але з двума прыкладамі: *На початку кажъного* ***стишъка*** *слово едино* («Плач Ераміі»); *книги рекомые погреческу псалътиромъ... имеють в собе кафизъмъ двадесеть, псалъмовъ полътораста,* ***стишъковъ*** *или припеловъ две тысящи* («Кніга Быцця») [16, с. 259]. Крыху пазней гэтае слова, як і «стих», зафіксавалі і паспрабавалі раскрыць яго значэнне аўтары грунтоўнага «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы». Там – тыя самыя прыклады з мовы Скарыны, але ўжо з тлумачэннем: «**Стишок** *наз. памянш. ад* стихъ у 2 знач.» [11, с. 396]. Пад першым значэннем маецца на ўвазе «верш» у разуменні асобнага вершаванага твора, а пад 2-ім значэннем – «абзац біблейскага тэксту» з наступнымі прыкладамі з прадмоў Скарыны да перакладаў кніг Бібліі: *имена словъ великимъ писмомъ розъдельне межи* ***стихами*** *положены суть* («Кніга прамудрасці»); *царь Соломонъ... сопсалъ своего складаниа* ***стиховъ*** *пять тысещей* («Прытчы Саламонавы») [11, с. 395–396]. Відавочна, гэтае 2-е значэнне слова «стих» («абзац біблейскага тэксту») і з'яўляецца найбольш пашыраным у скарынаўскім тэрміналагічным абыходку. Сведчыць пра гэта і той прыклад, якім (на маю думку, памылкова) ілюструецца ў «Гістарычным слоўніку...» 1-е значэнне тэрміна: *царь Соломонъ многие... притчи и* ***стихи*** *молвилъ* («Кніга прамудрасці»). Ні ў «Прытчах Саламонавых», ні ў «Песні песняў» Саламона няма ніводнага яго «стиха» ў значэнні «асобнага верша» («стихотворения»). Тут усе тэксты – і аповедныя, і лірычныя – проста раздзелены на падобныя па сваёй рытмічнай будове, адпаведна – і вымаўленню, фразава-інтанацыйныя комплексы, на «стихи». Відавочна, трэба было б у «Гістарычным слоўніку...» указаць і 3-е значэнне тэрміна «стих» – як супрацьлеглае прозе мастацкае маўленне, фанічна раздзеленае на адносна кароткія суразмерныя адрэзкі. Ф. Скарына, звяртаючыся ў сваіх прадмовах да магчымага чытача/слухача біблейскага тэксту, быў упэўнены, што вернікі, тым больш святары, «чтучи или слухаючи», зразумеюць сэнс слова «стих». Нельга не згадзіцца з П. Беркавым: «Скарына не толькі сам адчуваў своеасаблівасць паэтычнай мовы «Бібліі», але і быў упэўнены ў тым, што ў працэсе чытання іншыя людзі зразумеюць біблейскае вершаскладанне» [22, с. 253].

Улічваючы ўсё вышэй сказанае, думаецца, было б правільным карыстацца ў беларускамоўнай вершазнаўчай літаратуры не толькі адно *вершам* (лац. *versus*), але і запазычаным з грэцкай мовы словам *сціх* (грэц. *stichos*). Яно, магчыма, для сучаснай беларускай мовы гучыць не зусім звычна, але, з другога боку, – як *гістарычны і прафесійны вершазнаўчы тэрмін* – арганічна кладзецца ў шэраг падобных царкоўных паняццяў: *сціхера, сціхіра, сціхірар, сціхоўня, сціхаслоўе...* Не-

каторыя ж абеларушаныя тэрміны з заменай «сціх» на «стых», накшталт апісанага ў энцыклапедычным даведніку «Рэлігія і царква на Беларусі» слова «стыхіра», патыхаюць штучнасцю і нагадваюць хутчэй нейкую «стыхію», а не слова, якое дало ім найменне [гл.: 15, с. 313]. Відавочна, у нашым выпадку маюцца на ўвазе не *вершы* ў цяперашнім разуменні, а літургічныя *сціхі*. Слова гэта, як бачым, можа зусім натуральна карэліравацца і з царкоўным тэрмінам «*сціхіра*».

Адсутнасць тэрміна «*сціх*» вядзе да блытаніны і ў чыста вершазнаўчай літаратуры. Так, пішучы пра Скарыну як перакладчыка і рэдактара Біблii, У. Свяжынскі заўважае: «Імкненне да паўнаты выдаваемай Бібліі відаць з таго, што ў праваслаўным Псалтыры 9 выбраных песень, у Скарыны ж іх 10. У 13-м псалме ёсць тры **вершы** [тут і далей вылучана мной. – *В.Р.*], якіх няма ў царкоўнаславянскіх спісах. У кнізе «Эсфір» Скарына памяняў месцамі раздзелы 10-ты і 11-ты, у асобны раздзел вылучыў пачатак 13-га, раздзел 12-ты і пачатак 14-га апусціў зусім. У канцы прадмоў да кніг «Выхад», «Эсфір» і «Іоў» ён змясціў уласныя **вершы**, што было несумяшчальным з артадаксальнымі адносінамі да царкоўных кніг» [19, с. 494]. У гэтым выказванні пад вершамі псалма маюцца на ўвазе *сціхі*, пад «уласнымі вершамі» – сілабічныя *вершы* Скарыны. Аднак мала хто з чытачоў зразумее гэта. Аналагічных прыкладаў нямала.

І яшчэ адзін з доказаў на карысць увядзення тэрміна «*сціх*» у беларускую вершазнаўчую тэрміналогію. Слова «верш» мы не знойдзем у лексіконе Францыска Скарыны. У яго час яно яшчэ шырока не ўжывалася ў нашым пісьменстве. Як сведчыць «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», у старабеларускую мову «верш» увайшоў толькі ў XVI ст., і хутчэй за ўсё прыйшоў са старажытнапольскай, а не непасрэдна з лацінскай [гл.: 29, с. 89]. Тэрмін гэты тады ж стаў прыжывацца і ў многіх іншых еўрапейскіх мовах, за выключэннем рускай (ням. Vers, англ. verse, франц. vers і інш.). Прычым, працяглы час у нас гэтыя тэрміны выкарыстоўваліся паралельна, як сінонімы. Скажам, у «Вопросах и ответах православному зъ папежником» (Вільня, 1603) сустракаем выраз: «вѢршы або стихи до того, што читал» [10, с. 395]. Пра тое ж сведчыць і «Лексикон славеноросскій именъ толькованіе» Памвы Бярынды (Куцейна, 1653): «Стіхъ: Порядок, вѢрш» [11, с. 139]. Праўда, з часам слова «стих» пачало выходзіць з актыўнага ўжытку, стала замяняцца словам «верш». Але гэта ўжо адбылося пасля Скарыны. Прычым, у гэтым слове амбівалентнае яць («Ѣ») у пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага продкі сучасных беларусаў, хутчэй за ўсё, прачытвалі як «е» («верш»), продкі ўкраінцаў – як «і» («вірш»), што назаўсёды засталося ў літаратурным маўленні двух суседніх народаў. Пры гэтым тэрмін «вірш» замацаваўся за сярэдневяковым сілабічным вершам у тэрміналогіі ўсіх трох усходнеславянскіх моў.

Відавочна, і лацінскае найменне «versus», і польскае «wersz», і чэшскае «verš» (як, дарэчы, і грэцкае *stichos*) Скарына чуў, і не раз, паколькі тыя мовы добра ведаў, звяртаўся да іх, перакладаючы Біблію, чытаючы некаторыя арыгінальныя вершаваныя творы на тых мовах. Чаму ж у такім разе ён – хаця б як сінонім – ні ў сваіх перакладах асобных кніг Біблii, ні ў прадмовах і пасляслоўях да іх ні разу не ўжыў *верш/вірш*? Думаецца, таму, што Скарына ўжо адрозніваў свецкі сілабічны *верш* ад літургічнага інтанацыйна-сказавага *сціха*. Апрача таго, нават у дробязях, у тым ліку ва ўжыванні вершазнаўчай тэрміналогіі, ён быў зарыентаваны на Русь, з яе тагачаснай літаратурнай «рускай мовай», з яе праваслаўнай грэка-візантыйскай царквой. Не толькі «напред ко чти и к похвале Богу» ён «повелел» Біблію «тиснути рускыми словами, а словенским языком», а і дзеля сваіх праваслаўных землякоў, прычым, як ён пісаў, «наболей с тое причины, иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил». А для літургічнай літаратуры на тым «языку» *верш* быў яшчэ чужаком.

У «Предъсловии доктора Франъциска Скорины с Полоцька во всю Бивлию рускаго языка» звяртаецца ўвага вернікаў на наступнае: «Аще ли же помыслиши

умети риторику, еще ест красномовность, чти книга Саломоновы. А то суть три науки словесные [маюцца на ўвазе граматыка, логіка і рыторыка. – *В.Р.*]. Восхощеш ли пак учитися музики, то ест певници, премножество *стихов и песней* светых по всей книзе сей знайдеши» [2, с. 9]. П. Беркаў, спыніўшыся на канкрэтных выказваннях Скарыны, дзе фігуруюць паняцці «стих» і «песня», прыйшоў да высновы, што «ў разуменні Скарыны прыкметай паэтычнага стылю Бібліі з'яўляюцца сціхі і песні. Гэта, відаць, не супрацьпастаўленне, а адрозненне па характару выканання: песні, якія таксама складаюцца са сціхоў, спяваюцца; проста сціхі – чытаюцца» [22, с. 254]. Тое, што вучоны меў рацыю, сведчыць і Скарынава характарыстыка кнігі «Псалтыр» – зборніка псалмаў, малітоўных песнапенняў, які мае, як мы ўжо згадвалі, «*стишков или припелов* две тысещи и шестьсот». Пацвярджэннем такога разумення сціха як асобнага вянца ў цэлым паэтычным зрубе можа быць і выказванне з прадмовы да кнігі «Іоў»: «Делится же сия книга на главы, а главы ся делять на *стихи*, по тому ж, яко и Псалтирь ся делить. Поченши от третия главы даже до остаточное вся сия книга *стихами* розделена ест, яко же чтучи поразумееш» [3, с. 708]. Гаворачы, што вернікі, «чтучи, поразумеють» сціхі, Скарына, несумненна, меў на ўвазе традыцыі літургічнай літаратуры, якая была даволі распаўсюджанай на ўсходнеславянскіх землях. Сціх для тагачаснага чытача гэтай літаратуры, у тым ліку Бібліі, быў не ў навіну. Пазней асобныя біблейскія сціхі пачалі нават нумаравацца, што значна аблягчае іх пошук у Бібліі.

Малітваслоўны верш у арыгінальнай беларускай канфесійнай літаратуры адным з першых выкарыстоўваў яшчэ Кірыла Тураўскі (каля 1113–пасля 1190). Як, дарэчы, і само паняцце «стих». Вось некаторыя «Кирилла епископа Туровского *стиси*...» з яго малітвы і заўвагай-папярэджаннем пры выкананні яе: «По каемъждо *стисе* метание [зямны паклон. – *В.Р.*] съ усмирением и съ слезами, исповедаяся пред образом Господа нашего Исуса Христа и Пречистыя Его Матере». Прывядзем у якасці ілюстрацыі невялікі ўрывак з гэтай малітвы:

*Христе Боже мой и Творче! Помилуй мя, много съгрешившего, оскверненаго всякими плотскыми нечистотами мръзостных, и в безсловесных молю Тя премилостиве: отпусти ми сиа и чистоту подаждь ми!*

*О Владыко мой Боже и Господи Исусе Христе, Иже благоволил еси прийти на землю на спасение грешных, пръвый в них аз есмь, превзыдох многыми бесчисленными грехы моими! Приими мя, обращающагося к Тебе ныне и спаси мя, якоже спасл еси Манасию, и блудницу, и блуднаго сына!*

*Всещедре и милостиве Господи! Приими покаание мое, якоже приял разбойника, на кресте исповедавша Ти ся, и спаси мя Креста ради Твоего и еже на том излиянныа пречистыа божественыа крове Твоея за мирьскый живот!* [1, с. 65].

У канцы малітвы – яшчэ адно ўказанне, што гэта не празаічны тэкст, а вершаваны: «И по концы коегождо правила глаголи сей *стих*» [1, с. 66]. А гэта азначала, што пры выкананні малітвы патрэбна было захоўваць не толькі ўзвышаную, велічную танальнасць, але і пэўны мелодыка-інтанацыйны малюнак. Гэта, як бачым, разумелі святары і вернікі яшчэ ў XII ст. Што ўжо казаць пра скарынаўскі час, пра пачатак XVI ст.! Раўнамернае ж чаргаванне асобных *сціхоў* – малітоўных выслоўяў з тым самым мелодыка-інтанацыйнам малюнкам – і падтрымлівала своеасаблівы ізахронны рытм малітваслоўнага верша.

Але не толькі гэта. На ўзнікненне *сціхавога рытму* малітвы аказвалі ўздзеянне таксама чыста моўныя – граматычныя і лексічныя – рытмастваральныя сродкі: паўтор аднолькавых сінтаксічных канструкцый, тэматычных клішэ выказванняў (зварот да Бога + указанне на Яго літасць + канкрэтная просьба верніка), наяўнасць анафарычных зачынаў, адных і тых жа ці падобных лексем, граматычных формаў... Выразны сціхавы рытм праз сваю эстэтычную функцыю ўздзейнічаў, у сваю чаргу, на псіхіку вернікаў, выклікаў у іх станоўчыя эмоцыі, стан душэўнага

ўздыму, эстэтычнага перажывання. Менавіта ў гэтым – асноўная прычына звароту да driршаванага рытму, да сціха як у шматлікіх творах Кірылы Тураўскага, у яго малітвах, казаннях, прытчах, словах, так і ва ўсёй літургічнай паэзіі.

Як мы бачылі, толькі ў адной сваёй малітве Кірыла Тураўскі тройчы ўжыў тэрмін «стих», засведчыўшы прысутнасць яго ў беларускай літургічнай літаратуры і літаратурнай мове далёкага XII ст. Выкарыстоўваўся малітваслоўны верш у богаслужбовых тэкстах Беларусі і пазней, у тым ліку, як мы ўжо гаварылі, у творах Францыска Скарыны, а таксама яго паслядоўнікаў (Сымон Будны, Васіль Цяпінскі і інш.). Усё гэта дае нам падставу ўвесці яго ў гісторыю беларускага вершавання і як асобную адзінку верша (*сціх*), і як асобную сістэму вершавання – *сціхавое вершаванне*.

Вось некалькі сціхоў з пятай главы кнігі «Іоў», якія Скарына раздзяліў на пісьме вялікімі «тлустымі» кропкамі, а мы – прабеламі. Разам з тым нахіленай рыскай (/) паказваем месца цэзуры ўнутры сціхоў.

*Ничто же не деется на земли без причины, / и из земли не исходить болѢзнь.*
*Человек родится къ роботѢ, / и птица к летанию.*
*Сего деля помолюся аз господу / и прѢд богом моим положу словѢса моя.*
*Он же чинить дела великая и неисведомая и дивная, / им же несть числа.*
*Он одождяет дождь на лице земли, / и напояеть водами всю вселенную.*
*Он же возводить смиреныя на высокость, / и немощные приводить к полному здравию.*
*Он же роспрашаеть мышления злых, / дабы не могли наполнити рук своих яже почали суть.*
*Он постигаеть мудрых в хитрости их, / и совѢт неправѢдных розвращаеть.*
*В день впадуть в тмы: / и яко вночи, тако щупати будуть ополудни.*
*Но избавить нищего от меча устъ их, / и из руки насилниковы изторгнеть убогаго.*
*И будеть нищему в надежу, / яко нечестие стулить уста своя.*
*[3, с. 722].*

Так і хочацца ўсклікнуць: якая метафорыка, афарыстыка, якая высокая паэзія перад намі! Ясна, што так перастварыць старажытнагрэцкі тэкст мог толькі сапраўдны паэт. Зноў звернемся да меркавання Ю. Лабынцава: «Скарына-пісьменнік застаецца малавядомым нават сярод вучоных, не кажучы ўжо пра шырокага чытача. Важкіх слоў аб літаратурным таленце вялікага беларуса яшчэ не сказана, яны яшчэ наперадзе. А ён жа быў незвычайным паэтам і выдатным гімнографам, творы якога жылі ў чалавечых сэрцах цэлыя стагоддзі...» [17, с. 124]. Доказам сказанага могуць служыць многія старонкі перакладзеных ім кніг Бібліі, як, дарэчы, і паэтычнасць асобных мясцін уласных тэкстаў – прадмоў і пасляслоўяў перакладчыка да гэтых кніг, што мы ўбачым пазней. Нельга не згадзіцца з В. Седаковай, што «в богослужебных текстах мы часто сталкиваемся с весьма изысканной поэзией, и здесь есть проблемы, которые возникают при переводе любой поэзии: желательно, чтобы переводчик был поэтом... Наличные переводы часто напоминают прозаические подстрочники, они необходимы в учебных целях, но когда их читают или поют на богослужении, кажется, что произносят не текст, а комментарий к тексту. Вся сила и красота слова пропадает. А литургическому слову необходима сила и красота» [25].

У перакладах Скарыны, як правіла, захаваны і моц, і прыгажосць літургічных тэкстаў. Гэта, зрэшты, наглядна бачна пры супастаўленні яго перакладу з некаторымі сучаснымі перакладамі Бібліі на рускую і беларускую мовы.

Вось, для прыкладу, гэтыя ж сціхі адпаведна ў рускамоўным і беларускамоўным сучасных перакладах Бібліі. Прычым, перакладах не з горшых, можа, нават лепшых на сёння:

*«6 Так, не из праха выходит горе, и не из земли вырастает беда; 7 но человек рождается на страдание, как искры, чтобы устремляться вверх. 8 Но и я к Богу обратился бы, предал бы дело мое Богу, 9 Который творит дела великие и неисследимые, чудные без числа, 10 дает дождь на лице земли и посылает воды на лице полей; 11 униженных поставляет на высоту, и сетующие возносятся во спасение.*

*12 Он разрушает замыслы коварных, и руки их не довершают предприятия. 13 Он уловляет мудрецов их же лукавством, и совет хитрых становится тщетным; 14 днем они встречают тьму и в полдень ходят ощупью, как ночью. 15 Он спасает бедного от меча, от уст их и от руки сильного. 16 И есть несчастному надежда, и неправда затворяет уста свои» [5 , с. 514];*

*6. Так, ня з пылу выходзіць гора, і не зь зямлі вырастае бяда;*
*7. а чалавек нараджаецца на пакуту, як іскры, каб імкнуцца ўгору.*
*8. Але я да Бога зьвярнуўся б, аддаў бы дзею маю Богу,*
*9. Які творыць дзеі вялікія, бясконца дзівосныя,*
*10. дае дождж улоньню зямлі і пасылае воды на ўлоньне палёў;*
*11. прыніжаных ставіць на вышыню, і гаротнікаў узносіць у выратаваньне.*
*12. Ён разбурае намыслы хітрых, і рукі іхнія не давяршаюць пачатага.*
*13. Ён ловіць мудрацоў іхняй жа хітрасцю, і рада хітрых робіцца марнай:*
*14. удзень яны сустракаюць цемру і апоўдні ходзяць вобмацкам, як поначы.*
*15. Ён ратуе беднага ад меча, ад вуснаў іхніх і ад рукі моцнага.*
*16. І ёсць надзея няшчаснаму, і няпраўда стуляе вусны свае»*
*[6 , с. 684–685].*

Не станем параўноўваць пераклады паводле іх адэкватнасці арыгіналу (ці рускаму перакладу-пасрэдніку, як у выпадку з беларускамоўным тэкстам), звернем увагу толькі на паэтычнасць іх. Нельга сказаць, што яна, паэтычнасць, у іх адсутнічае. Ды нават лепшы, на нашу думку, беларускамоўны пераклад Васіля Сёмухі адчувальна саступае ў гэтым сэнсе перакладу Францыска Скарыны.

Аднак не адзін талент, відавочна, дапамагаў Скарыну захоўваць паэтычнасць, мастацкасць пры перакладзе ім Бібліі. Несумненна, талент талентам, але пісьменніку патрэбна і творчая вучоба, самастойная ці – яшчэ лепш – спецыяльная. Як мы ведаем, Скарына скончыў факультэт вольных навук Кракаўскага ўніверсітэта, атрымаў разам з дыпломам доктара філасофіі і глыбокія веды па антычнай і рэнесансавай рыторыцы, паэтыцы. Ва ўніверсітэце належная ўвага надавалася і практыцы: выпрацоўцы ўмення спалучаць «гамераўска-платонаўскую канцэпцыю «ляпіць душы» з цыцэронаўскай тэорыяй красамоўства, якая патрабавала ад творцаў выкарыстання трох стыляў, рытмізаванага складу ў прамовах, прозе і паэзіі» [В. Дышыневіч; 17, с. 138]. Усё гэта якраз і дапамагло Скарыну ў часе перакладчыцкай творчай працы, абумовіла не толькі стыль гэтай працы, але і яе вынікі. Выдаць за тры гады (1517–1519) 23 кнігі Бібліі (калі не перакласці ўпершыню, то дапрацаваць ранейшыя пераклады, напісаць да іх прадмовы і пасляслоўі, праілюстраваць, надрукаваць кнігі і г. д.) – сёння такое магло б трапіць у Кнігу рэкордаў Гінеса...

Аднак вернемся да праблемы *сціхоўнасці* прыведзеных вышэй цытат з перакладу «Іова».

Вершаваны рытм ствараецца раўнамерным чаргаваннем у вершаваных радках (сказах, абзацах) якіх-небудзь аднолькавых/падобных маўленчых/моўных з'яў. Якія ж маўленчыя (гукавыя, інтанацыйныя) і моўныя (лексічныя, граматычныя) з'явы тут можна вылучыць? Найперш трэба памятаць, што ў адносінах да біблейскай паэзіі гаворка можа ісці пра тэкст, які гучыць, пра яго інтанацыйнае, меладычнае напаўненне. Па назіранні М. Грынчыка, «кандакарны біблейскі верш падпарадкоўваўся зусім іншым структурным законам – вызначальнай тут з'яўлялася суадпаведнасць паміж зместам тэксту і яго музычным афармленнем або распевам» [13, с. 144]. На гэта звяртаў увагу і сам Скарына, у прыватнасці ў сваёй «Малой падарожнай кніжцы»: «Стихеры на господи возвах покаялные – глас 6 и на стиховни писаны суть на вечерни... Канон гробу господьню гласа 1, певаемы со акафістом и в неделю на заутрени... Канон Предтечи, глас 2, творение Іосифа, певаемый со акафістом и на утрени...» [21, с. 101]. Калі ж нават проста дэкламаваць сціхі, то ў такім выпадку на іх рытм будзе таксама аказваць уплыў характар інтаніравання: перад паўзай, якая

падзяляе сціх на два сінтагматычныя адзінствы, інтанацыя ўзыходная (антыкадэнцыя), пасля паўзы – зыходная (кадэнцыя).

Разам з тым, разважаючы над спецыфікай біблейскай паэзіі, якая мянялася з часам, прафесар П. Беркаў слушна ўказаў на яе нязменную моўна-сэнсавую канстанту – «так званы parallelismus membrorum («паралелізм членаў»), гэта значыць паралельнае развіццё ідэі ў паэтычнай «адзінцы» – вершы. Кожны біблейскі сціх звычайна складаецца з двух падзеленых цэзурай паўрадкоўяў, радзей – з трох частак. У першым выпадку паэтычная думка ці паэтычны вобраз, выражаны ў першым паўрадкоўі, атрымліваюць далейшае развіццё ў другім паўрадкоўі <...>. Значна радзейшыя выпадкі паралелізму членаў, калі сціх складаецца з трох частак. У гэтым выпадку паралелізм абавязковы для першай і другой або для другой і трэцяй частак...» [22, с. 254–255].

Літаральна ўсе вышэй прыведзеныя намі сціхі таксама выяўляюць названыя асаблівасці малітваслоўнага верша. Нахіленай рыскай мы паказалі месца паўз (цэзур), што дзеляць сціхі на дзве часткі як паводле інтанацыі (антыкадэнцыя + кадэнцыя), так і вобразна выказаных у іх думак. Калі мы разглядалі сціхі Кірыла Тураўскага, звярнулі ўвагу на паўтор гэтак званых аднатыпных вобразна-сэнсавых клішэ. Там яны складаліся з трох частак (зварот да Бога + указанне на Яго літасць + канкрэтная просьба верніка). Тут – з дзвюх. «Паралелізм членаў», перыядычны паўтор іх, зразумела, моцна ўплывае на стварэнне моўнага рытму малітваслоўнага верша. Як і паўтор аднатыпных сінтаксічных канструкцый (сказаў з далучальнай сувяззю), анафарычных зачынаў, асобных лексем (займеннікаў «онъ», злучнікаў «и») і інш.

Каб пацвердзіць нашыя назіранні, звернемся яшчэ да аднаго выразна паэтычнага біблейскага тэксту, таксама падзеленага на сціхі. Да перакладу «Песні песняў» цара Саламона (пачатак главы 4):

*Се ты коль красна есь, приателко моя, / се ты коль красна есь.*
*Очи твое, яко голубице, / кромѢ того, что внутри скрито ест.*
*Власы твое, яко стада коз, / еже выходять з горы Галаад.*
*Зубы твое, яко стада овець пострыженых, / еже выступили из купала.*
*Вси имеюще по двою ягнеток, / и яловое несть посреди их.*
*Яко завивание червеное, уста твоя, / и молвение твое сладко* [4, с. 431].

Як і ў папярэднім выпадку, біблейскі тэкст у кнізе «Песня песняў» надрукаваны так, як друкуюцца празаічныя тэксты – паводле шырыні кніжнай старонкі. Так, зрэшты, друкуецца большасць богаслужбовых тэкстаў нават сёння. Асобныя ж *сціхі* ў Скарыны аддзяляюцца адзін ад аднаго «тлустымі» кропкамі, размешчанымі не ўнізе, а пасярэдзіне радкоў. Традыцыя такога падзелу біблейскага тэксту на сціхі (часам яны раздзяляліся паміж сабой і прабеламі), відавочна, запазычана Скарынам з рукапісных царкоўнаславянскіх тэкстаў XI–XVI стст. Часам для аналагічных мэт прымяняюцца двукроп'і. І ўспрымальнікі Бібліі добра разумелі гэта. Прыгадаем заўвагу перакладчыка, выказаную ім у прадмове да кнігі «Іоў»: «вся сия книга стихами розделена ест, – яко же, чтучи, поразумееш». Тое ж – і ў прадмове да ўсёй «Бібліі»: «кождая глава делится на притчи, якобы на неякие стихи или розделения, яже чтучи поразумееш»...

Яшчэ адзін прыклад – сціхі з малітвы, што завяршае кнігу «Плач Ераміі»:

*Воспомяни, господи, всѢ пригоды наше, возри и видь студ лица нашего.*
*Достояние наше обратися в чуждих, и домы наша во иноплеменники.*
*Сироты учинены есмо без отцев, матки наше яко вдовице.*
*Воду нашу за сребро пихом, дрова наше за цену куповахом.*
*За шыю ведены быхом, утомленным не даша отпочинения <...> [4, с. 693].*

І тут, як і ў папярэдніх выпадках, рытм ствараецца інтанацыйнымі сродкамі (антыкадэнцыя + кадэнцыя) і моўнымі (паралелізм членаў, паўторы граматычныя, сінтаксічныя, лексічныя). Да таго ж, тэкст раздзелены на асобныя *монасціхі* (аднарадкоўі), што чытачы/слухачы літургічнай паэзіі добра «разумелі», паколькі гэтыя сціхі аддзяляліся адзін ад аднаго міжсціхавымі паўзамі. Паўтор монасціхоў з аднатыпным мелодыка-інтанацыйным і моўным малюнкам і стварае іх своеадметны рытм.

Разам з тым у Бібліі Скарыны сустракаем і іншае, спецыфічнае размяшчэнне сціхоў. Гэта, у прыватнасці, назіраецца ў кнізе «Плач Ераміі», своеасаблівай і пранікнёнай лемантацыі Боскага прарока Ераміі па разбураным дашчэнту агрэсарам (царом Навуханадоносарам) Ерусаліме. Архітэктоніка кнігі непасрэдна прадвызначана яе зместам. Вось як растлумачыў сам перакладчык залежнасць формы падачы матэрыялу ад яго зместу: «*Потреба ест ведати, иже сия книжка замыкает в собѣ шесть азбук еврейских. У первой главе азбука едина, якоже имена слов великим письмом роздельне межи стихами положены суть. Во второй главе азбука едина. У третией главе азбуки три, на почятку кажного стишка слово едино. В четвертой главе азбука едина. А во единой кажной азбуце суть слов двадесеть и два*». Далей Скарына пералічвае па-парадку ўсе 22 літары яўрэйскага алфавіта ў іх арыгінальным гучанні, і тут жа дае іх пераклад: «*Первое слово называется алеф, еже по-рускии сказуется наука. Второе бет, знаменует дом. Третее кгимель – полность. Четвертое далет – крижала. Пятое ге – сия*» і г. д. [4, с 676]. Пасля кожнага такога слова, вылучанага прапіснымі літарамі, ідуць «стихи» ў выглядзе трохрадкоўяў:

**АЛЕФ**

*Азъ муж видяй нищету мою в жезле розгневания моего:*
*Мене погналъ есть и привел въ темность, а не во светлость:*
*Толико на мя возложил и обратил руку свою весь день:*

**БЕТ**

*Стару учинил кожу мою и тело мое и сотре кости мое:*
*Обляже мя воколо и оградил мя жолчию и суетою:*
*Во тьмахъ посадилъ есть мене яко мертвеца вечного:*

**КГИМЕЛЬ**

*Окружил мя абых не выходил и обтяжил путо мое:*
*Но егда вопихъ и просихъ, загналъ есь молитву мою:*
*Завалял пути мое камением и превратил стези мое.*

**ДАЛЕТ**

*Медведь лобяй учинен ест, мне лев во сокритостех:*
*Стези моя сокрушил и выв ратил и положил мя пуста:*
*Натягне лук свой и поставил мя яко мету ко стреле:*

**ГЕ**

*Впустил есть в лядви мое стрелы тула своего:*
*И бых впосмех всем людем моим и в песнь весь день:*
*Накормил мя горкостями и напоил мя пелыном: <...> [3, с.686–687].*

Такі выгляд маюць усе 22 «стихи» кожнай з трох першых глаў «Плачу Ераміі». Магчыма, так быў пададзены тэкст у невядомым нам нейкім старажытным іншамоўным арыгінале, з якога Скарына іх і перакладаў. Аднак у ніводнай з сучасных Біблій такой сціхавой архітэктонікі няма. Таму, хутчэй за ўсё, гэта своеасаблівае ноў-хаў самога перакладчыка, які пры друкаванні не ігнараваў і візуальны спосаб падачы тэкставага матэрыялу. Так, у канцы той жа кнігі «Плач Ераміі» невялікае пасляслоўе «Франциска Скорины с Полоцька» надрукавана ў выглядзе трохкутніка

вастрыём уніз. Прычыну ж такога афармлення і кнігі ў цэлым, і асобных сціхоў (у выглядзе тэрцэтаў) знаходзім у тым жа пасляслоўі Скарынавым: «*Доконана есть книжка Плачу Еремии, пророка господня. Еже замыкаеть в собѣ во трех главах три азбуки еврейские. А во самой третей главе три азбуки.* ***На знамя тайны живоначалное тройци***» [4, с. 695; вылучана мной. – *В.Р.*]. Аказваецца, усе «трыяды», у тым ліку сціхавыя тэрцэты, прадвызначаны задачай звярнуць увагу на святую тройцу, якую Скарына з піетэтам згадваў у прадмовах і пасляслоўях літаральна да ўсіх сваіх перакладаў свяшчэнных кніг Бібліі.

У адрозненне ад першых трох глаў кнігі «Плач Ераміі», у перадапошняй, чацвёртай, сціхі ўвасобляюцца ўжо не ў тэрцэтах, а ў дысціхах. Вось пяць першых (з усіх 22) дысціхоў гэтай главы:

**АЛЕФ**

*И яко затемнело есть злато, и променися краска найлепшая.*
*Роскиданы суть каменеве святыни на початку всехъ улицъ:*

**БЕТ**

*Сыновѣ сионстии славни и одеани златомъ первымъ.*
*Сѣ положены, яко сосуды глинены дело рук горнчаревых:*

**КГИМЕЛЬ**

*Но иланѣ обнажили перси и кормили дети свое.*
*Дщера же людей моих нелютостива, яко пструс в пустыни.*

**ДАЛЕТ**

*Прильпе язык сущего к дяснам его для жажды.*
*Мали просили суть хлеба и не было, кто бы уломил им:*

**ГЕ**

*Тии еже кормлены были, в кохаший загинули на пути:*
*И тии еже хованы были, во красных речах хопилися гною:* <...>
*[3, с. 690-691].*

Заўважым, што такую архітэктоніку кнігі «Плач Ераміі» (запіс сціхоў у выглядзе трох і двух радкоў) вядомыя нам сучасныя ўзнаўленні Бібліі (рускае, беларускае, украінскае, польскае і некаторыя іншыя) не ўтрымліваюць. Пры гэтым ніводны з даследчыкаў творчай спадчыны Скарыны чамусьці на падобны візуальны запіс тэксту таксама ўвагі не звярнуў. А перад намі ж нішто іншае, як асобныя вершаваныя строфы (тэрцэты і дысціхі), выкарыстаныя Скарынам яшчэ на самым пачатку далёкага XVI стагоддзя, – несумненны ўклад яго ў беларускую, ды і ўсю славянамоўную, строфіку. Разам з тым, «Плач Ераміі» можна ўспрымаць і як паэму ў вершах, напісаную пераважна трохрадковікамі і двухрадковікамі. У такім выпадку мы будзем мецы не «ўсяго тры» (П. Беркаў) вершы беларускага паэта эпохі Сярэднявечча (менавіта паэта!), а сціхоў на цэлую кніжку яго перакладной паэзіі! І трэцяе, што хацелася б адзначыць. Калі, як слушна выказаўся той жа П. Беркаў, Скарына «імкнуўся спалучыць прынцыпы біблейскай паэтыкі з элементамі сілабізму, які пачынаў зараджацца» [22, с. 258], то гэтае «спалучэнне» выявілася найперш не ў яго ўласных сілабічных вершах, а найперш ў перакладных сціхах. У тым ліку ў тых, што ўвайшлі ў паэму-ламентацыю «Плач Ераміі».

## 2.

А цяпер звернемся да арыгінальных твораў Францыска Скарыны, што пісаліся

як дадаткі да перакладных біблейскіх тэкстаў. Гэта – прадмовы і пасляслоўі да кожнай з выдадзеных ім кніг Бібліі. У іх якраз і змешчаны тыя сілабічныя віршы, якія разглядаў П. Беркаў, выяўляючы ў іх уплыў малітваслоўных сціхоў.

Па словах М. Гаспарава, «у рускай паэзіі першыя вопыты сілабікі адносяцца да часу каля 1654 г.<..>. Усе яны пісаны, відавочна, украінска-беларускімі аўтарамі. Але рашучым момантам у засваенні сілабікі рускай паэзіяй была творчасць Сімяона Полацкага (у Маскве з 1664)" [8, с. 29]. Што да беларускай паэзіі, то такія першыя вопыты сілабікі звязаны з творчасцю Францыска Скарыны і адносяцца да самага пачатку XVI ст., да 1517–1519 гг.

Вершы Францыска Скарыны, як слушна выказаўся П. Беркаў, з'яўляюцца "першым фактам беларускага і – гаворачы шырэй – усходнеславянскага вершаскладання, і ў гэтым іх гістарычнае значэнне" [22, с. 246]. Даследчык меў на ўвазе тры сілабічныя "вершы або, дакладней, **віршы** Скарыны" [вылучана мной. – *В.Р.*] – выклад Дзесяці запаведзяў (прадмова да кнігі "Выход"), чатыры вершаваныя радкі з прысвячэння да кнігі "Іоў" ("Богу в троици единому...") і два – з прадмовы да кнігі "Эсфір" ("Не копай под другом ямы..."). Пры гэтым вучоны адзначыў, што гісторыкі беларускай літаратуры "толькі і гавораць аб гістарычным значэнні гэтых вершаў і не спрабуюць прааналізаваць іх і зразумець іх мастацкую прыроду" [22, с. 246]. Ён слушна наракаў: з мноства яшчэ не пастаўленых ці не да канца вырашаных пытанняў (а да сярэдзіны 1960-х гг. скарыназнаўчая бібліяграфія налічвала ўжо амаль паўтары тысячы пазіцый) «пытанне аб яго вершах і іх ролі ў гісторыі ўсходнеславянскага вершаскладання займае адно з самых сціплых месц. Больш таго, для шырокай аўдыторыі пастаноўка такога пытання, відаць, будзе нечаканай, для спецыялістаў па гісторыі беларускай культуры і літаратуры, магчыма, нават неправамернай» [22, с. 245]. Чым жа вучоны тлумачыў усё гэта?

Па-першае, «колькасць вершаў Ф. Скарыны невялікая – іх усяго тры; да таго ж яны вельмі кароткія, традыцый яны, наколькі можна меркаваць па сучаснаму стану матэрыялаў, не стварылі, і, значыць, вершы або, дакладней, віршы Скарыны прадстаўляюць адасоблены факт у гісторыі беларускай і тым больш усходнеславянскай літаратуры». Па-другое, «у мастацкіх адносінах вершы Скарыны не маюць каштоўнасці», нягледзячы на іх пэўнае «гістарычнае значэнне» ( «яны былі ўсё ж першым фактам беларускага і – щырэй – усходнеславянскага вершаскладання»). Далей вучоны, гаворачы пра вершаванне Скарыны, не столькі аналізаваў яго віршы, колькі імкнуўся высветліць, што паслужыла для іх узорам. Не знайшоўшы такіх узораў сярод тагачаснай чэшскай і польскай сілабічнай паэзіі, ён звярнуўся да біблейскіх *сціхоў* і прыйшоў да высновы: віршы Скарыны «пабудаваны па ўзору біблейскіх», перакладчык Бібліі «зрабіў арыгінальную спробу адрадзіць прынцыпы біблейскага вершаскладання, прымяняючы іх на беларускай моўнай глебе». «Філалагічнае чуццё, – зрабіў вывад П. Беркаў, – вяло Скарыну па правільнаму шляху – ад біблейскай паэтыкі паралелізму членаў да сілабікі, якая толькі што ўзнікла і шырока распаўсюдзілася ў заходніх, а затым і ўсходніх славян» [22, с. 259, 260].

Пасля з'яўлення артыкула П. Беркава прайшло пяцьдзясят год. Аднак, па сутнасці, ажно да цяперашняга часу адчуваецца пэўная недаацэнка віршаў Скарыны. Як і яго вершатворчасці ў цэлым. Так, у даследаванні вядомага беларускага вершазнаўца Івана Ралько «Беларускі верш. Старонкі гісторыі і тэорыі» сілабіцы адведзена некалькі дзясяткаў старонак. Але віршы Скарыны, якія, быццам бы, толькі «з пэўнай агаворкай можна аднесці да сілабічных», пакінуты па-за ўвагай, пра іх згадваецца толькі ў адной прыстаронкавай зносцы кнігі [15, с. 29]. У сваёй манаграфіі «Шляхі беларускага вершаскладання» Мікола Грынчык скарынаўскія віршы, хоць і спыніўся на іх, аднёс хутчэй не да ўласна вершаў, а толькі да «пераходнай формы ад прозы да верша – розніца паміж імі найчасцей зводзіцца да большай ці меншай стылістычнай выразнасці і адпаведнай расстаноўкі сінтаксічна-інтанацыйных элементаў» [13, с. 38].

Разам з тым, ні І. Ралько, ні М. Грынчык, ні іншыя даследчыкі ў сваіх спецыяльных вершазнаўчых працах біблейскія *сціхі* Скарыны, на якіх, як на непасрэдным узоры для віршаў, зясяродзіў сваю асноўную ўвагу П. Беркаў, нават не ўспомнілі. Як выказаўся М. Грынчык, дадзенае меркаванне П. Беркава «недастаткова пераканаўчае хаця б таму, што Скарына перакладаў "Біблію" не з арыгінала" [13, с. 35].

І ўсё ж публікацыя П. Беркава ў пэўнай ступені абудзіла цікавасць да Скарынывершатворца. Больш за тое – да Скарыны як да арыгінальнага паэта, у якога паэзія знайшла ўвасабленне і ва ўласных сілабічных вершах, і ў перакладных малітваслоўных (біблейскіх) сціхах, і – нярэдка – ў арыгінальнай паэтычнай прозе прадмоў і пасляслоўяў да асобных кніг Бібліі.

Беларускі літаратуразнавец І. Саверченка, сааўтар С. Кавалёва па напісанні раздзела "Паэзія" ў «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў. Том 1. Даўняя літатурав XI – першая палова XVIII стагоддзя» (2007), дае, у прыватнасці, вельмі высокую ацэнку (у адрозненне ад П. Беркава) віршам Скарыны: «У прадмовах да кніг Іоў, Выхад і Эсфір змешчаны некалькі цікавых сваім зместам і формай рыфмаваных радкоў, якія не страцілі свайго мастацкага і духоўна-маральнага зместу да нашага часу» [12, с. 426; тое ж: 20, с. 174].

Вершы Скарыны ў свой час цытаваў П. Уладзіміраў у манаграфіі "Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык" (СПб., 1888), Яфім Карскі ў шматтомным даследаванні "Белорусы" (Пг., 1921, т. III, вып. 2), Вацлаў Ластоўскі ва ўнікальнай «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» (Коўна, 1926), Аляксей Коршунаў у «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры» (Мінск, 1959) і інш. Так што П. Беркаў, відавочна, некалькі лукавіў, кажучы, што «пастаноўка пытання» аб вершах Скарыны «для шырокай аўдыторыі <...>, відаць, будзе нечаканай, для спецыялістаў па гісторыі беларускай культуры і літаратуры, магчыма, нават неправамернай» Праўда, кожны з названых даследчыкаў цытаваў вершы, зыходзячы са свайго (ці сваіх папярэднікаў) разумення правільнасці запісу тэкстаў, часам недакладна ўказваючы на месца публікацыі іх у кнігах Бібліі (звычайна пішуць – «у прадмовах» ці, як В. Свяжынскі, – «у канцы прадмоў да кніг "Выхад", "Эсфір" і "Іоў"» [19, с. 494]). У той жа час, як мы ведаем, пры аналізе мастацкіх твораў, найперш вершаваных, неабходна ўлічваць не толькі дату іх напісання/друкавання, але і месца, форму публікацыі. Зыходзячы з гэтага, мы звернем увагу як на чарговасць друкавання віршаў, так і на месца і характар іх размяшчэння на кніжных старонках Бібліі.

Першы верш мае чатыры радкі. Надрукаваны ён *у якасці эпіграфа* да кнігі «Іоў», выдадзенай у Празе 10 верасня 1517 года. Размешчаны на тытульнай старонцы кнігі, адразу пасля яе назвы. Здавалася б, нязначны факт. Разам з тым не толькі жанрам эпіграфа (а гэта, па сутнасці, эпіграф-прысвячэнне), але і месцам яго публікацыі (на тытульнай старонцы) Скарына распачаў у беларускім кнігадрукаванні традыцыю гэтак званай эмблематычнай паэзіі (вершаваныя прысвячэнні-«эпіграмы»), што асабліва расквітнела ў апошняй чвэрці XVI ст. Пачын Скарыны подхапілі беларускія паэты-сілабісты Андрэй Рымша, Лявон Мамоніч, Стэфан Зізаній, Лаўрэнцій Зізаній і інш., якія склалі і надрукавалі на пачатку кніжных выданняў («Статут ВКЛ» 1588 г., «Апостол» 1591 г., «Грамматика» 1596 г. і інш.) шэраг панегірычных вершаў-прысвячэнняў.

«Іоў» была другой па чарговасці выдання кнігай Скарыны, што ўбачыла свет літаральна праз месяц пасля знакамітага «Псалтыра» (выйшаў у Празе 6 жніўня 1517 г.). Вось гэты першы з вядомых нам віршаў Францыска Скарыны:

*Богу в троици единому ко чти и ко славе:*
*Матери его Пречистой Марии к похвале:*
*Всем Небесным силам и святым его к веселию:*
*Людем посполитым к доброму научению [3, с. 705].*

І Я. Карскі, і В. Ластоўскі, і А. Коршунаў, і большасць іншых літаратуразнаўцаў, якія цытавалі гэты верш, адносяць яго да сілабічнай сістэмы вершавання, тым самым вызначаючы канкрэтную дату ўзнікнення сілабікі ў беларускай пісьмовай паэзіі: 1517 год. На тое, што дадзены верш сілабічны, указвае перш за ўсё просты падлік складоў у кожным з яго радкоў. Вось як размяшчаюцца склады ў чатырохрадкоўі Скарыны: 15–14–15–14[1]. У эпіграфе няма, як прынята ў кананічнай сілабіцы, аднолькавай колькасці складоў ва ўсіх чатырох радках. Але гэта аднолькавасць захоўваецца адпаведна ў няцотных і цотных радках, што па вялікаму рахунку не пярэчыць сілабічнаму характару верша. Таму не зусім зназумелае меркаванне П. Беркава, які прааналізаваў гэты твор з пункту погляду строгай сілабікі пазнейшага польскага ўзору і, не знайшоўшы ў ім некаторых яе прыкмет (роўнаскладовасці літаральна *ўсіх* радкоў, *сумежнай* рыфмоўкі, абавязковасці *жаночых* рыфмаў), прыйшоў да зусім нечаканай высновы: «Значыць, данае чатырохрадкоўе з поўным правам можна назваць сілаба-танічным вершам» [22, с. 250].

Сапраўды, сілаба-тоніка дапускае і чаргаванне ў вершаваных радках рознай колькасці складоў, і перакрыжаваную рыфмоўку, і дактылічную, а не толькі жаночую, рыфму (*веселию – научению*). Але галоўнае для сілаба-тонікі, што з'явілася ва ўсходніх славян нашмат пазней сілабікі, – раўнамернае чаргаванне ў радках моцных і слабых месц, названае ў шырокім ужытку чаргаваннем націскных і ненаціскных складоў. Чаго, зразумела, няма ў чатырохрадкоўі Скарыны. О, калі б гэта было так, як сцвярджае П. Беркаў, мы гісторыю не толькі беларускага, але і ўсяго ўсходнеславянскага сілаба-танічнага вершавання перанеслі б на два стагоддзі раней, на самы пачатак XVI века! На жаль (а можа, на шчасце?), сілаба-тоніка ўвайшла ў рускае вершаванне толькі ў першай палове XVIII ст. (у выніку рэформы Традзіякоўскага-Ламаносава 1735–1752 гг.). А ў беларускае і ўкраінскае – на цэлае стагоддзе пазней...

Звернемся цяпер да вершаванага пераказу шырока вядомых Дзесяці запаведзяў з кнігі «Выхад» (люты 1519 г.). Па сутнасці гэта не проста пераказ, нават не «вольны пераклад» (У. Конан), а арыгінальны паэтычны твор, напісаны по матывах старажытнаяўрэйскага арыгінала. Прычым, Скарына не толькі змяніў форму малітваслоўнага сціха першакрыніцы, надаўшы яму воблік вірша, але ў пэўнай ступені і сам яго змест. Паводле назірання У. Конана, ён «дзясятую запаведзь раздзяліў на дзве», іудаісцкі дагмат «наблюдай день субботний, чтобы свято хранить его», замяніў на «помни дни святые святити». Але, несумненна, самае галоўнае – паэт «поўнасцю адкінуў другую запаведзь», накіраваную калісьці супраць ідэалогіі язычнікаў: «Не делай себе кумира и никакого изображения того, что на небе вверху и что на земле внизу, и что в водах ниже земли, не поклоняйся и не служи им» [Гл.: 12, с. 293–294]. Апошняе было абумоўлена тым, што хрысціяне, а не толькі язычнікі, у рэлігійных мэтах заўсёды шырока выкарыстоўвалі розныя віды выяўленчага мастацтва, у тым ліку «изображения».

Верш «Веруй в бога единого...», у адрозненне ад папярэдняга твора, размешчаны *ўнутры тэкста прадмовы* пасля слоў: «Яко господь бог десятеро приказание им дал написано на досках каменных». Прычым, усе дзесяць запаведзяў – што надзвычай паказальна і важна – надрукаваны не паасобку, не дзесяццю радкамі, а папарна, пяццю радкамі. Прычым, над кожнай з запаведдзю ўказаны яе парадкавы нумар. Вось як на самай справе выглядае запіс верша, прапанаваны Скарынам:

*ПЕРВОЕ: ВТОРОЕ:*
*Веруй в бога единого. А не бери надармо имени его*
*ТРЕТЕЕ: ЧЕТВЕРТОЕ:*
*Помни дни светые святити. Отца и матку чтити*
*ПЯТОЕ: ШЕСТОЕ;*
*Не забивай ни едина. И не делай Греху блудна*

---

[1] Чамусьці І. Саверчанка налічыў іншую колькасць складоў: 16:15, 15:14 [Гл.: 20 , с. 174].

*СЕДМОЕ:* *ОСМОЕ:*
*Не вкради что дружнего.* *А не давай сведецтва лжива*
*ДЕВЯТОЕ:* *ДЕСЯТОЕ:*
*Не пожедай жены ближнего.* *Ни имения или речи его*
*[2, с. 109–110].*

А вось у якім запісе падае гэты верш П. Беркаў:

*Веруй в бога единого,*
*А не бери надармо имени его,*
*Помни дни святые святити,*
*Отца и матку чтити,*
*Не забивай ни едина,*
*И не делай греху блудна,*
*Не вкради что дружнего,*
*А не давай свядецтва джива,*
*Не пожедай жены ближнего,*
*Ни имения или речи его.*
*[22, с. 247].*

Заўважым: мы ўпершыню ў навуковай публікацыі перадрукавалі гэты верш так, як ён надрукаваны ў Скарыны. І сам П. Беркаў, які запазычыў вершаваную цытату у П. Уладзімірава, і ўсе літаратуразнаўцы да яго і пасля яго, хто аналізаваў ці проста цытаваў дадзены верш (Я. Карскі, В. Ластоўскі, А. Коршунаў, М. Грынчык, І. Саверчанка і інш.) запісвалі твор не ў выглядзе квінцілы (пяцірадкоўя), а – дэцымы (дзесяцірадкоўя). Адсюль, мы лічым, – галоўныя літаратуразнаўчыя недакладнасці, пралікі ў вызначэнні характару гэтага верша.

Згодна П. Беркаву, «пераказ дзесяці запаведзяў ужо не падпарадкоўваецца правілам ранняга сілабічнага вершаскладання. Паслядоўнасць складоў у ім наступная: 8:12; 9:7; 8:8; 7:9; 9:11. Адначасова можна заўважыць, што ў першым і пятым двухрадкоўях па 20 складоў у кожным, а ў другім, трэцім і чацвёртым – па 16 складоў. Такім чынам, аб роўнаскладовасці асбных радкоў размовы тут быць не можа» [22, с. 250]. І. Саверчанка дае некалькі іншую трактоўку паэтыкі скарынінскага верша: «Верш напісаны ў адпаведнасці з логікай біблейных дзесяці запаведзяў Майсея, але даступнай для беларускага чытача мовай. Ён мае пераважна паралельную [г. зн. сумежную. – *В.Р.*] рыфму і адметную рытмічную структуру – 9: 12, 9: 7, 9: 7, 7: 11, 10: 11, – даволі мілагучную і лёгкую для чытацкага ўспрымання» [20, с. 174]. У падліку складоў П. Беркаў аказаўся больш дакладны, чым І. Саверчанка, але і яго падвёў зменены (у параўнанні са скарынаўскім) запіс верша – не пяццю, а дзесяццю радкамі. Калі ж зрабіць падлік складоў у пяцірадкоўі (так, як у Скарыны), атрымаецца наступны іх лік : 20–16–16–16–20. Дзіўная сіметрыя і гармонія! Вельмі рэдкія для свайго часу, надзвычай цікавыя два 20-складовікі... Своеасаблівая «рамка», што абрамляе тры 16-складовікі... Не звычайная канцавая, а ўнутраная рыфмоўка... Рыфмы адна-, двух- і трохскладовыя, у тым ліку састаўныя (*ближнего – речи его*)...

Няўжо гэта той жа сілабічны верш? Несумненна! Толькі «разняволены». Без тых строгіх фармальных «ланцугоў», якія вызначалі заходнеславянскую, а пазней і ўсходнеславянскую сілабіку – абавязковасці аднолькавай колькасці складоў літаральна ва ўсіх радках верша, канцавых сумежных, прычым толькі жаночых, рыфмаў, пастаяннага месца цэзуры. Ці не гэта скоўвала рускую сілабіку ў XVII – першай трэці XVIII ст., а беларускую яшчэ даўжэй – ажно да канца XIX ст.?..

Сіметрыя і гармонія ў вершы пра дзесяць запаведзяў відаць нават у размеркаванні цэзуры ў асобных яго радках. Так, у другім, трэцім і чацвёртым яна знаходзіцца адпаведна пасля 9, 8 і 7 складоў. Другая палова тых самых радкоў па колькасці складоў уяўляе іх люстэркавае адбіццё – там іх адпаведна 7, 8 і 9 (не забудзем, што

ў гэтых радках агульная колькасць складоў адна і тая ж: па 16). Першы і пяты радкі, як мы ўжо заўважылі, маюць па 20 складоў. Нягледзячы на гэта, падтрымліваецца пэўнае месца цэзуры і тут: у першым радку яна знаходзіцца пасля 8 склада, у пятым – пасля 9. Зноў сіметрыя і гармонія!

Калі ўлічыць усё вышэй сказанае, то, сапраўды, нельга не згадзіцца з думкай М. Грынчыка, што «па свайму структурнаму ўзроўню вершавання творы Скарыны намнога апярэджваюць пазнейшыя ўзоры беларускіх вершаў, яны сведчылі аб даволі высокай рытматворчай культуры беларускага асветніка» [13, с. 35]. Больш таго, дададзім ад сябе: творы Скарыны неабвержна сведчаць пра яго высокую *паэтычную культуру* ўвогуле. А яна, паэтычная культура, увабрала ў сябе як прыроджаны паэтычны талент, так і глыбокае веданне вусна-паэтычнай творчасці роднага народа, а таксама – вершавання многіх славянскіх і рамана-германскіх народаў (дзякуючы валоданню Скарынам лацінскай, грэцкай і іншымі мовамі, вучобе ў еўрапейскіх універсітэтах). Еўрапейскае ж вершаванне (грэцкае, італьянскае, французскае, нямецкае і інш.), а не толькі польскае і чэшскае, узоры якога ў Скарыны шукаў і не знаходзіў П. Беркаў, было ўжо да пачатку XVI ст. добра развіта як у галіне метрыкі, рытмікі, гэтак і рыфмікі, строфікі. Што, дарэчы, доказна паказана ў даследаванні М. Гаспарава «Очерк истории европейского стиха» (1989) [9].

Цяжка паверыць, што, складаючы свае вершы, Скарына, як звычайны графаман, падлічваў колькасць складоў у радках, глыбакадумна падшукваў рыфмы, прыдумваў рыфмоўку. У кожнага сапраўднага паэта, а такім паэтам і быў беларускі асветнік, надзвычай развіта рытмічнае (як і рыфмічнае) чуццё, той, кажучы словамі У. Маякоўскага, «рытмічны гул», які «пакрываўся словамі». І калі Скарына ўзгадняў структуру сваіх вершаў са структурай інтанацыйна-сказавага народнага вершавання, як сцвярджаў М. Грынчык, або арыентаваў іх на структуру біблейскага сціха, як гэта даказваў П. Беркаў, то гэтыя «ўзгадненні» і «арыентацыі» адбываліся спантанна, падсвядома. Мяркуючы па ўсім, вершы «прыходзілі» да яго, як прыходзяць звычайна да паэта «божай міласцю», а не проста да вершапісца: ён іх не выдумваў, не вымучваў. Ды і часу на тое не ставала: трэба было хутчэй пісаць прадмовы да больш як двух дзясяткаў перакладзеных ім кніг Бібліі, якія тэрмінова ішлі ў друк. Калі б усё было па-іншаму, ён пакінуў бы пасля сябе не «ўсяго тры», а намнога больш вершаў. Магчыма, мы знайшлі б іх у кожнай з прадмоў. У той жа час свой паэтычны талент і паэтычнае натхненне ён растрачваў не толькі ў *вершах*, але і ў *паэтычнай прозе* – напісанных прозай, паэтычных па сваім характары публіцыстычных тэкстах, а таксама ў перакладных і арыгінальных *малітваслоўных сціхах*, якія, спадзяваўся іх аўтар, праваслаўныя вернікі, «чтучи, поразумеють». Несумненна, былі ў яго (не маглі не быць!) арыгінальныя вершы і сціхі, што прыходзілі неспадзеўкі, безадносна да асноўнага занятку – перакладу Бібліі. Але, відавочна, цэльная і мэтаскіраваная натура, ён ім не надаваў вялікага значэння. Ва ўсякім разе, не друкаваў. Хоць здаўна і гаварылі «Scripna manet!» («Напісанае застаецца!»), аднак – на жаль! – далёка не заўсёды. Часцей застаецца надрукаванае...

Апошні з вядомых нам вершаваных твораў Скарыны – гэта двухрадковік, які прыйшоў да яго, відаць, ужо тады, калі ён закончыў пісаць прадмову да перакладу кнігі «Эсфір» (чэрвень 1519). Двухрадковік і надрукаваны, у адрозненне ад першых двух вершаў, у самым канцы «Предословия доктора Франъциска Скорины с Полоцька в книги Есъфера-царици»:

*Не копай под другом своим ямы, сам ввалишся в ню.*
*Не став, Амане, Мардохею шибенице, сам повиснеш на ней [7, с. 656][1].*

Ацэньваючы рытміку дадзенага двухрадковіка, можна згадзіцца з П. Беркавым: гэта не сілабіка, бо ў ім няма «прыкмет рыфмы і роўнаскладовасці». Нават калі

разбіць верш на чатыры радкі (што, дарэчы, зрабіў той жа П. Беркаў), то і ў такім разе мы ўбачым наступныя суадносіны складоў: 10 – 5 – 13 – 6. Несумненна, перад намі «чыстая» тоніка, што ўзыходзіць да народнага (фальклорнага) верша гутарковага тыпу. У кожным радку 7 іктаў, па сэнсу і інтанацыі раздзеленых цэзурай на дзве часткі: 4 + 3. Таму нельга згадзіцца з выказваннямі накшталт таго, што «на працягу 1517–1519 гг. Скарына ад несілабічных вершаў стаў пераходзіць да сілабічных» [22, с. 251]. Якраз наадварот! Пачаўшы з выразна сілабічных віршаў, ён звярнуўся і да тонікі...

Не толькі рытміка, але і змест скарынаўскага двухрадковіка сведчыць не толькі пра біблейскую, а і пра народна-фальклорную яго аснову. Так, прыказка «Не капай ямы пад другім, сам уваліішся ў яе», праіснаваўшы звыш 500 год, дажыла ў беларускай вусна-народнай творчасці да сённяшняга дня. Менавіта яна калісьці справакавала (у добрым сэнсе) і само напісанне, і характар верша Скарыны. Першы яго радок – гэта крыху зменената, удакладненая народная прыказка (замест *пад другім* – *под другом своим*). Другі радок – падобнае структурна і па сэнсу выказванне з біблейскага аповеду. Уласна, у такім выглядзе яго там не было. Гэта – заключэнне, выснова, зробленая самім Скарынам з апісанай у Бібліі сітуацыі. А яна наступная. Аман, галоўны князь пры царскім двары, які злосна ненавідзеў яўрэеў, нагаварыў цару небыліц на царскага слугу Мардахея, каб атрымаць загад фізічна знішчыць яго. Ужо і вісельня ім была прыгатавана для гэтага. Але за Мардахея заступілася яго родзічка Эсфір, жонка цара, расказала яму пра нагавор Амана. Цара вельмі разгневаў абман князя. І на вісельні замест Мардахея апынуўся Аман...

Такім чынам, упершыню ў гісторыі не толькі беларускага, але і ўсяго ўсходнеславянскага пісьменства Францыск Скарына звярнуўся да *сілабічнага вершавання*. Яму належаць два арыгінальныя *вiршы* (“Богу в троици единому...” і “Веруй в бога единого...”), дзе ўвасоблены некаторыя наватўвядзенні ў галіне рытмікі і рыфмікі, аналогію якім можна знайсці хіба што ў больш позняй, сілаба-танічнай, сістэме вершавання, якая атрымала распаўсюджанне ў рускай паэзіі з сярэдзіны XVIII ст., у беларускай і ўкраінскай – яшчэ пазней, з XIX ст. Наследуючы традыцыі народнага (фальклорнага) *танічнага вершавання*, Скарына пакінуў і яго ўзор ва ўласнай паэтычнай творчасці – у вершы-двухрадковіку “Не копай яму под другом своим...”.

## 3.

Паэтычная сутнасць таленту Францыска Скарыны, выразна і найраней выяўленая перакладамі Свяшчэннага Пісання, засведчана не толькі ў іх, не толькі ў віршах, але і ў тым, што ён напісаў прозай. Дакладней – у празаічных прадмовах і пасляслоўях да асобных кніг Бібліі.

У цэлым скарынаўскі прадмоўна-пасляслоўны корпус адносіцца да публіцыстыкі, прычым – рознастылёвай, дзе сярод інфармацыйна-справавога, навуковага стыляў стае, аднак, месца і стылю мастацкаму, нават паэтычнаму. Нельга не згадзіцца з Алесем Жлуткам: «Уражвае рытмічная завершанасць, суладнасць і лёгкасць мовы скарынаўскіх прадмоў і пасляслоўяў: рытарычныя фігуры падкрэсліваюць узнёсласць і грацыёзнасць выкладу, нагадваючы вытанчаны стыль Цыцэрона» [17, с. 244]. Вось прыклад высокамастацкай і высокаідэйнай паэтычнай прозы – з «Предословия доктора Франъциска Скорины с Полоцька в книгу ”Иудиф-вдовици”»:

*«Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя. Птици, летающие по воздуху, ведають гнезда своя. Рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя. Пчелы*

---

[1] У «Гісторыі беларускай літаратуры Хі–ХІХ стагоддзяў...” гэты верш чамусьці друкуецца і разглядаецца як “чатырохрадкоўе” [Гл.: 12, с. 427].

*и тым подобная боронять ульев своих. Також и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають» [7, с. 604].*

Гэта глыбока эмацыянальнае, вобразнае, рытмічна ўпарадкаванае выказванне не патрабуе спецыяльнага “перастварэння” ў верш, каб захаваць сваю паэтычнасць. Як не патрабуюць гэтага, скажам, вядомыя «Стихотворения в прозе» Івана Тургенева. Калі б гэта было іначай, Скарына, думаецца, сам выкарыстаў бы форму верша, накшталт таго, як ён выкарыстаў яе пры перакaзе дзесяці запаведзяў.

У свой час М. Лазарук у выступленні на першых Скарынаўскіх чытаннях (1986), раскрываючы “Тэарэтыка-літаратурныя погляды Скарыны”, даволі грунтоўна паказаў паэтычную сутнасць многіх яго прадмоў і пасляслоўяў. Згодна ягоназіранняў, яна выявілася ў стылістыцы скарынінскага тэксту: лексіцы, тропіцы, паэтычным сінтаксісе, фоніцы... Даследчык зафіксаваў “прыклады вялікай увагі Скарыны да вершаванай мовы як мовы рытмічнай, эўфанічнай, мілагучнай”, яго разуменне “шырокіх магчымасцей лірыкі ў адлюстраванні жыцця, выхаваўчым яе ўздзеянні на чалавека, прычым уздзеянні не толькі эмацынальным, але адначасова і разумовым” [17, с. 106, 104]. Зразумела, не ўсе прадмовы і пасляслоўі Скарыны могуць падаць прыклады высокай паэзіі. Часта ў іх мы знойдзем звычайную інфармацыю, нейкае паведамленне, “сухі” навуковы довад, выклад асобных палажэнняў і г. д. Але выразная паэтычная натура творцы праглядвае і тут.

Вось, напрыклад, “Предсловие в притчи премудраго Саломона, царя Израилева”, дзе Скарына як навуковец, тэарэтык литаратуры, спакойна расказвае пра жанр прытчы:

*«Притчи же нарецаются еврейскым языком Масшлоф. А грѣческим Параболѣ. По-латине же Провѣрбия. А по-рускый Притчи или Присловия, понеже иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують, а иначей ся разумеють, нежели молвлены бывають, и болши в собѣ сокрытых тайн замыкають, нежели словами пишуть» [4, с. 292].*

Аднак неўзабаве інфармацыя, навуковы выклад змяняецца палкім лірычным маналогам, поўным жарсці, вобразнасці:

*«Ест бо в сих притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у вореху. Кто ю знайдеть, сей знайде милость, и достанеть благословение от господа, и приидеть к нему все доброе посполу с нею: хвала и честь безчисленная моцию ея. Она убо ест мати всех добрых речей, и учитель всякому доброму умению. В ней воистину ест дух разумности святый, единый, различный, смысленый, скромный, вымовный, движющийся, непосквѣрненый: истинный, сладкий, чистый, сталый, добротливый: и всякую иную имеющий в собе добрую цноту»* [4, с. 294].

Падобны пераход ад рацыё да эмоцыі, ад эпікі да лірыкі можна знайсці і ў іншых месцах прадмоўна-пасляслоўнага біблейнага корпусу. Нельга не згадзіцца з М. Лазаруком, што ў такіх выпадках мы сустракаемся з практычнай рэалізацыяй патрабаванняў Скарыны адносна «эўфаніі і рытмічнасці выкладу сваіх думак, адпаведна з жанравымі асаблівасцямі, большасці біблейскіх твораў, у прыватнасці твораў прапаведніцкіх, прамоўніцкіх, аратарскіх. Нездарма многія свае прадмовы Скарына называў “сказаннямі”, г. зн. прамовамі» [17, с. 106].

## 4.

Мы спыніліся на арыгінальных скарынаўскіх творах, вершаваных (два вершы сілабічныя, адзін – танічны) і празаічных (прадмовы і пасляслоўі да перакладаў асобных кніг Бібліі). Перад гэтым разглядалі некаторыя пераклады біблейскіх тэкстаў – з пункту гледжання “працы” ў іх асобных сціхоў малітваслоўнага верша. Разам з тым сціхі Францыск Скарына выкарыстоўваў не толькі перакладаючы Біблію, але таксама і ў сваіх арыгінальных творах.

Як вядома, надрукаваўшы ў 1517–1519 гг. у Празе 23 кнігі Бібліі ва ўласным перакладзе на старабеларускую мову царкоўнаславянскай рэдакцыі, Скарына вярнуўся ў родны край. Тут у Вільні ў 1522 г. ён выдаў “Малую падарожную кніжку”, куды уключыў 18 акафістаў і канонаў. «Акафістамі называюць асобыя царкоўныя службы, якія складаюцца з панегірычных, хвалебных песнапенняў і малітваў у гонар Ісуса Хрыста, Багародзіцы і святых, а канонамі – песнапенні, складзеныя на аснове біблейскіх песняў старазапаветных прарокаў і праведнікаў» [19, с. 234]. Такім чынам, і акафісты, і каноны як творы песенныя таксама складаюцца з асобных сціхоў. Усе акафісты і каноны ў Скарыны пераважна перакладныя. Аднак сярод іх знаходзяцца і два выразна арыгінальныя – «Акафіст Іаану Прадцечы» і «Акафіст Ісусу». Як слушна сцвярджае даследчык старажытнай літургічнай паэзіі А. Турылаў, «Скарына – родапачынальнік жанру акафіста ва ўсходнеславянскай гімнаграфіі, які пашырыўся ў беларускай, рускай і ўкраінскай літаратурах 17–18 ст.» [19, с. 304].

Ужо адно гэта можна паставіць Скарыну ў заслугу. Але не толькі. Ён – першы ўсходнеславянскі паэт, які ў акафістах ужыў форму акраверша. Праўда, дакладней было б і па-беларуску назваць гэты від верша *акрасціхом*, паколькі мы маем справу не з вершам у цяперашнім разуменні, а з літургічным сціхом. Вось пачатковыя фразы першых пяці сціхавых моўных перыядаў «Акафіста Іаану Прадцечы»:

**Стих 1**

***П**очитаем славную память твою, богом похваленый Іоанне, господень день предтече, болей всех пророков <...>*

**Стих вторы**

***И**же зачатием своим отца удивил во чрѢве материне, створителя своего познал, и ко пришествию его, яко всесветного царя, радость с поклонением показал <...>*

**Стих трети**

***С**ам ты, преблаженѢ Іоанне, от ангела имя принял, нарожением своим многих людей обвеселил <...>*

**Слава**

***А**нгельское житие явил еси вьсем нам, пресвятый крестителю господень, и троицу живоначальную ясне проповедал <...>*

**І ныне**

***Л**укавый Ирод не хотяй оставити прелюбодейци, жены брата своего, тобою запрещен быв, пресладкий учителю Іоанне <...> [15, с. 79–80].*

Калі паглядзець на першыя літары гэтых сціхоў зверху ўніз (яны вылучаны намі тлустым шрыфтам), можна прачытаць слова ***«Писал»***. Наступныя пачатковыя літары кожнага з 12 кандакоў і ікасаў (царкоўных песнапенняў), якія чаргуюцца папераменна, дазваляюць прачытаць цалкам прозвішча аўтара гэтага акафіста: ***«Писал доктор Скоринич Францискус»***.

У другім акафісце, «Акафісце Ісусу», таксама прачытваецца своеасаблівы «аўтограф» аўтара, але ўжо крыху відазменены.

**Стих 1**

***Д**ивное имя твое, Ісусе, спасе нашь, недостойными усты воспоминающее, славим тя, иже ест более всякого имени <..>*

**Стих вторы**

***Е**ст прѢвелико имя твое, Ісусе, на небеси от ангел почитаемо, седящу ти одесную бога отца <...>*

**Стих трети**

***Л**епо ест нам всем хрестианом веселитися о имени твоем, Ісусе пресладкий <...>*

**Слава**

***А**ввакум, пророкуя о имени твоем, Ісусе, сыне божий, сице глаголяше <...>*

**И ныне**

***Л**екарю души и тела, Ісусе предрагый, уздрави немощи телесные, исцели недуги душныe, избави муки огненое <...> [14, с. 87–88].*

Тут, як бачым, пачатковыя літары сціхоў складаюцца ў слова "**Делал**". Увесь жа акрасціх (разам з дванаццаўцццю кандакамі і ікасамі) выпісвае фразу «Делал доктор Скоринич Францішкоус».

Апрача гэтых двух арыгінальных акрасціхоў ёсць у Скарыны і трэці, перакладны – «Акафіст святому Пятру і Паўлу». Ён ужо не *імянны*, а *алфавітны*: паслядоўна фіксуе ўсе 24 літары грэцкага алфавіта (з улікам асаблівасцей кірылічнай азбукі), прычым засноўваецца толькі на кандаках і ікасах, не закранае 5 сціхоў да першага кандака [гл.: 17, с.235]. Перад намі – своеасаблівы сціх-азбукоўнік, таксама першы азбукоўнік у нашай паэзіі. Яшчэ адно своеасаблівае ноў-хаў Скарыны-вершапісца, Скарыны-паэта.

* * *

Такім чынам, ёсць усе падставы называць Францыска Скарыну не толькі першадрукаром, перакладчыкам, публіцыстам, тэологам, асветнікам, мастаком-графікам і інш., але і таленавітым *паэтам*, пачынальнікам беларускага і ўсяго ўсходнеславянскага вершавання. Ён быў яскравым прадстаўніком *сціхавога вершавання*, сістэмы, што ў гісторыі ўсходнеславянскай паэзіі папярэднічала сілабічнаму вершаванню. У аснове *сціхавога рытму* скарынаўскага перакладнога і арыгінальнага малітваслоўнага верша, разлічанага, як правіла, на вуснае выкананне, ляжаць два чыннікі: маўленчы, рытма-меладычны (традыцыйна замацаваныя распевы, інтаніраванне, антыкадэнцыя і кадэнцыя) і моўны, сэнсавы (тэматычны і сінтаксічны паралелізм, анафары, паўторы асобных лексем і інш.). У актыў Скарыны-паэта можна залічыць не толькі ўсталяванне рытмастваральных чыннікаў малітваслоўнага верша (сціха), але і распрацоўку некаторых яго жанраў, відаў і форм (*акафіст, тэрцэт, дыпціх, акрасціх імянны, акрасціх-азбукоўнік* і інш.).

У той жа час свой паэтычны талент і паэтычнае натхненне Скарына раствараў не толькі ў сціхах, але і ў *паэтычнай прозе* – напісаных прозай, але нярэдка паэтычных па сваім характары, публіцыстычных тэкстах – прадмовах і пасляслоўях да звыш чым дваццаці перакладзеных ім кніг Бібліі. З прадмоўна-пасляслоўным біблейным корпусам тэкстаў звязана і напісанне Скарынам двух сілабічных вершаў (віршаў) і аднаго танічнага. Гэтым самым яшчэ на пачатку XVI ст. было запачаткавана беларускае вершаванне, якое пазней аказала ўплыў на ўкраінскае, а з другой паловы XVII ст., праз творчасць Сімяона Полацкага, – і на рускае...

Усё сказанае ставіць Францыска Скарыну ў шэраг выдтных беларускіх пісьменнікаў ранняга Адраджэння, якія пакінулі глыбокі след у літаратуры – у мастацкім перакладзе, публіцыстыцы, паэзіі.

**Літаратура:**

1. Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI – першая палова XVIII стагоддзя / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы; падрыхт. А. І. Богдан [і інш.]; навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 1016 с.

2. Біблія: факс. узнаўленне Бібліі, выд. Ф. Скарыною ў 1517–1519 гг. У 3 т. Т. 1. – Мінск: БелСЭ, 1990. – 832 с.

3. Біблія: факс. узнаўленне Бібліі, выд. Ф. Скарыною ў 1517–1519 гг. У 3 т. Т. 2. – Мінск: БелСЭ, 1991. – 808 с.
4. Біблія: факс. узнаўленне Бібліі, выд. Ф. Скарыною ў 1517–1519 гг. У 3 т. Т. 3. – Мінск: БелЭ, 1991. – 782 с.
5. Библия / Стереотипное издание с Библии 1968 г. – М.: Издание Московской патриархии, 1983. – 1372 с.
6. Біблія. У беларускім перакладзе / перакл. В. Сёмуха. – Duncanville: World Wide Printing, 2002. – 1536 с.
7. Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. – СПб., 1888. – 351 с.
8. Гаспаров М. Л. Очерк истории русского стиха. Метрика, ритмика. рифма, строфика / М. Л. Гаспаров. – М.: Наука, 1984. – 320 с.
9. Гаспаров М. Л. Очерк истории европейского стиха / М. Л. Гаспаров. – М.: Наука, 1989. – 304 с.
10. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 3. Вариво–Вкупе / склад. А. П. Груцо. В.У. Мяснікова, У. М. Свяжынскі; рэд. А. М. Булыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 310 с.
11. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 32. Смыковати–Струмень / склад. А. М. Булыка [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2012. – 502 с.
12. Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў. У 2 т. Т. 1. Даўняя літаратура: XI – першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы; навук. рэд. тома В. А. Чамярыцкі. – 2-е выд. – Мінск: Бел навука, 2006. – 910 с.
13. Грынчык М. М. Шляхі беларускага вершаскладання. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1973. – 264 с.
14. Ралько І. Д. Беларускі верш.Старонкі гісторыі і тэорыі / І. Д. Ралько. – Мінск: Вышэйш. школа, 1969. – 232 с.
15. Рэлігія і царква на Беларусі: энцыкл. даведнік / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 2001. – 368 с.
16. Слоўнік мовы Скарыны. Т. 2. / склад. У. Анічэнка.– Мінск: Вышэйшая школа, 1984. – 362 с.
17. Спадчына Скарыны: зб. матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986) / укл. А. І. Мальдзіс; уступ. слова І. Я. Навуменкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 318 с.
18. Срезневский И. И. Словарь древнерусского языка. Т. 3. Ч. 1 (Р–С) / – М.: Книга, 1989. – [Репринтное издание]. – 912 с.
19. Францыск Скарына і яго час: энцыкл. давед. / Беларус. Савец. Энцыклапедыя; рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелСЭ, 1988. – 608 с.
20. Францыск Скарына. Са слаўнага горада Полацка: артыкулы, нарысы / уклад. Алеся Сушы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2017. – 324 с.
21. Францыск Скарына. Творы: прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Скарына Францыск; уступ. арт., падрыхт. тэкстаў, камент., слоўнік А. Ф. Коршунава, паказальнікі А. Ф. Коршунава, В. А. Чамярыцкага. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 208 с.
22. 450 год беларускага кнігадрукавання / АН БССР; рэдкакл. К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва) [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – 436 с.
23. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 2 (В). – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 344 с.
24. Каково место религии в современной культуре? Интервью Ольги Седаковой. Адрас доступу: www.religare.ru/2_13807.html. Дата доступу: 19.03.2917.
25. Богослужебный текст на русском возможен: Ольга Седакова о переводах Анри Волохонского. Адрас доступу: www.colta.ru/articles/literature/9901. Дата доступу: 19.03.2017.
26. Свящ. Алексей Агапов. В поисках существенных дефиниций молитвословного стиха. Адрас доступу: pstgu.ru/download/12780888890.agapov.pdf. Дата доступу: 20.03.2017.

## Юлія Бібіла



..я – трэйцяе пакаленне сялянскай сям'і –
з аднаго боку прыгоннай, з другога –
вольнай ад прыгону – ад культуры
з усходу і з захаду нямала харошага ўспрыняла...

# "...Прысвяціць сябе справе блізкай, харошай!"

***Успаміны***

*Падрыхтоўка да друку і каментары Таццяны КЕКЕЛЕВАЙ і Арсеня ЛІСА.*

### Творца летапісу беларускага друку

Юлія Восіпаўна Бібіла, адна з першых беларускіх бібліёграфаў, краязнаўца, нарадзілася 10 студзеня 1897 г. у мястэчку Поразава ў сям'і валаснога пісара. Адметна, што ў родзе Бібілы па лініі маці захоўваліся звесткі пра паўстанне 1863-64 гадоў, былі сваяцкія сувязі з сям'ёй Каліноўскіх.

Нягледзячы на жыццёвыя цяжкасці (ранняя смерць бацькі), Юліі ўдалося скончыць прыватную гімназію ў Ваўкавыску. У 1914 г. разам з маці Юлія Бібіла пераехала ў Бабруйск, скончыла восьмы (педагагічны) курс прыватнай гімназіі Аляксеевай, пачала настаўнічаць. Праз нейкі час здолела паступіць яшчэ і на Вышэйшыя жаночыя курсы ў Петраградзе. У красавіку 1917-га па вяртанні з Бястужаўскіх курсаў у Бабруйск актыўна ўключылася ў шырэйшую грамадскую працу. Зноў працавала ў мясцовым Камітэце помачы ахвярам вайны, стала сябрам аддзялення Беларускага культурна-асветнага таварыства "Бацькаўшчына".

З рэкамендацыяй Фабіяна Шантыра паступіла ў Беларускую сацыялістычную грамаду. У савецкі час працягвала настаўнічаць, паралельна працавала ў гарадской бібліятэцы, дзе арганізавала аддзел краязнаўчай літаратуры, правярала стан хатаў-чытальняў на Бабруйшчыне.

На той час Бабруйск адыгрываў прыкметную ролю ў палітычна-грамадскім жыцці Беларусі. Там вёў арганізацыйную працу вядомы беларускі дзеяч левага накірунку, пісьменнік, публіцыст, старшыня Бабруйскага камітэта БСГ Фабіян Шантыр, працаваў у будучым знаны беларускі географ і краязнавец Мікалай Азбукін. Апошні казаў Юлі: “Вось граніцы падуць, і мы з табой пехатой пойдзем у Парыж”. Трэцяй прыкметнай асобай у тагачасным Бабруйску быў дырэктар гарадской бібліятэкі І.Б. Сіманоўскі, выпускнік Бернскага ўніверсітэта Швейцарыі.

Фарміраванне светапогляду, грамадзянскай пазіцыі Юліі Бібілы адбывалася, такім чынам, у абставінах вялікіх грамадскіх зменаў у жыцці краіны.

Грамадзянскае сталенне будучага бібліёграфа праходзіла ў Менску падчас навучання на этнолага-лінгвістычным аддзяленні БДУ. Нягледзячы на малады век першай вышэйшай навучальнай установы Савецкай Беларусі, яна валодала першакласнымі педагагічнымі кадрамі. Былі гэта навукоўцы і ўдзельнікі палітычна-грамадскага руху Беларусі 1917-1920 гадоў. Курс беларускай мовы вёў выдатны беларускі мовазнавец Язэп Лёсік. Курс гісторыі Беларусі чытаў гісторык і наркам асветы БССР Усевалад Ігнатоўскі. Лекцыямі геаграфіі Беларусі паланіў Аркадзь Смоліч. Пра гісторыю беларускага мастацтва ад старажытных часоў да сучаснасці распавядаў Мікалай Шчакаціхін.

З пачатку 1920-х гадоў імкліва пачала развівацца беларуская савецкая літаратура, рэпрэзентаваная цэлай кагортай маладых паэтаў, празаікаў, крытыкаў. У Вільні была выдадзеная першая “Гісторыя беларускай літаратуры”, напісаная Максімам Гарэцкім.

Адразу пасля паступлення ў БДУ ў 1922 годзе энергічная і мэтанакіраваная Юлія Бібіла па рэкамендацыі І.Б. Сіманоўскага пачала працаваць у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы. Узначаліла ў ёй Беларускі аддзел, занялася яго ўкамплектаваннем, распачала складанне картатэкі кніг і перыядычных выданняў Беларусі. Пры Белдзяржбібліятэцы як асобная структура яе была заснавана Кніжная палата. За сакратара ў ёй прызначылі Мікалая Улашчыка, у будучым таленавітага гісторыка. Маладыя інтэлігенты калегавалі, раіліся, разам набывалі вопыт у захапіўшай іх працы з кнігамі.

Да распачатай у 1923 годзе Беларускім аддзелам бібліятэкі працы над падрыхтоўкай і выданнем беларускай бібліяграфіі ў 1925 годзе далучыўся Інстытут беларускай культуры. У 1926 годзе дзеля выдання бібліяграфіі пры Дзяржбібліятэцы было створана Бібліяграфічнае бюро.

У аснову картаграфічных правілаў Белдзяржбібліятэка, яе адпаведныя падраздзяленні ўзялі англа-амерыканскія правілы з некаторымі зменамі, уведзенымі Міжнародным бібліяграфічным інстытутам у Бруселі. Бібліяграфічная служба ў Савецкай Беларусі 1920-х усталёўвалася грунтоўна.

Падрыхтаваныя матэрыялы бібліяграфіі сталі публікавацца ў бюлетэні “Летапіс беларускага друку”, які выдавала Кніжная палата. Кожны выпуск “Летапісу...” меў нумарное пазначэнне парадкавай часткі. Паколькі першая частка, прызначаная апісанню старадрукаў, яшчэ не была падрыхтавана, выданне пачыналася з другой. Яна храналагічна ахоплівала выданні 1835–1916 гг. і мела падзагаловак “Паасобныя выданні на беларускай мове з дадаткам пракламацый і адозваў 1863 і 1905 гг”. Адметна, што выпуск улучаў 10 пазіцый выдадзеных кніг В. Дуніна-Марцінкевіча з пазначэннем дадзеных, адпаведных бібліяграфічным правілам. Была ўпершыню апісана спадчына пісьменніка. Трэцяя частка “Летапісу беларускага друку” прадстаўляла выданні на беларускай мове 1917-1924 гг. У чацвёртай быў скрупулёзна

апісаны перыядычны друк на беларускай мове за 1917–1926 гг. У прадмове адзначалася, што “такі сшытак будзе даведнікам для даследчыка – гісторыка, публіцыста, для кожнага, хто будзе вывучаць развіццё беларускай грамадскай думкі”. Асобна пазначалася, што 4-я частка “Летапісу беларускага друку”, як і папярэднія, “уложана загадчыцай Беларускага аддзелу Беларускай бібліятэкі Ю. Бібіла”.

Паспрабавала сябе Юлія Восіпаўна і ў літаратуразнаўстве. Надрукаваны ёю ў 1928 годзе ў “Запісках гуманітарнага аддзела навук” Інбелкульта артыкул аб жыццёвым шляху Алаізы Пашкевіч (Цёткі) была адной з першых грунтоўных публікацый пра паэтэсу-рэвалюцыянерку.

Была складзена і апублікавана Юліяй Бібіла і аднаасобная, так бы мовіць, персанальная бібліяграфія. У ёй зарэгістравана публікацыя твораў Ц. Гартнага (Зміцера Жылуновіча), чалавека неардынарнага сярод беларускай інтэлігенцыі 1920-х. Выявіць кожнае выданне, *de visu* апісаць яго: дзе, калі, кім, якім выдавецтвам і годам выдадзена, – усё гэта патрабавала шмат часу. Патрэбна была любоў да справы, руплівасць, адказнасць, і ўсё гэта мелася ў маладой Юліі.

Была спрыяльная грамадска-палітычная атмасфера ў рэспубліцы – даволі паспяхова адбывалася дзяржаўнае будаўніцтва, ішло станаўленне нацыянальнай культуры, навукі. Ды беларускі Рэнесанс 1920-х гадоў аказаўся маланкава кароткі. Наступілі 1930-я гады з іх нечуванымі масавымі рэпрэсіямі. Не абмінулі яны ў 1937-м і сціплай працаўніцы на карпатлівай дзялянцы беларускай бібліяграфіі. Па сваёй працы Юлія Бібіла была знаёмая з многімі вядомымі беларускімі інтэлектуаламі – як наведнікамі Беларускага аддзела Дзяржбібліятэкі. Пра гэта пазней расказала ў сваіх мемуарах. Пры арышце ж яе следства імкнулася выкарыстаць кантакты Юліі Восіпаўны з ужо раней рэпрэсаванымі інтэлігентамі, выстаўляла ёй ілжэабвінавачанне ў ролі сувязной, кур'ера нацдэмаў. Высланая ў горад Саратаў, пасля выхаду з турмы яна працавала бібліёграфам фундаментальнай бібліятэкі Саратаўскага ўніверсітэта.

Праз 22 гады вярнулася ў Мінск, аднавіла працу ў Белдзяржбібліятэцы. Збірала рэспубліказнаўчы і краязнаўчы кніжны фонд. Распачала бібліяграфічную рэгістрацыю друку БССР, складанне першай у Беларусі краязнаўчай бібліяграфічнай картатэкі. У суаўтарстве з Ф. Амерынай склала “Летопись печати БССР. Ч.III. 1917–1924. Тетрадь 2”, у якой былі ўлічаны выданні на рускай, польскай, яўрэйскай мовах. Прыняла ўдзел у складанні “Бібліяграфіі па гісторыі Беларусі” (феадалізм, капіталізм) пад аўтарствам М.Г. Крэканэ, А.А. Сакольчыка. Разам з А.А. Сакольчыкам падрыхтавала бібліяграфічны даведнік “Асвета Беларускай ССР за 50 год Савецкай улады” (1973).

Вярнуўшыся на радзіму, аднавіла сувязі, ліставанне з тымі, што засталіся, нешматлікімі інтэлігентамі, людзьмі, неабыякавымі да лёсу Беларусі часоў сваёй маладосці. Дзялілася ўспамінамі, цікавілася творчасцю маладых. Засталася ў памяці жывой, уважлівай да духоўна-культурных праяваў жыцця, лёсаў інтэлігенцыі.

Гартаваная няпростымі жыццёвымі абставінамі, руплівая інтэлігентка-асветніца Юлія Бібіла сваёй працай рэальна дапамагала даследчыкам беларушчыны спасцігаць культурніцкія, навуковыя здабыткі свайго народа, яго гісторыю. Інакш кажучы, працавала над стварэннем своеасаблівай лоцманаўскай карты для арыентацыі ў моры кніг, часопісных ды газетных публікацый. І за гэта ёй гаворыць “дзякуй” сёння, і яшчэ скажа, не адно пакаленне працаўнікоў навукі, асветы, палітыкі.

Чытачам “Дзеяслова” прапануюцца мемуары Юліі Восіпаўны, якія напісаны ў 1967 г. па просьбе Арсеня Сяргеевіча Ліса і цяпер захоўваюцца ў асабістым фондзе навукоўца і пісьменніка ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Тэксты запісаны ў 1 агульным і ў 15 вучнёўскіх сшытках, апошнія адрозніваюцца колькасцю аркушаў, якія аўтарка ўкладала ў кожны сшытак. Аркушы спісваліся з аднаго боку, другі пакідаўся для дапаўненняў і заўваг. Боль-

шасць сшыткаў мела назву, напісаную на вокладцы алоўкам: Поразава, Свянціца, гімназія, Бабруйск, курсы, зноў Бабруйск, людзі, сябры, чытачы і прыхільнікі, Дзяржаўная бібліятэка (Беларускі аддзел). Самы вялікі аб'ём маюць сшыткі, у якіх Юлія Бібіла распавядала пра вучобу на Бястужаўскіх курсах у Пецярбургу (55 рукапісных старонак) і працу ў Белдзяржбібліятэцы (77 старонак у агульным сшытку). Многія тэксты пачынаюцца з эпіграфаў на лацінцы, цытат з твораў беларускіх, польскіх, рускіх аўтараў. Тэксты напісаны аўтаручкай на вучнёўскіх лістах у клетку, дробным, прыгожым, чытэльным почыркам.

Кожны чытач знойдзе для сябе адпаведную сваім інтарэсам тэму: апісанне побыту, народных святаў і даваеннага жыцця ў заходне-беларускіх мястэчках, у гарадах Ваўкавыску і Бабруйску; звернецца да падзей Першай сусветнай вайны, акупацыі, рэвалюцыі на тэрыторыі Беларусі і Расіі; з цікавасцю прасочыць станаўленне характару ўпартай, мэтанакіраванай, прагнай да ведаў дзяўчынкі, пошукі ёю свайго месца ў жыцці, захапленне беларушчынай і творамі Янкі Купалы; азнаёміцца з вучобай яе ў Ваўкавыскай і Бабруйскай гімназіях і на Бестужаўскіх курсах; адзначыць яркія ўражанні ад лекцый знакамітых расійскіх выкладчыкаў-прафесараў, выступленняў экзальтаванага паэта Канстанціна Бальманта і ўкраінскага сляпога бандурыста Грыцько Кажушкі; зафіксуе факт удзелу беларускай студэнткі-бястужаўкі ў рэвалюцыйных выступленнях у лютым 1917 г. у Пецярбургу; азнаёміцца з педагагічнай і асветнай дзейнасцю маладой настаўніцы ў школах Бабруйска, а таксама з асаблівасцямі і шматлікімі накірункамі працы загадыцы Беларускага аддзела ў Дзяржаўнай бібліятэцы.

Асаблівую цікавасць выклікаюць успаміны Юліі Восіпаўны пра выдатных дзеячаў палітыкі, культуры, навукі 1920-30-х гадоў, сярод якіх Янка Купала, Змітрок Бядуля, Язэп Дыла, Цішка Гартны, Мікалай Азбукін, Іосіф Сіманоўскі, Юліян Дрэйзін, Уладзіслаў Галубок, Еўсцігней Міровіч, Мікалай Галадзед, Уладзімір Пічэта, Аляксандр Чарвякоў, Мікалай Улашчык і многія іншыя. Дакладнымі штрыхамі, трапнымі дэталямі Юлія Бібіла стварыла запамінальныя партрэты знакавых асоб беларускай гісторыі.

Мемуары Юліі Бібіла друкуюцца ўпершыню, акрамя фрагмента, прысвечанага яе ўдзелу ў Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. (апублікаваны ў "Беларускім гістарычным часопісе", 2017, №2). У тэкстах сшыткаў №№ 1-11 зноскі зроблены аўтарамі публікацыі. Асаблівасці стылю і граматыкі Юліі Бібіла захаваны.

**Тацццяна КЕКЕЛЕВА, Арсень ЛІС**

## Успаміны Юліі БІБІЛА

### *Сшытак 1 **

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб тэй мове,
Якой азваўся беларус?

**Янка Купала**

Сям'я маёй маткі – местачкоўцы-каталікі; бацькі – б[ылыя] прыгонныя сяляне, "перавёрнутыя" ўніяты, бацька ўжо праваслаўны. Каб пажаніцца ў царкве з праваслаўным, трэба было "перахрысціцца". У пашпарце маткі, выданым пасля смерці бацькі, стаяла: "праваслаўная". Сястра маткі Ванда, мая цётка, калі вы-

* Правапіс аўтара.

ходзіла замуж за праваслаўнага, мусіла “прыняць” праваслаўе. Гэта было ўжо на маёй памяці. Бабка ёй гэтага не магла даравацьь. Шура, сын Ванды, гаварыў мне, што ён бачыў бабку незадоўга да яе смерці. Яна вельмі перажывала, што ў свой час “пракляла” дачку, і плакала. [Памерла ў 20-х гадах].

Гістарычны рэлігійны пераплёт балюча сцябаў па ўсведамленні простых людзей. З бабкай я хадзіла да “kościoła”, з бацькам – у царкву. Пацеры такія і сякія. Калі падрасла і начыталася Л. Талстога, перастала саўсім маліцца, а ў царкву хадзіла толькі таму, што вучаніцы павінны былі гэта рабіць, хаця ўжо ў галаве раіліся ўсялякія дзерзкія думкі. Бытавалі словы: праваслаўны – гэта значыць рускі, каталік – паляк. Падзялялі народ, які гаварыў на аднэй мове, а ён называў сябе “тутэйшым”. Хто я – не задумвалася. Гаварыла па-беларуску, па-польску, па-руску, як дзе трэба было. Школа не абуджала нацыянальнага ўсведамлення, весткі пра родны край – самыя стандартныя, па зацьверджаных у “сферах” падручніках. І толькі, трапіўшы ў 1915 годзе на курсы, я адкрыла, што належу да пагарджанага і лапатнага народу. Тут пазнаёмілася з працамі Е. Карскага, Е. Раманава. Трапіўся мне № “Лучынкі” з вершамі Цёткі. Успомніліся дзіцячыя гады, насычаныя багатым фальклорам. Аб мужыцкай літаратуры загаварылі і аб саміх беларусах. Колькі было спрэчак!

Старое чыноўніцтва, выхаванае на вялікадзяржаўнай палітыцы, пырскала сліною. Ад старога настаўніцтва, што яшчэ не паскідала з шапак цэшак з арлом, спагады таксама не чакалі. Адзін будучы “вучоны” Перчыкаў дагаварыўся нават да таго, што адмаўляў існаванне нейкіх там беларусаў. “Колькі я ні жыву, – казаў ён, – ніколі аб іх не чуў”. У думках я яму зазначыла: “А хлеб іх са смакам еў”. Вось так школы на Беларусі рыхтавалі “дзеячоў” для беларускай зямлі. Праз некалькі гадоў гэты чалавек стаў выкладчыкам у Беларускім дзярж[аўным] універсітэце, калі той адчыніўся. А ў той час ён быў варожа настроены да нейкіх там беларусаў. Прыйшлося яму напомніць, што існуе адзін сапраўдны вучоны, які не пасароміўся назваць сваю шматтомную працу – “Беларусы” (Е. Карскі). А што да паэзіі, то маючы такога баяна, як Я. Купала, можна беларусам ганарыцца.

Хочацца яшчэ ўспомніць аднаго эсэра Бабчонка, які ў перапынках на настаўніцкіх сходах любіў паспрачацца на гэту тэму. Потым я яго спатыкала ў Мінску, працаваў выкладчыкам у Камвузе.

Шмат шкоды беларускаму руху нарабілі панкі, якія паўлазілі ў Камітэты ў Мінску і гнулі там сваю лінію. Вельмі слушныя былі выказванні супраць накіраванасці іх палітыкі, але, на жаль, валілі ў адну кучу паноў і не паноў. Выступалі наогул супраць пастаноўкі беларускага пытання, лічылі яго “польскай інтрыгай”, “панскай выдумкай”. І гэта часта гаварылі партыйцы! Як там у Маскве глядзелі, да нас яшчэ не дайшло, але на месцы блытаніны было многа і не скора яна разблыталася.

Да якіх жа паноў залічыць мне сябе ды і тых маіх сяброў, якія таксама лічылі сябе беларусамі і гатовы былі шчыра працаваць на культурнай ніве для свайго народу?

Найбольшае ўражанне на мяне рабілі вершы Я. Купалы. Шмат вывучыла на памяць, чытала ўсім, хто хацеў слухаць. У першую чаргу – сваёй матцы, якая не давала веры, што ён сам іх напісаў, бо што добрага мог даць лапатны беларус? Коласаўскія “Песні жальбы” не хвалявалі. У “Вянку” Багдановіча ззяла гэтулькі дыяментаў, аднак такой сілы пачуцця, як ў Купалы, я не знаходзіла. Песні Купалы ішлі ад сэрца і траплялі ў самае сэрца і больш адпавядалі тагачасным узнёслым настроям.

Ён гаварыў ад імя “пагарджанага век” народу, які нёс сваю вялікую крыўду “на свет цэлы”, хацелася яму, каб прынялі яго чалавечую годнасць.

Я – трэйцяе пакаленне сялянскай сям’і – з аднаго боку прыгоннай, з другога – вольнай ад прыгону – ад культуры з усходу і з захаду нямала харошага

ўспрыняла. І вось вершы Купалы ўзбунтавалі маю сялянскую кроў, і стукнула яна мне ў самае сэрца. Я адчувала сябе моцна звязанай з народам і з роднай краінай, над якой "строілі здзекі". Гэта была нейкая арганічная, біялагічная сувязь, а не прыдуманая. Трэба нешта рабіць? А што?

Лета 1917 г. Начытаўшыся вершаў Купалы, мне захацелася самой папрабаваць пісаць па-беларуску. Ці добра памятаю я мову маіх дзіцячых гадоў? Я не лезла ў пісьменнікі, ведала, што ніякага таленту ў мяне няма. Можна папрабаваць перакласці якую-небудзь рэч. І я выбрала казку М. Горкага "Палаючае сэрца Данка". Паказалася яна мне тады вельмі сучаснай. Чалавек для людзей ахвяраваў сваё сэрца, а яны, выбраўшыся з багнаў на шырокія прасторы, забыліся на яго. Узнёслая, з своеасаблівым рытмам проза мне дужа падабалася. Я пераклала і некаму пахвалілася. Не памятаю, хто гэта быў. Магчыма, знаёмая з Мінска, якая папрасіла мяне даць пераклад. Друкаваць я нідзе не збіралася. Няхай каму-небудзь пакажа. Падпісала яго лацінскімі літарамі І.В. Пераклад зьявіўся ў газ. "Вольная Беларусь", хаця я не меркавала яго туды пасылаць.

1919 г. Нехта падаў мне думку перакласці "Рабінзона Крузо". Я набыла перапрацоўку кнігі Дэфо і нямала над ёй папрацавала, многа пераклала, але забракавала. Што ж гэта я буду з перапрацоўкі перакладаць? А на большае не хапала часу, і мой пераклад трапіў у печ.

1917 г., вясна. На адным з мітынгаў у Б[абруйску] я прачула палымяную, натхнёную прамову на беларускай мове. Яна клікала беларусаў да абуджэння. Не памятаю канкрэтна пра што больш гаварылася, але гэта прамова зрабіла ўражанне на мяне і маіх сяброў. Мы пазнаёміліся з прамоўцам. Высокі, зграбны, у вайсковым убранні, светлавалосы. Ён здаваўся нам паважным чалавекам, калі не старым, – быў больш як на 10 гадоў старэйшы. Хто ён і адкуль неяк у той час не цікавіла. Даведаліся толькі, што нешта друкаваў у "Нашай ніве". Гэта быў Ф[абіян] Ш[антыр]. Прыпамінаюцца мне нашы спрэчкі. Я была задзіра, а ён, карыстаючыся сваім "паважным" узростам, хацеў, каб такая мелюзга прыймала ўсё, што ён гаворыць. Я ўпарта трымалася сваіх – няхай памылковых – думак. Прамоўца ён быў з агеньчыкам, умеў захапіць. Прыпамінаецца нейкая яго лекцыя. Змест не зачапіўся ў маёй памяці, відаць, пра нацыянальнае бел[арускае] пытанне, але столік з беларускімі выданнямі добра памятаю. Багушэвіч, Багдановіч, Купала і інш. Я атрымала "Шляхам жыцця", кніга гэтая стала маёй настольнай, я з ёю не разлучалася.

Ф[абіян] Ш[антыр] добра дэклямаваў, з экспрэсіяй. Чамусь у памяці паўстае верш Купалы "Зоркі не ўбачыш, імгла непрыхільная..."

К сонцу і зорам жыццё тваё рвалася,
Віхры і ночы на бой вызывала...
Згасла ўсё лепшае, згасла, зламалася...

Пра канкрэтную яго работу не ведаю... Ён меў нейкія адносіны да шпіталяў у Б[абруйску] (у крэпасці). Старэйшыя вучні, асабліва тыя, хто быў звязаны з вёскай, захапляліся яго прамовамі і прамоўцам.

Неяк пасля чарговых задзірыстых спрэчак Ф[абіян] Ш[антыр] падараваў мне сваю фатаграфію з надпісам: "На памяць той, каторую больш за ўсіх паважаю".

Алесь А. Ён з'явіўся ў Б[абруйску] неяк у пачатку 1921 г. (у лютым у мяне маецца запіс пра яго). Шмат шуму ён нарабіў. Выступаў на добрай беларускай мове, граміў "заалагічныя адносіны да справы нац[ыянальнага] адраджэння" (яго словы). Канкрэтна пра яго работу цяжка ўспомніць, можна наблытаць, але ўражанне асабістае захавалася выразнае. Колькі яму было гадоў? Відаць 20-21, можа з невялікім гакам. Круглатвары, нейкі мяккі выраз вуснаў, чупрына. Хадзіў у кажушку. Сябе

характарызаваў так: “Душа мая нібы гэты кажух: аўчына добрая, але не вырабленая”. Я прыглядалася да яго, і ў мяне склалася ўражанне, што ў яго характары нейкая дваістасць, спалучэнне розных процілеглых якасцей. Характар адкрыты і разам з тым хітраваты. Адным словам, трымай вуха востра. Самакрытычнасць і доля какецтва. Добры і можа быць жорсткім. На яго круглым твары кожны мускул жыве: выраз мяняецца штохвілінна. Можна чакаць ад яго самага ўзнёслага і дробязнага. З маёй маткай яны сябравалі. Бывае, зойдзе ён увечары, а яна знойдзе чым яго пачаставаць: забеленым крупнікам або заціркаю – галаднавата было. Любіў ён вострае слова. Матка таксама не адставала. Часта я чула ўрыўкі вершаў Купалы або Маякоўскага. “...На шумные ладони площадей мы каждый день расплескиваем душу”, любіў паўтараць. Не без яго ўдзелу быў наладжаны беларускі клуб, дзе збіралася моладзь. Запас навін, здарэнняў у яго быў заўсёды не малы.

Успамінаецца адзін выпадак, калі ён выступаў у якасці асобна ўпаўнаважанага па барацьбе з бандытызмам. Гэта было ўлетку 1921 г., у вёсцы за 30 км ад Б[абруйску]. Мяне прызначылі туды на дзіцячую пляцоўку, якая змяшчалася ў недалёкім былым палацы ўцёкшага пана. Там мне далі пакой, а вялікую залу абсталявалі пад клуб. Мясцовыя настаўнікі надумаліся ставіць спектаклі, я таксама прымала ўдзел. Ставілі беларускую п’есу рэвалюцыйнага зместу “Калісь”. А. незадоўга да гэтага прыехаў сюды, як ўпаўнаважаны. Зала была перапоўнена, гледачы прыймалі спектаклі горача, “артысты” былі задаволены, яны не ведалі, якія драматычныя сцэны адбываліся па-за сценамі клуба. Да ўпаўнаважанага напярэдадні з’явіўся стораж палаца і сказаў яму, што можна чакаць нападу бандытаў. Ён мяркуе гэта па таму, што на гарышчы ён знайшоў скамечаную салому: відаць, начаваў нехта, можа і бандыт. Гэта насцярожыла. Але другое яго паведамленне было больш сенсацыйным: з бандытамі звязана... я. Ён клянецца, што бачыў мяне ў прыцемку, надвячоркам, калі я з нейкім мужчынам пайшла ў напрамку лесу. Уяўляю я сабе гэту сцэну, бо гэтым мужчынам быў сам... упаўнаважаны, а накіроўваліся мы да знаёмых у бальніцу, якая мясцілася за вёскаю ў барку. Якую кару прыдумаў упаўнаважаны гэтаму хлусу, які можа сваёй пільнасцю хацеў заваяваць яго давер? Здаецца, да высвятлення справы замкнуў яго ў канцылярыі, ці дзе яшчэ. Асабліва А. абурыла, калі той паўтараў: “Я не ведаў, што яна Ваша сястра!” Значыцца, на не сястру начальніка можна валіць, што хочаш. Аднак, на ўсякі выпадак у часе спектаклю ў парку стаялі ўзброеныя людзі. Ніякага нападу не адбылося.

## Сшытак 2

*«Так всюду я влачу среди моих скитаний*
*Весь ад моей души, весь мрак пережитой,*
*И страх грядущего, и боль воспоминаний...»*[1]

Нет! Грядущего не страх мне.

1916, декабрь. Ю.Б.

“Праблемы”

Два асноўныя пытанні мяне хвалявалі: пасля сканчэння школы і ў часы наведвання курсаў.

1. Чым жыць?

“У іншых жыццё бяжыць, як добра падмазаная машына, яны задаволеныя і шчаслівыя, сёння дзень мінуў – і дзякаваць богу. Але калі завядзецца ў душы чарвяк і ён точыць і грызе – бяда! Спакой гіне, нездаволены сабой, прагнеш не таго, што даецца, а таго, чаго няма. У чым жа сэнс? Чым жа жыць?” (з запісаў у студзені 1917 г.).

[1] Цытата з верша Сямёна Надсана «Как каторжник влачит оковы за собой...» (1884).

Чым жыць? Модамі? Парожняй балбатнёй? Выйсці замуж і на гэтым супакоіцца? Не, гэтым нельга задаволіцца.

Запісваючы неяк уражанні ад лекцыі Посэ (на тэму “Каханне ў творах і жыцці Л.М. Талстога”), якую ён закончыў заклікам да ідэйнай творчай працы, адзначаю: “Хочацца такой працы – яна неабходна як паветра; на нешта ж патрэбна “ухлопать” сваё жыццё, а то пустата, пустата... Цікава, што я падумаю праз некалькі гадоў, прачытаўшы гэтыя словы? Як я аднак сумняваюся ў сабе. Я ўпэўнена, не змянюся ў гэтым, аднак гэта не шкодзіць сумненням лезці ў галаву. Хачу, хачу прысвяціць сябе справе блізкай, харошай!”

Далёкае, няўрымслівае дзяўчо!

Няўжо гэта я?

Чытаю я гэтыя словы не праз “некалькі” гадоў, а блізка што праз пяць дзясяткаў. Я не збочыла з накрэсленай сцежкі, на пражыла ўтрыманкай, працавала, як умела.

2-ое пытанне, якое мяне мучыла, – вайна. У пачатку вайны мая бялявая Зіна пайшла працаваць у бальніцу, мяркуючы стаць медыцынскай сястрой (запалу яе ненадоўга хапіла): сякія-такія з хлопцаў-гімназістаў, паддаўшыся патрыятычнаму запалу, пайшлі дабраахвотнікамі. А я?

Глыбока ўразілі мяне сцэны провадаў мабілізаваных. Маткі, жонкі... слёзы, слёзы... Можа гэта апошні раз цалуеш, пазіраеш у вочы?

А шнуры фурманак на шляху – гэта едуць выгнанцы-ўцекачы, пакінуўшы недабрахвотна свае абжытыя куты. Спатыкаліся і землякі з родных месц. Куды едуць? Што яны знойдуць там? А свежыя магілы паабапал шляху! А вогнішчы паблізу вакзалаў, на якіх гатуецца няхітрая страва – нямала дзён трэба чакаць пасадкі ў вагоны. Людзі знясіленыя, пачарнелыя. Старыя, дзеці...

А па гарадскім бруку зухаватыя, свежа спечаныя афіцэры дзынкаюць шпорамі. Вайна скончыцца перамогай праз пару месяцаў! Мы ім пакажам!..

І паказалі... спіны.

Мазурскія балоты... Здраднікі... Сухамлінаў... Самсонаў... Чытаю газеты. Там – ура! А ў душы ўсё больш і больш гучаць пацыфісцкія ноткі.

Паштоўкі з’явіліся з “героем”, на іх намалёван казак Кузьма Кручкоў і нанізаныя на яго піку ворагі. Яны мяне абуралі.

Улетку 1915 і 1916 гг. я жыла паблізу Радашковіч у сям’і паляка (з Люблінскай губ.), які служыў у маёнтку пана Валадковіча. Трое дзяцей былі маімі вучнямі (у горадзе мы жылі ў аднэй кватэры).

Выйдзеш, бывала, на шлях, калі звечарэе, і слухаеш, як стогне зямля – фронт быў недалёка. Гэты стогн болем адбіваўся ў сэрцы. А цягнікі з калекамі, параненымі... Не дзіва, што ў маіх запісах часта спатыкаюцца словы абурэння вайной.

“Калі скончацца гэтыя іспыты? Нервы атупелі. Падумаеш – валасы на дыбкі падымаюцца. Прэч вайну!” (1916 г.)

“Гэтая бойня, жудасная бойня выклікае буру ў душы. Усё да чорта пайшло, загінула ў разбурэннях. І гэта “культура”?! Хвалёная, высокая культура. Геніі, якія стварылі яе, гляньце, палюбуйцеся! Няўжо ніколі, ніколі чалавецтва не страсе з сябе гэтага ржавага, задушлівага пылу, не ўздыхне вольнымі, поўнымі грудзьмі? Не хочацца верыць, што ніколі гэтага не будзе. Нават праз сотні, тысячы гадоў? Няўжо людзям патрэбна, каб спачатку грымнуў гром?

Ну, а пасля вайны ўсё пацячэ па-ранейшаму? Тая ж коснасць, забабоннасць, жыццё для ўласнай уцехі?”

Гэты наіўны патаемны пратэст у душы зліваўся з шырокімі рэкамі народнага пратэсту.

У 1919 г. у часы белапольскай акупацыі пытанне аб вайне, аб міры зноў усплывае. Усхвалявала мяне кніга Зутнер “Долой войну, долой оружие!” Прыпомніліся даўнейшыя спрэчкі з хлопцамі, не нюхаўшымі вайны. Яны ўпэўнялі

мяне, што без вайны не можа існаваць свет, у абарону яе прыводзілі доказы, якія мне цяжка было абвергнуць. Гэта кніга падмацавала мяне, але мне няясны былі шляхі, якія прывядуць да ўсеагульнага міру, бо і аўтар сабе няясна ўяўляў іх. Развaжанні, якія часта спатыкаліся ў тагачаснай літаратуры аб сусветнай вайне, што вайна вядзецца дзеля ўсеагульнага міру, я лічыла крывадушнымі. Гэтымі словамі прыкрывалі іншыя мэты і іншыя задачы, якія ніякіх адносін да міру не мелі. Не са зброяй у руках здабываюць мір, патрэбны іншы шлях. А які? Можа чалавецтва, перацярпеўшы гэтулькі пакут, страціўшы безліч людзей і чалавечай энергіі, само скажа гэтаму злому Молаху: "Даволі"? Пакуты яднаюць сяброў і ворагаў. Як перамагчы інстынкт забіваць сваіх братоў?

Так юнацтва ставіла набалелыя пытанні і не знаходзіла на іх адказу, пацяшала сябе наіўнымі [тлумачэннямі]. Толькі праз гады знайшлі адказ у Леніна.

## Сшытак 3

1915 г. Была я занадта для свайго веку сталая і без меры сур'ёзная. Для гэтага меліся свае прычыны. Бацька памёр, калі мне было 13 гадоў, сродкаў ніякіх, а вучыцца хацелася. Як жыць? Доўга ў маім настроі гучалі ноты засмучэння, але волі да барацьбы яны не зламалі.

Мой старэйшы прыяцель часта падсмейваўся над такімі маімі настроямі. Неяк (люты 1915 г.) прыслаў мне паштоўку, дзе была намалёвана лёгкадумная стрыкатка і мураш у акулярах і з кіёчкам, які чытаў ёй натацыю. Надпіс не адпавядаў малюнку: "Стрекотунья-попрыга в лето красное не пела...". Мой вершаваны адказ быў у стыле нашых тагачасных адносін. Як было мне не засмучацца? Што мяне чакае?

Стихотворный ответ на открытку "Стрекоза и муравей" (1915 г.) с надписью "Стрекотунья-попрыга в лето красное не пела":

Стрекотунья не поёт...
Отчего бы это?
Не резвится, слёзы льёт
В радужное лето.
    Вот подружки чередой
    Легче снов порхают
    И о жизни молодой
    Песни распевают.
А она стоит в тени,
Крылышки сложивши,
Опустивши глазки вниз,
Голову склонивши.
    Аль прохожий лиходей
    Так неосторожно
    Крылья радужные ей
    Повредил немножко?
Заблудилась ли она
В роще из цветочков,
Загляделась на клопа,
На цветных жучочков?
    К ней подходит муравей,
    Муж зело учёный,
    Лекарь пресерьезный,
    Стал и строго говорит,
    Вид приняв прегордый:
«Кумушка, скажи ты мне,
Приняла ль микстуру, –
Что советовал тебе
Прописал что я тебе
От хандры, от дури?

Отчего ты всё стоишь,
Кислу скорчив мину,
Не порхаешь, а молчишь
И клянёшь судьбину?»
Раскричаться тут хотел
Муравей серьёзный,
Но, увы, он не успел,
Звук издал лишь грозный...
От волнения с очей
Стёклышки слетели!
Бедный,
Бедный муравей!

## *Сшытак 4*

### Я займаюся самавыхаваннем

У аднаго з настаўнікаў местачковай народнай школы (а іх было двое), маладога хлопца, толькі скончыўшага настаўніцкую семінарыю, быў клапатлівы старэйшы брат, які служыў ва флоце на Чорным моры. Якую пасаду ён там займаў, не ведаю, але гэта быў развіты хлопец, харошы мастак. Ён вельмі любіў свайго малодшага брата і клапаціўся аб яго выхаванні. Ён набыў яму шмат папулярных выданняў па розных галінах веды. Гэта былі выданні Гімпера, Бракгаўза і Ефрона, Паўленкава і інш. Класікі сусветнай літаратуры пад рэд[акцыяй] праф[есара] С.А. Венгерава вялікага фармату, у прыгожых вокладках, са шматлікімі малюнкамі ў тэксце і на асобных лістках. Творы А.С. Пушкіна, М.Ю. Лермантава, Г. Байрана, У. Шэкспіра... Да мяне пачалі трапляць гэтыя кнігі. У той час мне пайшоў 13-ты год. Я захапілася Лермантавым і Шэкспірам. Мне цяпер самой дзіўна, чаму трагедыі Шэкспіра мяне так прыцягвалі. Яны ж не лёгка чыталіся. Знаёмства пачалося не толькі з малюнкаў. Увагу маю звярнула трагедыя “Рамэо і Джульета”, таму што гэта ж маё імя па-італьянску. І пачала я чытаць адну за другой хвалюючыя трагедыі вялікага майстра чалавечых душ.

У часе вакацый, калі я непатрэбна была матцы для якой-небудзь работы, яна мяне накіроўвала ў “прыроду” набірацца здароўя, або ў агарод палоць. З такімі цяжкімі кнігамі няёмка было куды-небудзь ісці, яшчэ папсуеш чужую кнігу. І я знайшла ўтульнае месца пад самаробнай канапкай, засланай посцілкаю з фальбонаю, якая даставала да падлогі. Канапа стаяла паблізу акна каля стала, было светла, і нікому не магло прыйсці ў галаву шукаць мяне тут. Толькі выпадак выкрыў маю таямніцу. І было многа кпінаў з маёй выдумкі.

Праз год пазней я пазнаёмілася з папулярна напісанай кнігай аб грэчаскіх філосафах. Сакрат, Эпікур, Арыстотэль, Дыаген. Не так лёгка мне было пераварыць гэту філасофію, хоць і ў папулярнай форме напісаную, але яна мяне зацікавіла. З Эпікурам і эпікурэйцамі я спрачалася, а вось стоікі мне падабаліся. І надумалася я папрабаваць выхаваць у сабе вытрымку, трываласць і волю. Падабаліся мне мужныя суровыя спартанцы, іх метады выхавання.

Трэба было ўзяцца за сябе. Пачынаць з драбніц. Я – ў садочку пад грушаю. Перад вачыма гэтая нялёгкая філасофія. Набрала я жменю сакавітых жаўтавата-зялёных, такіх спакуслівых слівак Ранклод (я іх вельмі любіла). Трэба асіліць раздзелы гэтай кніжкі, а слівы так і просяцца ў рот. Глытаю сліну, а сабе дала заданне прачытаць і расказаць адгэтуль дагэтуль, і тады можна паласавацца. Каб яшчэ больш сябе раззадорыць, я нават здзіраю скуру са слівы. Нялёгка вытрымаць!

Вось да чаго могуць дадумацца саматужныя выхаваўцы! Рабілася гэта ўпотай, сяброўкам – ані слова. У галаве іх іншыя думы, не зразумелі б, засмяялі б.

Трапіла мне ў рукі кніга “У 2000-тысячным годзе”, фантастычны раман невя-

домага аўтара. Я была ў захапленні. Шмат аб якіх цудах даведалася. Мяне ўразіла вопратка са шкляных валокнаў, якую будуць насіць людзі. Станеш у такой вопратцы на адпаведнае месца і трапіш пад нейкі асаблівы душ, які цябе абмые разам з тваім адзеннем. Але яшчэ большым дзівам здалося мне слуханне лекцый прафесара, які сядзіць у сваёй кватэры і чытае, а слухачы – у аўдыторыях далёка ад яго.

Ці думала я, што дажыву да большых цудаў, аб якіх аўтару гэтай фантазіі і ва сне не снілася? Гэтыя моманты засталіся ў маёй памяці, а што там гаварылася аб пабудове новага грамадства, засталося ў тумане.

Я стала шукаць іншыя кнігі на гэту тэму. Дзіўна, што ў той час абмінуў мяне Жуль Верн. А вось Кампанела з яго "Горадам сонца" і Мор з "Утопіяй" спаткаліся на маім шляху. Яны перада мною паставілі шмат пытанняў. Людзі ў такія далёкія ад нас часы марылі аб грамадстве, дзе не было б ні багатых, ні бедных, ні цароў, ні начальнікаў. Ці будзе калі-небудзь так? Якая гэта прыгожая мара! Але як яе ажыццявіць? Дзе тыя сілы? Ніхто не мог мне адказаць на гэта. Усякія крамольныя думкі заставаліся толькі ў маёй галаве, а я пераходзіла да іншых захапленняў.

У той час я пазнаёмілася з кнігамі Л. Талстога. Была гэта "Споведзь" ці "У чым мая вера?" не памятаю. Толькі мае рэлігійныя ўяўленні сталі на дыбкі. Я пакінула маліцца, хаця ў царкву прымушана была хадзіць, як і ўсе гімназісткі – ды яшчэ парамі. Потым ў мяне апынуўся Рэнан аб жыцці Хрыста (не без удзелу майго сябра настаўніка). Вось толькі з ім я і магла пагаварыць аб прачытаным. Але ён заўсёды выклікаў мяне на спрэчкі, а сам не вельмі стараўся выказаць свае погляды, не імкнуўся навязаць свае думкі.

У выпускным класе здарылася са мною нечаканая непрыемнасць. Гэта было ў пачатку навучальнага году. Сабралі праваслаўных у зал на малітву. Звычайна чыталі па малітвенніку. Але на гэты раз малітвеннік некуды падзеўся, і дырэктар выклікаў мяне. Я сказала, што адчуваю сябе дрэнна (гэта сапраўды было так) і не магу чытаць. Ён настояў. Я пачала чытаць "Отче наш" і... збілася, два разы пачынала і... выйшла. Скандал мог скончыцца дрэнна для мяне. Я была першай вучаніцай, адносіны настаўнікаў і нават дырэктара (а яго ўсе баяліся і дрыжэлі перад ім, толькі не я; мяне часта пасылалі да яго ў якасці дэлегата, каб уладзіць якое-небудзь непаразуменне) былі самыя найлепшыя. Бібілачка ды Бібілачка! Вось табе і раз!

Я зайшла ў куток і давай сябе экзаменаваць, ці сапраўды я забылася на гэтыя пацеры. Прачытала правільна. Цяпер я магла спакойна гаварыць са святарам, які мяне выклікаў. Я сказала, што была ўсхвалёвана (сказала яму прычыну), і таму здарылася такая недарэчнасць. Ён мяне вылучаў сярод іншых вучаніц, бо часам я задавала пытанні, і называў мяне філосафам. Памятаю, папыталася я, як разумець "троичность" бога: бог айцец, бог сын і бог дух святы ў адной асобе, мне гэтага ніяк не ўцяміць. Ён адказаў прытчаю. Блажэнны Аўгустын хадзіў у роздуме па берагу мора і думаў аб гэтым пытанні. Убачыў дзіцёнка, які ракавінай пераліваў ваду з мора ў ямку. Папытаўся, што ён робіць. Той адказаў, што пераліваe мора. Здзівіўся. "Вось так і ты розумам *не поймешь "троичности" бога"*, – адказаў хлопчык-ангел. Вось гэты святар і ўладзіў справу.

Гімназія нядаўна заснавалася (гэта быў першы выпуск), і бібліятэкі там не было. Кнігі даставалі ў знаёмых і малазнаёмых. Трапіліся мне творы Ф. Дастаеўскага, якія я пачала глытаць. Дзіўнае ўражанне ён рабіў на мяне. Я ў думках спрачалася з ім часта, але ён зацягваў мяне. Цікава, што пасля гэтага юнацкага захаплення я праз гады не магла ўзяць у рукі яго твораў. Нават калі я ўбачыла на экране "Ідыёта", які мне дужа спадабаўся, я не магла дачытаць узятай кнігі. Але лекцыі Н[естара]. Катлярэўскага пра Дастаеўскага на курсах слухала з цікавасцю.

Знаёмства з каралямі з лёгкай рукі Шэкспіра працягвала серыя "Тайны венценосцев". Іх многа было, гэтых не тоўстых, у мяккай вокладцы кніжак, відаць дадаткаў да нейкага часопіса. Атрымала дакладнае знаёмства з жонкамі і не

жонкамі Генрыхаў, Людовікаў, рыцарскімі паводзінамі, здраднікамі, прыдворнымі інтрыгамі. Дасведчаныя ўводзіны ў сусветную гісторыю...

Мае сябры-хлапчукі захапляліся “сышчыкамі”, якія ў той час завалодалі сэрцамі юнакоў. Можна былоназіраць такую карціну: на стале ляжыць задачнік або граматыка, чыстая старонка сшытка, а хлопец сядзіць, унурыўшыся ў невялічкую кніжачку ў каляровай вокладцы і глытае прыгоды чарговага выпуску “сышчыкаў”. Яны і мяне спакушалі, але душа мая не ляжала да забойстваў, крадзяжоў і іх выкрывальнікаў. Ці ж можна параўнаць гэта з таямніцамі каралеўскіх палацаў?

Праўда, захавалася ў памяці і кніга “Антон Крэчат” (не з гэтай серыі) пра разбойніка А. Савіцкага, які дзейнічаў недзе ў Магілёўшчыне. Ён нагадваў сваімі ўчынкамі “Дуброўскага” А. Пушкіна. Аб ім я потым знайшла матэрыял гістарычны ў час[опісе] “Историч[еский] вестник” (1911, № 12).

У дзяцінстве мне не траплялісі кнігі для дзяцей, абмінула мяне і Чарская. У народнай школе былі кнігі для чытання (Ушынскага, Тахцяровых) – і ўсё. І вось у 1919 – 1920 гг., калі я ўжо была настаўніцай, мой таварыш па школе, настаўнік З., прынёс мне вялікую пачку кніг для юнацтва. Гэта быў харошы падбор кніг, якія ён доўгі час збіраў: Брэт-Гарт, Джыаваніолі, Войніч і г.д. і г.д. Я прагна накінулася на гэтыя кнігі. Гэта былі змрочныя часы акупацыі, а кнігі – аддушына, праз якую павявала свежым паветрам.

А першая “вялікая” кніга, якая трапіла ў мае рукі, быў раман Сянкевіча “Агнём і мячом”. Я тады яшчэ не вучылася ў гімназіі. Стала я адольваць гэту кнігу. Бацькі хацелі яе схаваць, казалі, што я яшчэ малая і нічога не зразумею, але я ўпотай памаленьку чытала і чытала. Не ведаю, ці многа я прачытала, але некаторыя малюнкі і цяпер паўстаюць у маёй памяці. А вобразы Гелены, Скшэтускага, Заглобы і Валадыеўскага замянілі мне забаўкі і сяброў (гадавалася я адна). З імі я вяла бясконцыя выбражальныя размовы, і мне не было сумна.

У 8-м класе я пазнаёмілася з бібліятэчкай, якая захоўвалася ў фізічным кабінеце настаўніка-матэматыка. Там быў Караленка (“Сляпы музыкант”, “Гісторыя майго сучасніка” і інш.), Сцяпняк-Краўчынскі (“Штундыст Павел Рудэнка”, “Падпольная Расія”), іншых кніг не памятаю, але напрамак быў такі. Хочацца ўспомніць добрым словам гэтага настаўніка-арыгінала Канстанціна Хрысанфавіча Бабарыкіна. Яго добра скроеная фігура ў форменным сінім сурдуце з рукавом, а то і плячом, выпацканым мелам, лёгка і порстка ідзе з лекцыі па калідоры, накіроўваючыся ў свой кабінет, і направа і налева сыпле дасціпнымі жартамі вучаніцам, якія заўсёды круціліся каля яго. “Не выдайце быка за індыка!” Яго любімая прыгаворка. Возьме, бывала, праекцыйны фанар з дыяпазітывамі і ідзе на акраіны горада або ў вясковыя школы: “[Духа] не угощайте!”

## *Сшытак 5*

## Поразава

Шкада, што не нарадзіўся сярод паразоўцаў які-небудзь значны талент, каб напісаць пра мінулае нешта накшталт хронікі: ні Коласа, ні Мележа, а матэрыял цікавы. Мястэчка. Неўрадлівыя шнуры зямлі. У ваколіцах ганчарная гліна і мел. Той цягне на кірмаш галачкі мелу, той воз гаршкоў, каб зарабіць якую капейку. А моладзь едзе ў свет шукаць лепшай долі. Колькі пераехала ў Амерыку! Успамінаецца А. Паплаўскі. Прыяжджаў ён з жонкаю. Яму якраз пашчасціла знайсці работу і ўсталявацца. Нават матку клікалі ехаць з імі... Гарбоўскі трапіў у Пецярбург, захавалася аткрытка, з якой відаць, што працаваў на фабрыцы “Лаферм”. Бачылася з ім, калі была на курсах у 1915-1916 гг. Але што пералічаць іншых?

Мой дзядзька, мамін брат. Вельмі здольны. Скончыў не то “уездное”, не то “го-

родское" вучылішча, а прылажыць рукі не да чаго было. На гаспадарцы круцілася бабка з дочкамі, дзед працаваў у лясніцтве ў Белавежскай пушчы. А скончыў ён Свіслацкую гімназію. Мяне цікавіць, як гэта магло здарыцца, але, нажаль, цяпер няма каму на гэта адказаць. І пайшоў дзядзька "ў свет". Ён вельмі добра маляваў, хацеў трапіць у мастацкае вучылішча. У Кракаве асеў нейкі паразовец, і дзядзька накіраваўся да яго, але з гэтага нічога не выйшла. Паехаў на Урал, потым трапіў у Сярэднюю Азію (Байрам-Алі, Мургаб). Перад вайной асталяваўся ў Курлаве на шклозаводзе Мальцава, потым на Каўказе ("Дагестанскія агні") і ў Владзікаўказе (Орджонікідзе). Перабраў, відаць, немала прафесій, пакуль не стаў спецыялістам па шклу. І ўвесь час ён марыў зарабіць грошай, каб вярнуцца ды бабіну хаціну падправіць. Успамінаецца, што напісаў, каб чакалі яго, ён едзе з Урала, дзе ўдалося адшукаць паклады нейкага мінерала. Мы чакалі, а ён так і не прыехаў, бо ў дарозе ўкралі ўсе яго грошы (відаць, іх было не мала).

Апынуўшыся на беразе Волгі, далёка ад родных карэнняў, вечарамі пры рабоце часта матка ўспамінала родныя мясціны, свае маладыя гады перад вайною. Яна неяк было мне гаварыла пра сваё сваяцтва з Кал[іноўскім], я накрэмзала нейкую "формулу", у якой прабую разабрацца. Шкада, што гэта нейкія іерогліфы.

Дзед Кароль нарадзіўся 25 студзеня 1820 г.

Бабка Эмілія 27 жніўня 1835 г.

Пажаніліся 22 лістапада 1853 г.

Бацька (маткі, дзед Юліі – *Т.К.*), яго брат жанаты з сястрой Каліноўскага.

Насельніцтва мястэчка Поразава: яўрэі – саматужнікі і гандляры – і беларусы. Побач з бабаю жыў саматужнік, які фарбаваў пражу для вясковых ткачых. Праз плот сада можна было бачыць розных колераў маткі, развешаныя на дручках для прасушкі. У цэнтры мястэчка былі крамы больш заможных гандляроў, дзе можна было набыць крамніну і абутак. Тавар прывозілі з Ваўкавыска і нават з Беластока. Аб такой падзеі паведамлялася пад сакрэтам і запэўнялася, што тавар – гэта нешта незвычайнае: "Толькі для вас". Неяк мне перапалі парадныя туфлі з матчынай нагі беластоцкага вырабу. Тэкстыльная крама знаходзілася недалёка ад воласці. Можна было наглядаць цікавыя сцэнкі. Вось з крамы выходзяць мужчына і жанчына. Па адзежы відаць, што з вёскі. Гандлярка дорага просіць за тавар, з ёю таргаваліся, яна не ўступае, але і траціць не хоча купца. Выбягае з крамы і крычыць: "Ну, куды ж вы пайшлі? Вярнецеся! А якая ваша цана? Давайце памяркуемся!" Варочаюцца і "мяркуюцца".

Шмат было маленькіх крамак з рознастайным асартыментам тавараў: цукар, газа, цвікі, табака...

У завулках жылі пекары. Бабка мяне часта пасылала па абаранкі ці куханы "з пылу з жару". У печы з аднаго боку гарыць агонь, з другога – чыгун з варам. Гатовыя абаранкі на доўгай вузкай дошцы – бух у чыгун з вадою. Нейкія яшчэ магічныя рухі, і ў мяне ў руках гатовая прадукцыя. А ў хаце – верхал, падлога брудная, пасцель раскідана, смаркатыя дзеці чапляюцца за матчын прыпол. Якая там санітарыя! Абаранкі звычайныя і на "яйках", куханы – круглыя, пляскатыя, пасыпаны цыбуляй і макам. Можна было іх набыць у разносчыцы Хасі, якая з вялікім кашом абыходзіла сваю "парафію". Выгляд яе неахайны: брудная паркалёвая ў шырокіх фалдах спадніца з абрынданым прыполам і фартухам, невыразнага колеру хустка пакрывала нячэсаныя валасы. Маткі саромелі сваіх дзяўчат: "Прыбярэцеся, ходзіце як Хася".

Паразоўцы... Гэта не проста мяшчане або сяляне. Яны лічылі сябе блізка што за паноў, бо ўсіх вясковых называлі мужыкамі, хамуламі. Насельніцтва не было пад прыгонам. Вось і заганарыліся нашчадкі, нават, матка казала, хадакі ездзілі ў Пецярбург здабываць нейкія свае правы, але варочаліся з парожнімі кішэнямі.

Апроч гонару, нічым не адрозніваліся ад іншых. Мелі вузкія палоскі малаўрадлівай зямлі, падраблялі ганчарствам. Маладыя ехалі ў свет шукаць работы. Колькі ў Амерыку паехала! Бедавалі там, рэдка каму ўдалося стаць на ногі. Аднаго такога я памятаю. Антось Паплаўскі. Ён ажаніўся з “амерыканкаю”, набыў дом, прыязджалі яны з жонкай ў мястэчка і нават матку заахвочвалі ехаць у Амерыку. Яна так добра шыла і вышывала, а ў індустрыяльнай краіне такія работы дорага каштуюць, але матка, хаця і не мела ніякіх перспектыў на бацькаўшчыне, не паквапілася на амерыканскія даброты.

Каб паглядзець, як працуюць ганчары, не трэба было далёка хадзіць, толькі перайсці дарогу. Дзядзька ў зрэбных нагавіцах і кашулі, завязанай жычкай каля каўняра, падкасаўшы рукавы, мясіў гліну як цеста. Вельмі ўважліва прыглядаўся і выбіраў самыя дробныя каменьчыкі. Кавал гліны для гаршка ці збанка клаў на дзеравянны кружок, які жалезным прутком злучаўся з другім, большым, і пачынаў гэты апошні круціць нагамі, а рукамі, намачыўшы, прыдаваў гліне патрэбную форму.

Дзе-небудзь на агародзе, далёка ад будынкаў, у выкапанай глыбокай і шырокай яме рабілася печ для апальвання гаршкоў. Калі яны вымаліся з печы, надаваўся ім глянец краменнымі круглячкамі. Добрыя гаршкі, збаны, гладышы і глечыкі выраблялі паразоўцы. Яны вазілі іх на продаж у Ваўкавыск і іншыя мястэчкі.

Няньчыла мяне бабуля. Але з ёю не так было цікава, як з суседкаю Альжбэтаю. Я называла яе Зена. Прыйдзе, бывала, пагоцае мяне, сілком напоіць малаком, – яго я не любіла, а прасіла бульбы і селядца. Калі вынікала патрэба, пашэпча ад злога вока, або ад перапалаху, прычым не абходзілася бяз нейкіх магічных знакаў (усё гэта ўпотай ад маткі). Раскажа і пра сароку-варону, што кашку варыла і дзяцей карміла, а дармаеду не дала, пра ката-варката, пра гусей, што ляцелі з далёкага краю і селі на варотах у чырвоных ботах, пра буслоў, якія глытаюць гадаў на балотах, а часам наведваюць капусьнікі і знаходзяць там малых. Вунь і Агаце падкінулі яны малога. Чаго яна толькі не ведае! Усе местачковыя навіны. Перакінуцца часам з бабаю словам і пра бацькоў: тое ў іх не так, гэта трэба рабіць інакш. (Жылі яны ў той час не разам, а ў другім канцы мястэчка). А бацькі вырашылі, што ўжо ім пара ўзяцца за выхаванне дачкі. Відаць пытанне было далікатнае, бо ў якасці паўнамоцнага пасла накіравалі вельмі паважанага чалавека, акцызнага супрацоўніка, добрага знаёмага. (Бацька ў той час працаваў у манапольцы “сядзельцам”). Я апынулася на руках у дзядзькі і што моцы загаласіла. Ён нёс мяне праз мястэчка. Я выкручвалася і крычала: “Да бабы! Да бабы!” Так было цёпленька і ўтульна ў бабіным запечку, на мяккай пярынцы! Не скора мяне адпусцілі да бабы. Неўзабаве мы пераехалі ў сяло. Прывозіць да бабулі мяне пачалі, калі я падрасла. Гэта бывала ўлетку. У бабы быў сад, у суседзяў – шмат дзяцей.

Калі я перайшла ў 3 клас гімназіі, бацька пераехаў зноў у мястэчка на пасаду валаснога пісара.

Бабка мая мела цвёрды, уладны характар. Лічылі яе разумнай кабетай, і за парадамі да яе прыходзілі местачкоўцы, асабліва калі справы былі грамадскія. Яна любіла пагаварыць і пачаставаць. “Мае вы міленькія”, – звычайна пачынала яна гаворку. Матка скардзілася на яе характар, і адносіны іх не заўсёды былі добрыя. Затое мой бацька ўмеў да яе падыйсці часам з жартам, часам з чаркай, а яна любіла яго, як роднага сына.

Яна родам была не з мястэчка, а дзед быў местачковы. Сваякі жылі побач, і старэнькага дзядулю ў белай зрэбнай вопратцы і яго бабулю з тоўстай шыяй (у яе была базедава хвароба) мне наказвалі называць дзедам і бабай і ў руку цалаваць. Яны мелі шнур неўрадлівай зямлі, падраблялі продажам мелу ў кірмашовыя дні (у ваколіцах мястэчка яго многа, як і гліны, харошага гатунку). Як сталася, што дзед мой атрымаў асвету ў Свіслацкай гімназіі, як казала матка, не

ведаю. Працаваў ён у пушчы ў канцылярыі лясніцтва і кожную суботу прыходзіў дадому, а ў панядзелак ішоў на работу. Бабуля мне паказвала яго фатаграфію ў групе леснікоў і працаўнікоў лясніцтва.

Дзед пабудаваў дом па свайму плану, ён адрозніваўся ад суседніх хат. Ад вуліцы было два невялікіх пакойчыкі – адзін большы, другі меншы, за імі маленькая кухня з пліткаю. У гэтых пакоях жыў некалі доктар, калі мястэчка разжылося на яго. З сяней налева кухня з бакоўкаю, дзе стаяў бабін ложак і камода. Шмат месца займала печ, дзе сушылася жыта і можна было добра пагрэцца. Акенца ў садок. З кухні дзверы ў два пакойчыкі з асобным выхадам на двор. Некалі жылі тут бацькі, і тут я нарадзілася. За маёй памяццю дзверы з кухні застаўляліся, а ў пакоях жыла яўрэйская сям'я.

Дзед пасадзіў сад, які быў невялічкі, але каштоўны. Рэдкія прышчэпы дзед даставаў, дзе толькі яму ўдавалася: у аматараў, у маёнтках, выпісваў аднекуль. Шмат папрацавалі дзеці, пакуль ён падгадаваўся, трэба было паліваць, угнойваць. Надта харошыя былі грушы: жоўценькія аўсянкі, сакавітыя зялёныя тапалёўкі, ружовабокія банкрэты, смалянкі з пахам хвоі, вялікія, але нязграбныя бабы і яшчэ нейкія зімовыя – малыя, пакрытыя рудаватай лускою. Іх здымалі з дрэва, калі пачыналіся халады. Ляжалі яны доўга дзе-небудзь у склепе і рабіліся як масла, таялі ў роце.

Былі і яблыні: нейкія ружовыя, дробныя кітайкі і празрысты наліў. Раслі вішні, слівы рэнклод.

Калі сад у квецені, здаецца, не выйшаў бы адтуль. Вось зацвітае сліва, затым вішня, у розны час грушы, яблыні. Які пах! А музыка! Прыслухайся! Працавіта гудуць пчолы, бзыкае асва, цяжкі камячок – чмель – у чорна-жоўтым кажушку басавіта падае голас. Вось у такой млечнай белі стаяў сад, калі памёр мой бацька. Я зайшла ў квітнеючы сад і, прытуліўшыся да яблыні, вылівала сваё гора. Адламала пахучую галінку і палажыла ў труну, як апошняе прывітанне вясны. Ён так любіў кветкі!

1910 год. Хавалі бацьку ў "праваднную" нядзелю (праз тыдзень пасля вялікадня). Людзей было шмат за гробам. Шкадавалі мяне – сіраціну.

Перад бабінай хатаю ад вуліцы рос каштан, магутны, разгалісты. Ён схіляў сваё вецце над дахам, а верхавіна яго купалася ў блакіце неба.

Хто яго пасадзіў? Дзед? А можа дзедаў дзед? Зялёныя круглячкі з іголачкамі (ну, нібы ў вожыка, толькі мяккія) падалі на зямлю, раскрываліся і адтуль выглядалі, як памазаныя лакам, карычневыя з белай лысінай каштаны. Так добра было з імі гуляць! Дзятва падбірала іх на вуліцы. Але часам здараліся налёты ўрвісаў-разбуральнікаў. Яны з нейкай дзікай асалодай шпурлялі ў дрэва каменні, калы. Лісты і галіны ўкрывалі зямлю. Я не магла сцярпець такой знявагі. Падхапіўшы які-небудзь дубец, бегла бараніць дрэва. І пачыналася слоўная перапалка.

– Абармоты, гіцлі, нашто псуеце дрэва? Вось скажу бабулі...

Бабулі вельмі баяліся, яна ім можа даць дыхту.

Хлопцы адбягалі, дражніліся, высалаплівалі языкі. Хто-небудзь з дарослых адганяў іх. А яны крычалі:

– Юлька-кулька! Юлька-кулька!

Праз 55 гадоў (у 1968 г.) зноў я сустрэлася з роднай мясцінай. Не на "балаголе" ехала з Ваўкавыска, а на аўтобусе. Еду па Гарнастаевіцкай вуліцы і шукаю "Горкі" і любага каштана, пра якога не раз сніла. Зеляніны ўсюды шмат. Прысады і сады, але каштана няма, і "горка" паменшала. У вайну гэта частка мястэчка выгарэла, і бабінага дома няма. Пабудова на месцы яго новая, казалі, што Севашэвіча нашчадкі. З ім мелі справу бацькі, ён у бабы жыў. На "горцы" пажарнікі ўсталяваліся.

Уваход у хату быў збоку, не з вуліцы. Насупраць стаяў свіранак, дзе хаваліся розныя прыпасы. Там стаялі маглі, на якіх качалі памытую бялізну. Я больш нідзе не бачыла такога "збудавання", і хочацца яго апісаць. Гэта доўгі, гладкі стол;

на двух канцах яго ляжалі на шырыню стала валкі (качалкі), на якія закручвалі бялізну, а зверху скрыня з цяжкімі каменнямі. Станавіліся двое на абодвых канцах стала і соўвалі гэту скрынку ўзад і ўперад. Бялізна, асабліва кужэльная, рабілася вельмі гладкай, лепш, ніж прасаваная.

Як мне часам хацелася пакатацца на маглях, але не дазвалялі.

Каля свіранка з левага боку раслі нейкія заморскія дрэвы з мяккімі стаўбунаватымі шышкамі вішнёвага колеру, казалі, што гэта – воцатнае дрэва. Вялікія яго лісты хіліліся на дах студні. З другога боку свірна раслі высокія дзедавы явары.

У бабулі не было ні жорнаў, ні ступы, у якой таўклі панцак. Калі трэба было, ішлі да суседзяў. Жорны звычайна ставіліся ў сенцах – жыта падсушвалі на печы, тады ўсыпалі яго патроху ў жорны і малолі: мука высыпалася праз невялікую адтуліну. Пакуль да таго млына даедзеш! А ступа была высокая, дзеравянная і таўкач таксама. Відаць, у такіх ступах ведзьмы на Лысую гару ездзілі. Разапрэлы ячмень усыпалі ў ступу і таўкачом – тук, тук!.. Глухія рытмічныя ўдары...

Бабуля ведае, што ўнучка любіць слівы. Якой бабулі не хочацца зрабіць прыемнае сваёй унучцы, асабліва калі яна адна ў яе? Наварыла яна цэленькіх слівак, замест костачкі ўклала мігдаловыя зерняткі. Восень і зіму яны чакалі ўнучку – смашненькія, салодзенькія. Стаяць яны ў шафе ў сенцах. Слоік вялікі, наліваны. Унучка часта заглядала туды. Вось яна адчыняе шафу – каля слоіка сядзіць вялікая мыш з доўгім хвастом і пазірае чорнымі гузічкамі. Спрытны рух – і хвост у руках дзяўчынкі. Ага, трапіла! Не лезь, куды не трэба! “Мыш” выкручваецца, дзяўчынка круціць хвост. Выйшла бабуля – абамлела. “Кідай скарэй! Скарэй!” Вынесла я на двор, кінула, а “мыш” на сцяну палезла. Гэта быў шчур. Колькі было гаворкі ў бабкі з суседкамі аб гэтым незвычайным здарэнні: “Бач, якая адважная!” Падумаеш, вялікая мацыя – мыш злавіць! І чаго яны так раскваталіся?

Горка. Па тагачасных маіх маштабах яна здавалася мне высокай, узвышалася праз пару хат ад бабінай. На горцы змяшчалася дзеравянная уніяцкая царква, абгароджаная парканам. Яна патанула ў зеляніне дрэваў і бэзу. Вароты былі заўсёды зачынены. Перад гэтымі варотамі было шмат месца для нашых дзіцячых гульняў. Матка расказвала пра ўніяцкага папа, якога называлі Магдуляй. Калі прывозілі хрысціць дзяцей, то ён часцей даваў дзяўчатам імя Магдуля, хаця бацькі прасілі запісаць іншае імя. Гаварыў па-беларуску: “О, тож будзе не Дарка, а Магдуля!”

Вечарэе. Павольнай хадою прайшлі каровы, замітусіліся авечкі, падымаючы пыл. Іх пераймаюць гаспадыні. А малыя дзяўчаты збіраюцца на горцы. І пачынаюцца гульні ў пікара, у свінню, у даганялкі, у чорнага ворана. Вясёлыя галасы доўга не моўкнуць. Ужо паступова гасне чырвань захаду, загараецца светлая зорка. Ужо не раз клікала матка сваю Гандзю: “Гандзя-а-а! Ідзі да хаты! Чуеш? Глядзі, вазьму папругу!...” Змораная, варочаюся да дому. Бабка кладзецца рана, але яна не спіць. Я стараюся паціхеньку адчыняць дзверы... “Вазьмі там, у пячурцы, цыкорый з куханам”, – кажа яна. Як гэта смашна!

У чэрвені месяцы (14-га ст. ст.) адбываўся ў мястэчку фэст – святога Антонія – у царкве і касцёле. Наязджала шмат народу. Перад святам пыл курэў на вуліцах, мы старанна падмяталі, падчышчалі, заглядалі на сметнікі. К гэтаму часу ў садочку расцвітаў вялікі куст пахучых ружаў і язьмін. Букеты кветак з’яўляліся на сталах. Да бабулі прыязджалі знаёмыя і далёкія сваякі з хутароў і засценкаў.

Калі прыязджала шляхта, польшчылі з усімі асаблівасцямі беларускай гаворкі. Пачыналася: “Niech będzie pochwalony!...” “Як маецеся? Ці высока скачаце? Jak zdrowie?” І пайшло. За чаркаю: “Abyśmy zdrowi byli i kapeluszem wódka pili”. Які-небудзь светлавусы дзядзька вухне такую прыпеўку, што хадзі хата, хадзі печ.

Вось адна пара – сваякі славутых гогалеўскіх тыпаў Пульхерыі Іванаўны і Афанасія Іванавіча. Мама расказвала, што гэта цётка (Палуянская) мела згрызоту: свайго сына Караля не хацела аддаваць “у навуку”, ад якой дабра няма чаго чакаць. Вось Костусь (Каліноўскі) быў такі разумны, а навука на шыбеніцу яго

прывяла. Няхай лепей Караль нявучаным будзе. Успамінаючы Костуся, яна заўсёды плакала, была нейкай сваячкай Каліноўскага.

Аб паўстанні 1863 г. не гаварылі поўным голасам, але ў бабіных словах заўсёды было спачуванне да паўстанцаў і варожыя адносіны да “вешацеля” і “маскалёў”. Я спаткалася з адваротным бокам гісторыі, якая апісвалася ў кнігах Ілавайскага ці Турцэвіча. Не ўспомніш цяпер усяго, што давялося чуць, але ў душы панаваў смутак.

Калі хадзілі па ягады ці грыбы ў лясок, бачылі раскіданыя каля дарогі камені – гэта магілы паўстанцаў. Пра іх бабуля расказвала, але я нічога не захавала ў сваёй памяці.

Матка мая была добра пісьменная і чытала і пісала па-руску і па-польску. Нарадзілася ў 1867 г. Дзе і як яна вучылася, не ведаю. Мабыць, у пакрыёмых школах. Дзед выпісваў папулярныя часопісы з літаратурнымі дадаткамі. Я яшчэ памятаю цэлы куфэрак розных кніжак, ён захаваўся ў бабулінай хаце. Чытала матка многа, часта ўпотай ад бабулі, бо тая сварылася з ёю за чытанне да глыбокай ночы. Вельмі любіла Лермантава, на дзевятым дзясятку чытала на памяць яго вершы, урыўкі з “Дэмана”. Народалюбца Кандратовіч-Сыракомля і Шаўчэнка таксама былі яе любімымі пісьменнікамі, а пазней і Я. Купала. Чытала ў арыгінале.

Яна мне расказвала, што ў сям’і местачковага аптэкара яна была як свая ў юнацкія гады, яе навучылі разбірацца ў лацінскіх назвах розных лекаў. Яна вельмі хацела вучыцца, але ў тыя часы гэта было немагчыма.

Свежасць успрымання і мастацкі густ яна захавала да глыбокай старасці. Калі яна пахваліць якую-небудзь кнігу, можаш не сумнявацца, што кніжка вартая ўвагі.

Была яна майстрам на ўсе рукі: і шыць, і вышываць, і зварыць, нават і нарысаваць. Ніколі не сядзела без работы, усё нешта перашывае, перакройвае. І ўжо калі зробіць, то ёсць на што паглядзець: і акуратна, і прыгожа, а па швах не распорацца, пакуль не парвецца. Бывалі ў нас вельмі цяжкія хвіліны, але яна ніколі не траціла галавы. Вялікая сіла духу была ў маёй матулі. Я ўдзячна ёй за тое, што з ранніх гадоў навучыла мяне не баяцца ніякай работы. Яе прымаўка “Дай, божа, усё ўмець і не ўсё рабіць” запала мне ў душу.

Матка вяла барацьбу з маім, як яна называла, “д’ябальскім упорам”. Сапраўды, я была вельмі ўпартай, але часам гэта была не бяздумная дзіцячая ўпартасць, а настойлівасць. Адносіны палепшыліся, калі матка пачала адрозніваць неразумную ўпартасць ад настойлівасці. Усім маткам хочацца, каб дзеці былі падобны да створаных іх выабражэннем ідэалаў. Са мною было цяжкавата, у мяне былі свае меркаванні.

У характары маім была яшчэ рыса, якая таксама выклікала канфлікты (гутарка будзе не аб раннім дзіцячым узросце). Калі я лічыла, што рабіць што-небудзь нерацыянальна ці негігіенічна або, паводле маіх меркаванняў, непрыгожа, то ніякія спасылкі на моду, на тое, што ўсе так робяць, мяне не стрымлівалі. Хацелася рабіць наадварот. У старэйшых класах на ўроках ручных работ нас навучалі зашываць пласцінкі для гарсэтаў. Тады была мода на тонкія таліі, усе настаўніцы хадзілі з перацянутымі таліямі, вучаніцы таксама пачалі браць з іх прыклад. Я абвясціла барацьбу гарсэтам і не насіла. Казала, што ў Эладзе не знявечвалі сваё цела, а якія там былі прыгажуні. Французскае “pour être belle, il faut souffrir”[1] – не для мяне.

Я лічыла, што нагу не трэба сціскаць і насіла абутак большы, чым трэба. На жаль, гэта справіла мне немалы клопат: нага слізгалася, і ў мяне ўтварыліся мазалі.

Бацьку я дужа любіла, і смерць яго я вельмі балюча і многа гадоў перажывала. Сярэдняга росту, цёмныя валасы вожыкам, заўсёды ён іх часаў шчоткаю. Блакітныя вочы, якія лагодна свяціліся з пад насупленых чорных броваў, папярэчная зморшчка сцягвала іх. Гарманічныя рысы твару, мяккія вусы. Бацька быў прыгожы, і дзяўчаты заглядаліся на яго. Адкуль такое спалучэнне цёмных валасоў і светлых вачэй? Мне цікава даведацца, але дзеда толькі раз бачыла і не памятаю

[1] Pour être belle, il faut souffrir (*франц.*) – прыгажосць патрабуе ахвяраў.

яго выгляду. Ён быў прыгонным у нейкага пана, меў многа сыноў, якія памерлі ад сухот (словы маткі), як і мой бацька. Быў ён добры, вясёлы, жаданы госць на сямейных сялянскіх урачыстасцях – вяселлі, хрысцінах. І патанцуе, і пажартуе, і насмяшыць, і вып’е. Паважалі яго сяляне. Калі яго хавалі, а гэта прыпала на нядзелю пасля Вялікадня, уся “воласць” яго праводзіла на могілкі і шкадавала.

Святы! Колькі іх было! І рэлігійных і “царскіх” дзён! “Царскія” – гэта дні нараджэння, імянін цароў і царат. Я падлічыла па старому календару, колькі было свят ў годзе. Апроч нядзель, – 36 рэлігійных і “табельных” царскіх, а ўсяго 36 + 52! Праўда “табельныя” – гэта толькі “неприсутственные”.

У памяці захаваліся Каляды і Вялікдзень. На Каляды, 24 снежня, зрання ў хаце поўна было чаду – гэта смажыліся на алеі для традыцыйнай вячэры “ушкі” з грыбамі, загорнутымі ў цеста. Гатавалася шмат усякіх посных страў: сечаны селядзец з бульбаю і цыбуляю, рыба, квасок з грыбоў, кісель журавінны і аўсяны, кампот, лазанкі з цеста, куцця з панцаку. Для лазанкі і куцці трэба было церці мак у макотры, адцадзіць малако, а гушчу насыціць мёдам і перамяшаць з лазанкамі і куццёй. Вячэра-куцця пачыналася, калі на захадзе зьяўлялася яркая зорачка. Пад настольнік падсцілалася сена. Як гэта было цікава! Ніякіх псалмаў не спявалі, не чыталі евангелля. На куццю запрашаліся адзінокія асобы, каб яны ў сямейнай абстаноўцы правялі гэты вечар.

На Каляды да Шчодрыка хадзілі калядоўшчыкі. Насілі на палцы вялікую звязду, абклееную папераю, у сярэдзіне гарэла свечка. Пакручваючы звязду, спявалі нейкую царкоўную песню, а пасля пачыналася самадзейнасць: танцаваў мядзведзь у вывернутым кажуху, скакала каза, журавель, нейкія пачвары, спяваліся прыпеўкі. Пажадаўшы гаспадарам шчасця і атрымаўшы “дары”, калядоўшчыкі ішлі да іншых хат.

Мне давялося бачыць батлейку, толькі ці было гэта на Каляды, ці ў іншыя дні – не помню. Батлейшчык паказаў яслі з народжаным Хрыстом, разыграў некалькі інтэрмедый. Не помню таксама ці паказваў “Цара Максімільяна”, яго я бачыла ў выкананні хлопцаў з вёскі, якія з жарам дэклямавалі і махалі “шабляю” (гэта было на Бабруйшчыне).

Дзяўчаты варажылі і лілі воск, волава, палілі паперу, пад вокнамі слухалі, трывожылі соннага пеўня.

Дзяды-сіноптыкі па вядомых ім прыкметах судзілі аб ураджаі. Іней касматы – будзе ўраджай. Зоры на небе таксама аб нечым варожаць. Увосень адзначаліся “дзяды”, але я пра іх ведаю толькі па апавяданнях. “Не заўсяды, як на дзяды” – не раз чула такую прымаўку.

Вялікдзень – свята вясны. Гэта самае “смашнае” свята. Чаго толькі не навыпякаюць рупныя гаспадыні, калі ёсць з чаго. У местачковай інтэлігенцыі ставяць пры сцяне стол, засланы доўгім настольнікам. Мазуркі розных сартоў – мачоныя, цыганскія, каралеўскія і г.д., бабы, лёгкія, як ветрык, торт, прыгожа ўбраны, баумкухен – высокі, як пень з шышкамі; шынка, парася... Стол уквечаны зелянінай, вазонамі. І званы, званы ўсе дні, аж паветра гудзіць...

Ад мястэчка да горада Ваўкавыска лічылася 22 вярсты, цяжка сказаць з гакам ці без гака. Хто яго мерыў? Дарога цяжкая – пясок. Найскарэй можна было даехаць з поштаю; вазок лёгкі, конь, хоць не рысак, але няблага цягне. У халодную пару для паслуг быў балагола з будою ці без буды – як часам, тут не так акалееш, як з поштаю. О, балагола! З мястэчка едзе з пасажырамі і з парожнімі бочкамі, якія падаюць аб сабе голас у дарозе, назад – з пасажырамі і паклажаю: газа, алей, селядцы, соль; бочкі голас трацяць, затое паклажа месца просіць. З мястэчка выязджаем або позна ўвечары, або золкам, з горада – пад вечар, калі ўсе даручэнні і гешэфты закончаны. Конік цягне паволі, пагойдваешся, як у калысцы, дрэмлеш. Звесіў галаву і Янкель. Конь адчуў, што гаспадар страціў да

яго цікавасць, стаў і ўздыхае. Нарэшце Янкель прачнуўся, падняў пугу. “Фор, фор! Каб цябе ваўкі! – Уй, што гэта за конь? Не конь, а зараза!” Гэта зараза шмат разоў за дарогу прыпыняецца, і “фор” яе не палохае.

Яшчэ адзін адменны від транспарту. Прывёз дзядзька воз гаршкоў на кірмаш, варочаецца паражняком. Матка папрасіла забраць мяне. Да вакацый яшчэ дні дватры засталося. Што рабіць? Бягу да дырэктара прасіць. Ён строгі, яго ўсе баяліся. Ці адпусціць? Ура! Дадому! Доўгія драбіны поўны саломы, мякка, утульна, дзядзька яшчэ клапатліва гунькаю прыкрые, ведае, што не міне яго добры пачастунак.

Па бязмежнаму полю плыве камбайн, побач з ім машына, за ім астаецца зжатае поле і вымалачаная салома. Колькі дзён патрэбна было б жняі з сярпом, каб зжаць палетак, што адолеў камбайн за адзін дзень?

У маіх дзіцячых успамінах устаюць палі з жанцамі на вузкіх загонах. Белыя і пярэстыя хустачкі, завязаныя канцамі ззаду, ныраюць у жытнім моры. Серп – жах! Жах! Поўная жменя каласоў, спрытна падхопленая сярпом, зграбны рух жняі – і вось яны ўжо кладуцца на ржышча, па іх – іншыя жмені. Застаецца толькі скручаным перавяслам звязаць – і будзе сноп.

Цяжкая работа – жніво! Ад рання да змроку пагнуць спіну! Спёка. А пад снапамі ў слабым цяньку кугікаюць малыя. Машыны-жняяркі былі толькі ў маёнтках, на шырокім полі: там яны маглі разгарнуцца. Як крыламі махаюць яны граблямі, пара коней ідзе павольным крокам. Чарада жанчын скручвае перавяслы і вяжа снапы. А далей ужо носяць снапы і ставяць іх у “мэндлікі”, у “бабкі” і накрываюць зверху снапом каласамі ўніз.

У нас не было зямлі, бацька ўжо выйшаў у “паны” і жыў на заробак. Але мяне цягнула да сельскагаспадарчых работ, хацелася навучыцца ўсё рабіць – у гародзе, у полі. Вось толькі да жывёлы ніяк не цягнула. Бабка заўсёды казала: “Дай, божа, усё ўмець і не ўсё рабіць”. Я з ахвотаю корпалася ў бабіным капусніку ці ў нашым гародчыку, садзіла кветкі. Бегала ў жніво да суседак і памагала ім жаць. Яны мяне вучылі, як серп трымаць, як асцерагацца, каб не парэзаць пальцаў. І не ўсцераглася: парэзала мізінчык, нават і дагэтуль знак застаўся. Забегалі жанкі, прынеслі бутэльку з “бальзамам” (гэта пупышкі бальзамічнай таполі, духмяныя, клейкія, настоеныя на гарэлцы).

Не ведаю на чыёй зямлі і на якіх умовах пасеяна была палоска жыта для нас, каб з хлебам былі (бацька ўжо памёр). Я матцы сказала, што сажну жыта з Гандзяй, дзяўчынай, трохі старэйшай за мяне, нейкай нават сваячкай і блізкай суседкай. Усталі мы спазаранку, узялі з сабой полудзень і пайшлі на поле. За працу ўзяліся шчыра, жалі навыперадкі. Рабілася горача, сонца падымалася вышэй і вышэй, і пачало добра прыпекаць. На небе ні аблачынкі, ні ветрыка. Залатая, высокая сцяна жыта стаіць нерухома, цяжкія каласы згінаюць сцяблы. Рухі нашы робяцца ўсё павальнейшымі, часцей бегаем да збанкоў з пітвом. Нагінаешся – і няма чым дыхаць. Не заўважылі, як з-за лесу насунулася хмара, загуркатаў гром. Так вось чаму так парыла! Пот капаў з кожнага валаска на зямлю, за каўнер. Страшнавата стала, але куды дзенешся? Дамоў не пабяжыш. Паставілі бабку снапоў, ушыліліся і перачакалі навальніцу. Людзей паблізу не было. Назаўтра я ледзь паднялася – так балела спіна, і рукі былі нібы чужыя, але ісці трэба, нельга адступіцца. Цяжка было жаць, аднак неяк уцягнулася, і праз некалькі дзён мы скончылі жніво. Я вельмі ганарылася сваёй работай.

Самая прыемная работа на сенажаці. Сена мурожнае такое духмянае! Па макраватаму лугу добра ступаць у ліпавых лапцях.

*(Працяг будзе.)*



Сяргей Чыгрын



...І там, дзе сёння гора, смутак,
Праклёны цяжкія вісяць, –
Шчаслівы дзень для ўнукаў нашых
Праз іх, браты, ужо відаць...

# Пра Маладога Дубка і Язэпа Крыгу

Партыйная падпольная і легальная беларуская прэса ў былой Заходняй Беларусі ва ўмовах жорсткай цэнзуры, пастаянных канфіскацый польскай паліцыяй друкаваных выданняў літаральна была запоўнена публікацыямі, падпісанымі featured рознымі псеўданімамі і крыптанімамі. Многія псеўданімы беларускіх літаратараў прыжыліся: Максім Танк, Міхась Васілёк, Анатоль Іверс, Сяргей Хмара, Гальяш Леўчык, Зоська Верас, Янка Маланка, Антон Навіна, Пятро Сакол, Дзядзька Пранук, Казімір Сваяк, Стары Ўлас, Вінцук Адважны, Анатоль Бярозка і дзясяткі іншых. Рэдакцыі абавязаны былі тады берагчы таямніцу аўтараў, таму многія з іх так і засталіся невядомымі. Шмат па расшыфроўцы псеўданімаў і крыптанімаў літаратараў Заходняй Беларусі зрабіў Янка Саламевіч. Ён у 1983 годзе выдаў “Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI-XX стст.)”. Праўда, многа псеўданімаў не раскрыта, за імі зберагаецца да сённяшніх дзён таямніца сапраўдных аўтараў. Але гісторыя літаратуры, літаратуразнаўства і крытыкі не можа абысціся без іх расшыфроўкі. Бо за псеўданімамі не толькі хаваюцца імёны сапраўдных аўтараў, але і іх лёсы, іх творчасць.

Літаратурная Дзятлаўшчына ў былой Заходняй Беларусі мела вялікую суполку творчых людзей, якія актыўна друкаваліся ў віленскіх і ў іншых беларускіх выданнях. Ігнат Дварчанін (1895-1937) з вёскі Погіры, Сяргей Хмара (сапраўднае прозвішча Сяргей Сіняк, 1905-1992) з вёскі Казлоўшчына, Васіль Струмень (сапраўднае прозвішча Аляксандр Лебедзеў, 1914-1992) з вёскі Зачэпічы, Пятрусь Граніт (сапраўднае прозвішча Іван Івашэвіч, 1909-1980) з вёскі Зачэпічы, Гарасім Прамень (сапраўднае прозвішча Іван Пышко, 1908-1964) з вёскі Зачэпічы, Нікіфар Жальба (сапраўднае прозвішча Аляксандр Бяленка, 1898-1991) з вёскі Гірычы... Пра іх часцей за ўсё і згадвалі літаратуразнаўцы, пішучы пра заходнебеларускую літаратуру ў кантэксце агульнай беларускай літараратуры. А Уладзімір Калеснік у калектыўныя зборнікі “Сцягі і паходні” (Мн., 1965) і “Ростані волі” (Мн., 1990) уключыў па некалькі вершаў Ігната Дварчаніна, Петруся Граніта, Нікіфара Жальбы і Васіля Струменя. Але той жа Уладзімір Калеснік, ды і іншыя даследчыкі нашай літаратуры, ніколі не згадвалі паэтаў, якія пад рознымі псеўданімамі друкаваліся ў “Шляху моладзі”, “Калоссях”, заходнебеларускіх календарах, калектыўных зборніках, газетах. Але не прыгадвалі яны не таму, што не хацелі, а таму, што сапраўдныя прозвішчы невядомых аўтараў пад псеўданімамі цяжка было расшыфраваць. Нядаўна прозвішчы двух паэтаў з той жа Дзятлаўшчыны ўсё ж удалося вярнуць з небыцця.

У 2009 годзе мне ўдалося падрыхтаваць і выдаць асобнай кнігай выбраныя творы Сяргея Хмары пад загалоўкам “Рабінавы хмель”. Вырашыў зноў перачытаць гэтае выданне. І на старонцы 170 звярнуў увагу на адзін раней прапушчаны факт, дзе Сяргей Хмара прыгадвае, што “не так далёка ў суседняй гміне (Раготная)” жыў паэт М. Дубок (сапраўднае прозвішча яго было Язэп Сіняк). Язэп Сіняк не быў ніякім сваяком Сяргею Хмары-Сіняку, проста на Дзятлаўшчыне вельмі шмат жыло людзей з прозвішчам Сіняк, ды і зараз Сінякоў там хапае.

Пра Маладога Дубка не згадвае і Янка Саламевіч у сваім “Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў”. Гартаючы, напрыклад, часопіс “Шлях моладзі”, які выходзіў у Вільні ў 1929-1939 гадах, сапраўды, трапляюць вершы М. Дубка і Маладога Дубка. Але не трэба блытаць з Маладым Дзядком, бо гэта псеўданім паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Сяды-тады друкаваўся ў віленскіх выданнях і проста Дубок. Пад такім псеўданімам падпісваўся аўтар з вёскі Кашачы каля Паставаў (“Шлях моладзі”, 1937, № 1. – С. 27). Менавіта псеўданімы М. Дубок і Малады Дубок меў яшчэ адзін паэт з Дзятлаўшчыны – Язэп Сіняк.

Язэп Сіняк жыў у вёсцы Раготна. Ён актыўна знаёміўся з заходнебеларускай прэсай і чытаў яе. А потым сам пачаў дасылаць свае вершы ў Вільню. Асабліва шчыльна супрацоўнічаў Малады Дубок з часопісам “Шлях моладзі”. Агляд яго вершаў трапляў і ў паштовую скрынку часопіса. “Вершы атрымалі, адзін з іх друкуем. Звярніце ўвагу на папраўкі і пішыце выразней пяром, а не алоўкам. Адказ на ўсе пытанні дамо пісьмом тады, як дастанем той адрас, каторага Вы просіце”, – так паведамляў “Шлях моладзі” ў № 7-8 за 1934 год. А ў № 2 за 1935 год “Шлях моладзі” Маладому Дубку пісаў: “Пісьмо і матэрыялы атрымалі, просьбу часткова спаўняем, рэшта будзе ў пісьме, якое незадоўга пастараемся напісаць”.

Малады Дубок (Язэп Сіняк) жыў бедна, працаваў на зямлі разам з бацькамі. Вершы і лісты пісаў алоўкам, занатоўваў алоўкам і ў сшытках. Гэтыя сшыткі ён заўсёды насіў з сабою за пазухай, бо дома баяўся пакідаць. Некалькі разоў іх маці спальвала ў печы, бо чула на вёсцы, што тых, хто чытае газеты і часопісы, а таксама нешта піша, арыштоўваюць і саджаюць у турму. Таму баялася, каб сын з-за “гэтай пісаніны” не трапіў за краты.

Сяргей Хмара ў “Шляху моладзі” (1938, № 21) апублікаваў вялікі артыкул “Пяе беларускі маладняк”, дзе згадаў і пра Маладога Дубка: “...Вельмі плодны. З вершаў яго б’е нейкі сум і туга. Няма радасці, хоць час ад часу вырываюцца і бунтарныя радкі. Піша. Піша ўсюды. Дзень і ноч...”.

І Малады Дубок пісаў, а лепшыя творы траплялі ў друк. Хаця, сапраўды, вершы атрымліваліся тужлівыя, у іх аўтар марыў пра тое, што “устане наш народ з пакуты... і парве вяковы путы ён магутнаю рукой”. Паэт хацеў, каб яго краіна дарагая прытуліла і абняла, каб “над намі зорка Волі узышла, і над нашым родным краем ззяла міла без канца”. Ён таксама вельмі жадаў выдаць свой першы паэтычны зборнік, але, як пісаў Сяргей Хмара, “на зборнік не было выдаўцоў”.

Як склаўся лёс вясковага паэта – пакуль невядома. Сёння ў вёсцы Раготна на Дзятлаўшчыне старэйшыя жыхары яго не памятаюць, ды і людзей у вёсцы з прозвішчам Сіняк ужо не засталося.

У 1920-я – 30-я гады на Дзятлаўшчыне ў вёсцы Казлоўшчына жыў яшчэ адзін беларускі паэт – Язэп Крыга. Сапраўднае прозвішча яго было Хаім Кравецкі. Яўрэй па нацыянальнасці, але беларус – сэрцам і душой.

Язэп Крыга быў сынам местачковага краўца з вёскі Казлоўшчына. Яго дзяцінства прайшло разам з беларускімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі, з якімі ён размаўляў па-беларуску, чытаў беларускія газеты і часопісы. А дзесьці ў 1927 годзе ён паступіў у Радашковіцкую беларускую гімназію імя Францыска Скарыны. У верасні 1928 года гімназія была закрыта, і Кравецкі вярнуўся дамоў.

Жывучы на Дзятлаўшчыне, Хаім Кравецкі пачаў пісаць вершы на беларускай мове і дасылаць у віленскія выданні, падпісваючы іх псеўданімам Язэп Крыга. Вершы з вялікім задавальненнем публікавалі часопісы “Шлях моладзі”, “Калосьсе” і іншыя выданні. Па першых паэтычных творах Язэпа Крыгі было бачна, што ў беларускую літаратуру прыйшоў вельмі таленавіты паэт. Некаторыя яго сябры і віленскія паэты пачалі называць Хаіма “другім Змітруком Бядулем”. У артыкуле “Пяе беларускі маладняк” пра яго напісана, што Язэп Крыга “характарызуецца багацтвам вобразаў і думак. Шматабяцаючы талент. Патрэбна толькі шліфоўка...”.

У часопісе “Баявая ўскалось”(1949, №2) Сяргей Хмара апублікаваў невялікі артыкул-згадку, які так і называецца – “Язэп Крыга”. У ім аўтар прыгадвае, што Язэп Крыга разам з беларусамі “перажываў трагедыю ўсяе тадышняе беларускае сялянскае моладзі”, што “гадуючыся разам са сваімі суседзямі – хлопцамі-беларусамі, ён з маленства чуўся зродненым з імі. Жыў іхнымі думкамі, імгненнямі і летуценнямі”.

Першыя вершы Язэпа Крыгі, якія публікаваліся ў “Шляху моладзі” і ў “Калосьсях”, былі навеяны жыццёвай праўдзівасцю, адчувалася, што паэт шмат думаў над з’явамі і працэсамі той рэчаіснасці, якая існавала. Тым не менш паэт быў аптымістам, шчырым і смелым беларусам, які моцна любіць сваю Бацькаўшчыну:

Але ніякая бура ўжо з сэрца
Вырваць не зможа любоў да краіны...

У вершах Язэпа Крыгі было вельмі шмат розных параўнанняў, у выніку якога сутнасць аднаго з іх вытлумачваецца праз сутнасць другога. Адчувалася, што аўтар добра ведаў, як і чым можна ўзмацніць вершаваны твор, каб зрабіць паэтычны малюнак па-мастацку дакладным, наглядным, жывапісным і праўдзівым. Праз розныя параўнанні ў вершах выяўлялася мастакоўская своеасаблівасць паэта, яго стаўленне да таго, што адлюстроўвалася ў ягоных творах: “асеннія вятры – кудлатыя сабакі”, “кашмарнай хмараю навеялі тугу”, “вецер мой сум слязой ў хмары прыгоніць” і г.д.

Другая сусветная вайна спыніла паэтычную творчасць Язэпа Крыгі, які нават паспеў падрыхтаваць да друку свой першы паэтычны зборнік. Яўрэйская сям’я Кравецкіх уцякала ад немцаў на ўсход. Развітанне з радзімай паэт моцна перажываў і не вельмі хацеў ехаць. Але іншага выхаду не было. Гэтыя ўцёкі таксама аказаліся трагічнымі. У ваколіцах Смаленска ўся сям’я Кравецкіх была расстраляна немцамі. Загінуў і Язэп Крыга...

Пошукі звестак пра беларускіх паэтаў Маладога Дубка і Язэпа Крыгу працягваюцца. Але сёння пакуль толькі застаецца чытачам “Дзеяслова” ўпершыню пазнаёміцца з некаторымі вершамі маладых і невядомых раней аўтараў з Дзятлаўшчыны, якія некалі на этапах беларускага гісторыка-літаратурнага руху ў Заходняй Беларусі былі сведкамі самасвядомасці свайго народа і, вядома ж, патрыётамі роднай Бацькаўшчыны.

## Язэп КРЫГА

### *ШЫЙ, ДЫ ШЫЙ…*

Млеюць рукі й ногі пры рабоце –
Шый, ды шый, ды шый!
Ломіць спіну боль і слепіць вочы –
Гнісь, працуй, маўчы!
Трэба ж, ой, як многа трэба!
Дзецям і сабе –
На аптэку, на падаткі трэба –
Ні канца бядзе.
Шый, ды шый, ды шый, шчэ трэба многа!
Ноч вяліка, гэй!
Выспішся ў другім жыцці, нябога, –
Сон гані з вачэй!
Шый, ды шый... ах, укалола йголка,
Паказалась кроў.
Разыгралася ў вачах вясёлка...
Ах! Ўкалола йзноў...
Кроў!.. Ці сон яно ці ява?
Кроў во ручаём –
Залівае стол, машыну, лаву
І усё, весь дом...
Выбіць шыбу, крыкнуць – мо пачуюць...
Гэй!.. Ах, што за мара – сон!
Цёмна. Лямпа згасла. Вецер дуе,
Вые за вакном...

*1938 г.*

### *МОЖА…*

Можа віхураю гнаны прыдзецца
Родную хату яшчэ калі кінуць,
Але ніякая бура ўжо з сэрца
Вырваць не зможа любоў да краіны.
Тут усё блізкае, матчына – міла:
Неба, зямля, лес і луг, кожна горка,
Могілкаў дзедаўскіх кожна магіла, –
Свет першых радасцяў і слёзаў горкіх...

Калі прыдзецца – ў далёкай чужыне,
Сэрца тугой будзе поўна, не йначай,
Але і родна вярба і рабіна
Пэўна ля хаты за мною заплача.
Хіба іх можа віхура паломіць,
Ды разам з бацькаўскай хатай зруйнуе –
Вецер мой сум слязой ў хмары прыгоніць,
Роднае неба хоць раз засумуе.

*1939 г.*

## ТУМАН

Туман павіс над мерзлаю зямлёю,
Заслонаю сівой завесіў ззянне зор.
Заліў ўвесь свет, нібы жывой вадою,
І патанулі хаты, дрэвы, цёмны бор.
Ды хаты аганькамі пранізалі прастор,
Нібы шукаючы адна другое...
І – праз заслону сіву – ззянне зор,
Туман павіс над мерзлаю зямлёю.

*1939 г.*

## ПЕРШЫ СНЕГ

Асеннія вятры – кудлатыя сабакі –
Парвалі радасць сіня-сонечну маю,
Ўкачалі ў гразь яе ліхія ваўкалакі,
Кашмарнай хмараю навеялі тугу...
Расплакаліся дні мае – сівыя вочы
Над брудным воблікам і галітой зямлі,
Над горкай роспаччу даўгой асенняй ночы,
І над бяссіллем дрэў, якіх вятры змаглі.
У дзень тужлівы йзноў ўсміхнулася мне радасць –
Быў гэтай ласкай белай ціхі мілы смех:
З узвышшаў ён пачаў кружыцца й падаць
Латункай яснаю на землю – першы снег...
Ён усміхаўся над тугою і нягодай
І баяў байкі-чары, як у дзіўным сне,
Аб восені праходзячай і аб зіме халоднай,
Аб белых хорамах, аб сонцы і вясне...
Ды сум заўторыў йзноў, як ветру свіст пануры –
Аб ўсім праходзячым, аб жыцці людскім выў...
Я гнаць бы рад яго мяцеліцаю-бурай,
Ды снег у гразь упаў... Таму мо й сум той быў...

*1937 г.*

## Малады ДУБОК

### СКАЖЫЦЕ

Ах, родна старонка,
Пакутна мая.
Крывавай рукою
Ты спісана ўся.
У крыўдзе і здзеку
Ты, бедная, спіш,
Ад слёзаў-уціску
Без руху ляжыш.
Куды ні паглянеш:
Магілы-крыжы,
Ну, проста за імі
Жывы сам ідзі.
Скажыце вы, людзі,
Скажыце вы мне,
Калі зло мінецца
І ў процьму спадзе?
Яснае сонца
Калі заблішчыць,
Свабода над краем
Маім загудзіць?
І праўда пагляне,
Народ ажыве,
І родная ніва
Уся зацвіце?..

*1930 г.*

* * *

Надзейся на сілу, на гарт свайго цела –
Здабудзеш ты сонца агні!
Глянь ворагу ў вочы адважна і смела –
І самі спадуць кайданы!
Сплыве тваё гора, адыдуць мучэнні,
Жыццё зацвіце, як вясна.
Адхлынуць ад сэрца ўсе болі-цярпенні –
Красой абальецца душа...
Салодкае радасці чыстай слязою
Зямелячку родну зрашу.
І буду маліцца я цэлай душою
За тых, хто палёг у баю!

*1934 г.*

* * *

Прыйдзе час і волі зорка,
Зорка шчасця прыйдзе к нам –
Не пальюцца слёзы горка,
Не дакучыць боль грудзям.
Разгарыцца над старонкай
Залатым агнём зара,
І вясёлай песняй звонкай
Прыйдзе, прыйдзе к нам вясна!
Ўстане наш народ з пакуты,
Вочы змые, твар расой –
І парве вяковы путы
Ён магутнаю рукой.

*1934 г.*

## ТОЛЬКІ ЎЧОРА...

Толькі учора, здаецца, прыгожа,
Сонейка ззяла, вітала зямлю,
Толькі учора, здаецца, вясёла,
Птушачкі песні пяялі ў гаю.
Сёння ўжо цёмныя, цяжкія хмары
З даляў у далі па небе плывуць.
Сёння ўжо сумныя думкі, як чары,
Сэрца скавалі, балюча ўздыхнуць.
Толькі ўчорайка мне, як дзіцяці,
Сніліся салодкія сны пра жыццё.
Толькі учорайка мог шчасце пазнаці...
Сёння ж у момант прапала усё.

*1934 г.*

## ЗІМА

Зіма, зіма нягодная,
Да нас ты ўжо прыйшла,
Халодна і марозна
Дарогу замяла.
Усюды нема, глуха,
На полі снег ляжыць,
І толькі завіруха
Мяцеліцай гудзіць.
Куды ні глянь – маўкліва
Зямелька родна спіць,
Глядзець аж нейк крыва,
І сэрца нат шчыміць...
Было, калісь, вясною,
Пойдзеш ў зялёны гай, –

Вячэрняю парою
Дрыжыць ад песні май.
Дзянёчак светла-ясны,
Кіпіць жыццё, бурліць.
А сёння ён няшчасны
Бушуе і гудзіць.
Аднак жа век не будзе
Зіма ў нас панаваць –
Вясна ізноў к нам прыдзе,
Красою будзе ззяць.

*1934 г.*

## З НОВЫМ ГОДАМ

З Новым годам! З новым шчасцем,
З лепшай доляю, жыццём!
Я вітаю цэлым сэрцам,
Беларусаў-крывічоў!
З Новым годам! З днём – зарою,
Светлай зорачкі – агнём!
Я вітаю ўсёй душою,
Беларусаў-крывічоў!
З Новым годам! Каб над намі
Зорка Волі узышла,
І над нашым родным краем
Ззяла міла без канца!

*1935 г.*

* * *

Міне зіма, вясна надыдзе,
У полі кветкі зацвітуць.
Дзе сёння бура ўсцяж бушуе –
Вясёлы песні загудуць.
І там, дзе сёння гора, смутак,
Праклёны цяжкія вісяць, –
Шчаслівы дзень для ўнукаў нашых
Праз іх, браты, ужо відаць.

*1935 г.*

* * *

Шэрыя, цёмныя хмары
Цяжка па небе плывуць,
Дрэвы лісцё раскідаюць,
Сцюжай вятры так і дзьмуць.

Глуха і нудна у полі,
Сціх салавей у гаёх –
Восень прыйшла й схавала
Светлыя дні ў туманох.
Спіць, спачывае зямелька,
Людзям аддаўшы дары.
Толькі балючае сэрца
Не мае спакойнай пары.

*1935 г.*

* * *

На зары дзён юнацка-бурлівых
Я жыццё самахоць атруціў,
У бяссоныя ночы тужліва
Я, шукаючы праўды, блудзіў.
І не раз плакаў я над магілай,
Дзе найлепшыя спяць змагары,
І душой не раз я таміўся.
Быў гатоў, як яны, умярці.
І не раз маё сэрца шчымела,
Апякаючы прошлыя дні...
О. краіна мая дарагая,
Ты мяне прытулі, абнімі!..

*1937 г.*



Вольга Клімавец



...а ён... шчыра нёс, аберагаючы далонямі,
свечачку сваёй беларускай самасвядомасці...

# Лёс беларускага пісьменніка ў рамане Уладзіслава Рубанава "Не аднойчы забіты"

Ёсць не так многа мастацкіх твораў, да якіх хочацца вяртацца і перачытваць. Чалавек жыве, сталее, перад ім адкрываюцца новыя далягляды. Але ёсць у душы нешта такое ад першага ўражання, што прымушае разгортваць упадабаны твор зноў і зноў.

Для мяне адным з такіх твораў з'яўляецца раман У. Рубанава "Не аднойчы забіты". Ён пісаўся і з'явіўся ў друку ў пераломны час пасля развалу Савецкага Саюза, калі зніклі многія абмежаванні і пастулаты. Шмат якія непарушныя раней грамадскія нормы былі перагледжаны, рухнулі шмат якія ідэалы і ідалы. Наверх вылезла мярзотнасць і подласць. Напрыканцы свайго жыцця галоўны герой рамана Канстанцін Чуйкевіч разважае: "*Менавіта людзі дна былі цяпер гаспадарамі становішча. Яны, а не чыноўнікі, наводзілі жах, мелі доступ, камандавалі, выносілі прысуды, карaлі. Улада – гэта і ёсць магчымасць караць*".

Канстанцін Чуйкевіч працуе загадчыкам аддзела ў часопісе “Ідэі перамагаюць”. Ён, як кажуць цяпер, паспяховы чалавек: піша добрыя кнігі, якія выдаюцца; мае жонку, дзяцей; з’яўляецца сакратаром партыйнай арганізацыі. Яго паважаюць і з ім лічацца.

Дзеянне твора пачынаецца тады, калі агромністая савецкая імперыя пачынае развальвацца. Усе – і кіраўнікі, і кіруемыя – разумеюць, што “*старое рухнула, новага не было*”. На сходзе ў райкаме партыі “*абмяркоўвалася ідэалагічнае забеспячэнне перабудовы*”, але ў заклікі прамоўцы ўжо ніхто не верыў, бо “*фармалізм, адарванасць ад жыцця проста фантанавалі ад гэтых заклікаў*”.

Людзі сталага ўзросту, думаю, добра памятаюць гэты час – другую палову васьмідзясятых і пачатак дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Страшэнныя чэргі да прылаўкаў (нават надараліся тады і калецтвы), адсутнасць у крамах самага неабходнага, талоны на прадукты і прамысловыя тавары. Стала магчымым на сходах і ў друку гаварыць што заўгодна; у працоўных калектывах людзі маглі самі выбіраць кіраўнікоў, і не абавязкова вылучалі самых таленавітых, разумных, патрабавальных і сумленных...

У грамадстве з’явіліся новыя плыні, друкаваныя выданні, рухі, якія не баяліся крытыкаваць калісьці “свяшчэнную карову” – кампартыю, што “*прысвоіла манаполію на чалавечую душу*”.

Незадоўга да сваёй трагічнай смерці 21 ліпеня 1994 г. Уладзіслаў Рубанаў, адказваючы на пытанні анкеты газеты “Літаратура і мастацтва”, заўважыў: “*Пішацца – як ніколі. Перабудова (будзем называць яе і цяпер так) дала безагляднасць. Яно і раней як быццам ніхто не стаяў над душою і не забараняў акунацца ў ейны морак. Але... безагляднасць дапамагае душы вырвацца, як магме, напаверх і палохаць сваёй зусім не цнатлівай, а часам страхавітай сутнасцю. Не трэба нікому дагаджаць, падабацца*”. Празаік паспеў убачыць апублікаваным свой раман “Не аднойчы забіты”, які ўжо адной назвай ставіць перад чытачом складаныя філасофскія пытанні.

Аб чым твор? У анатацыі кніга прэзентуецца як “псіхалагічны раман з элементамі такіх новых з’яў, як містыка, выхад чалавечай душы ў паралельны свет, незвычайны стан свядомасці”. Сюжэт раман няскладаны. Ён, у рэшце рэшт, распавядае пра векавечнае – барацьбу дабра і зла, дзе полем бітвы з’яўляецца чалавечая душа. Дабро заўжды павінна перамагчы – так вучылі нас і нашых бацькоў. Аднак так бывае толькі ў казках.

Зло ўвасоблена ў вобразе жанчыны Нямілы, якая высокамаральных, сумленных людзей лічыць сваімі найпершымі ворагамі. І калі чалавек дасягаў таго ўзроўню духоўнай дасканаласці, які пагражаў ёй, яна імкнулася праз пэўных людзей на зямлі знішчыць такога чалавека.

Чарговай ахвярай Нямілы становіцца Канстанцін Чуйкевіч. Ужо прозвішча само за сябе гаворыць. Яно ўтворана ад дзеяслова “чуць”– у значэнні “ўспрымаць, пазнаваць шляхам адчування; адчуваць”. Аднакаранёвыя словы – чуццё (здольнасць чалавека разумець, угадваць, заўважаць што-небудзь), чуласць; чуйны, чуллівы, чулы – гэтыя прыметнікі аб’ядноўвае значэнне “здольны ўлавіць нават нязначнае знешняе ўздзеянне, тонкаадчувальны”; той, хто адносіцца да каго-небудзь з любоўю, уважліва, спагадліва.

Пачынаюцца няшчасці ў Чуйкевіча з выкліку ў Пракуратуру. Жанчына па прозвішчы Субач, старая, няшчасная, абвінавачвае маладога пісьменніка ў плагіяце (пазней высветліцца, што яна псіхічнахворая, але тады ўжо нельга будзе нешта паправіць). Далей – болей. У чарзе ў вінна-гарэлачным магазіне ў Чуйкевіча скралі партманет, дзе былі яго візітоўкі з тэлефонамі – рэдакцыйным і хатнім, квіток на рамонт гадзінніка, дзе быў указаны дамашні адрас. Пісьменнік становіцца аб’ектам разбіральніцтва следчага Пятра Пятровіча (“*звышадмысловага пінкерто-*

*на*") і ахвярай крымінальнікаў; яго прэсуюць тэлефоннымі званкамі з пагрозамі і патрабаваннем грошай. Следства зацягваецца. На Чуйкевіча ўзводзяцца ўсё новыя бязглуздыя абвінавачванні; "*з нічога раздзімалася магутная справа, коўш якой заграбаў усё больш людзей*".

Гэта абурае Чуйкевіча, ён пакутуе ад чорных думак і не можа іх пазбавіцца. "*І на адпачынак ягоны ляжа змрочны водцень гэтага шальмавання, будзе забіваць у зародку парасткі творчага натхнення. Ён жа і не так шмат напісаў, усяго тры зборнікі аповесцей і апавяданняў. А калі ўявіць, што душа – гэта кавалак тканіны, то пісьменніку трэба як мага болей адрэзаць ад яго, каб з кожнай ніткачкі напрасці старонак на кнігу. Што і казаць, жыццё атручана, душа забіта... злой несправядлівасцю, людской подласцю, і ты павінен апраўдвацца, даказваць, што ты ні пры чым*".

Разважаючы сам-насам аб прычынах абвінавачвання ў плагіяце, Чуйкевіч дапускае, што магчыма, гэта адно зачэпка, каб сфабрыкаваць на яго сур'ёзную справу, запусціць новы механізм рэпрэсій, як гэта было ў 1937-м годзе. "*Усё-такі, як ні круці, частцы люду захацелася свабоды, незалежнасці, нацыянальнай самабытнасці. А ён, колькі сябе помніць, шчыра нёс, аберагаючы далонямі, свечачку сваёй беларускай самасвядомасці*".

Чуйкевіч змагаецца за свой гонар, імкнецца абараніць свой "духоўны суверэнітэт" – чалавечую годнасць. Але сілы няроўныя. Чуйкевіч страчвае ўнутраную раўнавагу, а званкі крымінальнікаў спараджаюць страх за сябе і сям'ю.

Вынік цалкам прадказальны: чалавек не вытрымлівае такога псіхалагічнага цяжару, пачынае выпіваць і гіне – спачатку маральна, а потым і фізічна.

Так коратка можна акрэсліць сюжэт рамана. Але агульнае гучанне твора значна глыбейшае за яго сюжэт.

Трагедыю галоўнага героя добра перадаюць эпіграфы з Мікалая Рэрыха да 1-й і 2-й часткі рамана: "*Усялякая гразь прымушае камень трэскацца*" і "*Вывучаць жыццё салаўя, папярэдне забіўшы яго, ці не ёсць гэта варварства*?"

Канстанцін Чуйкевіч – сапраўдны беларус. Перад намі як у рэальным, фізічным свеце, так і ў ірацыянальным свеце сноў праходзяць асобныя перыяды жыцця героя. Вось маленькі Кастусь, зрабіўшы шпакоўню (на яго думку, сапраўдны церамок!), вельмі перажывае, што шпакі чамусьці не засяляюцца ў яе, а б'юцца за шпакоўню дзеда Аўтуха. І хлопчык наважыўся... на злачынства: дачакаўся цемнаты, ускараскаўся на клён і заткнуў ляток у зробленай дзедам птушынай хатцы. Але хутка ягоны ўчынак здаўся яму глупствам, недарэчнасцю, і хлопчык выцягнуў са шпакоўні затычку. Ён адчуў сваёй неакрэплай дзіцячай душой: "*насіллем не прынясеш шчасця*".

Лёс сям'і Чуйкевічаў быў тыповым для беларусаў. Яго бацьку саслалі разам са сваімі бацькамі ў гады калектывізацыі ў Сібір. Адбылося гэта так. Па даносе сваяка, Міхалкі Проччыма, Чуйкевічаў залічылі ў кулакі. Проччымаў род быў гультаяваты, з бедных. У калектывізацыю ён займеў уладу, узначальваў камбеды, раскулачваў. У Чуйкевічаў усё забралі і знеслі дабро ў калгасны свіран. А пасля самі ж камбедаўцы разрабавалі знесенае і спалілі свіран, абвінаваціўшы ў гэтым кулакоў.

Аўтар малюе жудасныя малюнкі разрухі, голаду. "*Цыгам цягнуліся з Украіны людзі, пухлі і падалі проста на дарозе, паўз якую і трава, і лісце на дрэвах былі аб'едзены. Голад лютаваў, рабіў людзей звярамі, даводзіў да бясцямнасці і вар'яцтва. Іван Вірлак з таго канца вёскі забіў у лесе семнаццацігадовага сына, бо не было чым карміць сям'ю, а дарослы хлопец еў больш за астатніх*".

Перажыты страшэнныя выпрабаванні, незлічоныя страты. Адгрымела вайна. Здавалася б, ужо людзі зажывуць спакойна, але ў краіне працягваліся пошукі "ўнутраных ворагаў". І бацьку Кастуся, Рыгора Чуйкевіча, на пачатку 50-х зноў,

"*як ненадзейнага перасяленца*", адправілі ў Сібір на перавыхаванне.

Напэўна, ужо тады, у дзяцінстве, Кастусёк быў у першы раз забіты, калі ў яго дзеда Арцёма забралі ўсё, нажытае цяжкай працай і потам. Ад роспачы, крыўды і болю дзед Арцём засіліўся на бярозе. "*Дзеля чаго яму было жыць, што абараняць, чым сябе ўслаўляць?* – пытаецца аўтар. – *Нават жа чмялі вунь як сябе абараняюць, калі выкасіш іхняе гняздо... Дзед і сыноў, дачок прывучаў да зямлі, а пасля высылкі куды ім? Кожнай жывой істоце трэба мець штосьці сваё. Гэтае СВАЁ адпавядае менавіта ёй, як задумана прыродаю. Калі ёсць што страчваць, абдумаеш сто разоў кожны свой крок. Твая ўласнасць, твой падворак – гэта ёсць ТЫ. Няма іх – няма і цябе, ТЫ бязлікі, бы пясчынка, якая няздольная супраціўляцца ні вадзе, ні ветру... І людзей несла камуністычная стыхія ў зададзеным кірунку, выкошваючы ўласнікаў, бы траву, пакідаючы голь і чысціню, як на барабане*".

У Кастуся ад нараджэння чыстая, чулая душа. Ён не прымае людской жорсткасці. Вось Міхалка Проччым падстрэліў цецерука і прынёс яго, напаўжывога, у хату. Няўласна-простай мовай аўтар перадае Кастусёва шкадаванне да няшчаснай птушкі, якая трапечацца на падлозе: "*...Плакала твая воля, твой высокі лес, твая сям'я, і ты супраціўляешся толькі ад бязглуздасці сваёй, ад дзікага стыхійнага страху перад чалавекам-зверам*".

*– А можа, пагадаваць яго трохі, зажывіць крыло? – звяртаецца хлопчык яшчэ раз да дзядзькі Міхалкі. – Робяць жа гэтак з бусламі...*

*– А навошта? – усміхаецца дзядзька Міхалка так, быццам Кастусёк самае дурное і наіўнае ў свеце дзіця.*

Кастусь – чалавек ад зямлі. У ім увасобіліся лепшыя рысы беларуса: любоў да працы, розум, увага да людзей, адчуванне злучанасці з роднай зямлёй, з прыродай. Яшчэ малым хлопчык адчуў неадольную цягу "*да птушак, раслін і кветак... Уладу над ім узялі расліны... Займеўшы навыкі агародніка, ён задумаў завесці сваю маленькую зялёную гаспадарку*". Хлопчык ускапаў кавалачак зямлі, навыкопваў усялякага зелля, перасадзіў, дбайна паліваў, нават абгарадзіў.

Ужо дарослым, Чуйкевіч прыязджае ў вёску, дапамагае маці па гаспадарцы. Ён, абліваючыся потам, цэлы дзень абворвае бульбу – дваццаць пяць сотак.

У творы мы бачым родную зямлю ва ўсе поры года. Гэта і вёска, і горад. Асабліва вёска, з усімі яе галасамі і фарбамі. Там чалавек яднаецца з прыродай, адчувае сябе яе часцінкай.

У цяжкія хвіліны жыцця, амаль ужо зломлены маральна, адрынуты грамадствам, Чуйкевіч "*прымаў цяпер адно законы прыроды. І не разумеў, чаму яны не ўсемагутныя. Чаму па іх не жывуць усе людзі?.. Законы прыроды – гэта чысціня, гармонія, разумнасць, прыгажосць. Чуйкевічу час ад часу здавалася, што душа ягоная вырастае з зямлі разам з травою, дрэвамі, выцякае крыніцамі і рэчкамі, плыве воблакамі, вылятае птушкамі, кузуркамі, матылькамі*". Такія пранікнёныя радкі мог напісаць толькі таленавіты літаратар з глыбокай, чулай душой, які спасціг мудрасць і прыгажосць народнай мовы.

Страчаную ўнутраную раўнавагу Чуйкевіч імкнецца набыць у стасунках з каханай Веранікай, якая разумее яго і спачувае, падтрымлівае ў цяжкія хвіліны жыцця. На думку Веранікі, "*штосьці ў ім [Чуйкевічу] было такое, чаго яна ніколі раней не заўважала ў мужчынах. Ён валодаў як бы магіяй і прыцягальнасці, і адштурхоўвання адначасна. У кожным разе прымушаў пра сябе думаць*".

Калі Чуйкевіч расказаў Вераніцы пра сваю бяду, яна памкнулася дапамагчы яму. Жанчына думае: "*Ён загадкавы мужчына. Ён якісьці недасяжны. У яго вялікае, цёплае сэрца, ды гэта яму на шкоду. Відочна, ён крэпенька ўліп*".

Ва ўяўленні героя Вераніка атаясамліваецца з дасканаласцю, прыгажосцю, натуральнасцю, шчырасцю – з усім тым, што дае сілы чалавеку і што да гэтага

Кастусь знаходзіў у прыродзе наогул. Вось такой бачыць Кастусь сваю каханую ў купэ цягніка "Мінск – Масква", дзе яны здолелі застацца сам-насам:

"*Бялкі вачэй былі чыстыя, сіняватыя, колеру снегу, на які капнулі чарніла... Увесь твар быў азораны ясным, якімсьці ліловым святлом... І разняволенасць іхная была натуральная, як вада ў рэчцы, як птушка ў лёце...*

*Чуйкевіч стаяў зачараваны, расхваляваны ўшчэнт*".

А як прыгожа выказаны стан узаемнага кахання: "*Яны пісалі дыктоўку, заняволеныя ўсемагутным голасам пачуццёвасці*".

Галоўны герой твора, не знаходзячы дома падтрымкі (жонка абыякавая да яго, а дзеці яшчэ малыя і не разумеюць бацькавых пакут), пачынае шукаць ратунку ў алкаголі.

*"Гарэлка вымывала з мазгоў і сэрца чалавечае, цымус унутранай прыгажосці. Раба нельга адпускаць на волю, ён робіцца п'яны і некіруемы, бо запраграмаваны, як робат".*

Пачынаў піць "*з грамулькі*", каб адно заснуць. *"Не ўтоплены ў вялікім горы, Чуйкевіч тапіў сябе ў маленькай чарачцы. Так яму выдумалася выратаванне. Разумеў, што гіне, і не мог нічога з сабою зрабіць. Ён быў выхаваны як раб, і перамены, што перавярнулі ідэалы, бязлітасна губілі яго. Грам алкаголю быў адзіны шчыт ад напасцяў".*

А пісаць у такім стане не мог, бо не давяраў свайму розуму. *"Карыснае чалавечай душы ляжыць толькі ў плоскасці свядомасці, разбуральнае дзейнічае з падсвядомасці. І мастацтва якраз вымятае з падсвядомасці душэўнае смецце. Гэта чалавекам не адчуваецца. Ён толькі раптам заўважае, дзівіцца, што стаў лепшым, яму хочацца рабіць дабро".*

Многія старонкі рамана прысвечаны паказу ачышчальнай ролі мастацтва ў духоўным свеце чалавека.

За перамогу ў конкурсе малюнкаў рэдакцыя газеты "Піянер Беларусі" прыслала Кастусю альбом рэпрадукцый эрмітажаўскіх карцін, і хлопчык падоўгу разглядаў палотны Тыцыяна, Рэмбранта, Рубенса, Джарджоне. Хлопчык рана адчуў неадольную магію фарбаў, тонаў, праменьчыкаў. "*І душа ягоная напаўнялася якімсьці НОВЫМ пачуццём і зместам... Яму хацелася быць добрым, шчымліва пяшчотным, спагадлівым... Ён адразу станавіўся іншым, багацейшым... Так дзейнічала на яго Прыгажосць".*

Асаблівае замілаванне адчувае пісьменнік да мастацтва, якое мае нацыянальную адметнасць. Гэта выяўляецца ў сне пра Галю – яго дзяўчыну студэнцкай пары. Галя прыехала да Чуйкевіча са сваімі малюнкамі, і яны выклікалі ў юнака захапленне нацыянальным каларытам. На іх – палац, драўляная цэркаўка, чырвона-белы кужэльны ручнік, вышыты мулінэ; беларускі пейзаж, героі шматлікіх народных казак. Чуйкевіч кажа Галі: "*Калі б ты вучылася жывапісу ... стала б славутаю мастачкаю, беларускай, самабытнай*". А бацька Чуйкевіча чамусьці бязрадасны і кажа сыну, што яго і Галю пасадзяць за нацыяналізм...

Калі б сям'я падтрымала Чуйкевіча, ён, магчыма, і справіўся б з бядой. Але Людміла, жонка, толькі папракае, што муж не спекулюе, не зарабляе мільёны ў сумесных прадпрыемствах ці кааператывах. На яе разуменне, "*муж – гэта прылада працы з вечным рухавіком, які заводзіцца без намаганняў адным жончыным загадам*". Яна не бачыць, не разумее, што Чуйкевіч – "*мільянер духоўнасці*", бо сама не ўмее працаваць, яе "*адусюль выганяюць, звальняюць, скарачаюць*".

І калі муж перастаў прыносіць грошы і ператварыўся ў п'яніцу, Людміла паспрабавала атруціць яго, падсыпаўшы ў гарэлку пэўнае рэчыва.

Такім чынам, выйсця для Чуйкевіча няма, бо "*па ўсіх кірунках, як трэшчыны па шкле, пайшло разбурэнне*" (успомнім эпіграф да 1-й часткі рамана!).

Вуснамі Чуйкевіча аўтар пытаецца: "*У якія ж несхадзімыя нетры завалакло*

*цябе грамадства?..”*

Меркне радасць жыцця, горыч і расчараванне, безнадзейнасць агортваюць збалелую душу Чуйкевіча. Змрочны малюнак дапамагаюць ствараць адпаведныя эпітэты: *“Стаяла зняверaная ноч”.*

*“Блішчэлі круглыя, размытыя плямы святла на кузавах пацураных ад беспрытульнасці легкавушак”.*

*“Ён, шкадуючы маці, не прызнаваўся ёй, які чорны накіп асеў у ім, на ягонай унутранай абалонцы”.*

*“У галаве кіпелі мазгі, раздзіраючы швы чэрапа. Ён узяў у рукі круглае люстэрка: белы зблажэлы твар Смерці глядзеў на яго ягонымі ж чырвонымі, налітымі вачыма.*

*Перад ім быў свет – нейладкаваны, хворы, са страсцямі, радасцямі, урэшце, слязамі, але – сапраўдны. Чуйкевіч выпраўляў сябе ў свет знявечаны, перакручаны, пераніцаваны”.*

Апынуўся ў лякарні ў Навінках, куды яго прывезла “хуткая”. У рэгістрацыйным пакоі хворага Чуйкевіча супрацоўніца не запрасіла нават сесці, *“быццам ён якаясьці бронзавая статуэтка, а не хворы чалавек”*. Аўтар звяртае ўвагу чытача на *“хіжы злом броваў жанчыны, на драпежны выраз вачэй”*.

Затое доктар задаваў пытанні тактоўна, не прыніжаючы годнасці Чуйкевіча. *“Чуйкевічу доктар спадабаўся. Без цынізму, грубасці. Мусіць, яшчэ не паспеў сапсавацца: па выгляду, гадоў на пяць-сем быў маладзейшы за Чуйкевіча”. У доктара “напрактыкаваны позірк”*.

Пасля лячэння праз зрокавыя асацыяцыі Чуйкевіч успрымае адпаведным чынам і зімовы пейзаж:

*“На кустах бэзу на кончыках галін віселі празрыстыя, як ампулы, лядзяшыкі”*.

Чуйкевіч – шчыры беларус і ўсюды размаўляе толькі на роднай мове. *“Апошнім часам увогуле адкрыта выступаў супроць русіфікатарства, за вяртанне свайму народу таго, што яму даравана Богам, як любому іншаму народу”*. І на сходзе ў райкаме яго абурае ў прамове сакратара Гракавалай падзел на “сваіх” і “чужых”, імкненне да пошуку ворагаў, як і ў 30-я гады.

*“А калі ён, Чуйкевіч, не згодны, што беларуская мова нікому не патрэбна, што беларуская культура павінна задыхацца ў смуродзе невуцтва, нігілізму, абыякавасці?.. Чуйкевіч не ўстаў і не сказаў пра гэта адно таму, што яго ўся зала асадзіла б выкрыкам: “Нацыяналіст!”, затупала б нагамі, абсвістала. А ён быў укручаны і без гэтага ў такі водаварот, што ледзьве трымаўся на паверхні...”*

На старонках твора адна з цэнтральных праблем – роля беларускай мовы ў дзяржаве.

У кабінеце Малкавай (яна была інструктарам партапарата) вайсковец-падпалкоўнік з рэвізійнай камісіі ўважліва слухае Чуйкевіча. А той, *“натхнёны слухавою прагавітасцю вайскоўца, такавай як цецярук. Сказаў багата пра што. І пра беларускую мову, якую занядбалі, а цяпер яшчэ дыскутуюць, ці надаваць ёй статус дзяржаўнай; і пра партыйную наменклатуру, якой разам з пасадаю даецца права на бязгрэшнасць і правільнасць; і пра тое, што не абнародаваны віноўнікі сталінскіх рэпрэсій”.*

Калі Малкава спрабуе спыніць Чуйкевіча, вайсковец гаворыць: *“Пусть, пусть говорит. Хотя меня, честно говоря, русского офицера, **оскорбляет это наречие**”.*

Чуйкевіч зразумеў, што гэты рускі афіцэр быў варожа настроены да беларускасці... *“Крыўдна было за сваю лапавухасць: не раскусіў адразу чалавека. Зрэшты, наіў, давер да людзей часам яму шкодзілі, ускладнялі жыццё... Ідзеш да чалавека з чыстымі намерамі, гэткага ж чакаеш і ў адказ, а папраўку на чалавечую непрыстойнасць, затоенасць не робіш. Тут і б’ецца крохкая ёлачная цацка духовага высакародства”.*

У творы шчыра выказаны многія актуальныя для нас і сёння думкі.

Пісьменніка хвалюе, чаму на Беларусі сярэдняя працягласць жыцця мужчын 65 гадоў. Значыць, палова і да пенсіі не дажывае. *“А ўсё, без сумнення, у сацыяльных прычынах. І адна з іх – слабая медыцына”.*

У. Рубанаў разважае аб тым, як адаб’ецца на беларусах чарнобыльскае ліха, бо “*радыяцыя не толькі выкошвае людзей, але й робіць квёлай будучыню – расхіствае, крышыць непарушную, Боскай міласцю закладзеную рамку генафонду беларусаў”.*

Чуйкевічу непамысна, калі з кватэр выносяць і прадаюць кнігі – галеча матэрыяльная спараджае беднасць духоўную.

У рамане выяўлены дакладны партрэт савецкага часу: кіруючая роля КПСС, засілле каманднай сістэмы, бяспраўнасць простага чалавека. “*Каля сямі дзясяткаў гадоў савецкаму чалавеку дэкляравалі, што ён не раб, а на справе акурат і рабілі з яго раба*”, – заўважае аўтар.

Калі Чуйкевіч хоча напісаць заяву ў суд, каб прыцягнуць паклёпніцу Субач да адказнасці, у юрыскансультацыі не маглі яму сказаць, як пішацца адпаведная заява. Галоўны герой разважае: “*Ну й заканадаўства! За мяжою, мусіць, гэта самы ходкі артыкул – абарона сваіх правоў. А тут, наадварот, безліч артыкулаў, як чалавека ўнізіць, растаптаць, зняславіць”.*

У грамадстве пануе разгубленасць, бязвер’е, адсутнасць якой-небудзь станоўчай перспектывы. Адсюль п’янства, якое набыло катастрафічныя памеры.

І яшчэ адзнака часу – нежывая задуменнасць на зямліста-шэрых, мала не шызых тварах людзей. Чуйкевіч нават прыдумаў загаловак для твора: “Задуменныя твары”. “*Гэтая хваравітая шэрань твараў выклікала ў яго шкадобу, і па ёй, здаецца, ён пазнаў бы савецкага чалавека нават на Марсе”.*

І галоўнае пытанне пытанняў: чаму разумныя і адукаваныя людзі, якія могуць прынесці дзяржаве, грамадству вялікую карысць, часта застаюцца сам-насам з бядой і гінуць? Хочацца спаслацца на славутага расейскага пісьменніка А.С. Грыбаедава, які лічыў, што “*чым больш адукаваны чалавек, тым большую карысць ён можа прынесці грамадству*”. Але ж “*усякае грамадства* ***хлусіць****, быццам робіць усё для чалавека, таму і разбурае гэтага чалавека, сее зло і смерць, нянавісць і мярзоту*”, – так запомнілася Чуйкевічу ідэя твора, якую прадыктаваў яму Голас. Пра лёс такіх людзей, якія не змаглі цалкам раскрыцца, аўтар гаворыць наступным чынам: *“Талент бліснуў, як метэарыт, і патух, не запаліўшы на вякі паходні ў сэрцах людзей”.*

Колькі ж талентаў згасла на беларускай зямлі?!

Давялося мне гэтым летам адпачываць у санаторыі “Буг”, недалёка ад Жабінкі. Папрасіла таксіста адвезці мяне ў вёску Федзькавічы, што бліз Жабінкі, на могілкі; знайшла там з дапамогай кіроўцы магілу Васіля Гадулькі, выдатнага нашага паэта. Знаўца сямі моў, выключна адораны чалавек памёр, занядбаны, закінуты, у зусім маладым узросце. Шкадаванне агортвае сэрца: прызнанне да яго прыйшло ўжо пасля смерці; выйшлі кніжкі “Голас” і “Па-над сцежкай лёсу” (БЛА “Белавежа”, Беласток, 2016 год).

Сціплы чырвона-аранжавы помнік у форме кляновага ліста з надпісам: “Шлях мой самотны”. Злева – магіла бацькі, справа – маці, якую паэт перажыў не намнога. На магілах ужо даўно пакладзеныя, выцвілыя кветкі. Паставіла на магілу паэта прыгожыя чырвоныя ружы.

Думаецца, што паміж Васілём Гадулькам і героем твора У. Рубанава шмат агульнага, а ў першую чаргу – жаданне тварыць. “*І ў душы, спаленай агнём атрутнага зелля, наклёўвалася, напамінаючы, што яшчэ жывая, магічная прага пісаць. Можа, гэта і была ... адзіная сіла, якая вырывала яго з “піке”, штурхала ў грудзі, у галаву: ты яшчэ патрэбны, ты можаш быць карысны грамадству, яно не выраклася і не адрынула цябе цалкам. Навошта губіш сябе, так нікчэмна распараджаешся Божым дарам?.. Ты павінен сеяць вакол ясныя, чыстыя эмоцыі, якія будуць грэць людскія душы”.*

Аўтар звяртаецца да сумных старонак найноўшай савецкай гісторыі, сямідзясятых – васьмідзясятых гадоў.

Афганістан – гэта савецкі боль. А няшчасныя маці, што страцілі сыноў, чулі ад чыноўнікаў *"у гарадах і вёсках: "Я вашага сына туды не пасылаў"*. Чуйкевіч плача, калі глядзіць па тэлевізары дакументальны фільм пра ўдоў і мацярок воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Больш за 20 гадоў прайшло з таго часу, як няма з намі Уладзіслава Рубанава. Шмат што змянілася ў жыцці. КПСС ужо няма. Людзі сталі жыць больш заможна. У крамах багата ўсялякіх тавараў. Але ці паболела ў грамадстве шчырасці, дабрыні, любові да чалавека? Рытарычнае пытанне. А беларуская мова пасля кароткага перыяду адраджэння зноўку ў заняпадзе. І людзей, неабыякавых да лёсу краіны і яе народа, хвалююць тыя ж пытанні, што і Канстанціна Чуйкевіча. Аднак стаўленне да роднай мовы ў цяперашніх кіраўнікоў такое ж, як у партсакратара Гракавалавай: *"Якіясьці гнілыя інтэлігенцікі ... даводзяць сваё. Ім, бачыце, волі захацелася, гістарычнай праўды... Як быццам у мове справа. Нават калі ўсе да адзінага на ёй загавораць, заРЭкарюць ды заЧЭкаюць, хіба ад гэтага дадасца каўбасы ды масла на прылаўках? Смехатура!"* Гракавалава рыфмуе: *"Нацыяналізм – дурнізм"*.

Думаецца, што кожны зацікаўлены чытач адкрые ў рамане У. Рубанава нешта сваё, асабістае, новае, аб чым не думаў раней.

У вышэйзгаданай анкеце Рубанаў, як быццам адчуваючы хуткі зыход, дае наказ нашчадкам:

"*Літаратар у адказе толькі перад Богам. Для мяне адназначна, што чалавек бездухоўны, бязбожны цяпер, калі няма ніякіх ідэалогій – метадалогій, нічога вартаснага не створыць. Толькі ўдасканальваючы сябе, свой дух, атрымліваючы радасць ад таго, што не задумваеш зла, не паскудзіш іншым, можна разлічваць на новыя думкі, вобразы, нейк павышаць свой інтэлект. І тое, што немінуча прыходзіць да цябе ў знак аддзякі, трэба выяўляць бязлітасна-смела, шчыра, безаглядна, іначай не раскрыць сваіх адносін да свету, патаемных токаў сэрца, без чаго творчасць уяўляе сумніцельную каштоўнасць*".

У снежні 2017 года Уладзіславу Рубанаву споўнілася б 65 год...

Літаратура:

1. У. Рубанаў. Не аднойчы забіты. Мінск: "Мастацкая літаратура", 1994. – 288 с.
2. Анкета ЛіМа //Літаратура і мастацтва. – 12 ліпеня 1994.
3. М. Тычына. Два партрэты на фоне эпохі. Уладзіслаў Рубанаў і Уладзімір Бутрамееў. "Роднае слова". – 2005. – №1. – с. 44-46.



кнігапіс

Леанід Галубовіч



...выява трагедыі нашага часу

праз вясёлкавую прызму гумару...

# Пад крылом анёла-ахоўніка

***Рэцэнзія на кнігу Вінцэся Мудрова***

***Вінцэсь Мудроў. Забойца анёла. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; выпуск 93). – 256 с.***

Памятаю, “постаць” Вінцэся Мудрова ў рубрыцы “ТЫ” (часопіс “Крыніца”, 1994) для многіх была нечаканай. Пачынаючы па сутнасці пісьменнік-гумарыст з правінцыйнага Наваполацка быў “выстаўлены” элітарным выданнем шырокай чытацкай публіцы як знакавая неардынарная фігура тадышняй постсавецкай нацыянальнай літаратуры. Было розгаласу ў пісьменніцкіх колах, даходзіла і да абурэнняў. Маўляў, чалавек напісаў некалькі гумарных показак пра пэтэвушніка Ваньку Бянькова і ўжо, во, ледзь не класікам зрабілі. Аднак не пакідаючы перыферыі і не засвечваючы сябе публічна, сын рускага вайскоўца і беларускі выдаў некалькі кніжак (“Жанчыны ля басейна”, “Зімовыя сны”, “Ператвораныя ў попел”...) і насамрэч быў прызнаны “мэтрамі” і ўпісаны ў шэрагі выбітных беларускіх пісьменнікаў. Што ж за




пісьменнік Вінцэсь Мудроў і што грунтоўнага ім напісана? Я думаю, што менавіта пра гэта трэба сказаць папярод разгляду апошняй яго, па часе выдання, кніжкі прозы "Забойца анёла".

На пачатку 90-х малады А. Аркуш лічыў яго "бацькам беларускага сацарту". Маўляў, "пачытайце яго ўважліва, і вы адчуеце, як пазбаўляецеся шаблоннага ўспрыняцця навакольнай рэчаіснасці". А. Асташонак пісаў, што "галоўная яго сутнасная адметнасць – жанр ды стыль. Мудроў – сатырык-іраніст". Згаджаўся з гэтым і П. Васючэнка: "Споўненая парадоксамі і іранізмамі зямля. Як ёй было не спарадзіць іраніста Мудрова?" А вось У. Арлоў зазіраў у перспектыву і мовіў, што "мудровазнаўцаў XXI і наступных стагоддзяў яшчэ чакае радасць пошукаў і адкрыццяў". І ўжо зусім нядаўна Ц. Чарнякевіч, называючы Мудрова адным з цікавейшых "археолягаў савецкага абсурду", не прамінуў заўважыць, што "можна было б сказаць, што «гэты аўтар знаходзіцца наводдаль ад асноўных тэндэнцый беларускай прозы», каб не знаходзіліся там жа і ўсе астатнія аўтары: бо даўно разышліся сьцежкі-дарожкі ўтаптаных кірункаў, дый еднасьць былых таварыстваў зь іх маніфэстамі і няўлоўным прысмакам «агульнага» выглядае дастаткова сумнеўнай. Цяпер кожны сам па сабе — камусьці гэта прыемна, у кагосьці выклікае раздражненьне". Ну і нарэшце сам В. Мудроў пра сябе вызначыўся гэтак: "Што да празаічнай формы, дык я вынайшаў сваю ўласную і, мяркую, яна павінна прыжыцца ў літаратуры. Форма гэтая ў нечым парадаксальная: выява трагедыі нашага часу праз вясёлкавую прызму гумару".

Не сказаць, каб аўтарытэтна, на цвёрдай аснове і канкрэтным матэрыяле (мастацкім літаратурным тэксце) гэтымі цытацыямі сцвярджалася нешта вартае і адзінацэльнае, а ўсё ж уявіць творчую асобу пісьменніка Вінцэся Мудрова сталася больш ці менш магчымым. Ды і сам я, ужо пазней (2005), разважаючы ў лімаўскім артыкуле пра яго творчасць, пісаў, што, "калі хочаш успомніць сваё даграхоўнае юнацтва, перачытай Вінцэся Мудрова. Іншы раз здаецца, што ён распавядае табе (чытачу, крытыку) пра сваё далёкае настолькі *блізка*, з такой несумненнай шчырасцю, такімі падрабязнасцямі і дэталямі, нераўнуючы як Ісус Хрыстос перад сваім непазбежным укрыжаваннем Пракуратару Пілату... што ты проста абавязаны яго зразумець, не зважаючы на рашэнне, якое ты павінен будзеш вынесці... Станоўчае ці адмоўнае". А яшчэ раней (напачатку кастрычніка 1999-га), рэцэнзуючы кніжачку прозы В. Мудрова "Зімовыя сны", зрабіў такія высновы: "Счытваючы са старонак кніжкі наша жыццё, мы бачым яго такім, якім яно ёсць, – смешным, недарэчным, часам бязглуздым... Больш пільна ўгледзеўшыся ў яго, мы нарэшце пагаджаемся з аўтарам, што – так, гэта яно і ёсць. Грэшнае, зямное, абсурднае чалавечае жыццё, якое пажадана ўдасканальваць. І ўжо разуменне гэтага робіць нас лепшымі, чым былі дагэтуль – да прачытання кніжкі. (...) І яшчэ адна важная дэталь: у творах Мудрова няма ярка вызначаных для чытача станоўчых і адмоўных герояў. Усе героі Мудрова (і ў першую чаргу ён сам, як найгалоўны герой уласнай творчасці) вельмі вольна пачуваюць сябе, пагойдваючыся на абедзвюх шалях боскіх вагаў. Святое і грэшнае, зямное і паднебнае, матэрыяльнае і духоўнае – ураўнаважаныя". Ну і, як для мяне, апафеоз творчасці В. Мудрова – гэта яго "Альбом сямейны" і "Албанскае танга".

Думаю, не памылюся, калі скажу, што найперш гэтыя творы ўвойдуць у аналы нашай класічнай нацыянальнай літаратуры.

Цяпер – да канкрэтыкі. Што я магу сказаць пра творчасць Вінцэся Мудрова сёння пасля прачытання яго кніжкі "Забойца анёла"? Па-першае, сама кніжка

не падалася мне цэльнай, яе тэксты кантрастныя і агульнае яе ўспрыманне калейдаскапічнае. Узоры (сюжэты, вобразы, характары) як бы розныя, але складзеныя з аднаго і таго ж матэрыялу (тыпажу і тэматыкі). Ёсць увогуле рэчы, якія прышпільваюцца да “ванібяньkoўскага перыяду”, такія як “Мішка Чобат”, “Палёт над буслiным гняздом”, “Светлай ноччу”. А здараюцца і такія, што адкрываюць празаіка Мудрова з іншага боку – больш прасветленага і духоўнага (“Тузік і Кузік”, “Забойца анёла”). Астатнія творы – гэта наўпроставае высмейванне гратэскных формаў жыцця і існавання савецкага і постсавецкага беларускага чалавека. Героі апавяданняў Мудрова найчасцей сталага альбо электаральнага веку або дзівакі-маладзёны. У пераважнай большасці твораў беларускі свет падаецца ім ў аднастайна шэрай танальнасці. Памяркоўнасць, асцярожнасць, баязлівасць, пакладзістасць, недарэчнасць, недалужнасць, нехлямяжасць, неахайнасць, жывёльная жарстлівасць, цяга да шкваркі і чаркі – вось вызначальныя пазнакі яго “герояў”... Калі шчыра, дык такая, абраная аўтарам, карціна і “стыль” жыцця напружваюць чытацкае ўражанне, калі не сказаць – стамляюць, а падчас нават і раздражняюць. Асабліва тое тычыцца побытавых дэталяў. Безумоўна, нельга абысці тых надзённых праблем, якія аўтар падымае і высвечвае “апазіцыйным пражэктарам” (грамадскія, сацыяльныя, псіхалагічныя, культурныя і маральныя). І робіцца гэта на высокім узроўні літаратурнага майстэрства. Тут і сарказм, і едкая іронія, і правакацыі, і метады абсурду... Трэба прызнаць, што ў В. Мудрова вельмі зоркае і пільнае вока, чуйнае вуха і доўгатэрміновая памяць... Чытаеш, як глядзіш адзняты на камеру відэарад. Нельга не пасміхацца з яго герояў, іх неадназначных і неардынарных дзей ды ўчынкаў (пакепваючы з іх ці спагадваючы ім). У рэшце рэшт, можна пагадзіцца, што асноўны зрэз сучаснага грамадскага жыцця абсалютна адпавядае паказанаму аўтарам. І якраз ад усведамлення гэтага балюча разумець, што ўсе мудроўскія героі спісаныя з тваіх знаёмых, сяброў, блізкіх, а, бывае, што і з цябе самога... Ёсць над чым задумацца... Аднак нярэдка ўзнікае і такая думка: а ці трэба калупаць балячку на ўласным твары бясконца? Наўрад ці пры такім метадзе “лячэння” яна хутка загоіцца... Зрэшты, Мудроў не тэрапеўт і не хірург, і нават не патолагаанатам, а, як сказана ў адным вядомым вершы, *ён – боль*...

Спынюся на некаторых асобных творах.

Аповед **“У лазні”** пра беларускую нацыянальную рысу характару – памяркоўнасць (мая хата з краю). Галоўны герой Макар – беларускі паэт, прынамсі мае тры выдадзеныя зборнікі вершаў. Піша па-беларуску. Але калі яго абзываюць “бандэраўцам” і абражаюць за мову тых, хто яе годна абараняе, Макар спачатку баязліва староніцца і хаваецца “ў кусты” (“как бы чего не вышло”), аднак у празмерна-крытычны момант усё ж кідаецца ў бойку на абарону людскага і слабейшага. Прыспанае да часу адчуванне ўласнай і нацыянальнай годнасці аднойчы ў ім (на самым краі краху і страху, хай падсвядома і інстынктыўна) усё ж прачынаецца. Гэта саркастычна-гратэскавы расповед пра сучаснага правінцыйнага беларускага дробна-духоўнага літаратара, з якіх, між іншым, складаецца нацыянальна-культурная эліта дзяржавы (ха-ха-ха, будзем лічыць, што Макар з прыўладнага саюза літаратараў, хоць я ў гэтым дарэшты не ўпэўнены). Тэма для Мудрова не новая ды і гучыць яна не нова і мае тую ж, аднастайную форму (чужыя порткі, якія ў спешцы надзеў Макар у прымыльніку лазні, на ім як свае). Мала таго, па дабраце душэўнай ён спагадвае нават былому свайму крыўдзіцелю, дапамагаючы таму “аклямацца” пасля ўчыненай бойкі. Не, Макар не думае і не спадзяецца, што назаўтра крыўдзіцель-“пляшак” паразумеецца з ім і будзе адносіцца да яго па-людску, не кажучы ўжо што па-беларуску... Макар як кроўны нашчадак “пана касы і сахі” спадзяецца проста на замірэнне і ўладжванне ўзаемаадносін у далейшым. А раптам прыпомніцца? А што да маральных, духоўных і нацыянальных

прэтэнзій, то тут (“у лазні” гэтай, як і ва ўсёй дзяржаве) усё пакідаецца на як ёсць і як набяжыць, галоўнае, каб было мірнае неба над галавой, шкварка ды чарка... Аповед як канстатацыя нашай рэчаіснасці.

Ужо згаданае мной апавяданне **“Тузік і Кузік”** вельмі ўразіла спакойным тонам і стылем, непадкрэсленасцю пазіцыі з той ці іншай нагоды да ўлады, чыноўніка, бюракрата і проста электаральнага бяздумнага чалавека. Нешта чэхаўскае, а ў аснове сваёй федарэнкаўскае (калі паспрабаваць адсочваць вытокі такой прозы) адчуваецца... Бяскрыўдныя сабакі спяшаюць на дапамогу гаспадару падчас самай вялікай яго малітвы, а пасля адзін з іх гіне з гаспадаровай згоды на тое забойства. Вось і даверся падобнаму прапаведніку – можаш займець сабачы вырак. Ну, тут, пры жаданні, ведаючы ідэйныя ўхілы Мудрова, можна і палітыку “прышыць”...

**“Кава апоўначы”** – іранічны аповед пра каханне (запозненыя пачуцці немаладых людзей). Псуюць ўражанне ад прачытання вульгарныя апісанні бытавога плана... Тэма датклівых адносін паміж мужчынам і жанчынай нават у форме сарказму патрабуе пэўнай мастацкай карэктнасці. (“Рыгор Мікалаевіч – малады, збольшага непітушчы кандыдат навук – выбег з ваннага пакоя і, пакідаючы на падлозе сляды мокрых ног, падбег да шафы. Высунуўшы шуфляду, дзе ляжала ніжняя бялізна, ён выцягнуў адтуль трыкатажныя трусы фірмы “Puma”, нацягнуў на жылістыя клубы і заклапочана спахмурнеў: жоўтая пляма на трусах так і не адмылася. Памацаўшы пляму дрыготкім пальцам, кандыдат скрывіўся і ўжо без ранейшага імпэту стаў насоўваць праз галаву выхадную кашулю”; “Пад сукенкай Зінчынай былі толькі ажурныя трусікі, і Рыгор, пабачыўшы гэта, няўлоўным рухам правёў рукой па тым месцы, дзе паўстаў з небыцця апрэлы driчок”.)

У чытэльным аповедзе **“Палёты праз цэнтр зямлі”** вельмі добра выяўлены быт савецкага часу сярэдзіны 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Па сутнасці – гэта В. Мудроў пары Вані Бянькова. Адметна і па-мастацку яскрава выпісана прырода падчас навальніцы, а таксама вобразы і характары местачковых пенсіянерак у кароткай, фельетоннай па форме, навеле **“Карты не хлусяць”**.

А вось **“Дваццаць крокаў дарогі”** – своеасаблівы трылер правінцыйнага маштабу. Займальны расповед: дасталі з рэчкі затоплены бюст Сталіна, думалі, што бронзавы, каб прадаць метал, а той аказаўся бетонным, таму вырашылі паставіць ля хаты, але і тут аблом, – камуністы ў раёне прызналі, што бюст з’яўляецца ўласнасцю дзяржавы і павінен быць перададзены ў фонд музея, і тады хлопцы прыгразілі камуністам, што разаб’юць-раструшчаць Сталіна, атрымаўшы ад бальшавікоў выкуп гарэлкай – і то хлеб, якога няма на што купіць галоўнаму завадатару гэтай прыгоды, дзеду Трахіму, што падказаў унуку-апойку месца затопленага калісьці бюста... Аднак гісторыя атрымалася залішне зацягнутай (як, дарэчы, і гэты мой сказ), а фінал і ўвогуле “спушчаны на тармазах”...

У аповесці **“Ведзьма”** жывая народная мова і вельмі трапныя дэталі электаральнага жыцця. Але ёсць шмат і таго, што псуе адносіны да твора ў цэлым. Гэта зноў жа вульгарнасць. Асабліва ў месцах інтымных. Чытачу даводзіцца сутыкацца з такімі праявамі пісьма і стылю: “пачухаць жарсцвяныя валасы на пахвіне”, праз кароткі фрагмент зноў “пачухаў потную пахвіну”, “выпусціў паветра і, не абабіўшы апошніх кропляў, выйшаў з прыбіральні”, “заўважыўшы на вяроўцы хахлушкіны трусы з жоўтай мецінай, скрывіўся і сплюнуў пад ногі”, “пакуль да таямнічага паху, што лунаў у пакоі, не дамяшаўся другі – пах даўно не мытых шкарпэтак”, “трусы былі падзёртыя, ад іх тхала мачой”, “сапрэлы дручок слізгануў па імшыстых валасах”... Як бы адчуваючы пэўныя пераборы ў сваім пісьме, Мудроў бліжэй да канца аповесці зазначае: “І, падумаўшы, аўтар выкінуў гэтыя сцэны з аповеду, каб не надаваць твору залішняй шчымлівасці і не засмечваць яго нецэнзурнай лаянкай”.

Навела **“Мішка Чобат”** (пра джынсы “левайсы”, пра якія мроіў студэнт і набыў іх, завэдзганыя гноем у дзеда; маці памыла іх і павесіла ў двары сушыцца, аднак іх укралі). Нічога новага, усё ў тым жа стылі і жанры, і ўсё тыя ж вульгарныя дэталі: “матляліся на ветры мужчынскія трусы і праедзеныя ў прамежнасці жаночыя майткі”.

**“Курортны сезон”** можна было б назваць і кароткай аповесцю. Прыгоды мужчыны ў санаторыі з поўным наборам мудроўска-немудрагелістага нізавога слэнгу: “засяроджана паскроб ніз жывата”, “ну, пажвавела пару разоў ягоная спалоханая з дзяцінства пісіня, напружана паматлялася ў паветры, потым, пасля вяселля, кульнулася набок і больш ужо не аджывала”, “трусы пад ложкам ляжалі... сцаныя”, “знайшоў у бачку з нямытай бялізнай складзеную ў столку прасціну, спрэс залітую спермай”, “фу, бл...ць, толькі яйцы і памыў”...

**“Палёт над буслiным гняздом”** вельмі добрая чытанка для дзяцей з класічна выпісаным сюжэтам, адмысловымі дэталямі і вобразамі ды характарамі вясковага жыцця.

Аповесць **“Чалавек з сажнем”** пра камсамольцаў-кар’ерыстаў савецкіх часоў. Чытэльная агулам рэч, але без усплёскаў навізны, хоць у аснове трымаецца на цікавай і гарачай тэме кахання, што праўда, па разліку... з тымі ж фізіялагічнымі рэфлексіямі (чытаючы ідэалагічныя паперы ЦК, “Іван сядзеў нерухома, спрабуючы дапяць да сэнсу прачытанага, а потым, з неспакоем у душы, стаў чухаць пахвінне: стваралася ўражанне, што мурашы апанавалі самую датклівую частку цела...”, “заплюшчыў вочы і ўявіў, як Нінэль, закінуўшы на спіну спадніцу, з жаласлівым зыкам выпускае паветра”...

Завяршае кніжку цудоўны аповед **“Забойца анёла”**. Простасюжэтны, але глыбокі і ясны па сваім унутраным духоўным змесце. Сюжэт разгортваецца на берагах Волгі, але ўжо на пачатку расповеда аўтар вагаецца, а ці не перанесці яму дзею на “родныя гоні”, ды, у рэшце рэшт, задавольваецца шматзначнай, хоць і не кідкай, рэмаркай: “Палец ужо крануўся клавішы delete, каб сцерці набраны тэкст, ды тут жа адскочыў, падуладны ліхаманкавай думцы пра тое, што на дняпроўскіх берагах зроду не забівалі анёлаў”. Адным словам, гаспадар, у якога камандзіраваны герой прыпыніўся на пастой, паехаў на гусінае паляванне, а застрэліў... анёла, страціўшы з існаваннем апошняга і свой уласны розум... Аўтара настолькі ўразіла гэтая дзіўная і мройлівая гісторыя, што праз некалькі год на радзіме ён і сам сустрэўся са сваім... анёлам...

*Там, у Сіняглазцы, душу маю кранула тайна чалавечага жыцця, і ці не таму, што я ўвесь час думаў пра гэтую тайну, мой анёл адкрыўся мне. Адкрыўся праз тры гады, на золку красавіцкага дня. Я расплюшчыў вочы і ў прыцемку дзвярной праймы ўбачыў белую постаць. На мяне глядзела штосьці да болю знаёмае і блізкае сэрцу і адначас таямнічае і пагрозлівае. Я адарваў галаву ад падушкі, спрабуючы ўгледзець, хто гэта, ды ў гэтае імгненне постаць памкнулася да акна і знікла ў малінавых промнях. І я зразумеў, што ніколі не бываю на самоце. Што нехта нябачны ўвесь час глядзіць на мяне, бачыць мяне навылёт і задуменна ківае галавою, калі я маню альбо раблю якое паскудства. (...) Тым ранкам я больш не заснуў. Ляжаў нерухома-анямелы, думаў аб тайне нашага быцця, аб патрэбе самаачышчэння, і ў думках паўтараў некалі пачутыя словы: “Не дай нам Бог забіць свайго анёла”.*

Нездарма гэты выбітны твор (я назваў бы яго прыпавесцю) пастаўлены аўтарам на канец кніжкі як эпілог ці пасляслоўе – своеасаблівы ***чысцец*** – да ўсяго папярэдняга.

Агулам, не зважаючы на мае папярэднія дробныя і аднатыповыя заўвагі, адмысловы і своеасаблівы пісьменнік Вінцэсь Мудроў заслугоўвае больш шырокай увагі да сваёй творчасці з боку нашай крытыкі і літаратуразнаўства. Бо даволі значная (па нашых маштабах, канечне) чытацкая ўвага ў яго ёсць. Пісьменнік

смела адсоўвае заслону нашага прыхаванага сярмяжнага жыцця, паказваючы яго нераўнуючы як рэпетыцыйныя прагоны пакуль яшчэ не прынятага да паказу спектакля. Яго літаратурна-мастацкія палотны так падобныя да нашай рэчаіснасці... што, чытаючы, ўспрымаеш іх *“з салодкай **асцою** ў правым вусе”*... Якое прынаднае слоўца! І такіх рэдка ўжываных моўных знаходак у тэкстах Мудрова даволі шмат. Вось колькі найбольш уразлівых: *“**Тзымс** прыбіваеце? – Глеб паглядзеў на ўбіты ў сценку **шпень**”; “**гамёлка** хлеба”*... Ад такой мовы заўсёды атрымліваеш душэўнае задавальненне.

Ц. Чарнякевіч, пішучы пра кніжку “Забойца анёла” на сайце радыё “Свабода”, кажа, што “ў гэтым чорным гумары абсурдысцкай кнігі Мудрова бачыцца і адлюстраваньне стомленасьці грамадзтва ад савецкай тэмы, зашмальцаванай пальцамі ідэолягаў богведама колькіх пакаленьняў...” Але, дадам ад сябе, гэта і відочнасць яе пэўнай вычарпанасці аўтарам. Хоць прызнаем, Мудроў, жывучы сярод сваіх герояў, заўсёды смяяўся шчыра, своечасова і ў патрэбным месцы. Тым і выбітны, і знаны.

# Невядомая велічыня

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*



**Леанід Дранько-Майсюк. «...Натуральны, як лінія небасхілу»: архіўная аповесць пра Максіма Танка. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 97). – 148 с.**

Архіўная аповесць, вядомая сталым чытачам “Дзеяслова”, выдадзеная ў серыі “Кнігарня пісьменніка” ў выдавецтве “Кнігазбор” і прымеркаваная да 105-гадовага юбілея Максіма Танка. Гэта твор пра беларускага песняра, пра той час (першая палова 1930-х), калі малады Максім Танк жыў у Вільні, супрацоўнічаў з падпольнымі структурамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. “...Натуральны, як лінія небасхілу” – вынік шматгадовай працы Леаніда Дранько-Майсюка ў віленскіх і мінскіх архівах.




**Віктар Карамазаў. Пад крыжам. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 100). – 144 с.**

У Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка” выйшаў юбілейны соты выпуск кніжнай серыі. Новая кніга Віктара Карамазава “Пад крыжам” асэнсоўвае тэму мастацтва. У апавяданнях і навелах “Ван Гог”, “Макі”, “Бабіна лета” – эпізоды з жыцця мастака як такога, апісанне ўнікальнага мастацкага адчування свету, вылоўлівання ўражанняў з навакольнага свету, якія маглі б стаць асновай для кампазіцыі карціны. Асноўнае ж месца ў кнізе займае аповесць “Зямля Фердынанда”, вядомая чытачам “Дзеяслова” – біяграфія найвядомейшага беларускага і польскага мастака Фердынанда Рушчыца.




**Вікенцій Мароз. Перажытае-незабытае: успаміны, аповеды, краязнаўства. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 324 с.**

У кнігу Вікенція Мароза, сябра Саюза беларускай моладзі, жаўнера Другой арміі Вольска Польскага ў часе Другой сусветнай, настаўніка беларускай мовы і літаратуры ў мірны жыцці, увайшлі згадкі пра яго насычанае на падзеі жыццё. У прачулым “Слове

пра бацьку”, якое адкрывае гэтае выданне, пісьменнік Уладзімір Мароз гэтак характарызуе кнігу свайго бацькі: “...гэта не толькі экзістэнцыя асабістага жыцця, але і яскравы адбітак часу, часу складанага і трагічнага, які ўвабраў і жыццё «за польскім часам», і першыя саветы, і жыццё пад акупацыяй, і вайну, якой аддадзены два з паловай гады, і пасляваенны перыяд з усімі яго калізіямі”. Дыхтоўна выдадзеная, кніга будзе цікавай усім не абыякавым да гісторыі Беларусі XX стагоддзя.




**Алесь Разанаў. Невядомая велічыня: гутаркі, артыкулы, згадкі. – Мінск: Логвінаў, 2017. – 254 с.**

У новай кнізе Алеся Разанава сабраныя гутаркі, артыкулы згадкі (успаміны пра знакавых для аўтара людзей, водгукі на кнігі, юбілейныя зацемкі), выступы розных гадоў. Цэнтральнае месца займаюць інтэрв’ю (першае датуецца 1979 годам, апошняе – 2013-м), у якіх паэт прагаворвае важныя і важкія рэчы – пра з’яву творчасці, пра Шлях і пакліканне, пра досвед жыцця ў замежжы, і, вядома ж, – пра “прызначэнне паэзіі”. Жанрава “Невядомая велічыня” – працяг кнігі “З апокрыфа ў канон” (2010). Завяршаюць кнігу два тэксты, жанр якіх сам аўтар акрэслівае як “герменеўтычныя паэмы”, знаёмыя чытачам “Дзеяслова”. У адсутнасці акадэмічнага літаратуразнаўства Алесь Сцяпанавіч, фактычна, займаецца амаль навуковым разборам паэтыкі вершаў Алеся Пісьмянкова і Міхася Стральцова.

Усе цікаўныя да сучаснай паэзіі (у тым ліку – яе даследнікі) маюць цяпер цудоўную мажлівасць мець знакавыя тэксты флагмана беларускай інтэлектуальнай паэзіі, раскіданыя па перыёдыцы ды інтэрнэт-старонках, пад адною вокладкай.




**Зьбігнеў Уладзімеж Фрончак. Анёлы, чэрці і кабеты: апавяданні. – Брэст: Альтэрнатыва, 2017. – 224 с.**

У зборнік вядомага польскага пісьменніка Збігнева Уладзімежа Фрончака, перакладзенага Паўлам Ляхновічам, уключаныя апавядані, што прымушаюць чытача думаць – пра хуткаплыннае жыццё, пра сваю місію ў ім, пра каханне і нянавісць, пра добрае і нядобрае... Дыхтоўна аздоблены, зборнік выдадзены пры падтрымцы горада Люблін у межах святкавання 700-годдзя слаўнага горада. За гэтую кнігу Павал Ляхновіч атрымаў прэстыжную Міжнародную літаратурную прэмію імя Юзафа Лабадоўскага, з чым рэдакцыя “Дзеяслова” шчыра віншуе шаноўнага перакладчыка.

# Нашыя аўтары

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты апостраф» (2015). Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Бібіла Юлія** – бібліёграф. Склала бібліяграфію твораў Ц. Гартнага, надрукаваную ў зборніку «Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы» (1928). Апублікавала матэрыялы да біяграфіі Цёткі. У 1930-я гады была рэпрэсавана і выслана за межы Беларусі. У 1937—59 гг. была галоўным бібліёграфам бібліятэкі Саратаўскага ўніверсітэта. Вярнулася ў Мінск у 1959 годзе. Працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР. Нарадзілася ў 1897 годзе ў мяст. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл.). Памерла ў 1974 годзе ў Мінску.

**Васілевіч Алена** – празаік. Лаўрэатка Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976) за тэтралогію «Пачакай, затрымайся...». Аўтарка кніг «Блізкія знаёмыя», «Падслухала сэрца», «Шурка Рэмзікаў», «Мыс Добрай Надзеі», «Люблю, хвалююся, жыву» «Элегія» і інш. Нарадзілася ў 1922 годзе ў засценку Даманшчына (цяпер вёска Ліпнікі) на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Ветах (Бельскі) Алесь** — празаік, літаратуразнаўца, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (2000). Аўтар кніг прозы «Ружовая знічка», «Хроніка смутку», «Сны пра дзяцінства» і інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў мястэчку Цімкавічы на Капыльшчыне. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Голуб Юрка** — паэт, перакладчык, журналіст. Аўтар кніг паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Поруч з дажджом», «Помню пра цябе», «Брама зімы», «Багра» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горны на Зэльвеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Ейтс Уільям Батлер** – ірландскі англамоўны паэт, драматург. Лаўрэат Нобелеўская прэміі па літаратуры (1923). Аўтар кніг «The Green Helmet», «Responsibilities», «The Tower», «The Winding Stair», «New Poems» і інш. Нарадзіўся ў 1865 годзе ў Дубліне. Памёр у 1939 годзе ў Францыі.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Каржанеўская Галіна** – паэт, празаік, драматург, крытык. Аўтар кніг «На мове шчасця», «Мой сад», «Жыла – была», «На што падобна аблачынка?», «Вечны водгук», «Невымоўнае» і інш. Нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Лясішча на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Каско Алесь** — паэт, навэліст, перакладчык. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1995) за кнігу «Час прысутнасці». Аўтар кніг «Скразная лінія», «Набліжэнне», «45» і інш.

Нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Чудзін на Ганцавіччыне. Жыве ў Жабінцы на Берасцейшчыне.

**Клімавец Вольга** – літаратуразнаўца. Працуе ў Белдзяржмедуніверсітэце. Аўтарка вучэбна-метадычных дапаможнікаў па беларускай і рускай мовах для студэнтаў і абітурыентаў, шэрагу публіцыстычных і літаратуразнаўчых артыкулаў. Нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Махро Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Жыве ў Мінску.

**Левановіч Леанід** – празаік, драматург. Аўтар кніг нарысаў «Гаспадар зямлі», «Зялёны трохкутнік», «Вяртанне ў радыяцыю», прозы «Мадонна з кветкаю», «Якар надзеі», «Шчыглы», «Дзікая ружа», «Сіняе лета», публіцыстыкі «Хлеб і мужнасць» і інш. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Клеявічы на Магілёўшчыне.

**Паплаўскі Алесь** – паэт, празаік. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2012). Аўтар кніг «Спынены лістапад», «Тэрыторыя скразнякоў», «Незваротнасць», «Бонза», «Закахацца ў малпу» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Мазуры на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.

**Рагойша Вячаслаў** — крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Паэтыка Максіма Танка: Культура вобраза. Характар верша», «Пераклаў Якуб Колас...», «Карані дружбы», «Гутаркі пра верш», «Кантакты» і інш. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў Ракаве на Валожыншчыне. Жыве ў Мінску.

**Разанаў Алесь** — паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990), прэміі «Залаты апостраф» (2012). Аўтар кніг паэзіі «Адраджэнне», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «Рэчаіснасць», «Гліна. Камень. Жалеза», «Кніга ўзнаўленняў», «З апокрыфа ў канон» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сін Ілля (Свірын Ілля)** — празаік. Аўтар кніг «Ільля Сін памёр», «0», «Сапсаваныя лялькі», «Тэатральныя дэманы», «Белетрыстыка». Лідар групы экзістэнцыйнай клаунады «Тэатр псіхічнае неўраўнаважанасці», арганізатар і ўдзельнік некалькіх соцень імпрэзаў на Беларусі і ў іншых краінах Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2007). Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Чыгрын Сяргей** — паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» і інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху Я. Стаброўскага, Т. Лебяды, С. Хмары, Я. Пятроўскага, Г. Леўчыка і інш. дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Шульман Давід** – празаік. Піша на беларускай і рускай мовах. Закончыў энергетычны факультэт Політэхнічнага інстытута (Мінск). Аўтар сямі кніг прозы: «Когда мы ездили за носками», «В тёплом городе Эйлате», «Дзе ўзяць крыху шчасця», «Баскетболистка с улицы Жданова», «З вялікай літары «Б», «Особое женское состояние», «Жанчына валіць з ног, жанчына ставіць на ногі». Жыве ў ізраільскім горадзе Эйлаце. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Барысаве.



# ЗМЕСТ часопіса “Дзеяслоў” №1-6 (86-91) за 2017 год

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.